# Сяргей ДАВІДОВІЧ

*Апавяданні*
*Аповесці*

Том 3

Мінск
Беларускі рэспубліканскі
літаратурны фонд
2016

# Хітрасцю па хітрасці

Не было спасу ад жончынай звягі:

— Не пі... не пі!

Мацея пачало трэсці ад гэтых слоў горш, чым ад гарэлкі.

— Ці ж я часцей ці болей п'ю за астатніх? — спрабаваў астудзіць ён жонку.— Усяго сем разоў на тыдзень!

Але жонку астудзіць было немагчыма, бо за апошнія гады яна, як кажуць, распалілася да чырвані. Тады Мацей пусціўся ў хітрыкі — ён раптам захварэў. Раніцай не ўстаў з ложка і не пайшоў на працу.

Жонка занепакоілася:

— Трэба выклікаць «хуткую»!

— Я сам! — рашуча прастагнаў Мацей і набраў нейкі нумар тэлефона: — Алё! «Хуткая дапамога»? Прышліце тэрмінова доктара — паміраю! — І паклаў трубку, не назваўшы нават хатняга адраса.

Жонку гэта здзівіла і насцярожыла, але яна дыпламатычна змоўчала.

Праз паўгадзіны пачуўся званок у дзверы і ў пакой увайшоў хударлявы мужчына з даволі пакамечаным тварам. Дастаў з сумкі гэткі ж, як і твар, пакамечаны, даўно не мыты белы халат, апрануў яго і наблізіўся да «хворага».

— На што скаргі?

— Не ведаю, як і сказаць, доктар,— пачаў Мацей,— але, мусіць, я паміраю...

— Што вы пры гэтым адчуваеце? — запытаўся доктар.

— Адчуваю я,— працягваў Мацей,— адчуваю ўсё разам... Але, асабліва раніцай, па ўсім целе бегаюць нейкія дрыжыкі ды калатунікі... Есці не хочацца, нічога не міла — хоць памірай.

Доктар узяў руку хворага, памацаў пульс, загадаў паказаць язык.

Аліна, Мацеева жонка, моўчкі з цікавасцю за ўсім назірала.

Мацей стагнаў, курчыўся, сягаў, быццам і сапраўды канае.

— А ці спрабавалі вы,— пытаецца доктар у хворага,— прымаць перад ядой спірытуамідальныя прэпараты?

— Не, доктар, не спрабаваў! — залыпаў вачыма Мацей.— А як гэта?

Доктар звярнуўся да Аліны:

— Ці знойдзецца ў вас бутэлька гарэлкі?

Аліна ажывілася, быццам толькі і чакала гэтага пытання:

— Як жа! Для медыцыны ды для выратавання смяртэльна хворага мужа — знойдзецца!

Тут ажывіўся і «смяртэльна хворы»:

— А як тыя прэпараты прымаць, доктар?

— Не спяшайцеся, зараз пакажу!

Калі Аліна прынесла гарэлку, доктар урачыста ўзяў пляшку ў рукі і таямніча спытаўся:

— Вы ведаеце, якая сусветная эмблема медыцыны? Правільна! Змяя лезе ў кілішак! А чаго яна туды лезе? Зноў правільна! Таму што ў гарэлцы вялікая ратавальная моц! О-о, Гіпакрат не быў дурнем!.. А цяпер,— доктар настойліва параіў Аліне,— пакіньце нас, калі ласка, сам-насам з хворым, бо працэдура чакаецца даволі непрыглядная, яна патрабуе моцных нерваў, а вы, я бачу,— жанчына далікатная.

— Дзеля святой справы я пакідаю вас! — весела пагадзілася Аліна і пайшла ў другі пакой.

Праз пэўны час расчырванелы і павесялелы доктар развітваўся з гаспадыняй і раіў:

— Цяпер хворы сам ведае, як прымаць спірытуамідальныя лекі, галоўнае, забяспечвайце яго кожны дзень бутэлькай гарэлкі. Працэдуру нельга перапыняць ні на адзін дзень, бо хворы памрэ...

Наступнай раніцай завойкала ў пасцелі Аліна.

Мацей спалохаўся:

— Што з табой?

— Не ведаю. Трэба выклікаць «хуткую дапамогу», бо да вечара я не дажыву.

— Зараз! Зараз выклікаю! — замітусіўся Мацей.

— Не трэба, я сама! — спыніла яго Аліна.— Ты ж у мяне смяртэльна хворы, ляжы роўненька! — І набрала нейкі нумар тэлефона.

Праз хуткі час у кватэру ўвайшоў высокі, прыгожы мужчына, апрануў бялюткі халат і наблізіўся да хворай.

— На што скаргі?

— Ведаеце, доктар, раніцай і вечарам, а бывае, і ноччу, адчуваю ва ўсім целе нейкую салодкую млявасць — хоць памірай...

Доктар крыху падумаў, зірнуў на Мацея і спытаўся ў Аліны:

— А ці спрабавалі прымаць сексапарамідальныя прэпараты?

— А што гэта за храновіна такая? — насцярожыўся Мацей.

— А гэта, шаноўны, мужчынскія ласкі тры разы на дзень перад ядой!

— Ого! — усклікнуў смяртэльна хворы.— Дзе ж іх набрацца?

— А як гэта прымаць, доктар? — у сваю чаргу пацікавілася Аліна.

Доктар зноў зірнуў на Мацея:

— Пакіньце, калі ласка, мяне сам-насам з хворай, бо гэта працэдура патрабуе моцных нерваў, а ў вас выгляд нейкі кволы.

Аліна ажывілася:

— Там, у халадзільніку, даражэнькі, стаіць бутэлька з спірытуамідальным прэпаратам, пакуль я буду тут прымаць сваю працэдуру, ты там лячыся, ратуйся ад смерці, як табе і загадаў твой доктар.

— Што-о! — зароў Мацей.— Што яшчэ за працэдуры?! Які чорт панавыдумляў дактароў? Ды чхаць я хацеў на сваю спірытуамідальнасць! Гані вон з кватэры і ты сваю сексерундыстыку! — І Мацей шырока расчыніў дзверы, выпіхваючы праз іх высокага, прыгожага мужчыну.

## «Калегі»

Ціхан, не міргаючы, глядзеў на «мёртвы» паплавок, і яго разбірала злосць. У грудзях ажно ўсё кіпела і булькатала.

Па дарозе на рыбалку настрой сапсаваў малады хлапец, па сутнасці, як лічыў Ціхан, смаркач яшчэ. Ціхан, уладкоўваючыся на заднім сядзенні аўтобуса, выпадкова парнуў вудзільнам таму хлапцу ў вуха.

— Ты! Паплавок з курынага хваста! Куды пораш сваім ражном? Аслеп? — залямантаваў той амаль смаркач.

— Сам ты шыцік балотны! — агрызнуўся Ціхан.— Растапырыў тут вушы на ўвесь аўтобус!

Але настрой быў сапсаваны ўшчэнт.

Кажуць жа, як пройдзе вяселле, такое і жыццё будзе ў маладых, як сустрэнеш Новы год, так яго і пражывеш... Аказваецца, і на рыбацтва гэта ўплывае: як пачнеш дзень, такая будзе і рыбалка... Вось цяпер, пасля аўтобуснай лаянкі, у Ціхана не клявала, хоць лопні тут на беразе ад злосці.

Гледзячы на паплавок, Ціхан быццам глядзеў на сябе ў люстэрка. «Пры чым тут паплавок з курынага хваста? — думаў ён.— Хіба ж я падобны да паплаўка?.. А па-другое, паплаўкі не з курынага, а з гусінага пяра...»

Ціхан сабраў вуды і перасеў на новае месца. Але і тут таксама не клявала, быццам рыба перавялася на ўсім свеце.

Раптам аднекуль з'явіўся незнаёмы рыбак, у капелюшы, з акулярамі на носе. Моўчкі разматаў свае вуды, штосьці пачапіў на кручок, папляваў на нажыўку і шпульнуў у ваду лесы.

«Хваробу ты там зловіш! — злаваўся Ціхан.— Там я ўжо да цябе дарма час патраціў...»

Гэтак падумаўшы, Ціхан злавіў сябе на іншай думцы: «Што гэта сёння са мной? Кіпячуся, нервуюся, успыхваю, як агонь... Ды з-за чаго?.. Буры сёння перамагніціліся ці выбухі на Сонцы лютуюць?..»

Нечакана для Ціхана той капялюш пачаў цягаць рыбіну за рыбінай. Потым, як падалося Ціхану, зусім перастаў чапляць нажыўку, а толькі паспяваў здымаць з кручкоў улоў.

Ціхан зноў адчуў у грудзях булькаценне, якое імгненна перарасло ў клекатанне на мяжы выбуху. Ён не стрымаўся і крыкнуў:

— Гэй! Там! Сумленне ёсць?!.

Капялюш нават не павярнуў свае акуляры ў яго бок, а толькі азартна прахрыпеў:

— Ой ёсць! Ёсць лаўленне, калега!

Ціхан злосна плюнуў:

— Мала таго што нахабна заняў маё месца, дык ён яшчэ і глухі!

Схапіўшы вуды і ўсе свае прынады, Ціхан рашуча «падруліў» да былога месца і кідануў свае лесы накрыж, праз лесы нахабнага суседа.

— Што вы робіце?! — зашыкаў той.— У вас сумленне ёсць ці не?

— Гэта я пытаўся пра ваша сумленне, а не пра лаўленне! Гэта вы бесцырымонна селі на маё месца і цягаеце маю рыбу! — пырснуў слінай Ціхан.

— Ваша месца вунь! — І незнаёмец паказаў на куст, адкуль прыпёрся Ціхан.

— Я спецыяльна часова адышоўся туды! — пусціўся ў хітрыкі Ціхан.— Тут, дзе вы, рыбку прыкарміў, можна сказаць, прыручыў... У мяне гэткі метад лаўлення... А вы ласы да чужой прыручанай рыбкі!

— Калі так, добра,— устаў незнаёмец.— Няхай будзе па-вашаму. А вунь туды, аж за куст, я магу сесці? Ці і там ваша рыба?

Ціхан памякчэў, але не здаваўся:

— Яно-то і там маё месца... але туды можна...

Рыбак сабраўся і перасеў на новае, «дазволенае» месца, а Ціхан з надзеяй і новым імпэтам кідануў у ваду свае лесы, папляваўшы перад гэтым на нажыўку.

Паплаўкі зноў упарта застылі, быццам гэта была не вада, а лёд, у які яны ўмерзлі. У галаве зноў загучала: «Паплавок ты з курынага хваста...» Настрой яшчэ больш пачаў псавацца пасля таго, як Ціхан зірнуў на незнаёмца, які і на новым месцы цягаў рыбіну за рыбінай, быццам яе хтосьці чапляў яму ў вадзе.

Ціхан адчуў у грудзях непрыемнае булькаценне... Такога нахабства Ціхан перажыць не мог. Ён, як звар'яцелы, падскочыў да свайго суседа і штосілы заспяваў:

Скокі-скок, скокі-скок,
Хочаш рыбкі — скулу ў бок!..

Пры гэтым ён пляскаў у далоні і так вытанцоўваў, што, здавалася, дрыжаў бераг. Рыба імгненна перастала брацца, ненавісныя «калегавы» паплаўкі таксама «ўмерзлі» ў ваду.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў задаволены Ціхан.— Дзякуючы мне рыбка плавае па дне!..

— Дзікунства! — абурыўся рыбак у акулярах.— Вар'яцтва! Інакш не скажаш.

— Сам змей ачковы! — агрызнуўся Ціхан.— Капелюшовы акулярык! — І, задаволены сабой, вярнуўся да сваіх вудаў.

Настрой быў канчаткова сапсаваны, і «калегі», скруціўшы вуды, падаліся ў розныя бакі.

* * *

Ціхан быў мужчына сярэдніх гадоў, на здароўе не скардзіўся, але нечакана ў рот убілася хвароба, нейкі парадантоз. Зубы закраталіся, захісталіся і пачалі сыпацца,

як гарох з дзіравай кішэні. Пакуль кінуўся да дактароў, рот зрабіўся, як гнілы плот у дрэннага гаспадара. Памкнуўся да зубных пратэзістаў, а там — чарга. Скрыгануў Ціхан парадзелымі зубамі, запісаўся на першую прымерку і пачаў чакаць, сеўшы на кашы ды булёны.

Нарэшце надышоў той дзень, калі Ціхан адчыніў запаветныя дзверы і ўвайшоў у ратавальны кабінет.

— Праходзьце, калі ласка, сядайце ў гэтае крэсла,— ветліва сказала медсястра.— Доктар на хвілiначку выйшаў.

Ціхан бухнуўся ў спецыяльнае крэсла, і цела набыло напаўляжачую позу.

«Век, здаецца, ляжаў бы тут»,— падумаў Ціхан, намацваючы языком шчэрбіны між зубоў.

Рашуча ўвайшоў доктар, памыў рукі і нахіліўся над пацыентам:

— Ну-с, пакажыце, што мы маем у роце!

Ціхан раскрыў рот... і міжволі ўскрыкнуў. Над ім нахіліўся твар «капелюшовага акулярыка», праўда, без капелюша на галаве.

Ціхан запхнуў язык за адну шчаку, каб змяніць свой выгляд, і страшэнна перакасавурыў вочы.

Доктар спужаўся:

— Што з вамі?.. О-о, у вас незалечаныя зубы! Такіх пацыентаў мы не пратэзуем, спачатку трэба залячыцца...

Ціхан спалохаўся, што пасля доўгага чакання сваёй чаргі яго выправадзяць адсюль на невядома які тэрмін, і працадзіў праз перакошаныя губы:

— Залечаныя, доктар! Зубы залечаныя!

— Як гэта залечаныя, калі ў вас пухліна на ўвесь твар — вунь як шчаку разнесла! Не, не і не! Вы свабодныя!

Ціхану нічога не заставалася, як выцягнуць язык з-за шчакі. Праўда, вочы ўсё яшчэ глядзелі ў розныя бакі.

— Вось, доктар, няма пухліны...

— Дзіўна! — усклікнуў стаматолаг.— Неяк хутка працякаюць у вас працэсы выздараўлення... Дзіўна... Я ж толькі што бачыў пухліну.

Ціхан сядзеў з разяўленым ротам і толькі лыпаў вачыма.

— Дзіўна,— працягваў доктар, уважліва разглядаючы пацыента. Потым прыпадняў акуляры, яшчэ ніжэй нахіліўся і пільна паглядзеў на Ціхана.

Ціхан зноў запхнуў язык за шчаку і яшчэ страшней скасавурыў вочы. Крэсла, на якім нядаўна гатовы быў ляжаць усё жыццё, цяпер, здавалася, пякло агнём.

Як праз туман да Ціхана даляцеў акулярыкаў голас:

— А мне здаецца, што мы з вамі недзе раней сустракаліся...

Ціхан лыпаў вачыма...

— Дзіўна, дзіўна,— паўтараў доктар і сваім «дзіўна», як малатком, лупіў Ціхана па галаве.— Вы не нагадаеце, дзе мы маглі сустракацца?

— Не-е,— прастагнаў Ціхан, гатовы ўскочыць з крэсла і даццa ў дзверы. Ён быў згодны дажываць век з шчарбатым ротам, толькі б пазбегнуць гэтых мукаў.

— Ага-а,— загадкава агакнуў пратэзіст,— ага... так... так...— Раптоўна выпрастаўся і заскакаў вакол крэсла, прыпяваючы:

Скокі-скок, скокі-скок,
Хочаш зубы — скулу ў бок!..

Медсястра выпусціла з рук журнал рэгістрацыі пацыентаў і ледзь не звалілася пад стол...

Ціхан застагнаў, быццам у яго раптоўна забалелі астатнія зубы, і толькі хапаў паветра разяўленым ротам, як тая рыбіна на беразе.

Доктар спыніў свой танец і зноў нахіліўся над Ціханам:

— Чаму, калега, не падпяваеш?

Ціхан не вытрымаў, ускочыў і прыціснуў рукі да грудзей:

— Дзеля ўсяго святога, прабачце! Што тады на мяне найшло?! Я начэй не спаў, вінаваціўся ў думках перад вамі, не ведаў, дзе вас знайсці і папрасіць прабачэння! Ды няхай яна здохне, тая рыба!

— Навошта ж ёй здыхаць? — засмяяўся доктар.— Няхай плавае па дне, прыручаецца...

— Ды ўсё я тады выдумаў! — не супакойваўся Ціхан.— Я пайду, доктар, не трэба мяне лячыць... не заслугоўваю я... Зубы што? Зубы — дробязь! Душа збалелася...

Доктар паклаў Ціхану на плячо руку:

— А ці чулі вы, калега, пра клятву Гіпакрата?.. Бачу, што чулі, таму сядайце ў крэсла... Вось залечым ваш рот і гайда разам на рыбу! Як, калега?

Ціхан зачырванеўся, уздыхнуў і зноў сеў у крэсла, якое падалося мяккім і ўтульным.

# Вегетарыянец

— Сват! Няўжо ты?!

Ілля кінуў кляпаць касу і радасна падаўся насустрач падводзе, на якой, цмокаючы на каня, пад'ехаў да хаты Антось Бізюк.

— Здарова маешся, сваток! — таксама радасна адгукнуўся з падводы Антось.— Сустракай нязванага госця!

— Нязваны, затое заўсёды жаданы! — абняў і пацалаваў свата Ілля.

З хаты на крык выбегла Альжбета, Іллёва жонка:

— А чаму адзін? А дзе Ядзя? А дзеці? — замест вітання накінулася яна на Бізюка.

— А колькі ж ты ў нас не быў? Дарогу забыўся, ці што? — з другога боку абрынуліся на Антося сватавы пытанні.

— Колькі не быў?.. Дай Бог памяці... Мусіць...

— Кіньце пустое! Чалавек з дарогі, распрагайце каня ды за стол,— перапыніла мужчын Альжбета.— Пагаманіць будзе час у хаце.— І яна крутнулася да сваіх спраў, ладкаваць стол.

І сапраўды, за сталом узрушанасць улеглася і саступіла месца спакойнай гаворцы, якую аздабляў кілішкавы перазвон і кароткія традыцыйныя зычэнні:

— Ну, будзь здаровы!

— І ты будзь здаровы!..

Антось Бізюк, у адрозненне ад хударлявага Іллі, выглядаў як добрая капешка сена, ды і важыў ён далёка за цэнтнер. Таму Альжбета, памятаючы былыя застоллі, калі Антось без напругі «падмятаў» талеркі, адпаведна нарыхтавала стол. На ім — і сала, і магазінная і свая, «пальцам пханая», каўбаса, і капуста, і агуркі з бульбай... Вабіла вока нарэзаная халодная цяляціна, побач з якой

апетытна чырванеў у слоіку цёрты хрэн. Адным словам, еш — расперажася.

— Ну, будзь здароў!

— І вы здаровыя будзьце!

— Пераначуеш, сваток?

— Ды, пэўна ж, пераначую. Каню дам адпачынак і сам хоць крыху адарвуся ад спраў.

— Ну, будзьма здаровы, сваткі!

— І ты... Э-э, а што гэта за дзіва ты, Антось, вытвараеш?

— А што? — не зразумеў той.

— А тое, што трэці раз кульнулі, а ты ў рот — то капусту, то агурок, не раўнуючы, як той заяц. Ці ж пост цяпер які? — занепакоілася гаспадыня.

Антось засмяяўся:

— Я ж забыўся вас папярэдзіць, што за той час,— дай Бог памяці, колькі ж я ў вас не быў? — дык вось, за гэты час я змяніў свае адносіны да яды. Вегетарыянцам стаў!

— Во-ой! — ускочыла Альжбета.— Зноў нейкае дзіва! А што гэта такое?

— А як гэта? — не ўтрымаўся і Ілля.

Антось дэманстратыўна грызануў агурок і патлумачыў:

— Не ем нічога такога, што краталася пры жыцці.

— Што значыць краталася? — не зразумела Альжбета.

— Ну, напрыклад, карова, свіння, авечка ці няхай сабе той жа заяц альбо птушка.

— А што ж тады есці? А як жа жыць? — напужаўся Ілля.— Кажуць: па малаку ног не павалаку...

— А ем я гародніну ўсякую ды расліну розную,— зноў тлумачыць Бізюк.

— З тваім сацыяльным назапашаннем,— Ілля паказаў на сватаў жывот,— можна і расліны пакінуць у спакоі, а жыць толькі святым духам. Гэта табе не мая празрыстая канфігурацыя, якой няма куды ўжо адступаць.

— Не жывот мяне прымусіў адмовіцца ад мяса, а мая ўнутраная філасофія.

— Глянь ты, куды цябе панесла! — здзівілася гаспадыня.

— Ну, а яйкі курыныя? Яны ж, як ты кажаш, не кратаюцца пры жыцці, ляжаць роўненька,— пачуў пытанне Бізюк.

— Яйка — гэта зародак жыцця, пра іх і мухі не гамоняць!

— Нейкі ты зрабіўся ідэйны, з тваімі мухамі,— пацiснуў плячыма Ілля.

— Прабач, сваток, я жартам параўнала цябе з зайцам, а ты як ёсць недалёка ад яго адкаціўся. І навошта табе такое зайцава сталаванне? — не пераставала здзіўляцца Альжбета.

— У цябе што на відэльцы? — спытаўся Бізюк.

— Цяляціна,— здзіўлена адказала жанчына.

— Цяляціна, кажаш... А цяля было сваё?

— Сваё, а чыё ж! — яшчэ больш здзівілася яна.

— А ласкавае, пэўна, было цялятка... Сустракала цябе, пальцы смактала твае, быццам матчыну цыцку, у вочы з даверам зазірала. Так?

— Пры чым тут гэта? — скрывілася Альжбета.— Ты мне апетыту не псуй.

— Пакінь ты ў спакоі цяляціну! — звярнуўся да свата Ілля.— Вось налягай на свініну: тут табе і падсмажаная, тут і засоленая з праслойкай.

— А я і пра свінню магу тлумачыць тое, што і пра цяля, ды яшчэ, не за гэтым сталом будзе сказана, дадаць штосьці пікантнае...

Бізюк змоўк і паклаў сабе на талерку побач з бульбай квашанай капусты.

— Што яшчэ за пікантнасць можа быць у сале? — пацікавіўся гаспадар.— Сала яно і ёсць сала.

— Ну, калі цягнеш за язык, дык слухай і не крыўдуй. Бывае, што ў карыта да свінні ці парсюка (не кажу пра

вашых) заскоквае пацук паласавацца парсючыным меню. Зазяваецца, бедалага, а парсюк яго — хрум, і гатова! Нават хваста яго доўгага не выплюне... Я ўжо не кажу пра мышэй. А сёння мыш — гэта вам не тая, што раней. Чулі? Па тэлевізары абвясцілі, што навука знайшла ў звычайнай мышы ДНК, як дзве кроплі вады падобную на чалавечую. Вось вам і мыш шэрая! Атрымліваецца, што свіння можа глынуць не проста нейкую там мыш бязродную, а ледзь не чалавечы арганізм...

Іллю перакрывіла так, нібы яму ў рот паклалі пацука, і асцярожна, быццам на відэльцы была мыш, а не скварка, ён спіхнуў яе назад на талерку.

— Ты, брат, такога тут нагарадзіў, што кішкі заварушыліся ля самага горла. Чаго добрага — заванітуе. Давай лепей кульнём яшчэ па чарачцы і спынім гэта варушэнне, вернем апетыт. Ну, дык будзь здароў!

— Будзь здароў! — адказаў Бізюк.— А ты чаму не п’еш, свацейка?

— А чым жа я закусваць буду? Ты ж усё зганьбіў,— успыхнула Альжбета.

— Вось бяры пакупную каўбаску — як яе? — нейкая салямі ці саляры,— раіць гаспадар не то жонцы, не то свату і сам торкае відэльцам у каўбасу.

Бізюк і тут не змоўчаў:

— Туды, сваток, у тваю салямі, дадаюць да ўсёй жыўнасці кароўскай ды свінячай пароды яшчэ і каніну.

— Дык і на здароўе! — бадзёра крактануў пасля чарговага кілішка Ілля.— Конь — жывёліна чыстая. Гэта табе не свіння, нават не карова. Тая ж карова можа напіцца з любой лужыны, а конь п’е толькі чыстую ваду.

— А як жа ты можаш есці каня, пасля таго як ён выцягнуў нас з багны вякоў у светлую сучаснасць? У мяне рот на такое не раскрываецца! — катэгарычна заявіў Бізюк.

Падпіты гаспадар не стрымаўся і запальна сякануў:

— Запрагайся і едзь у Францыю! Там жаб ядуць, толькі спраўляйся лавіць іх, а тут ад мяса нос вернеш!

— Цьфу на цябе! — штурханула мужа Альжбета.— Жаб толькі тут не хапала! Рыхтавала, ладзіла стол, а яго з пацукамі ды жабамі змяшалі. Кавалак у рот не лезе ад твайго, сваток, вегетарыянства. Еш ты сваю капусту з агуркамі, але моўчкі. Дарэчы, магу сена прынесці з пуні! — І яна рашуча ўстала з-за стала.

— А што ты маеш пікантнага да курэй? — насядаў на свата Ілля.— Чым табе не дагадзіла птушка? Чым?

— Птушка не курыца, чалавек не баба! Сам ведаеш! — пераблытаў вядомую прымаўку п'яны Бізюкоў язык.

— Ну, тады будзь здароў, сваток!

— І вы, сваткі, будзьце заўсёды здаровенькія! — Выпіў сваё ён і, відаць, з п'янага вока прамахнуўся, бо відэльцам патрапіў не ў капусту, а ў вялікі кавалак «пальцам пханай» каўбасы, якую пачаў старанна жаваць і смачна прыгаворваць: — Толькі гародніну ем, толькі розныя расліны...

Ілля таксама кульнуў у рот кілішак і, рашуча адсунуўшы сала, таркануў відэльцам пад бок агурку. Ён, як не сваімі зубамі, жаваў яго і мармытаў сабе пад нос:

— Гэта ж трэба: у мышы знайшлі чалавечы арганізм...

Альжбета нічога гэтага не бачыла, бо пайшла дагледацца, і толькі праз вокны яшчэ доўга чула:

— Будзь здароў, сваток!

— І ты будзь здароў!

Калі ж вярнулася прыбіраць са стала — талеркі былі «падмеценыя».

## Загадка

Восы, калі пырнуць ім у гняздо палкай, напэўна, менш гулі б, як гула вёска Ціхі Гай. Кожны з яе жыхароў меў асабісты погляд на праблему планавай тэлефанізацыі сваіх дамоў. Меркаванняў было шмат. Яны супярэчылі адно аднаму, паўтараліся, сутыкаліся, перакрэсліваліся і, нарэшце, зблытваліся ў тугі клубок, разблытаць які было немагчыма. І ўсё ж галоўны тэзіс вылучаўся з гэтага шматгалосся намаганнямі Рыгора Ласуна, які больш за ўсіх распінаўся:

— На якога ражна ў кожнай хаце тэлефон? Каб выклікаць доктара ці разбудзіць пажарнікаў, досыць аднаго тэлефона на вёску!.. Ім што?! Толькі грошы з людзей здзёрці! Каму я буду тэлефанаваць? Жонцы ў хлеў ці сабаку ў будку? І без таго сядзім дома, уткнуўшыся носам у тэлевізар, а цяпер зусім перастанем сустракацца...

І хоць вёска гула, а справа рабілася — вяскоўцаў падцягвалі да ўзроўню горада.

Ішоў час. Людзі прывыклі да «цывілізацыі пад носам», вывучылі нумары сваіх і суседскіх тэлефонаў і сапраўды пачалі радзей сустракацца. Прыцісне вясковец да вуха тэлефонную трубку і набірае нумар другога вяскоўца, які праз дарогу. Сядуць ля расчыненых вокнаў і, хоць бачаць адзін аднаго, галёкаюць у трубку. Другое, «вольнае» вуха чуе суседа нават лепш, чым тое, што «на дроце». Атрымлівалася як у тым кіно: «Ахапкін, вазьмі трубку...»

Аднаго разу, вечарам, калі Рыгорава жонка пайшла даіць карову, у хаце зазваніў тэлефон. Ласун незадаволена адарваўся ад тэледэтэктыва, запляваў акурак і ўзяў трубку.

— Але-е!.. Але-е!.. Я слухаю! — гукнуў у трубку гаспадар.

У трубцы штосьці трашчала, быццам ламалі сухое галлё.

— Але-е!.. Хата Ласуна ля тэлефона! — паўтарыў Рыгор.

У трубцы сярод трэску сухога галля пачуўся прыцішаны жаночы голас:

— Рыгор, ты?

— Я! Хто ж яшчэ?!

Жаночы голас таямніча працягваў:

— Рыгорка, давай убачымся! Прыспела сустрэцца...

— Што паспела? — не зразумеў Ласун.— Шум, трэск — нічога не разабраць!..

— Рыгорка, дурны, я цябе кахаю! — вылятала разам з траскатнёй проста ў вуха Рыгору. А паколькі траскатні вылятала больш, чым слоў, Ласун ніяк не мог уцяміць: што паспела і хто каго кахае.

— Хто ў трубцы? — крыкнуў Рыгор.

— Дурань! Рыгорка! Заўтра вечарам прыходзь да рэчкі, дзе кладка...

— Чаго? Хто гэта?

— Там убачыш, чаго і хто гэта,— праспяваў жаночы голас.— Я цябе прылашчу незямной ласкаю...

Рыгор пачасаў вольнай рукой патыліцу, падцягнуў штаны. Голас у трубцы быў быццам знаёмы, але вылушчыць яго з траскатні і распазнаць Рыгор ніяк не мог.

— І ўсё ж, хто гэта-а? — перапытаў ён.

— Убачыш — самлееш,— праспявала ў трубцы,— а самлееш — на жонку забудзешся!

У Рыгора сперла дыханне. Ён і не сніў, што ў такім узросце патрэбен некаму пазарэз.

— А як я цябе пазнаю? — сіпла спытаўся Ласун.

Тут да яго вуха даляцела з тэлевізара: «...не забудзьцеся пра пароль, інакш — правал!»

Ласун схамянуўся:

— Як я даведаюся, хто ты?.. Каб пароль які, ці што...

— Які пароль! — засмяяўся жаночы голас.— Я буду трымаць граблі на левым плячы правай рукой. Чакаю, сімпампончык! — І ў трубцы пачуліся кароткія гудкі.

Рыгор стаяў як акамянелы. На ўсякі выпадак прыціснуў мацней да вуха трубку і некалькі разоў крыкнуў «але-е!». Потым паклаў трубку і ўжо дзвюма рукамі тузануў угару штаны. Рашуча падышоў і выключыў тэлевізар — дэтэктыў, на фоне нечаканай інтрыгі, страціў цікавасць.

Увайшла жонка з даёнкай, поўнай малака.

— Ты ж па дэтэктывах млееш, чаму тэлевізар выключыў?

— Колькі я буду хадзіць у гразноціне? — ускіпеў Рыгор.— На, памый мне зараз гэтую кашулю! — І кінуў жонцы пад ногі кашулю ў стракатыя клеткі.

— Што цябе ўкусіла? — здзівілася жонка.— Выходзіла з хаты, быў чалавек як чалавек, прыйшла — як калючка... Ды і кашуль чыстых хапае...

— Мне заўтра будзе патрэбна гэта! — гыркнуў Рыгор.

Жонка падняла стракатую кашулю:

— Добра, будзе табе гэта...

Рыгор выйшаў на двор, сеў на лаўку і закурыў. Яго распірала ад невядомасці і таямнічасці.

«Хто б гэта мог быць? — ліхаманкава думаў ён.— Голас быў прыемны, пявучы, выклікаў пад лыжачкай салодкую млявасць... А раптам нехта пажартаваў! — спужаўся ён.— Пальцамі будуць пароць, праходу не дадуць, засмяюць... А пры чым тут граблі?.. Сказала б: я — такая ці растакая, навошта туманіць?..»

Рыгор прыкурыў другую папяроску, ускочыў, зноў сеў.

«А магчыма, баялася, што падслухаюць нашу размову, таму і туманіла,— супакойваў сябе Ласун.— Пайду! Што я губляю?! А па-другое, старасць на носе — каму я хутка буду патрэбен? Вазьму для маскіроўкі вуды і пайду! Калі што — я рыбку лаўлю!»

Назаўтра Рыгор, у сваёй любімай стракатай кашулі, з вудамі праз плячо, падаўся да рэчкі. Але, адышоўшы ад сваёй хаты некалькі крокаў, пахаладзеў.

«У які бок падацца? Да якой кладкі ісці? Іх на рэчцы вунь колькі! Ну і дурань жа я!.. А што значыць: «прыходзь вечарам...»? Вечар — гэта і 7 гадзін, і 9, і 11... Які я дурань — галоўнага не ўдакладніў...»

Ад хаты пачуўся жончын голас:

— Што топчашся на адным месцы? Чарвей забыўся, ці што?

Рыгор махнуў рукой і падаўся да рэчкі.

«Буду ад кладкі да кладкі перадыслацыравацца і назіраць. Быць не можа, каб размінуліся,— граблі не іголка, рэч прыкметная...»

Як на тое ліха людзей высыпала да рэчкі, што гароху. Ды і жанчын ля кладак хапала — хто паласкаў бялізну, хто штосьці ў кошыку боўтаў.

«Прыперла ж вам усім у такі адказны час! — злаваўся ён.— Хоць бы бура наляцела ці каменне з неба пасыпалася...»

Але неба было празрыстае, вечар апускаўся ціхі і цёплы. Рыгор сцёбаў вудай па вадзе, не начапіўшы нават чарвяка на кручок, і пільна глядзеў навокал. З граблямі нідзе нікога не было відаць. Ласун прамінуў ужо тры кладкі і павярнуў назад — больш кладак не было. Толькі ён крутнуўся ад апошняй кладкі, як Васіліна, што паласкала на ёй бялізну, спыніла яго:

— Гэй, Рыгор, хоць бы прывітаўся, ці што! Заганарыўся, рыбачок!

У Рыгора ёкнула сэрца: «Няўжо яна?! О-о, дык гэта ж прыгажуня з прыгажунь!.. Праўда, яна шмат маладзейшая, але ж каханне — няволя. Тут на ўзрост не глядзяць, наталіць бы сэрца... Але дзе яе граблі? Можа, забылася пра ўгавор ці схавала іх у траве? Як жа праверыць?»

Васіліна здзівілася доўгай паўзе:

— Рыгор! У цябе што, мову адняло, стаіш з разяўленым ротам... Дзіўны нейкі!

— А-а, Васіліначка, добры вечар! — ачуняў Ласун.— Ля кладкі сустрэцца цікава, праўда?

— З добрым чалавекам хоць дзе сустрэцца цікава,— засмяялася Васіліна.

— А ля кладкі? — настойваў Ласун.

— Няхай сабе ля кладкі, калі ты так жадаеш,— згадзілася прыгажуня і зноў пачала паласкаць бялізну.

Рыгор не ведаў, што рабіць далей, як з ёю разбірацца.

— Васілінка, а чаму ты без грабляў? Ці ты забылася іх дома? — нясмела спытаўся ён.

Васіліна разагнула спіну і здзівілася:

— Граблі? А пры чым тут граблі? Хіба ж граблямі твая жонка палошча бялізну? Што з табой, Рыгор?!

Тут Рыгор убачыў далёка за паваротам рэчкі жаночую постаць з граблямі на плячы. Праўда, немагчыма было разгледзець, на якім плячы граблі і якая рука іх трымае. Сэрца страшэнна затахкала, дыханне зноў сперла, пад лыжачкай адчувалася ўжо знаёмая салодкая млявасць. Рыгор з усіх ног кінуўся да сваёй таямнічай спакусніцы. Ад напругі вочы засціў нейкі туман, думкі замітусіліся ў галаве:

«Вось якое яно, забароненае каханне! Вось чаму Адам і Ева грызанулі той яблык! Не падвяла, не ашукала! Ды і людзі, дзякуй Богу, паразыходзіліся...»

Калі ж падбег да постаці з граблямі, ледзь не бразнуўся ад адчаю і расчаравання. Гэта была Сцепаніда, старая баба, у якой не засталося ў роце ніводнага зуба.

— Куды ты, галубок, прэшся, вочы вылупіўшы? — здзіўлена прашмякала бяззубым ротам старая.

Рыгор не мог стрымаць злосці:

— Да цябе, порхаўка старая, на патаемную сустрэчу! Целяпаешся тут з граблямі, каб ты скісла!

— Я табе што, дарогу перайшла? — здзівілася старая.— Раней ты быў ласкавейшы...

— Калі раней? — успыхнуў Рыгор, а сам падумаў: «А што, калі гэту старую шэльму хтосьці падбухторыў

прыйсці?.. Ці яна кагосьці падбухторыла пазваніць... Змовіліся, каб пазубаскаліць... Трэба неяк высветліць...»

— А чаму гэта ты, цётка Сцепаніда, граблі трымаеш не па-людску? Хіба ж так граблі трымаюць на плячы?

— Як гэта не па-людску? З маладосці гэтак трымаю... І маці мая трымала гэтаксама...

Рыгор удакладняе:

— Калі граблі на левым плячы, іх трэба трымаць правай рукой.

— Ах ты, нягоднік! Порхаўкай абазваў, а цяпер яшчэ вучыць мяне ўздумаў! Зараз як перацягну граблямі па спіне злева направа! — І Сцепаніда не па гадах спрытна замахнулася граблямі на Рыгора.

Рыгор паспеў адскочыць і... «зматаў вуды». Дамоў прыплёўся ўпоцемку.

— Ну, дапамагла табе стракатая кашуля рыбу лавіць? — спыталася жонка.

Рыгор, замест адказу, сам спытаўся:

— Колькі ў нашай вёсцы на рэчцы кладак?

— Чатыры,— адказала жонка.— А навошта яны табе?

— Чатыры?! — падскочыў Рыгор.— А дзе чацвёртая?

— А можа, і тры,— спакойна адказала жонка.

— Дык тры ці чатыры? — кіпеў Рыгор.

Жонка зноў спакойна адказвае:

— Чацвёртую, здаецца, знесла вясной паводка... А можа, і не знесла.

— Цьфу! — Ласун кінуў вуды.— Во гадоціна!

— Што ты да кладак прычапіўся? — здзівілася жонка.— Там што, рыба лепей ловіцца?

Рыгор заскрыгатаў зубамі:

— Я ж казаў: на чорта ў кожнай хаце тэлефон! Жылі сабе людзі як людзі, без усякага якага... Вось табе! Вось!..— І Ласун нажом перарэзаў тэлефонны шнур паміж трубкай і апаратам, так і не высветліўшы: адно толькі голле трашчала ў трубцы ці быў і ласкавы жаночы голас?

## Гімнастыка для мазгоў

— Хто правёў сваё войска праз Альпы? — пачулася з канапы.

Міхась, не раздумваючы, адказаў жонцы:

— Македонскі.

Зося нервова тузанулася на канапе, ад чаго незадаволена зарыпелі пад ёй спружыны:

— Тут яго і блізка няма, твайго Македонскага.

— А ён ні тут, ні там не павінен быць,— усміхнуўся Міхась.— Ён жыў у іншым часе і ваяваў на другім канцы зямлі.

— Я маю на ўвазе, яго няма тут, у крыжаванцы,— удакладніла жонка, зноў крутнуўшыся на бедных спружынах.

— А хто там, у тваім рэбусе, ёсць? — у сваю чаргу ўдакладніў Міхась.

— Тут задаецца пытанне: «Хто правёў сваё войска праз Альпы?», а ніжэй стаяць тры прозвішчы: Кутузаў, Сувораў і Жукаў. Трэба з трох прозвішчаў выбраць адно... Дык хто з іх, як ты думаеш?

— Думаю, што Жукаў, прытым — на белым кані,— адказаў Міхась і загадкава зірнуў на жонку.

— Я ж і сама так думала, ды баялася сказаць.

— А якія адзнакі ў цябе былі па гісторыі ў школе? — спытаўся ён.

— Пры чым тут мая школьная гісторыя? — адбілася Зося.

— А пры тым, мая даражэнькая, што кожны першакласнік ведае пра знакаміты пераход Суворава праз Альпы.

— Мне здаецца, што ў школе мы гэтага не праходзілі,— спрабавала апраўдацца Зося.

— Думаю, што праходзілі, але ты прайшла міма гэтага ці яно прайшло міма тваіх вушэй,— іранічна зазначыў Міхась.

З канапы зноў пачулася:

— Хто першы з зямлян паляцеў у космас? Я прозвішчы пакуль агучваць не буду... Ну?

— Пушкін! — раззлаваўся Міхась і падышоў да жонкі: — Што за лухту, бязглуздзіцу ты чытаеш?

— Гэта не лухта, а «Гімнастыка для мазгоў», зборнічак красвордаў і ўсякіх розных загадак-разгадак.

— Для мазгоў? — здзівіўся Міхась.— Мяркуючы па пытаннях, якія ты прачытала, гэта гімнастыка для зусім, прабач, бязмозглых. І хто толькі складае і купляе такую пустату?

— Калі хочаш ведаць, чарга ля кіёска па гэта стаіць! — казырнула Зося.

Міхась зірнуў на жонку, быццам першы раз яе ўбачыў:

— А скажы, які, па-твойму, самы важны орган у чалавека?

— Мне трэба падумаць... Узважыць,— зачырванелася яна.

Міхась зноў уважліва зірнуў на жонку:

— Ведаеш! Сабраць бы ўсіх вас разам ды паслухаць, пра што вы гаманіць будзеце. Абрагатаўся б, пэўна...

— Каго гэта ўсіх нас?

— Ды вас, хто аб Альпы ды космас мазгі ламае. Ды яшчэ дазволіць вам правесці свой з'езд з парадкам дня: «Чорнае — гэта не белае!» — во дзе рушыла б чалавечая думка наперад!

— А я здагадалася, які самы важны орган у чалавека! — урачыста заявіла жонка, не звяртаючы ўвагі на мужавы колкасці.

— Ну і...?

— Сэрца! — з гонарам сказала Зося.

— Добра, што хоць сэрца назвала, а не язык,— скрывіўся Міхась.

— А што можа быць важней за сэрца? — успыхнула гаспадыня.

— Што важней? А вось табе прыклад: у аднаго чалавека сэрца здаровае, як у быка, а мазгі, як кажуць, на бок

пахіліліся. У другога — сэрца хворае, затое галава разумная, светлая. З якім чалавекам лепш мецЬ справу?

Зося моўчкі лыпала вачыма.

— Вось табе і гімнастыка для мазгоў,— падвёў вынік Міхась.

— Ну, памылілася я, дык што ўжо рабіць? — зачырванелася жонка.

— Што рабіць? А далёка хадзіць не трэба,— адказаў Міхась і паказаў на кніжную паліцу,— вось яна, сапраўдная гімнастыка для мазгоў.

— Калі ты такі разумны,— падскочыла жонка,— адгадай, у якім вуху звініць?

— У правым,— не раздумваючы, адказаў Міхась, бо ведаў, што жонка назаве другое вуха.

— А вось і не! У левым.

— А пры чым тут твае вушы? — здзівіўся ён.

— А пры тым, што, калі б ты адгадаў, я б цябе сёння карміла абедам, а так — абвяшчаю разгрузачны дзень для такіх разумнікаў, як ты.

— Ну ты і выдумала! — абурыўся Міхась.

— І не толькі выдумала, а буду кожны дзень гэта выдумляць, пакуль не адгадаеш. Зразумеў? Гэта будзе табе гімнастыка на кемлівасць.

Міхась усё сцяміў і замахаў рукамі:

— Лепей не трэба! Займайся ты сваімі загадкамі-разгадкамі, стой у чарзе ля кіёска, але гатуй абеды!

# Ангельскі прэзент

Гаўрыла Басяк быў яшчэ не стары мужчына, але штосьці сталася з памяццю — пачала даваць збоі. Жонка папросіць зрабіць адно, а ён робіць іншае ці зусім нічога не робіць. Што ўжо казаць пра кілішкавую блытаніну? Выпіць — вып'е, а дзе, колькі і з кім — не памятае...

Таму цяпер, едучы з вёскі ў Мінск, Гаўрыла, як пацеры, мармытаў сабе пад нос: «Боты... боты... боты...» Ён ехаў у сталіцу, каб зрабіць сабе абноўку — купіць гумавыя боты, бо тыя, што на нагах, зусім дашматаліся аб каменне ды карэнне вясковага дабрабыту. Навучаны горкім вопытам і жончынай звягай, Гаўрыла не выпускаў з зубоў патрэбнае яму слова: «боты... боты... боты...»

Той горкі вопыт ён набыў летась, калі таксама прыязджаў у Мінск купіць ватоўку, але, убачыўшы ў краме «Крышталь» поўны асартымент рознакаліберна-шматкаляровых пляшак, забыўся пра ватоўку і... як вярнуўся з пустымі рукамі дамоў — не памятае.

Цяпер, навучаны і аблаяны, ён цвёрда вырашыў на непатрэбныя крамы і іншыя гарадскія спакусы не глядзець. А для замацавання сваёй рашучасці паўтараў толькі адно, ужо добра і нам вядомае, слова.

Але ў Мінску ён сутыкнуўся з непрадбачанай складанасцю: час змяніўся, людзі пачалі жыць больш заможна і, відаць, перасталі вырабляць «нееўрапейскі абутак». Іншага абутку — самых розных фасонаў і колераў — хоць заваліся, а вось вясковых «усюдыходаў» нідзе не было.

Ён туляўся ад крамы да крамы, дарываючы рэшткі старых ботаў, і аўтаматычна паўтараў: «боты... боты... боты...»

Раптам бачыць натоўп людзей ля нейкай шыкоўнай будыніны. Падышоў бліжэй і пачаў вычытваць уверсе назву... Чытаў, чытаў, ледзь язык не вывіхнуў, нарэшце прабэкаў: «Супермаркет "Харвюст"».

— Хух! — выдыхнуў Гаўрыла.— Добра, што не «Крышталь»!

Натоўп чакаў адкрыцця гэтага «Харвюста», нервова хваляваўся. Гаўрыла зірнуў на свае боты, з якіх павылазілі разам з анучамі чорныя пальцы, і таксама адчуў нервовыя дрыжыкі па ўсім целе. «А раптам у гэтым будынку ёсць тое, што я шукаю!» — апаліла душу думка.

Нарэшце дзверы адчыніліся, і натоўп рынуўся ўсярэдзіну супермаркета, пругкай хваляй падхапіўшы Гаўрылу. У яго ажно галава закруцілася і пацямнела ў вачах. Хваля чалавечых целаў сціскала з усіх бакоў, штурхала ў плечы, не давала дыхнуць. Хтосьці балюча наступіў вострым абцасам на голыя Гаўрылавы пальцы, якія рызыкнулі занадта далёка вытыркнуцца з таго, што некалі называлася ботамі.

«Каб хоць не паваліцца! — зноў апякла думка.— Затопчуць і змесяць у цеста!»

Толькі ён так падумаў, як нечыя дужыя рукі схапілі яго за ватоўку і тузанулі з гэтай звар'яцелай плыні. Яшчэ імгненне, і перапалоханы Басяк апынуўся сярод нейкіх маладых брытагаловых хлопцаў, аслеплены моцнымі ліхтарамі. Гаўрыла прыклаў даланю да вачэй, нічога не разумеючы, і пачуў:

— Віншуем вас, містэр! Вы аказалі нам гонар быць мільённым пакупніком сумеснага беларуска-англійскага супершопа!..

Ля Гаўрылы стаяў высокі мардаты мужчына ў цёмных акулярах.

— Я дырэктар «Харвюста», Вільсан,— на ломанай мове адрэкамендаваўся ён,— і ад імя англійскага бізнесу ўрачыста ўручу вам любы, нават самы дарагі прэзент, які толькі ёсць у нашым шопе! Выбірайце і называйце! — І дырэктар шырокім жэстам паказаў на ўсе залы.

Гаўрыла сціснуўся ў камяк, ён ад хвалявання амаль нічога не зразумеў. Зубы яго ляскацелі, і з рота адно вылятала абрыдлае яму самому слова: «боты... боты... боты...»

— Што ён кажа? Перакладзіце! — звярнуўся да некага мардаты.

А тут яшчэ да Гаўрылы падскочылі нейкія дзве паненкі і, перабіваючы адна адну, пачалі тыкаць мікрафонамі пад нос Гаўрылу. Адна штосьці лапатала па-замежнаму, упэўненая, што яе тут зразумее кожны, а другая больш выразна:

— Вы, містэр, у прамым эфіры! На вас цяпер глядзіць уся Еўропа, таму раскажыце пра сябе, чаму гэтак экзатычна апранутыя, ці часта наведваеце такія дарагія шопы і які бізнес маеце самі?

Чым больш чуў Гаўрыла, тым больш не разумеў нічога. Да яго, як праз туман, даляцелі словы:

— Назавіце спачатку сваё імя!..

Гэтыя словы Гаўрыла зразумеў і, выкінуўшы з рота слова «боты», адказаў:

— Басяк! Басяк я! І бацька мой быў Басяком, і дзед таксама...

— Што самае дарагое для сябе вы хацелі б атрымаць ад нашага супершопа, містэр Басяк? — зноў спытаўся мардаты дырэктар і дадаў: — Любое адзенне! Любая відэааўдыёапаратура, нават кампутар! Паўтараю: любы прэзент!

Гаўрыла яшчэ больш разгубіўся, не разумеючы, чаго ад яго дамагаюцца.

— Ды не трэба мне вашага брэзенту — мне б гумавыя боты...

Дырэктар зноў звярнуўся да сваіх памочнікаў:

— Перакладзіце, што ён хоча.

Гаўрыла заўважыў англійскую някемлівасць, падняў высока нагу і пакратаў у паветры пальцамі:

— Вось... Бачыце?.. Мне б гумавыя боты...

Дырэктар уважліва паглядзеў на чорныя Гаўрылавы пальцы і ветліва адказаў:

— У Англіі ўсё ест! Будуць вам боты, містэр Басяк! — махнуў некаму рукой і падаўся прэч.

Адразу ж патухлі пражэктары, усе пачалі збірацца, і хутка Гаўрыла застаўся адзін. Пастаяў, патаптаўся на адным месцы і абурыўся:

— Наабяцаць наабяцалі, а ні брызенту, ні ботаў! Абдурылі!

Гаўрыла рушыў да выхаду, але да яго падбегла дзяўчына і торкнула ў рукі вялікі каляровы карабец:

— Гэта вам!

Узрадаваны Гаўрыла ўзяў падарунак і, шчаслівы, накіраваўся да аўтобуснай станцыі, прыглядваючы закутак, дзе можна было б пераабуцца.

Вяртаўся дамоў ён у добрым настроі і ў новых ботах, не падазраючы, што вёска гудзе, як раззлаваны пчаліны рой.

Аднавяскоўцы, і ў іх ліку Басякова жонка, бачылі ў прамым тэлеэфіры Гаўрылавы прыгоды і абураліся:

— Папрасіў боты! Дурань! Яму даюць чаго толькі душа жадае, а ён — боты! Адным словам — Басяк!

Ды што аднавяскоўцы ў параўнанні з жонкай?! Тая, зірнуўшы на абноўку на мужавых нагах, яшчэ больш усхадзілася:

— Ці ж гэта гумавыя? Нейкія скамечаныя ды пухірыстыя — ніякага выгляду! Гумавыя ж блішчаць, зіхцяць, а гэта што? Можа, абноскі нечыя?

Але знайшоўся ў вёсцы знаток, які патлумачыў:

— Боты — з кракадзілавай скуры! Па ангельскіх стрытах ды авеню ім зносу не было б, а тут наш гной хутка дасць ім рады...

Пасля такой «экспертызы» Гаўрылава жонка зусім залютавала:

— Вяртайся назад! Знайдзі таго мардатага і аддай яму гэту кракадзілавую ласку! Выпрасі лепш замежнай тканіны мне на сукенку!

І Гаўрыла пайшоў, але не ў той знакаміты шоп, а за хату — пакурыць і перачакаць жончыну звягу, бо добра памятаў казку пра залатую рыбку...

# Маўглі

*Светлай памяці*
*Барыса Васілевіча*

Я атрымаў ліст ад свайго сябра з далёкай вёскі, у якім ён запрашаў мяне на паляванне. І хоць заняты я быў рознымі штодзённымі справамі, але не мог адмовіцца ад спакусы пацягацца са стрэльбай па зімовым лесе, дзе толькі сляпы не заўважыць казачнай прыгажосці і крыштальнай чысціні. А калі дадаць да гэтага прыемныя дрыжыкі ва ўсім целе ад прадчування нечаканай сустрэчы з дзічынай, можна зразумець, чаму я ўжо праз некалькі гадзін сядзеў у аўтобусе, які весела мчаў туды, дзе мяне чакалі мой сябар і паляўнічыя прыгоды.

Барыс сустрэў мяне з усёю шчырасцю, на якую здольны толькі вясковец і сапраўдны сябар. І хоць заўтра трэба было рана ўставаць, прагаварылі мы з ім далёка за поўнач.

Паляўнічае шчасце — капрызная штука, і на другі дзень яно ад нас адвярнулася. Абхадзілі мы, як кажуць, туркі-баркі і чортавы балотцы, ногі адбілі па самае «гэта самае», а дзічыны не бачылі. Слядоў было шмат, але ў сляды страляць не будзеш.

Зімовы дзень кароткі. Сонца імкліва хіліцца да лесу, быццам яго хтосьці цягне за вяровачку, і мы, стомленыя-launched-ператомленыя, выйшлі на дарогу і падаліся дахаты. Ісці было яшчэ далекавата, таму Барыс, калі мы міналі суседнюю вёску, паказаў на канцавую хату і прапанаваў:

— Давай зойдзем да Маўглі! Адпачнём, дасць Бог, пачастуемся і кранёмся далей.

Прапанова мне спадабалася, але больш зацікавіла прозвішча гаспадара:

— Чаму Маўглі? Дзіўнае прозвішча...

— Зойдзем, там і даведаешся,— падбадзёрыў Барыс, і мы, пастукаўшы ў дзверы, праз сенцы ўвайшлі ў цёплы пакой.

— Добры вечар у хату! Дзед Кузьма, ты дома? — гучна загаманіў Барыс.

З печы спрытна скуліўся дзядок, ледзь дакрануўшыся нагамі да лавы, якая стаяла ля печы.

— А-а! Барыска! — І дзедавы вочы пад сівымі брывамі засвяціліся ветлівымі агеньчыкамі.— А я сэ думаю, хто б гэта мог стукацца... Праходзьце, аслабаняйце плечы ад вашых фузеяў.

Барыс зняў стрэльбу, прыхіліў у кут, абтрос снег з шапкі.

Я стаяў як зачараваны, не мог адарваць вачэй ад гаспадара, настолькі ён незвычайна выглядаў: маленькі, сівенькі, жвавы, як мячык, які ўвесь час падскоквае і не можа спыніцца.

Барыс гэта заўважыў і сказаў:

— Давай сваю фузею і ты ды сядай — ногі ад стомы гудуць, хоць вушы затыкай...

Я апамятаваўся і сеў на лаву, дакараючы сябе за відавочную цікавасць да старога чалавека, якая магла падацца яму непрыстойнай. Цяпер назіраў я за ім употай, перакідваючыся словам то з Барысам, то з гаспадаром хаты.

Пакуль дзед мячыкам скакаў вакол нас, ладкуючы не багаты, але гасцінны стол, я ўвесь час думаў: «А дзе ж Маўглі?.. Пры чым тут Маўглі? Няўжо Барыс пажартаваў?..»

Дзядок мітусліва ставіў на стол сала, агуркі, пляшку:

— А я зрання сэ думаю, што гэта вусы мае свярбяць? Быць не можа, каб падвялі,— такога яшчэ не было... Дзень мінуў, вечар на падыходзе, лезу на печ і сэ думаю: сапсаваліся вусы! А яны, гляньце, не! Вунь за колькі часу адчулі гасцей! Ай ды вусы!

Дзед мітусіўся і ўсё гаварыў і гаварыў. Відаць было, што ён рады свежаму чалавеку і хоча выгаварыцца.

— Сядайце бліжэй, залаценькія! — запрасіў нас.— Выбачайце, калі што, бо я і за гаспадара, і за гаспадыню — адзін застаўся, як смык.

Барыс, відаць, калі-нікалі бываў тут, таму па-гаспадарску адкаркаваў бутэльку і наліў усім у кілішкі, не надта зважаючы на дзеда Кузьму. Мяне ж зачароўвала яго, не па гадах, рухавасць, яго няспынная гаворка, яго жыццёвы запал.

— А я сэ думаю, хто гэта так фацэтна ў дзверы стукае... Вось дзякуй, дык дзякуй! — не сунімаўся дзядок.

Мы выпілі па чарцы, прыкусілі салам, якое з марозу, ды пасля пустых сцежак падалося асабліва духмяным і смачным.

Дзед таксама кульнуў, але сала не еў, а смактаў бяззубым ротам, як любіць пасмактаць скварчыну вясковае немаўля, у якога яшчэ не прарэзаліся зубы.

— А я сэ думаю... Вось дык дзякуй! Усцешылі, залаценькія! — ніяк не мог стрымаць сваёй радасці дзед Кузьма.— Няўжо, сэ думаю, вусы сапсаваліся...

Барыс пачаў наліваць па другой, а мне карцела даведацца пра Маўглі — хто гэта і дзе ён?

Робячы выгляд, што нахіляюся па агурок, я шапнуў сябру на вуха:

— Маўглі дзе?!

Барыс зарагатаў, паставіў пляшку і звярнуўся да гаспадара:

— Дзед Кузьма! Вось мой гарадскі сябар цікавіцца пра Маўглі, хто ён і дзе цяпер... Калі ёсць жаданне, выкладзі, як кажуць, з першых вуснаў?

Агеньчыкі ў дзедавых вачах успыхнулі з большым напалам, сам ён схамянуўся, як верабей, які абтрасаецца ад пылу, прыбадзёрыўся. Відаць, тое, пра што збіраўся распавядаць, было яму даспадобы.

— Маўглі?! — захіхікаў ён.— Дык Маўгля — гэта я, сынок! — І дзед з гонарам зірнуў на мяне, чытаючы на маім твары і здзіўленне, і зачараванне.— Калі даяце дазвол і маеце цярпенне ды час — можна і пра Маўглю...

— Мне дык вельмі будзе цікава паслухаць! — горача ўсклікнуў я і зірнуў на Барыса, які толькі ўсміхнуўся, бо, відаць, чуў гэтую гісторыю не раз.

— Ну, то добра,— кашлянуў дзед, быццам збіраўся пець у мікрафон.— Толькі сэ думаю, з чаго б гэта пачаць?..

— Як заўсёды, дзед Кузьма, спачатку,— раіць Барыс смеючыся.

— Ну, то добра,— пагадзіўся дзед і зноў кашлянуў у кулак.— Я, па праўдзе кажучы, калі гэта здарылася, і не ведаў і не чуў пра Маўглю. Пачалі мяне зваць Маўглем даўно, у маладосці, я і састарэў з гэтай мянушкай. Спачатку я злаваўся за яе, а потым, як даведаўся, хто ён быў такі, дык і згадзіўся быць Маўглем — чаму, сэ думаю, і не!

Дзед адклаў убок скварчыну, выцер аб кашулю пальцы і паказаў на пляшку:

— Усё пачалося з яе, злыдні! Вы вось з палявання вяртаецеся цвярозыя — і гэта павінна быць на самым перадзе. Колькі праз яе паранілася ды пастралялася ўсмерць... Я быў вялікі грахаводнік па гэтай часці. Бывала, у лес са стрэльбай ні кроку, пакуль спаўна за каўнер не залію. Аднаго разу моцную дозу прыняў ды яшчэ пляшку ў кішэнь замастырыў, сэ думаю, ад марозу бараніцца буду... Іду, пятляю па лесе, і так напятляў, што невядома як апынуўся аж на Ліхаманшчыне. У тую Ліхаманшчыну,— і дзед перахрысціўся,— здавён-даўна людзі баяліся нос паказаць. Чортава месца, нездарма гэтак абазванае. Здрэйфіў я не на жарт, цвярозасць вярнулася. Крутнуў галавой, а вакол — вываратні ды гушчарына непралазная. Хацеў крыкнуць, ды, сэ думаю, хто пачуе? Толькі нячысціка прываблю ды канец свой набліжу. Падкасіліся ад страху ногі, і бухнуўся я на снег, дзе стаяў. Капцы, сэ думаю! Намацаў я ў кішэні пляшку, узрадаваўся, сэ думаю, глыну і ад марозу абаранюся. А калі на тое, і паміраць весялей будзе... Ага... Прыклаўся я да рыльца — глык ды глык — і ад страху, на адным дыханні, выдундзіў да апошняй кроплі. Ну, сэ думаю, цяпер і сам чорт не страшны, абы толькі ўстаць на ногі. Паспрабаваў крануцца — дзе табе! — як прымерз. Адным словам, Ліхаманшчына, не адпускае! Вось чаму

спрадвек сюды баяцца хадзіць людзі, а мяне чорт занёс. А мазгі, хоць і п’янеюць, ды кумекаюць напаследак: засну тут і замерзну наскрозь, трэба неяк ратавацца, пакуль цёплы... Толькі і памятую, як з апошняй сілы запоўз пад нейкі вываранень і пачуў цяпло. Сэ думаю, замярзаю, бо наслуханы, што перад смерцю на марозе чалавек адчувае цяпло. Падумаў так, і душа некуды адляцела — ці памёр, ці заснуў, не ведаю...

Прачнуўся, нічога не памятую, нічога не бачу, бо цемра навокал, хоць вочы павыпорвай. Цёпла мне, аж спацеў. Вакол, як я казаў, цемра, духоціна спёртая, смярдзіць ці то гнілой капустай, ці то нейкай псінай. Дзе я?.. Паклікаў жонку — ціха. Яшчэ раз паклікаў, бо чую, нехта сапе ля вуха. Памацаў — ляжу на нейкай коўдры, мяккай і цёплай. Абмацаў сябе — на мне кажух і валёнкі. Э-э, сэ думаю, з якога гэта свята я так насёрбаўся, што ў пасцель забраўся ў кажуху і валёнках?.. Зноў пазваў жонку, каб раздзела ды разула мяне,— зноў ціха, адно толькі сапенне.

Дастаў я з кішэні запалкі і шмаргануў па карабку. Запалка пыхнула і ад духаты патухла. Я тады некалькі запалак чыркануў па серцы — запалкі цьмяна заліхтарылі і пачалі гарэць. Калі я глянуў — валасы мае ад жаху зімовую шапку шуганулі, як пухавінку. Я, аказваецца, ляжаў не на коўдры, не з жонкай у пасцелі, а на мядзведзіцы!

Запалкі згарэлі, а я баяўся крануцца. Як у маю пасцель, сэ думаю, трапіла гэта звярына? Як?! Сенцы трэба было на ноч зачыняць на клямку! А можа, я сню ўсё гэта? Адпіў мазгі і прысніў абы-што... Колькі разоў чэрці сніліся!.. Я зноў чыркануў некалькі запалак. Рукі трэсліся, цьмяны агеньчык асвяціў мой прытулак. Як разгледзеўся — Царыца нябесная! Святыя апосталы! — я — у бярлозе! Не мядзведзіца ў маю пасцель забралася, а я ў яе!..

Дзед Кузьма палыкнуў слінку, перавёў дыханне і, быццам нічога дагэтуль не расказваў, запрасіў:

— Налівайце, калі ласка, закусвайце!..

Шмат пазней я здагадаўся, што дзед Кузьма распавядаў пра свае прыгоды, магчыма, тысяча першы раз і паўзу рабіў менавіта на гэтым месцы, каб падсыпаць перчыку слухачам. Але цяпер я амаль крыкнуў:

— А што далей?

— Далей? — Кузьма пачухаў патыліцу.— Што далей?.. Сэ думаю, пакуль жывы, трэба ратавацца. Саслізнуў я ціхенька з мядзведзіцы,— а яна пахрапвае,— ды як даў галавой пад корч, толькі трэскі і снег шуганулі. Выскачыў з бярлогі — вакол ноч, маразяка, ажно дрэвы трашчаць. Мац, мац, шапка засталася ў бярлозе, шуганулі яе валасы з галавы, а я і забыўся. Ды чорт з ёй, з шапкай! Сэ думаю, каўнер у кажуху высокі, уратуе неяк ад марозу. Кінуўся я з усіх ног ад чортавай Ліхаманшчыны і толькі раніцай ледзь жывы пераступіў парог сваёй хаты.

Жонка пытаецца:

— Дзе гэта ты тры дні і тры начы быў?

Гэта ж трэба, сэ думаю, тры дні і тры начы праспаў з мядзведзіцай!

Тут толькі я заўважыў, што не адну шапку, а і фузею забыўся ў бярлозе.

А-а! Нічога! Жывы затое застаўся! Адагрэюся, сэ думаю, адпачну і з людской дапамогай стрэльбу вызвалю.

— Ну, і вызвалілі? — пацікавіўся я.

— Чорта лысага! На тое гэта і Ліхаманшчына, каб усё заблытаць... Не знайшоў болей я сваёй бярлогі...

Дзед зноў пачаў смактаць скварчыну, а я сядзеў і перанарваў чутае.

— Шкада стрэльбы,— ціха сказаў я...

— Ды яно — дробязь! — зноў ажывіўся дзед.— Кпіны і зубаскальства цяжэй было перажыць, чым страту фузеі.

— Як гэта? — пацікавіўся я.

— Ды вельмі проста! Убачылі неяк зубаскалы мядзведзевы сляды ля вёскі і пусцілі чутку, што мядзведзіца прыходзіла да мяне спаганяць аліменты. А другім разам

спялі, што бачылі мядзведзіцу з медзведзянятамі і тая сварылася на малых: «Не будзеце слухацца, Кузьме, вашаму бацьку, скажу!..» Чаго толькі я не наслухаўся за жыццё... Вось з тае пары і пачалі мяне зваць Маўглем...

Мы развіталіся з гасцінным домам, з яго незвычайным гаспадаром і ўжо пры святле месяца падаліся дамоў.

— Што гэта, байка, ці што? — спытаўся я ў Барыса.

— Як табе сказаць... Хутчэй за ўсё дзед тады перапіў і згубіў у лесе стрэльбу... Вось і мусіў неяк выкручвацца.

— Дык надта ж красамоўна і дэталёва размаляваў дзед свае прыгоды... Ці ж так можна?

Барыс засмяяўся:

— А хіба ты не ведаеш, што ў паляўнічага пасля смерці язык кратаецца яшчэ тры гадзіны?

Я нічога не адказаў, але падумаў: «Няўжо і мой язык перажыве мяне на тры гадзіны?»

# Стол № 12

Дзеда Анісіма нечакана запрасілі на пасяджэнне праўлення калгаса.

— Вырашылі мы, шаноўны Анісім Восіпавіч, бясплатна, за кошт калгаса, накіраваць вас у калгасны санаторый! — урачыста і прылюдна абвясціў старому старшыня калгаса.

— За што гэткая ласка? — здзівіўся дзед.

— Вы, Анісім Восіпавіч, можна сказаць, аддалі жыццё калгасу, вось калгас і пачынае вяртаць запазычанасць сваім першапачынальнікам.

— Яно-то дзякуй за ласку,— прыклаў руку да сэрца дзед,— але ж я са сваёй жонкай, з Параскай, ад ранняй маладосці і да сівой старасці разам пад калгасам былі...

— Ведаем! Ведаем, дарагі Анісім Восіпавіч! Усё нам вядома! Але ж пакуль бясплатна мы не здольныя санатарыць адначасова дзве галавы ад адной хаты. А па-другое, калі скласці тона-кіламетры, якія накруціць аўтобус туды-назад, ды харчовыя калорыя-кілаграмы за дваццаць чатыры дні ў санаторнай сталоўцы, ды ўрачэбна-працэдурныя паслугі, зноў жа за 24 дні, ды яшчэ розныя там кіназабаўляльныя вечарыны — вось вам, шаноўны Анісім Восіпавіч, і ўся бухгалтэрыя. Параску вашу мы ахопім іншым разам, а цяпер — вось вам пуцёўка!

Наступным днём дзед Анісім сядзеў у аўтобусе і намотваў тона-кіламетры ў кірунку калгаснага санаторыя.

Дзеда сустрэлі, памылі і, як кажуць, спаць уклалі.

— А я, дурны, варажыў: ехаць ці не,— крактаў дзед, уладкоўваючыся на чыстай пасцелі ва ўтульным пакоі,— адлежуся тут ды адасплюся ад гаспадаркі і жончынай звягі.

І дзед Анісім, што рэдка бывала раней, адразу салодка і глыбока заснуў, пахрапваючы ды пасвістваючы носам.

Раніцай, яшчэ цёмна было ў вокнах, дзед спужана падскочыў на ложку ад звонкага і бадзёрага жаночага голасу:

— Прачынаемся! Паднімаемся! Паспалі — хопіць! Змяраем тэмпературку! Вось бутэлечка — здаём аналіз! Хутчэй! Кратайцеся!

Дзеду Анісіму падалося, што ён толькі хвілінку як лёг. Галава была цяжкая, вочы зліпаліся.

— Якая тэмпература? Я здаровы! — спрабаваў пярэчыць стары, але звонкі голас у белым халаце яшчэ больш пазванчэў:

— Не размаўляць! Выконвайце распарадак! Вас яшчэ чакае шмат працэдур і дактароў да снедання!

Дзед уздыхнуў, ткнуў пад паху градуснік і паслухмяна пайшоў з пасудзінай у туалет. Там ён жахнуўся:

— У нас у краме па хлеб меншая чарга, чым тут па патрэбе!

Пасля гэтага дзеда павялі па розных кабінетах, дзе яму зазіралі і ў вушы, і ў нос, і ва ўсё астатняе, а напаследак прымусілі глытаць нейкую гумавую кішку.

Нарэшце, у апошнім кабінеце, дзеду абвясцілі:

— Запомніце, ваш стол нумар дванаццаць!

Прыйшоўшы ў сталоўку, дзед пакруціўся між сталоў і быў сабраўся выходзіць, але афіцыянтка здзівілася:

— А вы што, не будзеце снедаць?

— Чаму не? — адказаў дзед.— Я, здаецца б, сабаку з'еў пасля ўсёй муштры! Але ж мой стол нумар дванаццаць, а тут бачу толькі дзесяць сталоў... А дзе будзе мой?

Афіцыянтка засмяялася:

— Мілы чалавек! Вы нумар свайго стала трымайце ў галаве, а садзіцца можаце за любы — у кожнага нумара стала сваё меню. Дванаццатаму сталу сёння, напрыклад, на снеданне манная каша і чай. Смачна есці!

Дзед Анісім паторкаў відэльцам у кашу, якой і кату на зуб не хапіла б.

— А дзе сала з бульбай? Дзе яешня? — папытаўся ён у дзяўчыны, але тая абслугоўвала іншых санаторнікаў і на старога не звяртала ўвагі.

Пасля снедання галоднага дзеда Анісіма да абеду цягалі то на рэнтген, то на ўсякія ...графіі ды ...скапіі.

Ледзь прыклыпаў стары да свайго ўтульнага ложка, бухнуўся ў пасцель, але адчыніліся дзверы і той жа звонкі голас разануў па вушах:

— Уставайце! Весялей! Абед чакае!

Слова «абед» надало старому сілы, бо ў жываце адчуваліся рэзі ад голаду.

— Дванаццаты стол? — спыталася ў сталоўцы афіцыянтка.— Так, што сёння вашаму сталу на абед?.. У вас — булённы адвар і паравая катлетка. Толькі без хлеба! Хлеб вам забаронены!..

Дзед, які ўсё жыццё любіў папрацаваць, любіў і пад'есці, толькі раздражніў гэтым абедам свае рэзі ў жываце.

— А што хоць будзе на вячэру? — не стрымаўся дзед і звярнуўся да афіцыянткі.— Есці дужа хочацца...

— На вячэру дванаццатаму сталу будзе шклянка кефіру! — бадзёра адрапартавала дзяўчына.— А тое, што вам хочацца есці, дык гэта спачатку — прыкладна на дзесяты дзень прывыкнеце і нават не ўсё з'ядаць будзеце!..

Пасля вячэрняга кефіру ўсіх адпачывальнікаў павялі ў клуб на культурна-аздараўленчую праграму.

— Можна, я лепей паляжу,— узмаліўся дзед Анісім,— я стаміўся, я — стары чалавек, я галодны...

— Мы вас хутка амалодзім! — звонка зазвінеў чарговы белы халат.— Не парушайце рэжыму, дзядуля,— у клуб марш!

Дзед не хацеў нічога парушаць, таму паслухмяна накіраваўся ў клуб амаладжвацца.

У клубе раўла музыка, якую праз мікрафон перакрываў нейкі брытагаловы хлопец у чырвоным пінжаку:

— Так, шаноўныя калгасныя дамы і спадары! Прыбадзёрцеся, усміхайцеся і станьце кругам! Так, малайцы! Цяпер вазьміцеся за рукі і — пайшлі ўлева! Пад музыку, весялей! Цяпер у такт мелодыі скачам на правай назе. Малайцы! Цяпер у той жа такт скачам на левай назе.

Старому, якому цяжка было стаяць на дзвюх нагах, даводзілася з апошніх сіл скакаць на адной.

Мікрафон працягваў перакрыкваць музыку:

— Цяпер ідзём управа! Паднімаем рукі ўгару і пляскаем у далоні...

Абяссілены дзед Анісім падняў рукі і страціў раўнавагу. Каб не паваліцца, ён зачапіўся за нейкую жанчыну і абвіс на ёй.

Масавік у чырвоным пінжаку падскочыў да старога:

— Толькі не гэта! Абдымацца, дзед, будзеце ў іншым месцы! Сорам!..

Далей дзед Анісім нічога не памятае. Ён зноў ускочыў з пасцелі, калі ў вокнах было яшчэ цёмна. У вушах звінела:

— Устаём! Змяраем тэмпературку! Вось бутэлечка для аналізу!

У сталоўцы афіцыянтка весела ўсміхнулася:

— Дванаццатаму сталу сёння нічога не будзе!

— Як нічога?! — спалохаўся дзед.— Дайце хоць той кашы з чаем!

— Не, не і не! — катэгарычна занекала афіцыянтка.— У вас сёння і заўтра галодныя дні, бо паслязаўтра вам будуць рабіць ачышчальную клізму.

— Што-о? — выцягнуў дзед шыю.— Ды вы мяне і так пасадзілі на ваду, нават без хлеба...

— Заўтра,— удакладняе афіцыянтка,— вам якраз вады і дадуць. Трэба будзе выпіць цэлы трохлітровы слоік яе... Вам прамыюць страўнік.

— Прамыюць ад чаго? — ускочыў стары.

— Вы нічога не разумееце ў медыцыне,— супакойвала дзеда дзяўчына,— у вас там за жыццё назбіралася...

— Хопіць вам у сталоўцы пра клізму! — абурыліся астатнія.— Дайце пад’есці спакойна!..

Праз тыдзень дзед Анісім з палёгкай адчыніў дзверы сваёй хаты.

— Аніська, ты? — здзівілася жонка.— Табе ж яшчэ адпачываць ды адпачываць! А які ты схуднелы і зжаўцелы — што здарылася?

— Дай хутчэй есці! — закрычаў дзед і, пакуль старая рупілася ля печы, бясплатны санаторнік, не распранаючыся, смачна захроп на сваім утульным ложку, мармычучы скрозь сон:

— Мой стол нумар дванаццаць... Мой стол нумар дванаццаць...

# Спірытызм

Зміцер Пухляк сядзеў на прызбе і курыў. Настрой быў нікудышны, у галаву лезла такая брыдоціна, і столькі было яе многа, што, здавалася, патрэсквала патыліца.

Скрыпнулі весніцы, і на двор ступіў Якім Штукар, сусед праз дарогу.

— А я сам збіраўся да цябе,— выдыхнуў зацяжку Зміцер,— ёсць гаворка.

— Ды гаворка заўсёды знойдзецца,— сеў Якім і таксама закурыў.— Ці не пра тое гаворка, як без гарэлкі горка?

— Не да жартаў, браток,— зноў выдыхнуў Зміцер.

Якім не мог без жартаў, быў здольны на розныя штукарствы, але цяпер, убачыўшы чорныя хмары ў вачах суседа, прыкусіў язык:

— Маўчу. Маўчу і слухаю.

Зміцер зморшчыўся. Было відаць, што цяжка яму выказаць штосьці патаемнае, але трымаць гэта ў сабе было яшчэ цяжэй, і ён пачаў:

— Толькі табе... Табе як найлепшаму сябру і блізкаму суседу... Хоць язык не варочаецца, ды мушу спавядацца, няма болей моцы насіць гэты цяжар на душы...

— Маўчу і слухаю,— паўтарыў Штукар.

Пухляк прыпаліў новую цыгарэту і працягваў:

— Пачало мне апошнім часам здавацца, што жонка хоча звесці мяне са свету...

— Вікця?! — ажно ўскрыкнуў Якім.— Твая Вікця?! Цябе?!

— А што ты здзіўляешся? — у сваю чаргу здзівіўся Пухляк.— Мая Вікця. Мяне.

— Яна ж набожная... Ціхая, як...

— Ты слухай! — перапыніў сябра Зміцер.— Твая набожная і ціхая не дае мне прадыху: едзь у сельсавет і перапішы на мяне ўсю гаспадарку і ўсе грошы... Ты, кажа, хутка памрэш... Ну? Што скажаш?..

— А з чаго яна ўзяла, што ты хутка павінен памерці? — спытаўся сусед.

— Кажа, бацька яе нябожчык прысніўся і прыгадаў мой блізкі канец.

Якім рашуча плюнуў:

— Ды мала каму што сніцца! Ці ж варта гэта браць да галавы?

— Сам жа казаў, набожная... Для яе, браток, гэта не проста сон, ледзь не з'яўленне Хрыста народу,— удакладніў Пухляк.— Гэта з'ява так засела ў яе ў галаве, што доўбняй не выб'еш.

— Ну, вазьмі і перапішы! — параіў Якім.— Што ад гэтага зменіцца? Гаспадарка — агульная, грошы — агульныя! Гэтак жа ўсё і застанецца. Што ад гэтага зменіцца?

— Што зменіцца? — ускіпеў Зміцер.— Ох, які ты разумны! Я перапішу, а потым бойся: ці атруціць, ці соннага падушкай прыдушыць... Не! Я па тэлевізары нагледзеўся, што ў свеце выпрабляецца... Сёння бабам няма веры, гэта табе не даўней.

— Ды плюнь ты! — махнуў рукой Штукар.

— Плюнуць?! А ведаеш ты, што на тым тыдні, як мяне не было, прыходзіў у хату той гарлахват Вацік. Жыве адзін, бабылюе, голы як бізун — ні кала, ні казла. Што яму трэба тут без мяне? Ведае, што я на працы, але сунецца... Губу растапырыў на чужое. Вось табе і перапішы!

— Мала чаго мог зайсці чалавек у хату,— супакойвае сябра Якім.

— А ты ведаеш, што пасля яго візіту Вікця пачала яшчэ больш насядаць: едзь у сельсавет ды едзь! Кажа, зноў бачыла ў сне свайго бацьку і той пацвердзіў, што я — не жылец.

— Ды плюнь ты і разатры нагой! — абняў за плечы сябра Штукар.

— Лёгка сказаць: плюнь! — абурыўся Зміцер.— Адно ведаю я: перапісваць гаспадарку з грашыма не буду! А вось як уратавацца ад звягі — не ведаю.

Штукар прыжмурыўся, штосьці кумекаючы:

— Пачакай!.. Кажаш, ты па тэлевізары рознага нагледзеўся? А ці бачыў ты перадачу пра спірытызму?

Зміцер пацiснуў плячыма:

— Першы раз ад цябе чую. А што гэта такое?

— А такое, што можна выклікаць нябожчыка з таго свету і пагутарыць з ім!

— Што ты вярзеш? — раззлаваўся Зміцер.— Жарты твае нейкія дурныя... ці мяне за дурня лічыш...

— Не! Не зусім нябожчыка можна выклікаць,— удакладняе Штукар,— а ягоны дух... І той дух гаворыць чалавечым голасам і нават прарочыць: што скажа, тое і будзе.

— Як гэта, дух? Нічога не разумею!

Штукар пачаў тлумачыць:

— Я, па праўдзе кажучы, сам не ўсё зразумеў, бо толькі раз бачыў, але мы можам па-свойму зладзіць спірытызму...

— Як? — лыпаў вачыма Пухляк.

— Там, у той перадачы, ставілі фотакартку нябожчыка на стол, засланы чорнай тканінай, завешвалі вокны, запальвалі свечку і садзіліся моўчкі за стол. Потым той, хто валодае спірытызмай, патаемным голасам выклікаў дух... Ну, напрыклад: Іван ці Дзям’ян, адгукніся з таго свету... што ты бачыш адтуль і што нас чакае?.. І гэтак паўтарае, пакуль дух не адзавецца...

— І хто ў нас валодае тваёй спірытызмай? — з’едліва спытаўся Пухляк.— Можа, ты?

— Не я, а ты! — І Якім ткнуў пальцам у грудзі сябру.

Зміцер балюча застагнаў:

— О-о! Дарэмна, бачу, адкрыў я табе сваю душу! Ты без сваіх жартаў не можаш! Адным словам — Штукар!

— Ты паслухай, не падкідвайся! — супакоіў суседа Якім.— Для цябе стараюся. Скажы сваёй набожнай жонцы, што ў сне пачуў голас з нябёс, які загадаў табе праз спірытызму выклікаць з таго свету дух нябожчыка

Антося Хвеадосавіча, бацькі тваёй Вікці... Быццам той дух напрарочыць, як вам жыць далей... Ну?..

— І як я выклікаю той дух? Я буду клікаць яго да скону вякоў, а што далей? Ты хоць разумееш, што пляцеш? — не пераставаў злавацца Пухляк.

— Усё вельмі проста: засцялі стол чым-небудзь аж да самай падлогі, пастаў фотакартку цесця на стол, запалі свечку, і ў гэтай амаль цемры замагільным голасам кліч Антося Хвеадосавіча... Кліч і задавай яму пытанні, якія цябе хвалююць... Жонку пасадзі побач з сабой.

— Ага! Я буду задаваць пытанні, а фічку мне хто адкажа! І буду я ў вачах жонкі дурань дурнем,— не пагаджаўся Зміцер.

Якім сцішыў голас:

— Адказваць табе буду я... Я буду сядзець пад сталом, схаваны пад тканінай, і тым жа замагільным голасам буду прарочыць... Ну, як? Такога тваёй Вікці напрарочым, што хуценька ачысціць мазгі ад дурноты.

— А як ты апынешся пад сталом? — спытаўся Зміцер.— Ты ж не дух.

— А вельмі проста. Гэта павінна адбывацца вечарам, ты не зачыніш акно, я і залезу ціхенька ў хату, нырну пад стол, а ты будзеш рыхтаваць спірытызму. Усё падрыхтуеш — і кліч жонку! Зразумеў? Ну? Я сяду пад стол,— працягвае Штукар,— ты — за стол, свечка гарыць перад табой, асвятляе фотакартку Антося, у хаце прыцемкі... Вось тут ты і запрашаеш жонку. Ну?

— Рызыкова гэта ўсё... але мушу згадзіцца дзеля душэўнага спакою.. Дасць Бог, адчэпіцца ад мяне са сваім перапісваннем...

На гэтым і парашылі.

На здзіўленне Змітру яго набожная жонка паверыла ў мужаў сон, асабліва калі пачула пра голас з нябёс.

— Ой, Зміцерка! — пляснула яна ў далоні.— Гэта ж Усявышні кінуў вока пад наш дах! Рыхтуй, Зміцерка, спірытызму, выклікай тату з таго свету! — І Вікця перахрысцілася.

Аднаго вечара, як і раіў Штукар, Зміцер заслаў у другой палове хаты нейкай посцілкай стол, паставіў на яго цесцеву фотакартку і запаліў свечку. Завешаныя наглуха вокны надавалі пакою асаблівую таямнічасць, агеньчык на свечцы ўздрыгваў, нібы баючыся непрывычнай адасобленасці ад астатняга свету. Віцця напружана сядзела ў першай палове хаты і нервова чакала, калі Зміцер падасць голас.

Як толькі Штукар перавесіў свае ногі праз акно і шмыгануў пад стол, Пухляк гукнуў жонку:

— Захо-о-одзь!

Віцця асцярожна, на пальчыках увайшла ў цёмны пакой, дзе за сталом, роўненька, быццам глынуў спіцу, сядзеў Зміцер. Ён жэстам паказаў жонцы на табурэтку побач з сабой, таямніча прыклаў палец да вуснаў.

Віцця ціхенька села, баючыся дыхаць і міргаць. Пухляк зморшчыў лоб і ўперыў погляд на дрыготкі агеньчык свечкі. Таямніцы пячаць легла на ўвесь пакой і на тых, хто быў у ім. Цішыня была такой напружанай, што нават Змітру зрабілася страшна.

Нарэшце ён сіплым голасам, якога і сам не пазнаў, прагаварыў:

— Анто-о-ось Хвеадо-о-осавіч! Адгукніцеся-я!..

Дзеля важкасці моманту і большага эфекту дух пад сталом маўчаў.

Не дачакаўшыся адказу, Пухляк зноў зацягнуў не сваім голасам:

— Анто-о-ось Хвеадо-о-осавіч!.. Бачу-у... Бачу-у... Набліжа-аецца-а. Ба-ачу-у... ужо блізка-а...

Віцця не вытрымала:

— Як ён выглядае? Як выглядае тата?..

Зміцер зашыкаў:

— Як ён можа выглядаць? Пасвяжэў, адпачыў за дзесяць гадоў без працы... Сядзі і больш не лезь, бо спужаеш духа! — і казаў далей: — Вы мяне чуеце, Анто-о-ось Хвеадо-о-осавіч? Ці чуеце мяне-е?

— Чую-ю-ю! — пачуўся аднекуль прыглушаны голас, які сапраўды падаўся замагільным.

— Спытайся, што нас чакае?! — зноў не вытрымала Віцця.

— Што нас чакае-е, Антось Хвеадосавіч? — спытаўся спірытыст.

Аднекуль пачулася:

— Чакае вас доўгая жыццёвая дарога, але ты, зяцёк, перажывеш сваю жонку-у...

Віцця збялела:

— Нейкі голас не падобны на татаў...

— Пабудзеш на тым свеце, і ў цябе голас пераменіцца,— зноў зашыкаў на жонку Пухляк.— Сядзі і слухай!

Зміцер працягваў дапытвацца:

— Дык што, Антось Хвеадосавіч, раз ужо я перажыву жонку, ці варта мне ехаць у сельсаве-ет?

— Плюнь ты ёй у вочы, зяцёк! — адказаў дух.— Нагі каб тваёй не было ў сельсавеце!

Віцця прыкусіла губу і яшчэ больш збялела, а Пухляк перайшоў да другой тэмы:

— А скажыце, Антось Хвеадосавіч, чаго прыходзіў да Віцці той басяк Вацік?

Дух адказаў:

— А гэта няхай яна сама патлумачыць, а мы паслухаем.

Віцця пачырванела, круцілася на табурэтцы.

Зміцер павярнуўся да жонкі:

— Ну, адкажы свайму бацьку, што рабіў тут той гарлахват, як мяне не было.

— Нічога такога... ён... не тое каб...— І Віцця яшчэ больш зачырванелася.

Раптам адчыніліся дзверы, і ў пакой шумна ўвайшла Проня, жонка Якіма Штукара. Ды прыйшла не адна, а з Пушком, невялічкім звяглівым сабачкам.

— Во-ой! — усклікнула яна.— Што вы тут у цемры, як лунацікі, седзіцё? Глянь! Ды пры свечцы! Вы што, чарнакніжнікі нейкія? Ха!

— Ціха! — зашыкала Вікця на суседку.— Ціха ты! Мы тут з татам гаворку вядзём.

— Якую гаворку? З якім татам? Падурнелі! Твой жа бацька дзесяць гадоў як памёр...

Зміцер, каб пазбегнуць нечаканасцей, ускочыў з-за стала і паспрабаваў выпхнуць суседку з пакоя:

— Так, Проня, без цябе тут абыдземся! Прыперлася, ды яшчэ з сабакам! Мы занятыя, потым прыйдзеш!

— Ты мяне не выпіхай, а лепш скажы, куды дзеўся мой валацуга? Усю вёску з Пушком абнюхалі — нідзе няма. Думала, у цябе...

Пакуль ішла гэтая гаворка-разборка, Пушок штосьці пачуў сваім носам і пачаў з радасным енкам скрэбціся па посцілцы і лезці пад стол.

— Няма тут Якіма! Няма! Чуеш? — крычаў на сабаку Зміцер.— Вон адсюль, псіна блыхастая!

— У вас, мусіць, кот пад сталом,— паказала на Пушка Проня.— Пушок, пайшлі адсюль!

Але Пушок, унюхаўшы гаспадара, радасна забрахаў і заскуголіў, учапіўшыся зубамі за посцілку.

— Дальбог там кот! Сабака ні з таго ні з сяго не будзе кідацца пад стол.— І Проня прыўзняла край посцілкі.— Што гэта?! — адскочыла яна.— У вас пад сталом — мой Якім! Што ты там робіш?!

Пушок радасна кінуўся да гаспадара, пачаў лізаць яму твар.

— Прэч адсюль, стукач! — адштурхнуў сабаку Якім і, крэкчучы, вылез з-пад стала.

Вікця чарговы раз пабялела, убачыўшы таго, хто хвіліну назад быў духам яе бацькі. Бялейшы за снег стаяў і Зміцер...

Як яны там разабраліся і чым усё скончылася — адзін Бог ведае. Вядома толькі, што раніцой Зміцер Пухляк паехаў у сельсавет апісваць сваю гаспадарку і грошы на жонку.

# Паветраны атракцыён

Змітрок быў даволі сталага ўзросту, а што ўжо казаць пра бацькоў — век дажывалі. Змітраку хацелася нейкім чынам аблегчыць бацькам старасць, зрабіць нешта такое, ад чаго б яны падбадзёрыліся ды хоць душой памаладзелі на некалькі гадоў.

Жывучы ў горадзе і наязджаючы ў вёску да бацькоў, ён браў самую цяжкую работу на сябе: і дровы рэзаў ды шчапаў, і за плугам хадзіў, і да касы прыкладваўся. Але гэта была звычайная дапамога ў гаспадарцы — абавязак любога сына, ад гэтага душа бацькоў не страпянецца, не памаладзее.

Нарэшце ён трапіў на след чагосьці незвычайнага і, як яму падалося, вельмі цікавага. Змітрок прымчаўся ў вёску і з парога абвясціў:

— Мама! Тата! У горадзе адкрыўся атракцыён, якога яшчэ ніколі не было!

— Што гэта, сынок, за штукенцыя? — спытаўся Тодар, Змітракоў бацька.

— А штукенцыя такая, тата, што за нейкія там капейкі можна купіць білет і на самалёце, на «кукурузніку», абляцець над усім горадам! Ну як?! — горача высыпаў сын.

— Госпадзі, злітуйся! — пляснула рукамі маці.— Каб я на старасці гадоў галаву скруціла!

— Гэта яшчэ не ўсё, мама,— захоплена працягваў Змітрок,— за даплату, хто пажадае, можа скочыць з таго самалёта з парашутам. Ну як?!

— Ты што, сынок! — запярэчыла маці.— Боты пазвальваюцца з ног, спадніца задзярэцца, гарадскі люд будзе пляваццца! Мяне ў твой самалёт і сілай не зацягнеш!

— А чаму?! А што! — бадзёра крактануў стары.— Мой бацька ў царскай арміі ў акопе сядзеў, я пры Саве-

тах — коннікам быў, а вось самалёта паспрабаваць не дало. Дык чаму ж бы і не?

— Ну, дзякуй Богу! — узрадаваўся Змітрок.— А я баяўся, што і ты, тата, адмовішся.

— Дык чаму ж бы і не? — паўтарыў стары і рашуча падняў угару палец.— Толькі, сын, будзе так: і самалёт, і парашут!

— Здурнеў старэча! — лямантанула жонка.— Яшчэ на галаву каму скочыш!

— Не, мама,— супакойвае Змітрок.— Па-першае, з парашутам будуць выкідаць не над самым горадам, а на ўскрайку, а па-другое, я таксама скокну і буду ляцець побач з татам, кіраваць буду ім. Разам і сядзем на спецыяльнай пляцоўцы. Ну як?!

— Калі ўжо побач, рука аб руку — скачыце сабе на здароўе,— згаджаецца маці.

Раненька ў нядзелю Змітрок забраў з вёскі бацьку і пакаціў з ім на машыне ў горад. Чарга была вялікая, ахвотнікаў праляцець над горадам хапала, таму сыну з бацькам давялося нейкую гадзіну патаптацца ля касы. Але гэта дробязь у параўнанні з тым, што іх чакала!

Нарэшце абілечаных падвялі да самалёта, а тым, хто збіраўся скокнуць, пачапілі на плечы парашуты. Такіх адважных сярод пасажыраў аказалася толькі двое — Змітрок і яго бацька.

— Які ж гэта парашут? — абураўся дзед.— Гэта ж звычайны рукзак за плячыма! Мой бацька, бывала, гэткі мяшок насіў у царскай арміі...

— У гэтым, як вы сказалі, мяшку, таварыш дзед,— тлумачыць інструктар,— будуць, пасля раскрыцця, з двух бакоў стропы. Пацягнеце за левую, вас паверне ўправа, пацягнеце за правую, вас панясе ўлева. Зразумела?

— Што тут разумець! — рапартуе дзед.— Я, бывала, у арміі...

— Тата, людзі чакаюць узлёту, пра армію раскажаш ім у палёце,— параіў сын.

— Ад вінта! — закамандаваў хтосьці, і «кукурузнік», падскокваючы і трасучыся, панёсся па зялёным полі. Раптам дзеда прыціснула да сядзення, і самалёт пачаў набіраць вышыню. Усе прыліплі да ілюмінатараў.

— Якія маленькія дамы! А людзі як кузуркі! — дзівіліся пасажыры.

Дзед таксама ўважліва разглядаў з вышыні зямлю і ўсё на ёй.

— Вось дык ай! — усклікаў ён.— Ай дык штукенцыя!

Змітрок ажно свяціўся: яго тата маладзеў на вачах.

— Мой бацька некалі ў царскай арміі,— перакрыкваў дзед гудзенне матора,— таксама залез быў на высачэзнае дрэва, каб сачыць за праціўнікам...

— Ды супакойцеся вы са сваёй царскай арміяй! — зашыкалі на яго.— Дайце спакойна палюбавацца на горад!

Але дзед недачуў і яшчэ гучней працягваў:

— Дык, вось, бывала, бацька ў царскай арміі задзярэ галаву на неба...

— Госпадзі! — застагналі пасажыры.— Хутчэй бы скінулі з самалёта гэтага дзеда з яго царскай арміяй!

І вось надышла так званая хвіліна «ікс» — інструктар адчыніў дзверы і запрасіў старога з сынам да выхаду, прычапіўшы пры гэтым да нейкага дроту ў самалёце шляйкі ад парашутаў.

— Гэта,— тлумачыць ён скакунам,— раскрые вашы парашуты само, бо вы яшчэ з перапуду не за тое тузаняце. Шчаслівай дарогі! — І ён штурхануў сына і бацьку ў глыбіню блакіту.

Дзед кульнуўся ў паветры дагары нагамі і толькі паспеў крыкнуць:

— Бывала, у царскай арміі...

Што там бывала ў царскай арміі, ніхто ўжо не пачуў, бо самалёт імчаў у сваім накірунку, а сын з бацькам плылі пад вялікімі парасонамі ў празрыстым паветры.

Тут, у вышыні, адчуваўся даволі моцны вецер, таму парашутыстаў круціла і несла невядома куды. Дзед

дрыгаў нагамі і з усёй сілы цягаў то за адну, то за другую страпу.

— Сынок! Змітрок! Не слухаецца ён, сабака! За якую вяроўчыну цягнуць?

Але і Змітрок быў гэткі ж «спец», як і бацька, і яго паспела аднесці ў другі бок настолькі, што ён спачатку перастаў чуць продкаў голас, а пасля зусім згубіў яго з вачэй.

Застаўшыся адзін у блакітнай прасторы, дзед Тодар выбіўся з сіл, кіруючы парашутам.

— Конь і той паслухмяны: за якую лейчыну цяганеш, туды і кіруецца. А тут нейкая ўпартая дурноціна над галавой! — злаваўся дзед.

Ён перастаў целяпацца ў паветры і вісеў, як вымалачаны сноп.

— Ды, урэшце, куды занясе, туды і занясе! — суцяшаў ён сябе.— Хутчэй бы толькі на зямлю зваліцца.

А зямля набліжалася даволі хутка. І чым бліжэй была яна, тым, здавалася, хутчэй ляцеў дзед Тодар.

— Прэ, сабака, на нейкія будыніны! — схамянуўся дзед.— Ху-ух! Дзякуй Богу, пранесла, валюся на агароджаны двор! — паспеў згледзець стары і шмякнуўся аб зямлю.— Ого! — толькі і змог выдыхнуць ён, пасля чаго яго пацягнула па зямлі. Устаць ён не паспеў, бо падбеглі нейкія людзі і, узрушана перамаўляючыся на незнаёмай мове, скруцілі яму рукі, завязалі вочы і кудысьці павялі.

— Хто гэта? — крычаў дзед.— Атракцыён закончаны ці не?

Але яго моўчкі працягвалі некуды весці.

— Дзе мой Змітрок? — не сунімаўся дзед.— Адвяжыце мне вочы, я нічога не бачу!..

Тут трэба крыху прыпыніцца і абмаляваць дзедаў выгляд. Збіраючыся ў горад, дзед апрануў рэшткі бацькавай царскай ваеннай формы і пачапіў сабе на грудзі ўсе, якія меў, і царскія, і савецкія ўзнагароды, таму выглядаў даволі экзатычна. А калі дадаць да гэтага гарачы дзедаў

нораў — атрымліваўся ваяка, не горшы за колішняга бацьку Махно.

Вось чаму ў тых, хто скруціў яму рукі, была да дзеда павышаная цікавасць, калі не сказаць болей.

Нарэшце старому развязалі вочы, і ён убачыў прасторны пакой і ў ім — шмат нейкіх людзей у чорных касцюмах.

Адзін з незнаёмцаў, відаць, галоўны, звярнуўся да Тодара:

— Ці ведаеце вы, што тэрыторыя пасольства лічыцца часткай тэрыторыі той дзяржавы, якой належыць пасольства?

— Га? — гакнуў збянтэжаны дзед.

Людзі ў чорным падумалі, што затрыманы пагадзіўся і сказаў «ага», таму галоўны працягваў:

— Калі так, абвяшчаем вам, што вы ўварваліся на суверэнную тэрыторыю амерыканскага пасольства... Можна сказаць, вы — у Амерыцы.

— Я ў Амерыцы? — ажно падскочыў дзед.— Быць такога не можа! Як я праміргаў акіян?

— Хто вас да нас заслаў? З якой мэтай? — дапытваўся галоўны.

Але дзед, узрушаны тым, што апынуўся ажно ў Амерыцы, не звяртаў увагі на пытанні, а горача тлумачыў:

— Калісьці мой бацька ў царскай арміі, а я ў Чырвонай шмат наслухаліся пра Амерыку... І ў нас, і ў царскай арміі...

Той, хто стаяў ля галоўнага, адзначыў:

— Я ж казаў, ён чалавек вайсковы, мае прамое дачыненне да арміі, нават да дзвюх.

— Бачу, да нас закінулі кадравага ваеннага,— ківае галавой галоўны і зноў пытаецца: — Што вас у нас цікавіць?

— Што?! — схамянуўся стары.— Мяне цікавіць, дзе Змітрок? Куды яго папёр чортаў парашут?

— Ага, іх было двое! — шэпча дарадца галоўнаму.— Цэлы дэсант! Трэба даць шыфроўку ў Белы дом і

адначасова ноту пратэсту кіраўніцтву гэтай дзяржавы за недружалюбны акт.

Дзед зноў схамянуўся:

— Будзеце даваць вашы ноты ў нашу дзяржаву, перадайце, калі ласка, маёй старой, што мяне занесла ў Амерыку, няхай вячэрае сёння адна.

— Што можаце заявіць нам чыстасардэчна? — пытаецца галоўны.

— Што тут можна сказаць! — ажывіўся дзед.— Вось гэта дык штукенцыя! Такога атракцыёну, думаю, не было нават у царскай арміі...

— Хопіць! — абарваў яго развагу галоўны.— Усё пра вашу армію выкладзеце нам пісьмова!..

Дамоў дзед Тодар вярнуўся толькі праз месяц. Бажыўся, што абмянялі яго на нейкага важнага амерыканскага шпіёна. А ў канцы дадаў:

— Кармілі мяне тыя амерыканцы, не буду маніць, не блага, але да Чырвонай, ды і да царскай арміі ім далёка.

# Ажуры-амуры

Міхась тры дні як ажаніўся і цяпер, пасля вяселля, ішоў па сваёй вёсцы, адчуваючы сябе героем гэтага часу. На якую хату ні зірне — яе гаспадары два дні, а хто яшчэ і дзве ночы не вылазілі з-за вясельнага стала. Міхасю здавалася, што нават платы ўдзячна пазіраюць на яго, не кажучы пра вокны вясковых хат.

Раптам з-за аднаго «ўдзячнага» плота насустрач Міхасю выйшаў Антось Барсук, які быў разы ў два старэйшы за маладажонца.

— Адкуль і куды прамінэ? — спытаўся Барсук.

— А-а, дзядзька Антось! Вітаю вас... Ды вось хадзіў да свайго сябра Лявона — нейкі сумны ён быў на вяселлі, думаў, не дагадзілі чым... перапрасіць хацеў...

— Кожнаму не дагодзіш, браток, хоць са скуры выскачы,— зазначыў Барсук.

— Ды не! Дзякуй Богу, Лявон усім задаволены! — адказаў Міхась суседу і сваім адказам адначасова яшчэ раз супакоіў сябе.— У Лявона асабістыя перажыванні на любоўным фронце.

Барсук наблізіўся да Міхася:

— Дарэчы, пра любоўныя франты... Што б я хацеў табе пажадаць, браток Міхась!..

Міхась схамянуўся:

— Дык вы ж нам з Анюткай на вяселлі шмат чаго добрага нажадалі. Дзякуй вам!

— Не тое, браток! Не ўсё дазваляецца казаць прылюдна, тым больш на вяселлі... Я чалавек вопытны, абабіты сямейнасцю, можна сказаць, не адзін цэбар заціркі з'еў з жонкай... Я бабскімі выкрунтасамі хрышчаны-перахрышчаны...

Барсук азірнуўся па баках і сцішыў голас:

— Вось табе здаецца, што твая жонка — анёл з неба ці салодзенькая сунічка. Ад бабскіх сунічак пад старасць

у роце — як кот апаражніўся.— І Барсук так кісла скрывіўся, што і Міхась адчуў, як зводзіць сківіцы.

— Я ж Анютку кахаю! — горача запэўніў Міхась.

— Кахай сабе, кахай, толькі вушамі не махай! — усміхнуўся дарадца.— Я чалавек вопытны, мая кроў супраць жаночай каверзы даўно выпрацавала мужчынскую антыкаверзу... Гэта табе не жарт!

— Мы ж з Анюткай душа ў душу! — успыхнуў Міхась.

— У цябе душа дзе? Тут? — І Барсук парнуў пальцам у Міхасёвы грудзі.

— Мусіць, тут,— няўпэўнена адказаў Міхась.

— І ў мяне тут, у грудзях! — пацвердзіў Барсук.— А ў баб душа бегае па ўсім целе, і куды яна заскочыць заўтра — сам чорт не ведае... А магчыма, толькі ён і ведае. Зразумеў?

— Шчыра кажучы, не,— пачырванеў Міхась.— Можа, я пайду, дзядзька Антось...

— Ідзі, але памятай, што я тут казаў,— перасцярог Барсук.— І яшчэ памятай галоўнае: калі жонка налягае на жаночую бялізну, ну, купляе розныя там нацельныя ажуры-амуры, значыцца, ёй ёсць каму іх паказаць, ёсць перад кім «душу» раскрыць. О, браток! Жонка з мужам ляжа і ў падранай кашулі... але толькі з мужам. Зразумеў?

— Ну, я пайду, дзядзька Антось.— І Міхась з падпсаваным настроем падаўся дахаты. Платы здаваліся шэрымі і абыякавымі, а вокны пазіралі на Міхася злыднямі.

Гэтым часам у Міхасёвай хаце Анюціны сяброўкі — шаферкі нядаўняй маладой — смакавалі разам з Анютай мінулае вяселле.

— Вой! Як гэта цудоўна! — ледзь не захлыналася паветрам адна.

— А ты, Анютка, у вясельным уборы, пад вяночкам, як царыца! — захаплялася другая.

— А цалавацца за сталом як!

— А што пасля вяселля?! — ажно згаралі ад цікавасці ўсе разам.

Стан дзявочай душы, якая «даспела» і падышла да жаноцкасці, здольныя ацаніць толькі самі дзяўчаты ці маладыя жанчыны, таму войкання і захаплення, піскаўні і бурлення пачуццяў, калі ўсе разам выказваюцца і адна адну не слухаюць, мужчынам не зразумець.

Сярод гэтага тлуму і траскатні хтосьці з сябровак кажа:

— Чытала нядаўна я адзін сексчасопіс, дзе чорным па белым надрукавана, што жаночая бялізна здольная ператварыць самага замухрышку ў эратычнага асілка...

— Як гэта? — здзівілася Анюта.

— А вельмі проста! — тлумачыць сяброўка.— Розныя карункі ды разрэзы дзе трэба на бялізне ператвараюць нават страхалюдзіну ў таямніцу жаночай чароўнасці.

— А як гэта? — зноў перапытала Анюта.— Дзіўна!

— Нічога дзіўнага! — казала далей начытаная сяброўка.— Думаеш, чаму Віталік ажаніўся з Аленай? Такі прыгожы з той брыдоцінай! Штосьці яна яму прыадкрыла, штосьці выставіла, ды яшчэ ў прыцемках, ды яшчэ ў ажурным аздабленні, ён і клюнуў. Там карункі, тут аздоба — вось і замужам худоба... Ён і самлеў... А ты кажаш... Бялізна — гэта палова жанчыны!

Анюта ўсміхнулася:

— У нас з Міхаськам і так, дзякуй Богу, усё добра! Пры чым тут разрэзы ды карункі? Сапраўднаму каханню гэта не патрэбна.

— Не скажы! — не вытрымала другая сяброўка.— Каханне, кажуць, у мужчын, як дым на ветры, хутка развейваецца. Хто ж не прагне таямніцы ў каханні, нейкай разынкі? Кот і той адно і тое доўга не есць. Вось і мужа каб трымаць на кручку, патрэбны розныя прынады.

— І без прынадаў мы шчаслівыя! — адказала Анюта.

— Шчаслівыя колькі? — ускочыла сяброўка.— Шчаслівыя тры дні! А далей што? Нават агонь згасае, калі яго своечасова не падтрымліваць!

Анюта пацiснула плячыма:

— Што, па-вашаму, я павiнна рабiць?

— Не адпускай яго з кручка! Зачароўвай жаночай недагаворанасцю! Заморвай яго сексуальнай смагай! — горача загаманiлi сяброўкi.

— Пра што вы? — не пераставала здзiўляцца Анюта.

— А ўсё пра тое самае! — не сунiмалiся былыя шаферкi.— У краму завезлi iмпартную жаночую бялiзну, здаецца, з Францыi. А французы да сексу — першыя ў Еўропе! Пакуль не расхапалi — купi на кожную ноч новае. Няхай твой Мiхась млее ў пасцелi...

Тут адчынiлiся дзверы i ў хату ўвайшоў Мiхась з ужо падпсаваным настроем. Дзяўчаты, як спужаныя стрынаткi, ускочылi, хуценька развiталiся i з вясёлым гоманам падалiся да сваiх дзявочых клопатаў.

Мiхась прысеў на лаву, падпёр рукой галаву. У вушах гудзеў дзядзька Антось са сваiмi парадамi.

— Што здарылася? — пацiкавiлася Анюта.— Як там Лявон, не трымае нiякай крыўды?

— Усё добра,— абагульняючы, адказаў Мiхась.

Анюта пасунулася да мужа, паклала руку яму на плячо:

— Слухай, Мiхаська, ты не супраць, калi я падскочу ў краму?

— А чаго? — здзiвiўся Мiхась.— У нас жа пасля вяселля кладоўка ломiцца...

Анюта пачырванела, сумелася:

— Ведаеш, Мiхаська, там прывезлi жаночую бялiзну... французскую. Кажуць, апошнi пiск. Я ж хачу выглядаць прывабнай... жаночае цела тады таямнiца...

— Што?! — ускочыў Мiхась, але знайшоў сiлы стрымаць сябе.

I ўсё ж першая кропля паслявясельнага дзёгцю трапiла ў святочны настрой мядовага месяца.

# Гідраметцэнтр паведамляе...

Баба Сцепаніда цыравала дзедаву кашулю і ўголас разважала:

— Адкуль гэткі холад наскочыў? Яшчэ ж толькі пачатак кастрычніка, а ўчора снег залятаў... Не падабаецца мне гэта...

Дзед Яўхім супакоіў жонку:

— Не хвалюйся, будзе яшчэ цёпла, будзе... Вунь, дрэвы лісця не скінулі і сабака качаўся па зямлі, а гэта — на цяпло.

— А як не будзе цёпла? — не сунімалася старая.— А як маразы жарнуць?

— Ну няхай сабе жарнуць! — спакойна пасля чарговай зацяжкі адказаў дзед.

Сцепаніда адклала ўбок сваю работу і не на жарт занепакоілася:

— Як гэта, няхай жарнуць?! А часнок?.. Мы ж яшчэ не паторкалі ў зямлю зімавы часнок!

Дзед стаяў на сваім:

— Рана яшчэ часнок садзіць! Жыццё дажываем, а ў гэткую пару ніколі не садзілі яго.

— Яно-то так... але, для надзейнасці, уключы тэлевізар, паслухаем прагноз надвор’я.— І старая зноў узялася за цыраванне.

Дзед зірнуў на гадзіннік і хуценька паклыпаў да тэлевізара.

І сапраўды, дыктар з экрана абвясціў, што пасля рэкламнай паўзы будзе паведамленне Гідраметцэнтра.

Баба чарговы раз прыпыніла свой занятак і, каб лепей чуць, выткнула з-пад хусткі вуха. Дзед таксама падсунуў бліжэй да тэлевізара табурэтку.

Нарэшце пасля рэкламных пракладак і «блендамедаў» пачулася жаданае:

«Слухайце паведамленне Гідраметцэнтра: у наступныя двое сутак надвор'е ў нашай рэспубліцы будзе вызначаць цыклон, які рухаецца са Скандынавіі, з цэнтрам над Балтыкай. Пры сустрэчы двух атмасферных франтоў, халоднага і цёплага паветра, поўнач Еўропы і поўдзень Азіі закране перыферыйная цыкланічная дэпрэсія, аднак пад націскам антыцыклона, які набліжаецца з боку Атлантыкі, з цэнтрам над Грэцыяй, цыклон, з дыстрафічнымі наступствамі і павышаным атмасферным ціскам, што небяспечна для сталых людзей, а таксама астматыкаў і гіпертонікаў, паступова пакіне зону няўстойлівага супрацьстаяння і перамесціцца ў накірунку першапачатковага знаходжання, адкуль будзе ўплываць на далейшае надвор'е Блізкага Усходу і сумежнага з Беларуссю Захаду. Атмасферны ціск будзе на працягу двух дзён то павышацца, то паніжацца, аднак не пакіне межаў ртутнага слупка, што паспрыяе Казярогам, Блізнятам і Стральцам.

Каб атрымаць больш дакладную інфармацыю аб надвор'і, звяртайцеся да нашага сайта: тры даблю, кропка, ру, працяжнік і тры коскі...

А зараз зноў рэкламная паўза...»

Старыя разгублена пераглянуліся.

— Ты што-небудзь зразумеў? — спыталася старая.

Дзед збянтэжыўся:

— Не з нашай адукацыяй слухаць разумныя перадачы!

— А што ўсё ж рабіць з часнаком? — яшчэ больш разгубілася баба.

— Што ты да мяне прычапілася? — раззлаваўся дзед Яўхім.

— А да каго мне чапляцца? — не стрымалася баба.

— Чула? Звяртайся да нейкага Сайта! — рашуча адрэзаў дзед і выключыў тэлевізар.

# Грыбнік-вынаходнік

Дапяклі Максіму грыбнікі, няма рады! Ён тут нарадзіўся, пражыў амаль усё жыццё, мае свае мясціны-сцяжыны, і — на табе: гойсаюць удоўж і ўпоперак па ягоных запаветных закутках дасціпныя гарадскія нахлебнікі-грыбнікі. А сёння грыбнік не той, што быў калісь: дальны-пешадральны, сёння грыбнік мабільны-аўтамабільны, ад яго нідзе няма спасу.

Здаецца, і ад горада далёка Максімава вёсачка, і гушчары тут непралазныя — грыбнікам гэта не перашкода. Прыжыўся ў ягоных лясах «пастаянны кантынгент», які атруціў Максіму жыццё настолькі, што ён пачаў шукаць нейкага паратунку, хоць якога выйсця з гэтай непрыемнасці. Але дзе яно, тое выйсце? Не ехаць жа жыць на новае месца з абжытай продкаўшчыны. Ды і куды ехаць, калі сёння гэтай грыбной навалачы развялося больш, чым тых грыбоў. І ўсё ж Бог даў чалавеку галаву, каб той у патрэбную часіну прыдумаў штосьці ратавальнае.

Купіў Максім сабе, цішком ад жонкі, партатыўны магнітафон, паехаў з ім у горад, а там — наўпрост у заапарк.

— Скажыце, залаценькая,— звярнуўся ён да супрацоўніцы заапарка,— ваш мядзведзь калі-небудзь падае голас ці ён толькі перакульваецца з нагі на нагу ды цукеркі выклянчвае ў наведвальнікаў?

— Па-першае, гэта не мядзведзь, а мядзведзіца,— тлумачыць Максіму супрацоўніца,— а па-другое, «залаценькі»,— яна зрабіла націск на гэтае слова,— яна, калі ёй прыспічыць па жаночай неабходнасці, так падае голас, што хоць вушы затыкай.

— А калі ёй прыспічыць? — страпянуўся Максім.

Работніца заапарка падазрона агледзела з галавы да ног цікаўніка:

— А навошта вам яе жаночыя пакуты? Вы ж, спадзяюся, не мядзведзь!

— Я?.. Ды не! — збянтэжыўся Максім.— Я, разумееце, жыццё дажываю, а ніразачку, акрамя жончынага, не чуў нічыйго рыку. Вось бы пачуць яе голас! — і Максім паказаў на мядзведзіцу.

Супрацоўніца ўсміхнулася:

— Не скажу, што гэта голас Пугачовай, але ўсё ж чуваць за тры кварталы.

— Вось! Вось! Мне такі голас і патрэбен! — узрадаваўся Максім.— Дык калі яна заспявае?

Работніца ўважліва паглядзела на звярыну:

— Думаю, што праз тыдзень...

Праз тыдзень узрушаны Максім прымчаўся ў горад і заняў месца ля самай клеткі з мядзведзіцай. І сапраўды тая не звяртала ўвагі ні на наведвальнікаў, ні на іх цукеркі — штосьці яе непакоіла, не давала стаяць на адным месцы. Паступова так званая жаночая неабходнасць узрушыла касматую нявольніцу настолькі, што Максім адсунуўся далей ад клеткі. Толькі ён гэта зрабіў, як звярына кінулася на жалезныя пруты, дзеручы іх сваімі магутнымі кіпцюрамі, пускаючы ў ход агромністыя клыкі, і, што самае галоўнае для Максіма, страшэнна зараўла. Ды так моцна і жудасна, што ўсе людзі кінуліся далей ад гэтага месца, затое ў Максіма радасна затрапятала сэрца:

— Раві! Раві, даражэнькая! Мацней! Страшней! — шаптаў Максім, падсоўваючы бліжэй да рыку свой новенькі магнітафон.

Дамоў вяртаўся Максім шчаслівейшым з усіх шчаслівых.

— Пазбіраеце вы цяпер мае грыбкі! Ой пазбіраеце! — трыумфаваў ён.— Так пазбіраеце, што не будзеце паспяваць мяняць штаны на бягу!

Наступным днём Максім вярнуўся з лесу з пустым кошыкам і сказаў жонцы, што нос у нос сутыкнуўся з агромністым мядзведзем, ад якога ледзь уцёк. Максім

ведаў, што дастаткова сказаць пра гэта жонцы, а ўжо ўся вёска, ды і навакольныя жыхары будуць інфармаваны імгненна, бо бабскі язык страшнейшы за радыё.

Так і здарылася — чутка пра мядзведзя, які ганяецца за людзьмі, маланкай абляцела вёскі. Хто верыў, хто не, але зерне страху было кінута ў даверлівыя душы.

— Адкуль у нас мядзведзь?! — муцілі ваду скептыкі.— Калісьці было і такое звяр'ё, але ж калі гэта было!

Каб замацаваць заваяваныя пазіцыі, Максім праз некалькі дзён высачыў у лесе аднаго такога скептыка, схаваўся за елачкамі і націснуў на клавішу магнітафона, уключыўшы гук на ўсю моц. Максім ледзь стрымліваў рогат, назіраючы, як той небаяка кінуў кош і так папёр па лесе, што ажно голле трашчала, як ад націску буралому.

Пасля таго як гэты «сведка» тлумачыў і паказваў, якога ён бачыў, вышэйшага за хлеў, мядзведзя, Максіму паверылі ўсе вяскоўцы. Мала таго, раённая газета ўзяла ў яго інтэрв'ю і надрукавала на першай старонцы.

Максім у душы святкаваў перамогу, цішком хадзіў у лес, збіраў баравічкі, але перамога была не поўнай, бо гарадскія грыбнікі пра мядзведзя не чулі. Атрымлівалася, што галоўны канкурэнт спакойненька спажываў Максімаву, як ён лічыў, уласнасць. Праўда, Максім цяпер не абыходзіў сваіх грыбных сапернікаў, а, наадварот, быццам выпадкова сутыкаўся з імі і пытаўся:

— Вы чулі?! Мядзведзь тут завёўся, за людзьмі ганяецца... Аднаго з нашай вёскі нават моцна параніў...

— Ды кіньце вы! — махалі рукамі «мабільныя-аўтамабільныя».— Тут і зайцы перавяліся, не тое што мядзведзі.

Для доказу Максім паказваў раённую газету, але і гэтаму мала было веры. Тады Максім адыходзіў, ціхенька хаваўся ў гушчарыну і націскаў на запаветную клавішу. Эфект быў фантастычны! Ды іншым ён не мог і быць, бо страшэнны роў мядзведзіцы ў лесе ўспрымаўся ўсімі звышнатуральна. Паступова і гарадскія дасціпнікі пачалі

радзей наведваць небяспечныя лясы, а хутка Максім зноў зрабіўся адзіным гаспадаром грыбных мясцін.

Аднавяскоўцы дзівіліся з ягонай адвагі:

— Ты, Максім, смелы то смелы, але хоць жонку пашкадуй, не рабі ўдавой без пары.

— Буду я баяцца нейкага там мядзведзя! Я ўжо на свеце пажыў, дзякуй Богу,— нядбайна адказваў ён.— А жонка, калі што, знойдзе сабе другога! — і працягваў хадзіць у лес.

Ішоў час, і сумна зрабілася «вынаходніку» — не было каго палохаць. Тады Максім уключаў магнітафон і пад гэтую «музыку» збіраў грыбы. Ён настолькі прызвычаіўся да мядзведжага рыку, што той лашчыў яму слых.

Аднаго дня рэжа Максім баравічкі, слухае роў сваёй магнітафоннай спадарожніцы ды сам штосьці напявае. Кошык паўнюткі, на душы спакойна — не жыццё, а казка! Сагнуўся ён над чарговым рудагаловікам, чуе праз роў сваёй супольніцы нейкі трэск у гушчары.

— Ого! Не ўсе смельчакі перавяліся! — прамармытаў «гаспадар лесу».— Нехта ломіцца проста на мяне... Глухі ён, ці што? Трэба дадаць гуку! — І Максім зрабіў гук на ўсю моц. Але траскатня набліжалася ды была такой, быццам напрамкі па гушчары трактар прадзіраўся.

— Што за чорт? — здзівіўся грыбнік-вынаходнік.

Не паспеў ён падзівіцца, як з гушчарыны, цяпер сапраўды нос у нос, вылез велізарны мядзведзь. Пачуў клышаногі кавалер «жаночыя пакуты» сваёй сяброўкі і пасляшаўся на сустрэчу. Максім зразумеў — яму каюк! У руцэ ножык, якім толькі мыш казытаць, у другой руцэ — кош з непатрэбнымі цяпер баравікамі.

«Бог пакараў! — мільганула думка.— Задзярэ гэты дурань мяне адной левай і прозвішча не спытаецца...»

Аднак паўза была не доўгай, бо сапраўдны гаспадар лесу рашуча накіраваўся да грыбніка. Максім кінуў кош і магнітафон на мох, а сам, быццам усё жыццё толькі гэта і рабіў, ускочыў на высачэзную елку, ды так высока, што

вяршыня захісталася і гатова была зламацца. Недзе ўнізе раўла на магнітафоннай стужцы нявольніца, а ля магнітафона таптаўся збянтэжаны кавалер, які ніяк не мог зразумець, што тут да чаго.

Толькі цяпер Максіма прасвятліла: «Дык ён жа не звяртае на мяне ніякай увагі! Чхаць ён на мяне хацеў! Пакуль не выдыхнуліся батарэйкі — уніз!»

Максім, нягледзячы на свой немалады ўзрост, маланкай саслізнуў з яліны і, не азіраючыся, лупянуў дахаты. Недзе за спіной пакутаваў прызыўны голас беднай мядзведзіцы, ля якога таптаўся адарваны ад сваіх спраў мядзведзь, а Максім пераадольваў адлегласць да вёскі з хуткасцю, якой пазайздросціў бы спрынтэр сусветнага ўзроўню.

На ўсе жончыны роспыты Максім адказваў толькі адным ліхаманкавым пытаннем:

— Дзе мае другія штаны? Дзе штаны?!

Пазней, супакоіўшыся, Максім хацеў даць сапраўднае інтэрв'ю раёнцы, але там адказалі, што двойчы адну тэму не асвятляюць.

## Адкрыццё

Жора, якога сябры звалі Жорам-абжорам, называў сябе Джорджам. Гэта, як ён лічыў, набліжала яго да цывілізаванага замежжа і ў вачах знаёмых надавала вагу. Жораву смехатворнасць з уласным імем можна лёгка зразумець, а, зразумеўшы, яшчэ лягчэй даравáць, бо не дадало яму ў жыцці росту, абдзяліла яго прыгажосцю, ды і розуму крыху больш не пашкодзіла б. У дадатак да пералічаных недахопаў яму да зарэзу падабаліся дзяўчаты зусім іншага «каленкору» — прыгожыя ды высокія. Вось тут і жыві!..

Адсутнасць знешняй прыгажосці ў чалавека ці яго нізкарослась лёгка кампенсуюцца інтэлектуальнымі і духоўнымі якасцямі, бо не заўсёды знешняя прыгажосць пераважвае прыгажосць душы. Хутчэй — наадварот. А паколькі гэта «наадварот» да Жоры не мела ніякага дачынення, ён, як кажуць, што меў, тое і меў — ні менш ні больш.

А што ж рабіць з тымі прыгожымі ды высокімі ці, як іх яшчэ называюць, даўганогімі?

Падыходзіў Жора да іх то з аднаго, то з другога боку — дзе там! — на яго нават не глядзелі, а кідалі звысоку:

— Кацiся ты адсюль, бо яшчэ наступім!

І Жора каціўся да сваіх душэўных пакут і штодзённай безвыходнасці.

Аднойчы, у хвіліну самых балючых перажыванняў, Жора паскардзіўся лепшаму сябру на бязлітаснасць лёсу:

— Лішні я чалавек на гэтым свеце!..

— Якая дробязь! — здзівіўся сябар.— Даўганогія кралі?! Ды яны будуць усе твае, ты толькі памяняй тактыку!

— Як?! Што зрабіць?! — ледзь не захлынуўся ад захаплення Жора.

— А вельмі проста! Завучы некалькі сказаў ці розных слоў па-замежнаму...

— Я ж па-замежнаму ні бэ ні мэ,— прызнаўся Жора.

— А ты сам прыдумай і складзі з нейкай тарабаршчыны што-небудзь, трымай у памяці гэта і падыходзь да дзяўчат. Загавары з імі на гэтай тарабаршчыне — паглядзіш, які будзе эфект! Самі да цябе будуць ліпнуць — не адгоніш. Дзяўчаты замежнікаў любяць усякага росту і ўзросту. Уцяміў?

— Не ведаю,— разгубіўся Жора,— які з мяне замежнік...

— Безумоўна, аднаго імя Джордж мала,— разважаў сябар,— пажадана мець баксы... Іх можна нават не траціць, але, як бы выпадкова, трэба дастаць іх з кішэні і зноў схаваць — так, каб гэта бачылі кралі... Уцяміў?

Назаўтра Жора, прабачце, Джордж, апрануўся па апошняй модзе, пачапіў на нос цёмныя акуляры і, пыхкаючы цыгарэтай у зубах, «падруліў» да дзвюх даўганогіх прыгажунь. Не дастаючы з зубоў цыгарэты, запытаўся:

— Пліз энд ес амэрыкен, вас іздас?

Дзяўчаты перапынілі гаворку, пераглянуліся:

— Што ён хоча? — спыталася адна з сябровак.

Жора, не пачуўшы ад прыгажунь звычайнага «каціся адсюль», натхніўся і працягваў:

— Ес я пліз піпл маны... энд баксы гуд...

— Дык гэта ж замежнік! — зашыкала другая прыгажуня.— Які клас!

— О, кляс, кляс! — падхапіў Жора.

— Вітаем вас, таварыш...

— Які ён таварыш, дурная! — перахапіла гаворку сяброўка.— Вітаем вас, містэр! — І сяброўкі кінуліся да Жоры, як галодныя каты да мышы.

— Я ес амерыкэн,— спрабаваў Жора працягваць гаворку, але даўганогія моцна трымалі яго з абодвух бакоў пад рукі і не сціхалі:

— Мы зразумелі, вы — амерыканец... О, Амерыка! Свабода, долары, негры!

— Я ні ест негр! Я ест бізнэс!

— О, бізнэс! О, долары! — захапляліся дзяўчаты.— Вы прабачце, мы па-вашаму нічога не разумеем... А вы? Вы па-нашаму размаўляеце?

— О, я ес да! Я много ездзіт, я люблю Беларус!

— І мы любім Амерыку! Мы любім рэстараны! А вы? — І дзяўчаты перамігнуліся.

— О ес, рэстараны! — усклікнуў Жора, пасля чаго дзяўчаты пацягнулі яго ў бок рэстарана, ды так хутка, што Жора ледзь паспяваў перастаўляць свае кароткія ногі.

У рэстаране пазнаёміліся.

— Я — Марыя, можна Мэрылін.

— А я — Каця, можна Катрын.

— Я — Джордж! — з гонарам назваўся Жора-абжора.

— О, Джордж! — у адзін голас усклікнулі сяброўкі.— Які прыгожы кавалер! Якое цудоўнае імя!

Жору ажно распірала ад гонару — ім захапляюцца такія прыгожыя кралі. Ён дастаў з кішэні тры стодоларавыя купюры, якія пазычыў дзеля такога выпадку ў свайго сябра, нядбайна памахаў імі каля твару, нібы веерам, і зноў паклаў іх у кішэню.

— О, дарагі Джордж,— нахілілася да самай яго шчакі адна з сябровак,— тут разлічваюцца беларускімі грашыма, а гэтыя — потым... Зразумеў? — І яна цмокнула яго ў шчаку.

У Жоры пацямнела ў вачах, закалаўроціла галава, ён ужо ўсё бачыў і чуў, як праз туман.

Потым пілі шампанскае, гучала музыка, былі танцы ў абдымку з прыгажунямі, тады — зноў шампанскае, закускі і музыка.

Ніколі Жора за ўсё сваё жыццё не быў такім шчаслівым і значным. Ён пасмялеў і дазваляў сабе цмокаць у шчочкі сваіх чароўных застольніц.

Пасля чарговай бутэлькі шампанскага Катрын папрасіла прабачэння і на хвіліначку пайшла ў «адно месца», дзе, як сказала, падфарбуецца і прывядзе сябе ў парадак.

Праз нейкі час Жора пацікавіўся:

— О ес, штосьці доўга няма Катрын! Дзе яна прапала?

— А ты, дарагуньчык Джорджык, пачаў добра размаўляць на нашай мове!

— О ес, да! — усклікнуў п'яны Жора, які пачаў забывацца, што ён замежнік.— О ес, не! Не! — спахапіўся ён.

Мэрылін паднялася з-за стала:

— Я на хвіліначку... я толькі прывяду Катрын, а ты закажы яшчэ шампанскага...

— О ес! Шампанскага сюды, вашу маць! — гукнуў ён афіцыянта.— Ды хутчэй, каб усё было, як у Амерыцы!..

Доўга чакаў Жора ля шампанскага сваіх сяброўак, ужо і рэстаран пачалі зачыняць, а іх усё не было.

— О ес, сволачы цыбатыя! — абураўся ён.— Збеглі на сваіх доўгіх нагах!

— Вы будзеце разлічвацца? — спытаўся афіцыянт.

— Буду, а куды ж я дзенуся! — І Жора палез у кішэню, дзе ляжалі беларускія грошы.— А колькі з мяне? — спытаўся ён.

Афіцыянт назваў суму.

— О ес, бляха-муха, можа не хапіць! — корпаўся ў кішэні «амерыканец».

— Ды кіньце вы сваё «о ес»! — раззлаваўся афіцыянт.— З вас замежнік, як з мяне акадэмік.

— О, бляха! Няма грошай! — ускочыў Жора.— Мусіць, згубіў беларускія рублі. Што рабіць? А доларамі возьмеце?

— Давайце доларамі па курсе,— згадзіўся афіцыянт.— Плаціце і гуд бай, нам зачыняцца пара, а вы затрымліваеце.

— Але ў мяне буйныя, соценныя! — удакладніў Жора.— Ці будзе ў вас здачы?

— Будзе, будзе. Хутчэй! — пачаў нервавацца афіцыянт.

Жора палез у другую кішэню і зароў:

— О, бляха!

— Што вы ўсё то «о ес», то «бляха»! Плаціце і вымотвайцеся адсюль! — не вытрымаў афіцыянт.

— Ды ты, казліна, разумееш, што ў мяне і трыста доlараў спёрлі тыя даўганогія сцервы? Во пагуляў! Во падчапіў краляў!

— У нас такое бывае часцяком,— надзіва спакойна адрэагаваў афіцыянт.— Мы ўсяго нагледзеліся...

Дамоў Жора ішоў ноччу, пехатой праз увесь горад, бо капеечкі не засталося ў кішэні, не кажучы пра тое, што пакінуў у рэстаране распіску, абавязваючыся выплаціць патрэбную суму, ды яшчэ з працэнтамі.

— О ес, я дурань недапечаны! О, ху-ю-ду-ю-ду, я асліна бязмозглая! О, пліз энд, апошні я абалдуй! — пляваўся аблапошаны кавалер.

Раптам з цемры пачулася:

— Прабачце, вы замяжовец? — І да Жоры падышла мілавідная дзяўчына, крыху ніжэйшая ростам за начнога прамінатара.— Я — Алена, і вяртаюся з працы...

— А я — Джордж... ды які я к чорту Джордж! — успыхнуў ён.— Я — звычайны Жорык! Жорык-асёл! Жорык-казёл! Жорык-дурашлёп! Вось хто я!

Дзяўчына сумелася:

— Навошта ж вы гэтак на сябе? Не трэба!

Жорыку зрабілася сорамна:

— Прабачце! Гэта ў мяне сёння дрэнны настрой...

— А я думала, вы замежнік, чую нейкія замежныя словы, а зразумець нічога не магу... Дай, думаю, падыду, можа, заблудзіўся чужы чалавек у нашым горадзе...

— Які я замежнік! Я — балбес! Я — прасцячок! Я — гіцаль!

— Зноў вы на сябе,— дакорліва сказала дзяўчына.— А я пасля другой змены, іду вось з працы...

— А чаму пешшу? — спытаўся Жора.

— Грошай няма,— шчыра прызналася Алена.

— І ў мяне няма,— сумна пацвердзіў Жора.— Былі, ды ўсе сплылі.

Аказалася, што Жора і Алена — амаль суседзі, жывуць адно ад аднаго праз дом. І ўзросту яны амаль аднаго, і, як высветлілася падчас начной гаворкі, у іх шмат агульнага.

Але адбылося самае нечаканае для Жоры: ён перастаў заглядацца на даўганогіх і прывабных з выгляду дзяўчат і дзякуючы Алене адкрыў для сябе такое неацэннае хараство, як прыгажосць чалавечай душы.

# Апошні шанец дзеда Гвідона

Каляднай ночы чакалі — і дзяўчаты, і хлопцы, і малыя, і старыя. Адны трапятліва верылі ў шчаслівае прароцтва варажбы, іншых прываблівала перадсвяточная агульнавясковая акрыленасць, калі ўсіх захапляе чаканне чагосьці таямнічага і незвычайнага, трэцім карцела паштукавацца ды падурэць.

Напачатку дзяўчаты збіраліся асобна і гуртам ладзілі свае загадкі-адгадкі, як правіла, у нечай хаце. Былі і лірычныя адзіноткі, у асноўным замужнія жанчыны, якія ўпотай шукалі ў варажбе паляпшэння свайго лёсу. Хлапечая ж варажба вызначалася сваёй гаманлівасцю ды рухавасцю і адбывалася заўсёды на вуліцах-надворках, нават у вялікі мароз. Затым дзяўчаты і хлопцы аб'ядноўваліся і шумнай табалой пераштурхоўваліся ад хаты да хаты, жартуючы ды спяваючы.

Чамусьці з году ў год атрымлівалася так, што калядныя ночы былі ясныя, зорныя, марозныя. І гэты год не стаў выключэннем — ноч выдалася казачна-святочная, з пералівістасцю месячных іскрынак на снезе, з вясёлым пераміргваннем яснавокіх зорак на небе, з гучным рыпеннем снегу пад нагамі.

Гэтым разам дзяўчаты вырашылі варажыць у хаце бабы Аўдоцці. Хатка то была старэнькая-трухлявенькая, вось-вось рассыплецца, затое яе гаспадыня значылася самай знакамітай варажбіткай. Лічылася, што яе словы, яе пацеры-замовы, яе прадказанні ды прароцтвы напладзілі шмат шчаслівых шлюбаў. Вось чаму дзявочая піскаўня і штурханіна з вялікай цяжкасцю ўшчамілася-ўладкавалася ў Аўдоццінай хатцы.

Перш-наперш дзяўчаты селі ў кружок на падлозе і кожная паклала перад сабой спечаную загадзя дома аладку. Пах ад тых аладак быў такі, што можна было

захлынуцца слінкамі. Калі ўсе ўладкаваліся на падлозе і ўсталявалася цішыня, баба Аўдоцця адчыніла дзверы і гукнула свайго сабаку:

— Жу-улік!

Жулік у гэтай варажбе выконваў адказную ролю — чыю першую аладку схопіць, тую дзяўчыну першай у вёсцы схопяць замуж. Вось чаму дзяўчаты напружана, не міргаючы і не дыхаючы, уперыліся вачыма ў адчыненыя дзверы.

Жулік, не падазраючы, што вырашае нечы лёс, заскочыў з марозу ў духмяную хату і, без разбору, не жуючы, праглынуў першай аладку Марылі.

— Даражэнькі! Залаценькі! — ледзь не цалавала Жуліка Марыля.

— Пацалуй яго ў адно месца! — зазлавала Зося, якая сядзела побач.

— У цябе ж,— нагадала Марылі другая сяброўка,— сабака летась таксама з'еў аладку першай. Ну і што? Схапілі цябе замуж? Хваробу!

Жулік тым часам спраўна хапаў з падлогі астатнія аладкі, не звяртаючы ўвагі на шыканне незадаволеных.

— У-у, псіна! Еш, задушыся!

— Ціха, дзяўчаткі! Супакойцеся! — кіравала далей баба Аўдоцця.— Наперадзе ўся ноч, пашанцуе і астатнім!

Гэта абяцанне супакоіла дзяўчат, і варажба працягвалася.

Баба Аўдоцця паставіла пасярод хаты вялікую місу з вадой, вакол якой селі варажбіткі. Кожная растоплівала воск і хуценька вылівала яго ў халодную ваду. Воск у вадзе адразу прымаў нечаканую форму, часцяком даволі экзатычную, і цвярдзеў. Кожнай такой форме баба Аўдоцця знаходзіла сваё «навуковае» тлумачэнне.

Вось дрыготкай рукою перакуліла ў ваду свой расплаўлены воск Акуліна, і на вадзе пачала пагойдвацца нейкая загагуліна. Старая ўзяла яе ў сваю зморшчаную руку і ўважліва разгледзела выцвілымі вачыма.

— Гэта, мая ты сакаліца, ясны сокал на тройцы гарачых коней скача да цябе! — тлумачыць баба Аўдоцця.

Хтосьці з дзяўчат падкусвае бабіна тлумачэнне:

— Лепш на «Мерседэсе» ехаў бы той сокал! Дзе сена набрацца на тры кані?

Баба Аўдоцця не звяртае ўвагі на едкую заўвагу і працягвае, узяўшы з вады наступную загагуліну застылага воску:

— А гэта мудрагелістасць, красачка-Парасачка, паказвае на вялікае багацце праз увесь твой лёс...

Зноў нейкая дасціпніца ўторквае язык:

— Ну, Параска, нарэшце ты скінеш спадніцу, якую носіш тры гады не здымаючы...

Параска пускае колкасць міма вушэй і напружана пытаецца ў старой:

— Адно толькі багацце? А што там яшчэ?

Аўдоцця крутнула застылы воск ля вачэй і лагодзіць цікаўніцы:

— Чаму ж адно багацце? Не адно! На самым што ні ёсць перадзе — ён!

— А хто ён?! Які ён?! — яшчэ больш запальваецца дзяўчына.

Сяброўкі рагочуць, перабіваюць адна адну:

— Калі ўжо багаты, значыцца, стары і пархаты!

Аўдоцця зноў круціць каля падслепаватых вачэй воск:

— Не скажу дакладна, колькі яму гадоў, бо вочы ўжо не тыя, але постаць мае ўпэўненую...

— Каб толькі не стары,— уздыхнула Параска.

Дзяўчаты зноў засакаталі:

— А хоць бы і стары, галоўнае, што багаты! Стары хутка памрэ, а багацце застанецца... Во-ой, якая пераборлівая! Ды ты і за казла выскачыла б, каб узяў!..

Баба Аўдоцця з дакорам паглядзела на пад'ялдычніц:

— Вось што я вам скажу, дачушкі! Трэба штосьці загадаць у душы і моцна гэтага захацець. Вось я, напрыклад, у маладосці...

Тут мы пакінем на нейкі час дзявочыя хваляванні-спадзяванні і зірнем, а што ж робяць дзецюкі пад зорным калядным небам, што яны сабе наваражылі!

Трэба адзначыць, што гэтыя шалянцы, у адрозненне ад хатніх варажбітак, паспелі крыху «пагрэцца» і цяпер былі нападпітку, за што не варта іх дакараць, бо мароз патрэскваў ля самага носа.

Пакуль дзяўчаты слухалі там Аўдоцціны байкі, хлопцы тут, выскаляючыся ды падкусваючы адзін аднаго, паспелі і платы паабдымаць на абедзве растапыраныя рукі, падлічваючы штыкецiны, і ахапкі пашчапаных дроў прынесці да хат сваіх абранніц, зноў жа падлічваючы потым паленцы ў спадзеве на шчаслівую цотнасць, і напісаць на снезе пад вокнамі тых самых хат нейкія, адным ім вядомыя, запаветныя слоўцы, з надзеяй пазіраючы на неба — каб хоць да раніцы не пайшоў снег і не зацерушыў тыя запаветныя напісы. Чаго толькі не паваражылі, не параштукавалі хлопцы, а з імі дзед Гвідон, муж бабы Аўдоцці, якога яна выперла з хаты, каб не замінаў дзявочай варажбе.

Аўдоццінага мужа па-сапраўднаму звалі Гаўрылам, але ён, мацюкаючыся, чамусьці хрысціў налева і направа князя Гвідона, за што вяскоўцы здавён перайменавалі яго на Гвідона і ўжо пачалі забывацца, што ён — Гаўрыла. Трэба сказаць, што і сама Аўдоцця прызвычаіла вуха да новага мужавага імя і называла яго толькі Гвідонам.

Дык вось мужчынская ватага падышла да самага галоўнага і цікавага ў варажбе — перакідвання абутку праз страху хаты. Гэта варажба вымагае нямала спрытнасці і сілы, бо перакінуць праз хату бот ці валёнак цёпла апранутаму даволі складана. Затое потым, перакінуўшы, усе гуртам бягуць на другі бок хаты і глядзяць, куды павернуты насок абутку. На чыю хату паказвае насок — там і твая абранніца жыве. Прытым разам з гуртам скача на адной назе і той, чый бот ці валёнак вырашае яго лёс. Самыя гарачыя ды нецярплівыя пруць з босай нагой наперадзе

ўсіх, не звяртаючы ўвагі на мароз і снег. Ды і адставаць нельга, бо пакуль прыскачаш на адной назе, сябры могуць крутнуць насок абутку ў бок якой-небудзь страхалюдзіны ці ўвогуле старой бабы.

Сёння кідалі абутак праз страху Гвідонавай хаты. Хатка, як нам ужо вядома, была старэнькая і нізенькая, таму перакідвалася праз яе лёгка. Тлум і рогат нёсся вакол хаты за нечым ботам ці валёнкам. Весела было і, нягледзячы на мароз, горача.

Калі ўсе адкідаліся і высветлілі, хто дзе жыве і каго што чакае, дзед Гвідон сцягнуў з нагі свой валёнак:

— А хіба ж я горшы за астатніх? Апошні шанец! — і кідзель свой валёнак праз страху! Крутнуўся дзедаў абутак некалькі разоў у паветры і бахнуўся каля коміна — не хапіла ў дзеда моцы кінуць далей.

— Ну, дзед! — зарагаталі ўсе.— Не хадзіць табе да другой, бо валёнак роўненька лёг на тваёй жа страсе!

— Гэта яшчэ нічога не значыць! — запярэчыў дзед Гвідон.— Я не бачу адсюль, куды насок пазірае!

— Ды ў тваю хату ён і пазірае! — не суніmaліся хлопцы.— Проста на тваю Аўдоццю паказвае!

Але жарты жартамі, а дзед стаяў з босай нагой на траскучым марозе. У хату ісці забаронена, бо сапсуеш моладзі ўсю варажбу, але і тут таксама доўга не выстаяць.

— Цягніце драбіну, вунь яна! — закамандаваў дзед Гвідон.

Хуценька падцягнулі драбіну, і стары палез на страху, адагнаўшы хлопцаў, якія хацелі дапамагчы зняць ад коміна валёнак.

— Вам, басякам, няма даверу! — напусціўся на іх Гвідон.— Вы там, наверсе, крутняце насок майго валёнка ў бок няведама каго, а ён, можа, паказвае на маладуху! Я вас ведаю! — І дзед пачаў караскацца па снезе да коміна.

— Шукай, шукай сваю маладуху! — далятала да дзеда знізу.— Толькі не скаціся адтуль, бо і да старой не дапаўзеш!

Але дзед Гвідон рашуча поўз па страсе ўсё вышэй і вышэй. Нарэшце ён дапяў да свайго валёнка, схапіў яго здранцвелымі пальцамі і пераможна выпрастаўся на ўвесь рост:

— Ну, што я казаў, басякі! Куды, думаеце, глядзеў мой разумны валёнак? Га?

Раптам струхлелая гонта трэснула пад дзедавымі нагамі, і Гвідон «салдацікам» паляцеў уніз.

У гэты час баба Аўдоцця павучала маладых варажбітак:

— Трэба, дачушкі, штосьці загадаць у душы і моцна гэтага пажадаць. Вось я, напрыклад, у маладосці села гэтак перад міскай з вадой, растапіла воск і кульнула яго ў ваду, пры гэтым пажадала сабе прыгажуна несусветнага. І што вы думаеце? Мой Гвідон да мяне як з неба зваліўся...

Тут штосьці прабіла спарахнелую столь і плюхнулася ў місу з вадой, на якой пагойдваліся васковыя загагуліны. Вада пырснула на сцены, на кут з куццёй, у твар варажбіткам, якія ледзь не самлелі ад жаху. У місцы з вадой сядзеў дзед Гвідон з адным валёнкам на назе, а другі сціскаў у руцэ пасінелымі пальцамі.

Баба Аўдоцця, быццам нічога не здарылася, спакойна працягвала:

— Дык вось, мае даражэнькія, варта толькі чаго моцна захацець, і яно як з неба зваліцца...

Дзед Гвідон шпурнуў у сцяну валёнак:

— Падмануў, гад залатаны! Наском паказваў у іншы бок, а мяне шуганула сюды, да старой. Праваліўся мой апошні шанец!

А праз дзірку ў страсе ў хату зазіралі і весела падміргвалі яснавокія калядныя зоркі.

## Начныя прыгоды

Яўсей Нябожык меркаваў вярнуцца дамоў завідна, але, парашаўшы ўсе свае нескладаныя пытанні ў суседняй вёсцы, нечакана забавіўся — сустрэў «аднадумцу» па кілішкавай праблематыцы.

Слова за слова, пляшка за пляшкай, і — вечар саступіў дарогу ночы. І хоць верасень выдаўся ў гэтым годзе цёплы, затое ночы, асабліва хмарныя, былі такія ўжо цёмныя — хоць пальцам у вочы пары, не пазнаеш, хто пора.

Вось менавіта такой ноччу мусіў Яўсей вяртацца дадому. А дарога ад вёскі да вёскі ляжала не бойкая, а падводамі пракладзеная, ды яшчэ ў адным месцы тулілася да вясковых могілак. Не мала смеласці трэба мець чалавеку, каб адолець аднаму ноччу гэтыя пяць вёрстаў.

Але разагрэтыя гарэлкай Яўсеевы мазгі пра гэта спачатку не думалі. Астудзіліся яны хутка — варта было пакінуць Яўсею за спіной вёску і нырнуць з галавой у цемру непраглядную. Дарогу і тую трэба было шукаць пад нагамі навобмацак. Праўда, дапамагалі кволыя прасветы неба над галавой, якія крыху праглядваліся між навіслым лесам. У дадатак да ўсяго Яўсей быў баязлівец з баязліўцаў.

— Можа, назад вярнуцца? — прашаптаў Яўсей, але шэпт у цемры падаўся нейкім жудасным, і ён моцна сціснуў рот. Мазгі ж ліхаманкава віравалі, нараджалі адну думку за другой, ды такія неверагодныя і страшэнныя былі думкі, што ў Яўсея заляскацелі зубы. І чым бліжэй Яўсей падыходзіў да могілак, тым мацней трэсла яго.

«І што ў мяне за прозвішча? — думаў чамусьці ён.— Нейкі Нябожык... Я і не Бог, я і не Божык... Дык хто я?..

А можа, маё прозвішча Нябожчык? Я — Нябожчык...» — І Яўсей ад гэтай думкі пахаладзеў, як сапраўдны нябожчык.

Яўсей ішоў, задраўшы галаву, пазіраючы на неба і спатыкаючыся аб каменне ды карэнне. Яму падалося, што дарога даўно згублена, і, самае галоўнае, ён не ведаў: мінуў ён могілкі ці яны яшчэ наперадзе.

«А што, калі зрабіць так?» — падумаў ён і перахрысціўся, хоць не быў набожны. Потым перахрысціўся яшчэ і яшчэ, прышэптваючы:

— Божа святы! Давядзі да дому! Піць перастану, жонку буду слухацца. Склеп, які капаю два гады, дакапаю за дзень... Божачка мілы! Пакажы дарогу! Павяртаю людзям напазычанае, на іншых баб вокам не гляну, піць перастану...

Яўсей спыніўся:

— Што я заладзіў: піць перастану ды піць перастану? А ў мяне ж у кішэні пляшка, якую я ўзяў зранку пахмяліцца. Во дурань! Не выкідаць жа яе! Навошта я падманваю Бога? Бяру свае словы назад! Вось зараз яе апрастаю, а потым вярнуся да пацераў! — І Яўсей задраў галаву, асушваючы пляшку.

— Хух! — выдыхнуў ён, калі апошняе «буль» праскочыла праз рыльца ў горла.— Вось і паласкавела! Цяпер можна і напрамкі, і нацянькі!

Ішоў Яўсей борзда праз лажкі ды праз гушчаркі, але яму толькі здавалася, што ён жвавы ды рухавы, на самай справе ён добра нагрузіўся і, як вынік, заблудзіў. Ды і на сон пацягнула і прылегчы хацелася.

«А колькі ж часу?» — падумаў ён і чыркнуў запалкай па карабку. Зірк на гадзіннік — і зноў пахаладзеў: было роўна 12 гадзін ночы. Поўнач! А ў такую пару чэрці заступаюць на варту! Зноў заляскацелі Яўсеевы зубы, яму падалося, што запалка высветліла крыжы на могілках. Запалка згасла, і цемра яшчэ гусцей пачарнела. Яўсей адчуў, як крыжы з усіх бакоў датыкаюцца да яго. Ён рэзка адскочыў, балюча ўдарыўшыся аб нешта вострае лбом, ад чаго ў вачах успыхнулі слупы святла — зрабілася відна, як днём. Яўсей азірнуўся навокал: сапраўды могілкі, дзе

ён кожны год бывае на Радаўніцу, дзе пахаваны яго бацькі і многія аднавяскоўцы. Зусім і не страшна...

Раптам над кожнай магілай паказаўся ледзь бачны белы ці дымок, ці парок, які стужкай уздымаўся ўверх, набываючы абрыс чалавека.

— Бацюхны! — зашаптаў як зачараваны Яўсей.— Дык вунь жа мама, вунь тата! Чамусьці нейкія белыя, празрыстыя! А вунь дзядзька Антось, наш былы сусед, далей — цётка Зося... Колькі знаёмых і крыху забытых людз...

Яўсей ледзь не прашаптаў слова «людзей», але апамятаўся. Гэта было нешта незразумелае, штосьці містычнае. Гэта былі душы тых, каго ўжо няма на зямлі сярод жывых. Але яны, гэтыя люмінесцэнтна-празрыстыя абалонкі, былі копіямі тых, хто спачываў тут, пад магільнымі плітамі. Яны лёгка і няшумна перамяшчаліся, не сутыкаючыся, а пры сустрэчы не абміналі адно аднаго, а лёгка праходзілі праз сабе падобных, як святло праз святло.

Яўсей заўважыў, што асобным гуртам сабраліся душы людзей сталага веку, воддаль скупіліся тыя вяскоўцы, хто пайшоў з жыцця заўчасна і каго пры жыцці называлі «алкашамі». Далей ладзілі свае недагуляныя гульні душы дзяцей.

Чамусьці асобна стаяла душа... Яўсей нават забыўся з часам яго прозвішча. Ён і жыў воўкам, потым узяў грэх на душу — забіў чалавека, а неўзабаве і сам памёр у турме ў даволі маладым узросце.

Пачулася гаворка, гоман, і Яўсей даведаўся, што кожную ноч а 12 гадзіне душы памерлых на гадзіну падымаюцца наверх, каб успомніць былое.

«А кажуць, што душы людзей у небе лётаюць»,— падумаў Яўсей, але думку яго перарваў крык з алкашовага гурту:

— Ты памятаеш, скатабаза, як ты мне недаліў? Сабе поўную шклянку, а мне палавіну!

— Ды ты заўсёды хмяліў сваё рыла на халяву! — пачулася ў адказ.

З гурту людзей сталага веку даляцела:

— Да чаго ж брыдка ляжаць побач з такімі. Мы пражылі жыццё сумленна, у працы ды згодзе. Дадзенае Богам мы прымалі з удзячнасцю і любоўю, кожнаму дню аддавалі часцінку сваёй душы, каб нашым дзецям жылося па-людску...

— Дарэчы, пра дзяцей,— пачуў Яўсей голас сваёй маці.— Як там наш Яўсейка? Хоць яму і сорак гадоў, а ён яшчэ дзіцянё...

Яўсееў бацька падхапіў размову:

— Хоць бы сынок дажыў да сталага веку ды некалі прылучыўся да нас, а не патрапіў да тых вунь выпівох...

— Што ты?! — запярэчыла Яўсеева маці.— Ён у нас не такі!

Яўсей не стрымаўся і закрычаў што ёсць сілы:

— Дажыву, тата! Я не такі, мама!..

Расплюшчыў Яўсей вочы — сонца высока ў небе, сам ён ляжыць пад карчажынай у нейкім гушчары, побач валяецца пустая бутэлька з-пад гарэлкі.

— Дажыву, тата! — паўтараў Яўсей, не разумеючы, да чаго ён дажыве і навошта гэта паўтарае.

Галава гула, лоб, відаць, валячыся, аб нешта рассадзіў. Ён з цяжкасцю ўстаў на ногі, азірнуўся. Вусны працягвалі шаптаць:

— Я не такі, мама... Я дажыву, тата... Піць перастану...

Яўсей палез праз гушчар, шукаючы дарогу і кумекаючы, як ён тут апынуўся.

# Як у той казцы

Надышло свята — Сёмуха. Вяскоўцы раніцай паснедалі, хтосьці прыклаўся да кілішка, нехта — кніжку ў рукі і на бакавую... Што тут казаць — адпачывалі людзі, кожны па-свойму.

Але як сёння не паразважаць і не паздзіўляцца? Спрадвек заведзена так, што на святы нельга нічога рабіць. А чаму? Калі ёсць нейкая работа ды яшчэ ахвота — чаму б не заняцца карыснай справай? Хіба ж праца грэх? А вось пра тое, што піць на святы нельга,— нідзе не напісана. Наадварот, святочным днём піць пачынаюць зрання, гэта, як лічыцца,— святая справа. А калі ўбачаць кагосьці перапітага пад плотам, з паразуменнем паспачуваюць:

— Ну што ж тут такога? Сёння ж свята!

Дзіўна!.. Як падчас тых Алімпійскіх гульняў трэба спыняць войны, так і на святы трэба не піць, не красці, увогуле не рабіць злачынства і не грашыць. Яно ж, вядома, гэтак неабходна жыць кожны дзень, з веку ў век, але калі штодня такое не атрымліваецца, дык хоць бы на святы ачышчаліся людзі ад брыдоты.

Ды не мы гэта ўсё прыдумалі, не нам і адмяняць усталяванасць парадкаў ці, магчыма, беспарадкаў.

Таму сёння вясковыя мужчыны, паснедаўшы і высмаліўшы па цыгарэце, ведаючы тое, што праца на свята — гэта грэх, пачалі збірацца на вуліцы. Гаворка заўсёды знойдзецца, абы вольны час ды добрыя суразмоўцы. А паколькі было і тое, і другое — загаманілі мужыкі.

Антось Тачыла, бадай, самы здатны вясковы завадатар, раптам пытаецца:

— А ці памятаеце вы, галубцы, казку пра пана, які паабяцаў парабку шапку золата, калі той раскажа штосьці настолькі неверагоднае, з чым пан не пагодзіцца і скажа: «Не можа быць такога»?!

— Хто ж той казкі не памятае! — адказаў хтосьці.

— А табе што, шапку золата захацелася? — спытаўся другі.

Тачыла тлумачыць:

— Не, хлопцы! Давайце зробім так: вы па чарзе будзеце расказваць свае жыццёвыя прыгоды, а я буду, як той пан, згаджацца ці не згаджацца. Калі я пагаджуся — распавядальшчык ставіць на агульны стол бутэльку гарэлкі.

— А калі ты запярэчыш?

— Тады я стаўлю тры пляшкі! — прапануе Тачыла.

— Люба! Люба! — па-казацку, хоць ніколі не былі казакамі, загаманілі «галубцы».

Было відаць, што мужчынам трэба прычына для складчыны, а будзе прычына — астатняе знойдзецца.

— Ну, пачынайце, заганяйце мяне ў кут! — дае «старт» Тачыла.

Мужчыны пераглянуліся, пачалі пераступаць з нагі на нагу. Хтосьці, відаць, корпаўся ў памяці, дастаючы адтуль самую неверагодную небывальшчыну, нехта прыкідваў — а ці ёсць у яго схаваная ад жонкі пляшка. Але рашучасць была на кожным твары, бо Тачылавы тры бутэлькі не выходзілі з галавы.

— Можна, пачну я? — нясмела запытаўся Іван Паслядовіч.

«Гэты — лёгкі пасажыр,— падумаў Тачыла,— што б ён ні сплёў, з усім я згаджуся», а ўголас сказаў:

— Давай, валі! Цябе я і баяўся, Іване!

Іван кінуў акурак, прыкурыў новую цыгарэтку і пачаў:

— Было гэта леташняй зімой. Надакучыла мне сала і захацелася зайчаціны. Узяў я ахапак лубіну, занёс яго на Рэпішча і кінуў на снег — прыкормліваю касавокіх. Раніцай праверыў сваю прынаду і ўзрадаваўся: слядоў вакол лубіну — процьма. Вечарам, толькі пачало шарэць, цёпла апрануўся, абуў валёнкі і з стрэльбай падаўся на Рэпішча, у засаду. Узлез я на дрэва, узвёў куркі і

затаіўся — чакаю. Чакаў, чакаў і, непрыкметна для сябе, задрамаў. Я і не заўважыў, як вüслізнула стрэльба з рук і — прыкладам аб зямлю. Чую толькі спрасонку, недзе ўнізе — бабах! бабах! Я з перапуду, як той цецярук, бухнуўся з дрэва галавой у снег. Абтрося ад снегу і нічога не разумею: з аднаго боку ад мяне ляжыць вялізны дзік, з другога боку — мацёры воўк.

— Мацёры ці мацерны? — уткнуў хтосьці свой язык.

— Не блытайце Паслядовіча, няхай паслядоўна ўсё дакажа! — наводзіць парадак Тачыла.

— Дык вось,— працягваў Іван,— аказваецца, пакуль я драмаў на дрэве, да майго лубіну «падруліў» дзік, каб паласавацца смакатой, а дзіка з другога боку падцікаваў воўк. І толькі ваўчына падрыхтаваўся да кідка, як мая дубальтоўка ляснулася аб зямлю і — з адной рулі падкасіла дзіка, а з другой — секанула па ваўку...

Хтосьці ўдакладніў:

— Тады твая дубальтоўка і сапраўды выслізнула з рук, але ж абедзве рулі ўлупілі ўверх, табе ў адно месца...

Тачыла перапыняе:

— Не трэба ўдакладненняў! Нічога тут дзіўнага — такое магло быць і з дзікам, і з ваўком. Чаму ж не? Такое магло быць і з тваім, Іван, «адным месцам», тым больш што твой кажух ззаду ўвесь у дзірачках. Не ведаю, што там на целе, але факт ёсць факт.

Паслядовіч пачырванеў і дастаў з кішэні пляшку.

— Адзін — нуль! — абвяшчае Тачыла, а сам у душы цешыцца: «Я ж ведаў, што ты лёгкі пасажыр...»

Наперад выходзіць Васіль Хвошч:

— Дазволь мне твой нуль перакрэсліць!

— Чаму ж не! — смяецца Антось.— Крэслі! — А сам сабе адзначае: «І ты дзе сядзеш, там і злезеш...»

— Рыхтуй свае тры пляшкі! — ціснe на псіхіку Хвошч і пачынае: — Восень, памятую, выдалася цудоўная! Выбраў я вольную часіну, перакінуў праз руку кошык і падаўся ў лес. Баравікі ўжо адышлі, пачаліся ваўнянкі. А

яны, вымачаныя ды засоленыя ў дзежачцы,— смаката зімой найпярвейшая! З цыбулькай, смятанкай ды гарачай бульбачкай...

— Ты бліжэй да справы! — карэкціруе гаворку Хвашча Антось.

— Дык вось,— працягвае Васіль,— нарэзаў я гэтых ваўнянак, наклаў паўнюткі кошык і кіруюся дамоў. Толькі выйшаў з лесу, як мяне з двух бакоў хапянулі пад рукі нейкія зялёныя пачвары. Ды такія ўжо зялёныя, ажно праціўна. Нешта гергечуць па-свойму і пруць мяне кудысьці, ледзь ногі паспяваю перастаўляць. Ага. А на іх скура пупырыстая, смярдзючая ды ліпкая. Падцягнулі яны мяне, да чаго б вы думалі? Да нейкай бліскучай талеркі. Мацюхна родная! Гэта ж іншапланецяне! Я ад жаху, не на свята будзе сказана, ажно ў штаны памачыўся. А яны штурханулі мяне ў сярэдзіну сваёй пасудзіны і самі за мной заскочылі. «Гаплык табе, Васіль,— думаю,— адгуляў ты сваё на гэтай зямлі!» А іх, зелянкоў, там, усярэдзіне, цэлая процьма. Сярод іх прыкмячаю і баб іхніх — гэткіх жа агідных. Гергечуць, нічога не разабраць, адно толькі зразумеў: павязуць яны мяне ў іншую Галактыку. Цешуся толькі думкай, што выбіраюць яны на зямлі самых разумных. Ага... Націснулі яны на газ па самую плешку і паперлі. Э-э, думаю, яны ж там, у іхняй Галактыцы, і жонку гэткую ж зялёную мне падсунуць! Пакуль яшчэ не высока, трэба драпаць адсюль. Даўся я галавой у іхні ілюмінатар, разбіў шкло і нырнуў уніз. Шчасце, што Бог на месцы майго прызямлення стог сена паспеў паставіць. Страсанула мяне, праўда, да самых глыбокіх звілін у галаве, але, як бачыце, застаўся жывы, толькі вось нагу скруціў, крыху накульгваю. Пра гэту сваю прыгоду,— працягваў Хвошч,— я б даўно забыўся, але шкада кошыка з ваўнянкамі — не пралез ён праз ілюмінатар і цяпер знаходзіцца недзе ў іншай Галактыцы... Вось...

Зноў знайшоўся ўдакладняльнік:

— З кошыкам ты хадзіць хадзіў, але не па ваўнянкі, а ў калгасны сад па яблыкі. Тады ты свой кош і кінуў, калі

ўцякаў ад вартаўніка. Дарэчы, гэта ён табе палкай па назе перацягнуў, вось ты і кульгаеш...

Тачыла не звярнуў увагі на гэту рэпліку, а пачаў з агляду Васілёвага расповеду:

— Цікава! Але што ж тут неверагоднага? Іншапланецян сёння столькі распладзілася, што не паспяваюць газеты і тэлевізары вяшчаць. Такое магло здарыцца з кожным,— пагаджаецца Антось.— А вось тое, што ты ў штаны памачыўся, такое магло здарыцца толькі з табой... Карацей — гісторыя твая праўдзівая да апошняй літары, таму магу вас абрадаваць, галубцы: два — нуль!

Мужчыны захваляваліся, загаманілі:

— Няўжо мы гэтак будзем і далей стаяць, як мыла з'еўшы? Ну, хто адмочыць што-небудзь такое?!

— Смялей, галубцы! — смяецца Тачыла.— Вас вунь колькі, а я адзін.

Азваўся дзед Сымон:

— У мяне, шчыра кажучы, няма гарэлкі, але яна і не спатрэбіцца, бо ёсць твае, Антось, тры бутэлькі!

«Гэтаму, хоць зубоў няма, а палец у рот не кладзі»,— падумаў Тачыла, але не падаў выгляду.

— Давай, дзядок, толькі карацей, бо пара рэалізоўваць «навар».

— Дзякуй Богу, ёсць што рэалізоўваць,— пагаджаецца дзед,— дзве пляшкі ты выйграў, тры зараз прайграеш — вось ужо і пяць! Але, як ты, Антоська, казаў, бліжэй да справы... Дык вось, гэтым летам, пасля спякотнага дня, надумаў я пераначаваць на сене. У хаце горача, спёрта ды яшчэ старая пахрапвае, а на сене ў пуні, як на лузе,— любата.

Уладкаваўся я ў пуні і, нібыта ў маладосці, праваліўся некуды — заснуў сном асілка. Ноч праляцела як хвіліна, адыходжу паступова ад сну, памаладзелы, падужэлы. Ды настолькі памаладзелы, што адчуваю, як у штанах штосьці кратаецца. Няўжо, думаю... ого-го! Чаму ж я, дурны, раней не спаў на сене?! Толькі я ўзрадаваўся, як

тое «ого-го» папаўзло па назе вышэй і выткнула галаву праз прарэх.

Кінуў я ўніз вачыма і ледзь стрымаў крык — да мяне ў штаны ноччу запаўзла змяя! Матка насвенчая! Жыццё дажываю, а пра такое нават не чуў. Што рабіць? Як ратавацца? Няхай сабе я стары, але жыць хочацца!

А яна выткнулася ледзь не да паловы з маіх штаноў і пагойдваецца, зазірае мне ў вочы. Хацеў крыкнуць, паваць на дапамогу Сцепаніду, маю жонку, ды пабаяўся, што спужаю гадзіну — возьме ды яшчэ грызане сваёй ядавітасцю. Тут, як на тое шчасце, жонка сама прачнулася і шукае мяне:

— Хопіць бакі адлежваць, Сымон, снедаць пара!

Я напаўголаса хрыплю:

— Сцепанідачка-а! Сюды! Хутчэй!

Пачула старая маю сіпату і здзіўлена лезе на сена. А на сене, пад страхой, прыцемак, не тое, што на сонцы. Убачыла Сцепаніда, што ў мяне штосьці вылезла з штаноў і пагойдваецца, ледзь не самлела ад шчасця.

— Ой, Сымончык! — толькі і выдыхнула старая.

Хацела яна дакрануцца рукой да таго «нечага», а я як закрычу:

— Не чапай! Змяя!

— Ды кінь ты, Сымонік! Гэта ж я, твая жонка! — прашамкала яна і зноў да мяне.

— Адлезь! Гадзюка! — папярэджваю я сваю жонку.

Тая пакрыўджана саслізнула з сена і паклыпала дамоў, абураючыся:

— Такое шчасце падкацілася, а ён адштурхнуў мяне ды яшчэ змяёй і гадзюкай абазваў...

Зноў застаўся я адзін са сваёй змяюкай у штанах. Паспрабаваў кранухца, бо адлежаў усе костачкі, а яна як зашыкала на мяне, я і абмёр.

Пачало днець. Чую, загаманілі людзі. Скасавурыў я вочы і праз шчыліну ў сцяне назіраю, ці не пройдзе хто

блізка. Змяюка супакоілася і схавалася ля маіх ног, пэўна, заснула.

Зірк я праз шчыліну, ажно ідзе і штосьці напявае сабе пад нос Прокла...

— Якая яшчэ Прокла? — насцярожыўся Тачыла.

— Прокла ў нашай вёсцы адна, Антоська,— адказвае дзед Сымон і працягвае: — Гукнуў я, Антоська, тваю жонку: Проклачка, сюды!

Пачула яна, крутнулася ў пуню:

— Хто тута? — шэпча.

— Гэта я, Проклачка! Я, Сымон...

— А што дзед хоча? — пытаецца прыгажуня.

Я ёй напаўголаса тлумачу:

— Разумееш, Проклачка, тут такая справа... Сорамна сказаць... Ці не магла б ты залезці да мяне ў штаны, там у мяне...

— Ціха, Сымонка! — перапыняе мяне яна, а потым шэптам пытаецца: — А дзе твая Сцепаніда?

— Дома яна, сядзіць пакрыўджаная...

Усе прысутныя павярнуліся ў бок Тачылы. Антось сядзеў чырвоны, моцна прыкусіўшы губу, але з апошніх сіл стрымліваў сябе і маўчаў.

— Дык вось,— працягваў дзед,— стрынаткай ускочыла яна да мяне на сена і горача шэпча: «Каб толькі мой Антось не даведаўся, бо па часці рэўнасці ён крыху дурнаваты»,— і шусь сваёй прыгожай ручанькай у мае штаны...

— Брэшаш, стар'ё бяззубае! — ускочыў Тачыла.— Не магла мая Прокла да цябе ў штаны лазіць! Не магла!

Усе загаманілі:

— Ах, не магла? А тры бутэлькі! Дзе твае абяцаныя тры бутэлькі? Гані, Антось!

— Ды чорт з імі, тымі бутэлькамі,— распаляўся Тачыла.— Не магла мая жонка да старога палена на сена лазіць! Я ўжо не кажу пра штаны!

— А што далей? Што знайшла Прокла ў тваіх штанах? — дапытваліся вяскоўцы ў дзеда Сымона, але той па-гаспадарску прымаў ад Тачылы тры пляшкі гарэлкі і не звяртаў увагі на пытанні.

Вось вам і свята! Ці ж маглі б нарадзіцца гэткія неверагодныя байкі ў працоўны дзень? Бяру свае словы назад — няхай людзі ў святочныя дні адпачываюць і душой, і целам ды не забываюцца на Бога.

Добрага вам адпачынку!

## Чацвёртая вайна дзеда Кузьмы

Тэма партызанскай барацьбы на тэрыторыі Беларусі — вечная тэма. Таму нічога дзіўнага, што чарговы рэжысёр чарговы раз вырашыў па-свойму раскрыць у кінастужцы лепшыя рысы беларускага народа ў трагічныя гады змагання з ворагам.

Сцэнарый быў выдатны, акцёры — вядомыя, засталося толькі адшукаць адпаведную тэме натуру — характэрную беларускую глыбінку, не стоптаную і не заезджаную. Шукаў сам рэжысёр з сцэнарыстам і аператарам. Шукаў прыдзірыста і доўга. Нарэшце натрапілі ў непралазнай глухамані на вёсачку з паэтычнай назвай Лань. Вёсачка настолькі захавала сваю першабытнасць, настолькі была адарваная ад элементарнай сучаснасці, што кіншчыкі пляснулі ў далоні:

— Вось гэта нам і трэба!

Мясцовыя жыхары патлумачылі рэжысёру, што і бліжэйшыя населеныя пункты жывуць без электрасвятла і радыё. І не таму, што пра іх тут забыліся, а самі мясцовыя жыхары вырашылі як мага надалей захаваць «востраў першароднай чысціні». Вяскоўцы гэтым ганарыліся і жартавалі:

— Менш ведаеш — больш пражывеш!

І жылі яны, трэба сказаць, не дрэнна. Пра кіно не толькі наслуханыя, але і нагледжаныя, бо калі-нікалі прывозілі сюды кінафільмы і круцілі праз кінаперасоўку.

Ідэя рэжысёра зняць тут новы фільм вяскоўцам спадабалася, і яны горача прапаноўвалі свае паслугі.

І вось пачаліся здымкі. Усё ішло гладка і, як кажуць, штатна, але раптам высветлілася, што адзін з галоўных эпізодаў не ўзгаднілі з акцёрамі, задзейнічанымі ў ім. А не ўзгаднілі таму, што яны прыехалі на здымкі позна — з карабля на баль.

А ў той групе акцёраў галоўную ролю выконваў народны артыст — кіназорка. Паводле сцэнарыя, кіназорка выконвала ролю нямецкага генерала, а астатнія акцёры — нямецкіх салдат і малодшых афіцэраў. Ім належала прайсці нябачнай сцяжынай па непралазным гушчары, а ўжо пазней, у другім эпізодзе, яны трапяць на партызанскую засаду... А пакуль, да партызанскай засады, акцёры не ведалі маршруту.

Вось тут і спатрэбілася паслуга мясцовых жыхароў. Трэба было некаму правесці акцёраў па гэтай патаемнай сцяжыне ў адзін канец, «ухаластую», а ўжо адтуль яны будуць ісці самастойна міма аператара, які будзе сядзець даволі высока і зверху здымаць панараму велічных беларускіх лясоў і сярод іх — кволы атрад чужынцаў.

Да таго зыходнага пункта весці акцёраў падахвоціўся дзед Пракоп, які мог з завязанымі вачыма хадзіць па непралазных лясах, бо тут прайшло ўсё яго жыццё.

Дзед Пракоп, як і належыць павадыру, ішоў наперадзе, за ім — астатнія ў форме нямецкага вермахта. Ішлі з перадыхамі, бо дзед Пракоп сваё адхадзіў і цяпер прыкладаў усе намаганні, каб дзеля святой справы перасоўваць ногі.

Якраз па гэтым самым лесе вяртаўся з палявання Васіль Дыбун, які жыў у другой адарванай ад цывілізацыі вёсцы, дзе пра здымкі кіно ніхто не чуў. Васіль натрэніраваным вухам паляўнічага здаля пачуў, што нехта кіруецца праз лес. Гаворкі не было чуваць, але ходу гурту людзей ён улоўліваў. «Хто б гэта мог тут блытацца? — здзівіўся паляўнічы.— Тут і адзін чалавек рэдкасць...»

І Васіль ціхенька, як толькі можа паляўнічы, наблізіўся да загадкавых гасцей. Паволі адхінуў рукой лапнік і абмёр: немцы!

Васіль ад нечаканасці і жаху заплюшчыў вочы:

— Зноў немцы! Тут, у глухамані, немцы, а мы нічога не ведаем!

Ён зноў адхіліў лапнік і яшчэ больш напужаўся — на-

перадзе ледзь перастаўляў ногі добра вядомы яму дзед Пракоп.

— Палонны! — зашапталі схаладнелыя Васілёвы вусны.— Дзед Пракоп у палоне, а астатніх, відаць, забілі... Хутчэй у сваю вёску папярэдзіць людзей! — І Васіль з месца памчаў да сваіх аднавяскоўцаў. Ды так папёр, што ажно голле трашчала следам.

— Што за трэск? — занепакоіўся народны артыст.

— Дробязь! — стомлена адказаў дзед.— Лось ці мядзведзь... Іх тут у нас — процьма.

— Нічога сабе дробязь — мядзведзь! — азвалася кіназорка.— А на людзей ён не кідаецца?

— Бачылі ж: ад людзей папёр,— зноў спакойна адказаў дзед і дадаў: — Вы варон не страляйце ды на мядзведзяў не заглядайцеся, запамінайце сцежку, бо назад самі выходзіць будзеце...

Пакуль дзед Пракоп са сваімі «немцамі» клыпаў па лесе, Васіль Дыбун, як звар'яцелы, заскочыў у вёску з жудасным крыкам:

— Немцы! Ратуйцеся! Немцы!

Ён ад шалёнага бегу і страшэннага хвалявання захлынаўся паветрам і толькі выкрыкваў:

— Немцы! Ратуйцеся!

Нарэшце яго акружылі аднавяскоўцы і страсянулі за грудзі:

— Ды супакойся ты! Якія немцы? Адкуль тут немцы?

І Васіль, адсягаўшыся, расказаў пра тое, што бачылі яго вочы.

Бабы загаласілі:

— Хапайце дзяцей! Вяжыце клункі — і ў лес! Ратавацца трэба! Ой, гора!

Некаторыя памкнуліся да сваіх хат, але дзед Кузьма зычна мацюкнуўся.

— Стаяць, ядрона маць! Я за жыццё тры вайны адолеў і чацвёртай дам рады! Васіль,— папытаўся ён у Дыбуна,— колькі там гітлерцаў?

Хтосьці з натоўпу ўдакладніў:

— Гітлера ўжо няма, яму даўно — капут!

— Маўчаць, ядрона маць! — зноў секануў Кузьма.— Дык колькі гітлерцаў, Васіль?

Васіль шмаргануў носам:

— Шмат іх...

— Ну, а тэхніка якая? — дапытваўся дзед.— Танкі там нейкія ці самалёты?

Васіль зноў шмаргануў носам:

— Не ведаю... Быццам самалётаў не было відаць...

— Ды паб'юць яны нас усіх, як пабілі ўсіх ланьцаў! — зноў загаласілі бабы.— Трэба цікаць у лясы!

Дзед Кузьма выхапіў з рук Дыбуна стрэльбу:

— Па законах ваеннага часу панікёраў будзем адстрэльваць! Лепей не скавытаць, ядрона маць!

— Ну, ну... адразу сваіх адстрэльваць,— буркнуў Дыбун і забраў у дзеда стрэльбу.

— Гэта я так... дзеля парадку,— мякчэй і без мацюкоў патлумачыў стары, але зноў павысіў голас:

— Пакуль мы тут балабонім, гітлерцы заб'юць і апошняга жыхара Лані. Трэба ратаваць дзеда Пракопа! Якія будуць меркаванні?

— Меркаванні такія,— выказаўся хтосьці з мужчын,— а дзе зброя? Голымі рукамі танкі не возьмеш, тым больш самалёты...

— Ды не чуў я танкаў! — рашуча заявіў Дыбун.— Гарматы, здаецца, бачыў.

Дзед Кузьма закамандаваў:

— Усе па хатах! Праз хвіліну каб пастроіліся тут — кожны з чым можа! Бабам дазваляецца браць нават качэргі! Разыдзіся!

Тым часам дзед Пракоп мужна рухаўся з акцёрамі. Ісці заставалася ўжо зусім мала, але і сілы пакідалі старога.

Кіназорка — яна ж нямецкі генерал — на хаду напамінала калегам:

— На адваротным шляху, ля самай вёскі Лань, як толькі трапім на партызанскую засаду, пачынайце

ўжываць завучаныя нямецкія словы і, крыху пастраляўшы халастымі патронамі, кідайце зброю і паднімайце ўгару рукі — здавайцеся партызанам у палон. Рабіце гэта пераканаўча, каб камера зафіксавала ўсе галоўныя моманты бою.

Толькі паспеў закончыць свой маналог народны артыст, як з усіх бакоў пачулася:

— Ура-а-а!

Артысты аслупянелі — да іх імчалі з усіх бакоў нейкія людзі. Хто з паляўнічай стрэльбай, хто з віламі, а хто і з качаргой...

— Смерць гітлерцам! — крычаў асіплым голасам дзед Кузьма.

— Трымайся, Пракопе, мы цябе вызвалім! — чуўся жаночы крык.

Народны артыст збянтэжана крыкнуў сваім:

— Рэжысёр пераблытаў месца партызанскай засады! Дзейнічаем па сцэнарыі! — І акцёры пачалі выкрыкваць нямецкія словы і страляць халастымі патронамі.

Дзед Кузьма паспеў скамандаваць:

— Лажыся! Акружай гітлерцаў! У палон жывымі не здавацца! — потым тоненька завішчаў: — Ой, мяне, мусіць, ранілі — штосьці ў штанах замакрэлася!..

Бой разгараўся, але дзед Пракоп пазнаў «апалчэнцаў» з суседняй вёскі і зразумеў, што адбываецца нейкая недарэчнасць. Ён як стаяў, так і застаўся стаяць сярод палеглых «двух франтоў», і толькі крычаў вяскоўцам:

— Стойце, браткі! Толькі не страляйце! Тут свае! Свае тут! Кузя, чуеш?

— Во гадзіна! — захрыпеў хтосьці з апалчэнцаў.— Фашысты для яго ўжо сваімі сталі! Прадаўся, гад!

А група акцёраў, як і было напісана ў сцэнарыі, пасля страляніны халастымі патронамі кінула зброю і, падняўшы рукі, здалася ў палон. Ім хуценька скруцілі рукі і запхнулі нейкія анучы ў рот.

Дзед Кузьма трыумфаваў:

— Гэта ж трэба! Нямецкага генерала ўзяў у палон з яго войскам! — Ён памахаў сякерай ля генералавага носа.— Ну што, Гітлераў прыхвасцень! Беларускіх дранікаў захацелася! А во! — І тыцнуў фігу ў нос палоннаму.

Бедны народны артыст штосьці мыкаў, круціў вачыма, спрабаваў выслабаніць звязаныя рукі, але дзед Кузьма быў няўмольны:

— Мычы! Мычы! І твайму Гітлеру тое самае будзе!

Адзін з апалчэнцаў зноў нагадаў свайму камандзіру:

— Ды сплюнь ты з языка Гітлера! Яго даўно няма!

— А хоць бы і быў! — не здаваўся дзед.— Ні Гітлеру, ніякаму другому чорту не дазволім хэндыхохаць ля свайго парога!

Дзед Пракоп падскочыў да Кузьмы:

— Кузя, браток, гэта ж добрыя, нашыя людзі! Раскруціце ім рукі! Апамятайцеся, суседзі!

— Запхніце рот і гэтаму здрадніку! — скамандаваў дзед Кузьма.— Судзіць яго будзем потым ваенным трыбуналам па законах ваеннага часу!

Пасля павярнуўся да сваіх:

— Раненыя, забітыя ёсць сярод нас? Не? Гэта ўсё — мой вопыт мінулых трох войнаў!..

А рэжысёр і астатняя здымачная група не знаходзілі сабе месца — куды знік народны артыст са сваімі калегамі на чале з дзедам Пракопам? Няўжо заблудзіліся? А можа, мядзведзь задзёр? Чакалі дзень, а на другі жыхары Лані з кіношнікамі кінуліся па ўсіх навакольных вёсках: можа, хтосьці штосьці чуў ці ведае пра лёс зніклых акцёраў.

І вось у адной вёсцы паведамілі:

— Пра артыстаў і вухам не чулі, а вось нямецкі атрад у лесе вылавілі і ўзялі ў палон. Сядзяць гітлерцы з завязанымі ратамі ў склепе дзеда Кузьмы, які вырашае: ці пусціць іх у расход, ці загнаць на прымусовую працу ў калгас... А магчыма, дзед Кузьма па законах ваеннага часу іх ужо парашыў...

Рэжысёр плакаў ад шчасця, калі адшукаў сваіх артыстаў жывымі, але яшчэ больш радаваўся новаму сцэнарыю, які падказала само жыццё.

Вызвалілі са склепа і дзеда Пракопа, які справядліва куснуў Кузьму:

— Хоць і выглядаў ты сапраўдным героем, але падкузьміў ты сябе, браток Кузя, на ўсё астатняе жыццё.

Дзед Кузьма апраўдваўся:

— Я ж дзейнічаў па законах ваеннага часу!

# Святая праўда лепш за дактароў

Дзед Яўхім паміраў. Адтахкала адведзены Богам час, адтрапятала свае шчаслівыя вёсны чулае чалавечае сэрца, прыняло на сябе ўсе наканаваныя лёсам пакуты і няўмольна спыняла напружаны рытм.

Баба Агаф'я сядзела ля смяротнай пасцелі свайго мужа, з якім прайшла такі доўгі і такі хуткаплынны жыццёвы шлях.

Дзед Яўхім ужо перастаў адказваць на пытанні і амаль не рэагаваў на голас сваёй жонкі — самага дарагога чалавека ў жыцці. Ён не міргаючы глядзеў нібы шклянымі вачыма ў столь, але яго погляд пранізваў і столь, і доўгае жыццё, ахопліваў цэлы Сусвет з яго шматквеццем і шматгалоссем.

Што чалавек яшчэ жывы, можна было здагадацца толькі па высахлых грудзях, якія ледзь прыкметна то ўздымалі, то апускалі коўдру.

Баба Агаф'я ціха загаманіла:

— Не ведаю, чуеш ты мяне ці не, але ў гэтую апошнюю гадзіну хачу сказаць табе святую праўду, бо і сама хутка зазірну Богу ў вочы...

Дзед як ляжаў, так і ляжаў. Коўдра, нібы нехаця, то падымалася, то апускалася, шкляныя вочы ўпіраліся ў столь.

Баба Агаф'я перахрысцілася і працягвала:

— Чым адкрываць душу на споведзі нейкаму там папу, лепш няхай твае вушы адпусцяць мае грахі... А калі твае вушы не ўчуюць маёй споведзі і не дапусцяць маіх слоў да твайго сэрца — гэта будзе яшчэ лепей. І я спіхну грэх з душы, і ты, на самым краі жыцця, не паранішся аб мае словы...

Дзед як ляжаў, так і ляжаў...

Старая зноў перахрысцілася, узяла, пацалавала абразок Святой Багародзіцы, які стаяў на табурэтцы ля ложка, і тым жа сцішаным голасам пачала «ачышчаць душу»:

— Табе, Яўхімка, горка было б ведаць гэта пры жыцці... я маю на ўвазе той час, калі я грашыла, але няхай хоць гэта паветра ў перадсмяротным пакоі чуе, што я была ў цябе няверная жонкаю... Памятаеш, Яўхімка, адразу пасля нашага вяселля мяне накіравалі ў раён на курсы рахункаводаў? Я была маладая, прыгожая, кавалеры так і ліплі да мяне, так і віравалі вакол... Што ўжо сёння віхляць хвастом — усякае там было... Не, ты не думай, што першае дзіця не ад цябе! Але,— і баба зноў перахрысцілася,— на ўсякі выпадак, няхай Бог даруе...

Потым, пасля майго вяртання, цябе прызваў ваенкамат на нейкія месячныя зборы. Памятаеш? Няхай адсохнуць тыя языкі, якія плялі, быццам той месяц дзверы нашай хаты не зачыняліся ад мужчын, хоць... усякае было. А тое, што другое дзіця не дужа да цябе падобнае, не падумай, што яно не ад цябе, але,— і Агаф'я чарговы раз пацалавала абразок,— няхай святая заступніца даруе...

Стары як ляжаў, так і ляжаў...

— А потым,— казала далей яна,— да нас зачасцілі ў госці твае сябры. Табе падабалася, што ладжу гасцінныя сталы, але ты не мог зразумець, чаму ты так хутка напіваўся і засынаў да раніцы непрабудным сном. Гэта ж я дзеля твайго адпачынку падсыпала табе ў страву соннага зелля... Прабач, Яўхімка, але хтосьці з тваіх сяброў заўсёды заставаўся нанач дапамагчы мне прыбраць посуд... Не падумай, дарагі, што і трэцяе дзіця не ад цябе, але,— і баба Агаф'я моцна прыціснула абразок да грудзей,— злітуйся, Прачыстая Багародзіца, і закрэслі гэты грэх!

Коўдра на старым то паднімалася, то апускалася, але дзедавы вочы заплюшчыліся. Ды заплюшчыліся яны не самі па сабе, а Яўхіма перастаў цікавіць Сусвет з яго featuresнакаляровасцю. Увесь яго жыццёвы запас засяродзіўся толькі на адным — на таямнічым мінулым, якое раптоўна

скінула покрыва таямнічасці. Прытухлы жыццёвы агеньчык у грудзях у дзеда Яўхіма пачаў раптоўна разгарацца з новай сілай, бо не мог, не меў права чалавек, пачуўшы такое, пайсці з жыцця. Час для старога нібыта пачаў адваротны адлік, надаючы яго крыві жыватворную моц.

Баба Агаф'я, убачыўшы, што мужавы вочы закрыліся, падумала, што надышоў канец, і, ужо не хрысцячыся, хуценька прагаварыла:

— Шкада, што ты ўжо ніколі не пачуеш пра мой наступны грэх, але, спадзяюся, Бог перадасць табе на тым свеце гэтую споведзь: чацвёртае дзіця, Яўхімка, увогуле не мае да цябе ніякага дачынення... Не варта казаць, ад каго яно, бо ты ўжо на тым свеце...

Баба Агаф'я, магчыма, збіралася штосьці распавядаць і пра астатнія свае грахі, бо ўсіх дзяцей яна нарадзіла аж сямёра, але дзед Яўхім, як сталёвая спружына, ускочыў з ложка:

— Ах ты, дзіравая цадзілка! Ах ты, гнілая шаймарына! Ты мяне на той свет адпраўляла з такімі дарункамі! А во, не хацела?! — І стары ткнуў бабе ў нос фічку.

У бабы Агаф'і палезлі вочы на лоб ад здзіўлення і жаху.

— Ды твае грахі ў параўнанні з маімі,— не сунімаўся дзед,— як парушынка ў параўнанні з камянюкам! Ды я табе зараз такое раскажу, што ты сваімі курынымі мазгамі і ўявіць не магла! Слухай!

І дзед Яўхім пачаў сваю антысповедзь. Пра што ён распавядаў, якія адкрываў таямніцы мінулага, невядома, але праз хуткі час ужо баба Агаф'я ляжала на тым самым ложку, гледзячы шклянымі вачыма ў столь, а дзед Яўхім раз-пораз хапаўся за абразок і прасіў:

— Даруй, святая заступніца, і гэты грэх!

# Супергонкі

Каму не вядома сумнае: старасць — не радасць?

Але, на шчасце, знаходзяцца людзі, якія душэўна спачуваюць фізічнай кволасці састарэлых суайчыннікаў і шукаюць нейкай магчымасці, каб падтрымаць іх.

Адзін з гэткіх спачувальнікаў, старшыня калгаса, вырашыў:

— Трэба нейкім чынам разварушыць так званы выпрацаваны баланс! Ну, якая карысць з таго, што я нейкаму дзеду ці бабе дам у якасці дапамогі мех бульбы ці пуд мукі? З'ядуць яны ці іхнія свінні за тыдзень маю ласку і забудуцца. Не! Трэба гэтую не зусім салодкую цукерчыну аздобіць прыгожым фанцікам. Трэба так зрабіць, каб старыя не толькі цэлым мяшком бульбы, а адной бульбінай ганарыліся.

І старшыня калгаса абвясціў усім сваім пенсіянерам, што ў бліжэйшую нядзелю адбудуцца спаборніцтвы між пенсіянерамі і старт будзе дадзены ад будынка праўлення калгаса. Можна карыстацца ўсімі падручнымі ды і падножнымі сродкамі перамяшчэння, уключаючы нават самакат, але галоўным усё ж будзе веласіпед. Сярод прызоў — харчы, кветкі, граматы і, безумоўна,— вечная слава ў межах калгаса.

Гэта навіна сапраўды ўскалыхнула былых калгаснікаў. Рыхталіся хто як мог — падкручвалі гайкі, змазвалі падшыпнікі, разміналі старыя суставы.

І вось надышла нядзеля. Роўным радком выстраіліся пенсіянеры з нейкімі даўно сваё аджытымі таратайкамі ды старэйшымі за сваіх гаспадароў веласіпедамі. У самым канцы гэтай урачыстай шарэнгі стаяў памаладзелы і ўзрушаны дзед Пілiп. Росту ён быў невялікага, ды яшчэ гады прыгорбілі яго, таму выгляд ён меў састарэлага дзіцяці. Іншага транспарту ў яго распараджэнні не

было, таму дзед трымаў ля сваёй нагі ўнукаў трохколавы веласіпед. Кажуць, галоўнае не перамога, а ўдзел. Але не думайце, што ў гэтым выпадку было менавіта так! Дзед Піліп, дажываючы свой век пры кані ды падводзе, убачыўшы аднойчы сучасную ўнукаву тэхніку, спаўна ацаніў прагрэс і са смакам асядлаў трохколавік. Стары гойсаў на ім па двары кожную вольную гадзіну, а паколькі ў яго кожная гадзіна была вольнай, ад рання да цямна не злазіў з сядла.

Усім удзельнікам спаборніцтва пачапілі на спіне свой, уласны нумар. Дзеду Піліпу далі нумар 13, ад чаго ён пляваўся горш, чым ад воцату:

— Нарадзіўся я 13 мая! Вось і маюся ўсё жыццё. Пяць разоў я ламаў руку і восем разоў вывіхаў нагу — вось вам зноў лічба 13! Трынаццатая мая жонка была змяя змяёй! Сёння зноў я трынаццаты! Калі ўсё гэта скончыцца?

Нарэшце ўдзельнікам гонкі далі старт. Трэба было праскочыць ля свінафермы, абляцець вакол сіласнай ямы, акруціцца ля трохпавярховага катэджа старшыні калгаса і ўздоўж здзічэлага калгаснага саду вярнуцца да праўлення калгаса, дзе пасля пачатку гонкі «старт» зменяць на «фініш». Тут ужо стаялі накрытыя цэлафанам мяхі з бульбай, мукой, некалькі каструль і эмаліраванае вядро — прызы пераможцам гонкі.

Дзед Піліп напачатку, пакуль астатнія перагрупоўваліся, выскачыў наперад і ўзначаліў гонку. Вецер свістаў у вушах, ад хуткасці сляпіліся вочы, і дзеду падалося, што ён вось-вось уздымецца ў паветра. Але паступова астатнія гоншчыкі, відаць, памятаючы пра мяхі з бульбай і мукой, націснулі на педалі і адзін за адным абмінулі лідэра.

Дзед Піліп, не будучы дурнем, вырашыў скараціць дарогу і ад сіласнай ямы разануў напрасткі — адразу да трохпавярховага катэджа старшыні. Але моцны сустрэчны вецер і неверагодная хуткасць, ад якіх слязіліся вочы, адхілілі дзеда Піліпа ад намечанага скарочанага маршруту і непрыкметна накіравалі яго на аўтастраду, якая пра-

лягала побач і на якой у гэты час праходзілі міжнародныя веласіпедныя супергонкі.

Дзед Піліп маланкай ускочыў на аўтастраду і з усіх сіл круціў педалі ўнукавага веласіпеда, малоцячы каленямі аб руль.

— Хваробу вам, а не мой мех бульбы! — накручваў дзед разам з педалямі сам сябе.— Ды я вас усіх запхну за пасак! — Меў ён на ўвазе сваіх сапернікаў-пенсіянераў, якія, як ён думаў, былі дзесь наперадзе.

На кантрольным адрэзку міжнароднай супергонкі кампутар зафіксаваў і перадаў на фініш: гонку ўзначаліў нумар 13. А паколькі ўся кавалькада гоншчыкаў знаходзілася яшчэ даволі далёка ад дзеда Піліпа, калегія сусветных спартыўных суддзяў здзівілася з гэткай імклівасці аднаго велагоншчыка, але з кампутарам не паспрачаешся — суддзя ён непадкупны.

Здзівіліся і гаспадары гонкі, ведаючы, што пад нумарам 13 стартаваў наш Беспрызовіч, які пасля старту цягнуўся недзе ў хвасце. Але факт ёсць факт — мы ў лідэрах!

Дзед Піліп, сагнуўшыся ў тры пагібелі, паддаваў сабе імпэту:

— Эмаліраванае вядро будзе маё! — І так націснуў на педалі, што адразу з-пад трох колаў унукавага «веліка» закурэў дым.

Тым часам ад гоншчыкаў адарваўся міжнародны майстар з Паўднёвай Афрыкі, які ва ўсім свеце лічыўся непераможным. Ён прафесійна размеркаваў свае сілы і па-майстэрску пачаў перадстартавы спурт, паказаўшы астатнім гоншчыкам задняе кола свайго веласіпеда.

Але наперадзе чулася азартнае:

— І каструлю заваюю для сваёй бабы!

Падтрымаў дзеда Піліпа і перадфінішны кампутар, які зноў перадаў у штаб спаборніцтва: працягвае лідзіраваць нумар 13...

Калі ля праўлення калгаса ўручалі прызы пераможцам-пенсіянерам, дзед Піліп у гэты час ірвануў сваімі грудзьмі фінішную стужку на міжнародных супергонках.

Праз нейкае імгненне, услед за дзедам, на фініш прымчалася сусветная спартыўная зорка з Паўднёвай Афрыкі.

Даведаўшыся, што ён толькі другі, афрыканец скрозь слёзы сказаў:

— Гэта сапраўды непераможны народ!

А дзеда Піліпа ледзь не затапталі ва ўзрушаным натоўпе. Ён на фінішы як ускочыў у шматсоценны гурт людзей, так у ім і згубіўся. З усіх бакоў чуліся нейкія крыкі, узняўся лямант, усе мітусіліся, збіваючы з ног адно аднаго.

— Вядро будзе маё! — сярод гэтага тлуму крычаў дзед Піліп.— Каструлю нікому не аддам!

— Сціхні, дзед, са сваім вядром! — шыкалі на яго з усіх бакоў.— Там наш суайчыннік заняў першае месца і выйграў мільён долараў, а ты лезеш з нейкім вядром!

Нарэшце дзед Піліп выблытаўся з гэтай узрушанай табалы, перакінуў праз плячо ўнукаў веласіпед і паклыпаў да праўлення калгаса, каб даведацца, якое ж месца ён заняў і які прыз прынясе сваёй старой, але там ужо нікога не было.

# Залатая ліхаманка

Дзед Аўдзей капаў бульбу і на чым свет стаіць кляў камяні, на якія раз-пораз натыкалася рыдлёўка:

— Адкуль вас бура пананосіла на маю галаву? Не зямля, а камяніца!

Дзед мусіў зрабіць севазварот — пасадзіў бульбу на свежым месцы, бо на старым загоне яна перастала радзіць, хоць зямля там і была як пух.

Цяпер, на новым месцы, дзед Аўдзей пляваўся, выкопваючы з зямлі камень за каменем. Выцягнуўшы чарговы падарунак ледніковага перыяду, дзед з вялікай напругай падняў яго і, крэкчучы, занёс на мяжу, дзе кінуў да папярэдніх, з якіх ужо ўтварылася цэлая крушня.

Але, кінуўшы апошні камень, дзед яшчэ раз уважліва зірнуў на яго, бо ў тым месцы, дзе застаўся след ад рыдлёўкі, штосьці бліснула. Стары сагнуўся ніжэй, нават стаў на калені і войкнуў.

— Золата! — ледзь не захлынуўся гэтым словам дзед.— Аблеплены зямлёй кавалак золата! Ды які!

Дзед стаяў укленчыўшы і шурпатай далонёй пяшчотна гладзіў гэткую ж шурпатую неацэнную знаходку:

— Во прываліла! Во пашчасціла! — прыгаворваў дзед.— Ну, хоць жа ў старасці з бабай уздыхнём вальней ды скінем абноскі...

— Ты чаго гэта, дзед Аўдзей, стаіш на каленях перад каменнем і пацеры чытаеш? — пачулася з дарогі.

Дзед зірк на дарогу і ледзь не самлеў — там стаяў з матацыклам участковы міліцыянер. Стары настолькі захапіўся сваёй знаходкай, што нават не пачуў матацыкла.

Цяпер, зразумеўшы пытанне, дзед Аўдзей з перапуду ляпнуў:

— Золата знайшоў!

Ляпнуў і прыкусіў свой доўгі язык, але было ўжо позна.

— Што-о? Золата?! — заглушыў матацыкл участковы і рашуча накіраваўся да старога.— Кажаш, золата? Ану пакажы! — І вочы міліцыянта блiснулі сквапнымі агеньчыкамі.

— Вось, таварыш начальнік,— толькі і змог выціснуць з сябе дзед Аўдзей, паказваючы на сваю, цяпер ужо, як зразумеў ён,— не сваю знаходку.

— Ого! Дык гэта ж цэлы самародзішча! — падняў участковы пляскаты камень з жоўтым рубцом на баку.— Колькі ж ён важыць! Ого!

Дзед Аўдзей устаў з каленяў і, як пабіты, моўчкі стаяў перад участковым.

— Значыцца так, дзед! — афіцыйна закончыў міліцыянт.— Гэта я забіраю, там, у раёне, удакладню, праверу і, калі гэта сапраўды золата, вярну табе назад, а ты ўжо, як належыць, здасі дзяржаве і атрымаеш свае працэнты. Бывай!..— І ўчастковы фыркнуў сваім матацыклам, толькі яго стары і бачыў.

Дзед, каб быў маладзейшы, напэўна б заплакаў ад крыўды і злосці на сябе, а паколькі за доўгае жыццё выплакаў усе слёзы — плакала толькі яго сэрца, у якога ліміту на слёзы не бывае.

— Бульбы накапаў? — пачулася ад хаты.— Што стаіш як пень?

Дзед здрыгануўся, зірнуў у сваё амаль пустое вядро і адказаў жонцы:

— Накапаў, згніла б яна тут лепш разам з каменнем!

— А чаго прыязджаў той пагоннік? — пацікавілася баба.

Дзед кідануў рыдлёўку аб зямлю:

— Хай бы лепей усё жыццё не бачылі яго мае вочы!..

Старая здзіўлена зірнула на мужа, які ўсё жыццё быў — сама лагоднасць, але змоўчала.

— А ты,— звярнуўся пошапкам дзед да свайго языка, быццам той яго мог пачуць,— каб адсох у мяне малога, дык хоць у старасці я разбагацеў бы!..

Прайшло некалькі дзён, і ўчастковы, як і абяцаў, прымчаў да дзедавай хаты і прывёз закручаны ў тканіну камень.

— На, дзед, тваё багацце! Спажывай! Не золата гэта, а звычайны камень! — крутнуўся і, не развітваючыся, як перад тым і не павітаўшыся, папёр на сваім матацыкле, ажно пыл упёрся ў хмары.

Дзед уважліва агледзеў вернуты яму камень і адразу зразумеў: не той гэта камень! Не яго знаходка!

— Навошта пагоннік працягнуў табе гэта? — здзівілася жонка.— Хіба ж у нас свайго камення мала?

Дзед моўчкі шпурнуў камень пад плот. Зноў заплакала яго сэрца, бо цяпер ужо і кволай надзеі не заставалася — золата ён не ўбачыць як сваіх вушэй.

Ішоў час. Дзед не еў, не спаў, схуднеў, хоць і да гэтага быў дрынгалясты. На ўсе роспыты жонкі адказваў маўчаннем. Не мог жа ён расказаць ёй, як праз сваю дурную галаву і доўгі язык страціў гэткае багацце — загрызла б яна яго жыўцом. Але горш за ўсё была невядомасць: што гэта за працэнты? Колькі б ён атрымаў?

Аднойчы міма дзедавых платоў паволі каціла чорная «Волга». Дзед набраўся храбрасці і падняў руку. Машына спынілася.

— Куды дзеда падвезці? — спытаўся мужчына пад капелюшом, які сядзеў побач з шафёрам.

Дзед патаптаўся, палыпаў вачыма:

— Я, за звіненнем вас, нікуды не еду... Мне б толькі даведацца...

— Слухаю! — пачулася з-пад капелюша.

— Мяне, за звіненнем вас, цікавіць, які працант адлічылі б мне, каб я, напрыклад, знайшоў вялікі кавалак золата?..

— Ты, стары, знайшоў золата?! — страпянуўся капялюш і спрытна вылез з машыны.

— Што вы? Што вы? — замахаў дзед рукамі, бо ведаў, што праз доўгі язык нажывеш не багацце, а адныя непрыемнасці.— Я меў на ўвазе, каб я, напрыклад, знайшоў золата...

— Ой, стары, бачу, што знайшоў без прыкладу! Ой бачу! — насядаў незнаёмец.— Калі знайшоў і ўтойваеш, цябе чакае турма! Лепш сазнавайся ды сумленна жыві на свае працэнты!

«Зноў гэтыя чортавы працэнты»,— мільганула думка ў дзедавай галаве.

— А колькі яны, тыя працэнты, каштуюць? — папытаўся дзед.— Ці хапіла б іх на новую ватоўку і боты?

— Дык знайшоў ці не? — дамагаўся незнаёмец.

Дзед раскіс:

— За звіненнем вас, знайсці знайшоў, але...

І ён расказаў, як на споведзі, чалавеку пад капелюшом пра той самародак і куды ён дзеўся.

— Я парадак навяду! Я знайду, дзед, тваё золата, бо ў раёне я займаю высокую пасаду і міліцыя мне падпарадкоўваецца. А таго ўчастковага я аддам пад суд! — І «Волга» пакаціла далей.

Зноў у дзедавай душы засмылеў агеньчык надзеі.

Наступнай раніцай участковаму міліцыянеру патэлефанаваў той раённы начальнік:

— Дык ты гэтак стаіш на варце нашых савецкіх законаў? (А ўсё адбывалася ў савецкія часы.)

Участковы, пачуўшы голас высокага начальніка, задрыжаў ля тэлефона.

— Так точна! — толькі і мог выціснуць ён.

У трубцы чулася:

— Каб праз гадзіну той залаты самародак, які ты незаконна, без складання пратакола, адабраў у дзеда, ляжаў у мяне на стале! Зразумеў? Інакш — згніеш у турме!

— Так точна! — зноў выціснуў міліцыянер і, схапіўшы схаваны самародак, праз паўгадзіны паклаў яго на стол высокаму начальніку.

Той задаволена ўзяў закручаны ў белую тканіну скарб і паклаў сабе ў сейф.

— Каб нікому ні слова, бо згнієш у турме! — грозна бліснуў вачыма начальнік і менш сярдзіта дадаў: — На першы раз я табе дарую... Я падумаю аб тваім павышэнні. Ідзі служы далей!

На другі дзень чорная «Волга» падкаціла да дзедавай хаты. З яе вылез дзедаў знаёмы і ўрачыста ўручыў белы скрутак:

— Вось, дарагі дзед, як і абяцаў, вяртаю табе тваю законную знаходку! Быў рады пазнаёміцца! — І, ляснуўшы дзверцамі машыны, знік з вачэй.

Стары дрыготкімі рукамі раскруціў тое, што было ўсярэдзіне, і — выпусціў з рук. Гэта быў звычайны камень — зноў не той!

— Ашуканцы! Каб вам, за звіненнем вас, праз пятае калена ды на дзевятае бервяно!

Падклыпала старая:

— Нашто яны табе нейкія камяні возяць? Што ты з імі будзеш рабіць? Здзяцінееў стары!

Вечарам да дзеда Аўдзея пратарахцеў на матацыкле ўчастковы:

— Вярнулі табе, дзед, твой камень?

— Вярнуць то вярнулі, таварыш начальнік, але не той,— сумна адказаў стары.

— Пакажы яго! — запатрабаваў міліцыянер і, агледзеўшы камень, панёсся з месца як шалёны. Участковы вяртаўся ад дзеда і ажно кіпеў:

— Прысвоіў! Хоць бы падзяліўся! Усё сабе хапянуў! Паглядзім, хто з нас у турме згніе!

І ён левай рукой крамзануў ананімку пракурору.

— Алё! Васіль Нічыпрыч? — запытаўся ў тэлефонную трубку пракурор.

— Так! Гэта я, Кірыл Мяфодзіч! — адказаў раённы начальнік.

— Ты, мусіць, забыўся, Васіль Нічыпрыч,— працягнуў пракурор,— што Ленін у свой час сказаў, што трэба дзяліцца... А тое, што сказаў у свой час Ілліч, распаўсюджваецца і на нашы часы...

— Не зразумеў, Кірыл Мяфодзіч! — насцярожыўся раённы начальнік.— З вамі я гатовы падзяліцца апошняй кашуляй.

— Кашуля мне твая не трэба! — абарваў тэлефоннага суразмоўцу пракурор.— Я маю на ўвазе іншае!

— А што, Кірыл Мяфодзіч? — яшчэ больш навастрыў вушы раённы начальнік.— Чым яшчэ мне трэба з вамі падзяліцца?

— Дык вось, Васіль Нічыпрыч, калі не хочаш гнісці ў турме, прывязі мне хуценька тое, што ляжыць у тваім сейфе, закручанае ў белую тканіну. Зразумеў?

Праз некалькі хвілін чорная «Волга» на шалёнай хуткасці імчала да пракурорскага будынка, а на пярэднім сядзенні, побач з шафёрам, сядзеў збялелы Васіль Нічыпаравіч, той раённы начальнік, і гэткімі ж збялелымі пальцамі сціскаў закручаны ў тканіну самародак.

Тым часам дзед Аўдзей «даспеў». Знерваваны, схуднелы, ён, нарэшце, расказаў усё сваёй жонцы.

Вестку пра дзедаву знаходку падхапілі ўсе навакольныя вёскі, гэта навіна імклівай хваляй расцякалася ўсё шырэй і шырэй. Дзіва, але нават прэса не пабаялася распісаць да дробязей усе прыгоды дзедавага самародка. Дзед ад гэтага не пабагацеў, але зрабіўся знакамітым, як тая кіназорка. Потым і такая вядомасць надакучыла старому, бо розныя карэспандэнты ды проста цікаўныя людзі не давалі прадыху з пытаннямі і інтэрв'ю. Капае дзед бульбу, натыкаецца рыдлёўкай на камяні, а мацюкнуцца нельга, бо вакол яго — цэлая табала з мікрафонамі ды тэлекамерамі. Не будзеш жа мацюкацца ў прамым эфіры!

Дзед пляваўся:

— Калі ўжо надыдзе гэтаму канец?..

І канец, нарэшце, надышоў. У раённым судзе разглядалася справа аб прысваенні службовымі асобамі залатога самародка.

У загарадцы для падсудных стаяў участковы інспектар, а побач з ім раённы начальнік, пракурор і першы сакратар раённага камітэта партыі, да якога ў сейф паспеў перавандраваць неўтаймаваны залаты самародак.

На стале, перад суддзямі, навідавоку ўсёй залы, ляжаў пляскаты камень з бліскучай насечкай ад дзедавай рыдлёўкі.

Сам жа Аўдзей прысутнічаў у зале суда як галоўны сведка.

Паколькі суд быў адкрыты, а справа гэта ўзрушыла ўвесь раён, зала была біткам набіта людзьмі.

Суддзя абвясціў сутнасць судовай справы і звярнуўся да падсудных:

— Ці прызнаяце вы сябе вінаватымі?

Падсудныя нізка апусцілі галовы.

Тут з залы пачулася:

— Дазвольце мне зірнуць на гэты самародак! — І да суддзяў накіраваўся ваенны афіцэр.

Суддзі разгубіліся: што рабіць? Але не паспелі яны даць дазвол ці забараніць, як вайсковец асцярожна ўзяў самародак у рукі, уважліва агледзеў яго і звярнуўся да залы:

— Грамадзяне! Прашу спакойна, без панікі пакінуць памяшканне, бо гэта не залаты самародак, а так званая вечная нямецкая міна часоў першай сусветнай вайны. Вось блішчыць аголены рыдлёўкай яе неіржавейны корпус...

Што тут пачалося! Суддзі палезлі пад стол. Усе разам кінуліся да дзвярэй, штурхаючы адно аднаго. Дзед Аўдзей даўся ў падвойнае акно, выбіў лысінай шкло і залёг па-ваеннаму ў нейкай лагчыне.

— Я ж у першую сусветную вайну быў сапёрам!. Праз мае рукі прайшла безліч гэткіх мін! Куды глядзелі

мае вочы? — не мог супакоіцца дзед.— Золата! Вось што затуманіла мае мазгі! Якое гэта брыдкае слова! Яно сапсавала на старасці год увесь мой аўтарытэт!..

Але стары памыляўся, бо праз дзень увесь раён, пачуўшы выбух знішчанага на палігоне дзедавага «самародка», удзячна выдыхнуў:

— Слава дзеду Аўдзею! Дзякуючы яму правасуддзе выкрыла столькі несумленных людзей!

## Гумар – рэч небяспечная

Савось адбіў ногі, шукаючы да свайго тэлевізара патрэбны блок з нейкімі мудрагелістымі транзістарамі ды дыёдамі. Што гэта за штуковіна, Савось не меў паняцця, але назву і марку неабходнай дэталі крамзануў яму на паперы вясковы дамарослы майстар, які абяцаў Савосю, пры наяўнасці гэтага блока, вярнуць тэлевізару і гук, і выяву на экране.

Савось ні да якай іншай тэхнікі, нават да трактара, не шукаў бы гэтак доўга і настойліва запчастку, але тэлевізар у вёсцы — найпершая жыццёвая патрэба.

Нарэшце добрыя людзі параілі:

— Дуй, браток, на базар! Там пры жаданні кулямёт купіш, не тое што запцацку да тэлескрынкі!

На базары ў Савося вочы разбегліся — тут было ўсё, праўда, акрамя кулямёта. Усё-то яно ўсё, а вось патрэбная рэч не траплялася. Хацеў расчараваны Савось пайсці да выхаду, але пачуў непадалёку выбух рогату. Рагаталі прадаўцы markup рознай дробязі, пэўна, «травячы» анекдоты.

У Савося было моташна на душы, ён даўно ўжо не смяяўся, таму сумна падумаў: «Няўжо людзі яшчэ могуць смяяцца?.. Падыду паслухаю краем вуха, з чаго гэта яны...»

Савось бачком падышоў да вясёлай кампаніі і ўбачыў, што адзін з рагатуноў гандлюе тэлевізійнымі запчасткамі. Наблізіўшыся да прылаўка, ён пачуў:

— Вось так, хлопцы, гумар — справа тонкая!

— І небяспечная! — не стрымаўся Савось.

Вясёлая кампанія здзіўлена зірнула на яго посную фізіяномію.

— Што? Ты хочаш сказаць, што гумар тоіць у сабе небяспеку? — спытаўся ў Савося гандляр.

Савось пакорпаўся ў кішэні і дастаў паперку з назвай неабходнага блока:

— Я нічога не хачу сказаць, мне б даведацца, ці не будзе ў вас вось гэткай запчасткі.

Прадавец узяў паперку, прачытаў і кажа:

— Ёсць такая запчастка! Каштуе яна дорага, амаль паўтэлевізара, але... Хлопцы, чуеце? — звярнуўся ён да суседзяў па прылаўку, з якімі хвіліну назад рагатаў.— Але калі гэты пакупнік з поснай фізіямордыяй зараз дакажа, што гумар — рэч небяспечная, я яму аддам вось гэту дэталь задарма! Ну, мужык, лаві птушку шчасця! — павярнуўся ён да Савося.

— Што тут лавіць? — сумна адказаў пытаннем на пытанне Савось.— Мая птушка шчасця, праз мой гумар, ад мяне — ф-ррр! — і паляцела. Пасля гэтага мне ад гумару моташна робіцца...

— Ты бліжэй да яснасці! — патрабуе прадавец.— Абстракцыянізмам нас не возмеш, давай канкрэтыку!

— Калі ласка, канкрэтыку,— сказаў Савось і закурыў, рыхтуючыся да доўгай гаворкі.— Дык вось, канкрэтыка: стаю я аднойчы ля сваёй хаты і гэтак, як з вамі, дымлю цыгарэтай. Перад тым як выйсці на двор, кульнуў я не слаба і, відаць, расчырванеўся, што тая спелая памідорына. Дакурыў цыгарэту і хацеў ісці ў хату ды, пакуль там няма жонкі, дапіць астатняе, аж бачу, клыпае дзед Даніла — пад’ялдычнік ды анекдотчык. Ага, думаю, зараз будзе каверзы свае накручваць вакол мяне. Але й мне падпітаму палец у рот не кладзі.

Дык вось, падыходзіць гэты стары шальмец і пытаецца:

— Што гэта ты, Савоська, расчырванеўся, як шворань у кузні?

Ну, думаю, дзед, трымайся!

— А я ж, дзед Даніла, толькі што з лазні. Напарыўся і першы выскачыў, бо дух сёння зверскі, а мужчыны яшчэ там хвошчуцца.

— Сёння мужчынская лазня?! — ажно падскочыў дзед.— А як гэта я праспаў?..

Дзеду Данілу было за восемдзесят, але парыльшчык ён быў першы ў вёсцы. Пасля таго як не стала яго жонкі, здавалася, уся зямная і незямная любоў дзеда была аддадзена лазні.

— Ну, Савоська, дзякуй! Век не забуду! — І дзед подбегам падаўся дамоў, схапіў там парыльныя прычындалы — і ў лазню.

— Гэтага ты, дзед, сапраўды век не забудзеш! — хмыкнуў я яму ўслед.

— Дзе тут трагедыя праз камедыю? — не вытрымаў прадавец.— Тут нават і не пахне гумарам.

— А гумар у тым,— тлумачыць Савось,— што лазня сапраўды была ў гэты дзень, але не мужчынская, а жаночая.

Ужо вечарэла, і дзед Даніла прыцемкам прыкалдыбаў на сваю любімую парыльную працэдуру. З заходам сонца цісkануў марозік, а з марозу праз адчыненыя дзверы разам з чалавекам у лазню ўвальваюцца такія клубы пары, што рук сваіх перад носам не бачыш, не тое што іншых парыльшчыкаў.

Вось дзед Даніла і ўваліўся разам з клубамі пары да баб, дзе, дарэчы, і мая жонка змывала нацельныя грахі.

Крэкча дзед, войкае, ды, як той сліж, завіхаецца з тазікам між баб. Ускочыў ён на самы высокі палок і камандуе:

— Паддай духу, мужычкі! Ледзь кратаецеся тут без мяне, як тыя бабы! Весялей, ядрона вош!..

Савось прыкурыў другую цыгарэту і зацягнуўся.

— А што было далей? — зацікавіліся гандляры.

— А далей,— горка ўздыхнуў Савось,— мая птушка шчасця пырхнула і пераляцела да дзеда Данілы. Вось вам і гумар. Зламаў гумар мой лёс, разбурыў сям’ю...

— Ды не можа быць такога! — ускочыў прадавец.— Табе ж на выгляд не болей за сорак гадоў, а жонцы тваёй,

пэўна, яшчэ меней... Яна што, пайшла ад цябе да васьмідзесяцігадовага?

— Вось ужо тыдзень, як пайшла,— сумна пацвердзіў Савось.

— Ай ды дзед! — усклікнуў хтосьці з слухачоў.

— Ну,— пагадзіўся прадавец тэлезапчастак,— дэталь твая, браток! Сапраўды, гумар нарабіў бяды — не пазайздросціш!

Савось дастаў грошы:

— Не хачу я за сваё гора суцяшальнага прыза! Плаціць трэба за ўсё — і за гумар, і за запчасткі. Бывайце, хлопцы! — і Савось, разлічыўшыся, накіраваўся на аўтавакзал, а адтуль — дамоў.

Падышоў да сваёй хаты і здзівіўся — снег расчышчаны аж да ганку, на дзвярах няма замка. Шчаслівы Савось заскочыў у хату. Божа мілы! — яго жонка, прыбраная ды вясёлая, сустракае гаспадара:

— Заходзь, міленькі! Падсілкуйся з дарогі, але спачатку скажы: купіў запчастку да тэлевізара ці не?

Савось ускіпеў:

— Якога тэлевізара? Якую запчастку? Што, у старога Данілы тэлевізар сапсаваўся?

Жонка зарагатала:

— І ты паверыў, што я пайшла да дзеда Данілы? Гумар, даражэнькі, справа тонкая.

— Якая тонкая? — не сунімаўся Савось.— Дзе цябе чэрці насілі?

— А ты думаеш, што толькі ты адзін такі гумарыст? Закінуў нам у лазню старога чалавека і квітнееш на марозе!

— Дзе ты была цэлы тыдзень? У цябе пытаюся! — не адступаў Савось.— Я тут і свіней карміў, і карову даіў, і ў печы паліў... А ты? Ты ж сказала, што мяняеш мяне на Данілу.

— А я,— абняла яна мужа,— пайшла да сястры ў суседнюю вёску ды спакойненька дагледзела свой любімы

тэлесерыял, а заадно і адпачыла ад працы, якой ты мяне заваліў па горла. Не пакінула б я цябе — і год стаяў бы зламаны тэлевізар, а так ты, бачу, і парадак трымаў у гаспадарцы, і ў горад злётаў... Дык купіў ці не?

— Купіў! — дастаў і паказаў жонцы неабходную дэталь Савось, затым схапіўся за галаву: — Ой, дурань! Навошта ж я купіў? Я ж мог гэта забраць задарма!... Але,— і Савось абняў жонку,— дзякуй Богу, што я заплаціў, бо за гэткі гумар трэба плаціць!

## Упартая сухастоіна

Кожную раніцу, распальваючы печ, баба аднначасова паліла і свае, і дзедавы нервы:

— Калі ўжо нашчапаеш мне лучыны? Сырыя дровы не гараць, распаліць іх няма чым, а ты палежваеш ды пакурваеш, быццам не гаспадар, а кватарант. Да печы іду, як да прынукі...

І гэтак кожную раніцу: бу-бу-бу ды бу-бу-бу.

Лопнула дзедава цярпенне:

— Збірайся, пойдзем у лес! Нагледзеў я там сухастоіну смалістую ды ад карыцы чыстую. Звалім яе, і скончыцца твая прынука.

І пайшлі старыя ў лес, узяўшы пілу ды сякеру. Падышоўшы да сухастоіны, дзед, як той настройшчык музычных інструментаў, далікатна пастукаў абухом па камлі:

— Чуеш, як вызвоньвае? Не раўнуючы як царкоўны звон!

— Добрая будзе падпалка! — згаджаецца баба.

— Ты прыкладзі вуха! Прыкладзі! Музыка, а не хваіна!

Пачалі пілаваць, укленчыўшы ды крэкчучы. Піла трымцела і скакала, ніяк не магла ўгрызціся ў сухое дрэва.

— Бачыла?! — перакрыкваў дзед дрынчанне пілы і бабіна кректанне.— Жалеза — не сасна! Гарэць будзе вечным агнём!

Нарэшце на два бакі пырснула смалістае пілавінне, і піла паціху пачала ўглыбляцца ў ствол.

— О-ох! Пачакай, болей не магу! Адпачнем! — хапала баба паветра ротам, як рыбіна без вады.

Дзед, аддыхваючыся, нахвальваў будучую бабіну распалку:

— Яна даўно мне ў вочы кінулася, гэта сухастоіна. Абыдзі ўсе лясы і пушчы — другой гэткай не знойдзеш!

Зноў з-пад пілы паляцела ў бакі пілавінне, зноў напружана закракталі старыя. Пачулася патрэскванне, і сухастоіна пачала паволі хіліцца.

— Даразай! Не спыняйся! — камандаваў дзед і сам з апошняй сілы цягаў за ручку пілы.— Адыдзі! Глядзі, каб не скруцілася!

Старыя, наколькі хапала спрыту, адбегліся і ледзь здыхваліся.

— Ой! Куды?.. Во каб цябе немач! — Пабег дзед, піхаючы хваіну, але, піхай не піхай, завісла яна на суседняй елцы, быццам магнітам прыцягнутая.

Дзед з гарачкі піхаў, мітусіўся, зноў піхаў і пляваўся, пасля накінуўся на жонку:

— Казаў табе, заразай свой бок. Націскаць трэба было на пілу, а не віснуць на ёй!

— Гэта ж ты падсек не ў той бок! — баранілася баба.— Зірні, дзе падсечка! Яна туды і кіравалася, куды была падсечана.

Дзед абышоў сваю, самую лепшую на ўсім свеце, сухастоіну:

— Што цяпер рабіць? Як яе адтуль спароць? Счапіліся намертва...

— А тут, акрамя аднаго, нічога і не зробіш,— стомлена кажа баба.

— Чаго аднаго? — пытаецца дзед.— Плюнуць і пайсці дамоў?

— Навошта дамоў! Трэба зрэзаць яліну, вось і ўсё.

— Яліну? — не зразумеў дзед.— Яна ж жывая! Вунь — у неба ўпіраецца! Шкада!

— Тады дамоў! — распальваецца баба.— Ты будзеш далей курыць на баку, а я пакутаваць ля печы... Бяры пілу і заварочвай аглоблі, кватарант!

Дзед як успомніў штодзённае жончына «бу-бу-бу» ды гэта абрыдлае «кватарант», адразу адчуў па ўсім целе нервовыя дрыжыкі.

— Ты думаеш, гэта проста, зваліць такую яліну? —

пачынае здавацца стары.— Пачне кратацца яліна, а сухастоіна ўлупіць па гарбе.

— Адскочым! — націскае баба.

— Ну, яліну дык яліну,— вымушаны згадзіцца стары,— але куды яе, прыгажуню, накіраваць, каб таксама не завісла?

— Падсячы на гэты раз як трэба! — кіруе баба.— Ой, шкада яліны, ой, шкада! — спачувае дзед дрэву, ходзячы вакол яго.— Ага, вунь у той прасвет яе і пусцім, бедалагу... Там яна не зачэпіцца, гаротніца...

— Ты менш балбачы пад нос, а хутчэй падсякай! — падганяе жонка.

Дзед узяў у рукі сякеру, папляваў на далоні і, яшчэ раз зірнуўшы ўгару, прымяраючыся, раптам крыкнуў:

— Стой! Якую яліну?.. Глянь, старая, угару! Зірні!

Баба падклыпала да дзеда:

— Што там? Якога ражна ты яшчэ ўбачыў?

— Ты ж зірні — гняздо! Гняздзечка нейкай птушкі! Бачыш?

— Ну, дык што тут такога? — здзівілася баба.— Мала ў лесе гнёздаў?

— А птушка? А калі там птушаняткі? — гарачыўся дзед.

— А калі іх там няма? — насядала баба.— Гняздо, можа, пустое, старое! Гэтак мучыліся, а ты, дурны, хочаш з-за пустога гнязда ўсё кінуць!

— Я не душагуб! Няхай сабе я — кватарант, няхай — дурны, але не душагуб! І няхай твая печ...— Тут дзед злавіў сябе за язык, бо ведаў, што для жонкі печ — самае вялікае багацце. Ды і сам стары быў удзячны печы і за цяпло, і за смачную страву, якую згатуеш толькі ў печы...

— Дык што няхай мая печ? — падскочыла да старога баба.

— Нічога,— залыпаў вачыма дзед.— Я хацеў сказаць, няхай твая, прабач, няхай наша печ пачакае, пакуль мы адчэпім гэту сухастоіну...

— Дык адчапляй, а не заглядайся на пустыя гнёзды! — камандуе баба.

— А калі...

— Хопіць калікаць! — траціць цярпенне старая.— Падсякай!

Стары жаласліва тлумачыць:

— Не, я хацеў сказаць, а калі я па гэтай нахіленай сухастоіне ўзбяруся вунь туды і зверху зазірну ў гняздзечка... Няма ў ім стрынатак — і будзе па-твойму... Га?

Старая правяла вачыма па нахіленым сухім дрэве:

— Высока! Галаву скруціш за нейкіх птушанят.

— Не скручу! Ды я ў маладосці...

— Знайшоў што ўспамінаць! Я ў маладосці, на цяперашні розум, аббегла б цябе за дзесяць вёрстаў і сотай заказала б... Лезь! Скруціш ты сёння галаву — чуе душа!

Дзед папляваў на далоні і, абхапіўшы хваіну рукамі і нагамі, пачаў караскацца ўверх.

— Глядзі, штаны не падзяры! — распарадзілася старая.

Дзед моўчкі караскаўся вышэй і вышэй. Ствол дрэва быў без кары і сапраўды гладкі, быццам яго адшліфавалі. Недзе на сярэдзіне дзед спыніўся.

— Ну што? Чаму прыпыніўся? Лезь! — камандавала знізу жонка.

Дзед, заплюшчыўшы вочы, моцна абхапіў сухастоіну, прыцiснуўся шчакой да ствала.

— Заснуў ты там, ці што? — не сунімалася старая.— Лезь да сваіх птушанят!

— Не магу! — прахрыпеў дзед не сваім голасам.— Не магу крануцца, галава закруцілася так, што згубіў, дзе зямля, дзе неба.

— Зямля там, дзе я! Лезь назад, ды штаны не падзяры!

Дзед, не адкрываючы вачэй, зноў прахрыпеў:

— Назад яшчэ горш! Назад — я звалюся!

— Дык лезь уперад! Не сядзець жа табе там вечна, як

жаба на купіне! — пачала злавацца жонка.— Кратайся! Успомні, што там было ў маладосці!

Дзед, магчыма, штосьці ўспомніў з маладога жыцця і палез далей.

— Мала засталося! — падбадзёрвала баба.— Ты ўжо каля яловых лапак! Гняздо бачыш?

— Не! — адгукнуўся дзед.— Пакуль не! Лапкі замінаюць! Я зараз яшчэ крыху...

Раптам хваіна, а на ёй і дзед, з трэскам шуганула ўніз.

Баба кінулася да яе і спужана загаласіла:

— Забіўся-такі! Я ж казала, скруціш галаву! Дзе ты, гора маё?

Аббегла, галосячы, вакол сухога дрэва, якое распласталася на імху, а старога — нідзе!

— Ой, забіўся! Расцерла ў парашок — нічога не засталося! — заломвала рукі баба.

— Ды тут я! Жывы! — пачулася зверху.

— Дзе тут? — задрала баба галаву.

— Тут, на яліне!

— Жывы хоць?

— Жывы, здаецца!

Баба абурылася:

— Каб ты галаву скруціў, як ты мяне напужаў! Што ты там робіш?

— Сам не ведаю! — адказаў дзед.— Як трэснула пада мной сухастоіна ды як шуганула ўніз, я і апынуўся на яліне.

— Злазь! — закамандавала жонка.— Сядзіш там, як варона!

Дзед асцярожна, з лапкі на лапку, злез з дрэва:

— У-ух, прыгажуня якая ляжыць! — паказаў на хваіну, быццам нічога і не было.

— Бяры пілу, прыгажун, разразаць трэба яе! Заначуеш з табой тут! — гыркнула баба і раптам войкнула: — Глянь! Дык вось жа і тое гняздо разам з табой звалілася з яліны!

— Дзе? Няўжо? — схамянуўся дзед.— Пакажы!

— Я ж табе казала: старое і пустое! — падала яму баба сапраўды даўно кінутае птушкамі гняздо.

— Дзякуй Богу, і яліну рэзаць не давялося, і птушак не патрывожылі! — асцярожна паклаў дзед на мох пустое гняздо...

Назаўтра раніцай у печы весела патрэсквалі дровы і баба ледзь паспявала выхопліваць з патэльні на стол пульхныя бліны.

— Гаспадар,— клікнула яна старога, які ляжаў на баку і курыў,— пара снедаць! Калі ласка, за стол!

Дзед устаў з ложка:

— Нарэшце я — гаспадар, а не кватарант.

## Па шляхах «баявой славы»

Не спалася дзеду Ігнату. Пракручваў у памяці ўсё сваё жыццё, быццам падводзіў вынік доўгіх дзесяцігоддзяў, дзе было ўсякае — і чорнае, і белае.

Неяк раніцай кажа дзед сваёй жонцы:

— Збяры ты мне што ў дарогу хоць на адзін зуб — заседзеўся я дома!

— Што яшчэ за дарога? — насцярожылася жонка.

Дзед Ігнат загадкава працягвае:

— Ваўка і таго цягне пад канец жыцця да сваіх колішніх логаваў.

— А цябе куды пацягнула ў твае гады? Хіба ж тваё логава не тут?

Дзед тлумачыць:

— Надумаў я, бабка, прайсціся па шляхах баявой славы, па сцяжынах маладосці! Былое не пакідае мяне!

— Ты што, ажно да Берліна пойдзеш? — напужалася старая.

— Не, да Берліна я ўжо не хадок, а вось іншыя шляхі-пуцявіны праведаць трэба...

І дзед Ігнат, насуперак жончыным забаронам, падаўся з хаты шукаць сустрэчы з маладосцю. Выйшаў ён за вёску і спыніўся, як той віцязь на скрыжаванні — адкуль пачаць?

— Пайду спачатку ў вёску Загулінку! — вырашыў дзед Ігнат.— Здаецца, там жыве маё першае каханне — Любіначка! Колькі ж гэта ўжо адлістала жыццё? О-о! Гадкоў шэсцьдзесят мінула пасля ўсяго таго... Ці пазнае? Ці прывітае?.. Што б там ні было, а пабачыцца нам перад смерцю не пашкодзіць...

І вось праз нейкі час дзед Ігнат прыплёўся ў Загулінку. Доўга дапытваўся ў вяскоўцаў, дзе жыве Любіна, як дзед ім тлумачыў, курносенькая ды сінявочанькая, прыгожань-

кая ды шчабятлівенькая. Нарэшце дзедаў язык прывёў яго да хаты, у якой, як сказалі вяскоўцы, і жыве тая, каго шукае стары.

Дзедава сэрца ледзь не выскоквала з грудзей, калі ён, ступіўшы на ганак, пастукаў у запаветныя дзверы.

На стук з хаты выйшла прыгожая дзяўчына і спыталася:

— Вам каго, дзядуля?

Дзед Ігнат ад хвалявання не мог крануць языком.

Дзяўчына гукнула ў хату праз адчыненыя дзверы:

— Мама, бабуля, тут нейкі дзед з торбай, відаць, жабрак! Што яму даць?

Да дзяўчыны на ганак выйшла згорбленая, сівая баба з кійком у руцэ.

— Што, чалавеча, шукаеш? — спыталася яна ў дзеда Ігната.

Стары апрытомнеў і сам спытаўся:

— Ці магу я пабачыць Любіну... сінявочанькую ды курносенькую?

— У нас такіх няма, чалавеча! — адказала баба.— Маё то імя Любіна, але астатняга, што назваў, чалавеча, у нас няма.

Тут дзед Ігнат, як кажуць, спусціўся з неба на зямлю і скумекаў, што гэты гарбаты нос старой бабы, магчыма, быў калісьці курносым, а выцвілыя вочы маглі быць у маладосці блакітнымі.

— А вы, Любіна... прабачце, а ты не тая Любіна, якая калісь перабірала пальцамі завіткі кучаравай чупрыны чарнявага Ігната і клялася помніць яго да самай смерці? — перапытаў дзед іначай.

Згорбленая старая ўважліва агледзела дзедаву лысіну, потым пільна зазірнула незнаёмцу ў вочы і шэптам спыталася:

— Ты-ы?

Дзяўчына, якая першая сустрэла дзеда, з цікавасцю за ўсім назірала.

— Ты Ігнат? — паўтарыла пытанне баба.— Той самы чарнявы Ігнат?

— Я! Гэта я, Любіначка! — узрадаваўся дзед.— Пазнала! Прызнала, золатка!

— Унучачка, гэта ён! — звярнулася яна да дзяўчыны, потым гукнула ў хату: — Сынок! Ідзі сюды хутчэй!

З хаты выйшаў «сынок» — даволі сталы мужчына, прывітаўся з дзедам і спытаўся:

— Што, мама, тут такое?

— Вось,— паказала старая на дзеда Ігната,— вось ён, кучаравенькі ды чарнявенькі, праведаць нас прыйшоў! Які прыгажун! Які маладзец!

— Што ты, мама,— усміхнуўся мужчына,— які ж ён кучаравенькі ды чарнявенькі? Навошта ж зневажаць старога чалавека?

— Чалавека?! — падскочыла старая, потым торкнула сваім кійком ледзь не ў нос дзеду Ігнату.— Ты шэсцьдзесят гадоў таму кінуў мяне падманутую і брухатую! Ты збаламуціў маё жыццё і знік назаўсёды, а сёння шукаеш курносенькую ды сінявокую! — І баба ёмка ўлупіла кіем па дзедавай лысіне.— Вось табе яшчэ! І яшчэ!

Дзед Ігнат, якога пазналі тут і прызналі, плятануў з двара так, што вясковыя сабакі адсталі ад яго на вярсту. Ды што сабакі! Пэўна, той чарнявы ды кучаравы Ігнат пазайздросціў бы гэткаму спрыту.

Апамятаўся і перавёў дух дзед толькі за вёскай:

— Во кручканосая сава! Ці ж можна так палкай лупіць па галаве? Вунь колькі шышак ускочыла! Не хадзіў я да цябе шэсцьдзесят гадоў, яшчэ столькі не пайду!

Паклыпаў дзед прэч, разважаючы на хаду: «Куды пайсці далей? Каго пабачыць яшчэ?.. Наведаюся я ў вёску Вясёлка, там павінна жыць Лазовіч Ганна. Праўда, Лазовіч — яе дзявочае прозвішча, а па мужу... Ды чорт з ім, што мне яе муж! Пайду!» — І дзед Ігнат нетаропка падаўся далей па слядах «баявой славы».

У вёсцы Вясёлка, дзеду на здзіўленне, хату Лазовіч паказалі адразу. Аказваецца, яна як была на дзявочым прозвішчы, так на ім і засталася, бо замуж ніколі не выходзіла.

Ганна была маладзейшая за дзеда гадоў на дзесяць, таму выглядала хоць і старой, але яшчэ даволі жвавай.

— Ты Ігнат? — спыталася другое дзедава каханне п’янаватым языком.— А які Ігнат? Напомні!

— Я той Ігнат, памятаеш,— горача тлумачыць дзед,— той, чарнявы ды кучаравы!

— Які ж ты кучаравы? — здзівілася падпітая Ганна.— Ты ж аблезлы і плюгавы!

— Ды не! — гарачыцца дзед.— Я тады быў...

— Тады-муды! — перадражнівае дзеда Ганна.— Ды ў мяне было чарнявых ды рудых, як у сабакі блох! Напомні яшчэ!

— Ды не! — зноў гарачыцца дзед.— Я той Ігнат, які — памятаеш? — паваліў цябе маладзенькую на салому і... і ты потым сказала, што быў у цябе першы... Ну? Прызнала? Ну, Ганначка!

— Пачакай! Пачакай! — пачала ўважліва разглядаць старога захмялелая баба.— Штосьці прыпамінаю... А потым ты валяў мяне на сена... Так? Гэта быў ты?

— Так! Так, Ганначка! То салома, то сена! Прызнала, золатка!

— А потым ты мне абяцаў залатыя горы. Так?

— Так, Ганначка, так! Пазнала! — выцер памакрэлыя вочы дзед.

— Ой, пазнала! Дай жа я цябе хоць праз столькі гадоў пацалую! — І Ганна з усяго замаху гвазданула дзеду кулаком пад вока.— Вось табе, кучаравенькі! А гэта табе, плюгавенькі! А гэта табе, аблезлы кот!

І кожны раз Ганнін кулак горача «цалаваў» дзеда.

Старому зноў давялося паказваць маладзецкую спрытнасць.

— Во алкашынае стварэнне! — ледзь перавёў ён дых за вёскай.— Нагі маёй болей у цябе не будзе! — І дзед зноў пачаў планаваць далейшы маршрут цікавых сустрэч і ўспамінаў.

Дзе ён быў і з кім сустракаўся яшчэ, аднаму яму вядома. Дамоў жа дзед Ігнат прыплёўся ўвесь у сіняках і шышках.

Жонка здзівілася:

— Ніколі не магла нават падумаць, што на колішніх шляхах баявой славы дагэтуль ідуць баі...

Дзед нічога не адказаў і, знясілены, бухнуўся ў пасцель.

## Яблычны Спас

Жылі сабе дзед і баба, распачаўшы дзевяты дзесятак гадоў. Жылі ў згодзе і радасці, бо толькі неразумны чалавек можа жыць не радуючыся кожнаму новаму дню, падараванаму Богам.

З усёй гаспадаркі ў іх засталася адна толькі яблыня, гэткая ж старая, як і гаспадары. Адквітнела сваё яблыня, адпладзіла і дажывала век ціха і ўдзячна. Але ў гэтым годзе дрэва расшчодрылася і прынесла старым вялікую ўцеху — аж сем яблыкаў. Узрадаваліся дзед і баба — будзе з чым сустрэць Яблычны Спас ды разгавецца на свята. Падыходзілі старыя штодня да яблыні і пяшчотна гладзілі яе па шурпатай кары — дзячылі.

Але аднаго дня дзед спужаўся сам і напалохаў старую:

— Хтосьці крадзе нашы яблыкі! Было сем, засталося толькі пяць... Трэба пільнаваць ноччу яблыню ад злодзеяў, бо праз два дні Спас — барані Бог, застанемся ні з чым.

Вечарам узяў дзед кажух падаслаць, зарадзіў сваю стрэльбу-шомпалку і залёг пад дрэвам. Стрэльба была старэнькая, курок, калі націснеш на яго, пырскаў убок, і яго даводзілася шукаць, таму дзед начапіў курок на нітку. У дадатак да гэтага збілася мушка і, каб патрапіць у штосьці, трэба было цэліцца на два метры лявей. Але стрэльба — гэта зброя, і дзед пры ёй адчуваў сябе больш мужна.

Ляжыць дзед ноччу пад яблыняй, натапырвае вушы — пільнуе. Але пад раніцу адолеў дзеда сон — ды які сон! Прысніўся старому шыкоўны стол з рознымі напоямі ды закуссю. Куляў дзед кілішак за кілішкам, еў ад пуза. Зноў куляў і зноў закусваў! І ўсё было смачнае, і ўсё спрыяла здароўю!

Прачнуўся дзед, як кажуць, з дзесятымі пеўнямі і аблізнуўся: ну, хоць жа ў сне дазволіў сабе тое, што ў жыцці забаронена!

Устаў дзед, абтрося, зірк наверх — і здрыгануўся: з пяці — засталіся толькі два яблычкі.

— Праспаў, разява! — застагнаў дзед і пасунуўся ў хату.

Пасварылася баба на дзеда, павойкала і сказала:

— Гэту ноч пільнаваць буду я, бо адступаць няма куды — заўтра Яблычны Спас!

Дзед вечарам праводзіць бабе інструктаж:

— Калі курок пстрыкне ў траву, цягні яго за нітку, як вуду з вады, і ўпраўляй у гэты разрэзік. Мушка хлусіць аж на два метры, таму — бяры лявей ад злодзея!

— Не бойся,— пераймае баба з дзедавых рук шомпалку,— дам рады зладзейству!

І старая залягла пад яблыняй, выткнуўшы для надзейнасці з-пад хусткі вуха. Мужна змагалася баба з дрымотай, зікраціла вочы што было сілы, ажно кругі свяціліся і карагодзілі на ўсё неба. І да таго раптам стала светла, што баба прыкрыла вочы даланёй, каб не аслепнуць. Глядзіць, ажно гэта падлятае да яблыні дзівосны срэбракрылы птах. Сеў ён на яблыню і пачаў дзёўбаць астатнія два яблычкі.

— Ах ты, курыца аблезлая,— шэпча баба,— зараз ты свайго пер’я не пазбіраеш! — І бярэ цудоўнага птаха на збітую мушку. Толькі хацела націснуць на курок, ажно птах ударыўся грудзьмі аб зямлю і абярнуўся ў прыгожага юнака.

— Не страляй мяне, краса-маладзіца! — узмаліўся прыгажун.— Дай лепей я цябе пацалую!

Зняла баба палец з курка і апусціла шомпалку:

— Цалуй! Колькі ўлезе цалуй!..

Дзед прачнуўся раніцай і пайшоў шукаць вартаўніцу. Падышоў ён да яблыні і бачыць: старая адкінула стрэльбу, распласталася на кажуху і шэпча скрозь сон:

— Цалуй! Колькі ўлезе цалуй!..

— Э-э, падаліца гнілая! — Дзед штурхануў бабу.— Мохам парасла, як балотная купіна, а пацалункі сніць! Цьфу!

Баба ўскочыла, як маладая:

— Я не спала! Я толькі вочы прыплюснула! Дальбожачка!

— Не спала?! — І дзед паказаў на пустое голле яблыні.— А яблычкі дзе?

Апусціла баба вочы:

— Надта ж салодкі сон падкаціўся...

Паснедаўшы, старыя зноў вярнуліся пад яблыню павіншаваць яе з Яблычным Спасам і падзячыць за мінулыя добрыя ўраджаі. Толькі ступілі пад дрэва, як дзед ускрыкнуў: — Ой! — і схапіўся за лысіну. З дрэва зваліўся яму на галаву спелы, ружовабокі яблык. Зірнулі старыя ўверх, а там вісяць і астатнія шэсць. Адхінуў ветрык лісце і адкрыў вачам спелыя плады.

— Як і куды мы глядзелі, вароны? — дзівіліся старыя.— Ай ды яблынька! Павіншавала нас са святам у самую пару!

# Пераўвасабленне дзеда Нічыпара

Служба ў царкве толькі пачалася, а дзеда Нічыпара развезла і пачало нудзіць. І не столькі дапінала старога духата і спёртасць паветра, колькі тое, што ён павячэраў не ўсухамятку, а прыклаўся да бутэлькі.

— Дало ж мне ўлезці ўсярэдзіну! — мармытаў дзед сабе пад нос, азіраючыся на шчыльны натоўп вернікаў вакол сябе.— Ды і ўвогуле, чаго было перціся сюды ў такім грахоўным стане!

Стары яшчэ раз азірнуўся — да выхаду не прабіцца, глянуў у бакі і пачаў праціскацца да цёмнага кутка, дзе можна было б да нечага прыхіліцца ці нават сесці, бо калені падгіналіся, як саламяныя.

Забіўшыся ў кут, дзед Нічыпар ушчаміўся за нейкую балдахінавую заслону, намацаў штосьці ля сцяны і з асалодай сеў.

У царкве чулася: «Госпаду памолімся!..», а стары аддаў сябе ў палон млявасці і дрымоты. Непрыкметна для сябе ён моцна заснуў, а прачнуўшыся, нічога не мог зразумець — вакол цемра, хоць вочы выкінь з-за непатрэбнасці. Дзед Нічыпар устаў, паспрабаваў ісці навобмацак, але на нешта наткнуўся лбом. Галава ў старога гула ад выпітай самагонкі, і ён плюнуў:

— Цукровая, гадасць, была!

Ён напінаў мазгі, але так і не ўспомніў, куды і чаго яго занесла.

Паторкаўшыся ў розныя бакі, дзед намацаў штосьці падобнае на засланы куфар і вырашыў:

— Дасплю я гэту ноч тут, а як развіднее, разбяруся, што да чаго.

І стары, скінуўшы боты ды раздзеўшыся да сподняга, уладкаваўся на новым месцы і зноў заснуў.

Праз нейкі час у сваёй хаце чарговы раз прачнуўся айцец Міфодзій, настаяцель гэтай вясковай царквы. Айца штосьці непакоіла і не давала спаць.

«А ці загасіў я ўсе свечкі ў царкве пасля службы? — лупянула думка па напятых айцовых нервах.— Толькі пажару мне і не хапае!»

Айцец Міфодзій хуценька апрануўся і на роспыты соннай пападдзі кінуў з дзвярэй:

— Беражонага Бог беражэ, матушка!

Усхваляваны святар подбегам дапяў да царквы, адчыніў дзверы і з палёгкай перахрысціўся:

— Дзякуй Богу, ні дымку, ні агеньчыка!

Летнія ночы кароткія, ужо гадзіны ў тры пачынае пакрысе днець. Цяпер быў прыкладна гэткі час, і вочы айца намацалі штосьці белае там, дзе стаіць рака. Ды не там, дзе стаіць рака з мошчамі святога Афанасія-велікамучаніка, а на ёй самой! Айцец Міфодзій памкнуўся запаліць электрычнае святло, але спыніўся:

— Толькі не сатанінскае святло! Магчыма, тут адбываецца святое прышэсце, а я святлом яго спалохаю!

Ціхенька, на дыбачках, айцец наблізіўся да белай таямнічасці і ледзь не ахнуў: на рацы ляжаў хтосьці — белыя босыя ногі, белае адзенне, белая галава. Учора пасля службы самаруч замыкаў царкву, у якой ніводнай душы не заставалася, а тут — адбываецца дзіва!

Святар зашаптаў:

— Святы Афанасій-велікамучанік увасабляецца ў жывую плоць! Вялікі цуд адбываецца ў маім прыходзе! Трэба збіраць людзей!

І айцец ціхенька выйшаў з царквы, прычыніў за сабой дзверы і як шалёны папёр ад хаты да хаты, грукаючы ў вокны:

— Браты і сестры! Прачынайцеся! Хутчэй у царкву! Адбываецца прышэсце святога Афанасія-велікамучаніка!

Заспаныя і перапалоханыя людзі выходзілі з хат на вуліцу і збіраліся ля царквы.

Узрушаны і збялелы ад святога таемства айцец Міфодзій асіплым голасам абвясціў прыхаджанам:

— Браты і сестры! Узрадуемся вялікай радасцю і ўздадзім Богу нашы шчырыя падзякі, бо да нас з нябёс спусцілася вялікая боская ласка! Дарагія браты і сестры! Мошчы святога Афанасія-велікамучаніка ўвасабляюцца ў жыватворчую плоць, і зараз мы ўсе будзем гэтаму сведкамі!

Айцец Міфодзій шырока і ўрачыста адчыніў дзверы царквы, і світанак дазволіў прыхаджанам убачыць жывую плоць таго, хто ляжаў, выпрастаўшыся, на святой рацы.

Аблічча таго, хто ляжаў у царкве, разгледзець было яшчэ немагчыма, але добра было відаць, што гэта чалавек — босы, увесь у белым, з сівой галавой.

Святар і ўсе прысутныя вернікі пачалі старанна хрысціцца і слаць хвалу Богу за гэты цуд.

Ранішняе святло і людскі гоман разбудзілі дзеда Нічыпара. Ён, салодка пацягнуўшыся, сеў на раку, цярэбячы патыліцу.

Прыхаджане на чале з айцом Міфодзіем бухнуліся на калені і загаласілі:

— Слава табе, святы Афанасій! Вечная хвала Богу за ніспасланы цуд на нашу зямлю!

Дзед Нічыпар працёр вочы:

— І прысніцца ж такое глупства! Што за бясконцая ноч!

Айцец Міфодзій на паўсагнутых нагах падступіў да дзеда, цмокнуў яму ў руку і за тую ж руку павёў яго да людзей:

— Паўстань перад людзьмі, святы Афанасій! Асяні іх сваёй жыватворнаю рукой!

Дзед Нічыпар, упэўнены, што гэта яму сніцца, паслухмяна клыпаў за святаром:

— Паўстаць перад людзьмі я магу... Чаму ж не паказацца людзям?

Калі айцец з дзедам выйшаў з царквы, бліжэй да святла, хтосьці ўголас здзівіўся:

— Святы Афанасій — выліты наш Нічыпар!

— А я і ёсць Нічыпар! — смаргануў угару споднікі дзед.

— Як Нічыпар? — разгубіўся святар.— А дзе ж святы Афанасій?

Толькі цяпер дзед Нічыпар зразумеў, што гэта не сон, і ўспомніў, як учора сп’яну заснуў і застаўся ў царкве. Толькі цяпер, азірнуўшыся, стары зразумеў, на чым ён гэту ноч спаў...

— Дык дзе святы Афанасій? — дапытваўся святар.

Дзед Нічыпар цяпер ужо сам бухнуўся на калені і пачаў цалаваць святарову расу:

— Даруй, айцец Міфодзій! Грахаводнае маё нутро спала гэту ноч на святым Афанасію!

Вяскоўцы разагнулі спіны, выпрасталі ногі і пляваліся на ўсе бакі:

— Перад кім мы стаялі на каленях! Сораму не абярэшся!..

Але потым пры сустрэчы з дзедам Нічыпарам употай хрысціліся.

# Цемра непрабудная

Калі ў раённым цэнтры адчынялі музей сучаснага мастацтва, мала хто здзівіўся: жыццё шыбуе наперад, унутраны ўзровень кожнага чалавека імкліва набірае новыя вышыні.

Здзіўленне прыходзіла пазней, пасля наведвання музея і прагляду экспазіцыі. Але і тады мала хто здзіўляўся ўголас — кожнаму хацелася бачыць на голым каралю адзенне.

Тут трэба дадаць, што раённы цэнтр — усё ж правінцыя, якая не жадае пагаджацца з гэтым і пры выпадку стараецца не саступіць сталіцы.

Адкрыццё музея, ды яшчэ сучаснага мастацтва,— чым не нагода даказаць, у першую чаргу сабе, што раённыя гледачы не менш сучасныя, чым сталічны бамонд? Вось чаму кожны экспанат, кожны твор, выстаўлены ў раённым музеі, расхвальваўся ў гучных і няспынных «рэцэнзіях» наведвальнікаў. Гарачыя «ахі» ды «охі» перапаўнялі залы музея.

Так здарылася, што Ірэна Дасужая патрапіла на адкрыццё музея без мужа Трахіма. Ён заворваў іржонішча на сваёй сядзібе і маніўся наведаць музей іншым разам, бо конь быў чужы, а сёння конь — не меншы дэфіцыт, чым музей, нават сучаснага мастацтва.

Як і абяцаў жонцы, Трахім наступным днём накіраваўся ў куток прасвятлення і ачышчэння. Якое ж было здзіўленне яго жонкі, калі праз паўгадзіны ён вярнуўся дамоў і абурана плюнуў:

— Як сіраце жаніцца, дык маладая ўцякла з другім!

— Што здарылася? — спалохалася Ірэна.

— А нічога! Там, аказваецца, рамонт распачалі,— адказаў Трахім.

— Які рамонт?! Ты што?! — падскочыла Ірэна.— Толькі ўчора адбылося адкрыццё! Ты, мусіць, не туды патрапіў?

— Не лічы мяне за дурня! — адрэзаў Трахім.— Быў я ў музеі — там рамонт, табе кажу. Нагу няма куды паставіць.

— Якую нагу! — яшчэ больш усхадзілася Ірэна.— Пайшлі разам, не веру я табе!

— Не верыш — хадзем,— згадзіўся Трахім, і яны падаліся да музея.

Пераступіўшы яго парог, Ірэна здзіўлена спыталася:

— Ну? І які дзе рамонт?

Трахім здзівіўся яшчэ больш за жонку:

— Ты што, аслепла? Глянь пад ногі, зірні на сцены!

— Ну і што? Зірнула!

— Як што? Вось пад нагамі стос гнілых дошак, а зверху кавалак нейкай жалезіны! Што гэта? — паказаў Трахім.

— Гэта?! Дык гэта ж кампазіцыя вядомага мастака Ахлэмкіна «Эвалюцыя прагрэсу»,— тлумачыць з выглядам знаўцы Ірэна.

Трахім паціснуў плячыма і паказаў вышэй:

— А вунь на сцяне кавалак парванай шпалеры з раздушаным клапом. Што гэта за кампазіцыя?

— Гэта — увасабленне вобразнасці і навізны ў мастацтве: «Настальгія па мінулым»,— выконвала ролю гіда жонка.

Трахім скрывіўся:

— Ты прабач мне: ці я зусім здурнеў, ці свет настолькі паразумнеў, што нічога незразумела... Ты ж сама зірні сюды: вось кучка гною, а на ёй ляжыць прапораны віламі долар... Якая к чорту гэта кампазіцыя?

Ірэна горача ўсклікнула:

— Які сорам! З кім я жыву?!. Гэта ж апошняя праца мастака Кучкіна «Не ў грашах шчасце!». Зірні! Колькі тут экспрэсіі, які дух рамантызму!

Трахім абурыўся:

— Што і казаць — духу тут хапае! Ды гэткую кампазіцыю наша Рагуля кожны дзень у хляве стварае... і не горш за таго Кучкіна.

Ірэна ўскіпела:

— Не параўноўвай карову са знакамітасцю! Не вытыркай сваю неадукаванасць!

— Добра... Няхай будзе па-твойму,— саступіў Трахім.— А гэта што за намаляваны чарнобыльскі мутант, у якога сем пальцаў на руцэ? А глянь побач! З галавы нага расце!

Ірэна з жахам прыціснула палец да вуснаў:

— Ціха ты! Гэта ж сусветная славутасць!.. Я нават прозвішча баюся называць...

Трахім горка скрывіўся:

— Лепей не называй... Пайшлі далей... Гэта што? Нейкія ржавыя вёдры, нейкія дзіравыя боты, якіх і дома хапае... Я сапраўды нічога не разумею.

— Цемра ты непрабудная! — пырснула слінай Ірэна.— Добра, што ўчора цябе не было на адкрыцці музея, я б ад сораму за цябе згарэла!..

# Шык і пшык

Ігнат Шворань раптам здзівіў аднавяскоўцаў — купіў сабе машыну нейкай мудрагелістай, як сам казаў, канфігурацыі.

Гонару таго, форсу — па вушы, а пахвальбы — вышэй галавы. Толькі і гаворкі было ў вёсцы — пра Ігнатаву чатырохколку.

За гэтай гаворкай адных і фанабэрыстасцю другіх амаль ніхто не заўважыў, што сусед Швораня, Васіль Супоньчык, купіў сабе каня. Ды і як можна было заўважыць гэткую, у параўнанні з машынай, дробязь?

Усаджваў Ігнат у машыну побач з сабой жонку і, калі па патрэбе, а часцей — без патрэбы, насіўся па вёсцы, уздымаючы пыл і смуродзячы выхлапным чадам.

Васіль, бывала, вязе нейкае паленне ці гной на калёсах, нокае на каня, а Шворань тым часам абганяе яго, вытыркае галаву, апусціўшы бакавое шкло, і крычыць:

— У мяне — шык, а ў цябе — пшык!

І далей цісне на газ, ажно жвір з-пад колаў выстрэльвае, як карцеч.

Аднаго разу Супоньчык ехаў паволі на падводзе, а гняды захацеў па малой патрэбе. Коні, як вядома, гэтую патрэбу спраўляюць толькі стоячы, таму Васіль, карыстаючыся прыпынкам, прыкурыў цыгарэту і чакаў.

Гэтым часам зноў міма яго пёрся на сваёй машыне Шворань, які і на гэты раз кінуў праз акно:

— Што, конь рассупоніўся?

Але дарэмна кажуць, што Бог дзеліць не роўна! Бываюць перахілы ды недамеры, але ў канчатковым выніку раўнавага, зноў жа дзякуючы Богу, усталёўваецца.

Запрог на нейкае свята Васіль свайго паслухмянага коніка, накрыў на калёсах сена прыгожай саматканай посцілкай і, утульна ўладкаваўшыся з жонкай, цмокнуў на

каня і пакаціў на святочны кірмаш у другую вёску. Тая вёска знаходзілася не дужа далёка, але дарога да яе была неважнецкая. А пасля начнога дожджыку дык і зусім яна раскісла.

Едуць Супоньчык з жонкай на падводзе, залюбоўваюць вочы навакольнай прыгажосцю, святочны настрой — з імі, на гэтай жа падводзе, і раптам — тпр-р-р!

Спыніўся паслухмяны конік, злез з падводы Супоньчык, пытаецца:

— Што, Ігнат, падпіхнуць цябе, ці што?

Хацеў Васіль з'едліва дадаць: «Мой жа конь ужо засупоніўся!», але падкусы ды колкасці недарэчы, калі суседу не да жартаў.

Шворань зачырванеўся:

— Не, браток, тут не падпіхнеш. Трэба трактар, бо машына села на «пуза».

— А можа б, канём цяганупь? — зноў пытаецца Васіль.

— Конь у цябе добры,— яшчэ больш бянтэжыцца Ігнат,— але ж і яго не варта дарэмна тузаць... Патрэбна тэхніка.

— Ну, я хацеў як лепей! — разводзіць рукамі Васіль.— Тады прабач, мы будзем кратацца далей, на кірмаш.

Шворань падышоў да падводы, на якой паняй сядзела Супоньчыкава жонка, і ціха кажа:

— І мы ж туды кіраваліся... Можа б, вы, суседзі, маю жонку давезлі да кірмашу, а я тым часам буду шукаць трактара?..

— Чаму ж не! — пасунулася бліжэй да драбінкі Васілёва жонка.— Месца хопіць!..

Другі раз, пэўна, для той жа жыццёвай раўнавагі, Бог прымусіў Шворанія зноў звярнуцца да Васіля:

— Васіль, браток, можа б, даў каня бульбу абараць...

Супоньчык толькі раскрыў рот, каб выказаць згоду, як Шворань хуценька дадаў:

— Ты прабач за шык і пшык!

— А я нічога не чуў,— хлусіць Васіль,— ні шыку, ні пшыку...

— А па-другое,— працягваў Ігнат,— можа, вас з жонкай куды падвезці па справе ці так пакатаць, дык я гэта без ніякіх там алегорый...

— Бульбу аборвай,— адказаў Васіль,— а катацца ўпустую патрэбы ў бліжэйшай перспектыве не прадбачыцца.

Але Васіль памыліўся, бо неўзабаве вострая патрэба прымусіла яго бегчы ноччу да Швораня і грукаць у акно:

— Братка Ігнатка! Завядзі сваё тачыла — жонка радзіць надумалася!

І памчалася Ігнатава чатырохколка з Васілёвай жонкай у бальніцу, толькі святло фараў рэзала цемру, як нажамі, толькі жвір выстрэльваў з-пад колаў, як карцеч...

І гэтай жа ноччу сталася ў згаданай вёсцы больш на аднаго жыхара.

І дадала гэтая ноч разумення: і без машыны — нікуды, і без каня — хоць прападзі!

# Кветка з мінулага жыцця

— Як ты думаеш, кім ты ў мінулым жыцці была? — нечакана спытаўся ў жонкі дзед.

— Чаму была? — здзівілася баба.— Маё ж жыццё яшчэ не мінула, дзякуй Богу!

Дзед удакладняе:

— Я пра гэта тваё жыццё не пытаюся! Я — пра папярэдняе жыццё, калі ты была ці жабай, ці вужакай, ці воранай. Я пра тое жыццё! Зразумела? Кім ты тады была?

Старая падышла да абразоў на куце і перахрысцілася:

— Божа літасцівы! Святая прачыстая Маці! Памяняйце ў хворай галаве дурноту на розум! Ачысціце нашу хату ад вар'яцтва!

— А-а, ты, пэўна, была ў мінулым жыцці манашкай ці пападдзёй! Вунь як пацеры лістае твой язык!

Старая павярнулася да дзеда:

— Апамятайся! Схадзі да дактароў ці, лепей, у царкву! Што ты адкуль узяў? Нейкую жабу з вужакай, нейкае папярэдняе жыццё... Даведаюцца людзі — хату нашу будуць абмінаць за вярсту, як заразную.

— Эх, баба! Праспіш ты гэтак усё сваё цяперашняе жыццё! — усклікнуў дзед.— Пакуль ты сёння пасля снедання бачыла сны за печчу, я культурна глядзеў тэлевізар! Перадача была: «Мы вернемся травой ці матыльком!» Аказваецца, чалавек не знікае ў прах, а пераўвасабляецца — хто ў што. Адны — аблачынкай лётаюць над зямлёй, другія — рыбінай у вадзе віруюць, лепей бы шчупаком, а не сяляўкай якой, трэція — кузуркай ці сабакам...

— Я й бачу, што па вёсцы не прайсці за сабакамі, лыткі абрываюць на хаду! — куснула баба дзеда.— Ці не тваё гэта мінулае жыццё па сабаках раскідалася?

— Да майго жыцця мы яшчэ вернемся! — адкінуў

дзед жончыну кпіну.— Давай спачатку з тваім разбярэмся!

— Разбірайся! — махнула баба рукой.— Я ж табе рот не зашыю!

— А што, калі я,— ускочыў дзед,— п'ю малако не ад нашай каровы, а тваё малако?! А што, калі твая душа з мінулага жыцця заскочыла ў нашу Рагулю?

— Цьфу табе ў вочы! — абурылася баба.— Ты менш вер чутаму! Тэлевізар набрэша табе поўныя вушы альбы-чаго, а ты перамельваеш языком пустое!

Баба падышла, але цяпер не да абразоў, а да люстэрка, паправіла хустку:

— Ці ж я падобная на жабу альбо вужаку? Дзе ты ў маім абліччы варону ўбачыў? Чаму не кветка? Чаму ж не той матылёк, пра якога ў тэлевізары чуў?

Дзед ажно кіснуў ад смеху:

— Дзе ты ў люстэрку бачыш кветку з матыльком?

Раптам адчыніліся дзверы і ў хату не ўвайшла, а ўляцела паштарка:

— Віншую! Ой, добры дзень спачатку!

— Што, пенсію прынесла? — пытаецца дзед.

— Якую пенсію! І пенсію таксама! — ззяла ад захаплення маладая жанчына.— Вось! — І яна дастала з сумкі часопіс «Работніца і сялянка».— Вось, на першай вокладцы партрэт вашай жонкі!

Дзед узяў часопіс. Сапраўды, на вокладцы красаваўся каляровы партрэт яго старой, пад ім было напісана: «Чалавек ніколі не знікае — ён вечны сваімі справамі!»

— А там, усярэдзіне,— больш запальваецца паштарка,— напісана і пра вашу маладосць, калі вы былі як кветка, і пра вашу працу, калі вы былі даяркай, і пра вашу годную старасць!

— А пра жабу ці варону там нічога няма? — усміхнулася старая і зірнула на дзеда.

— Не,— разгубілася паштарка,— пра жабу там нічога не напісана...

— Якую жабу, мая ты прыгажуня! — абняў дзед бабу.— Ты ж чуеш, там напісана толькі пра кветку і матылька!

— І пра матылька тут нічога быццам няма,— ціха сказала паштарка, але зноў загарэлася: — Карацей, віншую вас! Пабягу далей, панясу ў кожную хату гэты часопіс!

Калі старыя засталіся адны, дзед урачыста заключыў:

— Тэлевізара болей не гляджу! Буду чытаць толькі часопісы!

# Двойчы падкідыш

У радзільны дом падкінулі немаўлятка. Яно, ухутанае ў нейкія анучы, кугукала ля ўвахода — ля самых дзвярэй. Начны вахцёр прыадхінуў скрутак, зірнуў на твар дзіцяці і спужана зноў захінуў яго. Паклікаў санітарку:

— Вось што падкінулі! Толькі нам гэтага не хапала — свае тут вушы правішчалі наскрозь!

Санітарка ўзяла скрутак і асцярожна паднялася з ім на другі паверх да акушэркі, з якой разам дзяжурыла гэтай ноччу.

— Што з ім рабіць? — спыталася санітарка.

— У міліцыю яго! Куды ж яшчэ? — адказала акушэрка.

— Шкада! — спачувальна выдыхнула санітарка.— Зацягаюць яго, пакуль уладкуюць... А яго ж карміць тэрмінова трэба, спавіваць.

— Вазьмі яго сабе, калі так шкадуеш,— кінула параду акушэрка.

— І гэта зусім не проста зрабіць... Зноў жа валакіта, а па-другое, патрэбны грудзі малочныя, пасляродавыя, а я дзяўчына.

— А што, калі...

Абедзве, і акушэрка, і санітарка, былі маладымі, як кажуць, адарвігаловамі, яны і вырашылі:

— Хто ў нас на падыходзе?

— Анюта. Жывуць з мужам даволі заможна, у згодзе і ладзе, калі што — і блізнят выхаваюць.

І дзве змоўшчыцы, карыстаючыся тым, што Анюта падчас радзін была ў гарачцы і нічога не памятала, раскруцілі пялёнкі і паклалі побач з яе немаўлём падкінутае немаўля. Раскруцілі, паклалі — і ахнулі: падкінутае дзіця было негрыцяняткам. Чорнае, як галавешка на снезе! Што рабіць? Зноў закруціць і ў міліцыю? Падкінуць Анютцы? А муж? Ён жа, барані Бог, заб’е жонку!

Думалі, думалі і вырашылі...

Раніцай дзве шаляніцы дакладвалі галоўнаму ўрачу пра незвычайныя радзіны:

— Разумееце, адзін беленькі, а другі чорненькі! Абодва хлопчыкі!

— Адкуль чорненькі? — насцярожыўся ўрач.

— Як адкуль? — не збянтэжыліся манюкі.— Адтуль, адкуль і беленькі.

— А што цяпер рабіць? Як віншаваць парадзіху? А што тлумачыць яе мужу? — разгубіўся галоўны ўрач.— У маёй практыцы такое ўпершыню...

Санітарка, як ёй падалося, знайшла выйсце:

— А ў яе муж — трактарыст!

— Ну і што, што трактарыст? — здзівіўся ўрач.— Ён што, негр?

— Не! — чырванее санітарка.— Але ж ён увесь час у мазуце ды нігроле... А слова «нігрол» сугучнае з словам «негр»... Чым не прычына?

— Калі другой няма, дык і гэта прычына,— згаджаецца галоўны ўрач і кіруецца да парадзіхі.

— Віншуем вас, Анюта, з блізнятамі! З хлопчыкамі!

Анюта шчасліва ўсплакнула:

— А дзе яны? Хоць бы хутчэй зірнуць ды да грудзей прытуліць.

— Зараз, даражэнькая! — супакойвае ўрач.— Але ў вас яны, як бы гэта дакладна сказаць, крыху рознакаляровыя... беленькі і чорненькі...

— Адкуль чорненькі? — страпянулася парадзіха і збялела.

— Прабачце... адтуль, адкуль і беленькі,— тлумачыць урач.

— Не разумею,— разгубілася бедная Анюта.

— Шчыра кажучы, і я не разумею,— падтрымаў яе ўрач.

Анюта няўпэўнена сказала:

— Усё роўна нясіце іх сюды, карміць пара...

Калі прынеслі так званых блізнят, маладая маці зноў збялела:

— Гэта ж негрык! Адкуль? Я за сваё жыццё ў вочы не бачыла негра! Што я скажу Сцяпану, свайму мужу?

— Гэта не негр! — супярэчыць ёй урач.— Ваш муж працуе трактарыстам... А дзе трактар, там нігролы ды мазуты... Трэба было яму чысцей мыцца...

— Неверагодна! — яшчэ больш жахнулася Анюта.— Вы яму гэта самі, як галоўны ўрач, растлумачце, бо я баюся...

Сцяпан натурыўся, як наравісты конь:

— Пры чым тут нігрол ды мой трактар?!

Галоўны ўрач насядаў:

— Вы ж падумайце самі: у нашым раёне неграмі нават не пахне! Ды ваша жонка неграў толькі ў кіно і бачыла! Ваша гэта дзіця! Ваша! Як дзве кроплі вады да вас падобнае!

— Яно-то, Анюта ад вяселля ўвесь час на маіх вачах была,— няўпэўнена вагаўся збянтэжаны Сцяпан,— але ж вяскоўцы запоруць пальцамі...

— Плюньце на іх! — рашуча раіць урач.— Націскайце на нігрол! Дарэчы, трэба вам цяпер чысцей мыцца — гэта ж не апошнія вашы дзеці. Дзякуйце Богу, што хлопчык зусім чорненькі, а каб быў у плямы, як той далмацінец! Што тады?

Забраў Сцяпан жонку з «блізнятамі» з радзільнага дома і пачаў прывыкаць да дзіцячай рознакаляровасці пад сваім дахам.

Але той начны вахцёр, які першы знайшоў падкідыша, не ведаў пра дурны жарт акушэркі з санітаркай, ён быў упэўнены, што маладая сям’я свядома прыняла чужынцу, таму неўзабаве ў раённай газеце з’явіўся вялікі артыкул пад загалоўкам: «Добрыя людзі прытулілі падкінутае дзіця!», у якім узносілі да нябёс добрасардэчнасць маладой сям’і — Сцяпана і Анюты. А ў канцы артыкула вялікімі чырвонымі літарамі палымнеў заклік: «Пралетарыі ўсіх краін — яднайцеся!»

— Адразу б так і сказалі! — горача згаджаўся Сцяпан.— Навошта ж было прыплятаць сюды мой трактар?

# На крылах узнёсласці

*Светлай памяці*
*Максіма Багдановіча*

Дзед сядзеў ля расчыненага акна і курыў, баба — ля другога акна на лаве і штосьці цыравала-зашывала. Абое былі ў такім настроі, у такой глыбінна спакойнай душэўнай раўнавазе, калі цішыня робіцца найлепшым суразмоўцам.

Такое бывае і ў прыродзе глыбокай восенню, калі ўсё выбрана-прыбрана, усё адзелянела-адквітнела, усё адгаманіла-адспявала, і толькі запозненая, сумная песня нейкай птушачкі прапануе сябе ў суразмоўцы цішыні і спакою.

Нечакана для сябе баба, як тая запозненая птушка, амаль не парушаючы цішыні, ціхенька заспявала:

Абдымай мяне,
Цалавай мяне,
І бяда-нуда
Сэрца абміне...

І атрымалася так, што бабіны спевы ляглі на дзедаву песню, бо дзед, гледзячы некуды далёка-далёка, адначасова з бабай праспяваў:

Ой ты, конь, гарачы конь,
Нос павесіў штосьці!
Мы на кулі і агонь
Чхалі ў маладосці!..

Дзед кісла скрывіўся і зірнуў на жонку:

— І што ў цябе за песня? Што гэта за словы «цалавай мяне»?

— У цябе дык конь можа нос павесіць, а мяне цалаваць у песні нельга! — не перастаючы шыць, адказала баба і зноў ціхенька зацягнула:

Я каханнем даражыла,
Я на картах варажыла —
Хай мая саперніца
Ад цябе адвернецца...

І зноў бабіна песня скрыжавалася з дзедавай, якая сама сабой саскочыла з дзедавага языка:

Вып’ем, хлопцы, па адной,
Вып’ем следам па другой,
На трэцюю прыцэлімся,
А раніцай пахмелімся...

— І што ты ўсё мне перашкаджаеш? Адкуль ты іх выкопваеш, гэткія песні? Ці ж ёсць у цябе саперніца? — зноў крывіцца дзед.

— У мяне што думаецца, тое і спяваецца,— спакойна адказала старая,— а ў цябе, бачу, што спяваецца, таго і жадаецца... Адпахмяляўся ты сваё, даражэнькі!

— Ты торкаеш увесь час сваёй песняй упоперак маёй! — скардзіцца дзед.— Вось я зараз заспяваю, а ты падмагні! — і дзед зацягнуў:

Я раніцай роснай
Касіў сенажаці...

— Ну, падпявай:

Я раніцай роснай...

— Ды не ведаю я гэтай песні! Першы раз яе чую,— прызнаецца баба.— Лепей я зацягну, а ты за мной падцягвай, толькі не перакрыквай! — і старая зацягнула:

Я з рамонак белых
Напляла вяночкаў...

Ну, давай падцягвай! Толькі не перакрыквай!

Я з вяночкаў белых...

— Адкуль мне ведаць пра твае вяночкі? Я і рады быў бы цябе перакрычаць, ды таксама першы раз чую гэта! — махнуў дзед рукой.

— Ну вось,— абураецца баба,— жыццё разам пражылі, на адным ложку спалі, з адной міскі елі, адно гора гаравалі, а штосьці разам праспяваць не атрымліваецца...

— Чаму не?! — схамянуўся дзед.— А вось гэту во... ну, як яна толькі пачынаецца? Ну, ты яе павінна ведаць!

— Ты пачні, пачні! — адклала баба ўбок іголку.

— Забыўся...— сумеўся дзед.— Круцілася вакол мазгоў і... не магу за яе ўхапіцца...

— Давай другую! Зацягвай! — просіць баба.

— І другую забыўся... Вось такія мае песні, як «Я штыком праткну наскрозь ворага праклятага...» ці...

— Не трэба мне твой штык з ворагам! — перапыняе баба дзеда.

— Адзічэлі мы,— уздыхнуў стары,— гасціць перасталі і гасцей не склікаем, вось песні і выміраць у душы пачалі... Ты думаеш, чаму чалавечае жыццё карацее? Спяваць перасталі! А без песні чалавек, як расліна без вады — доўга не жыве...

— Ты сядзь да мяне! — запрашае баба.— Няўжо нічога разам не спяём? Паміраць будзе сорамна...

Дзед сеў на лаву ля жонкі, з надзеяй зазіраючы ёй у вочы. Баба ўглыбілася ў свае думкі і раптам зацягнула:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю...

Дзед схамянуўся, маладымі агеньчыкамі засвяціліся выцвілыя яго вочы, і падцягнуў душэўна, не перакрываючы жонку:

Светлыя згадкі з сабой прывяла...

І ўжо разам:

Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла...

І раптоўна памаладзелыя старыя, быццам на крылах, узняліся душой высока-высока і на адным дыханні даспявалі цудоўную песню.

# Звар'яцелае пудзіла

Пачаў дзед Адась заўважаць дзіўнае: варта толькі яго жонцы пайсці на гарод, як праз хуткі час да яе — бачком-бачком — сунецца сусед, ягоны аднагодак Аўцюх. Ды каб такое здарылася адзін раз, ну, ад сілы два, а то кожны дзень. Старая на грады, Аўцюх — да старой!

Спытаўся неяк дзед Адась у жонкі:

— Чаго гэта той аблезлы бабыль тырчыць ля цябе на градах штодня, як тое пудзіла?

Старая крыху разгубілася, але спраўна адказала:

— А-а, Аўцюх! Ды ён пытаўся, як лепей пераціраць клёцкі на зацірку.

— Ён што, кожны дзень зацірку варыць? — не супакойваўся дзед Адась.

— Што зварыць, тое і з'есць! — кінула старая і пераключылася на другое...

А на тым гародзе сапраўды стаяла пудзіла ад варон, якое калісь зладзіў дзед Адась. На жэрдкі, што крыж-накрыж, ён павесіў доўгі, да зямлі, плашч-дажджавік, а зверху пачапіў знойдзены ля дарогі нейчы капялюш без верху. Спачатку вароны аблятalі тое пудзіла, баяліся яго, потым прывыклі, і яно зрабілася ўлюбёным месцам іхняга адпачынку.

— Здымі ты яго, не смяшы людзей! — казала жонка.

Дзед Адась і сам збіраўся прыбраць з гарода непатрэбшчыну, але сёння ўзрадаваўся:

— Ай, як добра, што я яго не чапаў! Гэта пудзіла мне і дапаможа раскрыць тайну бабылёвых візітаў!

Назаўтра дзед Адась патуляўся вакол градаў, падцікаў час, калі нікога не было навокал, і — шусь пад плашч-дажджавік. Стаў, учарэпіўся для раўнавагі ў загнаны ў зямлю кол, а капелюшом закрыў галаву. Стаіць ды праз дзірку ў плашчы назірае. Бачыць — клыпае на грады

яго старая, падыходзіць і пачынае палоць. Са спіны дзеду не відаць, дзе сусед, але бабыль ужо тут — як з-пад зямлі вырас.

— Дык я зноў да цябе, Агатка! — пачаў дрыготкім голасам ён.— Няўжо ты шчаслівейшая з тым акуркам, чым магла б быць шчаслівай са мной? З тым карантышом? Га?

— Ну, ты кожны дзень адно і тое пытаешся... Што ўжо сёння казаць! — не разгінаючыся, адказала Агата.

— Што казаць? — перапытаў сусед.— Што ёсць, тое і кажы! Я ж праз цябе не ажаніўся ні разу... Падмазаўся тады да цябе той стручок недаспелы, ты і кіданула мяне з дарогі... Дык што?

— А што, што? — разагнулася баба.— Жыву я з Адасем і, дзякуй Богу, век дажываю... А той акурак ці, як ты кажаш, стручок — мне законным мужам даводзіцца... Дык чаго ты ад мяне дамагаешся?

«Малайчына порхаўка старая, не здаецца!» — пахваліў у душы дзед жонку.

— Ну і што, што ты жывеш з ім,— насядаў Аўцюх,— а ці шчаслівейшая ты з ім, чым магла быць са мной?

— Вось што я табе скажу, сусед,— пачала старая, але тут, на самым цікавым месцы, адкуль ні вазьміся, прыляцела варона і села пудзілу на капялюш. А паколькі ў капелюшы не было верху, варона ўмасцілася кіпцюрамі дзеду на лысіну. Мала таго, адчуўшы пад лапамі штосьці цёплае, варона вырашыла паспрабаваць «на зуб» дзедаву лысую галаву — узяла і балюча дзеўбанула ў макаўку.

— Во-о-ой! — упаўголаса, наколькі хапіла вытрымкі, ускрыкнуў дзед Адась і лупянуў рукой па вароне. Тая ад нечаканасці дзіка загарлапаніла і, як шалёная, паляцела прэч.

— Што гэта? — занепакоілася старая.— Вароны пачалі баяцца пудзіла. Дзіўна!

— А мне дзіўна іншае,— круціў галавой збянтэжаны Аўцюх,— падалося, што варона крыкнула «во-о-ой»...

— Табе і сапраўды падалося,— супакоіла яго старая і пачала далей праполваць грады.

— Не ведаю,— ціскануў плячыма бабыль і на ўсякі выпадак сцішыў голас. Ды настолькі сцішыў, што дзед Адась пачаў чуць гаворку праз слова.

«Што яны там балбочуць»,— нерваваўся ў сваёй засадзе стары і, выцягнуўшы з зямлі калок, пасунуўся да змоўшчыкаў.

Аўцюх азірнуўся і пацёр вочы:

— Мне зноў падалося, цяпер ужо, што пудзіла наблізілася да нас...

— Ты ж сам кажаш, падалося, значыцца — падалося... Гэта ў цябе ад нерваў! — зноў тлумачыць старая.

Аўцюх страсянуў галавой і паўтарыў сваё галоўнае пытанне:

— Дык што, Агатка? Ці была б ты са мной больш шчаслівай? Мне б толькі пачуць адказ, і лягчэй будзе век дажываць.

Старая падумала: «Не адчэпіцца ён ад мяне ніколі! Трэба пакласці гэтаму канец... Вазьму і схлушу, няхай сабе радуецца, цешыцца...»

— З табой, Аўцюшка, была б шчаслівейшай!

— Я так і ведаў, Агатачка! — І Аўцюх кінуўся да старой, але і ў дзеда Адася кончылася цярпенне. Трымаючы ўсярэдзіне пудзіла калок, дзед не сваім голасам штосілы зароў і падбег да жонкі і яе залётніка.

Двое старых, убачыўшы і ўчуўшы звар’яцелае пудзіла, як падкошаныя, беспрытомна зваліліся ў баразну.

Задаволены дзед Адась вылез з-пад плашча і ўтыркнуў калок паміж беспрытомнымі:

— Нічога! Астыньце крыху, Рамэвы і Жульеты! А гэта табе, аблезлы кавалер, ад недаспелага стручка! — І дзед Адась нацягнуў падраны капялюш на галаву саперніку.

Баба праз нейкі час прыцягнулася з гарода і лягла ў пасцель.

— Адаська, я здурнела! — стагнала яна.

— Я гэта даўно ведаю! — нядбайна адказаў стары, у душы святкуючы сваю перамогу.

— Я не жартую,— працягвала стагнаць старая,— ты мне скажы...

Але дзед перапыніў яе гаворку:

— Не, лепей ты мне скажы, што сёння варыць той аблезлы бабыль? Зноў зацірку?

— Адасік, я павінна табе ўсё расказаць, нічога не ўтойваючы...

— Ты лепей пудзілу раскажы, якая б ты была шчаслівая з Аўцюхом.

— Адасік, пудзіла звар'яцела, яно кідаецца на людзей... Лепей паслухай мяне...

І баба Агата, нічога не ўтойваючы, расказала свайму дзеду пра дамаганні суседа і пра тую, як яна лічыла, святую хлусню дзеля далейшага спакою.

Усцешаны дзед Адась раскрыў рот, каб і жонку пацешыць сваёй заліхвацкай выдумкай, але прыкусіў язык, зразумеўшы, што трымае ў руках важны козыр. Услых ён дадаў:

— Пудзіла з гарода зносіць не буду! Яно кідаецца толькі на загаворшчыкаў!

## Адын... адын...

Міхась ішоў і абураўся: з галавы не выходзіў некалі чуты анекдот пра грузіна, які пахаваў сваю жонку і плакаў па ёй, паклаўшы галаву на рукі. Пры гэтым ён, як пацеры, скрозь слёзы паўтараў: «Адын... адын... Зусім адын застаўся...» І з кожным разам слова «адын» мяняла свой настрой, паступова пераходзячы ад жалобнага адцення да вясёлага. Нарэшце слова «адын» напоўнілася захапленнем, і грузін кінуўся ў танец, радасна ўсклікаючы: «Адын! Адын! Зусім адын застаўся!»

Міхась абураўся і ўнутрана пратэставаў таму, што анекдот усплыў у памяці зусім не да месца і часу, пасля сустрэчы з Сымонам Кароткім. Міхасёва жонка заўсёды ставіла яму ў прыклад Сымона: «Калі ні сустрэнемся, Сымон жонку то пад руку вядзе далікатна, то рыдыкюль яе нясе, то ў вочы ёй зазірае, а ты?..»

І вось сёння Сымон стаяў ля пад’езда свайго дома нейкі разгублены, згорблены, нібы нечым нябачным прыціснуты да зямлі. Стаяў з патухлымі вачыма, як апошні бяздомнік, якога нідзе ніхто не чакае.

— Што з табой, Сымон? — пасля прывітання спытаўся Міхась.— Што здарылася?

— Адзін... Адзін застаўся,— бліснуў мокрымі вачыма Сымон.— Зусім адзін я застаўся... Жонку пахаваў...

Паспачуваўшы ды павойкаўшы, Міхась падаўся далей па сваіх справах, злуючыся на анекдот, які назойліва круціўся ў галаве.

— У чалавека гора, а мне дурное прыпомнілася,— дакараў сябе ён.

Час ляціць хутка, і праз нейкія тры-чатыры месяцы Міхась зноў сустрэў на тым самым месцы, ля свайго пад’езда, Кароткага. Быў цёплы летні вечар, на лаўках сядзелі старыя жанчыны, абмяркоўваючы «сусветныя

праблемы», з адчыненых вокнаў вылятала музыка, выглядалі і перакідваліся жартамі маладыя кабеты і крыху падпітыя мужчыны — жыццё працягвалася.

Сымон Кароткі, нягледзячы на даволі сталы ўзрост, пругка, як конь-стаеннік, перабіраў на месцы нагамі і молада пабліскваў вачыма. Гэта быў чалавек, здольны ў любы момант кінуцца на ўсе бакі жыцця, упэўнены, што ўсюды яго чакаюць, што ўсюды знойдзе ўцеху.

Міхась не верыў сваім вачам.

— Як маешся, Сымон? — на ўсякі выпадак стрымана і асцярожна спытаўся ён.

— А-а, Міхась! Маюся — не спатыкаюся! — весела перабіраў нагамі Сымон, «страляючы» пры гэтым поглядам на ўсе бакі.— Адзін! Адзін я — сам сабе гаспадзін! А ты як думаў? Жыву!

Пайшоў Міхась далей, больш засмучаны, чым пасля папярэдняй сустрэчы. Тады Сымон быў зразумелы і натуральны, сёння — незнаёмы і незразумелы.

«Што робіць час! — думаў збянтэжаны Міхась.— Залечвае, здавалася б, незалечаныя раны душы, студзіць палкія сэрцы, зацярушвае новымі надзеямі памяць, сцірае ўшчэнт гарачыя абяцанні і клятвы... Але ці час вінаваты ў чалавечай нясталасці і душэўнай хісткасці? Людзі знайшлі заслону, за якую хаваюцца ад уласных слабасцяў і недахопаў, людзі з веку ў век вінавацяць невінаватага — час... Вось і Сымон пражыў з жонкай не адзін дзесятак гадоў і цяпер, праз даволі кароткі тэрмін, пэўна, усё, што было дагэтуль, запхнуў за заслону часу, як непатрэбны хлам...»

Трэцяя сустрэча з Сымонам адбылася неўзабаве пасля другой і аказалася зноў жа нечакана-дзіўнай.

Кароткі стаяў ля пад’езда свайго дома на тым самым месцы і выглядаў знямоглым, састарэлым і разгубленым. Ён кінуўся да Міхася, схапіўся за рукаво пінжака і жаласліва зазірнуў у вочы:

— Адзін... Адзін застаўся... Зусім адзін...

— Я ведаю, у цябе памерла жонка,— прамармытаў Міхась.— Трымайся, мацуйся, такое хутка не праходзіць...

— Ды не! — запаліўся Сымон, якому, відаць, трэба было аблегчыць душу.— Яно-то так, памерла, але... але тут іншая гісторыя. Выслухаеш? Га?

— Чаму ж не? Паслухаю,— далікатна згадзіўся Міхась.

— Памятаеш нашу апошнюю сустрэчу? — запытаўся Сымон і сам адказаў: — Канешне ж памятаеш!

— Гэта, пэўна, тады, як ты выбрыкваў на месцы нагамі і бліскаў вачыма на ўсе бакі? — удакладніў Міхась.

— Каб яны мне павылазілі! — горача абурыўся Сымон.— Такога наблісакалі, што сёння свету белага не бачу. Я ж — старая падла, калі не сказаць горш, я ж апошні...

— Навошта ж так пра сябе? — зноў падалікатнічаў Міхась.

— Навошта? 60 гадоў мужчыну — гэта што, жарт? Лічы, што адна нага ўжо там,— і Сымон паказаў пальцам у зямлю,— і другая саслізгвае туды... Дык вось, слухай далей, падкацілася да мяне адна маладуха-смяюха, пусціла мне ў вочы любоўнага туману, развесіў я вушы да зямлі і папаўся на яе кручок. Ажаніўся з ёй!

— Цудоўна! — усклікнуў Міхась.— Віншую!

— Якое цудоўна? З чым? — замахаў рукамі Сымон.— Ёй, як аказалася, была патрэбна мая двухпакаёўка, а не я. Прыпісала да нас сваю звяглівую маці — цяпер маю цешчу, грызуць мяне, не перастаючы, з двух бакоў. Выжываюць мяне, а дакладней, зжываюць са свету.

— Дык які ж ты «адзін застаўся»? Ты ж цяпер не адзін! — разважае Міхась.— Вас цяпер трое.

— Каб жа трое! — удакладняе Сымон.— Ад іх дзвюх я неяк яшчэ адмахваўся. Нядаўна ў яе, маёй — цьфу — жонкі, родны брат аб’явіўся. Кажа, адседзеў сваё ў турме і прыкаціў да сваёй маці, маёй цешчы. Вось колькі ўжо нас! Баюся, што заўтра яшчэ хтосьці аб’явіцца. Яны вунь

у кватэры пануюць, ля тэлевізара ды ля стала, а я, як бяздомны сабака, пад вокнамі стаю, баюся ісці дамоў, бо той, яе брат, цяпер мой швагра, ножыкам мне пагражаў. Вось так, людзей поўная кватэра, а я, як бачыш, адзін застаўся... Зусім адзін...

Міхась развёў рукамі:

— За каханне трэба плаціць... Тут, братка Сымон, вінаваціць няма каго... акрамя сябе самога. Бывай! Спадзяюся, што наступная наша сустрэча будзе больш прыемнай.

І Міхась накіраваўся дамоў. Зноў у памяці ўсплыў той анекдот «з барадой», які болей не выклікаў ніякіх эмоцый — ні смеху, ні ўнутранага пратэсту.

## Кітайскі жэньшэнь

Прыехаў сын на адпачынак да сваіх старых бацькоў у вёску з Далёкага Усходу і, выклаўшы ўсе падарункі, урачыста кажа:

— А вось гэта — вялікая каштоўнасць на ўсім свеце! — І дастае маленькую бутэлечку.— У гэтай шкляначчыцы — жэньшэнь, які надае сілу знямоглым людзям і ледзь не вяртае маладосць! Вы — людзі сталага веку, спрацаваныя, вам ён неабходны!

— Дзякуй, сынок, але не буду я піць усякую бурду! — адказала маці.— Кратаюся яшчэ сваімі сіламі, і хвала Богу! Вось ён,— і маці паказала на бацьку,— ён ледзь ногі цягае, сапраўды, выпрацаваў усё, што мог...

Бацька ўзяў дрыготкаю рукой шкляначку, пакруціў яе ля самага носа і здзівіўся:

— У такой малюпусьцы, кажаш, вялікая моц! А што з ёй рабіць, з гэтай, як кажа старая, бурдой? Тут жа яе толькі на кончык языка.

— Настойку жэньшэню, тата, прымаюць па дваццаць кропель з вадой — яе такім чынам надоўга хопіць,— тлумачыць сын.— Гэта — кітайскі корань жыцця!..

І пачаў дзед прымаць кожны дзень цудоўнае зелле.

Праз тыдзень стары па сакрэту шэпча сыну:

— Што ж ты, сынок, нарабіў? Навошта прывёз гэту гадасць?

— А што, тата? — занепакоіўся сын.— Не прымае арганізм ці шкодзіць ён табе?

— Горш, чым ты думаеш, сын! Не ведаю, як і сказаць, але і маўчаць няма моцанькі...

— Дык што, тата?!

— А тое, сынок, што не магу болей глядзець на старую...

— На маму? — здзівіўся сын.— Чаму? Вы што, пасварыліся?

— Спрацівела раптоўна яна мне! Маладыя з галавы не вылазяць... Вось табе і бурда! — выціснуў з сябе стары.

Сын разгубіўся:

— Ды ты жартуеш, тата... Жыццё дажываеце з мамай і — на табе! Штосьці тут незразумелае... Выкінь глупства з галавы!

— Спрабаваў, сынок, не атрымліваецца... Сэрцу не загадаеш!

Сын зразумеў, што звяртацца да вясковага фельчара мала карысці, ды і смецце выносіць з хаты не хацеў. Таму ён хуценька сабраўся і падаўся ў горад, дзе ў платнага псіхолага можна нават ананімна атрымаць і кансультацыю, і дапамогу.

— Правільна, што звярнуліся да мяне! — падбадзёрыў псіхолаг.— Старыя горш за дзяцей, калі што ўбілі ў галаву, цяжка іх ратаваць.

— А што рабіць? Як усё ж ратаваць тату і захаваць сям'ю? — не знаходзіў месца сын.

— Тут неабходна выкарыстаць нетрадыцыйны метад лячэння,— разважае псіхолаг,— бо словы, перакананні тут не спрацуюць.

— А што? А як? — не пераставаў хвалявацца сын.

— Вось вам бутэлечка найлепшых лекаў! Няхай бацька перад самай сустрэчай з нейкай там маладзіцай вып'е гэта залпам. Падчас гаворкі з той маладой асобай ці нейкіх там амурчыкаў ён адчуе, ці сумяшчальны яго арганізм з арганізмам маладой.

— Ды я не магу такога нават уявіць, не тое што дазволіць тату! — кіпяціцца сын.

— Вы, шаноўны, астыньце! — рашуча настойвае псіхолаг.— Калі ўжо звярнуліся да мяне — выконвайце ўсе мае прадпісанні! Калі вам гэта дужа непрыемна, падрыхтуйце, скажам, падстаўную кабеціну для эксперыменту.

Ваш бацька гэтага і ведаць не будзе... а вы назірайце за яго рэакцыяй.

— Не ведаю,— разгубіўся сын,— метад нейкі дзіўны...

— Я ж вас папярэдзіў — метад нетрадыцыйны... Вось, вазьміце лякарства і не хвалюйцеся, ваш бацька хутка ачысціць душу... і не толькі яе...

Сын няўпэўнена ўзяў бутэлечку і паклаў у кішэню, не падазраючы, што гэта звычайная рыцына, але паскоранага дзеяння.

— А як звычайна рэагуе стары арганізм на гэтае знакамітае лякарства? — працягваў непакоіцца сын.

— Пасля гэтага, без выключэння... ды вы ўбачыце самі! — І псіхолаг моцна пацiснуў руку заклапочанаму кліенту.

Наступным днём сын завітаў да бацькавай суседкі — маладой і прыгожай удавы.

— Калі вы не супраць,— просіць сын,— мы з татам зойдзем да вас пасядзець ды пагутарыць...

Маладая жанчына ўспрыняла гэта па-свойму: чаму б не «закадрыць» прыгожага далёкаўсходніка? Бацька ж толькі як прыкрыццё,— вырашыла яна і згадзілася.

— Тата,— звярнуўся сын да старога,— вось табе яшчэ мацнейшае лякарства, якое беспамылкова зарыентуе твой арганізм і падкажа, як сябе паводзіць з маладымі асобамі.

— А ты якую маладую асобу маеш на ўвазе? — пацікавіўся бацька.

— А далёка хадзіць не трэба! Наша суседка хоча цябе бачыць і чакае ў госці.

— Яна?! — ажно прысеў дзед.— Яна ж у тры разы маладзейшая за мяне!

Сын развёў рукамі:

— Сэрцу, тата, не загадаеш, сам гэта казаў...

— Дык дзе другое лякарства? Давай яго хутчэй! — забірала старога нецярпенне.— І тлумач, як яго прымаць — зноў па дваццаць кропель?

— Не, тата, гэта неабходна выпіць усё залпам перад дзвярыма маладзіцы.

— Для храбрасці ці для чаго? — удакладняе стары і кладзе бутэлечку ў кішэню.

Сын разважае далей:

— Я спачатку хацеў ісці з табой, тата, але навошта я буду вам перашкаджаць! Будзь ужо што будзе!

І стары бадзёра пакрочыў праз вуліцу.

— Куды гэта бацька падаўся? — спыталася ў сына маці,— палуднаваць час, а ён з хаты.

— Мабыць, мы будзем есці сёння без таты,— адказаў сын і прыкусіў ад крыўды губу, а сам падумаў: «Добра, калі толькі сёння...»

А дзед тым часам бадзёра падышоў да запаветных дзвярэй і за некалькі глыткоў апаражніў праз рыльца бутэлечку з новым лякарствам. Крактануў, як ад гарэлкі, і, пастукаўшыся, пераступіў парог.

— Наша маладзецкае прывітанне ў хату! — зычна гукнуў дзед.

— Ой, заходзьце, калі ласка! — праспявала ўдава.— А чаму ж без сына? Я падрыхтавалася, прыладзілася... А ён што, пазней падыдзе?

— А пры чым тут сын? Без мелюзгі месца мала! — бадзёрыцца далей стары.

— А-а, дык сын перадаў толькі сваё маладзецкае прывітанне? — не хавала расчаравання кабеціна.

— Чаму яго прывітанне? Маё прывітанне! Маё-ё. О-ё! — І дзед раптоўна схапіўся за жывот, у якім штосьці забулькацела і заскавытала на розныя галасы.— Ай-яй! Якія рэзі! — Дзед дробненька затупаў на месцы, не ведаючы, куды кінуцца.

У жываце з новай сілай завурчала і зараўло. Стары выбіў ілбом дзверы і панёсся па вуліцы, нібы выскачыў з полымя. Крыху не даляцеўшы да сваёй хаты, спыніўся, трымаючыся за жывот. Бегчы далей не было сэнсу...

На ганак выйшла жонка:

— Дзе ты цягаешся не ў пару? Яда на стале стыне — заходзь у хату!

Дзед сумна махнуў рукой і паволі паклыпаў за хлеў, адкуль доўга не выходзіў.

Вечарам шэптам пытаецца сын у бацькі:

— Ну, тата, якая рэакцыя твайго арганізма на маладых кабет?

Бацька, замест адказу, вярнуў сыну бутэлечку з коранем жыцця:

— На, сын, твой хвалёны жэньшэнь! Абдурылі кітайцы і цябе і мяне — гэта сапраўды несусветная бурда!

## Два матылькі

Надышоў вечар, і дзед з бабай, натаміўшыся за дзень, укладваліся спаць. Баба лягла на ложку, дзед, як заўсёды, палез на печ, дзе ўжо спаў састарэлы і абыякавы да ўсяго кот.

Баба пакруцілася з боку на бок, паварочалася і кажа дзеду:

— Штосьці не спіцца, хоць вочы зашый. Можа б, ты мне расказаў на ноч казачку якую?

— Вось цяпер я веру, што людзі ў старасці дзяцінеюць! — пачулася з печы.— Ад цябе трэба і запалкі хаваць...

— Дарэмна ты кпіш,— пакрыўдзілася старая.— У старасці маленства прыходзіць у думкі нават часцей, чым у маладосці. Маладосць буяе ды палымнее, ёй не да ўспамінаў, а старасць толькі і мацуецца мінулым. Не ведаю, як табе,— працягвала баба,— а мне часцяком здаецца перад сном, што я маленькая дзяўчынка, над якой схіліцца хтосьці з бацькоў і распавядае цікавую казачку... Табе такое ніколі не здавалася?

— Не! — адказаў дзед.— Мне ніколі не здавалася, што я маленькая дзяўчынка.

— Дык раскажаш ці не? — з надзеяй перапытвае баба.

Дзед пачынае здавацца:

— Я, па праўдзе кажучы, мала іх, казак, і ведаў, а што ведаў — амаль усё ў галаве пераблыталася ды забылася... Штосьці пятае праз дзесятае засталося ў памяці...

— Раскажы хоць пятае праз дзесятае... Адкуль я буду ведаць, што ты блытаешся?

— Ну, тады слухай,— пачынае дзед.

— Не! — перапыняе яго старая.— Ты сядзь на табурэтку ля майго ложка, каб я адчула сябе маленькай дзяўчынкай...

— Гора мне з табой,— крэкча дзед, звесіўшы босыя ногі з печы і намацваючы імі лаву. Ён падышоў да ложка, сеў на табурэтку, бліжэй да жончынай галавы, і пачаў: — Значыцца, так. Жыў-быў пан. Тоўсты, злосны і ахвочы да чужога дабра. Асабліва любіў ён грошы, а больш за грошы — золата. Аднойчы той пан ехаў аднекуль на сваёй брычцы і падгледзеў, як разбойнікі хаваюць у пячору мяхі з золатам. А ў пячоры былі каменныя дзверы, якія адчыняліся толькі па камандзе спецыяльных зачараваных слоў. Пачуў пан тыя словы і, дачакаўшыся ад'езду разбойнікаў, сказаў іх. Дзверы паслухмяна адчыніліся, і пан з пустымі мяхамі заскочыў за дзверы, якія адразу за ім зачыніліся.

Убачыў пан у пячоры горы золата ды брыльянтаў, перахапіла ў яго дыханне, закруцілася галава, пацямнела ў вачах ад сквапнасці. Наклаў ён поўныя мяхі дабра і ледзь змог падцягнуць іх да дзвярэй. Аддыхаўся і кажа:

— Дзверы, дзверы, адчыніцеся, маць вашу налева!

А дзверы — ні з месца! І колькі ён ні паўтараў тыя словы, колькі ні біўся галавой аб камяні, яны не варухнуліся.

— А чаму? — цікавіцца баба.— Туды ж яны яго ўпусцілі, паслухаліся...

— А таму,— тлумачыць дзед,— што на ўваходзе дзверы сапраўды адчыняліся на левую руку, а з сярэдзіны, калі чалавек паварочваўся да выхаду, атрымлівалася так, што дзверы адчыняліся на правую руку.

— Дык што трэба было сказаць? — пытаецца баба.

Трэба было сказаць:

— Дзверы, дзверы, адчыніцеся, маць вашу направа! — а пан гэтага не ведаў...

— І што далей было? — падняла баба з падушкі галаву.

— А далей вярнуліся разбойнікі, убачылі злодзея і забілі яго.

— Так пану і трэба! — згаджаецца баба.— Не будзе другі раз на чужое квапіцца.

— Вось і ўся казачка,— скончыў дзед.

— А ты казаў, што забыўся, што пятае праз дваццатае памятаеш,— заахвочвае баба старога,— усё ты памятаеш слова ў слова. Цікавая казка, дзякуй, але надта ўжо кароткая. Ты што-небудзь жыццёвае раскажы, бліжэй да мяне...

— Жыццёвае, кажаш? Слухай жыццёвае,— згаджаецца дзед.— Жыла-была баба, бяззубая, згорбленая і падслепаватая. Пашчасціла той бабе знайсці чароўную кветачку-сяміцветачку, у якой было сем рознакаляровых пялёсткаў. Варта было адарваць адзін пялёстак і загадаць жаданне, як яно адразу спаўнялася. Захацелася яе дзеду булкі з макам, і пайшла баба ў краму па булку свайму любаму дзеду. Купіла булку і нясе дамоў. Па дарозе загледзелася на варон і нейкі сабака з'еў тую булку, старая нават гэтага і не заўважыла. Пераступіла яна парог сваёй хаты, зірк — булкі няма, а дзед сярдзіта пытаецца: дзе мая булка? Напужалася баба, хуценька адвярнулася ў куток і адарвала пялёстак, пажадаўшы булку з макам. Вось у яе,— працягвае дзед,— засталося шэсць пялёсткаў.

На другі дзень баба-недарэка скінула са стала і разбіла дзедаў кубак, з якога ён любіў піць малако.

Дзед пачуў стук і сярдзіта пытаецца:

— Ты выпадкова не мой кубак расхвастала, разява?

Зноў баба захінулася ад старога і адарвала другі пялёстак дзеля новага кубка. Вось у яе засталося пяць пялёсткаў.

Ідзе неяк па вуліцы і бачыць другую бабу, якая нясе новенькі прыгожы гаршчок.

— Дзе вы купілі такую прыгажосць? — пытаецца ў той бабы наша баба, а тая злосна гыркнула:

— Дзе купіла, там яго ўжо няма! Не твая справа!

— Ах так! — раззлавалася наша баба.— Дык быў твой гаршчок, зробіцца маім! — І яна адарвала чарговы пялёстак, пажадаўшы сабе гаршкі ўсяго свету, улічваючы і гаршчок злоснай бабы.

Што тут пачало рабіцца! З усіх бакоў і з неба пачалі ляцець да бабы новенькія гаршкі розных памераў і формаў,

а першы прыляцеў проста ў рукі гаршчок злоснай бабы. Бачыць старая: заб'юць яе гаршкі, валячыся з неба. Адарвала яна хуценька яшчэ пялёстак і папрасіла збаўлення ад посуду. Вось у яе засталіся тры пялёсткі.

Глядзела раз баба тэлевізар і даведалася, што недзе на поўначы водзяцца белыя мядзведзі. «Вось каб зірнуць на іх перад смерцю!» — марыць баба і адрывае пялёстак, просячыся да белых мядзведзяў. Бухнулася яна на вечныя льды ў чым сядзела ля тэлевізара, нават босая. Не паспела яна агледзецца, як з-за льдзіны выскачыў вялізны белы мядзведзь, ашчэрыў пашчу з метровымі клыкамі — і да яе. Ледзь паспела яна адарваць наступны пялёстак пасінелымі пальцамі і выпрасіць вяртанне дамоў. Вось у бабы застаўся апошні пялёстак...

Бачыць старая, што марна пераняла чароўныя пялёсткі, і тады яна вырашыла:

— Хачу быць уладарніцай марскою і каб сама залатая рыбка была маёй служкаю!

Толькі яна так сказала, ажно апошні пялёстак імгненна звяў, ссох і адваліўся... Магла тая баба зрабіцца маладой і не гарбатай, а засталася ні з чым...

— Дурная твая баба! — ускочыла з ложка старая.— Мне б тую кветку!

Дзед усміхнуўся:

— І што было б? Назапасіла б ты мукі, цукру, ды хустак, ды гаршкоў...

— Гэта мая справа! — сярдзіта адказала баба і зноў лягла.— Нейкія твае казкі недарэчныя, увесь сон перабілі! Ты раскажы што-небудзь ласкавае, з прыгожым канцом...

Дзед, у якога зліпаліся ўжо вочы, прыхіліўся галавой да сцяны і, заплюснуўшыся, пачаў новую казку:

— Даўно гэта было... У нейкім царстве, у нейкай дзяржаве жыла прыгожая... жыла прыгожая... хр-р-р, хр-р-р...

Баба здзіўлена зірнула на старога. Ён салодка пахрапваў, прыхіліўшыся галавой да сцяны. І такі быў глыбокі

яго сон, што старая пашкадавала перарываць яго. «А-а, сам прачнецца і палезе на сваю печ...» — А сама павярнулася на бок і непрыкметна заснула.

І прысніўся ёй прыгожы сад у рознакаляровых кветках. І лёталі з кветкі на кветку два чароўныя матылькі — ён і яна. Ён ласкава казытаў сваім вусікам ёй пад крыльцам і пад брушкам, ад чаго яна мілагучна смяялася. Ён падносіў ёй кропельку салодкага нектару і гаварыў розныя ласкавыя матыльковыя словы. Калі баба прыгледзелася, яшчэ больш замілавалася матылькамі, бо ён — быў яе дзед, а яна — сама старая. Матылёк-дзед падхапіў матылька-бабу і панёс да самага блакітнага неба. Ён шаптаў ёй у матыльковае вушка: «Я табе адкрыю самую вялікую тайну майго матыльковага сэрца!..»

Раптам штосьці моцна грукнула, і баба, як спружына, ускочыла з ложка.

— Што?! Што дзе грукнула?

Дзед, крэкчучы, уставаў з падлогі...

— З тваімі казкамі... Заснуў і зваліўся з табурэткі.

— Знайшоў калі валіцца! — раззлавалася баба.— На самым цікавым месцы!

Дзед ускараскаўся на печ, дзе ўсё спаў састарэлы кот, і ўладкаваўся побач.

— Табе што-небудзь прыснілася? — цікавіцца баба.

— А што можа прысніцца, седзячы на табурэтцы?.. Прыснілася, што зваліўся з табурэткі, я з яе і зваліўся,— адказаў стары.

— Твой сон дык спраўдзіўся,— крыўдзіцца баба,— а вось мне дык ніколі не быць матыльком...

# Гасцінцы на той свет

Дзед Піліп накасіў стажок сена ажно на Псігурцы, засталося яго нейкім чынам дабавіць дадому. А як тая Псігурка была ад вёскі далёка, а калгасныя коні засталіся ў мінулым, дзеду Піліпу хоцькі-няхоцькі трэба было ісці на паклон да пузатага Барана, бо толькі ў яго быў адзін на ўсю вёску конь.

Каб забраць сена за адзін рэйс, дзед падрыхтаваў доўгую жэрдку — рубель, якім у такіх выпадках уціскаюць сена на возе.

Прыхіліў дзед рубель да пуні, а сам вяжа на вяроўцы пятлю і прымярае яе, накідае на канец жэрдкі. Толькі ён накінуў вяроўку на жэрдку, як пачуў за спіной:

— Піліп, ты што гэта надумаўся? Няўжо рукі на сябе накласці хочаш?

Стары азірнуўся. На дарозе ля пуні стаяла суседка, Паўліна Пуставойціха, відаць, самая языкастая баба на ўсім свеце. Яе язык з лёгкасцю створыць тое, чаго не было ды і быць не магло, і яшчэ з большай лёгкасцю з таго звычайнага, што было, зробіць несусветныя неверагоднасці.

Дзед Піліп і сам быў здатны на розныя падкавыркі, якія прыдумляў на хаду, таму цяпер ён імгненна ацаніў сітуацыю: нічога не трэба выдумляць — карыстайся гатовым!

Зірнуў дзед на вяровачную пятлю, якая пагойдвалася перад яго носам, і кажа:

— А ці ж варта далей жыць, Паўліначка! Маладыя не любяць, старая абрыдла...

— Пабойся ты Бога, сусед! — падступае бліжэй Пуставойціха.— Якія ў тваім веку маладыя? Утаймуйся!

Дзед Піліп перапыняе суседку:

— Ты стаіш паміж мной і Богам! Ідзі сваёй дарогай,

не перашкаджай мне казаць апошнюю малітву! — І дзед зрабіў выгляд, што збіраецца накінуць пятлю на шыю.

Паўліна спужана залямантавала і пабегла па вёсцы.

На крык з хаты выйшла дзедава жонка.

— Што тут за гвалт я чула?

Дзед скруціў вяроўку і ўсміхнуўся:

— Ці ж мала гвалтаў у свеце? Лепш падрыхтуй вілы з граблямі, бо заўтра, калі Баран адшкадуе каня, стажок перавозіць будзем.

— Адпачыў бы ты,— спачувае баба,— зрання ладзіш свае прыстасаванні.

— Адпачыць адпачну,— згаджаецца дзед,— але не ў хаце, а лягу пад яблынькай, у цяньку ды халадку, падсцялі што-небудзь...

Лёг дзед пад яблыньку і заснуў, а баба прыдрамнула ў хаце на ложку.

Пуставойціха тым часам бегала па вёсцы ад хаты да хаты і разносіла навіну:

— Стары Пілiп павесіўся! Сваімі вачыма бачыла! Не сысці мне з гэтага месца! Закахаўся ў нейкую маладзіцу, а жонка паміж імі стала — разлучыла іх, вось ён і задушыўся ля сваёй пуні!..

Што і казаць, навіна скаланула вяскоўцаў — не кожны дзень вешаюцца ў вёсцы! Пачалі людзі пацiху збірацца і гуртам накіраваліся да аўдавелай Піліпіхі выказаць ёй свае спачуванні. Хтосьці нёс кветкі са свайго гароду, каб пакласці іх ля ног нябожчыка.

— А ён жа збіраўся ў мяне заўтра каня браць,— рабіў жалобны выгляд таўстапузы Баран,— не паспеў, бядак... Я б яму задарма яго даў ды яшчэ дапамог бы сена ўскінуць...

Зайшлі вяскоўцы ў хату, дзе чакалі ўбачыць нябожчыка,— пуста!

— Ванда! — паклікалі «ўдаву».— Ванда, хто дома? Дзе нябожчык?

Ванда спрасоння перапужалася, нічога не разумее.

— Ванда, дзе нябожчык? — зноў пытаюцца вяскоўцы.

— Няма ў хаце нябожчыка,— лыпае вачыма старая.

— А дзе ён? Дзе твой Піліп?

— А-а, Піліп! Ляжыць Піліп пад яблынькай, там цянёк, халадок, а ў хаце горача... Наляжыцца яшчэ і ў хаце...

Вяскоўцы разгублена, моўчкі выціснуліся з хаты, а старая зноў лягла — дасынаць.

На дварэ Пуставойціха дала волю свайму языку:

— Я ж казала вам, гэта яна, змяюка, звяла Піліпа са свету! Нават у хату не занесла нябожчыка, кінула пад яблыньку, як сабаку! Няхай бы жыў з маладзіцай!

Хтосьці схамянуўся:

— Гляньце туды! Вунь, гаротнік, ляжыць роўненька!

Дзед Піліп і сапраўды ляжаў сабе роўненька на спіне, склаўшы рукі, быццам нябожчык.

Аднавяскоўцы моўчкі падышлі да старога, прытулілі да яго з двух бакоў кветкі, перахрысціліся і пайшлі па хатах, каб заўтра зноў сабрацца і правесці ў апошні шлях добрага чалавека.

А «добры чалавек», выспаўшы сваё, салодка пацягнуўся, расплюшчыў вочы і нічога не разумее. Ляжыць там, дзе і лёг, але чамусьці абкладзены кветкамі. Што за дзіва? Гукнуў дзед старую.

— Што табе, Піліпка? — выйшла на ганак жонка.

— Ты глянь на гэту праяву! Адкуль і навошта кветкі? Гэта ты мяне так ушанавала?

Старая пацiснула плячыма:

— Прыходзілі чагосьці ледзь не ўсёй вёскай, нейкага нябожчыка шукалі... Нехта, мусіць, памёр у вёсцы... І пра цябе пыталіся яны.

— Мяне ці нябожчыка шукалі? — перапытаў дзед.

— Ідзі ў іх і пацікаўся! — ляснула старая дзвярыма.

— Няўжо тая пустабрэшына паверыла? — дзівіцца дзед.— Сама ж падкінула мне ідэю...

Раніцай дзед Піліп падаўся да пузатага Барана прасіць каня. Аднавяскоўцы, убачыўшы старога, кудысьці імгненна знікалі, беглі ад яго без аглядкі.

— Што гэта з імі? — дзівіцца дзед.

Падышоўшы да Баранавай хаты, дзед убачыў гаспадара, які корпаўся ля ганка і не бачыў старога.

— Добрай раніцы гаспадару! — прывітаўся дзед.

Баран азірнуўся і самлеў. Ногі яго падагнуліся, сам ён затросся.

— Я не ў пару, ці што? — здзівіўся стары.

Збялелы Баран ледзь выціснуў з сябе:

— Табе што?

— Мне б каня, суседзе,— згорбіўся ад ненавіснага пràшэння дзед.

— Каня?! — не пераставаў трэсціся Баран.

— Каня,— пацвердзіў стары.— Сена хачу забраць...

— Сена на той свет? — дзіка круціў вачыма напалоханы Баран.

Толькі цяпер дзед зразумеў, што да чаго і чаму ад яго ўсе ўцякалі. «Разнеслаткі па вёсцы тая пустабрэшына пра маё самагубства! — падумаў стары.— Паверыла і разванілa! Зноў жарт сам у рукі просіцца!» — зарыентаваўся «нябожчык» і працягваў услых:

— Не столькі дзеля сена мне патрэбен конь, колькі для паслугі твайму бацьку на тым свеце, браток Баран.

— Майму бацьку?! — усклікнуў таўстапузы.— Ты бачыў там майго бацьку?

— Так, бачыў,— хлусіць стары,— і маці твая побач з ім...

— І што? — трасецца Баран.— Якая тату паслуга трэба?

— Схуднеў ён там без яды, аслаб, ледзь ногі перасоўвае... Я яго там на кані вазіць буду.

— А мама? Маці як? — запальваецца крыху пасмялелы Баран.

— Маці твая яшчэ трымаецца, а вось бацька здае відавочна. Голад там!

— Дык я зараз! — страпянуўся Баран.— Не павінны мае бацькі там галадаць!

І пачаў пакаваць у мех вэнджаны кумпяк, сала ды каўбасы.

— Зараз я сам і каня запрагу! — мітусіўся ён.

У гэты момант да іх падышла Паўліна Пуставойціха. Убачыла дзеда Піліпа і, каб не паваліцца, схапілася за плот.

— Ты-ы? Ты ж павесіўся і ляжаў пад яблыняй! Адкуль ты?

— Адтуль! — І дзед паказаў на неба.— Чаму ж ты, Паўлінка, дазволіла мне пайсці з жыцця? Няхай бы ты адвяла ад мяне тую пятлю — мне так дрэнна на тым свеце! А ўжо як твой Кастусь там пакутуе!

— Ты бачыў майго Кастуся? — падскочыла Паўліна.— Як ён там?

— Як пры жыцці, ходзіць з працягнутай рукой, не мае за што нават цыгарэт купіць, не кажучы пра астатняе...

— Я вось сваім бацькам перадаю правіянт! — умяшаўся ў размову Баран, ускідваючы мех з харчамі на воз.

— У мяне гэткіх прысмакаў няма,— зноў страпянулася Паўліна,— але пенсію сваю праз цябе, былы суседзе, перадам нябожчыку Кастусю.

— Ты, былая суседачка, аббяжы хуценька тых, у каго хто памёр калісьці, і збяры ім гасцінцы, а я тут з канём пачакаю. Ды, глядзі, хуценька, мне на гэтым свеце быць доўга няма дазволу...

Праз нейкі час Піліп выгружаў дабро ў сваю хату.

— Ладкуй, баба, на вечар добры стол і рыхтуйся сустракаць гасцей — частаваць іх будзем! — камандуе дзед.

— Якія госці? У нас саміх не дужа багата ў кладоўцы! — дзівіцца старая.— І якое сёння свята?

Дзед Піліп паказаў жонцы мяхі з прысмакамі:

— Вось! Тыдзень будзем святкаваць!

— А з якой радасці? — яшчэ больш дзівіцца старая.

— Маё вяртанне з таго свету — хіба ж не радасць? Такое бывае раз у жыцці ды і тое не з кожным!

Вечарам Паўліна Пуставойціха, не перастаючы, сакатала за багатым сталом.

— Каб не я, хіба ж сядзелі б мы гэтак весела ўсёй вёскай?..

І стаяў той стажок сена на Псігурцы цэлы тыдзень, пакуль не скончыўся правіянт у мяшках і не разышліся па сваіх хатах дзедавы аднавяскоўцы.

## Следчы эксперымент

Генадзь Вітальевіч Гаркун адагрэўся пад сонейкам ля цёплага мора, умацаваў нервы санаторным рэжымам, паправіў здароўе аздараўленчымі працэдурамі і вымушаны быў вярнуцца дамоў, бо адпачынак скончыўся.

І вось ён раніцай, пасвяжэлы і бадзёры, кіруецца на працу, па якой, як цяпер адчуў, засумаваў. Ён з хваляваннем чакаў сустрэчы з падначаленымі і асабліва са сваім утульным кабінетам, у якім ён прывык кіраваць і дзе можна было і «глынуць», і прыдрамнуць.

Падняўшыся ў ліфце на свой паверх, Генадзь Вітальевіч з задавальненнем адзначыў: у яго адсутнасць тут зроблены няхай сабе і касметычны, але рамонт. Кідаўся ў вочы прыемны светлы колер сцен і ўрачысты бляск палакіраванай падлогі.

«Малайцы! — падумаў Гаркун.— Сёння на лятучцы так і адзначу!»

Ён, штосьці напяваючы, пакіраваўся калідорам да дзвярэй, на якіх лашчыла сэрца кідкая шыльда з усяго адным словам «ПРЫЁМНАЯ».

Генадзь Вітальевіч ужо быў узяўся за дзвярную ручку, калі побач з дзвярмі, даволі высока на чысцюткай сцяне, заўважыў чорны адбітак падэшвы. Адбітак зеўраў чорнай плямай, псуючы і агульны выгляд пасляремонтнага калідора, і светлы пасляадпачынкавы настрой начальніка.

— Гэта ж не інакш як хтосьці спецыяльна задзёр нагу так высока і ляснуў падэшвай па сцяне! — абурыўся ўголас Гаркун.

Тут ён убачыў у канцы калідора, ля акна, некалькі мужчын ці хлопцаў, відаць, наведвальнікаў, якія чакалі пачатку працоўнага дня, каб звярнуцца з нейкімі сваімі справамі.

«Не інакш як яны напэцкалі на сцяне, марнуючы тут час!» — падумаў Гаркун і гукнуў:

— Падыдзіце сюды, хлопцы!

Хлопцы паслухмяна падышлі.

Гаркун паказаў на сцяну і строга спытаўся:

— Ваша работа?

— Што вы? Як можна? Не! — хорам адмовіліся яны.

— Так я вам і паверыў! — выказаў недавер Гаркун.— Зараз праверым! Вы ў мяне не адкруціцеся —аплоціце ўвесь рамонт!

— Ды няма нам ад чаго адкручвацца! — запэўніў адзін з падазраваных.

— Вось з цябе і пачнем! — парнуў пальцам у грудзі гэтаму хлопцу Генадзь Вітальевіч.— Ану, прыкладзіся сваім абуткам да сцяны побач з гэтым следам!

Хлопец аднекваўся:

— Ды я так высока не задзяру нагу! У мяне штаны-дудачкі.

Гаркун настойваў:

— Следчы эксперымент пакажа, ты гэта ці не! Не затрымлівай і мяне, і сваіх таварышаў!

Хлопец пацікнуў плячамі, адышоўся для разгону да працілеглай сцяны, падскочыў і з усёй сілы прыпячатаў падэшву свайго абутку побач з «узорным» адбіткам.

— Ну? А казаў, «штаны-дудачкі»! — не ўтрымаўся Генадзь Вітальевіч. Затым уважліва агледзеў і параўнаў два адбіткі: — Не... Здаецца, не той след. Тут пратэктар у клетачку, а ў цябе — у елачку... Ты можаш быць свабодны, няхай зараз скача наступны. Я вас выведу на чыстую ваду!..

Праз хвілін 10—15 Гаркун усё ж дапяў: сярод гэтых наведвальнікаў зламысніка няма. Відаць, нехта раней пакінуў след на свежапабеленай сцяне і бясследна знік.

Пасля гэтага эксперыменту сцяна зрабілася стракатай, як далмацінец, але якая гэта дробязь у параўнанні з пошукам ісціны!

Генадзь Вітальевіч з выглядам чалавека, які зрабіў важную справу, шырока і рашуча расчыніў дзверы з любай яго сэрцу шыльдай і накіраваўся ў свой утульны кабінет, перакананы ў неабходнасці працягнуць следчы эксперымент са сваімі падначаленымі. Няхай сабе гэта змарнуе працоўны час — ісціна даражэй!

## Святая прастата

Дзед з бабай сядзелі на лаўцы ля сваёй хаты і нетаропка перакідваліся словамі. Гаворка вялася пра...

Далей можна і не канкрэтызаваць, пра што гаманілі старыя, бо старасць кожнага чалавека адметная ўспамінамі ды перабіраннем хваробаў, якія апаноўваюць людзей паважанага веку. А калі Бог злітаваўся і хваробы не дужа дапяклі рэдкім шчасліўцам, тыя ўсё роўна не могуць без аханняў ды розных нямогласцяў. Пагаворыць чалавек пра сваю больку, здаецца, яна ўжо і менш баліць...

І сёння дзед з бабай перабралі традыцыйныя тэмы, паскардзіліся ды паспачувалі адно аднаму і моўчкі аддаліся сваім думкам.

Раптам баба пытаецца:

— А скажы ты мне, Яўлампій, адкуль бяруцца разынкі, як іх здабываюць?

— Разынкі? — перапытаў дзед і пачырванеў.— Разынкі выкалупваюць з батонаў. Ці ж гэта незразумела?

— Ого! — усклікнула старая.— Колькі ж трэба батонаў перакалупаць!

— А што ж рабіць! — разважае дзед.— Дзе ж іх болей возьмеш?

— Цікава як! — паківала галавой баба.

Зноў замоўклі старыя, і зноў праз нейкі час пытаецца старая:

— А чаму, Яўлампій, вада, кажуць, у моры салёная? Хто яе там падсольвае? У нашай сажалцы — вада як вада, а там салёная... Дзіва!

— Ніхто яе там не падсольвае! — тлумачыць дзед.— Дзе ж было б солі набрацца, каб столькі вады пасаліць?

— Але ж яна салёная! — настойвае баба.

Дзед працягвае:

— Вада ў моры салёная таму, што ў ёй селядцы водзяцца. У нашай сажалцы, дзякуй Богу, толькі карасі

прыжыліся, а карась — рыба салодкая. Не давядзі Бог, запусціць нам хто селядцоў — каюк карасям! Сажалка зробіцца як мора, салёная, і карасі здохнуць.

— Навошта нам у сажалцы селядцы! — схамянулася старая.— Карасі смачнейшыя!.. Ды і бялізну потым не выпалашчаш, соль будзе раз’ядаць цела.

Зноў сядзяць моўчкі старыя, зноў кожнае спавіта сваімі думкамі.

— Які ты, Яўлампій, у мяне разумны! — зноў схамянулася баба.

— Тут ужо нічога не скажаш! — з гонарам задраў дзед галаву.

Баба зірнула на ката, які лашчыўся ля ног і якому, здавалася, таксама было цікава слухаць разумныя адказы на складаныя пытанні, і звярнулася да сваёй жывой энцыклапедыі:

— А вось тут якія тлумачэнні? Наш каток шэранькі, у суседзяў — белы, у Настасі — зусім чорны. Хто іх там падфарбоўвае?

Дзед нядбайна пачаў «раскладваць усё па паліцах»:

— Наш каток шэранькі, бо бацькі яго падгулялі, калі на дварэ шарэла, надвячоркам, значыць. Жыццё суседскага ката бярэ пачатак ад светлага, сонечнага дня — вось ён і белы, а пра чорнага і казаць няма чаго — ноч, яна і ёсць ноч!

— А наш жа каток шэранькі, але ў рысачкі! Адкуль яны?

— Рысачкі, кажаш? — задумаўся стары.— Рысачкі ад таго, што, хоць надвячорак быў шэры, а неба, пэўна, у той вечар спаласавалі хмаркі...

— Вось яно што! — задаволілася тлумачэннем баба.— А скажы ты мне, Яўлампій, чаму чалавеку паміраць не хочацца?

Тут дзед коратка і вычарпальна, а галоўнае, дакладна адказаў:

— Таму, што жыць хочацца!

# Світанак і вечар

Дождж сыпануў знянацку, таму Любе і Валі, дзвюм сяброўкам, нічога не заставалася, як забегчы пад ратавальны дэкаратыўны дах аўтобуснага прыпынку. Горад — не чыстае поле, дзе безгаловіца змочыць чалавека да апошняй ніткі. У горадзе, як у той байцы, што ні крок — то і стол, і дом.

Сяброўкі, схаваўшыся ад дажджу, не звярталі на яго ўвагі і зусім не сумавалі, бо былі захоплены сваёй гаворкай.

— Дык вось, ён мне кажа,— горача працягвала Люба: «У вас, краля, така-а-ая апетытная хада, як у Клаўдзіі Шыфер!» А я азіраюся і...

— Ты ж памятаеш, як да мяне падкаціў на тачцы з музыкай той чувак! — не стрымалася Валя.— Ой, Любуня, што ў нас далей будзе, не ведаю!..

— Дык вось, Валь, ён мне гэтак кажа, а я на шпільках ды пасля цырульні... Карацей, слова за слова...

— Я цяпер без кефіру ці кіслага малака гіну... Асабліва на ноч... Што б ні з’ела — страўнік не працуе... Быццам камення поўны жывот. О-хо-хо...— пачулася за спіной у дзяўчат.

— А я, дурная, з’ела агурок, а якія ў мяне зубы! Адлежала ў бальніцы тыдзень. Чысцілі мяне ды прамывалі...

Маладыя сяброўкі здзіўлена азірнуліся: тут, на гэтым прыпынку, сядзелі дзве старыя жанчыны, якіх яны спачатку не заўважылі. Але і цяпер, заўважыўшы іх, дзяўчаты не кінулі сваё:

— Мы з ім на тачцы з форсам падкацілі на дыскатэку! Я тырчу, мяне распірае ад гонару, а ён дастае «Мальбара»...

Люба згарае ад сваіх пачуццяў:

— Учора ён першы раз мяне пацалаваў! І сёння галава кругам ідзе! А ведаеш, якія словы казаў ён мне?..

— Думаеш, чаму я з кіёчкам? — зноў пачулася з лаўкі.— Каленяў ні сагнуць, ні разагнуць. Доктар сказаў, што адслужылі сваё нейкія храсточкі ў суставах і костка аб костку трэцца...

— А я ж гляджу на цябе, як праз туман. Вочы аслаблі настолькі, што акуляраў падабраць не магу...

Дзяўчаты азірнуліся зноў, але ўжо не здзіўлена, а сярдзіта. Іх погляды крычалі: «Няўжо пра такое цікава гаварыць?!»

Але дождж усё ішоў, і маладыя не пераставалі шчабятаць:

— А скажы, як ласіны страйняць ногі!

— Што ты! Трэба пад колер ласінаў падбіраць і колер ценяў, і губы падфарбоўваць адпаведна. Хлопцы на такую гармонію клююць з разгону!

— Ой, Любка! У мяне касета ёсць, не адарвешся ад відзіка! Ён — у пасцелі, яна стаіць перад трумо прычэсваецца, а потым...

З лаўкі пачулася:

— Я дык, калі ломіць сярэдзіну, прыкладаю свежую мачу, бо аптэчнае націранне толькі смярдзіць і паліць скуру...

Дзяўчаты нервова бліснулі вачыма ў бок лаўкі і, не зважаючы на дождж, пабеглі шукаць іншага прытулку, перакідваючыся на бягу:

— Якія пустыя старыя!

— І не кажы!

Жанчыны дакорліва паківалі галовамі ўслед маладым сяброўкам:

— Якія пустыя размовы ў моладзі!

— І не кажы!

# Містыка

Яська Хліпак, хударлявы нізкаросцік і баязлівец, наколькі баяўся свайго начальніка Хлыстуна, настолькі яго і ненавідзеў. Чаго толькі не рабіў Хліпак, каб пазбегнуць начальніцкай «ласкі» — і на гадзіну раней на працу прыходзіў, і на дзве гадзіны затрымліваўся пасля працы, і пазбавіў сябе перакураў — нічога не дапамагала.

— Ты, Хліпак,— гнеўна распякаў яго начальнік,— тормаз нашых памкненняў!

Якое ж было шчасце, калі аднойчы ноччу Хліпаку лёс падараваў сон, у якім Яська рашуча і справядліва лупянуў кулаком пад вока свайму тырану-начальніку.

Прачнуўся Хліпак у халодным поце, затое вельмі задаволены сабой.

«Ну, хоць жа ў сне я зрабіў тое, што даўно павінен быў зрабіць у жыцці!» — з гонарам падумаў Хліпак.

Прыйшоўшы, як заўсёды, раней на працу, Яська нервова чакаў сустрэчы з шэфам: а раптам той нейкім чынам здагадаецца пра крамольны сон!

Убачыўшы начальніка, Хліпак схапіўся за сэрца і ледзь не паваліўся: пад вокам у Хлыстуна ззяў вялізны сінячышча. Начальнік неяк баязліва абышоў свайго падначаленага і праслізнуў у кабінет. Хліпак увесь дзень трэсся як асінавы лісток, чакаючы суровага пакарання за свой сон, але начальнік так і не паказаўся.

Наступнай ноччу Хліпаку прыснілася, быццам ён з усяго размаху садануў начальніку па зубах, ад чаго тры пярэднія начальнікавы зубы як карова языком злізала.

Хліпак імгненна ўскочыў з пасцелі, быццам яго аблілі халоднай вадой, і да раніцы праседзеў на ложку, трасучыся і баязліва чакаючы спаткання з начальнікам.

Якое ж было яго здзіўленне на працы, калі ў службовы пакой бокам ушчаміўся Хлыстун і, прысвістваючы

бяззубым ротам, прывітаўся з Яськам, пасля чаго зноў слізгануў у свой кабінет.

Хліпак не ведаў, што і думаць. Ці гэта сны нейкім чынам спраўджваліся, ці гэта было звычайнае супадзенне?..

Колькі разоў ён сніў, што займеў цэлыя мяхі грошай ды куфры з золатам, а прачнуўшыся, нават капейкі не знаходзіў. А тут што ні сон, то, як кажуць, у руку.

Калі ж трэцяй ноччу яму прыснілася, што Хлыстун сказаў: «Мы з табой болей не спрацуемся, Хліпак!» — Яська не ведаў, што б гэта магло значыць, да чаго такі сон.

Але, падышоўшы да прахадной, Хліпак усё зразумеў, бо вахцёр не прапусціў яго і паказаў на дошку аб'яў, дзе красаваўся загад аб звальненні і выплаце разліку.

«Хоць грашыма кампенсую неверагодную недарэчнасць!» — усцешыў сябе зволінены бядак.

Але касірка праз акенца патлумачыла разгубленаму Хліпаку, што ўсе грошы атрымала яго першая жонка.

— Калі яна паспела? — злосна буркнуў Хліпак і падаўся дамоў.

Пераступіўшы парог сваёй кватэры, ён ачомаўся:

— Якая жонка?!. Я ж пакуль зусім не жанаты! Што за чорт?!

Вечарам Хліпак доўга хадзіў па пакоі, баючыся легчы ў пасцель, а калі ўсё ж лёг, не заплюшчваў вачэй — ратаваўся ад новых бачанняў у сне. Але пад раніцу яго размарыла, і новы дзіўны сон не прымусіў сябе доўга чакаць. Прыснілася Хліпаку, быццам жонка злітавалася і аддала яму зробленыя грошы. Хліпак схапіў дзвюма рукамі грошы і ад радасці прачнуўся. Зірк сабе ў рукі — пуста!

«Што за халера прыснілася?» — падумаў ён і раптам уголас войкнуў: побач, на ложку, спала чароўная незнаёмая маладзіца, якая праз сон пяшчотна сказала:

— Спі, Яську, дзяцей разбудзіш, ды і на працу табе раніцай...

# Варажбітка

Існуе ўстойлівае перакананне, што толькі жанчыны менцяць языкамі налева і направа. Маўляў, баба яна і ёсць баба, што з яе ўзяць? Жанчыны гэта чамусьці не аспрэчваюць, і памылковае перакананне вандруе з веку ў век, абрастаючы новымі досціпамі мужчын.

Але хопіць! Я, як чалавек, што ведае праблему «з сярэдзіны», бяруся паказаць адваротны бок медаля, за які з пакалення ў пакаленне хаваюцца мае браты-мужчыны. Нават увесь бок медаля паказваць не трэба, даволі асвятліць маленькую кропачку, каб усталяваць, як цяпер кажуць, парытэт між дзвюма паловамі чалавецтва. Я сёння выступаю як сведка і гатовы на самым высокім судзе прысягнуць, што буду казаць праўду, адну праўду і толькі праўду!

* * *

Мужчыны збіраліся ў вольны час кожны дзень і дэталёва смакавалі тэмы, якія ў пісьмовым выкладзе мелі б грыф «сакрэтна». А паколькі на вусны пячатку не паставіш, языкі мужчын абсмоктвалі ў гэтых сказах-пераказах і пярчынкі, і разынкі, і самыя колкія вастрынкі.

Адзін з гэтай кампаніі, Міцяй Балбатун (сёння гаворка толькі пра яго), вяртаўся дамоў і, кладучыся спаць, качаўся ад рогату, расказваючы жонцы «апошнія навіны». Пры гэтым выкладваў такія дробязныя дэталі, такія далікатныя інтымнасці сямейнага жыцця вяскоўцаў, што Балбатуніха, не будучы дурніцай, хуценька накіравала каштоўную інфармацыю ў рэчышча сваёй выгады. Яна ўзяла ў рукі карты, абвясціла сябе варажбіткай і хутка

зрабілася знакамітасцю. Бывала, ля дзвярэй яе хаты стаяла чарга жанчын.

Сам Міцяй і не здагадваўся, што поспех яго жонкі Марфы хаваецца ў ім, бо ні разу не чуў, пра што гавораць сам-насам варажбітка і зацікаўленая асоба.

Неяк пасля чарговай мужчынскай зборкі Міцяй зноў качаецца па пасцелі і рагоча:

— Ой, Марфа, сёння жывот можна было падарваць ад смеху! Міхасёва Гэлька свае рапятузы раніцай спрасонку нацягнула навыварат. Міхась гэта ўбачыў і замест таго, каб падказаць, змазаў жонцы па вуху:

— Хочаш, каб усё жыццё павярнулася шыварат-навыварат?!

А прыкульгаўшы дамоў з працы, даў ёй у другое вуха:

— Пасля тваіх споднік вывертаў я нагу падвярнуў!

Сеў тады Міхась піць чай, а бедная Гэлька пасля вухатэрапіі замест цукру незнарок падсунула яму соль. Залямантаваў Міхась:

— Яшчэ раз падсунеш соль, палезеш спаць на столь!..

І паліліся з Міхасёвых вуснаў жонцы ў вушы розныя сямейныя дробязі чужога жыцця, слухаць якія нават Марфе было не зусім прыстойна. Але як казаў адзін кінагерой: «Прафесіён дэ фуа!»

На наступны дзень бяжыць бедная Гэлька да варажбіткі:

— Марфачка, раскінь карты! Што там паказвае? Мой жа Міхась...

— Не трэба! Маўчы! — спыняе варажбітка суседку.— Няхай карты скажуць мне пра звіліны твайго лёсу.

І Марфа раскладала карты, моршчыла лоб, уздыхала і охала над імі. Гэлька заломвала рукі, пакусвала рог хусткі, згарала ад нецярпення.

Нарэшце варажбітка хапілася за галаву:

— Ага! Бачу! Што ж ты нарабіла, дурная?

— Што там? — з жахам ускочыла суседка.

Марфа сурова глядзела на пакутлівы твар Гэлькі:

— Навошта ты раніцай уздзела рэйтузы навыварат?

Гэлька ледзь не млела:

— Святы Божа! Тваім картам гэта ўжо вядома!.. А што там далей? Што яшчэ яны ведаюць?

— Яшчэ? Зараз пабачым! — І Марфа зноў моршчыла лоб.— Бачу аплявуху! Па якім табе вуху змазаў Міхась?

Гэлька разгублена паказала на левае вуха...

— Далей распавядаць? — пытаннем абвастрае інтрыгу варажбітка.

— Не ведаю,— ледзь выдыхнула Гэлька,— я ж ніколі не думала, што карты пакажуць такое...

— Ну? Казаць далей? — перапытвае Марфа.

— Кажы,— здалася Гэлька.

— Гэтая карта,— і Марфа парнула пальцам у першую, якая трапіла, карту,— гэтая карта паказвае нейкае калецтва... Ці здаровы твой Міхась? Ці не скруціў часам нагу?

Гэлька застагнала:

— Хопіць! Болей не магу чуць! Тваe карты як у люстэрка глядзяць!

— Дык што з тваім Міхасём? — самазадаволена спыталася варажбітка.— Я не памылілася?

— Ой, Марфачка, скруціў нагу і змазаў мне па гэтым вуху...

— Магла і не казаць! Вось гэты валет расказаў мне пра другое вуха.

Гэлька стомлена ўстала з лавы і, апусціўшы галаву, падалася да дзвярэй, пакінуўшы скрутак з аддзякаю.

Марфа пераможна хмыкнула і наўздагон запыталася:

— А пра соль замест цукру нічога даведацца не хочаш? Як сабе хочаш.

Гэлька з жахам азірнулася на Марфу:

— Чары! Нейкія чары!.. Я лепш пайду... Я баюся далей слухаць...

Ужо ў расчыненыя дзверы Марфа крыкнула:

— Ідзі, ідзі, толькі не ўздумай спаць на столі, бо коўдра будзе звальвацца!

За дзвярыма пачуўся крык:

— Барані Святая Заступніца!.. Ратуй!

Марфа засмяялася і раскруціла скрутак з падарункамі.

Вечарам Міцяй прынёс жонцы новую інфармацыю, ад якой нават кот на прыпеку пачырванеў і накрыў вушы хвастом.

# «Арыгінальная проза»

*(З натуры)*

Ласкавы, сонечны май адбуяў кіпенню садоў, адспяваў салаўіным шматгалоссем, апрануў наваколле сакавітай зелянінай і саступіў дарогу чэрвеню. Пачалося лета.

Алесь выйшаў з хаты, трымаючы ў руках рукапіс, і сеў ля ганка на лаўку. Ён прыехаў сюды на ўсё лета. Прыехаў у бацькоўскую хату, дзе калісь нарадзіўся, у якой прайшло амаль усё яго жыццё і якая даўно стала святасцю душы і болем сэрца.

Бацькоў даўно ўжо не было на гэтым свеце, але Алесь чуў іх галасы, не жадаў мірыцца з адвечнымі законамі прыроды, з іх бязлітаснай рэчаіснасцю. Міжволі ён у думках размаўляў з бацькамі, вяртаючы іх з небыцця ў свет сваіх перажыванняў.

Алесь і ў сваіх літаратурных творах, асабліва там, дзе гаворка тычылася складанага сялянскага лёсу, карыстаўся шчодрай і цікавай спадчынай бацькоўскай духоўнасці і шчырасці.

Што б ні казалі пра школьнае выхаванне, пра ўплыў грамадскага асяроддзя на выхаванне чалавека, Алесь заставаўся адданым перакананню, што сям'я — галоўны сусвет фарміравання асноўных чалавечых якасцяў. Нездарма кажуць: «Калі бацькі не заклалі розуму — ніводны дыплом не ўратуе ад дурноты».

Алесь канчаў пісаць аповесць, у якой люстэркам адбіваўся лёс бацькоў у пасляваенны час. Тады, сярод нястачы і дармавой працы ў калгасе, людзі спявалі, ладзілі вечарынкі, знаходзілі цёплае слова для жывой душы. Было менш гырканіны і злосці. Кажуць, што галодны чалавек — злосны. Але ж пасля вайны галодных было шмат, а злосці значна менш, чым сёння, сярод сытых ды

адкормленых. Значыцца, не голад галоўная прычына жорсткасці і чэрствасці, а штосьці значна больш складанае...

Менавіта з такімі развагамі пісаў Алесь сваю аповесць, адшукваючы тую ўмоўную мяжу, за якой грамадства пачало губляць чалавечую годнасць.

Раптам пачулася:

— А ты ўсё пісанінай займаешся!.. Кінь дурное!

Алесь настолькі ўглыбіўся ў свае думкі, што не заўважыў, як на двор зайшоў Міхась, сусед.

— Кінь ты дурное! — ледзь варочаў п'яным языком Міхась.— Сёння і ты пісьменны, і я пісьменны, і грамацеі мы ўсе... І што з таго? Ты, канешне, прабач, што я выражаюся, але маць тваю сена ела... Што ты тут крэмзаеш?

— Пішу аповесць,— адказаў Алесь.

— Аповесць? А што гэта за храновіна такая? — цікавіцца сусед.

Алесь зірнуў на скамечанага Міхася, ад якога несла спіртным і цыгарэтным чадам, нейкай тухлінай, і патлумачыў:

— Гэта — проза... У адрозненне ад літаратурнай прозы, ёсць і проза жыцця...

— Ты, Фёдрыч, прабач, але я сяду каля цябе...— ледзь варочаў языком нечаканы госць.— Ты, бляха, пісьменнік, а не ведаеш, маць тваю сена ела, што самая арыгінальная проза гэта...— І Міхась па-заліхвацку мацюкнуўся.— Ты, канешне, прабач, што я выражаюся, але, бляха, та-а-ак захацелася пагаварыць... А з кім?..

Міхась настолькі расцягваў словы, што гэта неверагодным цяжарам націскала на нервы. Хацелася дапамагчы раскрыць яму рот, каб хутчэй «пагаварыў» і пайшоў далей. Але ў такім стане пазбавіцца яго «прозы» было вельмі складана.

Цвярозы ён быў чалавек як чалавек, а вось п'яны — прымітыўны і занудзісты да немагчымасці, бо плёў адно і тое, ды яшчэ праз слова мацюкаўся.

— Фёдрыч, прабач, што я выражаюся, пісаць — не

фокус, была б ручка і папера... усе мы пісьменнікі. А пагаварыць та-а-ак захацелася... Ты мяне разумееш?

— Так, так... разумею...

— Ды выкінь ты гэта! — І Міхась паспрабаваў заваладаць рукапісам.— Хрэн на твае паперы! Не сушы мазгі, маць тваю сена ела... Пісаць кожны можа... Ты, канешне, прабач, што я выражаюся, але з кім пагаварыць, калі не з табой, Фёдрыч?

— Я слухаю,— выціснуў Алесь.

— Ну, ты мяне разумееш?.. Я, калі што — нікому нічога... Калі што, і табе, Фёдрыч, таксама. Дай лапу! — І Міхась пачаў ціскаць Алесеву руку.

— Дзякуй, Міхась, я ведаю,— мармытаў бедны Алесь, выслабаняючы сваю руку з потнай далані суседа.

— Ты мяне паняў, Фёдрыч? Я такі чалавек... Я, калі што, бляха... Ты ж мяне ведаеш...

— Так... так...— не ведаў што і казаць Алесь.

— Ну, ты мяне паняў? Усё правільна?

— Усё, Міхась, усё...

— Слухай, Фёдрыч, ты прабач, што я выражаюся, а каб сто грам?..

— Што сто грам? — не зразумеў Алесь, бо гаворка нечакана крутнулася ў другі бок.

— А нічога... Я ведаў, што ты хрэн дасі сто грам...

Не шкада было Алесю сто грамаў, але ён як уявіў Міхасёва плявузганне за ста грамамі, у яго пацямнела ў вачах.

— Заўтра, Міхась, прыйдзі... Заўтра я знайду табе і болей...

— Э-эх, думаў пагаварыць з табой, Фёдрыч, душу адвесці... а да заўтра магу забыцца... Каму душу раскрыць?

Алесь устаў з лаўкі, даючы зразумець суседу, што пара разыходзіцца.

— Я ж столькі хацеў сказаць, а ты, маць тваю сена ела...— з цяжкасцю ўстаў з лаўкі і Міхась.— Калі што, я заўсёды...

— Яшчэ пагаворым,— узбадзёрыўся Алесь, прадчуваючы адыход суседа. Скроні сціснула ад пустой, цягучай гаворкі горш, чым ад перагарнага смуроду.

— Ты, Фёдрыч, прабач, што я выражаюся, але заўтра я прыйду. Ты мяне паняў?

— Зразумеў, Міхась, прыходзь,— уздыхнуў Алесь.

— Фёдрыч, лягчэй на душы зрабілася, а каб, бляха, яшчэ сто грам...— І Міхась падаўся з двара.

Алесь адчуў кожнай клеткай свайго змучанага арганізма такую стому, быццам увесь дзень быў упрэжаны ў плуг.

«Вось табе і вёска,— сумна думаў Алесь,— я тут нарадзіўся, рос і выхоўваўся на прыстойнасці і годнасці папярэдніх аднавяскоўцаў... Ці ж такой была вёска? Ці ж пілі гэтак беспрычынна кожны дзень?»

Алесь узяў рукапіс і ў роспачы пайшоў у хату, але за спіной зноў пачуў:

— Слухай, Фёдрыч, забыўся спытацца.

Алесь здрыгануўся ад нечаканага працягу пакутаў. Ён выдыхнуў:

— Пытайся...

— Прабач, Фёдрыч, але мне незразумела, як ты гэтак можаш жыць... Га?

— А што табе не зразумела?

— Я ж, бляха, калі да цябе ні прыйду, ты цвярозы! Ты што, не маеш за што ці хворы?

Алесь узмаліўся:

— Міхась, ідзі дамоў, сёння ты нічога не зразумееш... Я табе пасля раскажу...

— О-о, маць тваю сена ела, збаяўся! Ха-ха, точна хворы!.. Ну, бывай! — І Міхась падаўся ад ганка, але раптам спыніўся: — Прабач, Фёдрыч, што я выражаюся, але ж я не тое хацеў спытацца...

Алесь зморшчыўся:

— Ну, пытайся «тое».

— Ты, Фёдрыч, не кіпяціся, а які сёння дзень?

— Панядзелак.

— Панядзелак?! А ты не брэшаш?

— Не!

— Быць такога не можа, каб сёння быў панядзелак! Пабажыся, Фёдрыч! Сёння ж субота!

— Субота была заўчора.

— О бляха! Як тут не выражацца? — усклікнуў Міхась.— А я ж сёння на працу не пайшоў, думаў, субота. А заўтра чакаў нядзелі, каб зранння пахмяліцца... О бляха! Папераводзілі гадзіннікі на гадзіну назад — вось усё і пераблыталася. Вось табе і Еўропа!

— Міхась, ідзі дамоў,— зноў папрасіў суседа Алесь.— Заўтра табе на працу.

— Фёдрыч, маць тваю сена ела, лепш бы я ў цябе не пытаўся, які сёння дзень... Пацягнула ж мяне за язык... Ты, Фёдрыч, пазбавіў мяне нядзелі.

Міхась плюнуў, павярнуўся і, не развітваючыся, падаўся дахаты, кленучы і Еўропу, і дзень, калі нарадзіўся.

# Між радкоў

Пісала маці сыну:

— Крывіначка мая родная! Сыночак мой залаценькі! Заблыталася я лічыць дні і ночы пасля апошняга твайго прыезду. Стамілася душа, збалелася сэрца: а ці здаровенькі ты? Як пачуваецца твая жонка? Ці не пахварэлі мае ўнучанькі? Спадзяюся на лепшае і дзякую Богу за гэта, але ж у галаву лезе featнае насланнё, а душу вярэдзіць невядомасць.

Пра мяне не турбуйцеся. Я ўжо акрыяла ад апошняй нямогласці, дзякуй Богу, магу крануцца — сама і напіцца, і перахрысціцца...

«...З голаду не паміраю,— чытаў сын уголас далей атрыманы ліст ад маці,— праўда, хлеб не сказаць што скончыўся, але высахлі апошнія скарынкі і адвярнуліся ад маёй бяззубасці. Ды і як ім было не скамянець, калі часу мінула ў адзіноце столькі, што і дрэвы пагалелі пасля лета, і зямелька падрыхтавалася да зімы...

Успомніла халады і міжволі схамянулася: ці перазімую ў халоднай хаціне? Праўда, нейкае лам'ё на дрывотні пакуль ёсць ды бурак з бульбінай у варыўні, але ўсё роўна боязна.

Ведаю, што вы там апошнім часам дужа занятыя, і замілавана ўспамінаю тую пару, калі быў жывы бацька і не зводзіліся ў нас парсючкі ў хляве, а кароўка штогод частавала нас і малаком, і масельцам. Былі і вы тады вальнейшыя...

У мяне ўсё добра, то беражыце сябе і бывайце здаровенькія...»

Сын адарваўся ад пісьма і запытальна зірнуў на жонку:

— Не зразумеў, чаго яна дамагаецца. Скарга не скарга, просьба не просьба — нейкі рэбус...

Жонка выхапіла з рук мужа пісьмо, прабегла па ім вачамі:

— Што табе, дурню, незразумела? Просіць не турбаваць яе: сама п’е, сама хрысціцца! Варыўня поўная бульбы, іншай гародніны, дровы ёсць. Што яшчэ трэба?! А тое, што хлеб прычарсцвеў, дык чэрствы хлеб здаравей для старога арганізма.

— Можа б, з’ездзіць, праведаць яе? — вагаецца сын.— Рэбус нейкі прыслала...

— Ды які рэбус? — усхадзілася жонка.— Чытай між радкоў — распанела! А па-руску кажучы — з жыру бесіцца!

# Тунель пад Ла-Маншам

Ігнат Крот жыў у раённым цэнтры. Дом яго калісьці стаяў воддаль ад аўтамабільнага руху, але з часам перапланаванні ды розныя будаўнічыя ўладкаванні раённага цэнтра падвялі да самых яго вокнаў шумлівую і чадную вуліцу.

Насупраць яго дома, цераз дарогу, пабудавалі цагельную ашчадную касу, а побач з ёй — аддзел раённай міліцыі.

Ігнат жартаваў:

— Добра яшчэ, што міліцыю да мяне падсунулі, а не турму.

Кажуць, што ў кожным чалавеку — у аднаго глыбей, у іншых амаль навідавоку — затойваецца нячысцік, які чакае свайго часу і хоць раз у жыцці падштурхне чалавека да зусім неверагоднага ўчынку.

Вось і Ігнат Крот аднойчы адчуў, як нехта ўнутраны і даволі настойлівы штурхае яго да страшэннай авантуры, якія бываюць толькі ў прыгодніцкім кіно, ды і то — замежным.

Ігнат не вытрымаў і падзяліўся нечаканай ідэяй са сваім сябрам Рыгорам:

— Хочаш жыць, як кум каралю?

— Хто ж гэтага не хоча? — без асаблівага імпэту адказаў сябар і сам спытаўся: — А што для гэтага трэба?

— Грошы! — коратка кінуў Ігнат.

— Я і без цябе гэта ведаю. А дзе ж іх столькі ўзяць?

Ігнат паказаў праз вуліцу:

— Вунь бачыш ашчадную касу? Пабудавалі, як спецыяльна, насупраць, вочы мазоліць, сама на грэх напрошваецца. Грабанём яе — і ў дамкі!

Рыгор таксама паказаў праз вуліцу, але на іншы будынак — на міліцыю:

— А вунь тое бачыш? Там хутка бранзалеты на рукі пачэпяць!

Але Ігната гэта не спыніла. Ён доўга пераконваў сябра, дэталёва і падрабязна выкладаў свой план, абяцаў поўны поспех і гарантыю.

— Ты ж прыкінь, Рыгорка! — гарачыўся ён.— Нейкіх дзесяць—дванаццаць метраў прыйдзецца капаць пад дарогай — затое ні табе сігналізацый, ні табе бранзалетаў! Нашы жонкі будуць насіць сапраўдныя брыльянтавыя бранзалеты, а мы з табой будзем піць «чарніла» з залатых кухляў! Колькі тут капаць?! Гэта ж не пад Ла-Маншам!

Рыгор вагаўся:

— Ну, уяві, што мы дакапаліся да касы, а там жа падлога. Як пралезці праз яе?

Ігнат супакойваў сябра:

— Я быў у касе, усё агледзеў. Дошкі там не суцэльныя, а з кавалкаў. Стукнем знізу, цвікі і паддадуцца. Распалануем падкоп так, каб у нядзелю, калі там выхадны, ламануць тыя масніцы.

Рыгор усё яшчэ сумняваўся:

— А нара, якую мы пакінем? А падкоп? Ён жа прывядзе потым міліцыянтаў роўненька да тваёй хаты. Не, браток, гэта — простая дарога ў турму!

Ігнат не здаваўся:

— Рабіць падкоп будзем не ад маёй хаты, а з суседняй, гаспадары якой памерлі. Ніхто там не жыве, яна пустуе не адзін год, і гэта яшчэ лепш — ніякіх сведкаў, можна капаць дзень і ноч. Ну, няхай сабе, як ты кажаш, прыйдуць міліцыянты па нашай нары ў тую хату, а яна нічыя — і спаганяць няма з каго.

Пакуль Ігнат горача пераконваў сябра, у Рыгора ў глыбіні душы прачнуўся яго ўласны нячысцік, які таксама горача пачаў нашэптваць: «Дурны! Не вагайся! Пакапаеш зямлю нейкі тыдзень, затое астатняе жыццё будзеш толькі пагладжваць жывот...»

— Тваё ўзяло! — згадзіўся Рыгор.— Але яшчэ адно пытанне: грошы ж у касе ляжаць не на падлозе, не на стале, а ў нейкіх сейфах пад замком. Як іх адтуль дагрэбаць?

— Дробязь! — бадзёра адказаў Ігнат.— Галоўнае патрапіць у будынак, а там — мы гаспадары!

Падкоп пачалі рабіць назаўтра. Мара пра хуткае ўзбагачэнне надавала сілы, і сябры не шкадавалі сябе — капалі і цягалі зямлю кашамі да выхаду, дакладней, да ўвахода.

Рыгор дзівіўся:

— Ну, Ігнат, ты сапраўдны крот — зямля табе паддаецца, як таму экскаватару!

— Думай пра грошы — і ты будзеш экскаватарам! — раіць сябар.

На ноч даводзілася прыпыняць працу, бо жонкі не толькі б запыталіся, а ўзялі б за горла: «Дзе быў? Чаму не начаваў дома?» А жонак браць у долю было пакуль рызыкоўна, бо доўгі бабскі язык — першы вораг у такой далікатнай справе.

І тым не менш справа рабілася даволі жвава — метр за метрам сябры-землякопы набліжаліся да запаветнага багацця.

Нарэшце, паводле іх падлікаў, тунель, як яны жартавалі, пад Ла-Маншам быў гатовы. Заставалася рэзка ўзяць уверх і намацаць падлогу. Каб зрабіць апошні крок, дачакаліся нядзелі — і пайшлі «на ўзлёт»...

У тую нядзелю ў міліцыі дзяжурыў лейтэнант Байкоў. Асаблівых здарэнняў не было, аператыўнае становішча дазваляла расслабіцца, таму лейтэнант уключыў тэлевізар і глядзеў нейкае «мыла».

Раптам пачуўся стук. Міліцыянер выключыў тэлевізар і прыслухаўся. Стук зноў і зноў аднекуль далятаў да яго пільных вушэй. Дзе і што грукала — немагчыма было разабраць. На ўсякі выпадак Байкоў расшпіліў кабуру і намацаў пісталет.

— Быццам штосьці грукае пад зямлёй,— прамармытаў ён.

Зноў зрабілася ціха.

— Мне падалося,— уздыхнуў з палёгкай дзяжурны.— Занадта я праяўляю пільнасць... Пад зямлёй злачынцы не водзяцца...

Ён зноў уключыў тэлевізар.

Раптам за спіной, і зноў жа аднекуль знізу, штосьці грукнула, пасля закраталася на падлозе масніца. За ёй суседняя, і яшчэ адна.

Байкоў выхапіў з кабуры пісталет і прыняў абарончую позу. Сэрца яго моцна тахкала, у роце перасохла.

Пачуўся новы стук знізу, і дошкі з падлогі пырснулі ўгару. Пад падлогай зеўрала чорная пустэча, а ў ёй стаяў на каленях і лыпаў вачыма зацярушаны зямлёй незнаёмы мужчына.

Абодва, і міліцыянер, і незнаёмец, настолькі разгубіліся, што, здавалася, акамянелі.

Першы ачомаўся незнаёмец, ён жа Ігнат Крот.

— Водаправодчыка выклікалі? — бадзёра спытаўся ён.

— Н... не...— няўпэўнена адказаў Байкоў.— Якога водаправодчыка? У нас тут і вады няма...

— Правільна! — не тушуецца Ігнат.— Вось для таго тут мы... наша фірма, каб падвесці да вас ваду!

— Хух! Як вы мяне напужалі! — І Байкоў схаваў пісталет назад у кабуру.— А я ж думаў, што недзе злачынцы арудуюць... Хух!

Ігнат не даваў апамятацца дзяжурнаму:

— А вас што, начальнік не папярэдзіў, што праз гэта месца пралягуць падземныя камунікацыі?

— Мяне асабіста ніхто не папярэдзіў,— пацініснуў плячыма лейтэнант.

— Што ж, на сёння, думаю, хопіць! Заўтра працягнем! — спрабуе выйсці з гаворкі Крот.— Вы, таварыш лейтэнант, пакладзіце дошкі на месца да заўтра.—

Звяртаецца да Рыгора, які за ім стаяў рачком ні жывы ні мёртвы: — Брыгада! На сёння хопіць! Вяртаемся на фірму!..

Калі сябры выпаўзлі на двор нежылога дома, Рыгор напусціўся на сябра:

— Усё! Хана нам з табой! Замуруюць нас у турме пажыццёва!

— Спакойна! — спыняе сябрава абурэнне Ігнат.— Лейтэнант нічога не зразумеў.

— Ён жа нас бачыў, асабліва цябе! Апазнае! — зноў заенчыў Рыгор.

— Апазнае? — хмыкнуў Крот.— Зірні на мяне — жонка мяне ў такім выглядзе не пазнае! І ты гэткі ж — адны вочы блішчаць.

— Як ты мог прамахнуцца і замест касы патрапіць вунь куды? — не сунімаўся Рыгор.

— Камяні, свалачугі, змянілі наш напрамак, ды і вопыту малавата,— апраўдваўся галоўны падкопшчык.— Думаю, што пад Ла-Маншам было б лягчэй прайсці, чым пад нашай вуліцай...

Рыгор насцярожыўся:

— Што цяпер? Куды цяпер?

— Абмываемся і кіруемся ў другі бок ад майго дома, каб заблытаць сляды. Памылка — дробязь, другое дрэнна — не піць нам з залатых кухляў «чарніла»!

— Добра трэцяе,— дапаўняе сябра Рыгор,— тое, што лейтэнант разгубіўся і не арыштаваў нас на месцы. Пілі б мы з табой турэмную баланду з шчарбатай міскі і прасілі б дабаўкі... Шчасце для нас у гэтым, а не ў грашах!

# Выдумшчык

— Я хоць роду мужыцкага, хоць семя маё, як кажуць, на гнаі прарасло, а паняцце маю пытляванае. Не ведаю, якое яно было, колішняе дваранства, а сялянства маіх продкаў — караністае і ўчэпістае, прышчэпленае да адвечнай кемлівасці...

Дзед Кузьма зрабіў глыбокую зацяжку, выпусціў праз нос дым і важна абвёў поглядам прысутных.

Прысутныя, старыя бабы-адзіноты, аднагодкі Кузьмы, сядзелі на лаўцы пад векавой ліпай абапал апошняга ў вёсцы дзеда і пагаджаліся з ім, думаючы кожная пра сваё.

— Так... так... вядома... А як жа...

Кузьма зноў зацягнуўся і працягваў:

— Я ў сваім жыцці памыліўся толькі адзін раз, акрамя таго, што ажаніўся. Пасеяў тытунь не ў добрую пару — трэба было пад поўню, а я ткнуў у зямлю на сходзе маладзіка і змушаны быў курыць яго, нібыта траву: ні табе моцы, ні смаку. Дый то гэта было дзесяткаў шэсць ад майго дваццацігоддзя.

Дзед зноў зацягнуўся і смачна крактануў:

— А гэты вочы выядае да патыліцы, прадзірае нутранку да пятаў. Забыўся, як камары выглядаюць: дохнуць за вярсту ад мяне...

Старыя бабы пагаджаліся:

— Так... так... вядома... А як жа...

— Мая нябожчыца Параска,— дзед перахрысціўся,— царства ёй паднябеснае, казала: «Ты, Кузьма, мяне пераЖывеш, бо твая галава нічым не перагружана...» Яна, мая ластаўка, мела на ўвазе тое, што, акрамя розуму, нічога лішняга Бог у маю галаву не паклаў.

— Так... так... вядома... А як жа...— чулася з двух бакоў.

— Учора,— дзед пусціў дым з носа,— злавіў у Кабаковым віры шчупака. Вочы — па яблыку, клыкі — як у тваe, Стэфка, сучкі. Валтузіў мяне паўдня — ледзь рукі не павырываў, сцярвец...

Дзед ляснуў даланёй па лысіне:

— Камары разляталіся! — зацягнуўся і казаў далей: — Дык вось — шчупак. Распароў я яму пуза і войкнуў: цалюсенькі гусак ляжаў ля паветранага пузыра ў прамой кішцы. Цэленькі, як ёсць, толькі пер'е абслізла. Абмыў я яго, пасаліў і, як ёсць, у печ, да агню. Такая смаката — не мог ад'есціся. Праўда, крыху цінай аддаваў. А шчупака я пасаліў у кубёлку і ў склеп — на зіму паставіў...

Бабы, хоць ведалі, што Кузьма ніколі не займаўся рыбалкай, ківалі галовамі:

— Так... так... вядома... А як жа...

Дзеду, па праўдзе кажучы, абрыдла штодзённая лагоднасць баб, хацелася здзіўлення, пытанняў, зацікаўленасці. Нават ката, калі яго штодня гладзіць ад галавы да хваста, заванітуе ад салодзенькай пяшчотнасці: яму сяды-тады трэба і поўсць уздыбіць, і раз'юшыцца, каб аж блохі пырснулі ва ўсе бакі.

Дзед скасавурыўся на слухачак — ніякіх эмоцый. Можа, ім расказаць, што знайшоў у лесе калоду пчол і мёду назапасіў цэлую кадушку? Не! Лепей — дзве кадушкі!.. А хоць сабе і тры — іх і гэта не кране, будуць такаць ды пагаджацца. Порхаўкі старыя!

У Кузьмы ад такіх думак нават цыгарка патухла.

«Ха-а! — весела падумаў ён, ад чаго з цыгаркі пайшоў дым.— Я вас прапяку наскрозь, чортава семя!»

— Э-хе-хе...— абыякава выдыхнуў ён.— Што я ўсё пра тытунь ды пра шчупака? Якая гэта дробязь у параўнанні... Я ж зусім забыўся...

Кузьма загадкава цмокнуў языком і змоўк. Старыя пераглянуліся.

— А што не дробязь? — спыталася адна з іх.

Кузьма моўчкі зацягваўся і выпускаў дым праз нос.

— Кузьма, ну што?! — ледзь не ў адзін голас запыталіся бабы.

Кузьма таямніча прыклаў пажаўцелы палец да сівых вусоў:

— Толькі ж глядзіце — нікому! — І зноў нетаропка зацягнуўся.

— Ну што? Што? Не цягні ката за хвост! Хутчэй! — перабівалі адна адну бабы.

— Жанюся! — сканануў Кузьма.

— Во-о-ой! — цяпер ужо ў адзін голас ускліккнулі слухачкі.— Здурнеў! З кім? Брахун! А хто яна? Хто?! Зноў цягнеш ката за хвост!

Кузьма за свой доўгі век добра вывучыў жаночыя слабасці, таму сцяміў, што трапіў у самы яблычак. Ён нядбайна ўстаў з лаўкі і прамовіў:

— Яшчэ не вырашыў, хто яна... Яшчэ выбіраю... Ну, бывайце, ластаўкі! — І падаўся хісткай хадой да сваёй, гэткай, як і сам, старой, хаты... Дзед плячамі адчуваў зацікаўленасць «ластавак» да сваёй асобы, і гэта надавала сілы.

## Галоўнае – выгаварыцца

Ці даводзілася вам чуць, як дзве бабы адначасова расказваюць адна адной сваё «набалелае», свае апошнія навіны, не слухаючы адна адну?

Глядзяць адна адной у вочы і так ужо стараюцца, так малоцяць языкамі — дзіва! Паспрабуйце гэтак — не атрымаецца! Заблытаецеся, саб'яцеся, нагаворыце абы-чаго, ды яшчэ, барані Бог, язык зламаеце.

А тут — усё гладка, спрытна, спраўна, на адным дыханні. І што самае дзіўнае — кажуць, яны пасля такой «гутаркі» могуць слова ў слова паўтарыць тое, аб чым гаварыла сяброўка. Талент!

Спачатку заводзіць адна:

— І што гэта ўжо навалілася на мяне ў гэтым годзе? Карова доіцца на адну цыцку, куры перасталі несці яйкі, бо ад іх певень адварочваецца, хацелі завесці маладых, дык кот задушыў куранят, а ў самой — нястраўнасць, вурчыць у жываце, крок ступлю і — «сяду». Так напрысядалася, што...

— Пачакай! — спрабуе ўшчаміць слова сяброўка.— Пастой ты! Перавядзі дух! Ад усяго гэтага наслання трэба ўзяць...

— А я ж табе не ўсё сказала, мая ты суседачка! Жук уссеў на бульбу, як каршун на курыцу, я ж застануся без бульбінкі, я ж — загіну! А парсюк, каб яму трыбухі вывернула, убіўся ў агарод і вывернуў усю...

— Ды аб сцяну ён галавой, твой парсюк! Я ж табе раскажу, якую навіну я пачула ад...

Але тая і вухам не павяла ў бок суседкі і, не ўдыхаючы паветра, працягвала сваё:

— Авечка, воўчае мяса, выкачалася ў гной па самыя вушы, а мне ж трэба пастрыгчы яе — канцом! Палезла сёння ў склеп, а там...

Суседка бачыць, што «эфір» увесь час заняты, а яе ад уласных навін самую распірае — пачала адначасова з сяброўкай «апаражняць» сваю душу:

— А ўчора Амэля (гэта ж не абгавор) брала перада мной ваду ў студні — сагнулася, а пад сукенкай — цьфу! — голая скура! Я ж свайго дурня болей па ваду ніколі не пушчу — саб'юць з панталыку.

А ў Скнаравічах каровы не пайшлі сёння ў поле. Верчына была радоўка, а яна зрання набралася як жаба гразі і паваліліся пасярод вуліцы. Ішоў Адась, таксама п'яны як цэп, ды давай паднімаць Верку — качаюцца ў пяску, а сабака, баронячы гаспадыню, адарваў Адасю вуха.

А пенсіі будуць плаціць не грашыма, а халадзільнікамі і тэлевізарамі. Цяпер ламай галаву — куды іх дзяваць!

— А гэна касавокая скула брэша і брэша на мяне — ступай абзывае. А я пайшла ноччу ды закапала дзяркач каля яе хаты! Хваробу — набрахалася! Адвезлі ў лячэбніцу!

— А я дык свайго п'янога валацугу так адмясіла чапялой па скабах, што раніцай не ўстаў на работу — кажа, прастудзіўся недзе, усе косці ломіць. Ты ў мяне яшчэ не гэтак «прастудзішся»!

...І гэтак бесперапынна гадзіны тры «адводзяць душу».

Раптам як па камандзе абедзве «прыпамінаюць», што дома ў іх — мноства тэрміновых, неадкладных спраў, і пачынаюць развітвацца:

— А мая ж ты даражэнькая! Я ж цябе як паслухаю, аж паразумнею, аж на душы лягчэй робіцца!

— А мая ж ты сяброўачка! А з кім жа можна так цікава пагутарыць, як не з табой?

— А Зінка ж толькі пустое гаворыць!

— А Манька ж адно дурное пляце!

— А Ніна ж вярзець бязглуздзіцу!

— А Ванда ж — толькі языком малоціць!

— А пра Стэфку і казаць няма чаго — яна ж зусім як бот з левай нагі!

— А мы ж з табой — усё талкова, нікога не абмываем, не абгаворваем!

— А дай Бог табе здароўя, мая суседачка! (А ў душы: «І сапраўды — як тая ступа!»)

— А каб у цябе ў доме ўсё вялося, мая сяброваччка! (А ў думках: «Задзяры табе зараз сукенку — у самой голы зад!»)

...Заўтра сяброўкі сустрэнуцца зноў і ў іхную «малатарню», магчыма, трапім і мы з вамі.

# Каўказскія пчолы

Пчальнік у Язэпа быў на зайздрасць усёй акрузе. Дваццаць пчаліных сем'яў у аднаго гаспадара — гэта не жартачкі. Як пачне Язэп іх падглядаць — пах мёду стаіць па ўсёй вёсцы, аж у насах казыча. Але аднавяскоўцы, калі сказаць шчыра, толькі і чулі той пах, а каб хто хоць лыжку аблізаў ад таго мёду, дык такога днём з агнём не адшукаеш. Ды што аднавяскоўцы! Сам Язэп, магчыма, толькі лыжку і аблізаў. Чалавек ён быў ціхі, лагодны, паслухмяны, сам, як тая пчолка, працавіты. Але ўся яго праца ішла, як кажуць, кату пад хвост, бо ўсім кіравала, усюды сунула нос яго жонка Тэкля. А дзе ўжо баба кіруе гаспадаркай, там, самі ведаеце, што вырабляецца — ні сабе, ні людзям. Заколе парсюка Язэп, не парсюк, а жарабец, сала на падбрушшы — на даланю, на спіне — на добрую пядзю, дык вось гэтага сала не бачыць ні Язэп, які на хаду ледзь штаны не губляе, ні дзеці. Куды яго Тэкля дзене ці, як у нас кажуць, запыхтара — адзін толькі Бог і ведае. А можа, і ён не ведае, бо такая баба каго хочаш абдурыць. Кажуць, згнівае гэта сала, а вось накарміць сям'ю Тэклі не дазваляе яе скнарнасць.

І з мёдам рабілася таксама нешта дзівоснае. Выпампуе Язэп яго цэлыя місы, поўныя вёдры, здаецца, еш хоць распеpажыся. Але як крутнецца ля мёду Тэкля — і слыху пра яго няма. Ды хоць бы ўжо сама Тэкля была баба як баба. А то ні грудзей табе, ні лытак — трэска высахлая, блыха сплюшчаная. Пэўна, і сабе шкадавала яды. А якая ж сварлівая — жах! Да каго хочаш прычэпіцца. А калі ніхто не трапіць ёй пад руку, тады ходзіць і сама сабе нешта крычыць, сама з сабою сварыцца. Суседзі абыходзілі яе за вярсту — каму хочацца на такую скулу нарывацца. А што ж рабіць тым, хто праз дарогу жыве? Тут хочаш не хочаш, а кожны дзень адзін аб аднаго церанешся.

А жыў праз дарогу, брама ў браму, Міхась, які не так даўно вярнуўся з салдатаў. І вярнуўся ён не адзін — прывёз жонку, чарнявую прыгажуню Нону. Служыў Міхась ці то ў Грузіі, ці то ў Асеціі, адтуль, з крайсвету і прывёз сабе палавіну. Дай Бог ім ладу! Вось да гэтай Ноны і стала чапіцца кожны дзень Тэкля, ці, як яшчэ яе звалі,— Язэпіха. Толькі маладая жанчынка ступіць нагой з ганка — Тэкля ўжо тут як тут. Але Нона не звяртала ўвагі на траскатню суседкі, не ведала нашых парадкаў, цярпела — мо так у нас і трэба. Такога нахабства, каб на яе лаянку не рэагавалі, Язэпіха вытрымаць не магла і аднаго дня пусціла ў ход сваю самую моцную зброю — загаліла саромнае месца і, сагнуўшыся, выставіла яго напаказ Ноне. Як і трэба было чакаць, Тэкліна «зброя» сваю справу зрабіла, бо Нона зачырванелася і ўцякла ў хату. Болей яны амаль зусім не бачыліся. Хоць Тэкля і пільнавала сваю перамажаную суседку, але тая пазбягала з ёй сустрэч.

Аднойчы на Міхасёвым агародзе паявіўся вулей, а ў ім — сямейка пчол. Спачатку думалі, што раёк прыйшоў ад Язэпа, але Міхась з гонарам растлумачыў, што гэта пчолы не мясцовыя, а каўказскія, што насы ў іх даўжэйшыя і мёд яны дастаюць з самых глыбокіх кветак. Каб сказаць, што Язэп зайздросціў, дык не. Чалавек ён быў добры і ўсім жадаў дабра. А вось яго жонка страціла спакой. Яна з зайздрасцю глядзела на чужаземных працаўніц — яны здаваліся і большымі, і лёталі хутчэй, і мёду насілі болей.

Калі ж сталі падглядаць кожны свае пчолы, атрымалася, што Міхась ад адной сям'і ўзяў вядро мёду, а ў Язэпа, як хто ўрок,— пустыя рамкі, толькі пчолам на паўзімы і было.

— Гэта яна вінавата! — крычала Тэкля.— Вінавата гэтая нацмэнка! Каб яны паздыхалі, яе даўганосыя чэрці!

— Ціха, Тэкля! Нельга клясці пчолак,— супакойваў Язэп жонку.— Яны ж — боскія стварэнні.

— У цябе ўсе боскія стварэнні, акрамя жонкі,— яшчэ больш усхадзілася Тэкля.

Тут, як на тое ліха, прыйшоў сусед праз хату — Каптур і, як кажуць, з карабля — на баль:

— Чуў я, што каўказскія пчолы — зладзюгі несусветныя. Мёд могуць сцібрыць нават з лыжкі, калі яе ў рот нясеш.

— Во-во! — закрычала Тэкля.— А мой дурань іх боскімі стварэннямі называе. Зладзюгі яны! Я адразачку дапетрыла, што ў Міхася мёд крадзены. Наш мядочак! Яны ж будуць абкрадваць нас кожны год! Дзе ж шукаць рады, Каптурка, суседзе? Парай!

— Ты, Тэкля,— раіць Каптур,— пакажы суседскім пчолам тое месца, якое паказвала Ноне. Яны, гэтыя каўказцы, усе ганарыстыя. Сама расказвала, што Нона ўцякла ад цябе, як ад агню. Думаю, што і пчолы, калі яны з Каўказа, не вытрымаюць тваёй «зброі» і ўцякуць на Каўказ.

Язэпіху ажно падкінула:

— Як гэта я сама не дадумалася?! Зараз! Зараз жа я ўпалю ім штуку! Я ім пакажу, як мёд красці. Век будуць помніць!

Узрушаная жанчына рашуча падалася на суседні агарод. Мужчыны не паспелі і раты раскрыць, як Тэкля ўжо сагнулася ў тры пагібелі каля Міхасёвага вулля і, ляскаючы даланёй па голым целе, крычала:

— Во вам мёд, зладзюгі! Во! Паразрывае вас ад такога мёду! Нюхайце! Ешце!

Каптур ад смеху схапіўся за жывот:

— Ты бліжэй, Тэкля, да лятка! Бліжэй! Дай ім дразда!

З суседніх хат пачалі выходзіць на крык аднавяскоўцы. Але Тэкля нікога не заўважала. Яна ў злосці і азарце наблізіла сваё саромнае месца да самага лятка і галёкала:

— Зладзюгі! Крывапіўцы! Паадсыхаюць вашы доўгія насы ад гэтага мёду! Я вам нюх папсую! Во вам! Во! О! О-о-о!..

Раптам Тэклін крык перайшоў на адно толькі «о», а потым» на «ой» і «ай».

— Ой-ой! А-яй! Ай! — Тэкля, нягледзячы на ўзрост, як маланка пераскочыла цераз плот, бліснуўшы пачырванелым месцам, якім пужала пчол.— Ай! Ой! Дапамажыце! Заядаюць!

Яна перла як шалёная па вёсцы, уздымаючы хмары пылу, пераскокваючы праз яміны і камяні, пакуль, нарэшце, не ўскочыла ў сажалку, дзе і села, айкаючы і ойкаючы.

— Каб табе язык адсох за такую параду! — кляла Тэкля Каптура.

А ён, выціраючы слёзы, крычаў:

— Вылазь, Тэкля, з сажалкі, а то вада закіпіць і рыба зварыцца!

Язэпіха скрыганула зубамі ад болю, злосці і крыўды, але прамаўчала. Першы раз у жыцці.

Болей, кажуць, яна ўжо нікому не паказвала сваёй «сакрэтнай зброі».

# Калючае масла

— І якога ражна трэба майму малаку?! — скардзіцца гаспадыня суседцы.— Збяру смятану — смятана густая, палец не лезе, перакулю яе ў бойку, збіваю-збіваю, каб масельца зрабіць...

— І што? — цікавіцца суседка.

— А нічога! — адказвае гаспадыня.— Адна сыроватка ў бойцы. А куды што дзяецца — дзіва нейкае!

— Нячыстая сіла! — коратка і рашуча робіць выснову суседка.

— Што нячыстая сіла? — уздрыгвае гаспадыня.

— Нячыстая сіла з'ядае тваё масла! Вось што!

— А як гэта яна? — падалася ўсім целам наперад гаспадыня.

— А вельмі проста!.. Ці заходзіла да цябе тая чарнакніжніца?

— А-а... Заходзіла, сядзела, шморгала носам...

— А пра масла была гаворка?

— Пра масла?.. Стаяў у талерцы на стале камячок даўнейшага масла... Яна і паднесла да яго свае падслепаватыя вочкі і залапатала: «Маё ж масла жаўцейшае! Маё ж масла жаўцейшае!..»

— Вось табе і адказ, куды дзяецца тваё масла з бойкі!

— І куды?!

— А туды, што наслала чарнакніжніца нячыстую сілу ў бойку, яна і есць тваё масла.

— Дык што ж рабіць? Я ўжо трэці раз пераводжу смятану на сыроватку.

Суседка пераходзіць на шэпт:

— Па-першае, пахадзі з пустой даёнкай паміж яе пракосаў і адразу ідзі даіць сваю карову. Пяройдзе да цябе малако і ад яе каровы...

— А што далей? — не церпіцца гаспадыні.

— А па-другое, укінь у бойку тры іголкі, а потым выкульвай смятану і збівай масла,— шэпча суседка.

— А іголкі нашто? — здзівілася гаспадыня.

— А на тое, што нячыстая сіла, калі пачне жэрці тваё масла, паколе язык і ўцячэ з бойкі.

— Дзякуй, суседачка, за добрую параду! — з памакрэлымі вачыма выдыхае гаспадыня...

На гэты раз масла і сапраўды згрудзілася ў вялікі жоўты ком, які пагойдваўся не ў сівой сыроватцы, а ў беленькай маслянцы.

Шчаслівая гаспадыня ўрачыста паклала масла на талерку, лыжкай абгладзіла, абкругліла яго, аблізала лыжку і паставіла талерку на сярэдзіну стала. Хацела накрыць ручніком ад мух, але адчыніліся дзверы, і праз парог ступіў брыгадзір.

— О-го-го! Якое масла! — усклікнуў брыгадзір.— А каб да гэтага масла (і брыгадзір пачухаў пад носам), дык і смага б згасла!..

«Прыйдзецца ставіць пляшку,— падумала гаспадыня,— каб яна табе ўпоперак стала!..»

— Дзякуй, што зайшлі!— замітусілася гаспадыня.— Зараз прагонім смагу! Хвіліначку!

Нарэзаўшы сала і хлеба, паставіла на стол пляшку самагонкі і наліла брыгадзіру поўную шклянку.

— А сабе! Кульні, пакуль пішу працадні! — пажартаваў ён.

— І сабе, і сабе, куды ж я дзенуся! — І гаспадыня наліла сабе ў кілішак.

— Ну, будзем! — І брыгадзір, праганяючы смагу, за некалькі глыткоў апаражніў шклянку.

— Сальца бярыце! Сальца! — частуе гаспадыня.

— Не! Я пачну з масельца! Такое жоўценькае і апетытнае, што само ў рот просіцца! — І брыгадзір паклаў на хлеб вялікі кавалак масла. Хлеб з маслам, нібы сом у вір, нырнулі ў брыгадзіраў рот, і яго сківіцы пачалі перамолваць гаспадынінy смакату.

Раптам брыгадзір ускочыў з лавы і зароў:

— Ой, нячыстая сіла! Ой, халера!

— Што?! Што здарылася, брыгадзірка?! — да паўсмерці перапужалася гаспадыня.

Брыгадзір стаяў з шырока разяўленым ротам, з якога даставаў іголку...

Гаспадыня падумала: «Калі ўжо сам брыгадзір зароў «нячыстая сіла», значыцца, з бойкі яна пераскочыла ў брыгадзіраў рот... І дзякуй Богу — самае месца для яе!» — з палёгкай уздыхнула яна.

# Трыфан і чыкагская мафія

Касілася на досвітку лёгка. Змякчэлая за ноч росная трава была падатлівай, ды і падкляпаная звечара каса рабіла сваю справу бездакорна. Таму Трыфану заставалася толькі выконваць даведзеную да аўтаматызму немудрагелістую камбінацыю: замах — паварот, замах — паварот. Шы-ых! Швіць! Шы-ых! Швіць!..

З кожным пракосам неба рабілася святлейшым — днела. Кароткія перадыхі доўжыліся — прыемна было выпрастаць змакрэлую спіну на духмяным пракосе. Трыфан заплюшчваў вочы, у вушах чулася звыклае: «Шы-ых! Швіць!», якое чамусьці пераходзіла ў сугучнае: «Ы-ыых! Спіць!»

Працоўны дух Трыфану крыху падпсавала тое, што праз дзіравую кішэню сатлелага пінжака згубіўся ягоны сняданак: лустачка хлеба і кавалачак сала, закручаныя ў зжаўцелую газету. Патаптаўся Трыфан між пракосаў, папароў траву касільнам — усё дарэмна. Мусіць, згубіў недзе свой «сэндвіч» па дарозе з вёскі.

Але Трыфан шкадаваў не так хлеба з салам, як зжаўцелай газеціны, бо без яе не скруціш цыгаркі. Пакрышаны тытунь-самасад знаходзіўся, як заўсёды, у бляшанцы з-пад ваксы. Бляшаначка ратавала тытунь ад роснасці і, галоўнае, ад поту, які прамочваў наскрозь вопратку і ўсё, што ў ёй было.

Вось Трыфан і застаўся ні з чым — ні яды, ні курыва.

Ляжаў Трыфан на пракосе, падклаўшы рукі пад галаву, і толькі чуў: «Ы-ыых! Спіць! Ы-ыых! Спіць!»

Салодкія гукі з вушэй Трыфана рашуча і настойліва прагнаў тэлефонны званок. Трыфан машынальна палез у цэлую кішэню і дастаў мабільны тэлефон:

— Хто гэта так рана трымдзіць? Слухаю!

У тэлефоне штосьці засапло, потым нейчы голас глуха выціснуў:

— Хана табе, Трыфан! Ты засвяціўся! Шэф табой незадаволены!

Трыфан не разгубіўся:

— Які шэф? Брыгадзір?! Ды пайшоў ён к чорту! Я тут без хлеба і табакі працую, як чорны вол...

У тэлефоне зноў засапло:

— Мяняем пароль, Трыфан! Запомні — мафія не спіць!.. Спі-і-ць! Спі-і-ць!.. Ы-ыых! Спі-і-ць...

Хтосьці страсянуў Трыфана за грудзі. Цяпер ужо ля самага вуха пачулася:

— Ы-ыых! Спіць!.. Уставай!..

Трыфан расплюшчыў вочы. Ён ляжаў на пракосе, адной рукой трымаючы касільна, а другой прыціскаючы да грудзей любімую сваю кніжку «Шцірліц супраць чыкагскай мафіі».

Сонца стаяла высока ў небе, але Трыфану падалося, што вышэй за сонца была галава брыгадзіра, які раскатурхаў яго і перапыніў салодкі сон.

# Тэлепатыя

Мальвіна, патаптаўшыся вакол мужа, асцярожна прамовіла:

— Хутка наш юбілей, пачамяшы патыліцу.

— Я ведаю! — бадзёра, быццам толькі і чакаў гэта пачуць, адказаў Яўхім.

— Тыдзень застаўся,— зноў асцярожна падказала гаспадыня.

— Каму ты гаворыш?! — ці то запытаўся, ці то пацвердзіў Яўхім.

— У мяне ёсць прапанова,— працягвала жонка.

— Можаш далей не казаць! — перабіў яе Яўхім.— Я падумаў і падлічыў, колькі і каго...

— Не, не тое! — удакладніла Мальвіна.— Я хацела б адзначыць юбілей удваіх — ты і я.

— Што-о-о? — скрывіў губы Яўхім.— Які ж гэта юбілей?

— Сямейны. У нейкім сэнсе, як цяпер кажуць, інтымны,— пачырванела яна.

— Можа, яшчэ скажаш, падпольны, як з'езд РСДРП?

— Дарэмна смяешся! — запэўніла Мальвіна.— Нам ёсць што ўспомніць, парадавацца, магчыма, слязу пусціць... Я цябе прашу!

Яўхім паціснуў плячыма:

— Як ведаеш. Я хацеў па-людску...

Праз тыдзень, як і належыць у такі дзень, Мальвіна накрыла стол, сама прыбралася, прыфуфырылася. Яўхім хадзіў зранку незадаволены, напружаны. Выйшаў у сад.

Нарэшце гаспадыня гукнула праз акно:

— Заходзь, даражэнькі, усё гатова!

«Даражэнькі» нервова кінуў недакураную папяросу пад агрэставы куст і нага за нагу пайшоў у хату.

— Га-а! Дык тут на цэлае вяселле...— узбадзёрыўся Яўхім, зірнуўшы на стол.

— Сядай! Сядай! — радасна запрасіла мужа Мальвіна.— Бліжэй! Насупраць мяне, вунь туды!

Яўхім падсунуў табурэтку, сеў і пацёр рукі:

— Та-а-ак! Я — гарэлачкі! А табе чаго?

— А мне крыху вішнёўкі.

Яўхім наліў жонцы ў кілішак вішнёвай настойкі.

Мальвіна падняла чарку:

— Ну, скажы што-небудзь...

— Што я буду сам сабе казаць? Ні хваліць, ні ганіць сябе не магу,— прабурчаў Яўхім.

— Тады я скажу! Добра, дрэнна, а пражылі ж трыццаць гадоў разам. Ці ж гэта жарт?

— Які тут жарт? — скрывіўся Яўхім.— Усю плеш мне праела за гэтыя гады! — а сам падумаў: «Гэта ты сёння ласкавенькая, пякучка...»

Яўхім перакуліў кілішак у рот і не паспеў глынуць, як пачуў:

— Не такая я ўжо і пякучка, як ты, пэўна, падумаў...

Яўхім папярхнуўся, гарэлка патрапіла ў нос. З вачэй пацяклі слёзы.

— Вось, як ты і хацела, я ўжо слязу пусціў,— адкашліваўся Яўхім.

— Ну,— засмяялася Мальвіна,— калі ўжо не туды папала — значыцца, будзеш сёння ці п’яны, ці драны!

Яўхім аддыхаўся:

— Не хапала мне быць сёння драным... Лепш напіцца.

Мальвіна нахілілася над сталом, падсоўваючы бліжэй да мужа салату:

— Вось салатка, закусвай!

Яе грудзі нечакана ціскanулі на край талеркі, бульба з яе пакацілася па стале. Яўхім зморшчыўся і падумаў: «Грудзьмі талеркі варочае... Во ад’елася!»

— Трэба было меней карміць! — спакойна сказала Мальвіна, збіраючы са стала бульбу.

— Каго карміць? — спалохана спытаўся Яўхім, і кавалак хлеба стаў яму ўпоперак горла.— Я ж нічога не казаў!..

Мальвіна наліла мужу гарэлкі:

— Ты ж, напэўна, падумаў, што я раз'елася, што раней такая не была...

Яўхім залыпаў вачыма:

— І не думаў такое думаць! Адкуль ты ўзяла?

Мальвіна працягвала:

— А памятаеш, насядаў: еш, папраўляйся, люблю тоўстых жанчын, а ты як жэрдка... Казаў такое? Вось — што хацеў, тое і трымай!

Яўхім толькі падумаў: «Ледзь хапае рук абхапіць» і штосьці яшчэ падобнае, як Мальвіна ў адказ:

— У маім узросце, калі ў мужыка хапае рук абхапіць упоперак, значыцца, я яшчэ фігурыстая.

Яўхім ускочыў:

— На чорта такі юбілей! Да д'ябла твой інтым! Гарэлка ў рот не лезе! Людзей не пазвалі! А дзе дзеці? Чаму не прыехалі? — Схапіў чарку і кульнуў яе адным глыкам...

Калі ж праз паўгадзіны ў хату нечакана і шумна ўваліліся дзеці, а за імі пачалі збірацца суседзі, шчаслівыя Яўхім і Мальвіна селі цяпер ужо не насупраць, а побач.

І ўсё ж сапраўдную асалоду Яўхім адчуў пасля таго, як Змітракова жонка Агата, усаджваючыся, перакуліла жыватом бутэльку з гарэлкай, якая стаяла аж пасярэдзіне стала.

«О-о, дык мая Мальвіна і сапраўды яшчэ фігурыстая!» — падумаў юбіляр, пасля чаго адразу пачуў у вуху шэпт жонкі:

— Я ж табе казала, што я фігурыстая!

Яўхім схамянуўся, але не паспеў нічога падумаць, бо з усіх бакоў пачулася:

— З юбілеем! З юбілеем!

# За калючым дротам

Ох і надакучыла ж Павэлку жыць у чалавеканенавісніцкім асяроддзі, сярод агрызання і гырканіны. Ступіш крок — зловіш мацюка, яшчэ крок — схопіш ліхтар пад вока.

Непрыкметна ён і сам ашчэрыўся на ўвесь свет. Падыдзе чалавек прыкурыць ці папытацца што, а ўсё Павэлкава нутро — на дыбы, сківіцы сціскаюцца, ажно зубы патрэскваюць, як дрэвы на марозе, пагляд — нібы той калючы дрот.

Мітусяцца людзі, шмат іх вакол, а кожны — сам па сабе, кожны — за сваім «калючым дротам». Схапіся за сэрца, паваліся — ніхто не падыдзе, не зверне нават увагі.

— Хопіць! — рашуча сказаў сабе Павэлак.— Буду сеяць дабрыню вакол сябе!

Бачыць ён, ідзе насустрач цяжарная жанчына, жывот, як кажуць, ажно на нос лезе. Гэта ж сёння такая рэдкасць — быццам мужчыны перавяліся.

Замілаваўся Павэлак, сэрца яго размякла, вочы памакрэлі. Падышоў ён да жанчыны і з цеплынёй кажа, паказваючы на яе жывот:

— Няхай Божачка дае шчасце вашаму будучаму дзіцятку! А вам — лёгка разрадзіцца!..

Жанчына ажно пазелянела, ажно падскочыла:

— Якому дзіцятку?! Дурань! Паглядзець бы на фігуру тваёй лярвы — пэўна, калода калодай! Пад'ялдычнік чортаў!..

Павэлак уціснуў галаву ў плечы і падаўся далей ад гэтага ляманту.

— Во ўліп! Як гэта я памыліўся? Замест прыемнасці абразіў чалавека.

З падпсаваным настроем пайшоў ён далей сярод мітуслівасці і адгароджанасці чалавека ад чалавека.

Бачыць, наперадзе жанчына нясе дзве сумкі, ды такія цяжкія, што ногі ў яе заплятаюцца ў вузел, рукі адрываюцца. Паставіла яна сваю ношу на зямлю, ледзь спіну выпростала, пот з вачэй не паспявае адгортваць — адпачывае.

Шкада зрабілася Павэлку беднай жанчыны, зноў размякла яго сэрца. Падскочыў ён да незнаёмкі і — хоп за сумкі:

— Ці ж для вас такі груз, мая вы харошая! Я ж вам памагу!

— А для каго гэты груз? Для цябе? Пастаў сумкі, зладзюга! — зараўла жанчына.— Людзі! Дапамажыце!

Імгненна сабраўся натоўп.

Павэлак ад нечаканасці збялеў, слова вымавіць не можа.

— У міліцыю яго!

— Гэта ж трэба — сярод яснага дня! — пачуліся галасы.

— Я ж хацеў дапамагчы... Я ж пашкадаваў жанчыну...— замармытаў Павэлак.

— Пашкадаваў воўк цяля!

— Жывуць вось такія прайдзісветы за чужы мазоль!

— Рукі адсекчы яму трэба! — загуло з усіх бакоў.

Напалоханы Павэлак даўся галавой у людскую сцяну, збіў з ног некалькі чалавек і, як у жахлівым сне, папёр праз нейкія двары, пераскокваючы праз жалезныя загарадкі, пераганяючы і людзей, і машыны. Спыніўся толькі тады, калі зусім заняло дыханне і пацямнела ў вачах.

— Што гэта за дзень такі? — сягаў ён, выціраючы з губы павіслую сліну.— Во памог дык памог жанчыне! Лепей бы яна ногі павыкручвала, несучы тыя сумкі!

Каб крыху падняць сапсаваны настрой, дастаў цыгарэту, але закурыць не ўдалося, бо ў час «спрынту» згубіў запалкі.

Крутнуўшы галавой, Павэлак убачыў голеную патыліцу хлопца, які густа дыміў цыгаркай.

Павэлак крануў за плячо курца і ветліва спытаўся:

— Ці не дасі ты мне, хлапчына, прыкурыць?

«Хлапчына» паволі павярнуўся да просьбіта і...

— Дзе ты, казёл смярдзючы, бачыш хлапчыну?! Вочы павылазілі, ці што? Ану хіляй адсюль па халадку!

Павэлак збянтэжыўся:

— Гэта ты ззаду... а спераду...

— Я і ззаду, і спераду дзяўчына, магу паказаць! — гыркнула дымам у твар Павэлку тое, што і ззаду, і спераду не было падобнае ні да хлапчыны, ні да дзяўчыны.

— Ой! Не трэба паказваць! — замахаў рукамі Павэлак і зноў, уціснуўшы галаву ў плечы, «пахіляў па халадку».

— Не-е! Досыць дабрыні! Сею адно, а вырастае чорт ведае што! Дамоў і толькі дамоў! На людзей не гляджу! Ні з кім не вітаюся! Я — сам па сабе, яны — самі па сабе!..

Хмурна было на душы ў Павэлка, зноў адчуў ён вакол сябе калючы дрот, сківіцы яго сціснуліся, нутро ашчэрылася.

Але, ідучы скверам, убачыў падлеткаў, якія сілкаваліся гарэлкай, закусваючы цыгарэтным дымам. Не вытрымала Павэлкава душа, прыпыніўся ён:

— Хлопчыкі, хлопчыкі!.. Што ж вы робіце! Яна ж вам пашкодзіць!..

— Гляньце! — загаманілі падпітыя падлеткі.— Яшчэ прыпёрся нахлебнік! Толькі турнулі аднаго, а тут другі ў рот зазірае! Ну што, дзядзечка, пачастуем і цябе, каб не лез да чужога стала на халяву!

І ўсыпалі яны Павэлку столькі, што ледзь дамоў данёс.

Дома, убачыўшы на мужу сінякі, усхадзілася жонка, і калючы дрот яе нервовасці счапіўся з Павэлкавым калючым дротам штодзённай гырканіны, намотваючы далей клубок жыццёвай неўладкаванасці.

# Ёкарны бабай

Хвядос толькі што прачнуўся і сядзеў у споднім за сталом. Ён адсёрбваў з трохлітровіка агурочны расол, выплёўваў кроп, парэчкавае лісце і паміж справай распавядаў свайму сябру Міхасю, які прыйшоў яго праведаць:

— О-о, ёкарны бабай, учора ўзяў на грудзі!.. Пасля першых трох мярзаўчыкаў — ні ў адным воку. Праўда, пасля наступных трох закідонаў з прычэпам — затырчаў! Сёння, бляха, буксы гарaць, хоць «01» выклікай.

Міхась насцярожана паказаў вачыма на жанчыну, якая сядзела на канапе і сваім выглядам ніяк не ўпісвалася ў тутэйшы лад жыцця.

— А-а! — зразумеў Хвядос.— Не баіся! Яна ні храна, ні паўхрана па-нашаму не разумее. Прыперлася ў госці з Амерыкі нейкая радня: быццам па дзедавай прабабцы залоўка ў пятнаццатай стрэчы. Як кажуць, пень гарэў — чорт плечы грэў...

— А хоць сабе і разумее! — падбадзёрыўся Міхась.— У нашага арганізма свае малекулы, у іхняга свае.

Хвядос сербануў расолу і запытаўся:

— А ты?..

Міхась, які паспеў «патушыць» свае буксы, ажывіўся:

— Я?! Я ўчора захмяліў лыч па першае чысло! Спачатку хлабыснулі па фаўсту на кожнае рыла. Во! Міравое «чарніла»! Затым раздушылі «Двух буслоў» і яршом завяршылі... Поўты атас!

Амерыканка, якая, здавалася, не звяртала ўвагі на размову сяброў, раптам спыталася:

— Скажытэ, что есть ёкарны бабай?

Міхась зашыкаў на сябра:

— Ты ж казаў, яна нічога не разумее!

Хвядос спакойна дапіў расол, выцер даланёй залітыя грудзі і супакоіў:

— Бачыш, пытаецца? Значыць, нічога не цяміць па-нашаму, па-еўрапейску,— павярнуў галаву да далёкай сваячкі: — Ёкарны бабай на вашу мову не перакладаецца! Ясна?

— Не ясна,— прызналася госця.— І фсё ж этот ёкарны бабай есть чэлавек, горад ці фірма?

— Фірма! — пацвердзіў Хвядос.— У нас ледзь не кожны мае такую фірму.

Міхась папярэдзіў:

— На ўсякі выпадак трэба трымаць язык за зубамі.

Хвядос ускіпеў:

— Ды пайшло яно ўсё! Буду я баяцца ў сваёй хаце! Зараз зганяем у краму і...

Амерыканка зноў спыталася:

— Скажытэ, что есть гараць баксы? Это что, кто-то горит долары?

— Во чэпіцца! — плюнуў Хвядос.— Гараць, гараць вашы долары! Сінім полымем гараць! Ясна?

— Не ясна,— не адступалася з'едлівая амерыканка.— Почему у вас гореть долары, когда вы едіте одно сало?..

— Во зануда! — распаляўся Хвядос.— Міхась! Скажы ты ёй пару ласкавых!

Міхась, які, як вядома, паспеў зранку «патушыць» свае «буксы» і патраціць свае «баксы», цярпліва і даходліва патлумачыў заакіянскай дасціпніцы:

— У вашага арганізма свая табліца Мандзілеева, у нашага — свая. Тундра!

— Правільна! — пацвердзіў Хвядос і паўтарыў: — Вось зганяем зараз у краму і...

Але з канапы зноў пачулася:

— Скажытэ, что есть...

Хвядос аж падскочыў:

— Што есть, тое і есть, а чаго няма, таго няма! Ясна?!

— Не ясна,— прызналася замежная сваячка.— Скажытэ...

Хвядос шмаргануў вышэй кальсоны і падаўся да дзвярэй:

— Пайшлі, Міхась, на двор! Не дасць гэта цемра буржуазная пагаварыць!

## Водаўстойлівая вош

— Слухай, сусед, ці не завялося ў маёй галаве што?

— Няўжо розум?!

— Ды не! Я думаю, што нейкая вош...

— Адкуль ёй узяцца?

— Халера яе ведае! Але ж грызе тыдзень нешта ў адным месцы. Дае й дае ў патыліцу.

— Хай бы жонка пашукала з грабеньчыкам.

— Шукала, але ці размінулася з ёй, ці помсціць мне за тую нашу з табой гулянку.

— Ой, браток! Лепей вош на патыліцы, чым баба ў хаце! Яшчэ невядома, хто мацней грызе...

— Яно-то так, але што ж мне рабіць з вошшу?

— А ты галаву мыў?

— А як жа, суседзе! І мыў, і соваў галаву ў цэбар — думаў, захлынецца. Дык не! Сам наглытаўся вады, ледзь аддыхаўся, а яна абсохла разам з валасамі і — зубамі ў патыліцу. Нейкая водаўстойлівая вош трапіла на маю галаву...

— А ці спрабаваў ты...

— Пасыпаў! І попелам пасыпаў, і глінай мазаў, размешанай з курыным памётам...

— Чуў я, браток, надта добра змагаецца з вошшу воцат, змешаны з газай і нягашанай вапнай. Памый гэтым галаву, і твая вош адкіне лапці, як міленькая!

— Цікава! Пра такую каву я не чуў! Дзякуй, сусед, за параду! Ой, дзякуй!..

Разышліся сусед і браток, каб кожнаму заняцца сваёй справай. Вечарам браток, употай ад сваёй жонкі, намяшаў «кавы» і за хлявом памыў галаву. Зашчымела патыліца, засвярбела, ажно слёзы з вачэй пырснулі на дзевятае бервяно.

— Нічога! — радаваўся браток.— Калі ўжо мне нясцерпна, ёй — яшчэ горш! Давыскалялася, падла!..

Зайшоў у хату браток і нырнуў пад коўдру да жонкі.

— Фу-у! Што там у цябе пад ручніком за смурод?! Не галава, а чорт ведае што! — ускочыла жонка з ложка.

— Раніцай пабачыш — буду як пераніцаваны!

Але раніцай абое жахнуліся — памытая вечарам галава блішчала, як люстэрка на сонцы. Аніводнай валасінкі не засталося! Тут ужо і праўда ніякая вош не схаваецца.

Калі глянула жонка на мужаву патыліцу, дзе яму ўвесь час свярбела,— пляснула ў далоні:

— Тут жа не вош! У цябе тут невялічкі струпок, які ты ўвесь час раздзіраў, а ён, загойваючыся, свярбеў з новай радасцю!

Кінуўся браток да суседа, адчыніў дзверы і крыкнуў з парога, бліснуўшы голай галавой:

— Ну, сусед! Калі сядзе на тваім языку скула, прыходзь да мяне — дам добрую параду, як ад яе пазбавіцца... разам з языком!

# Недарэчнае прозвішча

Даўно вядома, што Бог няроўна дзеліць. Аднаму — абярэмак, другому жменьку, аднаго шугане да зорак, другога рыне нюхаўкай у гразь. Тое самае адбываецца і з прозвішчамі: адны ганарацца сваім прозвішчам, вытыркаюць яго дзе трэба, дзе не трэба, іншыя называюць яго толькі там, дзе гэта неабходна, дый то чырванеючы.

Здаецца, змяніў бы чалавек такое, як Казёл, Баран ці Гнілазубы, на, напрыклад, гучнае — Сокал, Сілач ці Вястун, але ж продкаў не хочацца крыўдзіць. Прозвішчы не выбіраюць...

* * *

Пілiп Патапавіч Гінеколаг працаваў галоўным урачом раённай бальніцы. Раён быў адсталы, як кажуць, кульгавы на ўсе чатыры нагі. Пра гэты стан можна было і не гаварыць — варта зірнуць на бальніцу, і ўсё рабілася зразумелым.

Першае, што ўбачыў Пiлiп Патапавіч, калі прыехаў сюды, і быў гэты драўляны пахілы будынак. Медперсанал нагадваў рот старога вяскоўца, у якім замест трыццаці двух зубоў тырчаць толькі два-тры.

Пiлiп Патапавіч узначаліў калектыў, дзе замест неабходных дванаццаці «штыкоў» былі толькі тры. Пiлiп Патапавіч — чацвёрты.

Сярод наяўнага персаналу бальніцы, акрамя тэрапеўта і нарколага, быў, дакладней была, і «цёзка» Гінеколага — урач-гінеколаг.

Пiлiп Патапавіч з-за свайго прозвішча нацярпеўся за жыццё шмат розных кпінаў, нават здзекаў. Вось і тут не раз чуў за сваёй спіной: «Цяпер у нас аж два гінеколагі», хоць на самай справе ён быў хірургам.

Сюды, на выселкі, Гінеколаг прыехаў не па сваёй волі. Праштрафіўся ў адным, у другім месцы, пераводзілі, паніжалі яго. Нарэшце паставілі перад фактам: хочаш дацягнуць да пенсіі — габлюй у самую глухамень.

Прывыкалася да новага месца цяжка, працавалася яшчэ цяжэй, бо хворых хапала, а лекаў не заўсёды. Але раптам, у дадатак да ўсяго, з вобласці спусцілі дэпешу: тэрмінова, выязным метадам, правесці дыспансерызацыю насельніцтва, уключаючы самыя аддаленыя вёскі. Усіх — ад малога да старога! Хоць трэсні, а выконвай.

Ведаў Піліп Патапавіч, што гэта канец яго кар'еры, што ў белым халаце да пенсіі ён не дацягне. Нават калі павесіць замок на дзверы бальніцы, што таксама зрабіць немагчыма, усё насельніцтва раёна ўчатырох нават апытаць не здолеюць.

Нечакана галоўнага ўрача абнадзеіў шафёр бальнічнага «уазіка» Захар:

— Піліп Патапавіч, учора з вобласці прывезлі студэнтаў бульбу выбіраць. Размясцілі ў Доме культуры — бітком набіта іх там, як цялят.

Піліп Патапавіч адмахнуўся:

— А што яны мне за ўцеха? Мне ж не бульбу загадваюць выбіраць...

— Дык гэта ж студэнты медінстытута! — горача ўсклікнуў Захар.

— Святы Гіпакрат! — у сваю чаргу ўсклікнуў Піліп Патапавіч.— З гэтай табалы адабраць чалавек дзесяць самых жвавых ды разаслаць іх па закутках — чым не паратунак!

Галоўны ўрач спрытна ўскочыў у кабіну, і праз некалькі хвілін Захар хвацка затармазіў ля райвыканкама.

— У кіраўніцтва раёна выпрашу дазволу! На калені стану, а не адступлю! — ляснуў дзверцамі машыны Гінеколаг і, узрушаны, накіраваўся ў райвыканкам.

Дазвол быў дадзены.

* * *

У кабінеце галоўнага ўрача, як вераб'і на марозе, цесным гуртком сядзелі 10—12 студэнтаў, якім было суджана ўратаваць Піліпа Патапавіча ад апошняга «праштрафу» ў яго кар'еры.

Піліп Патапавіч пачаў урачыста:

— Калегі! Вам выпала шчасце на практыцы памацаць сваю прафесію жыўцом! Адкіньце канспекты і зазірніце хваробе ў вочы!

Хтосьці са студэнтаў нясмела ўставіў:

— Дык у нас і канспектаў пакуль няма. Мы ж толькі здалі ўступныя экзамены і адразу — на бульбу.

— Цудоўна! — перахапіў ініцыятыву Гінеколаг.— Не пераступіўшы парога навучальнай установы, вы адразу заступаеце на варту здароўя нацыі. Вамі будуць ганарыцца нашчадкі! Вам будуць зайздросціць сучаснікі!

Той жа голас дадаў:

— Мы ж яшчэ насмарк з кашлем блытаем...

— Зноў ты... Як тваё прозвішча? — запытаўся Піліп Патапавіч.

Устаў хударлявы патлаты студэнт:

— Кузьма... Кузьма Рэзус я...

— Святы Гіпакрат! — пляснуў у далоні Піліп Патапавіч.— Ды табе за адно толькі прозвішча можна дыплом выпісваць! О-о! Прозвішча — гэта фасад чалавека! Вось я, напрыклад...

Тут Піліп Патапавіч раптоўна збянтэжыўся.

— Так, не будзем адхіляцца ад гаворкі. Сядай, Кузьма! Тлумачу ўсім: плюньце на насмарк і кашаль, начхайце на ўсе лацінскія тэрміны! Ваша справа — уставіць у вушы вось гэта (Піліп Патапавіч паказаў фанендаскоп), прыкласці вось гэту штуковіну да грудзей і спіны і загадаць: «Дыхайце — не дыхайце». Зразумела? Далей запоўніце на кожнага вось такую картку, і ўсё! Галоўнае — больш салідласці!

Кузьма пасмялеў і папытаўся:

— А калі патрапіць сапраўдны хворы, пачнуцца скаргі, пытанні... Што тады?..

— Малайчына, Кузьма! — пахваліў Гінеколаг.— Бачу перад сабой будучае свяціла медыцыны! Тлумачу далей: усіх, хто будзе выклікаць у вас прафесійныя цяжкасці, накіроўвайце да мяне. Непасрэдна да мяне! Ды і з пацыентам не трэба рассусольваць: ці слухай дактароў, ці будзь здароў!

Будучыя свяцілы медыцыны ўзбадзёрыліся, загаманілі.

* * *

Вёска Пігулка знаходзіцца недзе на краі свету. Яна і трапіла пад патранаж Кузьмы Рэзуса. Стары «УАЗ», на якім прабіваўся па бездарожжы Кузьма, сам і кашляў, і смаркаўся.

Кузьма сядзеў на пярэднім сядзенні, як старажытная акамянеласць, сціскаючы пасінелымі пальцамі сумку з медыцынскімі карткамі і фанендаскопам. Яму, як самаму дасціпнаму, Гінеколаг даверыў і адзіны апарат для вымярэння ціску. Гэты апарат і хваляваў Кузьму больш за ўсё, бо, нягледзячы на тлумачэнні Піліпа Патапавіча, студэнт-бульбакоп так і не ўцяміў, як ім карыстацца.

Нарэшце «УАЗ», пыхкаючы і чхаючы, выпаўз з лесу і падкаціўся да першай хаты. Здранцвеласць ніяк не пакідала Кузьму, таму шафёр вылез з машыны, падышоў да плота і крыкнуў:

— Ёсць тут хто жывы?

Зарыпелі дзверы, і на двор выйшаў стары.

— Што добры чалавек шукае? — папытаўся ён.

— Прымайце, дзядуля, медыцыну! Прывёз пад самыя вокны! — гамоніць шафёр, паказваючы на акамянеласць у машыне.— Усё бясплатна! Усё для людзей!

Маланкай праляцела па хатах вестка: дактары прыехалі! Заварушыліся людзі, пачалі пераапранацца ў чыстае ды падцягвацца да хаты, у якой спыніўся Кузьма. Хто ішоў паскардзіцца на свае болькі, а хто — пагутарыць з разумным чалавекам.

Першы ў пакой да Кузьмы рашуча ўвайшоў ці то хлапец, ці то малады мужчына, з цікавасцю зірнуў на белы халат, у якім няўтульна хавалася хударлявае цела «ўрача».

«Нейкі замухрышка...» — падумаў першы пацыент, але ветліва прывітаўся.

Кузьма адказаў і, як вучыў Піліп Патапавіч, салідна спытаўся:

— На што скаргі?

— Ды ні на што! — засмяяўся хлопец.— Сказалі ўсім паказацца, вось я і тут.

— Распранайцеся да палавіны! — закамандаваў Кузьма і ўзяў у рукі фанендаскоп.

— А зверху ці знізу да палавіны? — запытаўся хлопец і, убачыўшы, як зачырванеўся доктар, дадаў: — Жартую! Жартую! — і зняў кашулю.

Пасля «дыхайце — не дыхайце» Кузьма зноў салідна заключыў:

— Так... вы здаровыя.

Хлопец чарговы раз засмяяўся і адказаў:

— А я і сам ведаю, што я здаровы!

Пасля таго як малады пацыент выйшаў, Кузьма падбадзёрыўся.

— Не так ужо і складана лячыць людзей! — сказаў сабе Рэзус і ўпэўнена крыкнуў: — Наступны!

У пакой нетаропка кульганула старая бабуля, доўга хрысцілася, быццам зайшла ў царкву, потым пакланілася і сказала:

— Добрага вам здароўечка, доктарка!

Кузьма разгубіўся, не ведаў, як ёй адказаць, і вырашыў вітаць па-гарадскому:

— Здрасьце! Праходзьце. На што скардзіцеся?

— Ой, доктарка! Калі пералічваць, на што, дык звечарэе.

Кузьма ўзяўся за фанендаскоп, але як уявіў, што давядзецца, нічога не разумеючы, абслухваць гэта высахлае цела, адклаў апарат і ўзяў другі — для вымярэння ціску.

— Усё ж якія скаргі на здароўе? — строга запытаўся ён.

Старая працягвала:

— Ой, доктарка! Сярэдзіну ломіць, страўнік не працуе, пад лыжачкай пячэ агнём, у левым вуху страляе, як Сымон з дубальтоўкі, а з правага вока штосьці вылятае...

Каб спыніць пералік хваробаў, Кузьма патрос перад носам старой апаратам для вымярэння ціску і запэўніў:

— Во тэхніка! Апошняе дасягненне сусветнай медыцыны! Зараз усё высветлім! Сядайце.

Старая паслухмяна села. Кузьма на руку старой зверху ватоўкі накруціў чорную ліпкую стужку і пачаў ціскаць гумавую грушу, забыўшыся ўставіць сабе ў вушы наканечнікі. Кузьма важна загадваў: «Дыхайце — не дыхайце».

Старая з цікавасцю назірала за дзеяннямі ўрача, а той, ціскаючы грушу, ліхаманкава прыдумваў, як супакоіць старую, што ёй параіць. Але нічога ў галаву не прыходзіла.

Раптам Кузьма ўспомніў наказ Піліпа Патапавіча, адкруціў стужку ад рукава ватоўкі і бадзёра сказаў:

— Усё зразумела!

Старая з надзеяй зірнула Кузьме ў вочы:

— Што, доктарка?..

Кузьма ўстаў, заклаў рукі за спіну і важна прайшоўся па пакоі:

— Страшнага нічога... Такое бывае... Але я вас накірую да Гінеколага.

Цяпер ужо ўстала старая:

— Доктарка, злітуйся! У маім узросце... Нашто мне

той ражон? Я зроду не была ў гінеколага, і без яго Бог даў сямёра дзетак...

Кузьма ўспомніў, што з пацыентам не трэба рассусольваць, і абсек старую:

— Да Гінеколага, і кропка!

Старая сумна пагадзілася:

— Вам відней... Эх, доктарка...— перахрысцілася і выйшла з пакоя.

Кузьма з палёгкай уздыхнуў:

— Дзякуй вам, Піліп Патапавіч, за параду! Што я рабіў бы, як выкручваўся б без яе?

«Доктарка» выцер змакрэлы лоб і крыкнуў:

— Хто наступны?

У пакой шумна ўваліўся стары, але жвавы дзядок, грудзі якога абляпілі ўзнагародныя калодкі. Стары старанна выцер ногі, прыклаў пакручаныя часам пальцы да лысай галавы і сіпла адрапартаваў:

— Здравія жадаю! Салдат трох войнаў, пяці раненняў, дзесяці ўзнагарод — Іван Сліж! У палоне не быў, ад калгасу не бегаў!

Кузьма таксама па-ваеннаму адказаў:

— Жадаю здравія! Праходзьце, я вас паслухаю.

Па загаду Кузьмы стары распрануўся да пояса і паслухмяна то дыхаў, то не дыхаў. Кузьма нічога не чуў, але ўвесь час такаў:

— Так... так... добра. Так... усё зразумела...

Стары ўзрадаваўся:

— Няўжо зразумела?

Кузьма спужаўся, што зараз трэба будзе тлумачыць, што яму зразумела, таму хуценька дадаў:

— Тут трэба падумаць... трэба ўсё ўзважыць... А ўвогуле, што вам баліць?

Стары салдат схамянуўся, памаладзеў, быццам толькі і чакаў такога пытання:

— Значыцца, так: як вып’ю пірамідону пасля тэтрацыкліну, арганізм не прымае анальгіну, а левая нырка

выкручваецца вакол сваёй восі. Калі ж усё прымаю наадварот, то ад кавінтону мяне трасе, ад этазолу кідае ў жар, а правая нырка апускаецца ніжэй левага калена...

У Кузьмы пацямнела ў вачах. Ён не меў паняцця, пра што гаворыць Сліж, ніколі не чуў назваў тых лекаў і не ведаў, як выкараскацца з гэтай блытаніны. Кузьма схапіўся за рог стала, каб не паваліцца, бо перад вачыма ўсё паплыло. Да яго вушэй, як праз туман, далятаў слова старога пацыента:

— І гэта яшчэ не ўсё, доктар! Ад кіслага малака з бульбай мяне заразае ікаўка, ад заціркі — душыць смага, а калі на ноч пераем сала — да раніцы сню сябе ў акопе на перадавой...

Кузьма зноў успомніў ратавальную параду Піліпа Патапавіча і рашуча спыніў старога:

— Хопіць! Усё зразумела! Цяпер усё!

Але стары не жадаў злазіць са свайго канька і настойліва працягваў:

— І гэта яшчэ не ўсё, доктар! Адліга насылае на маё цела сверб, у маразы слабее памяць, а як гляну нашча на сваю жонку — само смяецца...

— Хопіць! — закрычаў Кузьма.— Я ж сказаў: усё зразумела. Досыць!

Шчаслівы стары раскрыў бяззубы рот:

— Няўжо зразумела? І што?..

Кузьма доўга хадзіў па пакоі, затым рашуча спыніўся перад старым і важна сказаў:

— Не хвалюйцеся. Гэта не смяртэльна... жыць будзеце... Але я, для надзейнасці, вымушаны накіраваць вас у раён да Гінеколага.

— Што-о-о! — пырснуў слінай Сліж.— Што? Мяне, салдата трох войнаў, пяці раненняў, дзесяці ўзнагарод,— да гінеколага!

Кузьма спалохана адскочыў за стол:

— Супакойцеся! Ну што тут дрэннага? У вольны час...

— Што? — ажно вішчаў стары.— Я салдат трох войнаў! Я глядзеў у вочы фінляндцам, германцам, самурайцам... Як я пагляджу ў вочы вяскоўцам.

Кузьма ласкава супакойваў Сліжа:

— Ну, не жадаеце, не едзьце... Але ж медыцына не стаіць на месцы... Новыя падыходы да хваробы, новыя людзі...

Сліж апрануўся і рашуча пайшоў да дзвярэй.

Кузьма параіў услед:

— Паслухайце мяне, наведайце Гінеколага — і вам стане лягчэй, ён вам дапаможа...

Сліж выйшаў з пакоя, не зачыніўшы за сабой дзвярэй.

Чарга сыпанула пытанні:

— Чаго ты там лямантаваў? Табе што, балючы ўкол зрабіў доктар?

Сліж махнуў рукой і пайшоў на вуліцу.

Праз вокны да Кузьмы далятала:

— Я салдат трох войнаў, пяці раненняў, дзесяці ўзнагарод...

Праз некалькі дзён у раённай бальніцы ля кабінета ўрача-гінеколага выстраілася доўгая чарга, у якой стаяў і Іван Сліж. А яшчэ праз некаторы час Піліпа Патапавіча зноў перавялі на новае месца працы.

# Хітрыкі вакол паўлітрыкі

Вітаючы суседа і не выпускаючы яго руку са сваёй, Адолік жаласліва выводзіў:

— Што нарабілася! Што натварылася!..

Пятрусь, не пытаючыся, што ў сябра за бяда, дыхнуў на яго аптымізмам:

— Што нарабілася, тое і назад адробіцца.

Адолік выпусціў з потнай далані сябраву руку і трагічна закаціў вочы:

— О не! Такое назад не адробіцца! Супраць такога дактары ўсяго свету — луска!

Пятрусь крыху занепакоіўся:

— Кажаш, дактары? У цябе што, жонка захварэла ці хто?

— Каб жа так! А то мяне самога перакруціла, як шрубу з правай разьбы на левую! — Адолік крутнуў рукамі вакол галавы, дэманструючы шрубу з левай разьбой.

Пятрусь ціскануў плячыма:

— Не ведаю, што гэта за шруба такая, але ж на табе нічога не відаць — ні левай разьбы, ні правай. Адно толькі — што рука спацелая.

Адолік схамянуўся:

— Дык у тым і ўвесь жах маіх пакутаў, што на мне нічога не відаць! Нешта затаілася ўсярэдзіне, на самым дне, а што — сам не разбяруся.

Пятрусь вывучыў здольнасці сябра да розных «вінтоў», але хто яго ведае... Здароўе — даволі ненадзейны скарб: сёння — ёсць, заўтра — шукай яго, гукай, ды не заўсёды адгукнецца. Таму Пятрусь занепакоена спытаўся:

— Дык што з табой, браток?

Адолік прыклаў да рота даланю, нахіліўся да сябравага вуха, збіраючыся шапнуць яму нейкую тайну, але не шапнуў, а рэзка і гучна секануў у самае вуха:

— Не бярэ!

Пятрусь здрыгануўся, адкінуў галаву, пакруціў пальцам у вуху, нібы вычышчаючы аглушальнасць сябравых слоў, і перапытаў:

— Што-о-о?

Адолік, у сваю чаргу, здзівіўся з такой някемлівасці і цяпер ужо шэптам датлумачыў:

— Не п'янею! Не п'я-не-ю-ю!

— А каб ты выкаціўся! — абурыўся Пятрусь.— А ўчора хто клыпаў дахаты, трымаючыся за плот? Ты ж на нагах не стаяў! А сёння — «не п'янею»! Дурыш мне галаву!

Адолік зноў згроб потнай даланёй сябраву руку:

— Учора?! Ты што? Ды я за плот трымаўся для фацэту, для праформы! Ты выслухай, а потым гавары. Не бярэ! Не п'янею! Пераводжу толькі гарэлку, лію яе ў горла, як памыі праз плот.

Пятрусь, не будучы дурнем, абыякава адказаў:

— Ну, не бярэ. Ну і што з таго?..

Адолік насядаў:

— Як «што з таго»? П'ю і не магу напіцца! Табе гэтага мала?

— Мала,— адказаў, зяхаючы, Пятрусь.

Адолік ускіпеў:

— Мала? Дык мала не будзе! Гэта нейкі вірус, хвароба, эпідэмія, зараза! Уяві, што ты дыхаеш і не можаш надыхацца, спіш і не можаш адаспацца, ясі і ўвесь час галодны! Калі мяне своечасова не ўратаваць, па хатах пракоціцца мор, як сенакос па лузе.

— Ды плюнь ты праз левае плячо! Пры чым тут вёска да тваёй хваробы?

Адолік застагнаў:

— О-о! Каб мне вярнуцца ў адвечнае ўлонне майго душэўнага стану! Любоў да апошняй кузуркі на зямлі! Адчуванне еднасці з самым недапечаным дурнем! О-о! Пятрусь, мы з табой — браты адной цыцкі, мы з табой...

— Хопіць! — абсек сябра Пятрусь.—Хадзем да мяне, налію табе такога першаку, што з носа дым папрэ, а з вушэй полымя зашугае. Калі і сапраўды не возьме — збярэм вясковы сход, параімся, з якога боку да тваёй хваробы падыходзіць...

Пасля чацвёртага кілішка Адолікаў язык заплёўся ў тугі вузел.

— Ты ж казаў, не бярэ! — раззлаваўся Пятрусь.

— Ці ж наліў бы ты мне, каб я сказаў штосьці другое? — прамармытаў Адолік, ледзь выходзячы з хаты.

* * *

Пяршак у Петруся быў пякучы. Праўда, з носа дым не паваліў ды і з вушэй, як абяцаў Пятрусь, агонь не шугануў. Затое ногі завіліся ў вяроўку, а ў мазгах так закалаўроціла, што Адолік не памятае, як дабраўся дамоў і што было далей.

А далей амаль нічога і не было. Агата, яго жонка, добра вывучыла, што ў такім стане муж як тая доўбня, хоць аб сцяну бі яго галавой, нічога не даб'ешся. Адно толькі сказала, укладваючы Адоліка:

— І які дурань табе налівае кожны дзень?

А вось раніцай «доўбня» ператваралася ў мякіш, з якога можна было сёе-тое ляпіць. Трэба аддаць належнае Агаце, якая адпавядала сваёй мянушцы Шведка,— зранку яна прыкладала шмат намаганняў, каб вылепіць з мужа чалавека.

— Нахлябтаўся! Зноў учора недзе нахлябтаўся! — пякучымі аваднямі тнулі Адолікаў слых жончыны словы.— Скруціў ты ўсё маё жыццё ў тугі вузел! Праз цябе мае нервы зрабіліся танчэйшыя за валасінкі!

Адолік сядзеў ля стала скамечаны і нячэсаны, скардзіўся:

— Ды і мяне скруціла сёння, як шрубу з левай разьбой...

— Здохнеш! Захлынешся ёю, а я пасмяюся! — насядала жонка.

— Ды я... гэта...— штосьці мармытаў Адолік, хоць жончыны напады чуў, пэўна, тысяча першы раз, таму адрэналіну ў кроў яны не дадавалі. Але Адолік мусіў неяк апраўдвацца, бо хто ж любіць звягу?

Раптам Агата змяніла тактыку, а магчыма, і жаночую стратэгію. Яна спрытна саскочыла з высокіх нотаў на ласкавыя гукі:

— Адолічак! Адзік! — абняла яна мужа, сеўшы побач з ім.

— Ты што? Табе чаго? — спалохана адсунуўся Адолік, бо такой Шведку яшчэ не бачыў.

Тут самы час патлумачыць, адкуль гэткая мянушка ў вясковай жанчыны, якая пра Швецыю, магчыма, і чула, але наўрад ці ведае, у якім яна баку. Справа ў тым, што ў некаторых гаспадароў пачалі з’яўляцца ўласныя бензапілы, такія, як «Дружба» ці «Урал». Гонару ў тых гаспадарлівых мужчын хапіла б на ўсю акругу, але Васіль Камель, жыхар гэтай жа вёскі, прыдбаў сабе шведскую бензапілу. Што гэта за піла! Лёгенькая! Зручная! Надзейная! А галоўнае — уедлівая, угрызлівая, бо ланцуг у яе танчэйшы, канфігурацыя зубоў мудрагелістая, ды і матор круціцца значна хутчэй. Гэтай «шведцы» ўсё адно — дуб ці кавалак масла, перагрызае як шалёная.

З тае пары, як Камель нажыў сабе такую пілу, пачалі мужыкі зваць Адолікаву жонку Шведкай, бо тая пілавала мужа, хоць, калі паміж намі, было за што. Але гэта — паміж намі!..

Вось чаму пасля падазронай жончынай ласкавасці Адолік спужана адсунуўся і толькі паўтараў:

— Ты што? Табе чаго?

— Адолічак! Адалюньчык! — лашчылася Шведка, гатовая ў любы момант грызануць мужа, як шведская піла тутэйшы дуб.— Скажы, Адзік, ці хочаш ты, каб я стала жонкай кагосьці іншага?

Тое ж пытанне, якое ўвесь час мармытаў Адолік, зноў вылецела, як выбух:

— Ты што?!

— А-а, спужаўся! — засмяялася Агата.— Глянь на мяне цвярозымі вачыма: я прыгожая, я гладзенькая, я прываблівая... Ну, бачыш? А цяпер зірні на сябе ў люстэрка. Страхалюдзіна!

Адолік зірнуў, але не ў люстэрка, а жонцы ў вочы:

— А ты што, збіраешся да другога?..

— Не-е! — распеўна адказала жонка.— Гэта ты ад мяне сыходзіш.

— Ты што? Куды? Нікуды! — запратэставаў Адолік.

— А туды, адкуль не вяртаюцца ніколі.— І Агата ткнула пальцам невядома куды.

Адолік хмыкнуў:

— І ў галаве не было нічога такога.

Але Агата ласкава працягвала:

— Дык вось, даражэнькі... Магчыма, сорак дзён пасля тваёй смерці я патрываю, ну, ад сілы год, каб людзі не звягалі. А потым — гаспадарцы патрэбен гаспадар, а гаспадыні — уладар.

— Ты здурнела! — ускочыў Адолік.— Я яшчэ жывы і цёплы, а ты...

Агата засмяялася:

— Не пі, і тут нават духу мужчынскага не будзе, акрамя твайго.

Адолік уздыхнуў:

— Лёгка сказаць — «не пі»... Вось ты мяне загрызаеш жыўцом, а я і залечваю душы неспакой, утаймоўваю арганізма пакуты...

— А ты думаеш, я не пакутую? Думаеш, не ведаю, што вы мяне Шведкай абазвалі? Шведка дык Шведка! Ганарыся, што ў цябе заграмічная жонка!..— Агата зноў надала гаворцы ласкавасці: — Голасу на цябе не павышу, не тое што загрызаць буду — толькі не пі. Адно будзеш чуць ад мяне: Адолічак ды Адалюньчык...

Адолік кумекаў штосьці сваё, паскрэбваючы патыліцу.

— А што будзе, калі на цвярозага бурай наляціш?

— Ніколі! — запэўніла Агата.

— І ўсё ж, што будзе? — дапытваўся Адолік.

— Тады,— рашуча сказала Агата,— самаруч напаю цябе да чорцікаў. Ці ж гэта не стымул?

— Найстымулейшы стымул! — узрадаваўся Адолік і ўстаў.— Урачыста абяцаю: пакуль сама мяне не напоіш — піць не буду! Па руках?

— Згода!

* * *

Адолік ішоў да сябра і ў галаве будаваў грандыёзныя планы.

— Не! Не так проста мяне перахітрыць! — гаварыў сабе ён.— Вы яшчэ вакол мяне паскачаце!..

З такім настроем увайшоў ён у хату да свайго сябра Генадзя Секача.

— Здароў, Генадзь! З Купаллем!

Было відаць, што Сякач крыху «пад градусам».

— А, Адолік! Ну што, шукаў ноччу папараць-кветку?

Адчыніліся дзверы з другой паловы хаты, і Домна, Секачова жонка, секанула:

— Будзеце вы, алкашы, кветку шукаць! Хіба пляшку?

— Усё, Домначка, адпляшыўся я! Не тое што завязаў, а, можна сказаць, крыж-накрыж дошкамі забіў! — урачыста абвясціў Адолік.

— Ха! Лічы, што я табе паверыла! — кінула Домна і зноў зачыніла дзверы.

Генадзь здзіўлена паглядзеў на сябра:

— А ты і сапраўды цвярозы! І нядзеля сёння, і Купалле, а ты як сляза!.. А-а, ніхто не наліў! Ну, тады частуйся чарніцамі! — І Сякач паказаў на міску з ягадамі на стале.

— Што мне твае чарніцы? Іду ў заклад, што...

— Ніякіх закладаў! — катэгарычна запратэставаў гаспадар хаты.— Хто толькі ні закладаўся з табой, усе прайгравалі, у тым ліку і я!

Адолік зашаптаў, каб не пачула Домна:

— Ды я табе такое прапаную, што сам пойдзеш у заклад са мной. Рукі мне цалаваць будзеш!

— Ну і што гэта за прапанова? — зацікавіўся Генадзь.

Адолік працягваў:

— Ты пад’ялдыкнуў, што ніхто мне не наліў. З цябе трохлітровы слоік «кавы»,— і Адолік пстрыкнуў сабе па шыі,— калі мая Агата напоіць мяне да чорцікаў. Згодзен?

— Твая Шведка? Цябе напоіць? Хутчэй рыбіна заспявае! — зарагатаў Генадзь і схапіўся за жывот.— У цябе што, белая гарачка пачалася? Ну ты і клоун!

— Дык згодзен ці не? — настойваў Адолік.

— Згодзен! Яшчэ як згодзен! — узрадаваўся Сякач.— А калі яна цябе не напоіць, ты скосіш мне лугавіну ад Тодаравай пасекі да рэчышча. Заўтра ж!

Цяпер ужо Адолік узрадаваўся:

— Будзе скошана! Па руках!

Зноў адчыніліся дзверы, і Домна насцярожана спыталася:

— Няўжо нейкія заклады? Абдурыць ён цябе, Генадзь, як Сіўка Саўку, дурань!

— Фігулькі! — ускочыў Генадзь і паказаў фічку.— Заўтра лугавіна будзе скошана да апошняй травінкі!

— Будзе! — бадзёра падтрымаў сябра Адолік, схапіў з міскі жменю чарніц, і абодва падаліся за дзверы.

За парогам Адолік рашуча загадаў:

— Твая справа цялячая, маўчы і сапі ў дзве дзіркі. Я буду рабіць і казаць тое, што палічу карысным сабе. Зразумеў? Ясна?

— Ясна, як цёмная ноч на Купалле! — адказаў Сякач.

Адолік старанна расцёр чарніцы вакол вока і выцер са шчакі ўсё лішняе. Атрымаўся добры «ліхтар» — камар носа не падаткне. Потым змяніў нармальную хаду на хісткую, абняў сябра і падаўся дамоў.

Генадзь з цікавасцю назіраў за пераўвасабленнем Адоліка і паслухмяна пайшоў побач з ім. Ён не мог пазбавіць сябе асалоды кусnуць сябра:

— Заўтра ты будзеш касіць, а я — ляжаць на пракосе з трохлітровікам і рагатаць.

— Пабачым, хто будзе з касой, а хто з трохлітровікам,— спакойна адказаў той.

Калі паказалася родная хата, Адолік стаў хістацца яшчэ больш і зацягнуў песню, з якой заўсёды вяртаўся, будучы «пад кайфам»:

Эх, магіла, тры крыжы —
Памёр і ціхенька ляжы!..

Агата зірнула ў акно — знаёмыя выкрунтасы... Да вушэй далятала ненавісная песня. Яна застагнала:

— Толькі ўчора абяцаў... Толькі пачалі новае жыццё...

Дурная кроў стукнула ёй у галаву, засляпіла вочы, сперла дыханне.

Адчыніліся дзверы, і ў хату з вялікім сінячышчам пад вокам уваліўся Адолік з сябрам.

Эх, магіла, тры крыжы —
Памёр і ціхенька ляжы!..—

напоўнілі хату абрыдлыя Агаце словы.

Не помнячы сябе ад шалёнай злосці, Агата (цяпер ужо зноў Шведка) схапіла чапялу і з усёй сілы лупянула сваймy валацугу па спіне.

— Зноў набраўся! Злыдзень! Атрута майго жыцця! — І пасля кожнага слова чапяла спраўна хадзіла па Адолікавых плячах.

— Ой! Стой! Ты што? — выкручваўся ад удараў Адолік.— Астудзіся, дурная баба! Зірні, я цвярозы!

Нарэшце Адолік перахапіў чапялу:

— Хух! Ой, мае плечыкі! Мае ырачкі! Агатка, золатца, я ж цвярозы!

— Цвярозы?! З такім сінячышчам? — лямантавала Агата.— А песню гэтую ты хоць раз спяваў цвярозы?

Адолік падышоў да лавы ля печы, ткнуўся некалькі разоў тварам у вядро з вадой, пафыркаў і выцерся ручніком.

— Ну? Дзе сінячышча?.. Глянь — на адной назе стаю! — І Адолік зрабіў «ластаўку», растапырыўшы рукі.— Во, дыхну! Нюхай! Ну, з’ела?

— Га! І сапраўды цвярозы! А я, дурная...— засвяцілася шчасцем Агата.

— Вось табе і «га»! — абурыўся Адолік, трымаючыся за сярэдзіну.

— Ну, прабач, Адолічак! — лісой падкацілася да яго жонка.— Але ж ты сам утварыў нейкі цырк.

Генадзь, які ўвесь час моўчкі назіраў за дзівоснымі падзеямі, не ўтрымаўся і гукнуў на Агату:

— Ты пакалечыла майго бясцэннага работніка! — Потым павярнуўся да Адоліка: — А ты не трымайся за свае пабітыя костачкі, ад касы не адкруцішся — трава перастаіць!

— А ён што, да цябе ў касцы наняўся? — здзівілася Агата.

— Заўтра ўсё пабачыш, дарагая суседка! — ухмыльнуўся Сякач.

— А ты забыўся дадаць: суседка-шведка! — падскочыла Агата.— Думаеш, не ведаю вас, аболтусаў? — Рэзка павярнулася да мужа: — Дык што ты павінен яму рабіць?

— А ты што абяцала зрабіць пасля таго, як аблаеш мяне цвярозага? Свайго Адолічка? Адалюньчыка? Дык ты не толькі аблаяла, але і аддубасіла мяне прынародна! За гэта — тры разы тое, што абяцала.

Агата разгубілася. Яна прыпомніла ўчарашняе абяцанне.

— А што? — залыпала яна вачыма.

— «Што! Што!» — перадражніў Адолік.— Тры па сто, вось што! Мне і майму сябру!

— А без гэтага нельга? — з надзеяй спыталася Агата.

— Без гэтага?..— Адолік зірнуў на Генадзя.— Сёння без гэтага ніяк не абысціся! Сёння гэта мне патрэбна, як кітайцу рыс!

Агата развяла рукамі:

— Што ж, сама напрасілася...— і пачала збіраць на стол.

Сякач застагнаў:

— Плакаў мой трохлітровік!..

Адолік дадаў:

— І твая лугавіна...

За сталом паднялі кілішкі:

— За Купалле! За папараць-кветку! За скарб, які даецца людзям у рукі купальскай ноччу!

Адолік падсеў да жонкі, абняў яе:

— А вось мой самы дарагі скарб! Скарб, які даецца мне ў рукі не толькі купальскай ноччу.— Павярнуўся да Секача: — А табе, Генадзь, раблю святочны падарунак — дарую прайграны табой трохлітровік, бо заўтра пачынаю новае жыццё!

# Мядовае знаёмства

Антось служыў у арміі апошні год. Нават не служыў — даслужваў, бо засталіся лічаныя дні. Што і казаць: дэмбель на носе, салдат — на чамадане. Той, хто служыў, ведае, што гэта за апошнія дні і ночы. Здаецца, час спыніўся і стаіць як укапаны. Душа ўжо дома, і толькі цела працягвае насіць салдацкую форму — даслужвае.

Каб сказаць, што Антося чакала дома штосьці незвычайнае, дык не! Бацькі, вядома, справа святая, але да бацькоў паспееццa — не маленькі, дзякуй Богу. Дзяўчыны, якая б сохла па ім, да арміі не займеў. Але сядзела ў салдацкай душы стрэмка, якая парола і калола, не давала спакою. Гэтая стрэмка — незнаёмая дзяўчына, сястра яго аднапалчаніна Міхася, які і звёў праз пошту Антося з Алесяй. Антось паслаў ёй сваю фотакартку, яна яму — сваю, вось і ўся немудрагелістая камбінацыя. Але з такой немудрагелістасці часцяком вырастае гэткая закавыка, што і не прысніш.

Мястэчка, дзе жыла тая знаёмая-незнаёмая Алеся, знаходзілася ад Алесевай вёскі недалёка — вёрст дзесяць, таму Антось, нарэшце вярнуўшыся дамоў, прагнуў хутчэй дапяць туды і асабіста пазнаёміцца. Адна справа — фотакартка, на якой толькі галава відаць, другая — жывы чалавек. Можа, у яе, не дай Бог, ногі крывыя або зусім толькі адна нага. Не-е! Трэба праверыць! Твар-то ў яе вельмі прыгожы, прыемны, а вось як там далей?..

Антось не вытрымаў і расказаў маці, што заўтра хоча з'ездзіць на аўтобусе да той загадкавай Алесі. Маці захвалявалася, замітусілася і кінулася раіцца з бацькам.

Бацька па-мужчынску ўзважыў сітуацыю і кажа:

— Нягодна, сынок, першы раз ехаць да чужых людзей з пустымі рукамі! Вазьмі хоць нашага мёду, няхай ведаюць, што мы не гультаі — пчол маем!

Антось пачаў аднекваццa:

— Я ж не ў сваты еду! Толькі гляну на яе, пагавару — і дамоў. Падумаюць яшчэ, што падкупляю мёдам...

Маці заступілася за бацьку:

— Вазьмі, сынок, мёду! Добрая гэта прыкмета — знаёмства пры мёдзе! Дасць Бог — жыццё будзе салодкім!

Антось не ўстаяў перад націскам бацькоў і згадзіўся:

— Добра! Рыхтуйце на раніцу мёд!

Ноч праходзіла марудна — не спалася хлапцу. «Няўжо я завочна закахаўся?!» — думаў Антось.

Пад раніцу ўдалося прыдрамнуць, але з першымі сонечнымі промнямі Антось быў на нагах як штык. Бацькі ўжо не спалі.

Хуценька паснедаўшы, Антось падняўся з-за стала:

— Давайце ваш мёд — пакачу да сваіх прыгод!

— Каці! Каці! — у адзін голас сказалі бацькі.

— А вось і мядок! — Бацька паказаў на лаву, дзе стаяла эмаліраванае вядро, акуратна абвязанае прыгожым ручніком.

— Вядро-о? — не ўтрымаўся Антось.— Цэлае вядро? Вы што?!.

— Нічога! Нічога! — супакоіла маці.— Няхай не думаюць, што мы скнары!

Бацька дадаў:

— Не везці ж табе паўлітровы слоік...

Антось падняў вядро:

— Ого! Яно ж мне рукі адарве!

— Нічога! Нічога! — у той жа танальнасці працягвала маці.— Малады! Дужы! Аўтобус давязе да мястэчка, а там з рукі ў руку — і данясеш.

Антось уздыхнуў, узяў вядро і пакрочыў да аўтобуса...

Пачаўся цудоўны восеньскі дзень. Сонца прыгравала па-летняму. Настрой у Антося быў вясновы.

Аўтобус прабег дзесяць кіламетраў хутка, і Антось апынуўся на аўтавакзале. Сэрца яго затахкала мацней і часцей.

Спытаўшыся ў нейкага мужчыны, дзе патрэбная вуліца, Антось паджгаў у той бок, перакідаючы з рукі ў руку цяжкае вядро.

Раптам праз вуліцу нехта крыкнуў:

— Антось? Ты?!

Антось зірнуў у той бок. Да яго радасна бег Толік, з якім разам служылі ў адной роце.

— Толік! Вось дык радасць! — усклікнуў Антось.

Салдацкае сяброўства і братэрства яшчэ моцна жылі ў душы нядаўніх аднапалчан.

— Ты адкуль?!

— А ты як?!

— А я тут жыву! — адказаў Толік.— Пакуль нідзе не працую, балдзею пасля дэмбелю!

— І я балдзею! — выпаліў Антось.

— А чаму з вядром? — запытаўся сябар.

Антось збянтэжыўся, шукаў, што адказаць.

— Ды што мы пра пустое?! Гэта ж трэба адзначыць! Дэмбель! Свабода! — не сунімаўся Толік.

Антось яшчэ больш збянтэжыўся: як тут адкруціцца? Ён жа едзе да дзяўчыны... Не скажаш жа сябру, што кіруешся ледзь не ў сваты. А з іншага боку — такая сустрэча! Дэмбель! Свабода!

Антось адкінуў сумненні, запаліўся ўвесь:

— Давай! Грэх не адзначыць! Толькі дзе возьмем «гаручага»?

— Ты што! — усклікнуў Толік.— Сёння гэта прадаецца на кожным рагу! Вунь і крама!

Сябры зайшлі ў краму. Там, акрамя спіртнога, нічога не было. Узяўшы кожны па бутэльцы гарэлкі, хлопцы выйшлі на вуліцу.

— А чым загрызём? — спытаўся Антось.

Толік падумаў і кажа:

— За тым паваротам — хлебная крама. Да гастранома — далекавата.

Антось схамянуўся:

— Дык вось жа мёд! Цэлае вядро! Хлеб і мёд — закусь, трымайся за неба!

Купіўшы бохан хлеба і батон, сябры падаліся на зялёны, парослы кустамі выган.

— Вось тут, на зялёным дыване, ні табе камандзіраў, ні табе начальнікаў! Свабода! — радаваліся сябры.

Уладкаваўшыся, усеўшыся, пачалі пакрысе адпіваць з рыльца гарэлку, мачаць хлеб і батон у мёд.

— Вось гэта жыццё!

— Гэта табе не казарма!

— Вольныя, як птушкі!

— Яшчэ вальнейшыя!

— Глынём?

— А як жа!..

«Банкет» працягваўся, але аднекуль пачалі злятацца пчолы. Восенню, перад зімоўкай, калі медазбор амаль зусім адыходзіць, яны асабліва ласыя да мёду, здольныя нават на крадзеж з чужога вулля. А тут — гатовенькі мёд! Цэлае вядро!

Спачатку сябры не звярталі на іх увагі, але пчолы ўсё прыбывалі і прыбывалі. Яны ліплі да вядра, садзіліся на рукі, лезлі ў вочы — ім не падабаўся смурод гарэлкі. Тады хлопцы пачалі іх адганяць, нават біць і душыць. То на шчацэ прыдушаць, то на лбе прыцісную. А прыціснутая пчала, перад тым як загінуць, паспявае ткнуць джала.

П'яныя хлопцы і не заўважылі, як нахапаліся пчаліных укусаў. Адна пчала ўскочыла нават у рот Антосю, калі ён нешта гаварыў, і паспела ўджаліць язык. Цярпенне лопнула, і сябры пачалі збірацца.

— Добра, што паспелі апрастаць тару! — сказаў, махаючы рукамі, Антось.

— Хутчэй завяжы вядро! Можа, адчэпяцца! — амаль закрычаў Толік.

Сябры сабраліся, выцерлі травой ліпкія ад мёду рукі і рушылі прэч ад гэтага месца, але пчолы і не думалі адставаць — гулі над галовамі цэлым роем.

На развітанне Толік чыркнуў на паперы свой адрас, і Антось, хістаючыся, пайшоў да Алесі — бліжэй знаёміцца. Пчолы, чуючы ў вядры мёд, спраўна гулі над галавой, поўзалі па ліпкай пасудзіне.

Антосю здалося, што сонечны дзень паступова пачаў цямнець. Усё наваколле бачылася як праз туман, нібы праз шчылінку. Твар гарэў, язык пякло, яму зрабілася цесна ў роце.

Антось падумаў: «Свежае паветра і гарэлка, таму твар і гарыць. Пройдзе!»

А вось і патрэбны нумар дома. Антось, хоць і праз туман, заўважыў — дом добры! Пастукаўся ў дзверы. Чуе: «Заходзьце!»

Хлопец пераступіў цераз парог і апынуўся ў хаце. Зноў жа праз туман убачыў сярэдніх гадоў жанчыну.

«Здравія жадаю!» — хацеў па-вайсковаму адрапартаваць Антось, але распухлы язык чапляўся за зубы, і атрымалася:

— Зд-друя жад-дую!..

— Што? — запыталася жанчына.— Што вам трэба?

— Аль... Ал... Ал-л-лесю!..

— Якую яшчэ Алесю? Навошта вам Алеся? Ідзіце адсюль!

Адчыніліся дзверы, і з другой паловы хаты выйшла дзяўчына. Антось пахіснуўся ад нечаканасці мацней, чым ад гарэлкі. Якая прыгажуня! Гэта ж Алеся! І ногі не крывыя і абедзве на месцы! Антось праз адчыненыя дзверы ўбачыў на стале ў другім пакоі сваю фотакартку. З радасці паспрабаваў кінуцца да дзяўчыны:

— Аль... Ал... Але...

— Што вам трэба? — жахнулася дзяўчына.— Я вас не ведаю і ведаць не жадаю!

Антось разгубіўся, але раптоўна ўзрадаваўся, бо за дзяўчынай выйшаў яе брат Міхась.

Антось кінуўся да сябра і распухлым языком з цяжкасцю прагаварыў:

— Мы ж разам служылі ў арміі! Я ж твой таварыш!

Міхась адпіхнуў незнаёмца:

— Якое нахабства! Знайшоўся мне таварыш! Я цябе першы раз бачу! Прыцягнуўся нейкі валацуга, поўную хату пчол навёў...

Тут Антось выпадкова зірнуў у люстэрка, якое вісела на сцяне. Зірнуў і выпусціў з рукі вядро. З люстэрка на яго глядзеў... Не! Не глядзеў, а глядзела нейкае страшыдла з чырвоным апухлым тварам, з лапушыстымі вушамі, з тонкімі шчылінкамі замест вачэй. Валасы зліпліся ад мёду і тырчалі ва ўсе бакі. Па іх поўзалі пчолы...

— Ма-ма-а-а! — зароў ад жаху Антось і кінуўся ў дзверы. Ап'яненне яго імгненна прайшло. Ён ляцеў па вуліцы, палохаючы людзей.

«Што я нарабіў, дурань? Такую дзяўчыну страціў!» — сцёбалі, як бізуном, думкі.

Антось падслепаватымі вачыма прачытаў на паперцы Толікаў адрас і з цяжкасцю знайшоў яго дом.

Пастукаў і пахаладзеў: «Толькі б не спужаліся! Толькі б не прагналі! Дзе ж я дзенуся?..»

Адчыніліся дзверы, і Антось праз той жа туман убачыў жанчыну.

— А-а! — праспявала яна.— Яшчэ адзін круглы, як гарбуз! Заходзь! Заходзь! Буду двух адразу лячыць — мой ляжыць!

Антось з палёгкай пераступіў парог і ўбачыў Толіка... Не, не Толіка, а гэткае ж апухлае страшыдла, як і сам. Ён ляжаў на ложку, мачаў ручнік у халодную ваду і прыкладваў да твару.

— О, ё-маё! — стагнаў ён.

Толькі цяпер Антось адчуў, як пячэ і баліць твар.

— На, выпі кіслага малака і кладзіся. Зараз паднясу і табе ваду з ручнікам,— сказала Толікава маці.

Антось паслухмяна выпіў малако, распрануўся і лёг. Ён адчуў на твары халодны ручнік і пачуў пяшчотны голас сябравай маці:

— Эх вы, мядовыя-бядовыя хлопцы! Блазнюкі яшчэ, хоць і адслужылі ў арміі...

Пухліна трымалася два дні. За гэты час Толікава маці вымыла і выгладзіла Антосеву кашулю, пачысціла пінжак.

Антось цёпла развітаўся з Толікавай маці, абняўся з сябрам і падаўся да аўтастанцыі, каб ехаць дамоў. На душы было моташна. Што сказаць дома?

«А дзяўчына якая прыгожая!» — пякла, як агнём, думка.

Не дайшоўшы да станцыі, Антось рашуча крутнуў у другі бок: «Зайду папрашу хоць прабачэння!»

Раптоўна прыпыніўся: «Пачакай! Дык яны ж мяне не пазналі! Нават Міхась, з якім два гады праслужыў, не пазнаў не толькі мяне, а й майго голасу! Дзякуй табе, распухлы язык!» І Антось з надзеяй пакрочыў да Алесінага дома. Зноў пастукаў у дзверы — сэрца вырывалася з грудзей. Адчыніў дзверы Міхась.

— Антось! Дарагі! — усклікнуў ён і абняў сябра.— Ды што ты аслупянеў? Заходзь!

Антось зайшоў. Адчыніліся дзверы, і з другой паловы хаты выглянула тая самая прыгажуня. Зачырванелася і зачыніла дзверы.

Міхась засмяяўся:

— Нічога! Зараз выйдзе! Бачыў, як пачырванела? Рабі вывады, Антось!..

Шчаслівы Антось не ведаў, што казаць.

— Я... я, разумееш...

— Ды ўсё я разумею! Зараз падыдуць мама, тата, сядзем за стол і пагутарым.

Антось на ўсякі выпадак з апаскай зірнуў у люстэрка. Страшыдлы там ужо не было, на Антося глядзеў прыгожы малады хлопец з акуратна зачасанымі валасамі.

— Прыгажун! Прыгажун! — засмяяўся Міхась.— Дарэмна хвалюешся — тваю фотакартку з рук не выпускае.

Раптам Антось убачыў сваё вядро, якое стаяла ў кутку пад лавай.

— Я... я... вядро...

— А-а, вядро! — зразумеў Антосева пытанне Міхась.— Гэта ж два дні назад да нас у хату заскочыў нейкі п’яны дурань. Увесь апухлы, з галавы да ног у мёдзе, прыпёр за сабой цэлы рой пчол — ледзь павыганялі іх з хаты...

Антось зачырванеўся, апусціў вочы долу.

Міхась працягваў:

— Ты разумееш? Нечага да Алесі кідаўся, мяне сябрам называў... Во валацуга! Потым кінуў вядро і з крыкам даўся ў дзверы. Такое ў нашым мястэчку ўпершыню!

Антось уціснуў галаву ў плечы і гатоў быў зноў кінуцца ў дзверы, але Міхась схамянуўся:

— Ды чорт з ім, з тым дурнем! Не варты ён таго, каб пра яго сёння ўспамінаць! Сядай, расказвай, будзь як дома!..

А неўзабаве Антось і Алеся справілі вяселле.

Няхай ім шчасціць у жыцці! Ды так яно і будзе, бо знаёмства пры мёдзе — добрая прыкмета.

# Несапраўдны архірэй

Адчыніліся дзверы, і ў хату да Гелены ўвайшла яе сяброўка Матрона. Прывітаўшыся, Матрона папыталася:

— Ну як, да Вялікадня рыхтуешся?

— А як жа! — адказала Гелена.— Усё перамыла, усё паператрасала. Націснула на Ігната, той нават печ пабяліў.

— І сапраўды, у хаце павесялела,— азірнулася Матрона.

Слова за слова — і пацякла звычайная жаночая гаворка пра тое, што ўжо не раз гаворана-перагаворана. Не абмінулі яны і гаркотнай тэмы пра сваіх мужыкоў, якія калісь так пілі гарэлку, ажно гай шумеў.

Ляціць, бывала, Гелена да Матроны: забяры свайго Павэлка, ляжыць у нас пад сталом, як нежывы. Назаўтра — Матрона да Гелены: Ігнат твой з нашага ганка зваліўся ў крапіву і толькі бурбалкі пускае з носа... і гэтак што-дня...

Час ляціць хутка і непрыкметна. Гэтыя дзве сям'і пасталелі і пачалі паціху старэць. На дзіва сваім жонкам і ўсім аднавяскоўцам Ігнат з Павэлкам раптоўна і рашуча «завязалі» — кінулі піць. Ці здароўе іх стала падводзіць, ці пад старасць за розум узяліся, а можа, і тое і другое. Але мала таго, што адмовіліся ад атрутнага зелля, дык яшчэ адзін з іх — Павэлак — зрабіўся набожным. Раніцай моліцца, вечарам моліцца, у нядзелю і святы кіруецца ў царкву. У дадатак адпусціў бараду, хоць з яго ікону пішы.

Ігнат не дае праходу сябру, жартуе:

— Паўлюк! Ці не вальтануўся ты? Піў да ачмурэння, а кінуўся ў маленне!

Паўлюк спакойна адказваў:

— На ўсё воля Боская!..

Набліжаўся Вялікдзень. Вернікі чакалі яго з нецярпеннем. Рыхтаваўся да свята ў царкве і айцец Мікалай, прадумваў усё да драбніц.

На службу ў царкву збіралася прыехаць раённае начальства — цяпер гэта модна.

Рыхтаваўся да свята і Паўлюк. Посціў, паўтараў пацеры ды бараду пачэсваў.

Ігнат пры сустрэчы з сябрам не злазіў са свайго канька:

— Лепей бы ты, Паша, піў у меру, чым з барадой улез у веру!

Паўлюк пакорліва адказваў:

— На ўсё воля Боская!..

І вось свята падышло, як кажуць, пад самыя вокны. Заўтра — Вялікдзень! Паўлюк збіраўся на ўсяночную, але, адчуўшы ламату ў нагах, перахрысціўся і лёг раней спаць, каб раніцай устаць бадзёрым і днём наталіць душу богаслужэннем.

Зранку, яшчэ прыцемкам, нехта настойліва загрукаў у акно. Паўлюк устаў, падцягнуў споднікі і адчыніў дзверы. На ганку стаяў Васіль Шэршань з суседняй вёскі, у якой знаходзілася царква.

— Хрыстос уваскрос, Паўлючок, братка! — неяк спужана крыкнуў Шэршань.— Айца Мікалая скруціла пасля ўсяночнай, як перавясла! Мусіць, перастаяў ноччу... Ляжыць, крануцца не можа — палена паленам...

Павел здзівіўся:

— А я што? Я пры чым тут?.. Ах, прабач, сапраўды ўваскрос!

— Браточак! — ледзь не плача Васіль.— Айцец кліча цябе. Хутчэй!

Паўлюк яшчэ больш здзівіўся:

— Дык я ж не доктар! У саміх карова жвачку перастала жаваць, а тут святы чалавек... Гэта мудрэй, чым карова.

Шэршань тлумачыць:

— Я так зразумеў, што айцец хоча, каб ты сёння яго падмяніў. Ты ж у нас, пасля айца, самы набожны!

Паўлюк ступіў назад:

— Я?!. Ды ў айца Мікалая, пэўна, гарачка... даруй мне Бог! Я ж ні бэ ні мэ...

— Ты ні бэ ні мэ?! — строга спыталася Матрона, якая стаяла за спіной і ўсё чула.— Ты ж мне ўсе вушы прадзёўб сваімі малітвамі! Табе што, цяжка ў царкве перад людзьмі пачытаць іх?

Паўлюк узмаліўся:

— Адна справа — дома, другая — у царкве, прынародна! Я баюся! Баюся!

Матрона запэўніла:

— Калі што — я дапамагу, падкажу з натоўпу. Хутчэй апранайся і едзь да святара, там і вырашыце.

— Яно-то з'ездзіць можна...— неахвотна згадзіўся Павел.— Там заадно і на свята застануся... А калі ж я разгавеюся?!

Матрона выбухнула:

— Не нагавеўся за жыццё? На сто чалавек хапіла б тваіх гавенняў! Едзь ды падмяні святога айца, можа, Бог і даруе твае п'яныя выкаблукі!

Павэлак хуценька апрануўся, выйшаў з хаты і сеў на падводу.

— Прыпыніся вунь ля той хаты! — папрасіў Васіля.— Гукну Ігната, дасць Бог, для смеласці паедзе са мной...

Ігнат ужо прачнуўся і вельмі здзівіўся просьбе сябра.

— Паўлуха! Я, каб ведаў, бараду адпусціў бы ды пацеры вывучыў,— смяецца ён.

Павэлак прапусціў міма вушэй сябраў жарт:

— Ігнат! Ігнацік! Паедзем са мной! А што, калі і на самай справе давядзецца падмяняць айца? З табой мне зручней! Смялей! Ты ж хоць маральна мяне падтрымаеш.

У Павэлкавым голасе было столькі болю, што Ігнат згадзіўся:

— Добра! Ты калісьці памагаў мне свінню калоць, памагу і я табе. Бог, спадзяюся, залічыць...

Прыехаўшы ў суседнюю вёску, Павэлак адчыніў дзверы бацюшкавай хаты, перахрысціўся і, стаўшы на

калені, схапіў абвіслую руку святара, які ляжаў на ложку, і цмокнуў яе.

— Хрыстос уваскрос! Са святам, святы айцец! Хай Бог дае...

— Ай! Ай! О-ёй! — заенчыў на ложку айцец.— Пусці руку! Б’е, як токам!

Паўлюк збялеў і адскочыў:

— А што з вамі, бацюшка?! Што?!

Айцец прастагнаў:

— Чортаў радыкуліт скруціў! Вачамі крануць не магу! Ай! Ой!.. Богам цябе прашу, не адмаўляйся, будзь сёння маім намеснікам — адслужы службу замест мяне! Начальства ж едзе з раёна... Людзі пачнуць хутка збірацца...

Павел паціснуў плячыма:

— Я ж не ўмею... Такая адказнасць... Баюся я...

Святар ледзь выдыхнуў:

— Рабі ўсё, як я раблю. Ты ж не раз бачыў і чуў... Чытай малітвы велікодныя ды махай кадзілам. Галоўнае — не спыняйся і працяжна спявай усё, што ведаеш са Святога Пісання...

Павэлак разгублена прамармытаў:

— Калі так трэба, дык я паспрабую. Спадзяюся, Бог мне паможа...

Айцец Мікалай зноў прастагнаў:

— Ой, паможа! Ай, паможа!..

Павэлак хацеў ісці, але хворы спыніў яго:

— Куды ты, сын мой? Вазьмі вунь ключы ад царквы. Там пераапраніся ва ўсё маё царкоўнае, надзень крыж на шыю і — не падвядзі мяне і Бога!

Павел дрыготкаю рукой узяў ключы і даўся з хаты.

На двары чакаў Ігнат:

— Ну, як? Што з айцом Мікалаем? Чаго выклікаў?

Паўлюк, замест адказу, моўчкі паказаў ключы.

— Няўжо будзеш сёння за галоўнага? — усклікнуў Ігнат.

Павел кіўнуў галавой — у яго адняўся язык.

Ігнат стаў у святарову позу, узняў угару руку і распеўна прагаварыў:

— Слухай, душа, былога алкаша!

Паўлюк не сцярпеў:

— Што ты падкусваеш? Навошта дабіваеш? Я цябе ўзяў для падтрымкі духу... А ты?..

— Эх, браток! Некалі мы падтрымлівалі дух іначай... Так падтрымлівалі, што ўсё наваколле гуло! — сказаў Ігнат.

Павел махнуў рукой:

— Пайшлі ў царкву! Трэба ж хоць агледзецца ды асвоіцца там дый пераапрануцца.

Калі сябры прыйшлі ў царкву і Паўлюк апрануў святочнае святарова адзенне ды начапіў на шыю вялікі бліскучы крыж, Ігнат схапіўся за галаву:

— Па-аша! Ты ж — выліты святы айцец! Як з іконы саскочыў! Вось хто мне адпусціць усе мае грахі!

Люстэрка не было, Паўлюк сябе не бачыў, таму няўпэўнена запытаўся:

— Што, сапраўды нічога?..

— Якое нічога! — усклікнуў Ігнат.— Ты — натуральны архірэй... ці архімандрыт... ці — хто там яшчэ? Намеснік Бога на зямлі!

Паўлюк махнуў рукой:

— Ат! Ад цябе праўды не дачакаешся! Запалі лепш свечкі ля абразоў, зараз людзі пачнуць збірацца...

Ігнат выканаў загад і спытаўся:

— Што яшчэ, ваша высокапраасвяшчэнства?

Паўлюк паглядзеў наўкола, нешта прыкінуў і кажа:

— Я буду тут, за алтаром, а ты, як прыедуць высокія госці, правядзі іх праз натоўп вернікаў на пачэснае месца да самага алтара і хуценька заходзь да мяне. Запаліш і падасі мне ў адну руку скрыжаваныя свечкі ў падсвечніку, у другую руку дасі кадзіла — я адразу і пачну службу... Дарэчы, а дзе яно?

— Вось вісіць яно, бацюшка,— іранізуе Ігнат.

— Хопіць зубаскаліць! — просіць сябар.— Справа сур'ёзная, адказная. Не дай Бог апраставалосіцца. І скінь ты сваю ватоўку!

Час цягнуўся марудна, трывожна. Паўлюк мармытаў пад нос усё, што ведаў, хваляваўся. Дый Ігнат прыціх, напружыўся.

Нарэшце першыя вернікі пачалі заходзіць у царкву, вакол якой стаялі падводы тых, хто прыехаў з навакольных вёсак. Людзей набілася — не дыхнуць! Усе чакалі пачатку службы і не ведалі, што айцец Мікалай ляжыць дома, як той гніляк.

Паўлюк адчуў, што змакрэла спіна, пачалі падрыгваць калені. Нейкая суш убілася ў рот, язык прыліп да паднябення — не адарваць. Можна было пачынаць службу, але не прыехала яшчэ высокае начальства. Здавалася, духата ўзарве дах царквы, нават свечкі пачалі мігцець — не хапала кіслароду. Хваляванне распірала Паўлюка, як духата царкву.

І вось падкацілі да царквы «Волга» і «уазік», і з іх вышчаміліся важныя кіраўнікі раёна. Ігнат кінуўся ім насустрач, распіхваючы вернікаў. Падбег да самага тоўстага і непаслухмяным языком запрасіў у царкву:

— Заходзьце, калі ласка! Вас даўно чакае...— Ігнат запнуўся. Не казаць жа, што чакае Паўлюк, былы алкаш.— Вас даўно чакае... Вас чакае архірэй! — выпаліў ён.

Сярод начальства пайшоў гоман:

— Архірэй! Ого! Дзеля нас сам архірэй прыехаў!.. Дзе газетчык? Дзе фотакар? Фіксуйце для гісторыі!

Паважная дэлегацыя прайшла праз натоўп за Ігнатам да самага алтара, бліжэй да архірэя.

Паставіўшы гасцей на пачэснае месца, Ігнат шмыгнуў за царскія дзверы.

— Давай, Паша! Не дрэйф! Успомні маладосць, калі жыццё аж кіпела ад нашых выкрунтасаў!

Паўлюк горача зашаптаў:

— Давай! Запальвай свечкі! Распальвай кадзіла!

Ігнат запаліў свечкі, кінуўся да кадзіла, а яно — пустое. Не ведае, што запальваць. Ён пахаладзеў.

— Паша! Кадзіла пустое! Што там павінна быць? Можа, газа?

Паўлюк запырскаў слінай:

— Якая газа? Гэта ж не газоўка, не лямпа!

У царкве пачалі хваляваццa, гаманіць вернікі. Надта ж доўга ніхто не паказваўся з-за алтара.

Паўлюк кінуўся да сябра:

— Не губі, Ігнаток! Выручай! Ну хоць што-небудзь запалі ў ім! Хоць што, абы дымілася!

Ігнат замітусіўся, не ведаючы, што рабіць,— ліхаманкава абмацаў кішэні, кінуўся да ватоўкі, скубянуў з дзіркі пачарнелай ваты. Рукі трэсліся, запалка ніяк не магла шмаргануць па карабку.

— Зараз, Пашка! Трымайся! Будзе дым! Будзе! — Ён запаліў кавалак газеты, падсунуў яго пад вату — і кадзіла ажыло, густа запыхкала. Дым быў непрыемны, едкі, затое вярнуў як з коміна.

Ігнат усунуў у здранцвелую руку сябра кадзіла і падштурхнуў у спіну.

Павэлак ужо нічога не чуў і амаль нічога не бачыў. Ён як не сваімі рукамі трымаў падсвечнік з запаленымі свечкамі і чаднае кадзіла. Піхнуўшы нагой дзверы, ён выйшаў да людзей. Гоман і шэпты сціхлі. Цішыня была нясцерпная. З вялікай цяжкасцю ён адарваў язык ад паднябення і расціснуў здранцвелыя пашчэнкі. Рот-то ён раскрыў, але ўсё, што ведаў, імгненна выскачыла з галавы. З чаго пачынаць? Жах!

— Госпадзі, ясі! Пачуй нас на небясі! Для ўсёй Беларусі сваю благадаць прынясі!..

Павэлак запнуўся і аслупянеў: «Што я мялю? Які сорам!»

Вернікі пачалі хрысціцца, пераглядвацца — такой малітвы яны яшчэ не чулі.

Ілжэсвятар зноў раскрыў рот і адначасова замахаў кадзілам. Едкі дым распаўзаўся па царкве, завісаў над галовамі людзей, лез у вочы.

Тут Паўлюк успомніў пра перадвелікодны пост:

— Госпадзі! Мы пасцілі і ты папасці! Мы адпасцілі — у нас пагасці! А хто не пасціў — грахі адпусці!..

Зноў пеканула думка: «Куды мяне заносіць? Што з маім языком?..»

Дым ад ваты пачаў круціць Павэлку ў носе, выядаць вочы. Па шчоках пакаціліся слёзы.

Начальства зашапталася:

— Гляньце! Архірэй плача! Вось гэта дык пропаведзь — шчырая, аж да слёз!

Паўлюк узняў вочы:

— Госпадзі! — Дым засцілаў вочы, дзёр горла.— Госпадзі! На нас пашлі сваё... апчхі... апчхі...

Ён ужо нічога не бачыў, слёзы ручаямі каціліся з вачэй. Пачалі паціху выціраць слёзы і іншыя. Дыхаць было цяжка.

Павэлак нервова задраў галаву, узняў над ёй падсвечнік са свечкамі, замахаў імі крыж-накрыж:

— Госпадзі! З вышыні сваёй пасада...— Раптам растоплены, гарачы воск са свечак закапаў яму на твар. Павэлак зароў немым голасам: — Ой, халера ясная! Ой, пячэ!

Сабраўшы апошнія сілы, Павэлак паспрабаваў весці службу далей:

— Госпадзі!.. Ды што гэта такое? Агнём пячэ, сволач!..

— Хрыстос уваскрос з мёртвых! Паша! Дурань! Хрыстос уваскрос! — пачуў Паўлюк голас сваёй жонкі, які далятаў з закуранай царквы.— Смерцю смерць перамог! — напіналася жонка.

Кропля воску зноў ляпнулася Паўлюку ля самага вока. Ён зароў:

— Матрона! Дурыдла! Заткніся! Без цябе тут хоць памірай!

За царскімі дзвярыма зарагатаў Ігнат:

— Вось такую пропаведзь я люблю!

Вернікі зашапталіся:

— Гэта ж не айцец Мікалай! Гэта ж Павэлак — былы п'яніца і валацуга!.. А за алтаром сядзіць яго сабутэльнік...

Раённае начальства, выціраючы падкураныя вочы, занепакоілася:

— Кажуць, гэта не архірэй... Нейкі алкаголік... А мы перліся ў такую далеч, быццам у нас сваіх забулдыг мала.

Паўлюк апусціў рукі і перастаў махаць кадзілам, адварочваючы твар ад дыму.

— Апчхі! Госпадзі!.. Кха... кхе...

З натоўпу вернікаў пачуўся жаночы крык:

— Цяпер ужо ты заткніся, Павэлак! Хопіць дурыць нам мазгі!

Другі голас падтрымаў жанчыну:

— Затушы ты сваю курылку! Задушыш! Дзе айца Мікалая дзеў?

Пачуліся галасы:

— Пэўна, задушыў і галавой пад корч! Трэба выклікаць міліцыю, няхай забойцу арыштуюць!

За мужа заступілася Матрона:

— Што ты пляцеш, жаба разлезлая?! Жывы айцец Мікалай! Чорт яго не возьме!

Паўлюк папляваў на вату, прыціснуў яе пальцамі:

— Ды расчыніце вы дзверы, няма чым дыхаць! — Потым стомлена сказаў: — Айца Мікалая, акрамя хваробы, ніхто не душыў. Ляжыць ён хворы, а я хацеў як лепей... Я ж толькі вучуся...

— Дрэнны ты вучань! — крыкнулі з натоўпу.— Пайшлі дамоў, людцы, ля абразоў лепш памолімся!

Галоўны раённы начальнік узняў руку ўгору:

— Стойце, грамадзяне! Калі ўжо так атрымалася, дазвольце мне сказаць перад вамі прамову!

Усе прыціхлі, хтосьці прашаптаў:

— Яшчэ адзін прапаведнік...

— Дарагія грамадзяне! — пачаў кіраўнік.— Пасяўная, як кажуць, на носе! Давайце, як кажуць, паднатужымся — і стары, і малы, і крывы — і адсеемся, як кажуць, раней мінулагодняга! Заўтра — наперад, на працу!

Нехта з вернікаў ціха сказаў:

— Заўтра ж свята. Другі дзень Вялікадня, працаваць грэх...

Кіраўнік павучальна абсек:

— Не працаваць грэх! А праца, як кажуць, галоўная наша score заваёва. Ура, таварышы вернікі!

Людзі насупіліся, маўчалі, толькі за алтаром Ігнат крыкнуў: «Ура!» — не зразумеў, што да чаго.

— Цяпер усе свабодныя да заўтра! — закончыў кіраўнік.

— Хрыстос уваскрос! — пачулася ў дзвярах. Людзі азірнуліся — на парозе стаяў айцец Мікалай.— Хрыстос уваскрос! — паўтарыў ён урачыста.

— Сапраўды ўваскрос! — дружна адказалі вернікі. Хтосьці нават крыкнуў: — Бацюшка ўваскрос!

Ігнат за алтаром дадаў:

— Паўлюк загінуў!..

Пачуўся голас з натоўпу:

— Святы айцец! Гэты прахіндзей казаў, што вы хворы, што вас...

Святар перапыніў:

— Нельга чалавека абзываць такім словам! Будзем заўжды міласэрнымі, тым больш што ён казаў праўду... Я і сапраўды ляжаў і не мог варухнуцца, але раптоўна адпусціла — Бог памог! Зараз мы працягнем службу! Я і вас запрашаю застацца! — звярнуўся ён да начальнікаў.

— Не! — у адзін голас адказалі яны.— Досыць, што мы наслухаліся «архірэя». Паедзем рыхтаваць астатніх жыхароў раёна да пасяўной,— а самі дружна пачасалі вусы, селі ў машыны і пакацілі.

Паветра ў царкве пасвяжэла, людзі радасна ўсміхаліся, а неўзабаве пачалася сапраўдная служба.

— Хрыстос уваскрос!

— Сапраўды ўваскрос!

## Хтосьці ласы на каўбасы

Базыліха хоць і аўдавела і веку была немаладога, але кожны год трымала парсючка. Вясковая мудрасць была даволі простай: маеш сальца ў кубёлку — ты і гаспадыня, а калі яшчэ кумпячок з каўбасамі Вялікадня дачакаліся — лічы, што ты пані.

Вось Базыліха і адчувала сябе паняй, бо Вялікдзень праз два тыдні, а ў яе і кумпячок, і каўбаска ў кладоўцы чакаюць свайго часу.

Дзень выдаўся сонечны, з ветрыкам, таму Базыліха вынесла свае прыпасы і павесіла ля сцяны на шасток абветрыцца, абсохнуць, а сама ў добрым настроі прыбірала ў хаце, займалася гаспадаркай.

У дзявоцтве яе звалі Ганнай, а як выйшла замуж за Базыля — зрабілася Базыліхай. Так спрадвеку вядзецца ў вёсках: замужніх жанчын клічуць Федзіхамі, Дзям'яніхамі, Тодарыхамі ды Юрчыхамі, па мужу. І хоць Базыль даўно пайшоў з жыцця, Ганна засталася Базыліхай...

Жанчыну часцяком закручвае хатняя работа так, што няма калі галаву падняць. І Базыліха кідалася сёння то ў адзін бок, то ў другі, то ў хату, то ў хлеў, печ пабяліла, пасцель пяратрэсла, столь памыла і шмат чаго іншага перарабіла. Але вясна і чаканне свята надаюць сілы, калі не сказаць — крылы.

Раптам у гэтай мітусні Базыліху быццам калом лупянулі па галаве — зірнула на шасток і самлела, ногі падкасіліся. Шасток быў пусты — ні кумпяка, ні каўбасаў. Сонечны дзень патух, акрыленасць знікла.

— Божа! Людцы! Што ж гэта? — шапталі асмяглыя вусны.

Базыліха чамусьці адразу пусцілася ў хату, потым зразумела, што робіць не тое, выбегла на вуліцу. Кінулася

ў адзін бок, у другі — нікога. Хацела закрычаць, паклікаць на дапамогу, ды апамяталася, прыкусіла язык.

— Божа! Што я раблю! — зашаптала яна.— Засмяюць! Адзін паспачувае, а два будуць пальцамі пароць: карміла, гадавала, а пакарыстаецца чорт лысы.

Базыліху кінула ў холад. Ад нервовасці ляскалі зубы. Яна вярнулася ў прыбраную хату, села на лаву і заплакала:

— Ну, прайдзісветы! Ну, звадыяшы! Ці ж гэта людзі?..— уздрыгвала яна ўсім целам пасля кожнага горкага слова.— А сама? Доўбня дурная! Так табе і трэба, разява!..

Базыліха перастала плакаць, выцерла хусткай твар:

— А можа, гэта жарт? Ну, падражніцца хтосьці і верне, папалохае і аддасць...

Яна выйшла на ганак, зірнула на шасток — пуста.

— Жарт! Скулу ў бок! — дрыготкім голасам упікала яна няведама каго. У гэты час Базыліха ненавідзела сябе больш, як таго злодзея.

Сілы яе пакінулі, рабіць нічога не хацелася, і пакрыўджаная жанчына-адзінота зноў зайшла ў, як падалося, няўтульную хату, села на лаву і праседзела да ночы, гледзячы ў адну кропку.

* * *

Раніца не прынесла палёгкі для душы, затое Базыліха зноў набыла здольнасць думаць і разважаць.

— Хто б гэта мог быць? — як пацеры, паўтарала яна.— Васіль? Не! У яго ад сваіх каўбас шасток ломіцца... Змітрок? Божа барані! Ён — сама прыстойнасць і ветлівасць... Лявон?.. Гэты дык на ўсё спец, але жыве ён аж на самым канцы вёскі — хтосьці б заўважыў несуна... Цьфу ты! — ажно падскочыла Базыліха.— Вінцэсь! Хто ж яшчэ, акрамя яго?! Жыве побач, пасля смерці жонкі

свіней не трымае... ды і на чорта іх трымаць, калі дурная суседка праз плот?! Вінцэсь! — усхадзілася Базыліха.— Дальбожачкі, ён! Мала таго што гол як сакол, дык яшчэ і малахольнік, і пад’ялдычнік. Адно толькі ведае, што на гармоніку пілікаць... Во! Учора і гармонік маўчаў, не да музыкі было. А галоўнае — толькі ён і бачыў, як я шасток вешала, ды яшчэ й языком торкнуў: «Ты ж, Ганна, моцна прывяжы каўбасы да шастка, каб вецер не знёс...» — Ганна плюнула.— Каб цябе бура знесла з маіх вачэй, зладзюга!..

Базыліха рашуча накіравалася да дзвярэй.

— Пайду і зараз жа ўсю нюхаўку растаўку яму ў порхаўку!

Выйшла на вуліцу і, як учора, спынілася.

— Э-э, не! Я яму буду пра каўбасы, а ён мне — фігу ў нос! І што? Нахрапам яго не возьмеш, трэба хітрасцю, розумам...

Зноў вярнулася ў хату Базыліха і пачала думаць, на якой казе пад’ехаць да суседа-злодзея.

Вечарам гэтага ж дня, крадучыся, прайшла ля Вінцэсевых варотцаў. Зірнула праз плот на яго двор, а там — сам Вінцэсь сядзіць на прызбе і дым ад цыгаркі з рота пускае. Разгубілася баба і прайшла міма, быццам кудысьці па справе кіравалася, зрабіла выгляд, што не заўважыла суседа. Крыху адышлася і спынілася...

— Не, трэба дзейнічаць смялей! — прамармытала праз зубы і вярнулася назад. Але зноў, убачыўшы, як падалося, нахабную Вінцэсеву фізіяномію, з рота якой вылятаі дымавыя колцы, адвярнулася і другі раз прайшла міма. Спынілася ля сваёй хаты, злосная на сваю нерашучасць.

— З мяне следчы, як з дзяснаў зубы! — злавала яна.— Пайду! Зірну ў яго нахабныя вочы! Няўжо нічым не выдасць сябе? — І Базыліха рашуча накіравалася да суседа. Зайшла на двор, прывіталася.

— А я думаў, што ты язык згубіла і ходзіш туды-сюды, шукаеш яго. Аказваецца, ёсць язык! — замест вітання пажартаваў Вінцэсь.

— А ты ўсё сваю соску дундзіш! — паказала Базыліха на цыгарку.

Вінцэсь зацягнуўся, папляваў на акурак, які ўжо прыпякаў пальцы, і расцёр яго босай нагой.

— Сядай, прызба вунь якая, месца хопіць,— запрасіў ён суседку.

Базыліха набралася смеласці:

— А я вось хачу табе ў вочы паглядзець!

Вінцэсь здзіўлена ўскінуў на лоб бровы:

— У цябе што, тэлевізар зламаўся? Замест яго будзеш у мае вочы пазіраць? Глядзі сабе...

Базыліха працягвала наступаць:

— Слухай, сусед, не выкручвайся! Няўжо ты мне нічога не хочаш сказаць?

Вінцэсь яшчэ вышэй падняў свае бровы:

— Сказаць? Табе?.. Што, напрыклад?

«Следчая» ўважліва ўглядалася ў вочы свайго крыўдзіцеля, шукала доказаў.

— Што сказаць? — перапытала суседа Ганна.— Ну, хоць бы пра ўчарашні дзень скажы... Як жыў? Што рабіў?

— Можа, табе яшчэ сказаць, што я еў? — здзівіўся Вінцэсь.

Ганна схамянулася:

— Ну нарэшце! Гэта мяне і цікавіць!

Вінцэсь ціскануў плячыма:

— Што рабіў? Патыліцу церабіў... Што еў? Тое, што меў, а потым — на бакавую і храпака даў... Ваша душачка задаволеная?

— Ты мне туману ў вочы не пускай! Няўжо так нічога і не скажаш? — дапытвалася Ганна.

Вінцэсь уважліва зірнуў суседцы ў вочы:

— Слухай, Ганна! Мне здаецца, што я цябе першы раз у жыцці бачу... Дзіва!

Ганна насядала:

— Дык скажаш ці не?!

Было відаць, што Вінцэсь крыху збянтэжыўся:

— Ну, можа, другім разам скажу... Табе што, гарыць?

— Другім дык другім, пачакаю... Мне галоўнае, каб сказаў,— крутнулася Ганна і пайшла дамоў.

Вінцэсь скруціў новую цыгарку, прыпаліў яе, зацягнуўся. Нешта яго непакоіла.

«Што за храновіна з марковінай? — разважаў ён.— Пасля таго як аўдавела, ніколі не прыходзіла, а тут нечага дамагаецца... Што я ёй павінен сказаць? Гм-м...»

Вінцэсь дакурыў цыгарку і ўжо прыцемкам пайшоў у хату.

Кладучыся ў пасцель, падумаў:

«Гм... А яна нічога кабеціна... Сёння быццам першы раз у жыцці яе ўбачыў...»

Ганне не спалася таксама. Узрушанасць не пакідала яе. «Гэта ж трэба,— думала яна,— нахабна глядзеў у вочы, і хоць бы што. Во прахіндзей! Праўда, пад канец крыху збянтэжыўся — відаць, нячыста на душы... Нічога, я пачакаю! Схаджу другі раз, пяты, дзесяты... Але ж ён за той час, што буду хадзіць, усе каўбасы з’есць і кумпяк абскубе... Не, трэба націснуць на яго...»

* * *

Наступным вечарам Ганна рашуча пайшла «націскаць» на суседа.

Вінцэсь, як і ўчора, сядзеў на прызбе і курыў. Праўда, сёння на ім красавалася чыстая кашуля і не было відаць босых ног, бо яны далікатна схаваліся ў наваксаваныя боты. Ганна гэта заўважыла і сама сабе падумала: «Заблытвае сляды...»

— Здарова, Ганна! — першы павітаўся Вінцэсь.— Прысядзеш побач ці зноў у вочы мне будзеш глядзець?

— Добры вечар! — адказала Ганна.— Побач не побач, а сяду, ногі як шалёныя сабакі рвуць — не прыткнулася за дзень...

— Ты б села з гэтага боку, а то дым на цябе цягне,— прапанаваў Вінцэсь.

— Гляньце, людцы! — ускочыла Ганна, хоць толькі што села.— Шкадаваць мяне пачаў, а ці даўно?! Ты ж толькі не заплач, мяне шкадуючы! Мне не шкадаванне тваё трэба, а... а нешта іншае.

Вінцэсь захлынуўся дымам, закашляўся:

— Каб ты сатлеў, які моцны!.. Кажаш, сёння нарабілася, набегалася...

«Віхляе, як сабака хвастом, выкручваецца»,— падумала яна.

— Ты мне абяцаў штосьці сказаць! — зноў насядала Ганна.

«Бярэ за горла,— падумаў Вінцэсь,— ахмурае...», а ўслых дадаў:

— Ну што табе так прыпякло? Я сам... сам днямі прыйду да цябе і ўсё выкладу перад табой. Усё, як ёсць... як на судзе...

— Даўно б так! — з палёгкай уздыхнула Ганна.

— Але я цябе прашу,— жаласліва выціснуў Вінцэсь,— няхай усё будзе паміж намі... пакуль між намі, бо нехта і пасмяецца...

— Праглыну язык! — запэўніла Ганна.

— Ну, тады чакай... Лічы, што я здаўся і задраў лапы ўгару,— выдыхнуў Вінцэсь і пяшчотна ўзяў Ганну за руку.

— Яшчэ чаго! — выслабанілася яна, зачырванелася і хуценька пайшла дамоў...

— І што гэта за фігуліна з цыбулінай? — прамармытаў Вінцэсь.— Быццам другі раз у жыцці яе бачу... Дзіва!.. А яна — ого-го, кабеціна хоць куды! А як хутка скруціла мяне: р-р-раз! — і няма Вінцэся...

Ганна ўсе гэтыя дні, пасля таго як хтосьці абакраў яе, нікуды, акрамя як да Вінцэся, не хадзіла. Яна не хацела нікога бачыць і чуць, усё баялася, што нейкім чынам яе бяда прасачылася ў вёску. А калі так — пачнуцца роспыты ды ўхмылкі. Цяпер, калі яна добра ведала, хто злодзей, у вачах пасвятлела. У думках супакойвала сябе: ну няхай ён з'еў тры, ад сілы пяць каўбас, ну адрэзаў кумпячка трохі... астатняе ж верне назад... а цяпер перадвелікодны пост — дасць Бог і ні да чога не дакрануўся...

Ганна падышла да люстэрка, чаго не рабіла даўно.

— О-о, адкінуць бы гадкоў дваццаць! — прагаварыла яна.— Хаця і сёння, прысаліўшы, прыбяліўшы, можна есці... А чаго гэта ён за маю руку ўчарэпіўся? А-а, вінаваціцца... раскайваецца...— Тут Ганна сурова зірнула ў люстэрка.— Але ж табе, дурная варона, была прыемная яго ласка! — і адвярнулася, саромеючыся глядзець сабе ў вочы...

Аднаго вечара, калі Ганна сядзела дома і глядзела нейкі пусты серыял па тэлевізары, адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў святочна апрануты Вінцэсь. Ганна ўзрадавалася, прадчуваючы збаўленне ад сваіх пакутаў. Замітусілася, але ўспомніла, што збіралася трымацца сурова, хоць і міласэрна, як і належыць суддзі, які, калі захоча, злітуецца, а захоча — пакарае.

Ганна села за стол, як у прэзідыум:

— Не тапчыся ў парозе, праходзь, выкладвай усё!

Вінцэсь няўпэўнена падышоў да стала і нечакана для гаспадыні паставіў на стол пляшку.

— Гэта?! — вырвалася ў Ганны.

Вінцэсь прыклаў руку да грудзей:

— Пачакай, Ганна, не перабівай!

Ганна сурова папярэдзіла:

— Я чакаю тваіх прызнанняў, а не гэтага,— паказала на бутэльку.

— Не блытай ты мяне! — узмаліўся Вінцэсь.— Ты ж не даеш рота адкрыць. Выслухай, не перабівай.

— Слухаю,— памякчэла Ганна.

— Дык вось,— пачаў Вінцэсь,— не падумай, што ты прымусіла мяне пачаць гэту гаворку... Я і сам збіраўся прыйсці...

— Бліжэй да справы! — падганяла гаспадыня.

— Дык вось... Ты жывеш адна, як гарохавы стручок ля дарогі... Ведаеш, што я таксама жыву адзін. Рукі — на месцы, галава не дурнейшая, чым у іншых... Дык чаму нам не зрабіць падабенства складчыны — твая гаспадарка і мая гаспадарка аб'ядноўваюцца, як тыя еўрапейскія грошы... Ты — гаспадыніш, я — гаспадару. Мо ссумуем нашы намаганні?

Ганна слухала, адкрыўшы рот. Нарэшце падалася наперад:

— І ты з гэтым прыйшоў да мяне? З гэтым?! А дзе каўбасы? Дзе кумпяк?

Цяпер ужо рот раскрыў Вінцэсь:

— Табе што, сваіх мала? Аб'яднаемся, нажывём і не тое!

— Дзе мае, мае каўбасы? Дзе мой кумпяк? — ускочыла Ганна.— З'еў ці схаваў? Злодзей!

Цяпер і Вінцэсь падскочыў ледзь не да столі:

— Якія каўбасы? Каго я, што я краў? Я да цябе як да чалавека, з добрымі намерамі, а ты... Які я злодзей?!

Вінцэсь ляснуў дзвярыма і рашуча пакрочыў дамоў.

Ганна апусціла на рукі галаву і заплакала. Перад ёй на стале сіратліва стаяла Вінцэсева бутэлька.

Раптам адчыніліся дзверы і ў хату бурай уляцела Касачыха Зося.

— Дзе ты знікла, Ганна? Я думала, што ты ўжо памерла.

Ганна хуценька выцерла заплаканы твар рогам хусткі і адсунула далей ад сябе бутэльку.

— Во! Знайшла, з-за чаго слёзы ліць! Калі няма з кім раздушыць пляшку — дапамагу! — пажартавала Зося.

— Не... Я так... Успомніла маладосць і ўсхліпнула.

— Ой, Ганна, колькі навін у вёсцы! — сыпала далей Зося.— Амэля мыла вокны, бразнулася з лавы і зламала руку, Яньчын Змітрок набраўся гарэлкі пад самую завязку і цэлую ноч праспаў пад плотам, прастудзіўся ўшчэнт! Вандзіна карова ўзнялася на быкоў перад самым святам, а недзе з тыдзень таму па вёсцы праехалі цыганы. Пакралі — у каго што! У Стэфкі курэй, у Якіміхі — каптан і дзве хусткі, а ў беднага Лявона — з шастка ўсе каўбасы з паляндвіцамі і два вэнджаныя кумпякі. Дзякуй Богу, што нас з табой гэта навалач абмінула!

Ганна раскрыла рот, хапаючы паветра, як рыбіна на беразе. Потым радасна выціснула з сябе:

— Кажаш, цыганы?.. У Лявона?..

— Дык раздушым гэту пляшку ці не? — у сваю чаргу запыталася Касачыха.

Ганна схапіла бутэльку, прыціснула да грудзей і радасна паўтарала:

— Вінцэсік!.. Вінцэсік!..

— Што ты плешчаш? — здзівілася Касачыха.— Здурнела, седзячы дома...

Ганна ўскочыла з-за стала:

— Ой, Зосечка, прабач, няма часу! Трэба бегчы! — Выбегла на двор і, шчаслівая, пабегла да Вінцэся.

# Ды пачуе глухі!

Дарка вярталася дамоў з суседняй вёскі, калі знянацку наляцела навальніца. Аднекуль нагнала чорных хмараў, раўнуў гром, адна перад адной распіналіся бліскавіцы.

Першыя буйныя кроплі дажджу прымусілі Дарку змяніць хаду на подбег. Бегчы асабліва не было куды — голае поле і рэдкі лазняк, праўда, крыху воддаль стаяў адзінота дуб. Здавалася, што і ён, як і маладая жанчына, быў злоўлены навальніцай на бязлессі і цяпер гадаў — у які бок уцякаць.

Пад ратавальную крону дуба і прыбегла Дарка, аддыхваючыся і выціраючы даланёй мокры твар. Прыбегла своечасова, бо лінула дык лінула — не дождж, а сцяна вады. Маланкі мітусіліся вакол, быццам і самі шукалі сухога месца ў пачарнелым небе.

Далей Дарка нічога не памятае. Штосьці суха і рэзка трэснула над галавой, быццам неба раскалолася на дробныя кавалачкі...

Бура пранеслася гэтак жа хутка, як і наляцела. Пастухі, гонячы вечарам дадому кароў, знайшлі Дарку пад дубам. Маланка адшчапіла вяршыню магутнага дрэва, разадрала кару да самай зямлі і не абмінула жанчыны.

Дарку адхадзілі, адкачалі, яна апрытомнела і паступова вярталася да жыцця. Адно толькі страціла назаўсёды — слых. Яна аглухла. Незвыклая, страшэнная цішыня запоўніла вушы — ні гуку, ні слова не далятала да яе. Сцяна! Вакол сцяна глухаты.

Для Даркі пачыналася новае жыццё ў сям'і: з дзецьмі, з мужам — і быццам без іх. Яна нібыта бачыла кіно, якое забыліся агучыць. Для яе пачыналася новае жыццё і сярод людзей, галасы якіх засталіся толькі ў памяці. Адзінока і холадна зрабілася навокал.

* * *

Дарка скончыла дзесяцігодку і засталася ў сваёй вёсцы — не вабіла яе мітуслівае і чаднае гарадское жыццё. Бываючы ў Мінску, захаплялася шырынёй вуліц, шматпавярховымі будынкамі, зачароўвалася мудрагелістымі вітрынамі і рэкламамі, але... Пужала яе нейкая ненатуральнасць усяго гэтага. Ад гмахаў-дамоў веяла няўтульнасцю, за вокнамі, здавалася, не было жыцця.

Калі ж аднойчы пагасцявала ў сваіх сяброўак, якія жылі ў інтэрнатах, так званых «абшчагах», дзе дым слупом стаяў ад цыгарэт і перасмажанага зжаўцелага сала, дзе п'янае мацюканне запаўняла калідоры,— Дарка яшчэ больш пераканалася ў правільнасці свайго жыццёвага выбару. Узгадаваная на пахах траў і кветак, на птушыных спевах і задуменнасці гаёў, аблашчаная ветрыкам і водарам жытнёвых палёў, прывыклая да сялянскай шчырасці і да ўтульнасці бацькоўскай хаты, яна адчувала сябе частачкай гэтага хараства і кропелькай гэтай гармоніі.

Вось чаму пасля заканчэння школы яна не вагалася, як некаторыя яе сяброўкі, і, як яны, не паляцела шукаць лёгкага хлеба і невядома чым падфарбаванага жыцця.

Алесь, яе аднавясковец і былы аднакласнік, таксама пасля школы не кінуўся ў белы свет шукаць жар-птушку шчасця, а скончыў курсы механізатараў, сеў на калгаснага «Беларуса» і «ўворваў» свой лёс глыбей і глыбей у зямлю сваіх продкаў, глыбей і глыбей пускаў карані ў зямлю, якая дала яму жыццё.

Адназначна ніхто не мог бы сказаць, якая сіла прымусіла яго застацца тут: любоў да зямлі, да родных вытокаў ці неабходнасць дапамагаць маці, якая пасля смерці бацькі спадзявалася толькі на сына. Магчыма, і першае, і другое націснула на Алесева рашэнне.

Аднак сам Алесь ведаў, што была яшчэ іншая, найпершая, найгалоўная для яго прычына.

Хлапец так шанаваў і старанна хаваў сваю таямніцу ад чужой цікавасці, што ў вёсцы, дзе ўсё як на далоні, нават не здагадваліся пра ўсю глыбіню і сілу пачуццяў, якія спальвалі, ажыўлялі і зноў спальвалі яго сэрца.

Ведала пра гэта толькі іх віноўніца, аднагодка і аднакласніца Алеся — Дарка. Але яе віна перад Алесем, калі гэта можна назваць віной, была толькі ў тым, што яна, Дарка, нарадзілася на свет прыгожай, загадкавай і чароўнай, нібы сапраўды сатканай з сонечнага святла, лугавога шматквецця і празрыстай расы.

Прыкладна гэтак аднойчы сказаў ёй Алесь. Сказаў, набраўшыся смеласці, перад выпускнымі экзаменамі:

— Ты — сонечнае святло! Ты — кожная кветка на зямлі!..

Дарка пырснула звонкім смехам і какетліва папыталася:

— А яшчэ хто я?!.

Алесь, чырванеючы і задыхаючыся ад хвалявання, працягваў, як у сне:

— Ты — раніца кожнага дня!

— А яшчэ хто я? — дапытвалася Дарка.

— Яшчэ ты — мой шчаслівы білет...

— А ведаеш, хто ты? — зноў пырснула Дарка смехам.— Ты — дзівак! І білет я нешчаслівы для цябе — стаўлю табе двойку!..

Пасля гэтага Алесь больш не падыходзіў да Даркі са сваім юнацкім летуценнем. Бачыліся яны кожны дзень — адна вёска, адны сцежкі-дарожкі, адзін калгас, адны гулянкі-вечарынкі. Дарка ставілася да Алеся ветліва, нават ласкава, хлопец ён быў стрыманы, разважлівы ды і свой, вясковы. Праўда, стрыманасць і разважлівасць — гэта тыя рысы, якія маладым дзяўчатам не вельмі даспадобы. Ім падавай языкастых ды заліхвацкіх, такіх, на якіх аж скура гарыць, у якіх на хаду падэшвы адскокваюць.

Гэта потым, аббіўшыся і наеўшыся мужавых выкрунтасаў, жанчыны з жалем азіраюцца на мінулае і раскайваюцца ў колішняй сваёй несур’ёзнасці.

А па-другое, дзяўчаты не любяць кавалераў-аднагодак. Зелянкі яшчэ! Іх вабяць узмужнелыя ды бывалыя. Яны і слухаць не хочуць пра тое, што пад такой бываласцю нярэдка хаваюцца прайдзісветы і пустазвоны.

Вось яны, станоўчыя Алесевы рысы і малады ўзрост, які хутка і бязлітасна мінае ў кожнага, не дазвалялі Дарцы ўсур'ёз успрымаць яго як будучага мужа.

І гэта былі не адзіныя і не галоўныя перашкоды на таямнічым шляху яднання двух лёсаў. Быў і ў яе, Алесі, на прыкмеце і языкасты, і заліхвацкі, і бывалы — Ягор Матрончык з суседняй вёскі. Працаваў ён... па праўдзе кажучы, сам чорт не разбярэцца, дзе ён працаваў. Лічыўся каморнікам ці то пры калгасе, ці то пры сельсавеце — хадзіў пасвістваючы па вёсках і абмяраў двары і надзелы — каб лішняй соткі зямлі ніхто не ўварваў. А на такой пасадзе трэба мець язычок, вастрэйшы за сучок. Ён яго і меў.

Сам Ягор быў рухавы, чарнявы, ды яшчэ вусамі пад носам абзавёўся. Хлопец — хоць партрэт з яго пішы! На вечарынцы полечку круціць, аж з дзяўчыны абутак злятае, байкі ды анекдоты з языка не сыходзілі, усё на ім гарэла.

Дзе ўжо сціпламу пшанічнагаловаму Алесю цягацца з такім!

Дарчына маці, наматаўшы за жыццё нямала слёз на кулак, засцерагала дачку:

— Глядзі, дачушка! Вусы для красы, а што для жыцця?

— Ты, мама, нічога не разумееш! — адсмейвалася Дарка.

— Ой, глядзі, Дарачка! Ходзіць ён па дварах ды, кажуць, затрымліваецца ў адзінокіх жанок... Людскія языкі, бывае, і праўду вястуюць...

Дарка абняла маці:

— Ды зайздросцяць людскія языкі, мамачка! Хочуць убіць клін паміж намі. Ён добры!

— Няхай твае словы ды Богу ў вушы! — пацалавала маці Дарку.— Ці ж я табе благога жадаю?..

Тым часам Алесь пайшоў служыць у армію і даведаўся з далікатнага пісьма маці пра тое, што Дарка (яго сонца, яго шчаслівы білет) стала жонкай Ягора Матрончыка.

Сорамна было салдату плакаць, але не плакаць ён не мог — плакалася само. Плакаў употай, схаваўшыся ад сяброў. Адчуў, што страціў штосьці вельмі значнае, без чаго жыццё не мае сэнсу. Здавалася, што не хапае паветра, патухла сонца, спыніўся час, бо не было куды спяшацца, не было каго чакаць...

І хоць на самай справе жыццё не спыняецца і час па-ранейшаму непрыкметна ляціць, але бываюць раны на ўсё жыццё, бязлітасныя, незагойныя, непадуладныя часу. Такая рана асталявалася ў сэрцы Алеся, і толькі спыніўшыся, сэрца хлапца перастала б балець.

* * *

Дарка пераехала жыць да мужа ў суседнюю вёску. Ягоравы бацькі добра ведалі працавітую Дарку, таму прынялі яе як дачку. Сам Ягор стаў «вызаліхвачваць» значна менш, ды і перад кім? Клубныя танцы-абдыманцы для яго скончыліся, тая, што калісь здавалася недасягальнай,— цяпер ля боку ды ля гаршкоў. Жыццё для Ягора страціла тую пярчынку-вастрынку, якая пякла яго халасцяцкае самалюбства і прымушала скакаць вышэй галавы. Перад кім цяпер?

Дарка рыхтавалася стаць маці.

Ягор жартаваў:

— Эх, Дарка — хмелю чарка! Давай сынка — на меншае не згодзен!

Дарка аджартоўвалася:

— Ну, Ягорка! Каб былі сынкі ды сынкі, як таго ўсе мужчыны жадаюць, дзе б ты жонку ўзяў?..

Аджартоўвалася, а сэрца сціскалася пад поглядам мужа — было відаць, што ў гэтым жарце не кропля праўды, а значна больш.

Нарэшце надышла пара і ў Матрончыкавай хаце пачулася першае «куга» — Бог даў дачушку.

Цешыліся ўсе — бацькі з абодвух бакоў, Ягор і, больш за ўсіх, Дарка. Яна вынасіла, і зберагла, і нарадзіла першынца. І хоць Ягор хаваўся за сваю ўсмешку, погляд дакорліва гаркоціў: «Я ж чакаў сына!»

«А можа, мне гэта здаецца?» — цешыла сябе Дарка, і яе вочы зноў свяціліся шчасцем мацярынства.

Дамаўляліся: калі сын — імя дадуць у гонар Ягаравага бацькі, а калі дачка — у гонар Дарчынай маці. Так і зрабілі, назвалі дачушку Кацярынай, чым вельмі ганарылася Дарчына маці і што псавала настрой Ягору.

— Ну вось, мамачка,— казала шчаслівая Дарка,— я не памылілася, ён добры.

— Хай Бог дае! Няхай так і будзе! — адказвала Кацярына, цяпер ужо старэйшая.

Ягор пасля радзін яшчэ больш змяніўся, астыў да жонкі, пачаў адбівацца ад дому. Зноў папаўзлі чуткі, што гасцюе ён у адзінокіх маладых жанчын. Праўду кажуць: чарвівы яблык нечарвівым быць ужо не можа...

Дарка цярпела, рабіла выгляд, што не заўважае паводзін мужа, цішком, як калісь і маці, намотвала слёзы на кулак.

Затое бацькі не ўтрымаліся і заступіліся за нявестку:

— Сынок! Людзі пачынаюць пароць пальцамі ў вочы, пара брацца за розум. Жонка не горшая за астатніх, дачушка як лялечка...

— Я ў ваша жыццё не мяшаюся, і вы не лезьце! — адгыркваўся Ягор.

— Дарка другое дзіця носіць, а яна нервуецца, ад слёз не прасыхае! — падыходзілі з іншага боку бацькі.

— Ператопчацца! — зноў гыркаў Ягор.— Яшчэ пабачым, каго народзіць...

Дарка з жахам чакала радзін, бо ведала, што другая дачка непазбежна пагоршыць і без таго складаныя сямейныя адносіны.

І вось зноў закугакала дзіця ў Матрончыкавай хаце, і зноў на свет з'явілася дзяўчынка.

Ягор узвіўся сінім полымем:

— Што?! Зноў, можа, Кацярынай назавеш? Напускай на свет адных Кацярын, бракаробка!

Аслабелая ад радзін Дарка плакала і ад шчасця мацярынства, і ад несправядлівых папрокаў.

— Ці ж я толькі вінаватая?.. Хоць пра якую віну можна тут гаварыць... Дасць Бог, будзе яшчэ і сын,— выціснула яна з болем.

— Чорта лысага! — ускіпеў Ягор.— Будзе, ды не ад цябе! Толькі свісну — роем наляцяць не горшыя за цябе!..

Ішоў час. Ягор, як у маладосці, пасвістваў па вёсках. Бывала, зусім не начаваў дома, а калі заяўляўся — нецвярозы і чужы...

Вось Дарка, перагаварыўшы са сваімі бацькамі, і вярталася да дзяцей, за якімі прыглядвала свякруха. Вярталася апошні раз, каб выказаць падзяку старым Матрончыкам і, сабраўшы клункі, адбыць з дачушкамі дамоў — цяпер ужо ў родны дом.

Ды, відаць, сам Бог наслаў у той трагічны дзень навальніцу, загнаў Дарку пад дуб, каб праз яе пакуты і выпрабаванні выклікаць спачуванне ў сэрцы Ягора ды зберагчы сям'ю і захаваць дзецям бацьку. Але і Бог на гэты раз не памог, бо сцены Матрончыкавай хаты замест спачування пачулі:

— Мала таго што непаўнацэнная як жанчына, дык яшчэ і глухая!

Сцены гэта пачулі, не пачула толькі Дарка, хоць усё адчула сэрцам і ўсё зразумела...

* * *

Дарка большасць часу сядзела дома ў сваіх бацькоў. Саромелася сябе, баялася людзей і той глухой сцяны, якая аддзяліла яе ад астатніх.

Вяскоўцы наведваліся кожны дзень, прыходзілі быццам да бацькоў з нейкімі справамі, але Дарка разумела, што людзі ідуць падтрымаць яе. Людская дабрыня і спагада не памяншалі болю, наадварот, у такім становішчы Дарка вастрэй адчувала сваё калецтва і адзіноту.

Але што гэты боль у параўнанні з пакутамі — бачыць, але не чуць сваіх дзяцей, якія бегалі і шчабяталі вакол? Дарка прыкладала ўсе намаганні, каб перад дзецьмі выглядаць паўнацэннай і вясёлай, гаварыла з імі, хоць і неўпапад.

Аднаго разу Дарка ледзь не самлела — убачыла праз акно, як да іх у хату ідзе Алесь. Хлапец адслужыў у арміі і добра ведаў пра Дарчыны пакуты. Ён халасцякаваў, ды і часу пасля вяселля «яго сонейка» мінула не шмат — нейкія тры гады.

Дарка, каб магла пачуць свой голас, спужалася б яго, як жахнулася маці, пачуўшы крык дачкі:

— Мамачка, не! Не пускай яго! Толькі не пускай!

Дарчына маці выйшла на ганак:

— Здароў, Алеська!

— Вітаю вас, цётка Кацярына! — неяк вінавата сказаў хлапец і спытаўся: — А ці можна да Даркі?

Кацярына ад крыўды на тое, што завецца горкім лёсам, балюча прыкусіла губу:

— Не, Алесік, яна спіць... Ды і што яна табе?..

Алесь таксама да болю прыкусіў губу:

— Што яна мне?.. Эх, цётачка...— крутнуўся і пайшоў.

Дарка доўга і няўцешна плакала пасля нечаканага візіту.

— Няхай бы зайшоў,— прымірэнча сказала маці і ведала, што па губах дачка зразумее, пра што гаворка.

— Эх, мама,— прастагнала Дарка,— не ўбачыла я свайго шчасця тады, што ўжо цяпер...

Маці і дачка думалі, што Алесь, атрымаўшы ад варот паварот, болей не прыйдзе, але памыліліся. Назаўтра ён зноў крочыў да Дарчынай хаты.

Дарка зноў узмалілася, але ўжо не крыкам, а шэптам:

— Мамачка, пашкадуй мяне, не пускай!..

Кацярына зноў выйшла на ганак і, замест вітання, запрасіла:

— Заходзь, Алесік, яна дома...

Алесь раней гэтак ніколі не хваляваўся, нават тады, перад выпускнымі экзаменамі, калі асмеліўся нагаварыць Дарцы шмат узнёслых слоў. Ад тахкання сэрца, здавалася, абваліцца столь, у роце перасохла, не хапала паветра. Дарка спадзявалася, што Алесь зноў будзе адпраўлены прэч, і ледзь не ўскрыкнула, убачыўшы яго ў хаце. Яна засланіла твар рукамі і заплакала.

Алесь пастаяў ля парога, потым моўчкі сеў на табурэтку і ціхенька сядзеў, гледзячы на Дарку, якая так і не асмелілася адкрыць твар. Алесь, як умеў, забаўляў дзвюх дзяўчынак — Кацярынку і Ірынку, потым, зноў жа ціхенька, быццам у пакоі хтосьці спаў, выйшаў. А на выхадзе сказаў Дарчынай маці:

— Дзякуй вам, цётка Кацярына!..

Ён пачаў прыходзіць кожны дзень, моўчкі садзіўся насупраць Даркі, і — якое шчасце! — яна не засланяла твару і не апускала вачэй. Яна нібы купалася ў Алесевых вачах, нібы ўхапілася за ратавальную магчымасць выплысці, не загінуць у жыццёвым віры.

Аднаго разу Алесь, гледзячы Дарцы ў вочы, узяў яе за рукі і ціха сказаў:

— Ты — сонечнае святло! Ты — кожная кветка на зямлі!

— А яшчэ хто я? — папыталася Дарка.

— Ты мяне чуеш?! — ажно крыкнуў Алесь.
— А яшчэ хто я? — перапытала шчаслівая Дарка.
— Ты — раніца кожнага дня!
— А яшчэ хто? — дапытвалася Дарка.
Алесь абхапіў і падняў на рукі Кацярынку і Ірынку:
— А яшчэ ты — маё жыццё! Вы — маё жыццё!.. Ты мяне чуеш, Дарка?!
— Чую! Чую! Цябе, Алесік, чую!

# Дуплет

Ужо сцямнела, калі Юзюк вяртаўся з палявання. Не пашанцавала яму сёння, і ад гэтага на душы было прыкра. Ведаў, што ў хаце галеча-пустэча і посны булён можна закрасіць толькі дзічынай. Але і дзічына не дурная, яна самахоць у гаршчок ці на патэльню не скокне.

Да хаты заставалася зусім блізка: апошні паварот лясной дарогі — і дома.

Перад самым паваротам Юзюк насцярожыўся — вуха ўлавіла шоргат і сапенне. Ён спыніўся і падаўся ўсім целам наперад, углядаючыся ў шэрань змяркання, якая размазвала ўсё і паглынала. На дарозе нешта вялікай плямай корпалася і краталася.

Дзік! — мільганула маланкай здагадка.

Юзюк ліхаманкава сарваў з плячэй дубальтоўку, памятаючы, што ў ствалах буйная, якраз на дзіка, карцеч, ускінуў стрэльбу, прыцэліўся і бабахнуў. Сэрца тахкала так моцна, што стрэл падаўся ціхім і бяскрыўдным, як пляск далоняў. Порах быў бяздымны, і Юзюк з радасцю ўбачыў, што дзік на месцы,— значыцца, не прамазаў.

Сціскаючы стрэльбу, скочыў некалькі крокаў наперад і спыніўся, прыслухаўся. Сапення не было, і шоргат сціх...

А калі дзік паранены і затаіўся! А калі гэта сякач, які адным узмахам галавы распора жывот, як старую наўлечку! Не! Трэба для надзейнасці ўлупіць дуплетам з другога ствала!

Юзюк склаўся і, ледзь стрымліваючы дыханне, пальнуў з другога ствала, з бліжэйшай адлегласці. Пляма не варухнулася.

Цяпер ужо без ваганняў сарваўся з месца і кінуўся да здабычы.

* * *

Хата Тадэвуша Крумкача стаяла ля самага лесу, наводшыбе. Месца было маляўнічае, пагоркавае, лашчылі вока бязмежныя хваёвыя лясы, аздобленыя бярозавымі гаямі, трапяткімі асіннікамі і разважлівымі дубамі, многія з якіх уладкаваліся на чыстым месцы, бліжэй да вёскі, як тыя волаты-вартаўнікі. Але вартаваць і бараніць вёску Кладкі не было патрэбы, бо нічога ёй не пагражала, акрамя запусцення і беднасці. Ды і вёскай яе можна назваць з нацягам, прыплюснуўшы адно вока,— нейкіх сем двароў, сярод якіх чатыры належаць дачнікам, а толькі ў трох жывуць сем'і тутэйшыя, карэнныя.

Калгас пад націскам агульнадзяржаўнага ўпадку паступова сціскаўся, адступаў бліжэй да цэнтральнай сядзібы, пакідаючы неперспектыўныя вёскі і пасяўныя плошчы вакол іх на літасць здзічэння і вымірання.

Некалі глухая вёска Кладкі хутка ператварылася ў забытую Богам і ўладамі.

Мясцовыя жыхары сумна жартавалі:

— Пара ўжо Кладкі змяніць на Клады...

Тадэвуш Крумкач з жонкай адпрацавалі сваё ў калгасе і цяпер дажывалі свой век у хатцы, якую калісь пабудаваў сам гаспадар, на зямлі, якая была сведкай усяго іх жыцця.

Так ужо здарылася, што сам Тадэвуш і пяць ягоных сыноў, далікатна кажучы, заглядалі ў чарку. Любіла выпіць і яго жонка Клаўдзя. Але сёння цяжка знайсці такога чалавека ў вёсцы, які б не ўлягаў у гэта.

І пры калгасе багацце ў гаспадарцы Крумкача было тое ж, што і сёння,— ні каровы, ні парасяці, ні курак. Жылі і тады — з плеч у печ. Праўда, бульбу садзілі заўжды, бо, каб не яна,— зімой павыміралі б з голаду.

Вось чаму паляванне, дакладней, браканьерства, круглы год пазбаўляла бульбу на стале ад адзіноты. Нейкая скабчына, нейкая скварчына часцяком завітвалі на Крумкачоў стол. Гэтаму спрыялі багатыя на дзічыну лясы.

Тадэвуш і Клаўдзя былі людзьмі сціплымі, нават добрымі, нікому, як кажуць, з нагамі ў горла не лезлі, нікога не абразілі, не зняважылі. Вып'юць, калі перападзе,— і ў сваю хаціну.

Дзеці пайшлі ў бацькоў — не зладзеі, не прайдзісветы. Яны разыходзіліся зранку па вёсках, дапамагалі адзінокім бабам і ўсім тым, хто прасіў нешта ўзараць, скасіць, парэзаць і пашчапаць. За працу бралі толькі гарэлку, якой іх і частавалі і давалі з сабою.

Нехта адзін ці ўдвух, пры неабходнасці, цягнуўся ў лес на пошукі паляўнічага шчасця.

Такім чынам, лад жыцця гэтай сям'і быў адрэгуляваны і прыцёрты да сучасных абставін.

Людзі з навакольных вёсак прывыклі да безадмоўных і рэдка цвярозых Крумкачовых сыноў, не баяліся пускаць іх у хату, запрашалі, бывала, да чаркі і без іх працы. Спачатку дзівіліся толькі аднаму: ніводны з хлопцаў, а самаму сталаму пераваліла за сорак, не быў жанаты. Потым і гэта акалічнасць перастала хваляваць. Хлопцы як хлопцы — добрыя, працавітыя...

Менавіта сёння самы малодшы з Крумкачоў — Юзюк, якому споўнілася дваццаць тры гады, вяртаючыся дахаты, стрэліў дуплетам у дзіка.

Падскочыўшы да цёмнай плямы, Юзюк нічога не зразумеў. Ён настолькі быў упэўнены ў сваёй паляўнічай удачы, што акрамя дзіка нічога і нікога не ўспрымаў.

Першае, што ён адчуў, калі ўбачыў на дарозе скурчаную постаць чалавека, быў не страх, а аслупяненне. І толькі ў наступны момант востры, пранізлівы холад прабег па яго целе, ператвараючы сэрца ў кавалак лёду.

Чалавек?! Адкуль? Як? Юзюк не мог крануцца. Чорная постаць нерухомага чалавека выглядала жахліва і злавесна.

Хлапец хацеў закрычаць, кінуцца наўцёкі, але сіл хапала толькі на тое, каб утрымацца на абмяклых нагах, не ўпасці побач з гэтым страшным чалавекам.

Токам ударыла думка, якая вярнула да рухавасці: а можа, жывы!

Пакуль рукі мітусліва шукалі ў кішэнях запалкі, вусны ліхаманкава шапталі:

— Жывы, жывы, жывы, жывы...

Нарэшце запалкі знойдзены, і халодныя, дрыготкія пальцы пачалі нервова чыркаць па карабку. Запалкі ламаліся, пырскалі ў розныя бакі іскрамі і ніяк не хацелі загарацца.

І вось адна запалка ўспыхнула і высветліла твар скурчанага на дарозе чалавека.

Юзюк балюча і працягла застагнаў — гэта быў яго брат Лявон.

* * *

Шукаць рады не было дзе...

Спачатку Юзюк, ускочыўшы ў хату, толькі глуха і страшна енчыў:

— Я забіў Лявона! Мама! Тата! Я Лявона застрэліў!

Маці ніяк не магла зразумець:

— Якога Лявона? Чыйго? Як застрэліў?

Бацька спаў і не мог дайсці да сябе ад выпітай гадзіну назад самагонкі, якую прынёс добра падпіты старэйшы сын Васіль,— ён таксама моцна пахрапваў на падлозе, падклаўшы пад галаву ватоўку.

— Якога Лявона? Чыйго-о?! — трэсла маці за плечы Юзюка, які валтузіў на ложку бацьку і стагнаў:

— Тата! Прачніся ты, я Лявона застрэліў! О-ой, тата!..

Нарэшце да Клаўдзі пачаў даходзіць страшэнны сэнс Юзюковых слоў.

— Сынок, ты што? Апамятайся! Нашага Лявона? За што?

Юзюк выціснуў:

— Нашага...

— Сынок! Сыно-о-чак! — аглушыў Юзюка матчын крык, і немагчыма было зразумець, да якога сына ляцела гэта страшнае «сыночак» — да Юзюка, да забітага Лявона ці да абодвух адразу?

Крык жончынай душы дайшоў і да Тадэвуша, ён сеў на ложку, патрос у бакі галавой, адганяючы туман з мазгоў, і асалавела паглядзеў на жонку:

— Што?.. Ну што здарылася?..

Адказаў глуха і ціха Юзюк:

— Тата, я застрэліў нашага Лявона...

Клаўдзя падхапіла:

— Трэба людзей клікаць, доктара! Можа, жывы! Ну што ты сядзіш, як кол?!

— Ціха! — раптам крыкнуў на жонку Тадэвуш. У сына насцярожана запытаўся: — Як гэта магло здарыцца? Што не падзялілі?..

Юзюк блытана і ўсхвалявана расказаў, як усё было, і выдыхнуў:

— Нежывы ён, мама... Ляжыць нежывы...

— Трэба клікаць нейкую дапамогу, людзей...— зноў ускочыла Клаўдзя, але Тадэвуш злосна шыкнуў:

— Дурніца безгаловая! Ну, збяры людзей! Міліцыю пакліч яшчэ! І што? Лявона паднімеш? Балда! Не будзе ні Лявона, ні Юзюка — заканапацяць па самую плешку!

Тадэвуш рашуча ўстаў, уссунуў боты на босыя ногі, зняў з цвіка шапку.

— Паднімай Васіля! — закамандаваў Юзюку.— А дзе Грышка з Адолікам? — папытаўся ў жонкі.

— Яны ж недзе па вёсках працуюць... Маглі і заначаваць...

— Заначаваць! — злосна паўтарыў Тадэвуш.— Набяруцца не ў меру ды поўзаюць ракам па гразі! Вунь, адзін ужо заначаваў!..

— Тата, Васіль не прачынаецца, толькі мармыча нешта,— паскардзіўся па-дзіцячы Юзюк.

— Кінь ты гэту падлу! — бліснуў бацька вачыма.—

Няхай спіць, меней сведкаў будзе!.. А ты,— звярнуўся да жонкі,— бяры пасцілку і бягом за намі...

Мёртвае цела Лявона гойдалася і адцягвала пасцілку да самай зямлі, а калі нехта з мужчын у цемры спатыкаўся, цягнулася па дарозе.

Бацька ішоў першы, за ім, учарэпіўшыся ў рагі пасцілкі, старанна перабіраў нагамі Юзюк.

Усё адбывалася настолькі імкліва, што ён не разумеў, што з ім, дзе ён і што робіць.

За мужчынамі ішла Клаўдзя, ціха галасіла, церла рогам хусткі твар і нешта прыгаворвала.

Начная працэсія падышла да ганка і спынілася. Не згаворваючыся, мужчыны закурылі.

Цяжка дыхаючы, Юзюк асцярожна спытаўся:

— А што далей?..

— У хату яго... Нясіце ў хату! — узмалілася Клаўдзя.

— Якую хату! — зноў шыкнуў на яе Тадэвуш.— Мала вачэй на свеце? Трэба хутчэй закапаць! Толькі дзе? І каб язык з-за зубоў не высоўвалі!

Юзюка ад гэтых слоў зноў да касцей праняў жахлівы холад.

— А развітацца... А чаму ж так не па-людску? — загаласіла Клаўдзя.

Тадэвуш апусціў галаву:

— І я не каменны... Усё атрымалася не па-людску — і жыццё, і смерць, і пахаванне...

Патаптаўся, зняў шапку і з цяжкасцю выдыхнуў:

— Я ж другога сына ратую... Развітвайся тут...

* * *

Вёску Застарычы аддзялялі ад Кладак восем кіламетраў, але і тут пра Крумкачовых дзяцей ведалі ўсе і ўсё. Ды што гэта за перашкода, восем кіламетраў — паўтары гадзіны ходу? А калі ідзеш па лесе, сярод чысціні і прыгажосці, паўтары гадзіны сціскаюцца да непрыкметнасці.

Юзюк па гэтай лясной дарозе хадзіў-перахадзіў столькі, што на яго перасталі зважаць вавёркі, якія раз-пораз перабягалі дарогу ці пырскалі з дрэва на дрэва. Не пужаліся ўжо і не паднімалі гвалту яго цёзкі па прозвішчы — чорныя крумкачы, чые гнёзды ляпіліся да вяршынь магутных соснаў.

Усё навокал было такім родным і блізкім не толькі таму, што ён вырас сярод яго, а і таму, што дарога гэта звязвала яго з дзяўчынай, якая захапіла яго думкі і сэрца.

Больш як месяц пасля страшнага здарэння Юзюк не паказваў і носа ў Застарычы. Ён думаў, што ніколі ўжо не ўбачыць сваёй каханай, але пасля нечалавечых пакут, патаемных слёз і бяссонных начэй раптоўна пацягнула да яе. Хацелася хоць крыху ажывіць, сагрэць счарнелую і збалелую душу.

Ішоў Юзюк не шпарка, у глыбокім роздуме. Як паглядзець ёй у вочы? Што сказаць? Як сябе паводзіць? А ці мае права ён, забойца, на чыстыя чалавечыя адносіны? Мала таго што галеча беспрацоўная, дык яшчэ і злачынец...

Алена раней некалькі разоў намякала на тое, што пасля іх вяселля ён пераедзе жыць у Застарычы і будзе працаваць у суседняй калгаснай брыгадзе, да якой усяго тры кіламетры. Юзюк моўчкі пагаджаўся, бо і сам у душы прагнуў наладзіць жыццё, як у нармальных людзей.

Ідучы па Застарычах, Юзюк не адзін раз чуў за сабой:

— Ой, парушаць Крумкачовы хлопцы сваю халасцяцкую вольніцу! Ой, парушаць! Ой, хутка грымне вяселле! Ой, вусы свярбяць!..

Але грымнула зусім іншае...

* * *

Жыццё ў Крумкачовай хаце, пасля таго як не стала Лявона, змянілася.

Юзюк у рот не браў гарэлкі і ўсякіх моцных напояў, зрабіўся маўклівым, пазбягаў глядзець бацьку ў вочы.

Цішком шмыгаў праз лазнічок на залысінку — пагорак сярод бярэзніку — і тут, ля месца пахавання брата, гадзінамі сядзеў не кратаючыся, быццам гэта быў не ён, а застылы жывы помнік.

Нябачная магіла прыцягвала яго, хоць і выклікала ў сэрцы нясцерпны боль...

Маці дома, пры выпадку, кранала яго рукой і цішком супакойвала ці то сябе, ці то Юзюка:

— Трэба жыць, сынок... Трэба жыць...

Бацька як піў, так і працягваў піць. Маўчаў, курыў. Да магілы Лявона — ні нагой.

Грышка з Адолікам час ад часу, працверазеўшы, пыталіся:

— Дзе гэта Лявон? Ён што, прыжыўся дзе-небудзь ля спадніцы?..

— Можа, і прыжыўся! Вам што? — гыркаў бацька.

— А дзе ружжо? На паляванне б сцягацца, мяса ўжо сніцца пачало,— зноў дапытваліся браты.

Бацька гэтак жа злосна абсякаў:

— Няма болей ружжа! Мышы з’елі! Сапсавалася — вось я і выкінуў яго, каб не пакалечыліся, дурні...

Болей не было каму шукаць Лявона ў гэтай глухамані. А нават каб і схапіліся — шукай іголку ў стозе сена! Ведалі навакольцы, што басцяліся хлопцы самапасам, маглі начаваць там, дзе валіла іх з ног гарэлка,— хоць у лесе, хоць на балоце, хоць зімой.

Помнілі і тое, што было ў Крумкачоў шэсць сыноў, але той шосты, Вацік, памёр недарэчна і ў пакутах, калі яму споўнілася толькі трыццаць гадоў.

Напіўся ён неяк зімой па самую завязку і ехаў з другой вёскі дамоў у санях. Заснуў Вацік на ахапку сена, ногі з саней звесіліся, і з адной нагі ссунуўся валёнак. Мароз быў страшэнны, ажно дрэвы пастрэльвалі — трэскаліся, не вытрымлівалі.

Конь — жывёліна разумная, ён прывёз бы Ваціка дамоў, але лейцы цягнуліся па снезе і зачапіліся за нейкі корч.

Так і стаялі яны ноччу, дакладней, стаяў бедны конь, а небарака Вацік ляжаў і хроп на санях. Калі ж ачнуўся, адблытаў лейцы і пагнаў каня да ратавальнай хаты — было позна. Вушы, шчокі, нос адышлі, памянялі толькі скуру, а вось нага счарнела, распухла.

Колькі бацькі ні гналі яго да дактароў, ён аднекваўся:

— Баюся! Можа, само пройдзе...

Упёрся як баран у слуп і сядзеў на печы, думаў, адагрэе нагу і кроў пабяжыць па ёй па-ранейшаму.

Але пухліна і чарната праз тыдзень палезлі вышэй, і пачалася гангрэна. Ужо і нагу даўся адняць, але было позна...

Памяталі гэта людзі, ведаў пра гэта і ўчастковы міліцыянер, таму пошукі Лявона, каб яны пачаліся на афіцыйным узроўні, ператварыліся б у фармальнасць.

* * *

Ужо другі год пайшоў з таго часу, як разарваў цішыню сцямнелага лесу той ракавы дуплет.

Юзюку здавалася, што адна карцечына нейкім чынам трапіла ў яго сэрца, і хоць рана аказалася не смяротнай, але і не думала зажываць.

Згрызала думка: нават крыжа на Лявонавай магіле няма... Закапалі без труны — накрылі пасцілкай, і ўсё...

А найбольш непакоіла, дапякала хуткае яго вяселле з Аленай. Адносіны з ёй наладзіліся, бацькі яе былі не супраць Юзюка, хоць злосныя языкі абмывалі Крумкачоў «дабрабыт» як маглі.

— Ну што ты такі сумны, Юзька? — дапытвалася Алена.— Усё, што трэба, самі нажывём... Каханне ўсяму дапаможа...

— Не гэтага я баюся...— выдыхаў Юзюк.— Не гэта хвалюе...

Старыя Крумкачы, пачуўшы пра сынаў намер, узрадаваліся. Спадзяваліся, што новае месца, новыя клопаты, а там, дасць Бог, і дзеці вернуць яго да жыцця.

Спадзяваўся на гэта і сам Юзюк, але чым менш часу заставалася да рэгістрацыі шлюбу ў сельсавеце, тым мацней даймала яго «карцечына» ў сэрцы.

І вось Юзюк зноў крочыў па лясной дарозе ў бок Застарыч. На гэты раз хада яго была рашучай, ён не заўважаў нічога навокал — ні прыгажосці лесу, ні вавёрак, ні птушак.

З кожным крокам яму здавалася, што ён паступова выходзіць з цемры, з пакутаў, хоць ішоў насустрач няведама чаму.

Юзюк зноў і зноў пракручваў у думках словы бацькі, які сёння падышоў першы раз за мінулы год з напамінам пра тое забойства.

— Выкінь, сынок, з галавы... Ці ж ты хацеў гэтага? Яго не вернеш, а ты ўратаваўся ад турмы...

Не, Юзюк увесь гэты час не выкідаў з галавы нічога, не заглушаў боль у сэрцы, не шукаў уцехі, а, наадварот, толькі і думаў пра гэта, толькі караў сябе і адчуваў, што так яго жыццё працягвацца не можа.

«Эх, тата,— думаў Юзюк,— ад турмы ты мяне ўратаваў... Ці ж магчыма ўратавацца ад самога сябе?..»

Алену здзівіў і напалохаў выгляд Юзюка.

— Што з табой, Юзя? Я цябе ніколі такога не бачыла. Ты што... перадумаў?..

Юзюк ледзь стрымліваў сябе, голас дрыжаў:

— Аленка! Я хачу папрасіць у цябе прабачэння... Мы павінны... Я абавязаны...

Алена спыталася больш настойліва, з трывогай у вачах:

— Дык ты перадумаў?! Так? І што, вяселля не будзе?..

Юзюк ціха пацвердзіў:

— Вяселля хутчэй за ўсё не будзе... А магчыма, яно адкладваецца... Усё цяпер будзе залежаць ад цябе.

— Што ўсё? Што ты надумаў? Я нічога не разумею!..

Юзюк узяў яе за рукі і сціснуў іх.

— Прашу цябе, не пытайся больш нічога... Пра ўсё даведаешся хутка сама. Я не магу табе болей нічога сказаць. Не магу! Язык дзервянее. Помні толькі адно: я кахаю цябе! Цябе адну!..

Юзюк пусціў яе рукі і крутнуўся, каб ісці.

— Куды ты?! — хутчэй крыкнула, чым спыталася дзяўчына.

Юзюк горка ўсміхнуўся:

— Насустрач свайму лёсу... А ён чакае мяне ў раёне — у міліцыі...

— Што ты пляцеш? — крычала Алена.— Цябе выклікаюць у міліцыю?

— Не! Сам іду! — рашуча сказаў Юзюк і пайшоў, і не было на свеце той сілы, якая б прымусіла яго павярнуць назад.

# Заклад са смерцю

*(Быль)*

Свой першы глыток гарэлкі Віталік зрабіў у пятнаццацігадовым узросце.

У роце апякло, перахапіла дыханне, пацяклі слёзы. Гадасць такая, што не ведаў, як адпляваецца, чым заесці. Але, адпляваўшыся і заеўшы, адкрыў у сабе невядомую дагэтуль лёгкасць адчуванняў. Хацелася смяяцца, рухацца, дзейнічаць. Здавалася, што варта толькі адштурхнуцца нагамі ад зямлі і нябачныя крылы панясуць у вышыню. Але гэтыя адчуванні хутка прайшлі, насталі моташнасць і вяласць.

«Не! — сказаў сам сабе Віталік.— Болей у рот не вазьму гэтую атруту! Сітро! Морс! Гэта зусім іншая справа! Гэта — клас!..»

Але праходзілі дні, а тое адчуванне незвычайнай лёгкасці не выходзіла з галавы, цікавіла і вабіла.

А тут яшчэ сябры:

— Не будзь, Віталь, жмотам! Маеш багатых продкаў, а не жадаеш скінуцца з намі!..

Бацькі ў Віталіка былі і сапраўды даволі забяспечаныя. Алег Сцяпанавіч, яго бацька, займаў пасаду намесніка абласнога пракурора. Быў энергічны, самаахвярны ў працы і, як казалі калегі, перспектыўны. Маці, Валянціна Лявонцеўна, дырэктарка сярэдняй школы. У гэтай самай школе вучыўся і Віталік, які быў не ў захапленні ад штодзённага матчынага вока. Але куды было яму дзявацца?

Віталікавы сябры ведалі, што казалі,— дастатак у гэтай сям'і быў, грошы ў іх сябра вадзіліся. А Віталік, не жадаючы быць «жмотам», скідваўся, а часцяком браў на сябе і ўсе грашовыя выдаткі.

З кожным разам гарэлка здавалася менш горкай і непрыемнай, а завіхрэнні ў галаве больш неабсяжнымі.

Спадабаліся і пахвалы падпітых сяброў у яго адрас, ад якіх Віталік уяўляў сябе асобай значнай і ўсё часцей уціскаў у лексікон уласнае «я».

Сяброўская хвала і захапленне Віталікам былі шчырымі, хоць і грошы адыгрывалі не апошнюю ролю. Ды і як было не захапляцца чалавекам, які не па ўзросце начытаны, заўсёды акуратна і з густам апрануты, а галоўнае, валодае інфармацыяй на крымінальную тэму.

Вось так — зрабіўшы ў свае пятнаццаць гадоў першы глыток гарэлкі, Віталік і не сніў, што гэтым ён крута змяніў свой лёс і што да апошняга ў яго жыцці глытка гарэлкі засталося ўсяго два гады.

* * *

У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў вёска знешне не была падобная на істоту, што памірае, хоць хварэла і захворванне было небяспечным. Прымусовае ўтрымліванне моладзі ў калгасах, дзе, акрамя працы, для той жа моладзі нічога не было, толькі адцягвала трагічны фінал.

Няўмольны дыягназ — бесперспектыўнасць калгасаў — паглыблялі лозунгавая палітыка дзяржавы і адкрытая хлусня аб выраўноўванні жыццёвых умоў паміж горадам і вёскай. Але на прымусе і ідэалагічнай хлусні далёка не паедзеш.

Не маючы магчымасці атрымаць пашпарт, моладзь была вымушана корпацца ў калгасным гнаі і брудзе, бо без пашпарта ўладкавацца на працу ў горадзе было немагчыма.

Рэдка каму ўдавалася здабыць даведку з праўлення калгаса або з сельсавета, якая сведчыла, што ўладальнік «вольнай» мае права часова ад’ехаць ад сваіх мясцін. З

такой даведкай шчасліўцы імчалі ў горад і лезлі ў любую дзірку, на самую цяжкую працу — абы далей ад калгаса.

І хоць пакутавалі яны ў горадзе не менш, чым у вёсцы, але зараблялі капейчыну і ехалі на выхадныя дні да бацькоўскага сала з задзёртымі ўгару насамі, бо паспелі прыдбаць нейкі стракаты пінжак і пачапіць на шыю размалёваны гальштук. Форсу таго — як на дрывотні трэсак!

Здабыў такую даведку і ўціснуўся ў горадзе на нейкую падсобную працу і Генадзь Лапцэвіч. І для яго гарадское жыццё было хутчэй хрэнам, чым мёдам, але пасля вясковай сціпласці вочы разбягаліся ад навізны і кантрастнасці гарадскога побыту.

Генадзь тут жа, побач з цагельным заводам, на ўскраі горада, дзе здымаў у гаспадароў куток, прыгледзеў танцпляцоўку, якую называлі «пятачком». Танцы ўлетку адбываліся штовечар, і Генадзь зачасціў сюды. Знаёмых яшчэ не займеў, таму першыя вечары сціпла стаяў збоку і назіраў.

Гарадскія танцы адрозніваліся ад вясковых, асабліва ў час факстротаў. Генадзь прыкінуў у галаве, ці змог бы гэтак мудрагеліста выдрыгваць нагамі, як стылягі, але выйсці на пляцоўку саромеўся. Праўда, вальс круцілі тут гэтаксама, як і ў вёсцы.

Аднаго вечара Генадзь убачыў настолькі прыгожую дзяўчыну, што забыўся пра сорам і вырашыў запрасіць яе на вальс, не звяртаючы ўвагі на тое, што яна не адна, а ў кампаніі дзяўчат і хлопцаў. Загучала музыка, Генадзь ірвануўся з месца, каб апярэдзіць астатніх, і запрасіў незнаёмку на вальс, але паспеў толькі сказаць «дазвольце», пасля чаго адчуў моцны ўдар кулаком у сківіцу. Ён крутнуўся ў той бок, але атрымаў удар ззаду, потым спераду. Генадзь паваліўся на дошкі «пятачка» і адразу ж атрымаў удар нагой у жывот. Апошняе, што ён пачуў, быў нечы крык:

— Ляжачага не біць!..

Генадзь апрытомнеў і заўважыў, што сядзіць на лаўцы ў гэтым жа скверы, непадалёку ад танцпляцоўкі. Абапал яго сядзелі нейкія хлопцы, іншыя, каму не хапіла месца, стаялі перад ім, курылі і аб нечым шумна гаманілі.

Генадзь ірвануўся з месца:

— За што вы мяне, хлопцы? Што я вам зрабіў?

Адзін з тых, што сядзеў побач і, відаць, быў самы аўтарытэтны, рэзка тузануў Генадзя за плячо назад, ад чаго той зноў плюхнуўся на лаўку.

— Сядзь, дурань! — рашуча, але мякка сказаў «аўтарытэт».— Каб не мы, ты б яшчэ доўга нюхаў дошкі «пятачка». Танцор!..

Генадзь толькі цяпер заўважыў на кашулі цёмныя плямы — гэта была кроў. Памацаў пад вокам і войкнуў ад болю. У жываце таксама рэзала.

— А хто ж мяне так? — збянтэжана спытаўся Генадзь.

— Болей адзін боўтайся, дык яшчэ не гэтак схопіш па нюхаўцы,— зноў адказаў сусед па лаўцы.— Ты, я бачу і чую па гаворцы,— вясковец?!.

Вось гэткім незвычайным чынам Генадзь пазнаёміўся з Віталікам і яго сябрамі. Яны і расказалі пра тое, як яго збілі з ног і пачалі качаць нагамі па танцпляцоўцы тыя чатыры хлапцы і як яны, Генадзевы абаронцы, не ўтрымаліся і з крыкам «ляжачага не біць» разагналі тую хеўру, атрымаўшы пры гэтым кожны па «ліхтару» пад вокам.

* * *

Дзіўна, але Віталік і Генадзь пасябравалі. Дзіўна таму, што Віталік — гарадскі элітарны хлопец, а Генадзь — сціплы і просты вясковец. Дзіўна і таму, што Віталік вучыўся ў дзесятым класе, з маленства карыстаўся бацькавай бібліятэкай, часцяком наведваў з бацькамі і тэатры, і кіно, а Генадзь скончыў усяго сем класаў і «кульгаў» на

неабсяжных прасторах класічнай літаратуры, блытаўся ў прозвішчах артыстаў і спевакоў. Магчыма, Генадзева шчырасць і наіўнасць падабаліся Віталіку больш за ўсё, і ён з лёгкасцю мог казыраць перад новым сябрам уласным «я».

— Я ўсё магу! Усё! — часцяком чуў Генадзь ад сябра. Чуў і верыў гэтаму, бо Віталікаў бацька, па просьбе сына, уладкаваў Генадзя ў «абшчак» — будынак, які быў пабудаваны цагельным заводам для бескватэрнай моладзі.

Але не толькі сынава просьба станоўча паўплывала на Алега Сцяпанавіча, а і знаёмства з самім Генадзем. Віталікаў бацька вопытным вокам ацаніў Генадзя: хлопец вясковы, неразбэшчаны, старэйшы за сына. Што яшчэ трэба? Чым не падпора сыну ў мутным і непрадказальным гарадскім тлуме?

І Генадзь, які быў старэйшы на чатыры гады за Віталіка і меў «воўчы» білет, што вызваляў яго па стану здароўя ад арміі, зрабіўся частым госцем у Віталіка.

У сваю чаргу Віталік, асабліва летам, пачаў бываць у Генадзевай вёсцы, начаваў і сталаваўся ў Генадзевых бацькоў. Яго вельмі здзіўляла вясковае харчаванне — сала, бульба, яйкі, малако. Ды і малако з яйкамі не заўсёды былі — то карова перад ацёлам не даілася, то куры лінялі і не несліся.

Здзіўлялі і вясковыя вечарынкі — усю ноч, да раніцы. Здзівіла і самагонка — мутнаватая, смярдзючая, але п'ецца, як вада, не пячэ, не гарчыць.

Тут, у вясковым асяроддзі, ужо сам Віталік пачаў «накульгваць» — усё яму было нова, дзіўна і цікава. Генадзь гэта заўважыў і, пры нагодзе, паджартоўваў над сябрам. Падводзіў яго да слівы і пытаўся:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза?..

На сліве не было пладоў, і Віталіку цяжка было разабрацца, што гэта за дрэва, але ён хутка знаходзіў адказ:

— Ведаю дакладна, што гэта не елка...

А ўжо зімой, ідучы з Віталікам па лесе, Генадзь адчуваў сябе перад сябрам, як прафесар перад першакурснікам. Слядоў было столькі, што Віталік ледзь паспяваў пытацца:

— А гэта хто прабег? А там чые загагулінкі? А вунь — быццам хто вяровачку паклаў на снезе! А вось тут!..

Баль быў на Генадзевай вуліцы.

— Гэта табе не ў бібліятэцы капацца ды чужыя думкі чытаць! Тут свая граматыка і арыфметыка!

* * *

Выпускныя экзамены Віталік вытрымаў паспяхова — дала свой плён яго агульная падрыхтоўка, разумна спланаваная бацькамі.

І хоць вучоба не вымагала вялікай напругі, Віталік пасля атрымання атэстата адчуў палёгку на душы. У свае семнаццаць гадоў ён не надта думаў пра перспектыву, пра тое, што наперадзе цэлае жыццё. Як і кожны ў яго ўзросце, ён жыў адным днём, радаваўся таму, што наперадзе лета, адпачынак, забавы. А там — будзе відаць, тым болей што даўно вырашана яго бліжэйшая будучыня — юрыдычны факультэт універсітэта. Віталік і сам хацеў пайсці па бацькавай дарозе — стаць прававедам.

Усё складвалася выдатна, давалася лёгка, як кажуць, надвор’е абяцала быць цёплым і бязвоблачным.

Віталікавы бацькі далі згоду на тое, каб сын у цесным сяброўскім коле адзначыў дома заканчэнне школы, хоць Віталік настойваў на рэстаране.

Маці, каб пераканаць сына, хітравала:

— Гэта ж і наша з бацькам свята! І для нас радасная падзея! У рэстаран мы з вамі не пацягнемся, а тут усе разам.

Віталік хацеў запярэчыць, але маці запэўніла яго:

— Не бойся, замінаць не будзем! Павіншуем, пабудзем крыху і пакінем вас адных...

Віталік сабраў самых блізкіх сваіх сяброў — дзяўчат і хлопцаў, сярод якіх быў і Генадзь. Тут маці ўпершыню ўбачыла, як сын заліхвацка кульнуў чарку гарэлкі ў рот, і таўханула локцем мужа:

— Алег! Глянь, што ён робіць! Як ваду!

Віталік перахапіў бацькоўскі погляд і заспакоіў іх:

— Не бойцеся, я не п'янею! Ды і дзень сёння такі...

І сапраўды, Віталіка гарэлка не дужа брала. Яго высокі рост, крэпкі склад цела, добрае харчаванне былі як той моцны падмурак, на якім можна смела ўзводзіць шматпавярховы будынак. Ды і нельга было сказаць, што Віталік адмыслова шукаў гарэлкі, захапляўся ёю. Не! Здаралася — выпіваў, не задумваючыся, добра гэта ці блага. Таму ён гэтак шчыра і бясхітрасна сказаў бацькам:

— Я не п'янею!

Пасля таго як моладзь разышлася і застаўся толькі Генадзь, Віталік падышоў да бацькоў:

— Вы не супраць, калі я на некалькі дзён матану з Генадзем у яго вёску?

Маці, заўсёды спакойная і разважлівая, на гэты раз неяк нервова схамянулася, быццам спужалася пытання.

— Ой, сынок, можа б, ты пабыў з намі! Адаспіся, адпыхайся...

Бацька падтрымаў сына:

— Самы раз ехаць! І надвор'е, і час спрыяюць гэтаму. Універсітэцкія экзамены не за гарамі, зноў падрыхтоўка, мітусня. Едзь, сын, адпачні!

* * *

Напэўна, і камп'ютэр адстане ад вясковага «лапцевага» тэлефона, які імгненна разносіць па навакольных вёсках любую навіну.

Таму пра Віталікавы наезды ў Генадзеву вёску ведалі не толькі мясцовыя жыхары, а і ўся навакольная моладзь.

Хлопец ён быў прыкметны, прыгожы, гаваркі, любіў выставіць сваё «я», але ж і былі для таго падставы.

Дзяўчаты, пачуўшы, што прыехаў гарадскі кавалер, больш старанна чапурыліся, апраналі лепшае. Хлопцы ў душы злаваліся, кулялі чарку для смеласці і, пры выпадку, задзіраліся з няпрошаным сапернікам, але да бойкі ні разу не дайшло — паяршацца хлопцы, панадзімаюцца ды і сядуць на «адно» месца.

І гэты паслявыпускны прыезд Віталіка ў вёску не застаўся без увагі.

— Ажаню я цябе тут! — жартаваў Генадзь.— Во будзе здарава: я — у горад на булкі, ты — у вёску каровам хвасты накручваць!..

Вечарынка пачыналася, як заўсёды,— паціху, паволі збіралася моладзь, разварушвалася, прыглядвалася да чужых абновак, вытыркала наперад свае.

Хлопцы — і гэта як закон — разыходзіліся кучкамі па хатах, па дварах, пілі самагонку і ўжо пасля, пачырванелыя, сунуліся ў драўляны клуб, які ад астатніх хат адрозніваўся толькі назвай.

Віталіка вельмі здзіўляла не тое, што п'юць,— выпіваў і ён, а тое, што закусваюць цыбуляй. П'юць, ядуць сала з цыбуляй, накурацца, а потым лезуць да дзявочага носа з размовамі. Дзіва!

Да цыбулі ён перад вечарынкай не дакранаўся, а курыць — не курыў зроду.

Вечарынка раскручвалася нетаропка, затое як раскруціцца — не спыніш. А калі яшчэ трапіць гарманіст, як той агонь,— танцоры не адчуваюць пад сабой падлогі, выкладваюцца ў кожным танцы да апошняга поту.

Паміж танцамі хлопцы дабаўлялі «гаручага» — паднімалі градус у целе, і рабілі гэта за ноч не адзін раз.

Быў у гэтым і свой маленькі плюс, бо як рэнтген высвечвае хваробу, так і гарэлка высвечвае характар чалавека. Разумны — ён і п'яны разумны, а схаваная ў цвярозым чалавеку дурнота пасля першай жа шклянкі вылазіць наверх.

Праз гэты «рэнтген» дзяўчаты даўно ведалі, хто чаго варты, і, думаючы пра будучыню, стараліся абыходзіць за вярсту занадта дурных. Але жыццё ёсць жыццё, і не дзяўчаты выбіраюць, а іх...

У адзін з такіх дадатковых перапынкаў Генадзь пайшоў са сваёй дзяўчынай, а Віталіка хлопцы зацягнулі ў суседнюю хату, дзе на стале з'явіліся і самагонка, і сала. Хлопцы былі амаль усе знаёмыя і як адзін падпітыя.

Віталік знешне выглядаў цвяроза, але моташнасць ад выпітай самагонкі адчувалася. Піць не вельмі хацелася, ды, як кажуць, цыган за кампанію вешаецца.

Пачалі наліваць у шклянкі, выпілі. Выпіў і Віталік. Сала не прывабіла — укусіў скарыначку хлеба. Пасля выпітага крыху павесялеў, але болей піць не хацелася, і ён устаў, каб выйсці на двор.

— Ты куды?! — загаманілі хлопцы.— З намі дык з намі! Не дык не! Не горшыя за цябе!..

Віталік, каб не крыўдзіць астатніх, бадзёра адказаў:

— З вамі! — і сеў на лаву.

— Наліць яму! Налівай усім! Банкуй!..

Віталік закрыў рукой шклянку:

— Мне хопіць гэтага... Хопіць, хлопцы... Не хачу!

— Што, прывык у бацькоў да сітра?! Слабак! — пачуліся п'яныя галасы.— Можа, соску прынесці?

Віталік ускіпеў:

— Ды я болей за вас усіх вып'ю! Ды я не п'янею зусім!

— Ха-ха-ха! — пачулася ў адказ.

— Ах, так! — і Віталік, устаючы, паказаў на крыху адпіты трохлітровы слоік самагонкі, які стаяў «у рэзерве», паміж пустых і паўпустых пляшак.— Бачыце трохлітровік?! Я не адрываючыся апаражню гэты слоік! Ну што, спорым?

Усе загаманілі, узрушыліся. Хто крычаў: «Куды табе!», хто: «Падумаеш, здзівіў!»

— Глядзіце! — і Віталік, абхапіўшы далонямі слоік, нахіліў яго да рота і пачаў піць.

Усе сціхлі, акамянелі. Няўжо вып'е?

Спачатку глыткі былі вялікія, мутнаватая вадкасць жвава пераліваласся з пасудзіны ў Віталікаў рот, потым, калі паказаўся крайчык дна (значыць, палова адпіта), глыткі паменшалі і парадзелі, слоік амаль перастаў нахіляцца. Віталік з цяжкасцю прымушаў сябе рабіць кожны глыток, але самалюбства не дазваляла спыніцца — прайграць спрэчку.

Віталік ужо не піў, а цадзіў праз зубы самагонку, не адчуваючы ні яе паху, ні смаку. Цадзіў і думаў: «Я вам пакажу сітро...»

Здавалася, што яшчэ крыху намаганняў і Віталік дацісне да канца трохлітровік, але раптоўна рукі яго здрыгануліся і самагонка, запоўніўшы горла, пацякла на грудзі. Віталік хіснуўся, неяк нязграбна і з цяжкасцю грукнуў слоік аб стол, нібы гэта была шматпудовая гіра, і памутнелымі, як гэтая сівуха, вачыма паглядзеў некуды скрозь хлопцаў.

— Нічога,— ледзь дыхаючы, выціснуў ён,— я зараз, я дап'ю... я яшчэ...— і гэтак жа цяжка і гулка, як слоік аб стол, бразнуўся на падлогу.

Усе ўскочылі з месцаў, нахіліліся над ім і спужаліся, працверазелі. Віталік выглядаў як нябожчык — белы, без крывінкі твар, шырока адкрыты рот, вочы неяк страшна закаціліся пад лоб.

Нехта крыкнуў:

— Вады!..

— Што вада? Малака! Кіслага малака!

Але малако вылівалася з рота на падлогу...

У хату, смеючыся, увайшоў Генадзь.

— Што за шум без бойкі? Дзе мае сто грам?

Убачыў на падлозе свайго сябра і ледзь не самлеў.

— Што з ім?! Што?!

Пачуўшы пра дурны заклад, кінуўся да Віталіка, схіліўся над ім, памацаў пульс.

— Жывы! Чую — пульсуе! Хоць слаба, але пульсуе! Хутчэй доктара! — закрычаў Генадзь і асекся...

Дзе той доктар?.. Бліжэйшы фельчар — ажно за сем вёрстаў, ды і ў таго, акрамя ваты, нічога няма... Але што рабіць? Трэба ж шукаць ратаванне!

Генадзь зноў крыкнуў:

— Каня! Хлопцы, хутчэй запрагайце каня!..

Віталіка паклалі на падводу, зрабіўшы падсцілку з сена. Двое хлопцаў падтрымлівалі Віталікава абмяклае цела, а Генадзь гнаў штосілы каня. Хвастаў яго дубцом і стагнаў:

— Якая светлая душа! Як маглі дазволіць... Як маглі... Гэта я, я вінаваты, толькі я...

Ноч была цёмная, таму колы наскоквалі на каменне, правальваліся ў нейкія яміны, зноў высякалі іскры аб камяні — і імчалі, імчалі да ратавальнікаў-дактароў, а бездапаможнае Віталікава цела падскоквала на сене, як выцягнутая з вады рыбіна.

Падляцеўшы да фельчаравай хаты, Генадзь загрукацеў у акно:

— Дзядзечка! Памажыце! Тут хлапец памірае! Хлапец...

Фельчар, чалавек даўно ўжо пенсійнага ўзросту, выйшаў нетаропка на ганак, накінуўшы на бялізну ватоўку.

— Што здарылася? Акно ледзь не высадзіў!

— Дзядзечка! Хлапец памірае! Ратуйце!..

Фельчар падышоў да падводы, узяў Віталікаву руку і пачаў слухаць пульс. Доўга слухаў, потым узяў другую руку і прымружыў вочы.

Пачынала віднець, і дзесь звонка зацокаў і пералівіста засвістаў салавей. Генадзь, які з маленства любіў салаўіныя спевы, цяпер гатовы быў забіць таго салаўя за тое, што перашкаджаў фельчару чуць Віталікаў пульс...

Фельчар паклаў руку, прыхіліў вуха да грудзей непрытомнага Віталя.

Генадзь стрымліваў дыханне, сэрца тахкала так моцна, што здавалася, і яно перашкаджае фельчару пачуць сэрца яго сябра.

Нарэшце фельчар распраміўся і кашлянуў убок.

— Ну што? — узмаліўся Генадзь.— Дапаможаце?!.

Фельчар уздыхнуў:

— Позна, сынкі, позна...

* * *

Алег Сцяпанавіч вяртаўся дамоў у цудоўным настроі. Тое, пра што марыў, пра што апошні час гаварылі, не хаваючыся, саслужбоўцы,— адбылося. Сёння, на калегіі, у прысутнасці высокага начальства, быў зачытаны загад аб прызначэнні яго абласным пракурорам. І гэта адбылося ў сорак тры гады! Нездарма калегі называлі яго перспектыўным — перспектыва засталася і надалей.

Алег Сцяпанавіч сёння не стаў нават карыстацца службовай машынай і нетаропка крочыў дамоў, атулены прыемнымі думкамі і марамі.

Пераступіўшы парог кватэры, ён абняў жонку:

— Ну, Валечка, можаш павіншаваць мяне! Я болей не намеснік! Твой муж — пракурор!

— Няўжо, Алег! Няўжо! — прыціснулася жонка да грудзей мужа і заплакала шчаслівымі слязьмі.— Віншую, дарагі! Ты заслужыў гэту пасаду сваёй працай! Наша сям’я адчувала тваю адданасць рабоце! Віншую!

— А калі так,— усклікнуў Алег Сцяпанавіч,— накрывай стол, будзем піць шампанскае!

Валянціна Лявонцеўна сумна адказала:

— Эх, няма сёння з намі сынка нашага... Як бы ён парадаваўся... І навошта я яго адпусціла?

— Нічога! — падбадзёрыў яе Алег Сцяпанавіч.— Паспее і ён пацешыцца за бацьку. Паспее!..

Калі шампанскае было разліта па фужэрах, хтосьці пазваніў у дзверы.

— Сядзі! — сказала Валянціна Лявонцеўна.— Я адчыню сама. У цябе ж сёння такое свята!

Падышоўшы да дзвярэй, шчаслівая гаспадыня спыталася:

— Хто там?

— Вам тэлеграма! — пачуўся адказ.

— Але,— усклікнула Валянціна Лявонцеўна, адчыняючы дзверы,— нехта надта спрытны спяшаецца цябе павіншаваць!..

Паштарка з каменным выразам твару моўчкі падала тэлеграму.

Валянціна Лявонцеўна хуценька прабегла вачамі па літарах, шукаючы віншаванне, і з першага разу нічога не зразумела. З вуснаў прасіліся словы «гэта не нам», але ліхаманкава перачытваючы тэкст, пачала халадзець ад жудаснага сэнсу слоў...

— Віта-а-а...— паспела крыкнуць яна страшэнным голасам і, як нежывая, павалілася ля парога.

* * *

Ці ж мог думаць Алег Сцяпанавіч, што першай справай, якую будзе ён кантраляваць на новай пасадзе, будзе крымінальная справа па факце гібелі яго адзінага сына?

«Усіх падніму на ногі! Усё перавярну ўверх нагамі, а вінаватых знайду! — як заклінанне паўтараў ён сам сабе.— Пакараць! Пакараць — і ў першую чаргу Генадзя! Гэта ён лісой улез у сяброўства да сына. Каб не ён — жыў бы Віталік!»

Крымінальную справу ўзбудзіў, па тэрытарыяльнасці, раённы аддзел унутраных спраў, але пільны кантроль ажыццяўляла і раённая, і абласная пракуратуры.

Алег Сцяпанавіч, як і абяцаў, паставіў каго на ногі, каго на галаву. У Генадзевай вёсцы днявалі і начавалі следчы і ўчастковы, праз дзень наведваўся і сам начальнік міліцыі.

Дапытвалі днём і ноччу ўсіх, хто хоць краем вуха чуў пра гэта здарэнне. Потым гэтых жа дапытаных выклікалі

ў аддзел міліцыі і дапытвалі зноў — здабывалі доказы, нібы выцягвалі жылы.

Але ў такой справе цяжка даказаць нейчую вінаватасць — ніхто не прымушаў піць, ніхто сілком у горла не ліў. Ды і вясковыя хлопцы — не дурныя, аднекваліся: не бачыў, не ведаю, не піў з ім...

Адзін Генадзь, на якога быў накіраваны асноўны цяжар абвінавачванняў, ціха і цвёрда заявіў следчаму на першым жа допыце:

— Я вінаваты... Адзін я...

І калі праз некаторы час у народным судзе яму задалі апошняе пытанне: «Ці прызнаяце вы сябе вінаватым?» — ён зноў ціха і цвёрда адказаў:

— Прызнаю!..

Ён і сапраўды шчыра лічыў сябе вінаватым і гэтак жа шчыра жадаў панесці пакаранне, каб прыглушыць у сэрцы нясцерпны боль.

Таму, калі прагучала ўрачыстае: «Імем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі...», Генадзь думкамі быў далёка ад гэтай афіцыйнай залы.

## «Паплавок»

Трыфан Тапляк быў роду сялянскага, як кажуць, ад зямлі. Ды і працаваў ён да пенсіённага ўзросту на гэтай самай зямлі, на якой векавалі і працавалі ўсе яго продкі аж да... Бог яго ве дае, якога калена.

Але з надыходам новых, рынычных часоў, якія патрабавалі не столькі намаганняў рук, колькі зваротлівасці мазгоў, Трыфан адчуў у сабе невядомы дагэтуль ген камерцыйнасці.

У часы (не хацелася б мацюкацца, але гэта слова не абмінеш)... Дык вось, у часы «перабудовы» адчулася паслабленне па ўсіх накірунках сацыяльна-эканамічнага жыцця.

Трыфан гэта адчуў адразу і пачаў кумекаць, як бы спрытней упісацца ў неверагодны ўздым новага мыслення.

Гісторыя паказала, што ва ўсе пераломныя часы на першым месцы была гарэлка. А сёння, калі ўсё дазволена, грэх было б не ўскочыць у гэты лакаматыў перамен.

Вёска, дзе жыў Трыфан, была даволі вялікая — сядзібаў каля паўсотні, а вось крама — у суседняй вёсцы. Ды лёгка сказаць «у суседняй» — да яе ажно дванаццаць вёрстаў.

Складуцца мужыкі ды пашлюць туды ганца, а той ганец пакуль туды ды назад дабярэцца на перакладных, у «асамблеі» настолькі распаліцца нутро, што ганец і вокам не паспее міргнуць, вярнуўшыся, як тара апрастаная і тая ж «асамблея» выбірае новага ганца. Не сказаць, што такое адбываецца кожны дзень, але значна часцей, чым раз у месяц.

Трыфан зразумеў, што можна быць пасрэднікам паміж мужчынскай паловай вёскі і той суседняй крамай.

Але як гэту задумку рэалізаваць? Штосьці падобнае да рэстарану ў сваёй хаце не зварганіш, бо бабы падымуць такі гвалт, чаго добрага хату па вуглах разнясуць. Пад кустом ці за вуглом «кафейня» нікому не патрэбна. Наняцца штатным ганцом — ногі праз тыдзень выпрастаеш.

Не! Тут трэба прапанаваць штосьці арыгінальнае, нечаканае. І Трыфан прыдумаў такое.

Хата яго стаіць на беразе рэчкі, воддаль ад астатніх двароў, тут, як кажуць, сам Бог шапнуў яму ў вуха, з чаго пачынаць.

І Трыфан пачаў. Зладзіў з бярвення штосьці падобнае на плыт, які заслаў падлогай і адфасоніў зграбны навес ад дажджу, пад якім умацаваў стол і лавы. Потым падумаў, і адгарадзіўся дашчатай перагародкай ад вясковых вачэй. Атрымалася ўтульна і нават экзатычна — рэстаран на вадзе. Вяскоўцы заўважылі Трыфанаву пабудову і дзівіліся:

— Ты што, Трыфан, ад жонкі будзеш аддзяляцца на гэтым паплаўку?

Трыфан не бянтэжыўся, бо чакаў падобных пытанняў:

— Буду, але не ад жонкі аддзяляцца, а калі-нікалі качак падпільноўваць. А іншым разам — рыбу вудзіць, усё ж зручней, чым з берага.

Трыфан не спяшаўся. Даў прывыкнуць чужому воку да «Паплаўка» ды астынуць бабскім языкам. Сваю жонку Таццяну быў вымушаны ўзяць у кампаньёнкі, бо ў такой справе патрэбны дзве рукі — мужчынская і жаночая. Назапасілі яны гарэлкі — і самаробнай, і крамнай, насалілі агуркоў, ахвяравалі сала — і...

Трыфан шапнуў галоўным аматарам — вясковым асамблейшчыкам — пра адкрыццё «Паплаўка», і мужчыны пад вялікім сакрэтам пачалі па два, па тры асвойваць новы від паслуг, дзе іх заўсёды чакаў ледзь не «шведскі» стол. Мужчыны спаўна ацанілі камфорт новай установы і

не шкадавалі грошай, разлічваючыся з гаспадаром. Задаволенымі былі ўсе — і «сфера абслугоўвання», і кліенты. Незадаволенымі былі толькі жонкі кліентаў, бо бачылі сваіх мужоў ледзь не кожны дзень «пад мухай», а вось дзе гэтая муха іх кусала — невядома.

Трэба аддаць належнае Трыфанаву камерцыйнаму гену. Ён, гэты ген, наразуміў свайго ўладальніка змайстраваць падабенства лябёдкі, якая дазваляла з «Паплаўка» раскручваць вяроўку, дзякуючы чаму плыт адганяла ад берага настолькі, наколькі дазваляла даўжыня вяроўкі. Другі ж канец вяроўкі быў замацаваны на беразе стацыянарна. Ён надзейна ўтрымліваў «Паплавок» на неабходнай адлегласці ад берага і дасужых жонак.

Цяпер экзотыка была поўная. Не толькі экзотыка, а, што самае галоўнае, недасягальнасць з боку «кантралюючых органаў». Калі што — кожны скажа: я вудзіў рыбу, а хістаюся таму, што закалыхала марская хвароба.

Але дзе вы бачылі мужыка, які б абдурыў бабу?

Высачылі жанчыны сваіх мужоў, раскрылі Трыфанаў сакрэт. Пры тым зрабілі гэта так скрытна, што ні Трыфан, ні яго кліенты нічога не западозрылі. А небяспека няўмольна набліжалася да «Паплаўка».

І вось аднаго вечара, калі Трыфанава Таццяна корпалася ў хаце, а сам Трыфан абслугоўваў чарговых наведвальнікаў, некалькі жанчын непрыкметна падцікалі да калка, за які быў прывязаны «стацыянарны» канец вяроўкі, і рашуча секанулі сякерай па ненавіснай прыладзе. Вяроўка жаласліва пстрыкнула і пацягнулася па вадзе далей ад берага, следам за адплываючым насустрач ночы «Паплаўком».

— Няхай мазгі праветраць, рабінзоны,— скрозь зубы выціснула адна з жанчын, і ўсе накіраваліся па сваіх хатах.

* * *

На плыце знаходзіліся тры чалавекі — сам гаспадар «Паплаўка» і ягоныя аднавяскоўцы — Сымон Смык і Лявон Кізяк. Яны, занятыя «горкай» ды гаворкай, не заўважылі, як плаўна адчалілі ад берага і аддаліся на літасць плыні.

— Цяпер бы кваску! — пасля чарговай чаркі выдыхнуў Лявон.

— Усё аплочана! — адказаў Трыфан — Ёсць падкіслы бярозавік, так што айн момант і мы на беразе.

Ён крутнуў лябёдку, але ніякіх намаганняў не адчуў — вяроўка намотвалася лёгка, як нітка на шпульку. Трыфан зірнуў на бераг, дзе павінна была стаяць яго хата, але на абодва бакі ад «Паплаўка» плылі ў прыцемку берагі. Было сапраўды такое ўражанне, што плыт стаіць на месцы, а ўзбярэжжы рухаюцца. І толькі тады, як на бярвенні выслізнуў з вады абсечаны канец вяроўкі, Трыфан жахнуўся:

— Хлопцы! Хана! Вяроўка парвалася! Нас нясе ў чыстае поле!

— Якое поле? — ускочыў Сымон, а за ім і Лявон.

— Ды не ў поле,— спалохана паправіў сябе Трыфан,— а ў белы свет!

Усе замітусіліся па плыце, ледзь не звальваючыся ў ваду.

— Ноч надыходзіць, а ты прыплёў нейкі белы свет! — занерваваў Сымон.— Ці ёсць тут хоць якое святло, у тваім белым свеце?

— Калі не скінулі ў мітусні, павінна быць газавая лямпа.— Няўпэўнена адказаў Трыфан.— Ага, вось яна. Запаліць?

— Пакуль не запальвай! — перасцярог Лявон.— Ноч наперадзе, беражы энерганосьбіты.

— Вось табе і квасок,— торкнуў пальцам у чорную ваду Сымон,— пі — распеchoжжыся.

— Шчыра кажучы, акрамя гарэлкі, ніякай вадкасці няма,— сумна далажы Трыфан.

Лявон закурыў і хмыкнуў:

— Пасудзіна наша завецца «Паплавок», прозвішча яе гаспадара — Тапляк... Што нас чакае — паплаваем ці патонем?

Сымон супакоіў сябра:

— Тваё, братка, прозвішча — Кізяк, а кізякі не тонуць. Так што дыхай спакойна.

— Затое тваё прозвішча — Смык. Смыкнешся і капцы! — адбіўся Лявон.

— Цьфу вам у вочы! — не стрымаўся Трыфан,— плявузгаеце насупраць ночы абы-што!

— Маўчым, маўчым.— супакоіў Лявон,— Ты лепш скажы, куды гэта рэчка цячэ? У якія прыгоды нас выносіць?

Трыфан ціскануў плячыма:

— У мяне з геаграфіяй непаразуменні... Некуды ж нясе. Сымон у сваю чаргу звярнуўся да Трыфана:

— Ты цяпер, як той капітан карабля, павінен ведаць і зюйвесты, і норд-осты, і ўсе марскія тосты.

— А вось пра тост ты правільна заўважыў,— схамянуўся Лявон,— у нашым становішчы толькі і застаецца выпіць за тых, хто ў моры.

Трыфан, які ўвесь час засяроджана маўчаў, відаць, сапраўды адчуў сябе адказным за лёс сяброў, таму напусціў на сябе бадзёрасць:

— Усё будзе добра, усюды жывуць людзі — раніцай разбярэмся...

Зусім сцямнела і Трыфан запаліў лямпу. Сымон наліў у кілішкі і ўзяў слова:

— Вып’ем за сем футаў пад кілем, а галоўнае, каб на нашым шляху не патрапіў Ніягарскі вадаспад — надта ж у цемры страшна будзе ляцець уніз галавой.

— Які вадаспад, псіхапат? — зарагатаў Лявон.

— Э-эх,— заківаў галавой Сымон,— чалавек без гумару, як наш «Паплавок» без матору.

Плысці, на самай справе, было крыху страшнавата — кругом чарната, невядомасць. Адно суцяшала — летнія ночы кароткія, праз некалькі гадзін пачне днець, а там і бог дапаможа. А па-другое, які-ніякі, а правіянт ёсць ды побач з ім — некалькі пляшак гарэлкі, нават Трыфанаў козыр — «Белавежская».

Трыфан зноў пачаў супакойваць сяброў:

— Свет пабачым, сябе пакажам... Будзе што ўспомніць...

— А жонкі? — запытаўся Лявон.

— А пра гэта гора мы і забыліся! — абурыўся Сымон.— Мала нам не будзе!

Лявон падтрымаў сябра:

— Гэта, браток, будзе страшней марской хваробы.

— Я! Я вазьму ўсё на сябе! — азваўся Трыфан.— Я пацверджу, што мы, як некалі Зіганшын з таварышамі, бездапаможна дрэйфавалі.

Лявон паправіў Трыфана:

— Дрэйфавалі і не здрэйфілі!

Трыфан перавёў гаворку на другое і спытаўся:

— Можа паспім крыху?

— О не! — катэгарычна адмовіўся Сымон,— тут няма бартоў, не хапала яшчэ, каб я, як Ермакова баба, у набягаючую хвалю даў нырца.

— І я, хоць і Кізяк, і не патану, таксама баюся кульнуцца ў ваду,— адмовіўся Лявон.

Раптам нібы ўспыхнула сонца. Ды не адно, а два — з двух бакоў «Паплаўка». Святло пражэктараў разанула па вачах, на нейкі час асляпіла іх. Недзе там, за асляпляльнай сцяной святла, пачуўся пагрозлівы і ўзмоцнены дынамікамі голас:

— Увага! Гэй там, на плыўсродку! Загадваю зараз жа прыстаць да берага! Вы парушаеце дзяржаўную мяжу

суверэннай дзяржавы! Загадваю тэрмінова прычаліць, інакш будзе прыменена зброя! Было чуваць, што загады аддаюцца на ўкраінскай мове.

— Ёлкі-палкі! — ускочыў Лявон.— Толькі гэтага не хапала!

— Ды гэта жарт,— супакоіў сябра Сымон.— Лета, чэрвень, вяскоўцы святкуюць Купалле. Зараз да іх і мы прыстаканімся. Якая зброя тут, на нашай рэчцы?

Збялелы Трыфан усё скумекаў і замахаў рукамі ў бок то аднаго, то другога пражэктара:

— Стойце! Не страляйце! Мы заблудзіліся, мы — мірныя людзі! У нас няма ні зброі, ні матора!

Было чуваць, як з боку аднаго з пражэктараў адплыў катэр і хутка вынырнуў з-за сцяны святла, спыніўшыся ля самага плыта. На катэры былі нейкія людзі ў незнаёмай форме. Адзін з іх прадставіўся:

— Украінская дзяржаўная мытня! Вы парушаеце рэжым міждзяржаўных турыстычных зносін. Вы былі абавязаны прадставіць уязныя візы, зарэгістравацца і прайсці мытны дагляд. Вы — арыштаваныя!

— Ды мы свае, рускія людзі! — залапатаў Лявон,— у нас ні візаў, ні шмізаў няма.

Украінскі мытнік відавочна натурыўся:

— Ах, дык вы, акрамя таго, што без візаў, дык яшчэ і рускія! Ну — трымайцеся, маскалі!.. Узяць іх на буксір! — аддаў ён загад падначаленым і плыт з вандроўнікамі хутка прычаліў да берага, на якім туліліся нейкія будынкі.

Трыфана і яго сяброў прывялі ў пакой, дзе другі, відаць, большы начальнік, грозна спытаўся:

— Дык вы рускія?

— Якія ж рускія? — пачаў тлумачыць Трыфан,— нас адарвала ад берага і панесла сюды.

Лявон пачаў спужана мармытаць:

— Я — беларус! Маё прозвішча — Кізяк. Лявон Кізяк.

— Кізяк? — памякчэў начальнік.— Прозвішча ў вас наша, украінскае, добрае прозвішча. А вось тое, што вы без візаў праслізнулі праз дзяржаўную мяжу — гэта злачынства. За гэта прыйдзецца адказваць па нашых законах.

Мытнік, што сядзеў побач, падказаў свайму шэфу:

— Трэба перадаць іх пагранічнікам, там з імі цацкацца не будуць.

— Ну, а дакументы ў вас ёсць? — зноў строга спытаўся начальнік,— пашпарты ці яшчэ што?

Сябры пераглянуліся і развялі рукамі:

— Анічагусенькі няма...

— А як вы дакажаце, што вы беларусы, а не маскалі? — дапытваўся мытнік.— З маскалямі у нас размова кароткая, а з беларусамі — крыху ласкавейшая.

Раптам у пакой ускочыў усхваляваны мытнік з катэра:

— Там, на плыце, акрамя «Белавежскай» і сала,— нічога!

— «Белавежскай»? — страпянуўся начальнік.— А вы кажаце, што ніякіх дакументаў у вас няма,— звярнуўся ён да затрыманых.— У маскалёў, дайдзі да Урала, «Белавежскай» не пахне.

Потым адышоў у кут разам з усхваляваным мытнікам і ціха яму сказаў:

— Не варта пакуль перадаваць затрыманых пагранічнікам, бо прыйдзецца і «Белавежскую» страціць. Крыху пазней,— і начальнік пачухаў пад носам. Зноў звярнуўся да падначаленага: — Потым вырашым, куды іх дзець, а пакуль падрыхтуй стол у суседнім пакоі.

Усё здарылася настолькі нечакана і хутка, што сябрам здавалася, быццам яны глядзяць жахлівы сон. Лявон, нібы працягваў сядзець на «Паплаўку» ля берага роднай вёскі, услых выдыхнуў:

— Зараз бы кваску...

— Будзе табе зараз і квас, і паласатая вопратка! — зашыкаў на яго Сымон.— І «кізяк» табе не дапаможа!

Начальнік рашуча падышоў да затрыманых і афіцыйным тонам абвясціў:

— Вы пакуль пабудзьце тут, а мы пойдзем у суседні пакой на нараду. Можаце прысесці.— І ўсе выйшлі за дзверы, павярнуўшы з другога боку ключ у замку.

— Уліплі! — зноў выдыхнуў Лявон.— Цяпер нас не ўратуе нават папа рымскі! Кранты!

— Праўду кажуць,— падтрымаў яго Сымон,— ад турмы і ад сумы не заракайся. Гэтыя дзве сяброўкі ўсюды знойдуць.

Лявон дадаў:

— Маргалы выкалюць! Трыфан здаўся:

— У мяне няма ніякіх аргументаў для аптымізму... Падобна на тое, што нас і сапраўды заканапацяць.

— А жонкі? — спытаўся Лявон.

— Ды чорт з імі, з жонкамі! — ускіпеў той.— Ты пра сябе рупся, як выблытацца! А жонкі сёння паплачуць, а заўтра — паскачуць.

— Горш за ўсё,— разважаў Трыфан,— што яны палічаць нас збеглымі, а мы душой не вінаватыя. Свалачная вяроўка не вытрымала, трэба было трос прывязаць сталёвы.

Раптам Лявон сам зрабіўся, як сталёвая спружына. Ён прыклаў палец да вуснаў і паказаў другой рукой на расчыненае акно, праз якое ў пакой зазірала чарната ночы.

— Хлопцы! — зашаптаў ён.— Вунь наша ратаванне! Пакуль гетманаў няма — цікаем!

— Ды неяк сорамна... — завагаўся Трыфан,— быццам мы злачынцы...

— Каго сорамна? — зашаптаў з другога боку Сымон,— Бог паслаў нам шанц, а мы вагаемся. Наперад!

* * *

Адразу за мытняй пачынаўся хмызняк, за ім нейкія аўражыны і канавы. Далей, праз шашу,— ці вялікі пасёлак, ці невялікі горад. А паколькі ўцекачы заходзілі ў яго не па шашы, пазбягаючы лішніх цікаўнікаў, а з ускрайку, назвы гэтага населенага пункта яны не ведалі.

Ужо пачало шарэць і дзе-нідзе ў вокнах запальвалася святло, але людзей пакуль на вуліцах не было.

Далей ад ускрайку драўляныя дамы трапялялі радзей, а двух-, трох-, а дзе і пяціпавярховыя дамы сведчылі пра тое, што гэта — усё ж горад.

Выгляд у сяброў, мякка кажучы, быў неважнецкі. Змучаныя твары, нячэсаныя валасы, далёка несвяточная, дзе-нідзе падраная вопратка. Ды і настрой апавядаў такому непрыгляднаму выгляду. Ад выпітай гарэлкі душыла смага, хацелася спаць.

— Хто хоць што ведае па-ўкраінску? — спытаўся Сымон.— Нас жа з такім дыялектам хутка застукаюць. Лявон, у цябе ж аказваецца тутэйшае прозвішча — будзь перакладчыкам.

Лявон ледзь выціснуў праз асмяглыя губы:

— Акрамя «здаравэнькі булы» нічога не ведаю.

— Куды ісці? Што рабіць далей? — спытаўся Сымон у Трыфана.— Ты прывёз нас сюды, вядзі і назад, дамоў.

Трыфан з дакорам зірнуў на сябра і нічога не адказаў, бо гэткае ж пытанне, на якое няма адказу, мог задаць і Сымону.

Горад паціху прачынаўся. Хутка можна было спадзявацца на галоўную інфармацыю: дзе бліжэйшы беларускі населены пункт? Раптам недзе з боку разануў па вушах крык:

— Пажар! Гарым! Ратуйце!

Сябры крутнулі ў той бок галовы і ўбачылі, як з некалькіх вокнаў цагельнага двухпавярховага будынка

валіць чорны дым, пад якім звіваліся чырвоныя языкі полымя. За вокнамі чуліся крыкі людзей, але чамусьці ніхто не выскокваў праз вокны на вуліцу, ніхто не ратаваўся.

Сябры падбеглі да двухпавярхоўкі і з жахам адзначылі, што на вокнах рашоткі. Дзверы былі таксама замкнёныя.

Лявон заўважыў ля сцяны дома нейкае палення-бярвенне і закрычаў:

— Сымон, хапаем! Выламваем дзверы! Хутчэй!

Адкуль толькі ўзялася сіла і спрытнасць у знямоглых блукацеляў! Яны, як таранам, білі бервяном у дзверы і выламалі іх. Праз пралом на вуліцу шуганулі людзі — ў споднім, да чарнаты закураныя дымам.

Пачуліся сірэны пажарных машын, прымчала паліцыя з сабакамі, хуткія дапамогі. Усіх імгненна акружылі і толькі некалькі жыхароў гэтага дома праскочылі праз акружэнне і разбегліся ва ўсе бакі.

Дзіўна ўсё гэта выглядала, таму сябры забыліся, дзе яны знаходзяцца, і стаялі разявіўшы рот. Але зачараванаму здзіўленню хутка надышоў канец, бо іх, разам з астатнімі выратаванымі жыхарамі, запіхнулі ў «варанкі» і некуды павезлі.

— Зноў уліплі! — абураўся Сымон,— трэба было нам уцякаць, а не ламаць тыя дзверы. Няхай бы ўсё гарам гарэла! Гэта ты, дасціпнік! — кінуў папрок Лявону.

— Людзі ж загінулі б,— ціха адказаў Лявон.— Ты ж бачаш, колькі мы ўратавалі... Вунь і жанчыны, і моладзь...

— А куды гэта нас вязуць? — быццам сам у сябе спытаўся Трыфан, і сам адказаў: — Ды бог яго ведае!

А прывезлі ўсіх затрыманых у нейкую будыніну, зноў жа з рашоткамі на вокнах і дзвярах. Пакуль мітусіліся людзі ў белых халатах, сябры прыхінуліся ў куточку і, седзячы на падлозе, заснулі.

Разбудзіў іх мужчына ў белым халаце і прапанаваў прайсці з ім у суседні пакой, у якім за сталом сядзела

мажная жанчына, таксама ў белым халаце, у акулярах і з фанендаскопам на шыі.

— А-а! Дык мы ў бальніцы! — усклікнуў Лявон.— Доктар, мы здаровыя, можаце нас адпусціць! — потым схітрыў: — Мы на працу спознімся.

— Адпусцім, адпусцім вас,— ласкава сказала жанчына,— але спачатку адкажыце, хто з вас гэтай ноччу падпаліў будынак новапабудаванай спецлячэбніцы, у якую вас толькі мінулым вечарам засялілі. Дакументы згарэлі, некалькі «буйных» збегла. Скажыце, хто падпаліў і тады я не толькі вас адпушчу, але і дам цукерачку.

Трыфан насцярожыўся:

— Цукерачку? А мы дзе знаходзімся?

— У санаторыі вы,— ласкава працягвала жанчына,— скажаце, хто падпаліў, і мы не будзем вас біць і апранаць супакойваючую кашулю. Ну? Вы ж разумненькія.

Сымон застагнаў:

— О, Госпадзі! Мы — у дурдоме! Цяпер мы па-сапраўднаму ўліплі!

— Навошта ж так абзываць свой родны дом, які надоўга вас прытуліць? — праспявала, як зразумелі сябры, галоўны ўрач псіхбальніцы.

— Мы з Беларусі! — гарачыўся Лявон,— Мы — рускія... Не, мы — беларусы. Нас адарвала і панесла. Мы ўтрох былі на «Паплаўку»!

— Разумею, разумею! — усміхнулася доктарша.— Рыбіна парвала леску, а вы ўтрох сядзелі на паплаўку. Як цікава! А паплавок быў з гусінага пяра ці з корка?

— Ды я — Кізяк,— працягваў гарачыцца Лявон,— а ён — Тапляк, гэты — Смык! Можаце праверыць!

— Праверым, сёння ж праверым! — усміхнулася дактарыца.— Хутка мы ўсё праверым і адновім картатэку. Але я і без картатэкі памятаю, што нашы хворыя, як правіла, называюць сябе то амерыканцамі, то палякамі,

то англічанамі, а беларусамі не назваў сябе ніхто. Вы — першыя.

— Таму што ў Беларусі вы ніводнага дурня не знойдзеце! — кіпяціўся Лявон.— Мы вас ўратавалі, а нас за гэта за краты!

Сымон падтрымаў сябра:

— Мы ішлі па горадзе, нікога не чапалі. Нас прыбіла да вашага берага. Мы — турысты, мы вашы госці!

— Вось, калі ласка, і гасціце, адпачывайце, лячыцеся,— сказала медыцынская начальніца і націснула на кнопачку на стале.

У пакой увайшлі два здаравенныя санітары.

— Адвядзіце іх у вуглавую палату, дзе пацукі і тараканы, і — пад замок! — загадала санітарам гаспадыня кабінета, і санітары выканалі загад.

* * *

Пакой, у якім ізалявалі няўдалых вандроўнікаў, меў выгляд значна страшнейшы за сваіх пастаяльцаў. Аблупленыя сцены, гэткія ж падлога і столь. Ля сценаў стаялі тры тапчаны, прыкручаныя да падлогі, у адным куце — жалезная пасудзіна, таксама прыкручаная намёртва, якая выконвала ролю прыбіральні. Высока, ля самай столі, падслепавата ліхтарыла маленькае акенца. Рашоткі на ім не было, бо чалавек праз яго пралезці, каб і рызыкнуў, дык не змог бы.

— Прыехалі! — абурыўся Лявон.— Толькі ўкраінскага дурдома нам і не хапала!

Сымон хмыкнуў:

— Падлечымся крыху, адаспімся на драўляных пярынах і з новымі звілінамі ў мазгах вернемся дамоў. Чым не перспектыва?

Трыфан зноў не знайшоў аптымістычных аргументаў:

— Нас жа могуць трымаць і год, і два.

— Два? — ускочыў з тапчана Лявон.— А дваццаць пяць, як салдат царскай арміі, не хочаш?! Заўважылі? Цукерачку прапаноўвалі, а яшчэ не кармілі.

— Вось што я вам параю,— звярнуўся да сяброў Сымон,— не старайцеся выглядаць разумнымі і нас хутчэй выпусцяць. Для іх дурань — нармальная з'ява. Яны ўжо самі, і ўрачы, і санітары, вальтануліся тут. Будзем, як і ўсе, і на нас не звернуць увагі, да нас прападзе зацікаўленасць.

Трыфан засумняваўся:

— Год ці, як ты кажаш, Лявон, дваццаць пяць гадоў прыкідвацца дурнем, дык і на самай справе здурнееш. Самы жах нашага стану ў тым, што мы адарваныя ад усякай інфармацыі — ні да нас нічога не дойдзе, ні пра нас ніхто не даведаецца... Трэба штосьці прыдумаць... Лявон, на цябе ўся надзея. Пакуль цябе тут не залячылі, варушы мазгамі.

Лявон залыпаў вачыма, безнадзейна абвёў позіркам сцены, падлогу, столь.

— Праз пацуковы дзіркі ў падлозе мы не пралезем, а другога выхаду ці вылазу не бачу. Потым усклікнуў:

— Стой! Як не бачу? Сапраўды дурная галава! А вунь жа акенца. Праз яго свабода зазірае да нас. Тым больш, што мы на першым паверсе.

Усе з надзеяй задралі галовы. Але галовы хутка безнадзейна апусціліся — хто ж туды праціснецца?

Лявон працягваў гарэць сваёй ідэяй:

— Сымон, каму як ні табе стаць героем нашага часу? У цябе і прозвішча — Смычок. Глянь, Трыфан, на яго — тонкі і гонкі. Ты, Сымоне, нарадзіўся для гэтага акна!

Сымон скрывіўся, як ад гаркоціны ў роце:

— Я — у тую шчыліну? Ты што, Лявон? Лячыцца трэба!

— Ты не брыкайся! — насядаў Лявон.— У нас другога выйсця няма і не прадбачыцца.

— Дык высока ж... — завагаўся і Трыфан,— як Сымон туды дапне? Лявон не здаваўся:

— А мы што, не спартсмены? Зробім «піраміду»: ты, Трыфан, унізе, я — на табе, Сымон — на мне. Спраўляйся толькі плечы падстаўляць. Галоўнае, каб у чалавека галава пралезла, а астатняе праслізне за ёю следам, па прынцыпе — куды нітка, туды і іголка. Тым больш, што ў Сымона таго «астатняга» — кот наплакаў. Сымон запытаўся:

— Ну вылезу я нейкім чынам туды адзін — і што далей? У які бок мне кінуцца? А з вамі што будзе?

Цяпер і Трыфан ажывіўся:

— Шукай беларусаў! Выпытвай якое-небудзь наша прадстаўніцтва ці фірму якую — на іх уся надзея. Толькі ж не падыходзь з роспытамі да паліцыянта, бо з такім знешнім выглядам табе дарога адна — на драўляную пярыну.

— Сам лезь у гэта акенца з сваім інтэлігентным выглядам... Шкада, няма люстэрка.

— Ну, ну, не крыўдуй! — павінаваціўся Трыфан.— Гэта — жарт. Давайце лепш паспрабуем пабудаваць піраміду Эхіопса. Лявон, лезь мне на плечы!

— Ты што? — зашыкаў Лявон.— Ноччу, толькі ноччу! Няхай усе пазасынаюць, а ўрачы і санітары пойдуць дамоў. Перакантуемся тут дзень, а ноччу — бог-бацька...

Як толькі надышла ноч, сябры пачалі ажыццяўляць свой план. Трыфан шырока расставіў ногі, упёрся рукамі ў сцяну, і Лявон даволі спрытна ўскараскаўся нагамі на яго плечы.

— Цяпер твая чарга, граф Мантэкрыста з «Паплаўка»,— звярнуўся шэптам ён да Сымона.— Давай руку!

Сымон, крэкчучы і войкаючы, пачаў пакараць вяршыню пiраміды.

— Здымі боты, дурань! — застагнаў Лявон.— Ты ж мне ўсе плечы пазразаў сваімі абцасамі.

Сымону давялося злазіць і разувацца. Лявон камандаваў далей:

— Распраніся! Здымі ватоўку і пінжак! Ты ж куль-кулём у шмотках!

Цяпер ужо застагнаў Трыфан, які ўвесь час трымаў на плячах Лявона:

— Хутчэй ты, Сымон! Займайся сваім стрыптызам, у мяне ўжо калені пачынаюць калатуніць!

Сымон разуўся, распрануўся і зноў палез на Лявонавы плечы. Пацягнуўшы рукой за раму, ён з задавальненнем адзначыў, што яна расчынілася. «Піраміда» пад ім хісталася і гойдалася, таму нагамі адштурхнуцца ад няўстойлівых Лявонавых плячэй ён не рызыкнуў, а з усіх сіл падцягваўся на руках, прасоўваючы галаву ў вузенькае акенца.

— Ну што? Галава пралезла? — кректаў Лявон, выгінаючыся то ў адзін, то ў другі бок.

Сымон сапеў і пыхкаў, як кузнечныя мяхі, шчэмячыся ў вузенькі лаз. Лявон адчуў, як Сымонавы ногі адарваліся ад яго плячэй і з палёгкай уздыхнуў.

— Дык што там? — спытаўся і Трыфан, адчуўшы палёгку на сабе. Лявон замест адказу саскочыў з сябравых плячэй, і яны абодва уперыліся вачыма туды, дзе было ратавальнае акенца і адкуль зараз тырчала ніжняя частка Сымонава цела.

— Дык што? Пралазіш ці не? — напружана спытаўся Трыфан.

З таго боку акна пачуўся прыцішаны голас «Мантэкрыста»:

— Не ведаю... Пакуль — ні туды, ні сюды... Дыхаць не магу!

— Усё зразумела! — абурыўся Лявон.— Засеў, як той Віні Пух. Закаркаваўся! Будзем чакаць, пакуль не пахудзее.

Сымон тым часам адчайна звіваўся, не горш вужакі, дрыгаў нагамі, і пакрысе-пакрысе ўсё больш перакульваўся на той бок, адкуль у палату зазірала свабода. Нарэшце ён высунуўся настолькі, што зямное прыцягненне зрабіла сваю справу, і Сымон шугануў уніз. Лявон і Трыфан радасна паціснулі адзін аднаму руку.

— Толькі б ён там не забіўся! — занепакоіўся Трыфан.

— Ён жывучы, як кот, ды тут і невысока,— супакоіў Лявон сябра.— Галоўнае, каб яго не вылавілі ды не ўпхнулі назад.

А Сымон тым часам на паўсагнутых нагах плетануў як мага далей ад жудаснага прытулку і шэптам падбадзёрваў сябе:

— Мне толькі ноч пратрымацца... Мне б знайсці сваіх... Ён прыкмеціў нейкі закутак, уладкаваўся там і непрыкметна заснуў. Прачнуўся ад сонечнага святла і цяпла. Асцярожна агледзеўся вакол і, не прыцягваючы да сябе ўвагі, растаў сярод людзей. Выбраў самую бяскрыўдную на выгляд жанчыну і спытаўся ў яе:

— Скажыце, калі ласка, шаноўная кабета, ці ёсць у вашым прыгожым горадзе якое-небудзь беларускае прадстаўніцтва ці што-небудзь такое?

Жанчына падазрона агледзела абшарпанага, босага і няголенага цікаўніка, гідліва скрывілася і сабралася была ісці далей, але, відаць, пытанне сваёй далікатнасцю ўразіла яе, і яна адказала:

— Беларускага нічога такога паблізу не сустракала, а вось расійскае консульскае прадстаўніцтва — ву-у-унь за тым будынкам. Ідзіце прама і там убачыце.

Сымон ад шчасця гатовы быў расцалаваць жанчыну, але з годнасцю падзякаваў:

— Вялікі вам дзякуй ад імя ўсяго беларускага несельніцтва, ад нашай вёскі і мяне асабіста!

Далей яму хацелася бегчы з усіх ног, але ён закілзаў свае пачуцці, бо ведаў, што таго, хто бяжыць, могуць на ўсякі выпадак затрымаць ці паліцыянты, ці дурдомаўцы. Таму ён фацэтна і павольна вышлёпваў босымі нагамі па цёпламу ад сонца тратуару. Але доўга вышлёпваць нагамі яму не давялося, бо праз хуткі час ён пачуў за сабой грузную хаду і нечая цяжкая рука лягла яму на плячо. Сымон сціснуўся ў камяк і азірнуўся. Сэрца пахаладзела — яго моцна трымаў за плячо паліцыянт.

— Маскаль? — грозна спытаўся пагоннік.

У Сымона аднялася мова. Здавалася, што ў роце, замест языка, знаходзіцца камень.

Паліцэйскі страсянуў за плячо затрыманага і сам адказаў на сваё ж пытанне:

— Бачу, што маскаль! Толькі маскалі ходзяць голыя ды босыя, хоць на нафце ды газе сядзяць.

У Сымона, у адрозненні ад каменнага языка, ліхаманкава віравалі думкі ў галаве, шукаючы выйсце з безвыходнага становішча. Ён сумна падумаў пра сваіх зняволеных сяброў, для якіх ён — адзіная надзея на выратаванне. Сымон з горыччу заўважыў, што зусім недалёка засталося да ратавальнага расійскага прадстаўніцтва, над якім спакусліва пагойдваўся расійскі дзяржаўны сцяг. Чамусьці ўспомнілася байка пра лісу і вінаград...

Паліцэйскі зноў моцна страсянуў Сымона за плячо: — Дык што маўчыш, маскаль? Язык глынуў?

Сымон і сам адчуў, што доўгае маўчанне працуе супраць яго, таму кінуўся ў хітрыкі:

— Я ні ест москаль... Я не могу знат, кто ест москаль... Паліцэйскі здзівіўся:

— А хто ты ест?

— Я ест амерыкэн. Я ест янкі, турыст.

Паліцэйскі відавочна разгубіўся:

— Ты ест... прабачце, сэр, вы ест амерыканец? — І яго рука выслабаніла Сымонава плячо. Гэта Сымону толькі было і трэба. Паліцэйскі не пераставаў здзіўляцца:

— Амерыканец, а чаму босы і, прабачце, неяк незразумела апрануты?

Сымон пасмялеў:

— Экзотык! Мы любіт экзотык. Мы — свабодны нацыя. Паліцэйскі ажно засвяціўся:

— О, так, так! Вы свабодная нацыя. Вы любіце экзотыку, а мы любім Амерыку! О, Амерыка — дэмакратыя, НАТА! Мы таксама хочам свабоды і НАТА!

Сымон аўтаматычна падтрымліваў гаворку: «Прымем вас у НАТА, дадзім вам экзотыкі», а сам прыкідваў, ці паспее дабегчы да расійскага консульства, бо разумеў, што гэта — апошні шанц.

Паліцэйскі, відаць, штосьці западозрыў, бо раптоўна спытаўся: — Ну, а дакумента ў вас, спадзяюся, ёсць, сэр?

Сымон нядбайна адказаў:

— У Амерыцы усё ест.— І палез за пазуху, бо кішэняў не было, але раптоўна крутнуўся і з усіх сваіх босых ног плетануў да расійскага консульства. Эфект нечаканасці зрабіў сваю справу, бо, пакуль паліцэйскі кумекаў, што да чаго, Сымон даўся у запаветныя дзверы, заскочыў у прасторны вестыбюль і закрычаў штосілы:

— Ратуйце! Мы — у палоне! Мае сябры — ў дурдоме! Дапамажыце, рускія браты!

Сымон падскочыў да акенца за прыгожай стойкай, за якой сядзеў супрацоўнік консульства і прымаў грамадзян, распіхаў людзей і ўзмаліўся:

— Дапамажыце! Мы — беларусы! Нас лічаць за дурняў!

— Супакойцеся, грамадзянін, зараз усё высветлім,— агледзеў з галавы да ног Сымона і дадаў: — Зараз выклікаем тых, хто вам дапаможа.

— Дапамажыце нам вярнуцца дамоў! — нерваваўся бедны Сымон.

З акенца пачулася:

— Я ж вам сказаў, што зараз выклікаем тых, хто верне вас у ваш дом. Супрацоўнік консульства зняў тэлефонную трубку і прыцішана сказаў:

— Іван Іванавіч, тут заскочыў нейкі бомж, просіць дапамогі. Кажа пра нейкі дурдом. Напэўна, збег з лячэбніцы для душэўна хворых — трэба выклікаць паліцыю і санітараў... Дакументы? Якія ў яго дакументы — у яго нават кішэняў няма, увесь абшарпаны, босы. Кажа — з Беларусі.

Як толькі супрацоўнік паклаў трубку, Сымон ушчаміў галаву ў акенца і залямантаваў:

— Толькі не паліцыю! Толькі ні дурдомаўцаў! Мы патрапілі ў бяду! Калі вы нам не дапаможаце — мы тут загінем. Скажыце вашаму Івану Іванавічу, што мы нармальныя людзі, мы — свае!

— Я вас слухаю,— пачулася ў Сымона за спінай,— я Іван Іванавіч, расійскі консул у гэтым горадзе.

Сымон прыціснуў рукі да сэрца:

— Выслухайце мяне, калі ласка, а потым рабіце з намі, што палічыце неабходным!

— Добра! Хадземце за мной! — і Сымон пайшоў на другі паверх за сваёй апошняй надзеяй.

Сымон усхвалявана і блытана расказаў консулу пра ўсе прыгоды, якія абрынуліся на іх апошнім часам: пра таможню, пра пажар, з-за якога яны былі залічаны да душэўна хворых, пра безнадзейнасць іхняга становішча.

Консул зрабіў суровы выгляд:

— Дык вось, шаноўныя беларусы, вамі вельмі цікавіцца афіцыйны ўкраінскі бок. Вас шукаюць!

— Ведаю! — спалохаўся Сымон.— Нас лічаць злачынцамі, парушальнікамі дзяржаўнай мяжы, нас лічаць дурнямі. Дапамажыце нам, Іван Іванавіч.

Консул скінуў з твару штучную маску суровасці і рассмяяўся:

— Дык вось, шаноўны Сымон... як вас па бацьку?

— Сымонавіч!

— Дык вось, шаноўны Сымон Сымонавіч, украінскі афіцыйны бок шукае тых, хто надосвітку, калі горад яшчэ спаў, выратаваў ад агню больш як сто чалавек душэўна хворых. Няхай яны пакуль хворыя, але ж гэта — людзі, многія з іх будуць вернуты да паўнацэннага жыцця.

А вы, Сымон Сымонавіч патрапілі з сябрамі ў рукі паліцыі, бо выгляд у вас быў далёка не цывілізаваны, бо ў той ранні час, ля лячэбніцы, акрамя спецыяльных службаў і разбягаючыхся хворых, нікога не было. І пры тым душэўна хворыя начавалі першую ноч у новым будынку, яны значыліся ў картатэцы, якая згарэла, а асабіста медперсанал нікога пакуль не ведаў. Ды і не ўсіх хворых паспелі пераапрануць у спецадзенне, таму вы з сябрамі па ўсіх параметрах падышлі да таго кантынгенту хворых... Прабачце, не па ўсіх — з галавой у вас парадак.

— Што ж нам рабіць далей, дарагі Іван Іванавіч? — горача запытаўся Сымон.— Там жа мае сябры, здаровыя сябры! Нас трэба вызваліць!

— Што рабіць? — зноў усміхнуўся консул.— Думаю, што трэба вам усім рыхтавацца...

— Да чаго? — насцярожыўся Сымон.

— Рыхтавацца да прыемнага. Я сказаў, што афіцыйныя гарадскія ўлады шукаюць тых невядомых герояў, якія ўратавалі жыццё многіх людзей і сціпла некуды зніклі. Я зараз жа звяжуся з мэрам горада, які і вызваліць вашых сяброў і наладзіць афіцыйны ўрачысты прыём у ваш гонар. Рыхтуйце дзірачкі ў пінжаках для ўзнагародаў!

Сымон зірнуў на сваю падзёртую аб вузкае акенца кашулю і ўсміхнуўся:

— Ды ў іх узнагародаў не хопіць на нашы ўсе дзірачкі...

Дамоў пакутлівая троіца вярнулася героямі. Вярнулася за кошт удзячнага ўкраінскага боку, ды яшчэ ў новых

касцюмах, на лацканах якіх зіхацелі медалі «За мужнасць на пажары».

Тут можна было б паставіць кропку, але трэба высветліць, які ж лёс знакамітага «Паплаўка»?

Ён, безумоўна, застаўся на ўкраінскім баку, як сімвал непарушнасці дзяржаўнай мяжы суседняй «самасційнай» дзяржавы. Кажуць, што яго нават залічылі ў склад ваенна-рачнога флоту. Хутчэй за ўсё, гэта — брахня.

Але аднавяскоўцы Трыфана вырашылі, улічваючы міжнародную славу «Паплаўка», пабудаваць новы, больш прасторны «Паплавок» і карыстацца ім арганізавана на вялікія святы. І хоць Трыфанава камерцыя на гэтым скончылася, ён пагадзіўся з вяскоўцамі, але ўдакладніў:

— Замест вяроўкі будзе сталёвы трос! Не давядзі божа заплысці нам усёй вёскай ва ўкраінскі дурдом!

# Рыбалка з салютам

Ружовым ранкам, калі ўсё толькі пачынае прачынацца, на беразе рэчкі сядзеў рыбак і напружана глядзеў на паплавок, які застыў, нібыта заснуў. Рыба ніяк не хацела брацца, быццам яна тут зусім перавялася. Рыбак, каб хоць крыху зняць нервовасць, паціху мурлыкаў сабе пад нос песеньку:

На адным канцы рыбак,
На другім канцы чарвяк,
А рыбка плавае на дне,
Не даецца ў рукі мне...

Рыбак, Язэп Шыцік, быў добра вядомы не толькі аднавяскоўцам, але і ўсім навакольным жыхарам як гарачы прыхільнік і заступнік прыроды і ўсяго жывога ў ёй. Таму і на рэчку, хоць быў заядлым рыбаком, не дазваляў сабе браць больш як адну вуду.

Раптам Язэп улоўлівае вухам нейкі гул і чуе набліжэнне маторнай лодкі. Неўзабаве лодка на поўных абаротах матора прамчалася міма, уздымаючы хвалі і псуючы паветра бензінавым смуродам. У лодцы сядзелі знаёмыя Язэпу Бублевіч і Бабіч, браканьеры са стажам, якія жылі ў раённым цэнтры. Шум лодкі паступова аддаліўся, а праз нейкі час з таго боку пачуліся два выбухі.

— У-у, браканьеры праклятыя! — абурыўся Язэп.— А яшчэ на мяне калісьці ўчастковаму нагаворвалі, браканьерам абзывалі ды лжыва сведчылі!

Язэп зноў павярнуўся да свайго соннага паплаўка і зноў пачаў супакойваць сябе любімай песняй: «На адным канцы рыбак...» Нечакана за спіной чуе:

— Рукі!

Язэп машынальна ўскочыў і падняў угару рукі. Азірнуўся і ўбачыў участковага міліцыянера.

Участковы падскочыў да Язэпа:

— Ну што, Язэп, папаўся ты мне на кручок? Злавіўся, браканьер адпеты!

Язэп апускае рукі:

— Хух! Хіба ж можна так крычаць за спіной?

— Што, спалохаў я цябе? На злодзеі і шапка дрыжыць!

— Няма чаго мне палохацца, а вось рыбу распужаў,— спакойна адказаў Язэп.

Участковы грозна перапытаў:

— Рыбу?! Баішся за рыбу? Усю рыбу, што знішчыў выбухамі, я зараз рэквізую! А цябе, як падрыўніка, арыштую!

Язэп смяецца:

— Дык вось яно што! Зноў, лейтэнант, ганяешся за ветрам у полі. Гэтак ты і на пенсію пойдзеш лейтэнантам.

— Не твая справа! Дзе рыба? Дзе ўзрыўчатка? — не адступаў участковы.

Язэп, не перастаючы смяяцца, падае ўчастковаму вядро:

— Рыбка плавае на дне, не даецца ў рукі мне... Вось мая рыбка!

Участковы апускае руку ў вядро, боўтае там і дастае за хвост маленькую сяляўку:

— І гэта ўсё?! А дзе астатняя?

Язэп вылівае з вядра ваду, забірае ў участковага сяляўку і пускае яе ў рэчку:

— Расці, малеча!

— І гэта ўсё?! — не можа супакоіцца міліцыянер.

Язэп бярэцца за вуду:

— Менш бы крычаў за спіной, злавіў бы болей. Вось так.

Участковы разгубіўся:

— А я ж чуў два выбухі... Хто гэта мог быць, калі не ты? Хто?!

— А я ў стукачы не наймаўся! — не сцярпеў Язэп.

Участковы пагрозліва папярэдзіў:

— Глядзі ў мяне! Пратакол складаецца хутка, сам ведаеш!

Язэп пагадзіўся:

— Ведаю. Чаму ж не? Але каб скласці пратакол, трэба панятыя, а твае штатныя сведкі чакаюць цябе за тым згібам рэчкі. Спяшайся, можа, і зловіш ветра ў полі!

Участковы падаўся, куды паказаў Язэп, і здалёк крыкнуў:

— А цябе, Язэп, я ўсё роўна прыпаяю да пратакола! Прыпаяю і аддам пад суд!

* * *

У Сцяпанавай хаце панаваў спакой. Гаспадар сядзеў і старанна падшываў валёнак, яго жонка, Данута, корпалася ля печы.

— Што ты порашся з валёнкам, быццам на двары мароз? — будзённа пацікавілася яна.

Сцяпан у тон ёй адказаў:

— Хіба ж ты не ведаеш, што сані рыхтуюць летам, а касу клепяць зімой?

Данута дадала:

— Ты ж яе і летам ледзь не кожны дзень клепіш...

Сцяпан смяецца:

— Гэта толькі так гаворыцца. Работу робіш тады, калі яна ёсць і калі ёсць жаданне... Ты лепш зірні на нашага ката — зрання мыецца, аж за вуха дастае, не інакш як гасцей нам намывае.

— Адкуль тым гасцям узяцца? Нікога ж не запрашалі,— пачулася ад печы.

Сцяпан кракатануў:

— А няпрошаныя госці нам не патрэбныя. Госць няпрошаны — як кажух паношаны: і не апранаеш, і не выкідаеш — адно замінішча.

Раптоўна адчыняюцца дзверы, і ў хату шумна ўвальваюцца Анатоль, Сцяпанаў і Дануцін сын, з жонкаю Любай і трохгадовым сынком Сцяпанкам. У Сцяпана валіцца валёнак з рук, Данута выцірае рукі аб прыпол і абое радасна кідаюцца насустрач гасцям:

— Вось дык радасць у хату!

— Ай, якія малайцы! Ды знянацку! Ды раптоўна!

— Дзякуй Богу, дачакаліся!

Сцяпан хапае на рукі ўнука:

— А які Сцяпанка стаў вялікі! Да дзеда падобны як дзве кроплі вады!

— Нездарма ў гонар дзеда названы! — зазначыў Анатоль.

Люба абдымае свякроў, ласкава пытаецца:

— Як вы тут, мама? Ці здаровыя? Ці ўсё добра?

— Усё спраўна, дзеткі, усё добра! — адказвае Данута.— А як жа вы там?

Сцяпан перакрыквае ўсіх:

— Ай ды кот! Якіх гасцей намыў нам!.. Распранайцеся, уладкоўвайцеся. Зараз стол прыладзім. Данута, хуценька рыхтуй, дзеці з дарогі!

Узрушаная Данута мітусіцца па хаце:

— Бягу! Ляту! Шчасце якое!

— Люба, трэба ж падарункі аддаць бацькам! — спахапіўся Анатоль.

— Потым! Потым падарункі! Падсілкуецеся, адпачняце з дарогі, дойдзе чарга і да падарункаў! — абдымае сына Сцяпан.

Данута ўжо завіхаецца ля печы і шчабеча:

— Во шчасцейка ў хату завітала! Дзякуй Богу! Якія яшчэ патрэбны падарункі!

* * *

У Язэпавай хаце таксама пакуль што пануюць ціша і спакой, Хаўрося, Язэпава жонка, чытае кніжку, з радыёдынаміка ліецца лёгкая музыка.

Адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Язэп з вудай. Відаць, што ён не ў гуморы.

Хаўрося кладзе кніжку, пытаецца:

— А дзе ж улоў? Што, рыба не бралася?

— Горш! — коратка кідае Язэп і апускаецца на лаву.

— А што можа быць горш для такога заядлага рыбака? — здзіўляецца яна.

Язэп уздыхае:

— Улоў для мяне не галоўнае. Улоў я ў рэчку выпусціў...

— Калі так, дык чаго дзюбу апускаеш? — бадзёрыць мужа Хаўрося.

— А таго апускаю дзюбу, што ўчастковы, падла, насядае мне на пяты. Я ў лес — ён там, я на рэчку — ён зноў там... І сёння мяне ні за што мурыжыў ля рэчкі, пагражаў прыпаяць да пратакола. Судом пагражаў.

— Ды што ён да цябе чэпіцца?! — ускочыла Хаўрося.— Плюнь яму ў вочы!

— Плюнуць у вочы можна, але ў які бок вецер будзе дзьмуць,— сумна разважыў Язэп.

* * *

Язэп вяртаўся з рыбалкі, трымаючы ў адной руцэ вуду, у другой — вядро. Надвор'е было цёплае, ласкавае, але на душы ў яго было моташна. З такім настроем нічога не хочацца рабіць, нікога не хочацца бачыць, таму, сустрэўшы на вуліцы Сцяпана з Анатолем, Язэп не дужа ўзрадаваўся. Сцяпан, наадварот, быў рады сябру, засмяяўся і ўсклікнуў:

— Здароў, на адным канцы чарвяк!

— Здаровыя будзем...— выціснуў Язэп.

— Адкуль ідзеш? — пацікавіўся Сцяпан.

Язэп торкнуў вудай пад нос сябру:

— Бачыш адкуль — ад рэчкі.

— Калі ад рэчкі і без настрою, значыцца, не падфарціла,— заключыў Сцяпан.

Анатоль зазірнуў у вядро і абверг бацькава меркаванне:

— Ого! Тут і акунькі, і лешчыкі! Ды нямала!

— Рыба-то ёсць, але бяда,— сумна зазначыў Язэп.

Сцяпан насцярожыўся:

— Зноў Бублевіч і Бабіч?

— Яны,— пацвердзіў Язэп.— Глушылі рыбу дынамітам, а цяпер, як ім прыціснулі хвост, перагароджваюць рэчку сеткай і працэджваюць ваду, як праз рэшата. Нішчаць усё падчыстую, і маладняк, бо ячэі ў сетцы дробныя...

— Адкуль ты ведаеш? — пацікавіўся Сцяпан.

— Сам бачыў,— адказаў Язэп.— Бачыў і бачу кожны раз, як прыходжу да рэчкі. Я нават ведаю, дзе сёння сетка пастаўлена і дзе яна будзе заўтра.

— Дык давайце пойдзем, выцягнем сетку і парэжам яе! — горача прапанаваў Анатоль.

— Мала карысці,— адхіліў прапанову Язэп.— Адну парэжаш, другую пастаўяць. Даведаюцца, помсціць пачнуць. Тут патрэбна штосьці іншае.

— А каб участковага навесці на іх! — не стрымаўся Сцяпан.

Язэп кісла ўсміхнуўся:

— А што ўчастковы? Ну, рэквізуе адну сетку, яны знойдуць другую. Гэта ў лепшым выпадку... А не выключана, што ён сам з імі заадно.

Сцяпан развёў рукамі:

— Што ж рабіць? Няўжо на іх няма ніякай управы?

Язэп пачухаў патыліцу:

— У мяне ёсць думка... Пакуль толькі голая думка, а як зрабіць, каб яна стала рэальнасцю, не ведаю.

— А што трэба? Можа б, я чым дапамог? — загарэўся Анатоль.

Язэп працягваў:

— Трэба зрабіць так, каб яны самі, добраахвотна кінулі сваю чорную справу. І назаўсёды!

— Гэта ўжо, браток, з навуковай фантастыкі! — запярэчыў Сцяпан.— Дзе ты бачыў, каб браканьер сам, без прымусу, кінуў свой промысел?

— Дзядзька Язэп, а ўсё ж, што за думка? — настойліва дапытваўся Анатоль.

Язэп патлумачыў:

— Вось каб ім у сетку зачапіць штосьці дужа страшнае, каб яны і ад сеткі адмовіліся, і рэчкі пачалі баяцца...

— Кракадзіла б жывога запусціць ім у сетку,— пачаў фантазіраваць Сцяпан.— А яшчэ лепш — ім у штаны!

— Не трэба кракадзіла! — спыніў сябра Язэп.— Каб які снарад ці міну ў сетку зачапіць.

— Людзі ж падарвуцца! — насцярожыўся Сцяпан.— А па-другое, дзе іх узяць?

— Снарад ці міну не сапраўдныя,— тлумачыць Язэп,— а толькі іх падабенства... Яны выцягнулі б сетку і ад страху не ведалі б, куды ўцякаць.

Анатоль горача падтрымаў прапанову:

— Правільна! Няўжо мы такой дробязі не зладзім? Я ведаю, як выглядаюць розныя такія штукі. Упэўнены, што нам гэта ўдасца, а потым я залезу ў ваду і прычаплю падарунак да сеткі.

— Малайчына, сынок! — ажывіўся Сцяпан.— А там ужо як Бог дасць! Думаю, што пабаяцца яны і сетку выцягваць, і міліцыю выклікаць на сваю галаву...

Наступным днём тройца змоўшчыкаў на Язэпавым двары канчала свой выраб.

Анатоль выцер змакрэлы лоб і задаволена зазначыў:

— Зараз прыкручу апошні стабілізатар, і гатова!

Сцяпан пакратаў тое, што было падобна на вялізную авіябомбу, і пацмокаў языком:

— Самому боязна да гэтага дакранацца... Надта ж аграмадзіна!

Язэп адчыніў бляшанку з белай фарбай і ўзяў пэндзаль:

— А каб было яшчэ страшней, я зараз намалюю на яе бакаціне чэрап і скрыжаваныя косткі!

— Гэта ўжо будзе хімічная зброя! — засмяяўся Сцяпан.

Задаволены Язэп адыходзіць і любуецца на сваё мастацтва:

— Вось так! А цяпер застаецца зацягнуць гэту страшылку да рэчкі і ўблытаць у сетку.

— Гэта ўжо дробязь! — адкладвае Анатоль інструмент і выцірае рукі.

* * *

Раніцай, ледзь толькі развіднела, да берага рэчкі асцярожна падплыла маторная лодка, у якой сядзелі Бабіч і Бублевіч. Заглушыўшы матор, яны старанна замаскіравалі лодку пад лазовым кустом і, скочыўшы на бераг, падышлі да двух ледзь бачных калкоў, да якіх былі прывязаны канцы сеткі. Насцярожана азірнуліся і пачалі цягнуць. Сетка давалася, як ніколі, марудна і цяжка.

— Ого! Сёння штосьці там упіраецца! — задаволена закрактаў Бублевіч.

— Цягні! Не філонь! — зашыкаў на сябра Бабіч.

Бублевіч весела працягваў:

— Ні табе шуму, ні табе пылу, а поўная сетка! І дынаміт на чорта!

Бабіч падганяў:

— Давай-давай! Напінайся! Потым будзем падлічваць дывідэнды!

Сябры не шкадавалі сіл, прадчуваючы багаты ўлоў.

— Што гэта? Няўжо сом?! — закрычаў Бублевіч.

Бабіч зірнуў на рэчку і ўбачыў нешта вялізнае і акруглае ў сетцы:

— Хутчэй гэта кіт!.. Не паслабляй! Цягні! Не дай яму апамятацца!

— Ён наш! — трыумфаваў Бублевіч.— Па-адна-а-цісні! Р-ра-а-з!

Раптам Бабіч жахліва зароў:

— Стой! Замры! Не тузай за сетку!

— Што? Што такое? — здзівіўся Бублевіч.

З вады паказаліся стабілізатары, а на баку «сома» скаліў зубы чэрап.

— Бомба! — зноў зароў Бабіч.— Кідайся на зямлю! Хімічная бомба — вунь чэрап!

Бублевіч кінуўся ўслед за сябрам на зямлю і застагнаў:

— Атруцімся, к ідрэні фені матары! Альбо ў паветра ўзляцім! — Зірнуў на сябра і жаласліва спытаўся: — А ад чаго лягчэй паміраць?

Бабіч ускочыў і закамандаваў:

— Дурань! Матаем адсюль вуды!

— А сетка? А бедненькая наша рыбка? — заенчыў Бублевіч.

— Сетку і суседку заўсёды нажывеш, а жыццё адно. Я жыць хачу! — адрэзаў Бабіч і кінуўся да лодкі.

Бублевіч пакруціў носам у паветры і жахнуўся:

— Сапраўды нечым смярдзіць! — ускочыў і панёсся за сябрам, крычучы: — Атас! Хімічная атака!

— Нагі маёй тут болей не будзе! Заводзь матор! — камандаваў, седзячы ў лодцы, Бабіч.

Бублевіч падбег да лодкі і азірнуўся на пакінутую сетку. Азірнуўся і вачам сваім не паверыў: у сетцы пагойдвалася не бомба, а доўгавалосая і пышнагрудая Русалка, якая працягвала да Бублевіча рукі і салодзенькім галаском клікала да сябе: — Сюды, Бублічак! Я цябе зацалую на самым дне, сярод тваіх любімых рыбак! Ідзі, ідзі да мяне, дурненькі!..

Бублевіч моцна заплюшчыў вочы і страсянуў галавой, адганяючы недарэчнае відовішча. Ён адважыўся зноў зірнуць на рэчку. Русалкі там болей не было, а замест яе ў

сетцы сядзеў участковы, які трос кулаком і крычаў: — Вы каго злавілі?! Ды я вас, басякі, арыштую і ў турме згнаю!..

Бублевіч разгублена папрасіў сябра:

— Зірні! Там не бомба, а Русалка з участковым у сетцы сядзяць!

Бабіч зірнуў туды, куды паказваў сябар, але там, акрамя бомбы з чэрапам на ёй, нікога не было.

— У лодку, дурань! Заводзь матор, Русалчын потрах!

* * *

На беразе рэчкі, ля сваёй «прыкормленай» мясціны, сядзеў з вудай Язэп і напяваў вядомае: «На адным канцы рыбак...»

Паплавок, як заўсёды, заснуў, але Язэп, гледзячы на яго, думаў пра іншае. Раптам пачуў чаканае — маторную лодку, якая паступова набліжалася. Язэп засяродзіўся на маторным гуку:

— Ага, галубцы, вяртаюцца! Цікава, ці спадабаўся ўлоў? Як бы даведацца?.. А-а, відаць, атрымалі наш падарунак, бо не ляцяць як шалёныя, а паўзуць, як чарапаха...

Лодка наблізілася. У ёй былі Бублевіч і Бабіч, ды не вясёлыя, як заўсёды, а напружаныя і нават спужаныя.

Язэп рызыкнуў і замахаў рукой:

— Прывітанне рыбакам!

Матор заглух, і з лодкі пачулася злоснае:

— Што трэба?!

Язэп усміхнуўся і бязвінна залыпаў вачыма:

— Рыбак рыбака бачыць здаляка!

— Што яшчэ? — злосна спытаўся Бабіч.

Язэп дастаў вуду, чамусьці папляваў на кручок і нядбайна выціснуў:

— Я б вам адну навіну сказаў, але бачу, што вы спяшаецеся...

Бублевіч коратка кінуў:

— Давай, валі, калі што цікавае!

Язэп закінуў пусты кручок у ваду і працягваў:

— Яно-то не дужа цікавае, затое карыснае. Сын майго сябра Сцяпана, афіцэр, які прыехаў здалёк на адпачынак, расказаў, што там, у іхняй рэчцы, рыбакі лавілі сеткай рыбу і выцягнулі з вады нейкую храновіну часоў вайны...

Бабіч насцярожыўся:

— І што?!.

Язэп зноў жа нядбайна працягваў:

— Усіх, хто быў на беразе, разнесла на дробныя шматкі — мама родная не пазнала. Такі быў выбух, што ваду ўзняло да аблокаў.

Бублевіч збялеў:

— Дык і мы...

Бабіч абарваў яго:

— Заткніся! Дык і мы... чулі пра гэта... А што яшчэ?

— А яшчэ я чуў ад свайго бацькі-нябожчыка, што і ў нашай рэчцы такога дабра хапае. Таму я спакойненька лаўлю вудай і ў вус не дзьму.

— Лаві! — злосна кінуў Бабіч і павярнуўся да сябра.— Заводзь матор і матаем адсюль!

Язэп з той жа нядбайнасцю працягваў свой роспавед:

— І яшчэ я чуў, што гэтыя ржавыя штукенцыі, якія ляжаць у рэчцы з часоў вайны, могуць ірвануць на ўсю моц нават ад лёгкай вібрацыі лодачнага матора. Сын майго сябра расказаў...

— Пайшоў ён к чорту, той сын твайго сябра! Заводзь матор і кратай на малых абаротах!

Матор завёўся, і лодка ціха-ціхенька падалася прэч...

Язэп выцягнуў лёску, зматаў вуду і пашыбаваў дахаты, весела напяваючы: «На адным канцы рыбак, на другім канцы чарвяк...»

* * *

У кабінет участковага міліцыянера хтосьці асцярожна пастукаў, быццам дзверы былі з крохкага шкла.

— Уваходзьце! — запрасіў участковы, які разглядаў нейкія паперы.

У кабінет баязліва праціснуліся Бублевіч і Бабіч:

— Выклікалі, таварыш начальнік?..

Участковы доўга і пільна разглядаў іх, потым спытаўся:

— Рыбу любіце?

— А-ага, смажаную...— неўпапад адказаў Бублевіч.

— І засоленую з півам...— заківаў галавой Бабіч.

Участковы грозна ўдакладніў сваё пытанне:

— А глушыць рыбу ў рэчцы любіце?

Бублевіч пачаў, заікаючыся, апраўдвацца:

— Хто вам сказаў? Брахня гэта сабачая, таварыш начальнік!

— Ды навошта яе глушыць, яна і так глухая і нямая! — падтрымаў сябра Бабіч.

Участковы спыніў іх:

— Ціха! Сам ведаю, што глухая!.. Лодку маторную маеце?

— Які там матор?! Траіць і захлынаецца! — тлумачыў Бублевіч.

— Ды тую скарлупіну дзіравую нельга назваць лодкай, таварыш начальнік! — жаласліва енчыў Бабіч, якому ўторыў сябар: — А матор іржавы, моллю паедзены!..

— Ціха! Хопіць! — устаў са свайго месца ўчастковы.— Вы тут на тое, каб ведалі, што і я ведаю шмат чаго пра вас. Вас пачалі часцяком заўважаць на рацэ, у вашай, як вы сказалі, скарлупіне, а ваш моллю паедзены матор спраўна панёс вас ад месца, дзе прагучалі два выбухі.

Бублевіч яшчэ больш заенчыў:

— Таварыш начальнік, ды каб таму вочы павылазілі...

Участковы паставіў кропку:

— Хопіць! Можаце ісці, але ведайце, што панятыя і сведкі мне заўсёды патрэбны.

— Ды мы, як піянеры, заўсёды гатовыя! — запэўніў Бабіч.

* * *

Язэп схаваўся ў самы кут свайго двара, абклаўся рознымі прыладамі і прыстасаваннямі і штосьці мудрагелістае майструе, як заўсёды, напяваючы «На адным канцы рыбак...». Ён ажно падскочыў ад нечаканасці, пачуўшы за спіной Сцяпанаў голас:

— Здароў, Цыялкоўскі! Зноў нейкую ракету майструеш?

Язэп не хаваў сваёй незадаволенасці, нават злосці:

— Цьфу на цябе! Якога ражна прыпёрся? Думаў, схаваюся, ніхто не знойдзе, дык на табе — з'явіўся!

Сцяпан, быццам не заўважыў сябравай незадаволенасці, пацікавіўся:

— А што гэта за звер: сігара не сігара, ракета не ракета? Нейкая абракадабрына. Каго на гэты раз пужаць будзем?

Язэп усё яшчэ злуецца:

— Прынесла цябе нялёгкая! Я тут гарбею ўвесь вольны час, а ты ўсю маю сакрэтнасць перакрэсліў сваім доўгім носам.

— Ну чаго ты кіпяцішся? Ты што, ужо сябру не давяраеш? — крыху адступіў Сцяпан.

— Пры чым тут давер? — не здаецца Язэп.— Я і для цябе сюрпрыз рыхтаваў, а цяпер усё прапала. Во чорт!

Сцяпан заціснуў рот рукой:

— Ды не баіся ты! Замок на рот павешу, пад катаваннем слова не вымаўлю!.. А ўрэшце, што гэта за штукенцыя? Уся на дзірачках, нейкія правады... Машына часу, ці што?

Язэп махнуў рукой:

— Якая машына часу? Салют гэта! Салют у гонар... у гонар чаго пажадаеш.

Сцяпан усміхнуўся:

— У гонар свежыны быў такі салют, памятаю! А гэты, пэўна, у гонар рыбалкі будзе?

— Можна і ў гонар рыбалкі,— згаджаецца Язэп.— Але што такое рыбалка — дробязь. Бяры вышэй!

— Ну, не ведаю... здаюся,— разводзіць рукамі Сцяпан.

— А ты забыўся, дружа, што Купалле на носе! Купалле без салюта, як без цябе Данута! — прамаўляе вынаходнік і рагоча.

— Вось гэта здорава! — захапляецца Сцяпан.— Салют на Купалле! У цябе, Язэп, не галава, а дом урада! І куды ракета павінна ляцець?

Язэп сумна ўздыхае:

— Не ведаю, ці паляціць тут што. Баюся, каб не наблытаць чаго... Не хапае, брат, адукацыі,— горка ўсміхаецца,— дыплом не таго профілю.

— Можа б, Толіка прышпіліць сюды, ён жа ваенны афіцэр! — параіў Сцяпан.

Язэп рашуча адмовіўся:

— Давай усю вёску збярэм сюды! Ніякіх Толікаў! Сам датумкаю, не сумнявайся!

— Ды я ў тваіх здольнасцях не сумняваюся,— згадзіўся Сцяпан.

Язэп маркотна паглядзеў сябру ў вочы:

— А я вось сумняваюся... Я, шчыра кажучы, баюся, каб не атрымаўся пшык навідавоку ўсёй вёскі. Таму трэба правесці выпрабаванні, праверыць на практыцы, што да чаго. Спярша раблю на спробу, калі канструкцыя не падкачае, я хуценька зраблю такую самую да свята — вопыт ужо ёсць.

— А дзе выпрабаванні будзеш рабіць? Тут? — пацікавіўся Сцяпан.

— Што ты?! — запярэчыў Язэп.— Занясу гэта далей ад вёскі, да рэчкі, пакладу на плыток, запалю шнур і пушчу па вадзе, каб усё натуральна было. З берага буду назіраць — добра дык добра, а не, прыйдзецца дарабляць. А ўвогуле, я планую зрабіць вялікі плыт і ў час, калі вяскоўцы выйдуць на Купалле да ракі і пачнуць паліць кастры і вадзіць карагоды, з'явіцца перад імі на рацэ і задаць салют на ўсё неба. Ну як?!

— Як заўсёды, шыкоўна, з размахам! — захапляецца Сцяпан і пытаецца: — А на выпрабаванні возьмеш мяне? Вазьмі, маўчаць буду, як рыбіна!

— Дзе ад цябе дзецца? Вазьму няпрошанага сведку! — Язэп хітра прыжмурвае вочы, глядзіць на сябра.— Праўда, я чуў, што добры сведка — гэта мёртвы сведка...

Сцяпан сплюнуў:

— Кінь дурное!

* * *

Анатоль, Люба і Сцяпанка амаль кожны дзень наведваліся да бабы Ганны, якая замяніла Любе маці, выхавала яе. І сёння яны вялі нетаропкую гаворку.

Люба цікавілася ўсім:

— Што яшчэ, бабулечка, за мінулы час змянілася ў вёсцы?

— Што тут можа змяніцца, унучка? У нас тут ціша і спакой,— адказала Ганна.— Твая сяброўка Алена нарадзіла другую дачку...

— Мы гэта ўжо ведаем,— азваўся Анатоль.

Люба дадала:

— Ведаем і збіраемся схадзіць да іх, павіншаваць.

Баба Ганна працягвала:

— А мая сяброўка Зося пайшла з жыцця...

— Калі? — узрушылася Люба.— Ой, як шкада яе! Зямля ёй пухам...

— Хутка будзе год, як яе не стала,— расказвала Ганна.— Вось такія нашы навіны: адны нараджаюцца, другія

паміраюць... Так ужо задумана Богам, і не нам штосьці мяняць.

— А дзед Аўдзей як? Адзін застаўся? — пацікавіўся Анатоль.

Ганна кіўнула галавой:

— Адзін. Мала радасці аднаму, па сабе ведаю. Жыла ты ў мяне, унучка, здавалася, не жыву, а на крылах лётаю. Цяпер — свет белы не мілы, у хату ногі не нясуць, начэй пачала баяцца, асабліва зімой, ноч вечнасцю падаецца...

Люба абняла бабу Ганну:

— Трымайся, бабулечка, мацуйся. Ехаць да нас жыць ты адмаўляешся.

— Дзякуй, залаценькія мае,— пяшчотна адказала старая,— але тут усе мае радасці і нягоды...

Люба штосьці пакумекала і загадкава паглядзела на Ганну:

— Паслухай, бабулечка, і не крыўдуй: а няхай бы дзед Аўдзей перайшоў жыць да цябе ці ты да яго...

— Што ты, дзіцятка, апамятайся! — страпянулася Ганна.— Замуж хочаш аддаць мяне на старасці гадоў! Людзі засмяюць.

— Чаму замуж! — не здавалася Люба.— Так многія робяць, мусяць так рабіць... Будзе з кім словам перакінуцца...

Анатоль горача падтрымаў жонку:

— Вады падасце адно аднаму, калі што!

Ганна ўпарта пакруціла галавой:

— З хаты сваёй я нікуды не пайду ды і ў сваю хату за фалды нікога цягнуць не буду.

* * *

Дзень выдаўся сонечны, цёплы, таму многія вяскоўцы выйшлі на вуліцу. Язэп і Сцяпан стаялі ля Язэпавай хаты і гаманілі. Сцяпан націснуў на актуальнае:

— Ты сваімі салютамі наклікаеш адны непрыемнасці. Як кажуць, зімой і летам адным цветам.

— Чым табе не даспадобы мае салюты? — здзівіўся Язэп.

— Яны-то прыгожыя,— працягваў Сцяпан,— але абавязкова зацягваюць то ў міліцыю, то, як казаў айцец Мікалай, у гушчары грахаводныя.

— Вунь, зірні! — крутнуўся Язэп.— Вунь айцец Мікалай габлюе! Лёгкі на ўспамін!

Падышоў айцец Мікалай, прывітаўся:

— Добрага здароўя і Боскай ласкі вам!

— І вам таго самага! — адказаў Сцяпан, а Язэп не ўтрымаўся, дадаў: — Таго самага і па тым самым месцы!

— Чуў я, дзядзька Сцяпан, што дзеці прыехалі,— звярнуўся святар да Сцяпана.

— Прыехалі, дзякуй Богу! — пацвердзіў Сцяпан.— І дзеці, і ўнучак Сцяпанка! Усе як ёсць!

— Хрысціць трэба ўнука, калі не хрышчоны. Хрысціць! — сказаў айцец Мікалай.

Сцяпан паціснуў плячыма:

— Я дык і не ведаю. Ды і не мая гэта справа, няхай маладыя разбіраюцца.

— Ды ён, айцец Мікалай, не верыць у забабоны, таму і сам не хрышчоны,— пацвяліўся Язэп.

— Няўжо вы, дзядзька Сцяпан, век дажываеце нехрысцем? — здзівіўся святар.

— Ды што ён плявузгае? Хрышчоны я! — паведаміў Сцяпан.

— Хрышчоны ён! — рагоча Язэп.— Бацька яго ў маленстве добра рэменем хрысціў, а бывала, і лейцамі.

— І рэменем, і лейцамі таксама,— згадзіўся Сцяпан.— А цябе, Язэп, самога жонка таўкачом па ілбе хрысціць штодня!

— Няхай Бог даруе вам вашы жарты! — І святар перахрысціў рукой у паветры балаболістых сяброў і

пакрочыў далей, кідаючы на хаду: — А ўнучка ахрысціць усё ж трэба!

— Добра, добра! — згаджаецца Сцяпан і паварочваецца да сябра: — Хто цябе цягнуў за язык, што я нехрышчоны? Маці мяне хрысціла! У царкве!

— А калі б і не хрышчоны, бяда такая,— усміхнуўся Язэп.— Я як архірэй са стажам магу хрысціць цябе хоць кожны дзень.

— Хопіць жартаў! — змяніў тэму Сцяпан.— Лепш скажы, што мне рабіць на Купалле, куды ісці?

— Як і дамовіліся,— тлумачыць Язэп,— прыцемкам прыходзь да плыта, там я буду цябе чакаць.

— Буду як штык! — адказаў Сцяпан.

* * *

На беразе рэчкі, схаваўшыся ад людскіх вачэй, Язэп і Сцяпан корпаюцца над Язэпавай спарудай. Сцяпан ніяк не ўцяміць, што тут да чаго, таму ўвесь час лезе да сябра з пытаннямі:

— Я так і не зразумеў, які прынцып работы гэтай штуковіны.

— Будзем разумець разам,— з хваляваннем у голасе адказвае Язэп.— Пасля таго як дагарыць гэты шнур, з гэтых дзірачак пачнуць вылятаць змеі вогнегаловыя.

— Змеі?! — задзівіўся Сцяпан.

— Супакойся! — тлумачыць Язэп.— Тут звычайныя петарды. Трэску шмат, бляску шмат і поўная бяспека!

— А дзе ты такое ўзяў? — здзівіўся Сцяпан.— У нашай краме гэтага няма.

— Быў у горадзе, пацёрся між ларкоў, распытаўся і купіў,— нядбала адказвае Язэп.— Там, браток, на базары можна кулямёт купіць, былі б грошы.

— На чорта нам кулямёт! А вось гэтым на Купалле можна будзе казырнуць! — не перастае захапляцца Сцяпан.

— Уяўляеш,— распаляецца Язэп,— выплываю я на плыце, на якім гарыць касцёр, стаю, як той бог сонца! А потым з плыта шугаюць у неба мае змеі вогнегаловыя!

— Ты на плыце, а я? — пакрыўдзіўся Сцяпан.— А я дзе буду? Куркуль ты, Язэп, а не сябар!

— Супакойся! Будзеш і ты на плыце са мной! — лагодзіць Язэп.

Сцяпан адпускаецца і горача працягвае:

— А калі так, тады ў мяне ёсць задумка — пальчыкі абліжаш! Ну, пастаялі мы на плыце, ну, пальнулі салют — і ўсё. Падумаеш, адарвалі казе хвост. Трэба такое адмачыць, каб нас год помнілі, а магчыма, і ўсё жыццё!

Язэп спыніў сябра:

— Потым! Пасля твае задумкі! Давай з гэтым разбярэмся, можа, у нас нічога не атрымаецца, а мы цешым сябе думкай. Нясі гэта на плыток.

Сцяпан асцярожна паднімае тварэнне сябравых рук і кладзе на плыток:

— Падпальвай шнур, Цыялкоўскі!

Язэп дастае з кішэні запалкі і толькі збіраецца чыркнуць па карабку, як за спіной грыміць знаёмае:

— Рукі! Рукі ўгору абодва!

Збялелыя Язэп і Сцяпан уздымаюць рукі і бачаць, што побач з імі як з-пад зямлі з'явіўся ўчастковы інспектар. Ён грозна крычыць:

— Стаяць і не варушыцца! Вось вы і папаліся, нутро ваша браканьерскае! Я за вамі даўно сачу! Рыбкі захацелася?

— Якой рыбкі, таварыш лейтэнант? — апрытомнеў Язэп, а за ім Сцяпан: — Ды мы хацелі проста...

— Маўчаць! — раз'юшваўся ўчастковы.— Групавая змова — гэта вам не жарт! Ой, прыпаяю я вам на ўсю катушку!

Язэп памкнуўся да ўчастковага:

— Таварыш лейтэнант, прынцып работы гэтай штукі...

Участковы падхоплівае:

— А я ведаю. Падпальваеш гэты шнур і кідаеш гэту балванку ў ваду, потым толькі спраўляйся вычэрпваць рыбу. Вось і ўвесь прынцып работы. Гэта мне знаёма.

— Не, тут іначай! — нервуецца Язэп.— Рыбе гэта не страшна!

— Кажаш, рыбе не страшна! — чырванее ўчастковы.

— Яно-то, магчыма, рыбе і будзе крыху страшнавата, але балець зусім не будзе.

— Рыбе гэта спадабаецца! — уставіў сваё Сцяпан.

— Дурня з мяне робіце! — ускіпеў участковы.— У раёне разбярэмся, каму будзе страшна, каму весела. Вы арыштаваныя!

* * *

У кабінеце ўчастковага інспектара міліцыі, акрамя яго самога, прысутнічалі «арыштаваныя» Язэп і Сцяпан, а таксама панятыя, Бублевіч і Бабіч. Участковы сядзеў за сталом і задаваў пытанні:

— Ну, панятыя, што там ляжыць на дварэ?

— Там самаробная бомба для глушэння рыбы,— засведчыў Бублевіч.

Участковы, задаволены, пачаў пісаць:

— Добра, так і запішам.

Бабіч карцінна заломваў рукі і як не галасіў:

— Бедненькая рыбка... бедненькая рыбка...

Участковы звярнуўся да яго:

— А ты, Бабіч, што бачыў на дварэ?

Бабіч схамянуўся:

— Бомбу!.. Ой, бедненькая рыбка...

Участковы грозна ўдакладніў:

— Дык бомба там ці рыбка?

— Бомба там! Страшэнная бомба! — адрапартаваў Бабіч.

Участковы задаволіўся:

— І гэта запішам.

— Якая бомба? — ускочыў Язэп.— Там звычайная...

Участковы перапыніў Язэпа:

— Добра! Так і запішам з вашых слоў: там звычайная бомба... Чулі, панятыя? Браканьер сазнаўся, што там звычайная бомба.

Панятыя загаманілі:

— Чулі! Чулі! Сведчым!

— Ды вы што? — не сцярпеў Сцяпан.— Выслухайце спачатку, не затыкайце рот! Мы не прызнаем такога суда!

— Ага! Ты сказаў «суда». Правільна сказаў! — згаджаецца гаспадар кабінета.— Вось на судзе вас абодвух выслухаюць. Дадуць апошняе слова і выслухаюць, а тут прашу слухаць толькі мяне! Так, зачытваю пратакол...

Нечакана адчыняюцца дзверы і на парозе з'яўляецца начальнік міліцыі, пільна акідвае поглядам прысутных.

Участковы ўскоквае і дакладвае:

— Таварыш маёр, я, рызыкуючы быць разарваным на шматкі, абясшкодзіў самаробную бомбу і затрымаў двух злосных браканьераў! Вось яны!

Бабіч зноў загаласіў:

— Бедненькая рыбка...

— Няўжо бомба? — здзівіўся начальнік міліцыі.

— Так, бомба! — пацвердзіў участковы.

— Дзе яна? — пацікавіўся начальнік.

Участковы з гонарам далажыў:

— На ўнутраным двары яна, таварыш маёр. Яе пакуль ахоўвае міліцыянер, а сапёраў я выклікаў па тэлефоне.

Бабіч жаласліва заскавытаў:

— Ой, бедненькая рыбка...

Начальнік міліцыі кісла паглядзеў на панятога:

— Які жаласлівы! Калі не памыляюся, у цябе ёсць маторная лодка, ад якой за вярсту тхне бедненькай рыбкай. Дойдзем і да цябе! — І загадаў участковаму: — Вядзі да бомбы!

Усе выйшлі на ўнутраны двор, дзе на стале ляжала Язэпава ўстройства. Начальнік загадаў усім стаяць на месцы, а сам падышоў да стала, уважліва агледзеў устройства, пакратаў правадкі і спытаўся ў Язэпа:

— А вас я недзе бачыў раней? Так?

— Так, таварыш начальнік! — пасвятлеў тварам Язэп.— Я быў тут зімой з свіннёй. З свойскай, а яе тады ўчастковы хацеў ператварыць у дзікую, а мяне ў браканьера. Дзякуй вам, вы тады ўратавалі мяне!

— Памятаю, памятаю...— згадзіўся начальнік і зноў пацікавіўся: — А гэта, як яе называюць, бомба па сваёй сутнасці падобна да тых свінячых прыгодаў? Дзіцячая забава? Я не памыляюся?

Язэп яшчэ больш прасвятлеў ад такой увагі да сябе і свайго тварэння:

— Так, таварыш начальнік! Прынцып яе работы...

— Не трэба! — перапыніў Язэпа маёр.— Вось зараз участковы, рызыкуючы быць разарваным на шматкі, прадэманструе нам прынцып яе работы.

— Я?! Чаму я? — спужаўся ўчастковы.

— Менавіта ты! — не адступаў начальнік.— Калі не здольны вучыцца на чужых памылках, вучыся на сваіх. Падыдзі і запалі шнур!

— Таварыш маёр...— узмаліўся лейтэнант.

— Я загадваю! — строга павысіў голас начальнік міліцыі.

Участковы баязліва падышоў да стала і дрыготкай рукой запаліў шнур, уціснуўшы галаву ў плечы. Праз хвіліну з Язэпавай «штуковіны» пачалі вылятаць угару рознакаляровыя петарды. Участковы пасмялеў, пачаў усміхацца, а калі петарды скончыліся і ўсё сціхла, засмяяўся:

— Ого, якая прыгажосць! А я думаў... А тут такое...

Язэп з жалем пацмокаў языком:

— Эх, шкада! Галоўная, з сажай, не спрацавала!

— Якой сажай? — здзівіўся начальнік.

— Звычайнай сажай, з коміна,— тлумачыў вына-

ходнік.— Я адну трубку напхаў спецыяльна для свайго сябра, каб не сунуў носа, куды не просяць...

Раптам ля стала пачуўся моцны грук. Усе павярнулі туды галовы і ўбачылі ўчастковага, які стаяў чорны, як негр, і толькі лыпаў вачыма.

— Спрацавала! Спазнілася, але спрацавала! — радасна ўсклікнуў Язэп.

* * *

У Сцяпанаву хату бурай уляцела Хаўрося і з парога залямантавала:

— Людзі добрыя, чулі ці не? Бяда!

— Што здарылася? Пажар, ці што? — спужалася Данута.

Хаўрося абяссілена апусцілася на лаву і заплакала:

— Язэпа і Сцяпана арыштавалі! Цяпер, мусіць, надоўга...

— За што? Калі? — дапытвалася Данута.

Анатоль таксама занепакоіўся:

— А дзе яны цяпер?

Маленькі Сцяпанка кінуўся ў слёзы.

Люба ўзяла яго на рукі, пачала супакойваць, папыталася:

— Калі паспелі арыштаваць? Тата раніцай быў дома.

— Сёння арыштавалі,— удакладніла Хаўрося,— павезлі ў раён. Участковы сваё слова стрымаў — давядзе справу да суда.

— Ды ў чым яны вінаватыя? — не сунімалася Данута.— Як гэта можна хапаць людзей сярод белага дня? За што?

— Былі б людзі — знойдуць за што! — выдыхнула Хаўрося.

— Я зразумеў так, што ўчастковы пагражаў дзядзьку Язэпу судом, а тата пры чым? — разважаў Анатоль.

— А пры тым, што куды галава, туды і хвост! — патлумачыла Хаўрося і горача дадала: — Бомбу яны нейкую падарваць хацелі! Што, мала гэтага, каб пайсці пад суд?

— Адкуль тут тая бомба? — здзівілася Данута.

— Можа, адкапалі якую з часоў вайны,— пачаў гадаць Анатоль,— але ж гэта не злачынства.

— Самі яны зрабілі бомбу! Самі! — дакладала Хаўрося.— На свае вочы бачыла, як употай за хлявом штосьці майстравалі!

— Каб яму рукі адсохлі! — ускіпела Данута.— Плот паваліўся, страху на хляве перакрыць трэба, а ён бомбы майструе!

— Што б там ні было,— прапанавала Хаўрося,— а трэба ехаць у раён, вызваляць іх.

Толік падышоў да маці:

— Я паеду тату з дзядзькам Язэпам вызваляць! Я чалавек вайсковы!

— Сядзі дома! — рашуча спыніла сына Данута.— У такой справе дзве бабы лепш за любое войска! Мы там цацкацца не будзем!

— А як вы да раёна дабераецеся? — пацікавілася Люба.— Гэта ж не блізка.

Данута махнула рукой:

— Машын на шашы, як у сабакі блох! Будзем галасаваць!

Хаўрося ўстала з лавы і накіравалася да дзвярэй:

— Ты, Данута, тут збірайся, а я таксама скокну дахаты ды перадачу збяру: яек, сала, грошай вазьму...

— Навошта ім у турме грошы? — запярэчыла Данута.— Есці яны іх будуць, ці што? Сухароў болей бяры!

Неўзабаве дзве жанчыны кацілі ў спадарожнай машыне да раённага цэнтра вызваляць сваіх мужоў.

А прыкладна ў гэты час Язэп і Сцяпан развітваліся з начальнікам міліцыі — ён далікатна вывеў іх з райаддзела і паціскаў рукі:

— Ну, дык бывайце, шаноўныя, і прабачце за недарэчнасць. Перастараўся ўчастковы...

— Нічога, з кім не бывае,— па-філасофску адказаў Сцяпан.

— Я дык пачынаю прывыкаць! — бадзёрыўся Язэп.— Другі ўжо раз тут! Дзякуй вам, таварыш начальнік, і сёння вы нас ўратавалі!

— Такая мая праца — ратаваць людзей,— усміхнуўся маёр.

— А скажыце, калі ласка,— пацікавіўся Сцяпан,— у які бок будзе аўтобусная станцыя?

— Вунь за тым паваротам убачыце! — паказаў дарогу маёр, а потым паглядзеў на гадзіннік.— А-а, дык вы спазніліся, аўтобуса ў ваш бок сёння болей не будзе.

— Нічога! — бадзёра адказаў Язэп.— Неяк дабяромся! Самае страшнае засталося ззаду. Бывайце, таварыш начальнік!

Сябры жвава пакрочылі да шашы, каб паспытаць шчасця там.

Начальнік момант падумаў і схамянуўся:

— Пачакайце! Сёння мне машына не будзе патрэбна, а калі што, пакарыстаюся дзяжурнай. Таму — кампенсуем недарэчнасць! Васіль, хадзі сюды!

З «Волгі», якая стаяла побач, вылез шафёр і падбег да начальніка:

— Слухаю вас!

— Вось што, Васіль, гэтых двух шаноўных грамадзян чынна і прыстойна дастаў дамоў.

— Ёсць даставіць дамоў! — адказаў шафёр і адчыніў дзверцы машыны.

— Да самага ганка! — удакладніў загад начальнік міліцыі.

«Волга» акруцілася па вуліцах райцэнтра і весела пакаціла па шашы.

Сцяпан разваліўся на сядзенні і голасна выказваў сваю радасць:

— Во дажыліся! Век у «Волзе» не даводзілася катацца, а тут як той міністр! Скажы каму — не паверыць! Шык, ды і толькі!

Язэп схіляў сітуацыю ў свой бок:

— Пакланіся ў ножкі мне! Гэта я цябе ў міністры вывеў, лапатнік!

— Сам ты лапатнік! — не здаваўся Сцяпан.— Я цябе нават у ад'ютанты не вазьму.

Абодва весела зарагаталі, а з імі і шафёр.

* * *

Дзень хіліўся да скону, калі ўзрушаныя Данута і Хаўрося адчынілі дзверы раённага аддзела міліцыі і з клункамі шумна ўварваліся ў яго. Яны адпіхвалі адна адну, праціскаючыся да акенца, за якім сядзеў лейтэнант з павязкай на руцэ. Тутсама, у дзяжурнай часці, за пультам знаходзіўся яшчэ адзін супрацоўнік, але ў цывільным адзенні. Расчырванелыя і ўсхваляваныя жанчыны ўзнялі такі лямант, што немагчыма было зразумець, дзе чыё пытанне, і толькі чулася:

— Таварыш міліцыянер, дзе мой муж?

— А мой муж дзе, таварыш начальнік?

— Схапілі невінаватага сярод белага дня і ў каталажку!

— Не рабіце дзяцей сіротамі! Унук прыехаў, я сама хворая, плот паваліўся, хлеў цячэ!..

Дзяжурны заткнуў вушы і сам крыкнуў:

— Ціха! Спыніце лямант! Што здарылася? Гаварыце па чарзе!

Хаўрося патлумачыла першая:

— Мужа арыштавалі і пасадзілі ў каталажку. Вось што!

Данута праціснулася да акенца і выклала сваю скаргу:

— І майго! А я жанчына слабая, кволая, мне адной не выжыць. У мяне гасцей поўная хата. Аддайце мне мужа!

— Супакойцеся,— запрасіў дзяжурны.— Зараз разбяромся. Я толькі заступіў на дзяжурства, і пры мне нікога не затрымлівалі. Як прозвішчы вашых мужоў?

— Майго — Шыцік. Шыцік Язэп.

— А імя па бацьку як? — удакладніў лейтэнант.

— Як па бацьку? — перапытала Хаўрося.— Ды ў іхняй радні ўсе мужчыны былі Язэпамі аж да дзесятага калена.

— Не трэба мне ваша калена! — раззлаваўся міліцыянер.— Мне неабходна ведаць яго імя па бацьку! Што незразумела?

— Я ж і кажу, што ён Язэпавіч. Язэп Язэпавіч Шыцік.

Дзяжурны ўважліва прагледзеў нейкі журнал і звярнуўся да Дануты:

— Назавіце свайго мужа. І, калі магчыма, без калена.

— Ён у мяне Пінчук Сцяпан Хвядосавіч,— напружана адказала яна.

Дзяжурны зноў прагледзеў журнал і сказаў жанчынам:

— Такіх у нас няма. Адкуль вы ўзялі, што яны ў нас? Вось, пуста ў журнале!

Данута нервова ўсклікнула:

— Мы ж вам кажам, што ў каталажцы яны, а не ў журнале!

Тут ужо праявіў нервовасць і дзяжурны:

— Няма ў нас ні каталажак, ні вашых мужоў! Вы свабодныя!

Хаўрося пусціла ў ход ласкавасць голасу:

— Паслухайце, мой Язэп у вас не першы раз. Яго забіралі ў міліцыю і раней. Вы павінны яго ведаць.

— А-ах, дык ён рэцыдывіст?! — насцярожыўся дзяжурны.

— Як вы сказалі, хто ён? — не разумела Хаўрося.

— Я пытаюся, ваш муж рэцыдывіст? Так? — паўтарыў дзяжурны.

Хаўрося паціснула плячыма, паглядзела разгублена на сяброўку:

— Не ведаю, пра што вы, але ўчастковы пагражаў яму, што аддасць пад суд.

— Вось яно што! — з палёгкай уздыхнуў лейтэнант.— Пад суд? Дык вы, грамадзяначкі, памыліліся адрасам. Суд у нас праз вуліцу. Там і сапраўды сёння нейкіх злачынцаў судзілі...

— Дзякуй вам! — узрадавалася Данута.— Нарэшце мы напалі на іх след!

Дзяжурны астудзіў яе пачуцці:

— Але ўжо позна. Працоўны дзень даўно скончыўся, і там, акрамя вахцёра, нікога няма. А па-другое, злачынцаў пасля суда адпраўляюць па этапе: чух-чух-чух-чух...

Збянтэжаныя жанчыны развіталіся з дзяжурным і выйшлі на вуліцу.

Хаўрося цяжка ўздыхнула:

— Спазніліся мы... З-пад самага носа выслізнулі яны...

— Дзе за імі ўгонішся? — сумна адгукнулася Данута.— Сама чула: чух-чух-чух-чух... І што цяпер рабіць? Куды кінуцца?..

Хаўрося ўзяла сябе ў рукі:

— Застаецца апошні шанец: спытацца ў вахцёра. Можа, яны яшчэ там.

Жанчыны з клункамі праз плячо перайшлі вуліцу, прачыталі шыльду на будынку раённага суда і баязліва адчынілі дзверы.

У вестыбюлі за агароджаным сталом важна сядзеў даволі сталы мужчына ў акулярах і чытаў газету. Ён здзіўлена папытаўся:

— Вы куды, грамадзянкі?

— Нам бы ў суд... Мужоў вызваліць...— пралепятала Хаўрося.

Данута таксама паспрабавала тлумачыць, але слова «суд» скавала язык:

— Разумееце, нашых мужоў арыштавалі, іх прозвішчы Пінчук і Шыцік... Можа, чулі?

Вахцёр убачыў дзвюх баязлівых жанчын і відавочна заважнічаў:

— Мне вашы прозвішчы нічога не гавораць. Праз нашы рукі тут шмат злачынцаў праходзіць.

Данута і Хаўрося ў адзін голас запярэчылі:

— Яны не злачынцы! Яны нашы мужы!

Вахцёр адтапырыў губу:

— Калі справа даходзіць да суда, і мужы робяцца злачынцамі. А што вас канкрэтна цікавіць?

— Дзе яны? Колькі ім прысудзілі і куды адправілі? — спыталася Хаўрося дрыготкім голасам.

Данута падала вахцёру клунак:

— Вось, хоць перадачу ім даць на дарогу...

— Перадача! — ажывіўся вахцёр.

— Так, тут сальца, яйкі, смятанка...— лагодзіла Данута.

Вахцёр пачухаў ля вуха, зноў напусціў на сябе важнасць:

— Я, канешне, не гарантую, але перадачу пакіньце...

Хаўрося радасна аддала і сваю перадачу вахцёру і ўжо смялей спыталася:

— А колькі ім далі?

Данута з надзеяй уздыхнула:

— Хоць бы не болей як пятнаццаць сутак...

— Сёння судзілі нейкіх двух,— падзяліўся навіной вахцёр,— але не ведаю, вашы гэта былі ці не...

— Нашы! Нашы! Сёння былі нашы! І колькі ім далі? — кінуліся жанчыны да вахцёрскага стала.

— Дык вось,— працягваў ён,— чуў я краем вуха, што прыпаялі ім па дзесяць гадоў кожнаму...

Хаўрося закаціла пад лоб вочы і, каб не паваліцца, прыхілілася да сцяны. Яе вусны нарадзілі працяглы стогн:

— Мамачка родная, дзесяць гадоў... Я не дажыву, я састарэю...

Данута таксама завыла, абняла сяброўку і горка заплакала:

— А я ж жанчына кволая... а плот паваліўся...

Хаўрося першая зноў узяла сябе ў рукі:

— А пабачыць іх нельга? Хоць бы развітацца...

Вахцёр скрывіў твар:

— Ды яны ўжо, пэўна, па этапу: чух-чух-чух-чух...

— Абрыдлі вы са сваім чух-чух! — злосна агрызнулася Данута.— А як жа іх дагоніць перадача?

— Можаце забраць свае перадачы,— нехаця выціснуў вахцёр.

— Пакіньце сабе, згадзіцца! — паказала характар Хаўрося.— Прапала кароўка — прападай і вяроўка! Пайшлі, Данута! Жонкі дзекабрыстаў паехалі за сваімі мужамі на край свету, а мы што, горшыя?

— Трэба ж заехаць дамоў, сабрацца,— згадзілася Данута.

Ужо даўно сцямнела, калі дзве знямоглыя жанчыны дабраліся да сваёй вёскі.

Данута стомлена папрасіла сяброўку:

— Хаўроська, можа, зойдзеш да нас на хвілінку? Баюся адна парог пераступаць ды страшную вестку несці ў хату. Самлеюць усе, калі даведаюцца.

— Ды пэўна ж зайду,— усхліпнула Хаўрося,— мяне цяпер дома ніхто не чакае... І доўга не будзе чакаць...

Пераступіўшы парог сваёй хаты, Данута ледзь не самлела, убачыўшы свайго мужа Сцяпана, які спакойна сядзеў за сталом і гуляў з сынам у шашкі. Данута кінулася да яго, абхапіла за шыю:

— Сцяпанка! Родны! Ты ўцёк ад канвою?

Хаўрося раскрыла рот і акамянела ля дзвярэй.

Сцяпан выслабаніўся ад абдымкаў жонкі і здзіўлена спытаўся:

— Ад якога канвою? Дзе ты блындаешся да ночы?

Ад парога пачулася Хаўросіна пытанне:

— А дзе мой Язэп? Ты адзін уцёк ці з ім?

— Што вы верзяце? — пачаў злавацца Сцяпан.— Які канвой? Ад каго я ўцякаў? Я даўно дома! Вы папёрліся шукаць нас, а мы — дамоў.

Анатоль з гонарам удакладніў бацькаву інфармацыю:

— Тату на «Волзе» да самага ганка прывезлі.

— Як вялікага начальніка! — дадала Люба.

— А Язэпа куды дзелі? — насцярожылася Хаўрося.

Сцяпан супакоіў суседку:

— І твайго Язэпа на «Волзе», таксама, як пана, да вашага ганка даставілі. Даўно ён цябе дома чакае...

— Дык вас не судзілі? — разгубілася Данута.

— За што? Не судзілі, а ў «Волгу» пасадзілі. І сам начальнік міліцыі ціснуў нам руку і перапрошваў. Цяпер участковы за вярсту нас абыдзе! — выклаў усё, як на блюдзе, Сцяпан.

Данута з горыччу плюнула:

— А мы ж, дурныя, у раёне ўсе парогі абабілі, слёзы перад кожным на кулак намотвалі, а яны на «Волзе» раз’язджаюць.

— У Сібір за вамі збіраліся ехаць! — дадала Хаўрося.

Сцяпан зрабіў чарговы ход шашкай і засмяяўся:

— Вы без прыгод не можаце. Во чортавы бабы!

* * *

Адпачынак працягваўся, часу вольнага хапала, таму Люба калі-нікалі дазваляла сабе штосьці прыемнае. Вось і сёння яна ўзяла за руку Сцяпанку і нетаропка пайшла па вуліцы вёскі, у якой прайшло яе дзявочае жыццё. Гады маладосці дораць прыемныя ўспаміны, у іх абдымках і ішла маладая кабета.

Сустрэчная жанчына распеўна загаманіла:

— Хто гэта так спраўна перабірае сваімі ножкамі! Які прыгажун!

— Вітаю вас, цётка Наста! — прывіталася Люба.— Вось такі мой Сцяпанка асілак!

— Будзьце здаровенькія, мае харошыя! — працягвала жанчына.— І вас я вітаю! Цябе, Люба, не пазнаць, пасталела, памажнела. Колькі ж будзе сынку?

— Тры гадкі Сцяпанку! Расцем! — з задавальненнем адказала Люба.

Павойкаўшы і пацікавіўшыся, як адпачываецца, жанчына пайшла па сваіх справах, і Люба паціху пакрочыла далей. Хутка ўбачыла ля плота старога чалавека і павіталася:

— Добрага здароўя, дзед Аўдзей! Ці пазналі?

— І вам, мае залатыя, здароўя! І вам! Але не пазнаю, з кім вітаюся.

— Люба я! Люба, унучка бабы Ганны. Вы на маім вяселлі гулялі. А гэта мой сынок Сцяпанка.

— А-а, Люба... Ведаю, памятаю. Чаму ж не? Крыху недабачу, вось і пытаюся. Заходзьце ў хату, калі ласка, хоць там і пустэча, і сумота. Але хата мая заўсёды любіла людзей,— загаманіў дзед Аўдзей.

— Дзякуй вам, дзед Аўдзей, другім разам зойдзем. Сёння захацелася прайсціся па вёсцы, успомніць...

— А я вось толькі з успамінамі і застаўся,— сумна зазначыў стары.— Нікога, акрамя іх, у мяне няма...

Люба штосьці пакумекала і сказала:

— Ой, я ж ледзь не забылася! Вас, дзед Аўдзей, прасіла прыйсці мая бабуля Ганна. Штосьці яна вам хоча сказаць ці ад вас пачуць... Ці дапамагчы ёй штосьці трэба... Я не зразумела. Ну, мы пойдзем далей. Бывайце!

Люба пайшла далей і за спіной пачула:

— Чаму ж не схадзіць...

Праз хвіліну Люба сустрэла Сцяпана і Язэпа, якія выходзілі з Язэпавай хаты.

— Глянь, Язэп,— усклікнуў Сцяпан,— унучак мяне шукае! — Узяў Сцяпанку на рукі.— Куды, мой родненькі, накіраваўся?

Адказала Люба:

— Ды нікуды, тата. Проста гуляем і цешымся роднымі мясцінамі.

— Малайцы! Маладзец, унучак! — і Сцяпан пацалаваў унука.

— А чаго гэта дзед Аўдзей паклыпаў да Ганны? — здзівіўся Язэп.— Інтрыга!

— Усё вы заўважаеце! — адгукнулася Люба.— Не звяртайце ўвагі, можа, у іх каханне.

Язэп штурхнуў сябра:

— Каханне, Сцёпа, па нашай часці! Абвянчаем рабоў Божых Аўдзея і Ганну за мілую душу!

— І кеўкнуць не паспеюць! — зарагатаў Сцяпан.

* * *

Аднаго разу, калі Язэп толькі пачаў збірацца на рыбалку, да яго прычапілася Хаўрося:

— Ускапай ты мне ля плота дзірванок, трэба змяніць месца пад зімовы часнок, бо перастае радзіць.

— Дык яшчэ ж да восені далёка! — адбіўся Язэп.— Паспею ўскапаць.

Хаўрося насядала:

— Паспець паспееш, але ж зямля павінна перапрэць, угнаіцца. Таму кідай свае ражны і марш на гарод!

Язэп нехаця адклаў вуды, узяў рыдлёўку, падышоў да плота ля самай дарогі і пачаў капаць. Капалася марудна, бо рыдлёўка раз-пораз натыкалася на камяні.

— Надумала рабіць севазварот на гэтай камяніцы. Курыныя мазгі! — барматаў пад нос Язэп.— Вось зноў прывітанне ад ледніковага перыяду!

Ён замахнуўся рыдлёўкай, каб штурхануць пад бок чарговы камень, і раптам застыў, акамянеў, не горш як той камень:

— Што за чорт? Няўжо? Быць такога не можа! — і Язэп нахіліўся ніжэй, потым зусім укленчыў.— Гэтага толькі не хапала! Адкуль такая скула пад бокам?

Нечакана пачуўся голас з дарогі:

— Каму гэта ты там молішся, стоячы на каленях?

Язэп так захапіўся сваёй знаходкай, што не заўважыў, як ля яго спыніўся ўчастковы на матацыкле.

— Дык што там за дзіва такое, Язэп? — паўтарыў пытанне ўчастковы.

Язэп, не разгінаючыся, адказаў:

— Таварыш начальнік, тут снарад... Ды, здаецца, не адзін — цэлы арсенал! Вось!

— Хопіць з мяне дурня рабіць! — злосна агрызнуўся ўчастковы.— Ты мне сваімі снарадамі ды салютамі ўсю біяграфію сапсаваў. Бывай!

Язэп перахрысціўся:

— Бажуся! Клянуся! Зірніце самі!

— Не-е! — катэгарычна адказаў участковы.— Я тваіх баек наеўся, ажно пад лыжачкай верне. Бывай! — і пакаціў далей.

— Вось і кажы людзям праўду! — абурыўся, стоячы на каленях, Язэп.— Што ж рабіць? Нешта ж трэба рабіць! — нагнуўся да самай зямлі і ўзяў на рукі снарад. Устаў з ім і працягваў мармытаць: — Нешта ж трэба рабіць, Язэп!

Раптоўна здрыгануўся:

— Вой! Ёлкі-палкі! Святыя ўгоднікі, што ж я з гарачкі зрабіў? Навошта я схапіў гэту заразу?.. Спакойна, Язэп, спакойна! Не дыхай, Язэп, не дрыгайся!..

Тут з хаты выйшла Хаўрося і закрычала:

— Што ты стаіш, як слуп, і не капаеш? І чаго прыязджаў той пагоннік?

— Ціха! Не крычы! — упаўголасу адказаў Язэп.

Хаўрося падышла бліжэй.

— Што ціха? Чаму ціха, ліха тваёй матары?

Язэп паказаў вачыма на снарад:

— Ціха! Не стрывож яго! Не спужай!

— А што гэта? — здзівілася яна.— Навошта ты трымаеш гэту гадасць? Кінь яе!

Язэп скрывіў рот:

— Калі я гэта кіну, цябе так падкіне, што нагамі ў неба ўпрэшся. Гэта снарад, курыныя твае мазгі!

— Снараад? — спужалася Хаўрося.— Адкуль ён? Збіраеш усякае паскудства. Кінь яго, і бяжым адсюль!

— Стаяць! — рашуча закамандаваў Язэп.— Трэба людзей клікаць на падмогу, Сцяпана, Анатоля!

Хаўрося памкнулася з месца:

— Я пабегла!

— Куды?! — зноў спыніў яе муж.— Марш на дарогу і перапыняй усіх машынных і пешых, а я ціхенька падамся да Сцяпана.

— З гэтым пойдзеш? — жахнулася Хаўрося.

— З гэтым, з чым жа? Назад яго класці рызыкоўна, бо там яшчэ ляжаць гэткія ж галубцы — крый Бог, яшчэ бабахнуць! — і Язэп паволі, са снарадам на руках, як з дзіцем, падаўся праз дарогу да сябравай хаты. Стаў насупраць вокнаў і штосілы закрычаў: — Сцяпа-ан! Анато-оль! Сюды-ы хутчэй!

Рыпнулі дзверы, і выйшаў Сцяпан:

— Што ты за ляльку на руках калышаш?

— Снарад гэта! — запаліўся Язэп.— Баявы! Сапраўдны снарад!

— Кінь дурное! — усміхнуўся сябар.— Зноў браканьераў будзем пужаць ці каго?

— Табе кажу, гэта сапраўдны снарад! — кіпяціўся Язэп.— Вунь, у мяне на мяжы пад плотам іх цэлы склад! А вунь і Хаўрося стаіць на варце.

— Страху-то ў тваіх вачах шмат,— разважаў Сцяпан,— можа, ты і праўду гаворыш на гэты раз.

— Паняньчыў бы ты такое на руках, адчуў бы страх не толькі ў вачах. Кліч Анатоля, балаболка!

Сцяпан паслухмяна напяў голас:

— Толік, сынок, хадзі сюды! Хуценька!

Выйшаў Анатоль з Данутай, папытаўся:

— Што, тата?

Сцяпан паказаў на Язэпаву «ляльку»:

— Вось што, рэбус нейкі прынёс сюды!

— Ого! — насцярожыўся Анатоль.— Дзядзька Язэп, гэта ж баявы снарад, ды іржавы, відаць, з часоў вайны! Ён жа можа рвануць ад найменшага штуршка.

— Таму і не дыхаю, нават міргаць баюся,— выдыхнуў Язэп.

— А дзе вы яго ўзялі?..

Сцяпан перарваў сынавы пытанні:

— Звані, сынок, хуценька 01 — у службу выратавання, скажы, што цэлы склад такіх знайшлі,— там разбяруцца, што да чаго!

Анатоль кінуўся ў хату да тэлефона, а Сцяпан здзіўленымі вачамі паглядзеў на свайго сябра:

— А ты, Язэп,— выліты Матросаў — грудзьмі на амбразуру!

— Мне не да жартаў! — цяжка выдыхнуў Язэп.— Рукі млеюць ды і калені дрыжаць. Пайду я, браток, ад цябе далей ды і ад вёскі таксама — беражонага Бог беражэ. Вы лепш падсабіце Хаўросе.

Сцяпан і Данута накіраваліся на дарогу да суседкі, а Язэп ціхенька падаўся на поле, далей ад хат.

Сцяпан закрычаў яму ўслед:

— Ды табе героя мала даць! Скінемся і паставім табе помнік пры жыцці! З бронзы! А калі хопіць грошай — з золата!

* * *

Не доўга давялося чакаць сапёраў. Перш аслабанілі ад «лялькі» бедалагу Язэпа, які з апошніх сіл трымаў небяспечны цяжар. Пасля вывелі ўсіх вяскоўцаў на бяспечную

адлегласць і толькі тады асцярожна падаставалі з зямлі ўсе снарады, паклалі іх на пясок у кузаве машыны і паціху павезлі на палігон, каб знішчыць смяртэльна небяспечны груз. Колькі было ўсякіх перасудаў! Вёска гула! Язэпу не давалі ні праходу, ні прадыху — што і казаць, герой! Сцяпан толькі і шукаў з ім сустрэчы, а сустрэне і пад'ялдыкне:

— Здароў, падрыўнік і граза браканьераў!

Язэп рэагаваў спакойна:

— Падрыўнік не падрыўнік, а стаяла вёска на парахавой бочцы. Бачыў, колькі выцягнулі з зямлі гэтага жалеззя?

— Не толькі бачыў, а і чуў — выбух з палігона па ўсім раёне пракаціўся.— Сцяпан дастаў з кішэні газету.— Вось і раёнка твой партрэт на першай старонцы надрукавала. Цяпер цябе на «вы» трэба называць!

— А золата на помнік сабраў? — засмяяўся Язэп.

* * *

Неяк вечарам Сцяпан стаяў ля свайго дома і ўбачыў, як са сваёй хаты таксама выйшаў пакурыць Язэп. І хоць сяброў падзяляла толькі вуліца, Сцяпан фанабэрыста дастаў з кішэні мабільны тэлефон, якім дужа ганарыўся. Набраў нейкі нумар і прыклаў тэлефон да вуха:

— Алё, Язэп! Алё-ё!

Язэп здзіўлена паглядзеў праз вуліцу на сябра:

— Ну, чаго табе?

— Ты што, сігналу не атрымаў? Гавары ў свой мабільнік!

Язэп дастаў з кішэні тэлефон і прыклаў да вуха:

— Ну, атрымаў сігнал, і што з таго? Я цябе і без мабільніка чую.

Сцяпан гарачыўся:

— Цемра! Гэта ж цывілізацыя! Урбанізацыя!

— Што табе трэба, Ахапкін?

Сцяпан прапанаваў:

— Паехалі заўтра на рыбалку. Клёў будзе — во!

— Заўтра не магу,— адмовіўся Язэп,— касіць трэба. А што табе так прыспела?

— Хачу сваіх гасцей рыбкай пачаставаць! — патлумачыў Сцяпан.

— А я навошта табе? Для нажыўкі? — засмяяўся Язэп.

Сцяпан загадкава працягваў:

— Падсабіў бы... Ёсць задумка — шык! Пальчыкі абліжаш!

Язэп паказаў вачыма на сваю хату:

— Упросіш маю выдру — паеду! Але наўрад ты яе ўламаеш: гэта звярына непрыручаная.

— Дасць Бог, уламаю! Ідзі дамоў і чакай — праз хвіліну я стукну ў дзверы...

І сапраўды, праз хуткі час Сцяпан пераступіў парог Язэпавай хаты:

— Спакой і згода закаханым птахам!

Язэп карцінна ўзрадаваўся:

— А-а, прывітанне, дружа! Даўно не бачыліся!

— Хаўроська... тут такая далікатная справа...— пачаў Сцяпан лісой.

Хаўрося рашуча перапыніла яго хітрыкі:

— Не пушчу!

Сцяпан разгубіўся:

— Куды?.. Каго? Ды ты што?.. Я проста так... па-суседску...

Язэп заступіўся за сябра:

— Не перабівай ты чалавека! Ён не паспеў рот адкрыць, а ты...

Хаўрося ўперылася вачыма ў мужа:

— Выдра сказала не, значыцца, не! І кропка!

Язэп пачаў заікацца:

— Якая выдра? Адкуль выдра?

— Ды ты — сама ласкавасць! Хоць да раны прыкладай! — падпяваў сябру Сцяпан.

Хаўрося дэманстратыўна склала рукі на грудзях:

— Гляньце, людзі! Толькі што была зверам непрыручаным і раптам ператварылася ў ласкавасць! Во цудзікі гарохавыя!

Язэп яшчэ больш пачаў заікацца:

— Адкуль ты?.. А як ты?.. Дзіва!

Хаўрося насмешліва кіўнула галавой:

— Эх вы! Не толькі я, уся вёска чула, пэўна, як вы гарлапанілі!

Язэп дакорліва паглядзеў на сябра:

— Вось табе і урбанізацыя, і каналізацыя, Ахапкін!

Сцяпан прыкінуўся лісой:

— Хаўросечка, у мяне поўная хата гасцей, сама ведаеш... Унучак прыехаў. Трэба іх рыбкай пачаставаць. Ты ж у нас золатца! Ты ж адходлівая!

— Не падлізвайся! — памякчэла яна.— А касіць калі?

— За дзень трава не пераспее, а яшчэ сакаўнейшай зробіцца! — схамянуўся Язэп.

Хаўрося пагрозліва зірнула на мужа:

— А табе выдра бокам вылезе!

— Маўчу! Маўчу, ластаўка мая! — абняў жонку Язэп.

Хаўрося строга зірнула на Сцяпана:

— Даю згоду толькі дзеля тваіх гасцей. Але не ўліпніце нікуды, як зімой са свіннёю!

Сцяпан перахрысціўся:

— Ды перцу таму на язык...

— Ну, ну! Асцярожна са сваім перцам, бо магу перадумаць! — папярэдзіла Хаўрося.

— Маўчым! Маўчым, ластаўка! — адказаў за дваіх Язэп.

— І яшчэ! — працягвала Хаўрося.— Тэлефоны вазьміце з сабой, каб на сувязі былі ўвесь час!

— Будзем! Будзем на сувязі, як рыбіна на кручку! — запэўніў Сцяпан.

* * *

Раніцай Сцяпан і Язэп з вудамі і ўсімі рыбацкімі прыладамі ў руках сустрэліся ля Язэпавай хаты.

Сцяпан прапанаваў:

— А што, калі ўзяць лодку і матануць на ёй аж на Студзёныя Віры? Там рыбы — кішыць!

— На лодцы ажно на Віры? — здзівіўся Язэп.— Ды да іх пешшу — няблізкі свет па балотніку ды чаратах, а на лодцы вёрст дзесяць будзе, ды яшчэ туды — супраць плыні. Уяўляеш, колькі вёсламі трэба махаць?

— Якая гэта плынь? — лагодзіць Сцяпан.— Рэчка наша ціхая, спакойная, можна сказаць, на месцы стаіць. Затое колькі маляўнічых мясцін мінём! Адзін вяслуе, другі вудамі сцёбае, потым — напеpазменку. Спалучым прыемнае з карысным! Ну як?

Язэп пацiснуў плячыма:

— Сёння ты кіруеш балем. Твае госці — табе і вёслы ў рукі!

* * *

Да маляўнічага берага рэчкі падплывае лодка, у якой раздзетыя, у адных трусах, сядзяць Сцяпан і Язэп. Лодка торкаецца носам у пясок, і першы з яе выкульваецца Язэп і знясілена валіцца на траву. За ім, крэкчучы і войкаючы, вылазіць Сцяпан і таксама валіцца з ног побач з Язэпам. Абодва доўга моўчкі аддыхваюцца. Потым Язэп пачынае:

— Хух! Паслухаўся я цябе, Сцяпане, як той дурань! Рук не чую. Во мазалі па яблыку! Далоні агнём пячэ, спіну ломіць.

Сцяпан мусіць падтрымаць сябра і павінавацiцца:

— Я і сам не думаў, што гэтак цяжка будзе. Не той, братка, узрост, каб з рэчкай змагацца... І я рукамі крануць не магу, а ногі самі трасуцца, як зайцаў хвост. Адна ўцеха,

што, пакуль сюды дагрэбліся, рыбкі насцёбалі не слаба... Але ж трэба думаць і пра дарогу назад.

Язэп, відаць, крыху адсягаўся, таму ўзбадзёрыўся:

— А што тут думаць?! — устаў і выцягнуў з лодкі поўную пляшку і скрутак з закуссю.— Зробім працяглы перакур, прапалошчам жабры, а там — з новымі сіламі да новых перамог! Згода?

Сцяпан павесялеў:

— Такі расклад мне падабаецца! А каб ты не думаў, што твой сябар скнара — трымай ад нашага стала! — Таксама падышоў да лодкі і дастаў сваю бутэльку і прыкуску.

Язэп заплюшчыў вочы і лірычна зацягнуў: «Чаму ж мне не піць? Чаму ж мне не піць?..»

Сцяпан падхапіў: «Гарэлачка добрая, ажно кроў кіпіць!..»

Раскладаюць свой правіянт, наліваюць па чарцы і выпіваюць.

— Думаю так: злоўленай рыбы нам досыць, таму тут не варта вуды размотваць,— разважаў Сцяпан.

— А чаго мы тады перліся ў такую далеч, напіналіся супраць плыні? — здзівіўся Язэп.

— З вадою любы дурань плысці можа, вось мы і даказалі сабе, што мы не любы дурань,— тлумачыў Сцяпан.

Язэп, наліваючы, балаболіў:

— У нашай справе галоўнае своечасова зрабіць падсечку, не даць сарвацца з кручка. Падсякай!

— Падсякаю! — І Сцяпан кульнуў чарку.

Язэп выпіў сваю:

— І я падсякаю!

Пакуль разамлелыя сябры сілкаваліся ды зубаскалілі, лодку непрыкметна адганяла вадою ад берага, і яна пачала аддаляцца.

Сцяпан паваліўся на спіну, з асалодай раскінуў рукі і марыў уголас:

— Назад будзем плысці, як паны: ні веславаць не трэба, ні напінацца. Хочаш — сядзі, хочаш — ляжы на дне лодкі і плюй у неба... Можна будзе і прыдрамнуць.

Язэп падняў галаву і паглядзеў у бок лодкі:

— Сцяпан! А дзе лодка?

Абодва імгнення ўскочылі на ногі і паглядзелі ўдалеч на лодку, якая знікала за паваротам рэчкі.

— Чаму не прывязаў лодку? Аплэвух! — ускіпеў Сцяпан.

— А сам? Чаму ты не прывязаў, калі такі разумны? — агрызнууся Язэп.— Твой баль, табе і вуды ў рукі!

Сцяпан схапіўся за галаву:

— Што рабіць? Можа б, дагнаць як?

Язэп скрывіўся:

— Як дагоніш? Берагі тут топкія, а па вадзе я не Хрыстос, бегаць не ўмею...

Сцяпан заламаў рукі:

— Во ўліплі! І што за напасці: то свіння ўцячэ, то конь дасць драла, цяпер вось лодка сплыла... Праваліся ты ўсё разам!

— Хопіць! Час цяпер супраць нас! — схамянууся Язэп.— Збіраем свой шведскі стол і напераразэ дамоў. Дасць Бог, першымі паспеем і перахопім яе. Нам дзве вярсты, а ёй дзесяць.

— А калі не паспеем? А калі дзе прыстане яна, зачэпіцца за які ражон... Што тады? — заныў Сцяпан.

Язэп выказаў рашучасць, якой даўно і сам не бачыў:

— У нас варыянтаў няма: дамоў, і кропка. Калі што, возьмем дзве лодкі: адзін — насустрач паплыве, другі — наўздагон падасца!

Сцяпан забедаваў:

— Божа мілы! Сын прыехаў, нявестка, унук... Пачаставаў я іх рыбкай, так пачаставаў, што сораму не абярэшся...

Сябры хуценька забралі рэшткі абеду і пакрочылі ад рэчкі.

Тым часам лодка з усім скарбам сяброў, з вудамі і злоўленай рыбай, бесклапотна пагойдвалася і, даверыўшыся плыні, усё больш і больш аддалялася ад сваіх

гаспадароў. Ціша і спакой атулялі яе, і толькі з двух мабільных тэлефонаў, якія ляжалі на вопратцы, чулася нервовае:

— Сцяпан! Алё! Сцяпан, гэта я, Данута! Прыём!

— Язэп! Дзе ты? Гэта твая Хаўрося! Не баўцеся там! Чаму маўчыш, каб ты захлынуўся?

— Алё! Сцяпан! Калі ты з дурасці ўтапіўся, лепш не пападайся мне на вочы, бо мала не будзе!..

* * *

Усхваляваны Анатоль вечарам гэтага ж дня падбег да Язэпавай хаты, дзе ля плота стаяла Хаўрося і лускала семкі.

— Здарова, Талян! Ты куды ляціш? — запыталася яна ў Анатоля.

— Вітаю вас, цётка Хаўрося! — ледзь здыхваўся Толік.— Мама да вас паслала даведацца, ці не вярнуліся з рыбалкі тата і дзядзька Язэп. Хвалюемся, нешта доўга іх няма. Каб не здарылася чаго.

Хаўрося нядбала плюнула праз губу луску ад семак:

— Дарэмна хвалюецеся. Яны ні ў агні не згараць, ні ў вадзе не патонуць. Не патрэбны яны ні Богу, ні чорту! Так мацеры і перадай, хоць яна сама гэта ведае не горш, чым я.

Анатоль горка ўсміхнуўся:

— Дзякуй, супакоілі... А ўсё ж, у які бок яны падаліся? Дзе іх шукаць?

Хаўрося зноў выплюнула луску:

— На гэта пытанне могуць адказаць толькі яны, таму раю спытацца ў іх.

Толік махнуў рукой і пайшоў дамоў.

Хаўрося зацягнула сваю любімую: «Ой, сівы конь бяжыць...», крутнулася, каб ісці ў хату, але зірнула на рэчку і збялела:

— Што гэта?! Лодка! — упаўголасу прахрыпела яна, потым штосілы залямантавала: — Лодка! Толічак, лодка! Людзі, сюды-ы!

Падбег спалоханы Анатоль:

— Што? Што здарылася, цётка Хаўрося?

Хаўрося паказвала рукой на рэчку і галасіла:

— Толічак! Вунь плыве Язэпава лодка! Адна! Без мужчын!

Яны як па камандзе пабеглі да рэчкі, Анатоль на бягу пытаўся:

— А дзе ж тата? Дзе дзядзька Язэп? Што ж гэта?

Хаўрося ліхаманкава, як пацеры, паўтарала:

— Толічак! Трэба злавіць лодку! Трэба яе перахапіць! Можа, яны ў лодцы заснулі ці п’яныя ляжаць. Толькі не прапусці лодку! Толькі затрымай яе! Апошняя надзея!

Анатоль азірнуўся навокал, шукаючы якога крука ці жэрдкі, але, не ўбачыўшы нічога, кінуўся ў вопратцы ў ваду, падплыў да лодкі, ухапіўся за борт і забраўся ў яе.

— Ёсць яны там ці не? — крычала з берага Хаўрося.

Анатоль узяўся за вёслы і, як прысуд, выціснуў з сябе:

— Пуста тут. Толькі іх вуды і рыба.

Хаўрося яшчэ больш залямантавала:

— Людзі, памажыце! Патапіліся, дурні! Ой, гора! Я ж ім казала, я ж іх прасіла, каб ім мазгі адсохлі, як яны мяне не паслухаліся! За што такая кара? Вой-вой!

Анатоль падвёў лодку да берага, выцягнуў яе на пясок і падышоў да Хаўросі, спрабуючы суцешыць яе:

— Цётка Хаўрося, супакойцеся, рана іх аплакваць. Вы ж самі казалі, што яны ў вадзе не патонуць.

— Мала што я казала! І ў Бога цярпенне канчаецца, і ў самай доўгай вяроўкі канец бывае... Колькі ж можна штукаваць? Ой, людцы мілыя, ой, аўдавела я!

На крык пачалі збірацца людзі.

— Што за лямант, Хаўрося? — спытаўся нехта.

— Патапіліся, дурні! Язэп і Сцяпан утапіліся! — скрозь слёзы тлумачыла Хаўрося.

— Ды яшчэ нічога невядома! — запярэчыў Анатоль.— Лодка вось прыплыла без таты і дзядзькі Язэпа... Але ж нічога невядома.

— А што тут невядомага? — здзівіўся другі аднавясковец.— Дзе вы чулі, каб лодка адна, без людзей, курсіравала па рацэ? Тут справа пахне натуральнымі тапельцамі.

— Не трэба панікі! — не стрымаўся першы аднавясковец.— Усплывуць, тады можна будзе паставіць кропку.

Жанчына, якая падышла пазней і моўчкі стаяла, выказала сваю дасведчанасць:

— Я чула, што тапелец усплывае толькі праз тры дні. А калі так, іх можа занесці аж у Чорнае мора.

З натоўпу пачулася катэгарычнае:

— Што ты пляцеш? Якое Чорнае мора? Калі хочаш ведаць, наша рэчка цячэ ў другі бок. Таму шукаць іх хутчэй за ўсё трэба толькі ў Балтыйскім моры.

Хаўрося схапілася за галаву:

— А божачкі! А мой Язэпік аж у Балтыйскім моры! Во даскакаўся!

— Ды супакойцеся вы! — пачуўся нейчы спакойны голас.— Будзьце аптымістамі! Калі пашанцуе, дык усё абыдзецца, зачэпяцца яны за тутэйшы корч... Спадзявайцеся на лепшае.

* * *

Сцяпан і Язэп амаль голыя прадзіраліся праз густы лазняк, праз чарот, часам правальваючыся па калені ў балота. Рукі і ногі ў іх былі паздзіраныя, усё цела пакусанае камарамі, пасля выпітай гарэлкі душыла смага.

— Нічога не відаць... Куды ісці? — скардзіўся Сцяпан.— Мне здаецца, што мы тут ужо былі...

Язэп заныў:

— Баюся, што мы збіліся з дарогі! Хоць якая тут дарога... А камары, сволачы, грызуць, як шалёныя сабакі,— жывога месца няма.

Сцяпан успомніў:

— Я недзе чуў, што ад камарыных укусаў трэба мазацца гразёю. Так робяць у Афрыцы бегемоты, а ў нас свінні.

— Дзе ты быў раней? — злуецца Язэп.— Чуў пра такое ратаванне і маўчаў! — Ён пачынае густа абмазвацца гразёю і падстаўляе Сцяпану спіну.— Памаж хутчэй мне спіну, афрыказнаўца!

Сцяпан таксама густа вымазаўся гразёю і між іншым параіў сябру:

— Ты і лысіну маж, можа, валасы пачнуць адрастаць.

Язэп не звяртаў увагі на сябрава скалазубства і з асалодай войкаў:

— Во-о-й! Вось гэта іншая справа! Надзейна, як у танку!

— Бегемоты, братка, не дурні! — пагадзіўся Сцяпан.

Праз некалькі хвілін сябры зрабіліся чорныя, як галавешкі, затое недасягальныя для камароў.

Язэп зірнуў на Сцяпана і ад здзіўлення разявіў рот:

— Не ведаю, як выглядае чорт, але ты страшнейшы за яго! Толькі рагоў не хапае... а магчыма, я памыляюся...

Сцяпан ускіпеў:

— У чым памыляешся?! У тым, што ў мяне рагоў не хапае?

— Ды не! — выкруціўся Язэп.— Памыляюся ў тым, што ты страшнейшы за чорта...

— Глядзі ў мяне! — азваўся Сцяпан.— Пайшлі! Няма часу гадаць, хто да каго падобны! Можна падумаць, што ты прыгажун!

Сябры пайшлі далей. Праз нейкі час пачулі наперадзе гаворку і дзявочы смех. Расхінуўшы асцярожна кусты, яны ўбачылі на беразе рэчкі гурт маладых дзяўчат і ста-

рую жанчыну. Дзяўчаты сядзелі абапал старой і трымалі ў руках лугавыя кветкі. Старая павучала:

— Каб вяночак у вадзе доўга не расплятаўся, трэба гэты палец закладаць сюды, а кветкі ўплятаць вось так. Бачыце? Так плялі вянкі на Купалле і мае бацькі, і бацькі маіх бацькоў...

Адна дзяўчына з захапленнем усклікнула:

— Ой, дзяўчаткі, заўтра Купалле! Як я чакаю чагосьці незвычайнага! Няхай бы адбыўся цуд!

Старая жанчына пацвердзіла:

— Чаму ж не! Бываюць і цуды! Вось я, напрыклад, тры разы выходзіла замуж, і ўсё — па любові. Куды потым яна знікала — невядома. Відаць, нячысцік маё жыццё каламуціў...

— А якую прымаўку трэба казаць на Купалле, калі пускаеш вяночак па вадзе? — пацікавілася другая.

— Трэба, дзіцяткі, казаць:

Плывіце, вяночкі квяцістыя,
Адпужвайце сілу нячыстую,
Няхай маё шчасце не бавіцца
І хутка мой суджаны з’явіцца!

Сябры за кустамі пераглянуліся:

— Людзі да Купалля рыхтуюцца, а мы тут без штаноў тырчым... Трэба спытацца ў іх, дзе мы ёсць.

Ад рэчкі зноў пачуўся голас маладой цікаўніцы:

— А што, баба Аўдоцця, акрамя суджанага, можа і нячысцік з’явіцца?

Старая схамянулася:

— Чаму ж не? Суджанага можна чакаць усё жыццё і не дачакацца, а нячыстая сіла не спіць у шапку. Нячыстая сіла з жанчыны вока не спускае. Нячысцік вырастае знянацку, як з-пад зямлі...

Раптам расхінуліся кусты і з іх з трэскам выйшлі на бераг два чорныя страшыдлы. Не паспелі яны раскрыць

рот, каб прывітацца ды запытацца, як іх аглушылі піск і жахлівыя крыкі:

— Нячысцікі! Ратуйцеся! Згіньце, пачвары! Свят! Свят!

Адна дзяўчына кінулася ў рэчку, баба стаяла на каленях і хрысцілася.

— Бяжым адсюль! — Сцяпан тузануў Язэпа за руку, і яны зніклі гэтак жа нечакана, як і з'явіліся.

Баба Аўдоцця ўстала з каленяў і гукнула перапалоханых дзяўчат:

— Не бойцеся, дзіцяткі! Я іх абклала святым хрышчэннем і адагнала Боскімі пацерамі... Але такое на маім доўгім вяку — упершыню.

Пакуль сябры пятлялі па чаратах ды балотах, іх родная вёска гула: не кожны дзень знікаюць бясследна два чалавекі. То ля той, то ля іншай хаты можна было чуць:

— Лодка прыплыла без іх, якія могуць быць варыянты? Патапіліся!

— Ды загулялі яны недзе! Гарэлкай вочы залілі і спяць!

— А маглі і да другіх баб падацца. Хто ж не марыць змяніць старую на маладую? Закінулі вуды, а самі на Бермуды! — такое выказвалася, калі паблізу была Данута ці Хаўрося.

А сябрам было не да жартаў. Сілы пакідалі іх, а канца блуканням не было відаць. Нарэшце, надвячоркам, сябры выбіліся на нейкую не дужа бойкую дарогу.

Сцяпан акрыяў духам:

— З дарогі я ні кроку! Некуды яна нас выведзе!

Сябры трымалі для палёгкі доўгія кіі ў руках, а Язэп чамусьці напхнуў пад трусы асакі, таму выгляд меў натуральнага туземца з кап'ём. Улічваючы, што з часам гразь месцамі абсыпалася, нашых падарожнікаў пабіла на плямы, і гэта надавала ім яшчэ больш экзатычны выгляд.

Раптам пачулася нейкае тарахценне, якое хутка набліжалася.

— Матацыкл! Хавайся! — крыкнуў Сцяпан, але было позна, бо насустрач, з-за павароткі, імчаў матацыкл. Матацыкл рэзка спыніўся, і сябры аслупянелі: на ім сядзеў участковы ў форме. Ён уважліва і падазрона агледзеў незнаёмцаў і спытаўся:

— Хто такія будзеце? Адкуль?

Сцяпан пачаў заікацца:

— Мы... гэта... ест турыст... Мы, гэта... вас іздас... Ху-юду-юду.

— Мы Афрыка... Афрыка...— замармытаў Язэп.

— Ого! Вы з Афрыкі?! — здзівіўся ўчастковы.

Язэп заківаў галавой:

— Афрыка... Мы Афрыка...

— Пешшу з Афрыкі? Такую далеч? — яшчэ больш здзівіўся міліцыянер.

Сцяпан крыху асмялеў:

— О, ест! Пешшу! Наша племя ходзіць толькі пешшу, ёлкі-палкі!

Участковы паспачуваў:

— Я б вас, таварышы афрыканцы, падвёз, але я спяшаюся па службе. Ну, дык бывайце! Свабоду каланіяльным народам! Ганьба капіталістам!

Сцяпан па-піянерску адсалютаваў:

— Рот-фронт, таварышч!

— Жыве Беларусь! — адсалютаваў і Язэп.

Матацыкл фыркнуў і паімчаў прэч, сябры пераглянуліся.

— Хух! Ледзь не ўліплі! — выдыхнуў Язэп.

— Вось што значыць ведаць замежную мову! Ху-юду-юду! — з гонарам сказаў Сцяпан.— А цяпер па гэтай дарозе, пакуль не сцямнела зусім, націснем на пяты!

Даволі хутка наперадзе паказалася нейкая вёска. Дзе-нідзе ў вокнах гарэла святло.

Сцяпан настойваў на сваім:

— Хопіць нам блудзіць ды ад людзей хавацца! Пайду і спытаюся, дзе мы ёсць, куды нас занесла?

— Забыўся пра дзяўчат на беразе рэчкі? — адгаворваў сябра Язэп.— Ты зойдзеш у такім выглядзе ў хату — людзі ў вокны дадуцца ці чапялой будуць бараніцца. А возьмуць і ўвогуле ў дурдом здадуць.

Сцяпан падхапіў сябраву думку:

— А ты ведаеш, што мы вартыя таго, каб нас здалі ў дурдом?

— За што гэта? — здзівіўся Язэп.

— А за тое, што мы шукаем ветру ў полі — шукаем дарогу дамоў, замест таго каб выйсці да рэчкі і паплысці ўніз — плынь сама нас данясе да нашай вёскі. Ну, ці не дурні ж мы?

— А на чым загадаеце плысці, панове? — пацікавіўся Язэп.

Сцяпан паказаў:

— Вунь колькі платоў стаіць! Рэквізуем некалькі пралётаў — вось табе і плыт. Дарэчы, вунь і нечая бялізна з адзеннем сохне, не ехаць жа нам галяком дахаты.

— Не! — запярэчыў Язэп.— Плот зламаць — адна справа, а адзення красці я не буду! Лепш галяком паплывём!

— Не дык не! — згадзіўся Сцяпан.

Калі сябры майстравалі ля рэчкі са штыкецін і жэрдак плыт, гаспадар гэтага плота, усхваляваны, зайшоў у хату і разгублена звярнуўся да жонкі:

— Сказаць табе па праўдзе, я ў чарцей не надта веру, але толькі што два чарцюкі ламалі наш плот... Вось гэтымі вачамі бачыў! Дзіва!

Жонка, не адрываючыся ад сваёй работы, абыякава кінула:

— Піць трэба меней!

* * *

Вечарам у Сцяпанавай хаце адчувалася напружанасць, усе былі без настрою.

Анатоль парушыў маўчанне:

— Мама, мы так чакалі Купалля, няўжо будзем сядзець дома?

— А што загадаеш рабіць? — азвалася Данута.— Бацька прапаў, а мы на свята? Якія могуць быць гулі, калі душа збалелася?

Люба нясмела прапанавала:

— Ну, няхай іншыя святкуюць, весяляцца, а мы толькі пабудзем, пастаім збоку ды паглядзім. Няхай хоць Сцяпанка падзівіцца.

Раптам у хату зайшла Хаўрося, таксама заплаканая.

Данута кінулася да яе:

— Хаўрося, што рабіць? Дома сядзець, ці што?

Хаўрося цяжка ўздыхнула:

— Ты думаеш, мне свята ў галаве? Але і дома нічога не выседзіш. Ды і не пахавалі ж мы іх...

Данута згадзілася:

— Ну, тады збірайцеся. Ціхенька, збоку ад людскіх вачэй пастаім. Мы сапраўды яшчэ не ўдовы.

Свята набірала моцы. Святочна прыбраныя, усхваляваныя людзі запоўнілі бераг рэчкі, дзе ўжо палалі вялізныя вогнішчы. Моладзь вадзіла вакол іх карагоды, чуліся спевы, музыка. Самыя адчайныя пераскоквалі праз агонь, некаторыя дзяўчаты пускалі на ваду вяночкі з кветак з запаленымі свечкамі — відовішча было незвычайнае.

Сцяпанка на руках у бацькі радасна ўсклікнуў:

— Якая прыгажосць! Зірніце!

— Прыгажосць, унучак, прыгажосць... Няхай бы твой дзед пабачыў,— выдыхнула Данута.

Ад берага пачалі адпіхваць плыты з запаленымі на іх агнямі, і карагод вогненных плытоў дадаў незвычайнай харашыні гэтаму святу.

Частка моладзі падалася ў лес, не столькі каб шукаць папараць-кветку, колькі выканаць таямнічы рытуал.

Раптам з-за лукі выплыў нейкі плыт, на якім стаялі... Ніхто не мог зразумець, хто на ім стаіць — нейкія два

страшыдлы. На беразе запанавала напружаная цішыня. Першым схамянуўся ўчастковы, ён высока ўзняў руку:

— Увага, таварышы! Не пужайцеся! Я пазнаў іх — гэта пасланцы далёкай Афрыкі! Гэта дзеці каланіяльных народаў! Яны — ахвяры капіталізму!.. Сюды, таварышы афрыканцы! Плывіце да нас, мы з вамі ў вашай барацьбе! Свабоду каланіяльным народам!

— Толькі тут нейкіх афрыканцаў не хапала,— скрывілася Данута.

Хаўрося яе падтрымала:

— Добра, калі гэта простыя афрыканцы, а не іхнія шаманы, бо пачнуць тут шальмаваць ды варажыць.

З плыта пачулася:

— Ху-юду-юду! Рот фронт! Вас іздас, ёлкі-палкі!

Данута здзівілася:

— Акцэнт афрыканскі, а галасы нейкія знаёмыя...

— Хадзем бліжэй! — прапанавала Хаўрося.

Плыт торкнуўся ў пясок, і «афрыканцы» ступілі на бераг. Да іх падбег з караваем участковы:

— Хлеб-соль вам на нашай заможнай зямлі!

Сябры сквапна адламалі па кавалку каравая і пачалі есці:

— Соль не трэба, а за хлеб дзякуй, надта ж есці хочацца! Але больш за хлеб хочацца пабачыць вашых дзвюх прыгожых удоў — Дануту і Хаўросю! — І сябры праз натоўп накіраваліся да сваіх жонак.

Хаўрося разгубілася і тузанула за рукаво Дануту:

— Чула? Пра наша гора ведаюць ужо ў Афрыцы!

— У якой яшчэ Афрыцы? — злосна азвалася Данута.— Ты што, не пазнала? Гэта ж нашы прайдзісветы!

З натоўпу чулася:

— Ха-ха-ха! Гэта ж Сцяпан і Язэп! А якія арыгінальныя касцюмы прыдумалі! Ну, малайцы!

Мужчыны падышлі да жонак, і Сцяпан раскланяўся перад Данутай:

— З усёй афрыканскай страсцю прыміце нашы купальскія віншаванні!

— Вас іздас! — дадаў Язэп.

Данута не стрымалася, схапіла нейкую хусціну і пачала лупцаваць Сцяпана:

— Зараз я цябе так вас іздас, што век будзеш помніць нас!

Язэп, як шкадлівы вучань, зазірнуў Хаўросе ў вочы:

— І ты будзеш мяне вас іздас?

Хаўрося абняла мужа:

— Дзякуй Богу, жывы!

— Дык гэта вы? Зноў вы? — падбег, засягаўшыся, участковы.

— Свабоду каланіяльным народам! — засмяяўся Сцяпан.

Свята працягвалася да раніцы.

* * *

У Сцяпанавай хаце спакой і нетаропкасць змяніліся мітуснёй і нервовай напружанасцю, якая бывае падчас расставання блізкіх людзей. Анатоль і Люба складалі чамаданы, сумкі, рыхтаваліся да ад’езду. Сцяпан і Данута моўчкі назіралі за зборамі, зрэдзь даючы свае парады і заўвагі.

— Сынок, не забудзься на фотаапарат ды плёнкі праяві,— падказаў Сцяпан.

— Ужо паклаў, тата... Фотакарткі прышлю пазней...

Сцяпанка даў Любе нейкую драўляную цацку:

— Гэта падарунак дзеда. Пакладзі,— і сам паклаў у чамадан.

Данута склала рукі і сумна разважала:

— Чаму так хутка ляціць час? Здаецца, учора адчыніліся дзверы і ўвайшлі вы...

Люба нявесела дапоўніла:

— Атрымліваецца так, быццам існуюць толькі два дні: дзень прыезду і дзень ад’езду — астатняе пралятае, як сон...

— Тата, а што з машынай? — занепакоіўся Анатоль.— Да станцыі давязуць нас?

— Машына ўжо чакае на двары,— супакоіў Сцяпан.— Не спяшайцеся, часу хапае. Галоўнае, каб не забыліся чаго патрэбнага.

— Забудземся — праз год забяром,— адказала Люба.

Нарэшце, перацалаваўшыся і пасядзеўшы хвілінку перад дарогай, выйшлі на вуліцу, дзе сабраліся амаль усе вяскоўцы, сярод іх — Язэп з Хаўросяй і баба Ганна з дзедам Аўдзеем.

— Ого, колькі людзей прыйшло праводзіць нас! — здзівіўся Анатоль.— Вось дык дзякуй!

— А ты думаў што? У нас усё па-людску! На гэтым і стаім! — заганарыўся Сцяпан.

Данута падпіхнула яго ў спіну:

— Стаіш ты! Нясі чамадан у машыну, а не стой!

Калі ўсе рэчы былі загружаны ў машыну, Анатоль і Люба са Сцяпанкам на руках, у суправаджэнні «світы» — Сцяпана і Дануты, пачалі абыходзіць усіх па чарзе і развітацца. Анатоль цiснуў усім руку, дзячыў за гасціннасць, Люба з некаторымі нават цалавалася. Чуліся шчырыя словы:

— Шчаслівай дарогі! Дзякуй вам за ўсё! Не забывайцеся на нас!..

Хаўрося звярнулася да бабы Ганны:

— А вы чаму не заходзілі ў хату развітацца?

— А яны раніцай забягалі да нас і развіталіся,— адказала Ганна.

Хаўрося нахілілася да Язэпа і шаптанула:

— Чуў? Забягалі «да нас»?

Люба і Анатоль падышлі да бабы Ганны, яны яшчэ раз абняліся. Люба паглядзела праз плячо сваёй бабулі на дзеда Аўдзея, потым звярнулася да яго:

— Няхай з вамі, акрамя ўспамінаў, жыве цяпло чалавечай душы!

— І вам, залаценькія, самага лепшага! — адказаў дзед.

Затым падышлі да Язэпа і Хаўросі.

Анатоль абняў Язэпа:

— Ну, дзядзька Язэп, бывайце і не забывайце! Дзякуй вам за ўсё і за салюты таксама!

Сцяпан узмаліўся:

— Толькі сёння не трэба тваіх салютаў, Язэп! Дай дзецям спакойна ад'ехаць, бо ці машыну спаліш, ці ўсю акругу перапалохаеш!

Язэп падняў рукі, пакруціў пальцамі:

— Вось, голыя рукі! Стаю, як і ўсе! Ніякіх салютаў!

— Бывайце здаровыя, цётка Хаўрося! — пакланілася Люба.— Бывайце, людзі добрыя!

Госці садзяцца ў машыну, і яна кратаецца.

— Шчаслівай дарогі! — махае рукой Сцяпан.

— Да новых сустрэч! — выцірае вочы Данута.

Раптам уздоўж дарогі з двух бакоў машыны шуганулі з зямлі рознакаляровыя агні, пачуліся трэск і шыпенне. Машына рэзка спынілася, бо ўсе чатыры колы спусціліся да самых абадоў. З машыны выскачыў разгублены шафёр і схапіўся за галаву.

Сцяпан падскочыў да збялелага Язэпа:

— Я ж прасіў цябе: не трэба салютаў! Дай дзецям спакойна ад'ехаць!

Язэп вінавата лыпаў вачыма:

— Ну, бывае... Ну, не туды паляцела...

Да іх падбегла раззлаваная Данута:

— Што цяпер рабіць? Як выкручвацца?

Язэп рашуча супакоіў суседзяў:

— Я нарабіў, я і разраблю! Хаўрося, дзе мой шасцісоты «мерседэс»?

* * *

Па дарозе да станцыі весела коціць падвода. Язэп па-заліхвацку памахвае на каня пугай, цмокае і балаболіць:

— Нічагусенькі! У самую пару паспеем! На перон, да вагона з шыкам дастаўлю!

На падводзе, між клункаў, сядзяць Анатоль з Любай і Сцяпанка.

Анатоль удзячна адказвае кіроўцу «мерседэса»:

— Вось дзякуй, дык дзякуй! Што б мы рабілі без вас, дзядзька Язэп?

Падвода аддаляецца, і скрозь пыл відаць, як адлятае задняе кола і коціцца ў кусты. Чуецца разгублены голас Язэпа:

— Прыехалі...

# Пярэзвы

Вяселле падыходзіла да канца. Хто хацеў — напіўся, хто жадаў — наскакаўся і наталіў душу спевамі, а той, хто, на яго разуменне, недабраў, працягваў пакрысе дадаваць і таго, і другога, і ўсяго іншага.

Маладыя, Мікола і Галіна, вылезлі з-за стала і праводзілі гасцей, выслухоўваючы шчодрыя пажаданні і падзякі. Тут жа руплiва тупалі і бацькі маладых — цяпер ужо — сваты.

Матрона, маці Міколы, і Пракоп, яго бацька, былі поўнай процілегласцю адно аднаму. Матрона — агонь. Рухавая, языкастая — пальца ў рот не кладзі. Пракоп — ціхі, памяркоўны. Яму каб хто і паклаў у рот палец, ён яго нават не заўважыў бы. Ды і з выгляду яны былі непадобныя. Матрона — камлюкаватая, рослая, Пракоп — хударлявы, нэндзлаваты.

Што да бацькоў Галіны, тут было наадварот. Антон — шумны, востры на язык, ганарлівы, росту высокага. Любіна — зграбная, сціплая, лагодная, больш ахвочая да работы, чым да пустазвонства.

Госці спярша падыходзілі да маладых, пасля да Міколавых бацькоў, а ўжо апошнім, як гаспадарам гэтай хаты, дзячылі Антону і Любіне. Чулася з усіх бакоў:

— Яшчэ раз шчасцейка вам, лялечкі вы нашы!

— Ой, як весела было, ажно дух заняло!

— Мікола, шануй Галіну, але не папускайся!

Мікола весела аджартоўваўся:

— О-о, мая Галінка — галубіца! Ну як мне ёй не папусціцца?!

Хтосьці з гасцей звярнуўся да маладой:

— А ты, Галіна, трымай Міколу, як Сіўку за грыўку! Наравісты конь, як на ветры агонь!

Галіна, як і Мікола, па слова ў кішэнь не палезла:

— А гарачы конь воку прывабны — ці ж варта яго трыножыць!

Працягвалася развітанне, шумная гамонка:

— Дабранач, Пракопе, а ты, Матрона, баба ядрона!

Госць адразу ж атрымай здачу ад Матроны:

— Я баба ядрона, але не для такога Сымона!

Антон абняў Матрону:

— Ну як тут не пацалаваць свацейку!

— Каторы ўжо раз цалуеш, людзей пабойся! — папракнула мужа Любіна.

Госці сыпалі з усіх бакоў, не перастаючы:

— Эх, Антон! Здароўя табе поўную запазуху! Як я цябе люблю!

— Дзякуй, Любіначка, дзякуй, гаспадынечка!

— Адыходжу, а душачка гарыць — столькі гарэлкі засталося!

— А хрэсьбіны калі? Не адкруціцеся!

Мікола і Галіна — у адзін голас:

— І на хрэсьбіны запросім, і на залатое вяселле!

Госці развітваліся, цалаваліся, перабівалі адно аднаго, хтосьці заспяваў:

Колькі выпіў на вяку,
Сказаць не бяруся.
Я ад жонкі уцяку
І сюды вярнуся!..

Нехта з падпітых мужчын падхапіў:

Ды і мной за карачак
Выліта не мала,
А ніводна з чарачак
Упоперак не стала!..

Антон гарэзліва абняў за плячо Матрону і зычна абвясціў:

— Увага! У каго заўтра будзе балець галава — ста-

лы застануцца на месцы, а гарэлка, спадзяюся, за ноч не скісне! Праўда, свацейка?

— Чысцюткая праўда, сваток! — лісой азвалася Матрона.

Нарэшце штурханіна выціснулася на двор. Праз адчыненыя дзверы да гасцей далятаді апошнія пажаданні і падзякі гаспадароў:

— Шчаслівай дарогі, няхай вас трымаюць ногі! Яшчэ раз дзякуй вам, суседзі!

У хаце пацішэла, гасцей значна паменела. У самым канцы сталоў яшчэ гаманілі тыя, хто недабраў. Адзін, відаць, нават перабраў, бо галаву паклаў на стол, паміж талеркамі.

На выхадзе, ля дзвярэй, засталіся маладыя і іх бацькі.

Матрона зазбіралася:

— Ну, добра, што ўсё добра...

Антон ушчыкнуў за бок Матрону:

— А інакш і быць не магло!.. Э-эх! Ці ж гэта грэх!

— Перад людзьмі сорамна,— з дакорам зірнула Любіна на мужа.

Матрона штурханула ў каршэнь мужа:

— Запрагай каня!

— Запрэгчыся — адна хвіліна,— адказаў Пракоп і пачаў збірацца.

Любіна падышла да дачкі, абняла яе, пусціла слязу, потым звярнулася да сватоў:

— Пабылі б яшчэ, вам жа ехаць нейкая гадзіна, не болей...

— І то праўда,— падтрымаў Антон.

— А вам з дачкой расстацца страшна? Не з’ямо яе! — усміхнулася Матрона.

Мікола падышоў да Любіны:

— Не пакрыўдзім Галінку, будзе ў нас як дома.

— Бач, да цешчы падлізваецца! — зарагатаў Антон.— Хітрэц зяцёк!

— А што яму падлізвацца,— не стрымалася Матрона,— пасаг да нас учора пераехаў.

Мікола абняў Галю:

— Мой галоўны пасаг — вось ён!

Любіна насцярожана спыталася:

— А падушкі і пярына ці спадабаліся?

Антон спахапіўся:

— Божачкі! Пачакай ты са сваімі падушкамі! За пустым ледзь галоўнага не ўпусціў! Во галава!

— Што, тата? Што-небудзь важнае? — устрывожылася Галя.

Антон ляснуў даланёй сабе па лбе:

— Важнейшага не бывае!.. А на дарогу! Во галава! Галавешка-даўбешка!

Матрона катэгарычна прамовіла:

— Садзіцца за стол не будзем! Вяртацца нельга нават ад дзвярэй — не пашанцуе! Стоячы адпасашкуем.

Антон весела ўсклікнуў:

— Ха! Болей улезе! Любіна, паднясі закусіць, а я арганізую астатняе. Зяцёк, дапамагай! Упрагайся ў работу, прывыкай!

Любіна папярэдзіла зяця:

— У такую работу няма чаго ўпрагацца! Не слухай яго, Мікола, трымайся ад гарэлкі далей — з яе ўсё ліха!

Мікола супакоіў:

— Ды я так... за кампанію...

Пачуўся бадзёры голас Пракопа:

— Добра, што я не пайшоў запрагацца!

— А то мы б заплакалі без цябе! — куснула Матрона мужа.

Усе ўзялі налітыя кілішкі. Любіна выцерла мокрыя вочы, у Галі таксама блішчэлі слёзы на вачах.

— Ну, дзеткі, за згоду! — сказала скрозь слёзы Любіна.

— За лад у сям’і! — пажадаў Пракоп.

— За нашу пародненасць! — падтрымала Матрона.

— За ўсё разам, ад усіх разам! — грымнуў Антон.

На другім канцы сталоў, дзе некалькі мужчын «даспявалі», пачулася: «Ура! І мы разам з вамі!..»

— За нашу сям'ю! — працягваў Мікола.

— За шчасце і каханне ў ёй! — падняла кілішак Галя.

Антон зычна патлумачыў:

— Э, не! Пасашковая п'ецца за дарогу без ухабаў, каб не паламалі скабаў, ды за вецер спадарожны, каб дамоў вярнуўся кожны! Карацей — і за згоду, як з лёду, і за лад выпіць рад!

Любіна хістанула галавой:

— Ну і язычок, як смычок!

— Ну, шчасця вашаму дому, паедзем к сваёму! — развіталася Матрона.

— Да сустрэчы, сваты! Пайду з хаты першы і запрагу каня,— сказаў Пракоп і хацеў выйсці.

Матрона зноў дала ў каршэнь мужу:

— Ты яшчэ тут, гора ў анучах?! Ану марш да каня!

— Э-э, не! — запратэставаў Антон.— Пойдзем з хаты ўсе разам, трэба ж на дварэ выпіць аглаблёвую! Наперад, да аглаблёвай! — І ён узняў над галавой бутэльку з гарэлкай.

Любіна развяла рукамі:

— Табе то аглаблёвую, то хамутовую... Якую ты яшчэ выдумаеш?

Антон весела зазначыў:

— Вось правядзем сватоў і дзяцей, а там пабачым, што прыдумаць. Наперад, да аглаблёвай!

І ўсе выйшлі. У хаце засталіся толькі тыя, хто ніяк не мог дайсці да кандыцыі. Яны падчас развітання спраўна налівалі сабе і паціху між сабой гаманілі. Цяпер, застаўшыся адны, яны таксама загулі:

— А мы і без аглаблі ляснем аглаблёвую!

— Не! Дачакаемся Антоську, з ім і ляснем!

— І што за дзіўны стол, ніяк не магу ад яго адарвацца!

— А кажуць, нейкі швецкі стол існуе... быццам, недзе ў Швецыі, таксама, кажуць, багаты...

— Ты што? Куды таму швецкаму да тутэйшага? Тут табе і бульбачка, тут табе і капустка з салам... А там, пэўна, і свінні не водзяцца, і бульба не родзіць...

Хтосьці з гасцей заспяваў:

А я жонку абдуру,
Як дамоў вярнуся —
Я прылягу, не памру,
Толькі прытваруся...

Другі голас падцягнуў:

Я для працы берагу
У кабылы сілы.
Лепей жонку запрагу
Заместа кабылы...

За сталом пачуўся рогат, хтосьці запляскаў у далоні і зазначыў:

— З такімі музычнымі гландамі не на трактары трэба трэсціся, а са сцэны не злазіць!..

Адчыніліся дзверы, і ў хату вярнуліся Антон і Любіна. Антон паставіў на стол бутэльку і кілішкі.

Любіна засмучана паглядзела на стол і паківала галавой:

— Ох-ох-ох! Здаецца, трэба радавацца, а слёзы засцілаюць вочы... Здаецца, паляцела б...

— Та-а-ак! — пацёр далоні Антон, быццам жонка нічога не казала.— Самы раз павячэраць! Чарвячка прымарыць!

— Сюды, Антоне, сюды, браток! — у адзін голас запрасілі да сябе запозненыя госці.— Пасля аглаблёвай — самая вячэра пачынаецца!

— І то праўда! — падсеў да іх Антон.— Любіна, а ты?

Любіна махнула рукой, адвярнулася і заплакала.

— Не плач, суседка, мы ж не плачам,— супакойвалі яе госці.

— Няхай! — спакойна сказаў Антон.— Жаночыя слёзы, як і дождж, на ўраджай — прыкмета такая ёсць.

Хтосьці з гасцей прапанаваў:

— Ну, тады вып’ем за...

— Хопіць тостаў! — перабіў Антон.— Нагаварылі за гэтыя дні столькі, аж мазгі перакасіліся.

Мужчыны выпілі моўчкі, палезлі відэльцамі ў талеркі. Любіна прыклала далоні да шчок, быццам ёй балелі зубы, з нейкім зачараваным жахам стаяла і глядзела на сталы. Потым услых пачала разважаць:

— Справіць вяселле, усё прадугледзець і дагадзіць людзям — справа адказная. Яшчэ трэба падумаць, ці ёсць для маці больш адказная справа, чым прыстойна і годна выдаць дачку замуж...

На другім канцы сталоў мужчыны прыцішыліся, пераміргнуліся, а Антон кіўнуў сябрам на жонку:

— Чытае пацеры... Толькі ў яе адной адказнасць...

— Няхай, няхай! — азваліся госці.— У нас тут свая адказнасць, у нас яшчэ порах ёсць на стале...

Любіна заклапочана звярнулася да гасцей:

— Мужчынкі! Ну як прайшло вяселле? Ці ўсё добра было? Ці ўсім задаволеныя?

Той, чыя галава ляжала між талерак, адарваў яе ад стала і запытаўся:

— А што, вяселле ўжо прайшло?.. А калі яно паспела?..

Астатнія паставілі вочы тырчком і загаманілі:

— Во вяселле! Са знакам якасці! Кожны б дзень такое!

Праўда, адзін прыплюснуў вока і прамармытаў:

— Я яшчэ не зразумеў... не распробаваўся...

Любіна звярнулася да мужа:

— Антось, а ты як бацька што скажаш?

Антон сакануў далонёй паветра:

— Баба з хаты — падлозе лягчэй! Пайшла і няхай жыве! Не яна першая, не яна апошняя!

Мужчыны зычна і нястройна заспявалі:

Гэй-гой! Гэй-гой! Пасля першай па другой!
Гой-гэй! Гой-гэй! Вып’ем трэцюю хутчэй!..

Любіна апусцілася на лаву і зноў заплакала:

— Як пуста зрабілася ў хаце без дачушкі...

— А мы? Мы ж у хаце засталіся, суседачка! — азваліся госці.

Антон секануў даланёй:

— Пуста?! Яна адрэзаная луста! Не сядзець жа ёй у дзеўках пад тваёй спадніцай вечна. Вось і ўсё пуста!

Мужчыны зноў зацягнулі на свой лад:

Пасля трэцяй пятую
За куццю багатую,
За шчасліву долечку
Шмат разоў па столечку!..

Любіна падперла рукой галаву і працягвала:

— Эх, дачушка-дачушка! Няхай бы вы ў нас засталіся жыць... Дык не, заўпарціўся зяцёк...

На другім канцы сталоў хмыкнуў Антон:

— Які ж дурань хоча быць прымаком ды цешчы ногі мыць?

— Ды катб на «вы» называць,— уткнулі сваё госці.

— А ты? Ты ж прыйшоў да мяне жыць! Забыўся? — укалола Любіна.— І прымаком стаў, і карона з галавы не звалілася... Ды яшчэ вунь як кавырсуеш!

— Ты мяне не падмешвай! — адбіўся Антон.— Я ў свой час зрабіў ход канём! Гісторыя мяне апраўдае...

Госці ажывіліся:

— Вып’ем за гісторыю! І за геаграфію!..

Любіна не сунімалася:

— Эх, дачушка-дачушка! Свякрусе дагадзіць — трэба ніжэй травы хадзіць...

Антон зарагатаў:

— Ды якой свякрусе! Матроне! О-го-го!

Антонавы сябры ўставілі свае тры капейкі:

— Яна ж грызам загрызе нявестку!

— Што ты! Ядавітая, як мухамор!

— О-о, злыднюга! Яе Пракоп, кажуць, у сне дзікім крыкам крычыць!..

Любіна павярнулася да Антона:

— Як я ў цябе: ці жонка, ці служанка... Адна ласка.

— Жонка павінна хадзіць па адной масніцы! — грозна прамовіў Антон.

— Пахадзіла б перад табой Матрона... Ты сам перад ёю на адной назе вытанцоўваў бы,— адбілася Любіна.

— Ха! — усклікнуў Антон.— Аб'ездзіць такую наравістую... прабачце, кабылу — чым не гонар для ездака?

— Гонар! Гонар! — загулі сябры.— Аб'ездзім! Закілзаем!..

Любіна папракнула мужа:

— Я і бачыла, што твае вочы прыклеіліся да яе — не адарваць...

— Вочы для таго і ёсць, каб бачыць прыгажосць! — адказаў Антон і падняў кілішак.— Правільна, дружбаны?

— Як ёсць правільна! Каб ты быў здаровы, як правільна! — падтрымалі сябры.

Антон заспяваў:

Пасля пятай сёмую
За ласку незнаёмую!..

— Табе весела,— хістанула галавой Любіна і зноў забедавала: — Эх, дачушка-дачушка...

Антон не даў дагаварыць:

— Дачушка, як птушка, вырасла — і з гнязда! Радавацца трэба, а ты бурбалкі пускаеш...

— Я — маці!

— А я — бацька! — ганарліва падкрэсліў Антон.— А як я сватам нос падцёр сваім сталом! Во стол! Правільна, дружбаны?

— Як ёсць правільна! Падцёр Матроне нюхаўку! Вось што ядзім! — падняў на відэльцы адзін з сябрукоў кавалак самаробнай каўбасы.— Вось! Пальцам пханая!

Антон зноў заспяваў:

Пасля сёмай восьмую,
Восьмую, наступную,
За ласку непрыступную!..

Нарэшце Антонавы сябры, як кажуць, загрузіліся пад самую завязку і пачалі развітвацца, цалуючы гаспадароў:

— Каб ты, Антосік, быў здаровы, як я цябе люблю!

— Каб у тваіх штанах не пераводзілася багацце — поўныя табе кішэні грошай!

— Бывай, Любіначка! Дзякуй за чарачку і гутарачку!

Калі госці пакінулі хату, Антон выдыхнуў:

— Хух! Самы раз павячэраць!

— Не навячэраўся! — здзівілася Любіна.— Апошнія дні то ў сватоў, то дома мокнеш у гарэлцы...

— Ты — баба, таму нічога не разумееш. Я гэтыя дні толькі прыкусваў, набіраў разгон...

Раптам абняў жонку і заспяваў:

Пасля пятай сёмую
За ласку незнаёмую!..

Любіна выслабанілася:

— Хоць бы дачушка, Галінка-крывінка наша, была шчаслівай... Як ты думаеш, Антосік?..

— А наш стол быў за-а-акрунтасты! — ганарліва зазначыў Антон.— Падцёр я ім нос!

— Антон, я табе пра адно, а ты мне пра дзесятае,— пакрыўдзілася Любіна.— Быццам не дачку аддалі чужому чалавеку, а...

— Якому чужому?! — перабіў жонку Антон.— Мікола — хлапец прыкметны ды фацэтны. І бацькі яго людзі як людзі... Праўда, куды ім да мяне? Наш стол быў

ку-у-ды закрунтасцейшы? О-о! Не нарадзіўся яшчэ такі чалавек, які абскакаў бы Антона Ерчака!

— І іх стол быў неблагі... Чым табе не давыкрунтасілі сваты? — прымірэнча прамовіла Любіна.

— А Матрона, хоць і чортам падшытая, але баба з выкрунтасамі,— гнуў сваё Антон.

— Цьфу! — плюнула Любіна.— Сораму ў цябе няма. Такая падзея ў жыцці адбылася, столькі перажыванняў навалілася, а ты...

— З табой і пажартаваць нельга,— сказаў Антон,— сама глянь, які ў нас стол! Колькі ўсяго засталося — тыдзень гуляць можна!

Любіна ўздыхнула:

— Дзякуй Богу, усяго хапіла, але трэба думаць ужо не пра гэты стол, а пра наступны — праз тыдзень.

— А што праз тыдзень? — насцярожыўся Антон.— Како будзем жаніць ці Жучку замуж аддаваць?

— Ты быццам толькі нарадзіўся! — здзівілася Любіна.— Праз тыдзень пярэзвы. У наступную нядзелю мы запрашаем сватоў з дзецьмі да сябе на пярэзвы, а яшчэ праз тыдзень — яны перазываюць нас да сябе. Што тут незразумелага?

— На якога ражна патрэбны твае пярэзвы? — запярэчыў Антон.— Дзе такое напісана?

— Не мы іх прыдумалі, не нам іх і адмяняць,— настойвала Любіна,— я ўжо і са сваццяй перагаварыла.

— З Матронай? З той грызадубкай?.. А чаму мы першыя? Няхай яны нас завуць! Наш стол быў закрунтасцейшы.

— Быццам ты не ведаеш, чаму мы першыя запрашаем?

— Забі — не ведаю! — ускіпеў Антон.— Што, наша дачка горшая за іхняга смаркача?

— Не ведаеш, і не трэба... А ўрэшце, якая розніца, была б дачка шчаслівая з Міколам... а табе, чый стол быў закрунтасцейшы ды чыя чарга...

— А як гэта ты за маёй спіной, без майго дазволу запрасіла сватоў на пярэзвы? — насядаў Антон.

— Супакойся! Я ж толькі са сваццяй мімаходзь перакінулася словам, а запрашаць іх будзем разам... З твайго дазволу.

— А-а! — супакоіўся Антон.— Мы першыя дык мы... Пярэзвы дык пярэзвы... Але я ім зноў нюхаўку падатру.

* * *

У суседняй вёсцы, у хаце Пракопа, на стале стаяў самавар. Матрона падносіла кавалкі вясельнага каравая, кубкі, цукар.

Адчынілася дзверы, і ўвайшоў Пракоп.

— Распрог каня? — папыталася ў яго Матрона.

— І распрог, і напаіў з дарогі,— адказаў Пракоп, потым сам папытаўся: — А дзе ж Мікола з Галяй?

— Пераапранаюцца ў сваім пакоі,— і паказала на дзверы ў другую палову хаты.— Дзе ж ім быць?

Пракоп павесіў шапку на цвік, стомлена сеў на лаву:

— Ху-ух! Які клопат скінулі з плячэй...

— А можа, толькі ўскінулі клопаты на плечы? — папыталася Матрона і зноў паказала на дзверы.

— Кінь ты! Якія ж гэта клопаты?

— А з цябе любыя клопаты, як з гусака вада! Усё на мне вісіць! Усё, да крошачкі!

Адчыніліся дзверы, і выйшлі пераапранутыя маладыя.

— А вось і мы! — і раптам па-дзіцячы шчыра ўсклікнулі: — О, каравай застаўся! Ура!

Селі за стол. Мікола, непрыкметна для бацькоў, пацалаваў Галю.

— Як там мама з татам? — нібы сама ў сябе спыталася Галя.— Пэўна, плачуць...

— Ровам равуць, аж слёзы цякуць па падлозе! — рэзка адказала Матрона.— Вядома ж, да злыдняў дачка паехала жыць.

— Не-е, я не гэта хацела сказаць,— збянтэжылася Галя.

— Мама, і я ўспамінаў бы вас, каб застаўся жыць у Галі,— прымірэнча сказаў Мікола.

— Яшчэ чаго не хапала — чужыя вуглы выціраць! — не саступала Матрона.

— Мама! — узмаліўся Мікола.— Няма там для мяне чужых вуглоў, а для Галі тут!

— Можа, хопіць! — прапанаваў Пракоп.— Давайце піць чай ці яшчэ што-небудзь.

— Каму хопіць, няхай налівае сабе чай,— памякчэла Матрона.

— Цур, я без цукру,— стомлена сказала Галя,— нешта ў роце сушыць.

— Я, як і ты, любая,— падтрымаў маладую жонку Мікола.

— Не патурай жонцы! — сурова зрэагавала Матрона.

— А я не патураю, проста і мне...

Матрона абарвала сына:

— Проста — з моста! Бачыла, як ты не патураеш,— перадражніла Міколавы словы: — Як такой галубіцы не папусціцца...

Мікола збянтэжана патлумачыў:

— Мама, людзі жартавалі, а я аджартоўваўся...

Пракоп рашуча перапыніў жонку:

— Ну што ты чэпішся да дзяцей? Стаміліся яны — два дні пад людскім вокам, як пад мікраскопам, былі... А якімі малайцамі трымаліся!

— Ведаю, што стаміліся, ведаю і спачуваю,— адступілася Матрона,— але трэба яшчэ крыху патрываць, абмеркаваць сёе-тое неабходна...

— А я што, з ног не валюся? Толькі ты?..— пакрыўдзіўся Пракоп.

— Цябе чорт не возьме! — абсекла мужа Матрона.— Усё на мне вісела і вісіць! Усё, да крошачкі!

Галя ласкава адказала на папярэдняе пытанне свякрухі:

— Не, мама, мы не надта стаміліся... І пасядзім, колькі трэба, і абмяркуем, што трэба... Праўда, Міколка?

— Праўда, сонейка! — адказаў Мікола.

Пракоп звярнуўся да жонкі:

— Чула? Со-о-нейка! Вучыся... а ты мне чай падсоўваеш — пырснула б што-небудзь у кілішак...

— Смалы! Воцату табе! Мала напырскаўся? — зноў абсекла мужа Матрона.

— Мама, сёння такі дзень — налі тату, ды і я за сталом не піў,— папрасіў Мікола.

— А я табе забараняю! — І Галіна прыклала палец да Міколавых вуснаў.

Матрона ўступілася за сына:

— А я дазваляю, сынок!

— Во-о! — засмяяўся Пракоп.— Ужо каса на камень...

— Ніякай касы на камень,— заявіла Галіна,— і я дазваляю!

— А ты не надта дазваляй! — рэзка папярэдзіла нявестку Матрона, ставячы на стол бутэльку гарэлкі і закусь.— Мужчыны і з дазволам, і без дазволу п’юць да падстолу.

Галіна разгублена паціснула плячыма, не разумеючы: дазваляць ці не.

Пракоп гэта заўважыў і нахіліўся да нявесткі:

— Не звяртай увагі, дачушка! Для таго і свякроў, каб псаваць кроў...

— Я табе зараз папсую! — штурханула мужа Матрона.— Без цябе разбярэмся! Заступнік!

Мікола падняў кілішак:

— Я хачу выпіць за вас, мама і тата, за бацькоў Галінкі!

— Я далучаюся! — шчыра сказала Галя.— Дзякуй вам!

— Сёння накрыць добры стол ох як не проста,— зазначыла Матрона.— Вока ў людзей патрабавальнае,

рот пераборлівы... Абы ў што відэльцам пароць не хочуць... Ім падавай прысмакі...

Пракоп дадаў:

— Што тут казаць?.. Добра было ў нас, не горш падрыхтаваліся і сваты...

— А я скажу так,— перабіла мужа Матрона,— ты, нявестка, не крыўдуй, але наш стол быў загагулісцейшы! За-га-гу-лісцейшы!

— Мама! — узмаліўся Мікола.

— Ну што — мама?! — падкінулася Матрона.— Не нарадзіўся яшчэ такі чалавек, які абскакаў бы Матрону Шабуніху!

— Ох і паскакала б ты ў Антося! — засмяяўся Пракоп.— Гэта ты мной папіхаеш куды трэба, куды не трэба... Гэта ты на мяне ўссела ўсімі чатырма...

— А каб знайшоўся такі мужчына, перад якім захацелася скакаць, то і паскакала б! — задзерла ўгару нос Матрона.

— Антон цябе хутка паставіў бы ў стойла ды закілзаў! — не сунімаўся Пракоп.

— А хоць бы і Антон! — ускліпнула Матрона.— Ды куды яму! Слабачок супраць мяне! Адно толькі ў ім — пустазвонства!

— Мама! Тата! — зноў узмаліўся Мікола.— Я ж сказаў тост за вас, за бацькоў... Галінка падтрымала. Давайце разам вып’ем!

— Хвілінку! — Матрона дастала з шафкі бутэльку шампанскага.— Гуляць дык гуляць! Адкупорвай, сынок, для жанчын вясельныя запасы.

— На стале шампанскае, чым жыццё не панскае! — павесялеў Пракоп.

— Глянь! Голас прарэзаўся! На вяселлі перад людзьмі мямліў, а тут загаманіў,— ці то папракнула, ці то пахваліла мужа Матрона.

— За сынаў тост! — прапанаваў Пракоп.

— За бацькоў! — нагадала Галя.

— За нас дык за нас,— узняла бакал з шампанскім Матрона,— за каго ж яшчэ?

— І за вас, дзеці, бо, дасць Бог, і вы хутка станеце бацькамі.

Калі ўсе выпілі, Матрона прапанавала:

— Вы прыкусвайце, а я буду разважаць... Дык вось, праз тыдзень, Пракоп, мы з табой і вы, дзеці, едзем да тваіх бацькоў, Галя, на пярэзвы...

— Ура! — пляснула ў далоні Галя.

— Не перабівай! — строга папярэдзіла свякроў нявестку.— Аддадзім пашану той хаце, а яшчэ праз тыдзень мы будзем прымаць сватоў у сябе...

— А навошта пярэзвы? — пацікавіўся Мікола.— Вяселле першы дзень гулялі ў нас, потым — у Галіных бацькоў. Як кажуць, візітамі абмяняліся...

— Пярэзвы робяць, сынок, для таго,— патлумачыла Матрона,— каб умацаваць пароднenасць. А па-другое, лічыце, што гэта — закон продкаў. Ці не таму сёння маладыя не паспеюць ажаніцца, як ужо разводзяцца, што на продкаў не звяртаюць увагі?..

— Ой, як цікава! — зноў пляснула ў далоні Галя.

— Цікава не цікава, а карысна! — удакладніла Матрона.— Так што, Пракоп, чамяшы патыліцу.

— А навошта мне чамяшыць патыліцу? — усміхнуўся Пракоп.— Усё ж на табе вісіць... і мая патыліца...

Матрона агрызнулася:

— Злыднюга! Чэпішся да слоў.

Пракоп абняў жонку і прымірэнча сказаў:

— Добра, залаценькая! І пароднenасць умацуем, і лішні раз, дзякуючы разумным продкам, чарку глынём, і патыліцу пачамяшу...

Матрона перахапіла гаворку:

— Хопіць! Разгаварыўся, на ноч гледзячы.

— Яшчэ адно пытанне! — І Пракоп, як вучань, падняў руку.— А калі ж, дзеці, будзеце падлічваць, колькі вам надарылі?

— Можа, заўтра? — няўпэўнена спытаўся Мікола.— Сёння патаміліся ўсе...

— Можна і заўтра,— пагадзіўся Пракоп.

— А я бачыла, хто жміндзіўся ды скручваў грошы ў трубачку, каб схавацца ад людскога вока. Я ўсё бачыла! Я за кожным сачыла!

— У каго колькі было, той столькі і дарыў. Я так разумею,— сказала Галя.

— Многа ты разумееш! — гыркнула Матрона.— Скупечы, яны і ёсць скупечы! А хто не шкадаваў, той веерам грошы трымаў — вось, не хаваюся!

— Хвалькі! Паказушнікі! Бывае адна паперка больш важкай, чым твой веер драбязы,— азваўся Пракоп.

— А ты, дурань, нічога не разумееш! Я ўсё бачыла, з чыйго боку радня...

— Мама! — перабіў Мікола.

— Я не толькі бачыла,— не сунімалася Матрона,— я ўсё на вочы выплюхну сватам, асабліва таму ганарыстаму чорту! Я ім...

— Мама, мы з Галяй такія шчаслівыя, не трэба пра грошы,— папрасіў Мікола.

— «Шчаслівыя»! — зноў перадражніла сына Матрона.— Абаб'е вас жыццё, абтрасе — і на грошы па-іншаму глянеце.

— А ці ж мала нас жыццё біла і трэсла, ды хіба галоўнае для нас грошы? — спытаўся Пракоп.

— А для цябе ўсё не галоўнае. Табе, як тому булёну — што ў місцы, што ў талерцы, абы боўтацца вакол лыжкі,— папракнула мужа Матрона.

— Сама ты зацірка не забеленая! — не застаўся ў даўгу Пракоп.

— Вось, дзеці, бачыце, які бацька ціхоня? Ціхі, ціхі, а ў ціхім балоце чэрці спрадвек вадзіліся,— не саступала Матрона.

— А я сабе яшчэ налію! — пад шумок сказаў Пракоп.

— Хопіць! — перахапіла бутэльку гаспадыня.— Позна ўжо, заўтра на досвітку ўставаць... Ты, нявестка,

магчыма, у бацькоў спала, пакуль сонца ў пяты не ўпрэцца, а ў нас іншыя парадкі.

— Як скажаце,— ціха пагадзілася Галя.

— А скажу так, што і табе на досвітку прыйдзецца ўстаць, адгуляла сваё! — насядала свякроў.

— А памілавацца маладым! А як жа мядовы месяц? Злітуйся! — заступіўся за дзяцей Пракоп.

Матрона стаяла на сваім:

— Які мядовы?! Што, цэлы месяц бакі адлежваць будуць? Жыццё доўгае — намілуюцца, аж горка стане, а пад ляжачы бок багацце не прыплыве. Загультуюць з маладых гадоў — будзе ім не мёд, а смурод!

— Я што... я, як і ўсе,— зноў згадзілася Галя.

— Мама, можа б, мы...— штосьці спрабаваў сказаць Мікола, але маці перабіла:

— А калі прыйшлі да згоды — дабранач!

* * *

Праз тыдзень святочна прыбраныя і ўсхваляваныя Пракоп з Матронай і Мікола з Галяй запраглі каня і паехалі ў суседнюю вёску — на пярэзвы.

Антон з Любінай хваляваліся яшчэ больш — трэба ж дагадзіць сватам, найперш дзеля дачкі. А па-другое, і самі з вусамі — не апраставалосіцца, не падкачаць.

На стале было выстаўлена не ўсё, бо гарачае — вараная бульба, смажанае сала, каўбасы і тушанае мяса — чакала сваёй пары ў печы.

А час, здавалася, стаяў на месцы. Антон узрушана шнураваў ад акна да акна, выходзіў на ганак, зноў вяртаўся ў хату.

— Ужо б з Амерыкі можна было прыехаць на кульгавай казе! — абураўся ён.— Дзе іх бура носіць?

— Не кіпяціся. Трэба ж людзям сабрацца, прыстроіцца. Вам, мужчынам, абы хутчэй за стол, а бабы глядзяць шырэй і далікатней,— супакойвала Любіна мужа.

— Пачакаюць і яны мяне праз тыдзень! Ой пачакаюць! Я іх памуштрую! Паабяцаю прыехаць раніцой, а заяўлюся ноччу! Я з імі цацкацца не буду!

— Астынь! У нечым трэба і саступаць. Разважаць нарэшце трэба — не чужыя людзі.

— Я астыну! Я так астыну, што ім горача будзе! Я ім на вочы ўсё высыплю: і пра скупярдзяйства іх радні пры дарэнні, і пра іх хвалёны стол...

— Не дурней! Ты ж дачцэ зробіш горш! Пра дзіця падумай перад тым, як рот раскрываць,— не да роднай маці пайшла, а пад свякроўчына вока...

Нарэшце адчыніліся дзверы і ў хату шумна ўваліліся крыху запозненыя сваты і маладыя. Галіна адразу кінулася на шыю да маці, і абедзве радасна заплакалі.

Матрона, відаць, рыхтавалася, бо даволі складна пачала:

— Добрага здароўечка ў хату свацці і свату!.. А мы ж так спяшаліся, каня прытамілі, ды, мусіць, рана прыперліся.

Антон не разгубіўся і гэтак жа складна адказаў:

— І ад нас вам пажаданне: жыць у багацці і свату і свацці!.. А прыехалі вы самы раз — цюцелька ў цюцельку, хоць гадзіннік па вас звярай...

Усе засмяяліся, пачалі паціскаць адно аднаму рукі, цалавацца.

Мікола запытаўся:

— А маладым якое пажаданне? А то ўсё сваты сватам.

Галіна падтрымала яго:

— Так! А нам што? Мы чакаем!

— А вам... вам няхай будзе ўсё, што ёсць на зямлі светлае і добрае! — пяшчотна сказала Любіна.— А ўсё непатрэбнае няхай праляціць міма...

— А ты што маўчыш, як пень? — штурханула мужа Матрона.

— А тата за сталом скажа! Не ўсім жа адразу паказваць свае здольнасці,— выручыў бацьку Мікола.

— Правільна, зяцёк! — падтрымала Любіна.— Лепш сядайце за стол, падсілкуемся, і гаворка пойдзе весялей.

— Разумна! — пахваліў Антон жонку.— Байкі яшчэ нікога не накармілі, тым больш не далі выпіць. А тут,— Антон шырокім жэстам паказаў на стол,— раздолле ды смаката!

Матрона зірнула на стол, на якім стаялі толькі халодныя стравы, і скрывілася да Пракопа:

— Я ж казала, што ў нас загагулісцей...

— Мама! — як заўсёды, узмаліўся Мікола.

— Калі ласка! — запрасіла Любіна.

— А мы, свацейка, куранят прывыклі лічыць восенню! — абняў за плячо сваццю Антон.

— Не задзірайцеся вы! — папрасіла Любіна.

— А хто каго любіць, той таго і чубіць! — засмяялася Матрона.— Вось сват мне і наступіў на мазоль.

— Сядаем, сядаем бліжэй! — рупілася гаспадыня.

Усе селі за стол, налілі ў кілішкі, хто чаго жадаў.

— А ты чаго маўчыш, як пень? — зноў звярнулася Матрона да мужа.

Пракоп узяў чарку ў руку:

— Ну, калі ўжо ты дазваляеш, скажу і я.

— Давай, сваток, адчыбуч што-небудзь! — падбадзёрыў Антон.

— Ды выпрастай ты свой язык! — патрабавала Матрона.

Пракоп кашлянуў, выдыхнуў:

— Я паважаю гэту хату і яе гаспадароў... цябе, Любіна, і цябе, Антось... Кажуць, конь хутчэй бяжыць дамоў, а ён і сюды спраўна перабіраў нагамі. Жывёла і тая адчувае добрых людзей...

— Я і бачыў, што вы спазніліся,— не ўтрымаўся Антон.

— Памаўчы ты! — папрасіла Любіна.

— Ну вось, збілі,— паскардзіўся Пракоп, зірнуў на Галю і прыбадзёрыўся,— вось што яшчэ: ваша дачушка

Галя стала і нашай дачкой... Што яшчэ?.. А пярэзвы, як бы сказаць... гэта... мне здаецца...

— Што табе здаецца? Не мямлі! — уткнула сваё Матрона.

— Мне здаецца,— раззлаваўся Пракоп,— што ты занадта прыліпла да Антона... як тыя саімскія блізнюкі...

— Сіямскія блізняты, тата,— паправіў Мікола.

— Адна трасца, зрасліся, ды і ўсё! — закончыў Пракоп.

— Ха-ха-ха! Вось дык тост... За здароўе тваёй галавы, хвост! — зарагатала Матрона.

Пракоп сканфузіўся і сеў.

— Добры тост, і за гаспадароў, і за нашых дзяцей,— падтрымала свата Любіна.

— Тата ж не даказаў, яго перабілі,— заступіўся за бацьку сын.

— П'ем! — узняў кілішак Антон.— За нас усіх, за цябе, Матроначка!

Выпілі, сталі закусваць, перакідвацца словамі.

— Наліваем па другой! — закамандаваў Антон.— Давай, Любіна, цяжкую артылерыю — аслабаняй печ ад прысмакаў!

Любіна руплівa пачала даставаць з печы гарачае. Хата напоўнілася смачным духам — ад бульбы ішла пара, ад астатняга ва ўсіх закраталіся насы.

— Вось табе і загагулісцей,— хмыкнуў Пракоп, зірнуўшы на жонку.

— Дурань! — агрызнулася яна.

— Па другой! Па другой! — грымеў Антон.— За восеньскіх куранят, сваценька! — штурхнуў Антон сваццю і паказаў на стол.

— Ой і хвалько, сваток! — скрывілася Матрона.— Праз тыдзень пабачым, хто каго!

— А можна мне тост? — устала Галя.

— Давай, дачушка, весялей! — падтрымалі бацькі.

— Гавары, любая! — пагадзіўся Мікола.

Галя змахнула са шчакі кропельку:

— У мяне цяпер дзве мамы і два таты... і яшчэ ў мяне ёсць любы муж Міколка...

— А другая маці цябе не крыўдзіць? — перабіў дачку Антон і зноў абняў Матрону.

— Пачакай ты! — папрасіла Любіна.— Не торкай языком!

— Я хачу, каб гэты казачны сон ці гэта казачная рэальнасць не канчаліся ніколі! — працягвала Галя.

— Падтрымліваю! — сказаў Мікола і таксама абняў Галю.

— За добрыя словы!

— За казачную рэальнасць!

І зноў усе выпілі, пачалі закусваць ды хваліць яду.

— Ой, смачная каўбаска! Ды з лісцікам, ды з перчыкам! — усклікнула Матрона.

Антон адразу зрэагаваў:

— Без перчыку, што каўбаска, што баба — адна толькі назва.

— Які табе яшчэ перчык патрэбен? — спыталася Любіна.

— А такі, каб наскрозь прадзіраў! — адказаў Антон.

— Можна мне колькі слоў сказаць? — спытаўся Мікола.

— Кажы! Кажы! — пачулася з усіх бакоў.

Мікола ўстаў:

— Не ведаю, што гэта за перчык і дзеля чаго ён там, дзе адчуваецца водар кветак і сонечная пяшчота, дзе асалода пачуццяў і летуценне светлых мараў... Менавіта такі вось свет атуляе нас з Галінкай. І няхай не будзе месца ў нашым жыцці ні для перцу, ні для горычы...

— Малайчына, Мікола, добра сказаў! — першай азвалася Любіна.— І табе, Антось, нос падцёр з тваім перчыкам.

— Ды ён яшчэ нічога не разумее! Блазнюк! — засмяяўся Антон.

— Разумее! Разумее! — заступілася за мужа Галіна.

— А ці не сказаць і мне? — устала Матрона.

— Каб ты ды прамаўчала,— усміхнуўся Пракоп.— Апошні воўк здох бы ад здзіўлення. Цыцарон!

— А ты сапі і слухай разумных людзей,— напусцілася на яго Матрона,— глядзіш, і сам паразумнееш.

— Э-эх, перчык! — страсянуў галавой Антон.

— Я лічу так,— працягвала Матрона,— што пярэзвы — гэта замацаванне пароднenaсці,— і шматзначна зірнула на Антона.— Адна справа зладзіць сталы, іншая — зладзіць жыццё...

— Прабач, свацейка, калі ўжо ты пра сталы, мушу перабіць тваю гаворку,— не ўтрымаўся Антон,— бо ваш стол быў ох закрунтасты...

— Ды і ваш стол, сваток, быў вельмі загагулісты! Яшчэ трэба падумаць...

— Гляньце, як спеліся! — усклікнула Любіна.— Антон, я цябе не пазнаю...

— Я ж казаў, саімскія блізнюкі,— хмыкнуў Пракоп.

Матрона працягвала:

— Дык вось, як я сказала... А на чым гэта я спынілася? — сярдзіта зірнула на мужа.— Уткнешся вечна, злыдзень!

— Спынілася на тым, што рука мые руку, а варона сядзіць на суку,— зарагатаў Пракоп,— смяялася з майго тоста, а ў самой тост, як дзіравы мост...

Матрона не здавалася:

— Я хацела выпіць за дзяцей, але перадумала.— І яна перакуліла свой кілішак мужу за каўнер.

— Я ж казаў, дзіравы мост, ліеш міма рота,— скрывіўся Пракоп.

— Э-эх, перчык! — зарагатаў Антон і раптам заспяваў:

Пасля пятай сёмую
За ласку незнаёмую!..

Любіна запрашала закусваць:

— Паляндвічку бярыце, мяска гарачае, агурочкі...

Падняўся Антон:

— Перад тым як сказаць слова, запытаюся: а колькі ж надарылі маладым?

— Ды нядрэнна надарылі,— адказаў Мікола.— Пакрылі ўсе выдаткі, яшчэ і зверху засталося...

— То добра! — задаволіўся Антон адказам.— Дарэчы, з вашага боку, сваткі, радня не скупілася. Малайцы! Дарылі закрунтаста.

— І вашы госцікі, сваток, раскашэльваліся спраўна. Душа радавалася! — пахваліла Матрона.

— Во спеліся,— уздыхнула Любіна.

Пракоп круціў галавой:

— Ну, ну, цікава слухаць...

— А калі цікава, дык і слухайце! — шумеў Антон.— Не цікава — заткніце вушы! Праўда, Матроначка?

— Чысцюткая праўда, сваток! — адказала сваццця.

— А калі надарылі добра,— працягваў Антон,— значыцца, і мы добра пачаставалі людзей, значыцца, не нарадзіўся яшчэ такі чалавек, які абскакаў бы Матрону...

— Ды і цябе, сваток, ніхто не абскача! — адгукнулася Матрона.

— Ну вылітыя зязюля і певень! — хмыкнуў Пракоп.

— А ты маўчы і слухай! — абсекла яго жонка.— Слухай і разумней!

— Дык вось, мае дарагія,— працягваў Антон,— жыццё не стаіць на месцы. Яно — то ідзе проста, то віруе, а бывае, робіць выбрыкі ва ўсе бакі. І што будзе заўтра — сёння ніхто не ведае, нават я... Больш звяртаюся да вас я, дзеці, шукаю паразумення, магчыма, і прабачэння, калі што...

— Няма табе ў чым вініцца перад намі, тата,— сказала насцярожана Галя.

— Усё ж добра,— падтрымаў яе Мікола,— мы ўсім задаволеныя...

— Нешта ты гаворыш незразумелае,— здзівілася Любіна,— перапіў, ці што...

— А ты чаго сядзіш, як пень,— тузанула мужа за рукаў Матрона.

— Слухаю разумных людзей і, як ты раіла, разумнею,— усміхнуўся Пракоп.

— Я яшчэ не ўсё сказаў,— удакладніў Антон.

— Працягвай, сваток! — падахвоціла Матрона.— Вельмі цікава.

Антон зрабіў паўзу, потым секануў даланёй паветра:

— А-ах! Лепш паставіць кропку на сваіх думках, чым... Карацей, за нас усіх! — кульнуў чарку, пасля адразу наліў сабе і зноў выпіў.

— Ну, калі ва ўсіх наліта, тады вып'ем і мы,— падняў кілішак Пракоп.

— Нейкія выбрыкі прыплёў... Што да чаго? — разважала Любіна.

— Ты пі ці не пі, а да слоў не чапляйся! — перапыніў яе Антон.— Не з тваім розумам шукаць тлумачэнне!

За сталом зрабілася ціха. Хто выпіў, а хто паставіў кілішак. Любіна пераглянулася з дачкой, і абедзве паціснулі плячыма.

— Эх, у гэтым годзе арэхаў будзе... Ажно арэшнік гнецца. М-да-а... І ўсё больш лушчакі... Вось...— парушыў недарэчную цішыню Пракоп.

— Калі шмат арэхаў, дык і бульбы будзе шмат...— працягнула гаворку Любіна.

— Каб толькі не была бульба дробнай, як арэхі,— зморшчыўся Пракоп, якому зусім не хацелася гаварыць за сталом пра бульбу.

— Хай Бог дае,— уздыхнула Любіна, бо і сама не ведала, чаго ў Бога папрасіла.

— А музыкі някепска завіхаліся на вяселлі,— перавёў на вяселле Мікола,— асабліва той, цыбаты.

— Дык і грошы някепскія здзёрлі,— секанула Матрона.

— Яны й за сталом завіхаліся кожны за двух,— заўважыў Антон,— асабліва твой цыбаты...

— Ну і на здароўе! — сказала Галя.— Затое не ленаваліся, прыемна ўспомніць і не сорамна перад людзьмі...

Зноў зрабілася ціха... Кожны шукаў выйсце з гэтага становішча.

Пракоп зноў паспрабаваў разагнаць няёмкасць:

— А ты, сваток, якой брытвай голішся: бяспечнай ці небяспечнай?

Антон хмыкнуў:

— Ты б яшчэ спытаўся, чым я боты мажу: дзёгцем ці шмальцам...

Усе ацанілі гумар і адразу дружна зарагаталі, загаманілі.

Далей разважаў Мікола:

— Я так разумею, што праз тыдзень мы зноў сустрэнемся, як і належыць, у нас... Мама, тата, так?

Пасля невялікай паўзы азваўся Пракоп:

— Так-то яно так, але ж у нас, як вядома, матрыярхат... Ды і маё слова павінна гучаць пасля разумных людзей,— і Пракоп паглядзеў на жонку.

Матрона схамянулася:

— Ой... а як жа...— потым рэзка павярнулася да Пракопа.— Які я табе матрыярхат, дурань?! — і зноў звярнулася да ўсіх: — Ой, а як жа... У нас сустрэнемся, у нас...

— Вось цяпер і я маю права запрасіць вас, Любіна і Антон, да нас на пярэзвы,— з павагай сказаў Пракоп.— Калі ласка, сваткі, просім!

— Вы ж ведаеце, як я вас буду чакаць,— выцерла слязу Галя.

— Прымаем, прымаем запрашэнне, дарагія! — горача сказала Любіна.

Антон поркаўся відэльцам у талерцы і маўчаў.

— Антон, ты што, заснуў? Чаго маўчыш? — здзівілася Любіна.

— Маўчу, значыцца, згодзен,— выціснуў Антон.

— Ну, тады мы будзем збірацца ў дарогу... Так, Матрона? — папытаўся Пракоп.

— Ой... а як жа...— пагадзілася Матрона,— збіраемся...

Пачалі вылазіць з-за стала.

Любіна здзівілася:

— Антон, а дзе ж твая знакамітая — на пасашок? Налі сватам на дарожку!

Антон нібы прачнуўся:

— Што гэта я?.. Ледзь не забыўся. Мікола, дапамагай! Бяры чаркі, я бутэльку. Любіна, дай прыкусіць!

— Садзіцца не будзем! Стоячы! — зноў закамандавала Матрона.

На гэты раз Антон не сказаў: «Болей улезе», а моўчкі наліў.

— За што п'ём? — спытаўся Мікола.

— За што, Антось? — перапытала Любіна.

Антон зморшчыўся:

— А халера яго ведае! За ўсё разам...

— А я выпʼю за родны дом,— ціха сказала Галя.

— За які? — спыталася Матрона.— У цябе цяпер два родныя дамы.

— Родны дом бывае толькі адзін,— яшчэ цішэй прамовіла Галя.

Матрона хацела нешта рэзкае сказаць, але Антон перахапіў гаворку:

— П'ём кожны за сваё! — і кульнуў чарку.

Астатнім нічога не заставалася, як выпіць.

Пракоп ажывіўся:

— Антось, а аглаблёвую? Мне тады спадабалася!

— Табе хопіць, ты ў нас за рулём! — абсекла мужа Матрона.

— На гэты раз, сваток, аглаблёвай не будзе,— адказаў Антон,— аглоблі не ў той бок павернутыя...

— Не дык не, за рулём дык за рулём,— згадзіўся Пракоп.— Госць — нявольнік... і муж — нявольнік... Дзякуй вам, сваты, іду запрагацца.

— І вам дзякуй! — адказала Любіна.— Шчаслівай дарогі, мае дарагія!

Антон дадаў:

— Мы вас правядзем на двор...

* * *

У хаце Пракопа адбывалася штосьці незразумелае. На табурэтцы, пасярод пакоя, сядзела заплаканая Любіна, вакол якой хадзілі ўзрушаныя Пракоп і Мікола. Галя стаяла ля маці, а тая то ўскоквала, то зноў садзілася.

— Мама, ты супакойся! Калі гэта адбылося? — дапытвалася Галя.— Няўжо такое можа быць?

— Як гэта магло здарыцца? — рэхам паўтараў Пракоп.— Няўжо ўвесь свет здурнеў?

— Мы ж толькі тры дні, як вярнуліся ад вас з пярэзваў,— гаварыў разгублена Мікола,— усё ж было добра...

Любіна выдыхнула:

— У нядзелю вы ад нас, а ў панядзелак ён прывёў яе...

— Каго, мама?.. Ой, прабач...

— Каго-каго?.. Каторы раз пытаешся... Язык не паварочваецца паўтараць: Матрону, сваццю... каго ж...

— Яна ж сказала, што на некалькі дзён едзе да цёткі ў Калачы,— здзівіўся Пракоп,— цётка яе быццам пры смерці...

— І што, мама, далей? — спыталася Галя.— Навошта прывёў? Што сказаў?

— А навошта прыводзяць бабу ў хату? — пытаннем на пытанне адказала Любіна.— Сказаў, буду жыць з Матронай...

— А цябе куды? — зноў спыталася Галя.

— Куды? Ты ж бачыш куды. Вось тут апынулася.

— Дык сёння ж серада, а дзе ты была ад панядзелка? — здзівіўся Пракоп.

Любіна ўздыхнула:

— Схадзіла да сястры ў Вепрату, быццам пагасціць, там пабыла, а сёння да вас... А куды мне дзявацца?

— Дык ён што, цябе выгнаў, мама? — ледзь не выкрыкнула Галя.

— У каршэнь не гнаў, але бываюць словы, горшыя за любую штурханіну...

— Во дажыліся! Вой-вой! — усклікнуў Мікола.

— Умацавалі народненасць, нічога не скажаш! — горка хмыкнуў Пракоп.— А яны? Што думаюць яны? Зняславіліся на ўвесь свет, як тыя старажытныя... як іх?.. Антон і Клеапарта... Цьфу!

— Божа, Божа! Як людзям у вочы глядзець? — залямантавала Галя.— Вяселле адгулялі, ганарыліся, пахваляліся, а тут такое!..

— Людзі, можа, пакуль не ведаюць, але такое не прыцярушыш, не схаваеш... Само вылезе,— выдыхнула Любіна.

Галя раптам падскочыла:

— Вы сядзіце тут, а я маланкай скокну дамоў! Я іх там растрыбушу!

— І я з табой! — горача падтрымаў Галіну муж.

— Куды?! — як ніколі рашуча спыніла дзяцей Любіна.— Людзей пацешыць хочаце? Вядома ж: у чужой хаце б'юцца, а за вокнамі смяюцца...

— А што ж рабіць? Сядзець і чакаць? — збянтэжыўся Пракоп, потым дадаў: — Як яна магла такое зрабіць? Як? Во старая дурыца!..

— Мама, там жа карова, даіць трэба... Свінні, гаспадарка,— зірнула Галя на маці.

— А я што?.. Карову ды свіней у прыполе забяру з сабой? Вось, у чым стаю прыйшла...

— А мы дык з Міколам і нявесткай па чарзе карову даілі, цешыліся, што гаспадыні палёгку робім... дурні! А яна?! — схапіўся за галаву Пракоп.— Во! Хутка рогі вырастуць, як у той каровы!..

— Я дык не ведаю, што і сказаць,— прызнаўся Мікола.— Усё гэта як нейкі дурны сон...

— Нездарма яны, як певень і зязюля, распіналіся адно перад адным,— уздыхнуў Пракоп.— А я вушы развесіў, розуму вучыўся. Што і казаць — паразумнеў, але позна.

— Дык вось пра якія выбрыкі жыцця казаў тата! — жахнулася Галіна.— Ён падрыхтоўваў нас...

— Ды чорт з ёй! — падскочыў Пракоп.— Яна так — і я так! Няхай ведае!

— А ты як, тата? — з усмешкай спытаўся Мікола.

Пракоп сумеўся:

— Як я?.. Не ведаю, сынок...

— Мама, дык што ўрэшце сказаў табе тата? — быццам за саломінку чаплялася Галя за матчын адказ.— Можа, ты чаго не зразумела?

— А што тут разумець? Сказаў, ідзі да дачкі, яна цябе не прагоніць... Вось я і тут...

— Умацавалі пародненасць! — паўтарыў Пракоп.— Ха-ха! Так умацавалі, што і не ведаеш, хто каму кім даводзіцца... Была жонка, а цяпер ці сваццявя, ці ражон яе распазнае хто... Дэзерцір!

— Што мы развялі тут гаварыльню? Трэба прыйсці да нейкага рашэння,— не вытрымаў Мікола.— Гавары, хоць загаварыся тут, а нешта трэба рабіць. Дзейнічаць неабходна!

— Магчыма, і не варта ўздымаць вэрхал ды цешыць людзей,— больш спакойна разважала Галя,— а сабрацца ўсім і паехаць да тых маладажонаў не пашкодзіць. І зрабіць гэта трэба цяпер, не адкладваючы, пакуль усе разам, вось...

— Калі ўжо ехаць, дык ехаць вечарком, упоцемку, каб абмінуць чужое вока,— прапанавала Любіна.

— У мяне аж свярбіць усё ўсярэдзіне паехаць цяпер ды хоць раз у жыцці плюнуць ёй у вочы! — горача сказаў Пракоп.— Сыпануць ёй усё, што заслугоўвае, каб сотаму заказала!

— Не, тата, ехаць усё ж трэба вечарам. Цяпер іх, магчыма, не будзе дома, ды і сведкі ў такой справе нам не патрэбныя,— стрымаў бацьку Мікола.

— Вечарам дык вечарам,— пагадзіўся Пракоп.— Баюся толькі, што да вечара я перагару, патухну... Не той запал будзе...

— Не перагарыце! — запэўніла Галя.— Я не дам перагарэць! Я іх растрыбушу!

— Супакойся, дачушка. Нельга супраць роднага бацькі распаляць сябе так,— папрасіла Любіна.

— Бацькі?! — запалілася Галя.— Дзе ён, бацька? Які ён бацька?

Раптам адчыніліся дзверы і ў хату не ўвайшоў, а ўварваўся Антон. На імгненне застыў ля парога.

Галя кінулася да яго, абхапіла рукамі шыю:

— Тата! Татачка! Што ж ты нарабіў?

Антон мякка, але рашуча адхінуў рукі ад шыі:

— Пачакай, дачушка, пачакай, родная!

Антон ірвануўся да Любіны, якая так і сядзела на табурэтцы пасярод хаты, і бухнуўся перад ёй на калені:

— Любіначка! Золатка! Прабач! Даруй! З галавой вінаваты!

Усё адбылося так нечакана і неспадзявана, што хатнія акамянелі з разяўленымі ратамі. Хату напоўніла напружаная цішыня...

Антон аж спужаўся гэткай аслупянеласці. Ён адарваў вочы ад жонкі і круціў галавай, як сава, пераводзячы погляд то на аднаго, то на другога. Нарэшце зноў зірнуў на жонку і жаласліва папытаўся:

— Любіначка, ну што?.. Золатка маё!

Любіна затуліла твар рукамі і заплакала.

Галя падбегла да бацькі, паклала яму на плечы рукі:

— Што ж ты нарабіў, татачка?!

— Ой, дачушка! — павярнуў ён галаву да дачкі.— Ой, дачушка! Што ж я нарабіў?!.

Любіна перастала плакаць, адкрыла твар, выцерла слёзы:

— Што ж так хутка нажыўся з новай жонкай?

— З кім?! З той грызадубкай? Яна ж мяне загрызала жыўцом. Я ж дома не начаваў, спаў, як сабака, на сене. Праўду казалі — ядавітая, як мухамор!

— Ха! Пакаштаваў маіх пірагоў! Наеўся! — укалоў Пракоп свата, але той не звярнуў увагі на гэта.

— Любіначка! Жоначка! Прабач дурному мужыку! Паехалі дамоў! — упрошваў Антон.

— Як жа я з табой паеду, калі я звычайная жанчына... без перчыку. Адна толькі назва,— горка ўсміхнулася Любіна.

— Цьфу на той перчык! Ён мне за два дні ўсе вочы выеў. Лепшай за цябе нікога няма!

— А Матроначка? — падражнівалася Любіна.— А як жа яна?

— Хто?! Тая калода? Яна тваёй і падэшвы неварта! — горача запэўніў Антон.

— Ты, сваток, не перагінай! Баба як баба,— уступіўся за жонку Пракоп.— І неблагая баба!

Антон зноў не звярнуў увагі на свата.

— Любіначка! Дачушка! — круціў ён галавой.— Калені ўжо баляць!

— Мама, тату калені баляць,— азвалася Галя.

— У мяне сэрца збалелася, душа перабэрсана, а яму калені,— з болем сказала Любіна.

— Дык і ў мяне душа, і ў мяне калені... Любіначка!.. Зяцёк, што ты маўчыш, як вады ў рот набраў! Ратуйце!

— Ты не назваў яшчэ адно імя,— ціха сказала Любіна.— Калі ўжо вінавацiцца, дык перад усімі, каго пакрыўдзіў...

— Якое імя? Каго яшчэ? — закруціў галавой Антон.— А-а, Пракоп... Ой, мае калені!..

— Не трэба, сват, перада мной вінавацiцца,— выціснуў Пракоп.— Перада мной ёсць каму вінавацiцца... Пачакаю! Адвяду душу хоць раз у жыцці... Патлы з яе паляцяць! Няхай толькі на вочы пакажацца.

Тут адчыніліся дзверы і ў хату ціхенька бачком увайшла Матрона. Гэтак жа ціха стала ля парога і апусціла галаву, як шкадлівае дзіця.

Ракоп кінуўся да жонкі:

— Матроначка!..

За бацькам хіснуўся Мікола.

— Тата-а! Ты ж хоць для віду-у! — зашыкаў ён у патыліцу бацьку.

Пракоп схамянуўся, зрабіў крок назад:

— А-а! Вярнулася, валацужына чортава!

Матрона стаяла моўчкі.

— Яшчэ ж мядовы месяц не мінуў... Маладзюкі! — горка кпіў Пракоп.

— Які мядовы месяц? — ціха сказала ў падлогу Матрона.— З кім мядовы месяц? З тым гарлапанам і дзень годам падасца...

— Я гарлапан?! — ускіпеў Антон.— Сама ядавітая дураслепіна! Тваё шчасце, што заняты — на каленях стаю перад жоначкай! Я б...

— Што-о-о! У маёй хаце! — падняла галаву Матрона.— Ды ты супраць майго Пракопіка...

— Ціха! Ці-ха! Дыспут распачалі тут! — падняў руку Пракоп.— Высвятляць любоўныя адносіны трэба было за парогам гэтага дома... Ты чаго прыйшла?

Матрона вінавата зірнула на мужа:

— Прабач, Пракопік... здурнела баба. Хочаш, стану і я на калені?..

— Не! — запратэставаў Пракоп.— Досыць бачыць на каленях у маёй хаце гэтага ганарыстага асэсара аднаго. Ты лепей скажы, што ў нас будзе, калі я, напрыклад, табе дарую: матрыярхат ці патрыярхат? Гэта для мяне важна!

— Бог з табой, Пракопік! — замахала рукамі Матрона.— Які з мяне матрыярхат? Будзь ужо ты матрыярхатам!

— Во! Чулі? — кісла зірнуў на астатніх Пракоп.— Вось хто мяне розуму вучыў...— Зноў павярнуўся да

жонкі: — Калі ўжо так — буду я і матрыярхатам, і патрыярхатам, пры сведках заяўляю!.. Ну што, сынок, даруем ёй?

— Даруем, тата! Даруем! — горача адказаў Мікола.

Пракоп радасна кінуўся да жонкі, абняў яе:

— Матроначка! Вярнулася!

— О-ой! Мае калені! — застагнаў Антон.

— Мама, няхай тата ўжо ўстане,— папрасіла Галя.

— Мог даўно ўстаць, я яго на калені не ставіла,— памякчэла Любіна.

Антон, войкаючы, устаў, падняў за рукі з табурэткі жонку і абняў яе:

— Любіначка! Каб мой язык адсох, калі ён на цябе што-небудзь збрэша! Няхай на ім зверху і знізу па скуле сядзе!

— Не заракайся! Я твой язык добра ведаю! — папярэдзіла мужа Любіна.

Шчаслівыя Мікола і Галя таксама абняліся. Так і сталі ў абдымках тры шчаслівыя пары.

— Ой! — схамянулася Матрона.— У нас жа госці, Пракоп! Што ў цябе там ёсць на стол паставіць?

— Не ў мяне, а ў нас! Хутка ты адвыкла! — упікнуў Пракоп.

— Якія госці! — запярэчыла Любіна.— Дамоў трэба! Дасць Бог, усё гэта не трапіць на людскія языкі...

Пракоп прапанаваў:

— Во! Чым не пярэзвы! Цяпер у нашым доме, праўда, на тры дні раней. Як ты думаеш, Матрона?

— Як скажаш, Пракопік!

— Я і на пярэзвы згодны, але як скажа Любіначка,— паціснуў плячмі Антон.

— Я ўжо сказала! — адрэзала Любіна.— Дамоў!

— Ну, тады праз тры дні, сваткі! — пагадзіўся Пракоп.

— Мама, тата, прыязджайце! — папрасіла Галя.

— Будзем чакаць! — далучыўся Мікола.

— Бог пакажа,— стрымана адказала Любіна.— Ну, развітвайся, чаго маўчыш! — звярнулася да мужа.

— Як скажаш, Любіначка. Бывайце, сваточкі!

— Дык што, без пасашковай, без аглаблёвай? — спытаўся Пракоп.— Аглоблі ж зноў павярнуліся куды трэба.

— Без ніякай! — стаяла на сваім Любіна.— Бывайце здаровы!

Пракоп прапанаваў:

— Можа б, падвезці... Я хуценька запрагуся.

— Што ты яшчэ пытаешся? — горача падхапіла Матрона.— Не рассусольвай, а марш да каня!

— Не твая справа! — абсек Пракоп.— Слухай разумных людзей і маўчы!

— Маўчу! Маўчу! — зачырванелася Матрона.

Любіна ад паслугі свата адмовілася:

— Дзякуй! Мы пешшу. Камусьці і мазгі праветрыць не пашкодзіць.

Ужо на парозе Антон сказаў:

— Ты, Матрона, як сваццся — міравая баба, а вось як жонка... Любіна цябе абскача, яна закрунтасцейшая.

— Ды і ты як сват быццам мужчына заліхвацкі, але мой Пракопік пераразаліхвасціць цябе.

— А нам з табой, Галечка, навука! — абняў жонку Мікола.

— Абыдземся! Век бы не ведаць такой навукі! — адказала Галя.

— Да пабачэння, сваткі!

— Да сустрэчы!

— Да нядзелі!

## Развод па-славянску

Адзін з райцэнтраў Беларусі жыў сваім звыклым жыццём: «вярхі», як ім і належыць па штату,— кіравалі, «нізы», кожны на сваім месцы,— выконвалі і перавыконвалі. Праўда, былі і выключэнні, але сёння гаворка не пра іх.

Харытон Піліпавіч Галавасты не належаў ні да «вярхоў», ні да «нізоў», ён прыпісваў сябе да катэгорыі грамадзян, менавіта грамадзян, бо на службе ў асноўным чуў «грамадзянін суддзя».

Але сёння ён быў вольным ад тэрмінаў, фармальнасцяў і катэгорый, бо з асалодай пакаваў чамадан — збіраўся ў такі доўгачаканы адпачынак.

Настойлівы тэлефонны званок бесцырымонна адарваў Харытона Піліпавіча ад прыемнага занятку. Тэлефанавала з прыёмнай старшыні раённага суда сакратарка Люба.

— А-а, Любаша! — весела ўсклікнуў адпускнік.— Вырашыла пажадаць мне спадарожнага ветру?!

Голас у трубцы збянтэжыўся:

— Я... так... вядома... Але вас тэрмінова жадае бачыць Антон Сымонавіч. Тэрмінова!

— А што за тэрміновасць? — здзівіўся Харытон Піліпавіч.— Я ж у адпачынку.

— Ой, не ведаю, Харытон Піліпавіч! Відаць, нешта здарылася, бо ўсе на вушах стаяць.

— Добра, Любаша, перадай яму, што хутка буду,— выдыхнуў Харытон Піліпавіч і паклаў трубку.

Праз нейкі час ён ужо заходзіў у кабінет да свайго шэфа.

— Святое правасуддзе! Дачакаўся! — кінуўся насустрач падначаленаму старшыня, чаго ніколі раней не

рабіў.— А ў мяне ад страху ўсе блохі паздыхалі — ты мне патрэбен, Харытон Піліпавіч, да зарэзу!

— А што здарылася, Антон Сымонавіч? Я ж адной нагой...

— Ведаю! Ведаю, даражэнькі, што ты ў адпачынку,— перахапіў гаворку старшыня.— Прабач, што ламаю твае маладыя задумкі і планы, але і нас тут абставіны таксама ломяць праз калена, ды так, што аж хруст ідзе па ўсім раёне.

— Дык што здарылася? — ужо насцярожана запытаўся Харытон Піліпавіч.

— О-о! Гэта горш за эпідэмію! Такое ў маёй практыцы ўпершыню. Ты сядай, памазгуем разам.

Калі абодва селі, Антон Сымонавіч памкнуўся наперад і праз стол зашаптаў:

— Ты толькі ўяві, што ГЭТА пад кантролем...— і старшыня таямніча паказаў пальцам на столь.— А з вертыкаллю не жартуюць! Зразумеў?

— Шчыра кажучы, не зразумеў,— разгублена адказаў Харытон Піліпавіч.— Пра што ўсё ж гаворка?

Антон Сымонавіч дастаў з тоўстай папкі нейкія паперы:

— На вось, сам чытай!

Харытон Піліпавіч узяў стос нейкіх напісаных ад рукі заяў і толькі сабраўся ўчытацца, як Антон Сымонавіч рэзка выхапіў іх і зноў паклаў у папку.

— Э-э, доўга прыйдзецца чытаць! Я табе — у два словы, а начытацца гэтай класікі паспееш... Скажы, ты ведаеш вёску Славянку?

— Хто ж яе не ведае? — усклікнуў Харытон Піліпавіч.— Яна хоць і глухая, але з пэўнага часу славутаю зрабілася.

— Правільна! — узрушана падтрымаў калегу старшыня.— Цяпер гэта мяжа ці, дакладней, сумежжа з іншымі дзяржавамі... Мытня, бюракратычная валакіта і ўсё такое іншае...

— І што сусветнае здарылася ў гэтым ціхім балоце? Мытня не дае дабро ці замнога бярэ дабра? — скаламбурыў Харытон Піліпавіч.

Антон Сымонавіч падхапіўся з месца і забегаў перад калегам.

— Ты сказаў, ціхае балота! Забыўся, хто водзіцца ў такім балоце?

— Я ў чарцей не надта веру,— скрывіўся перад шэфам суддзя.

А той, не спыняючыся, схапіўся за галаву:

— Там такое!.. Там падурнелі ўсе бабы! Агулам! Усе як адна, і ўсе ў адзін дзень. Во! — і Антон Сымонавіч схапіў са стала папку.— Во, цэлы том заяў з настойлівай просьбай развесці іх з мужамі.

— У іх што, вальты за вушамі? — не стрымаўся Харытон Піліпавіч.

— Горш! — кіпяціўся Антон Сымонавіч.— Горш! Гэта натуральны бабскі бунт на даручанай нам тэрыторыі! Ермакі ў спадніцах, а не бабы!

— А што за муха іх укусіла? Чым матывуюць свой учынак славянскія амазонкі? — папытаўся Харытон Піліпавіч і ў думках развітаўся са сваім адпачынкам.

— А вось ты, як самы вопытны ў бытавых справах суддзя, і габлюй туды. Бяры, каго палічыш неабходным, у памочнікі і разбірайся, тушы той пажар. Не патушыш — згарым усе ў гэтым полымі, сораму будзе на ўвесь хрышчоны свет. Ці ж гэта жарт — сумежжа з іншымі дзяржавамі.

* * *

Кіраўнік раённай адміністрацыі Анкудовіч Захар Восіпавіч сядзеў за рабочым сталом у сваім кабінеце і аб нечым напружана думаў. Раптам зняў тэлефонную трубку.

— Клава, звяжы мяне хуценька з Правасудам, старшынёй райсуда... Алё! Антон Сымонавіч, што ў цябе новенькага?

У трубцы пачулася:

— Дакладваю, Захар Восіпавіч: на мінулым тыдні судом былі разгледжаны справы па фактах продажу няякаснага самагону, мардабою ў сельскім клубе, крадзяжу дачнікамі калгаснага перагною ў асабліва буйных памерах...

— Пастой! Пачакай ты! — перабіў даклад Захар Восіпавіч.— Пакінь пры сабе калгасны гной-перагной! Ты мне пра Славянку далажы, як і што там?

У тэлефоннай трубцы зноў пачулася:

— Дакладаю, Захар Восіпавіч: сёння раніцай туды адбыла следчая група, якую ўзначальвае вопытны суддзя Галавасты. Як толькі што-небудзь высветліцца, дакладу вам першаму, Захар Восіпавіч.

— Мда-а...— прамыкаў у трубку кіраўнік раёна,— мда-а, як бы праз мяжу не прасачыўся гэты канфуз... Зняславімся на ўсю Расію і Украіну.

— Не павінна прасачыцца, Захар Восіпавіч,— дагодліва запэўнілі ў трубцы,— будзем спадзявацца, што мяжа на замку.

— Добра! — рэзка абарваў суразмоўцу Захар Восіпавіч.— Трымай гэта на кантролі, а я паспрабую звязацца з расійскім калегам ды празандзірую яго дасведчанасць у нашых справах.

Захар Восіпавіч паклаў трубку і націснуў на кнопку з краю стала. Зараз жа ўвайшла сакратарка.

— Клава, паспрабуй звязаць мяне з нашымі суседзямі ў Расіі.

— З кім канкрэтна, Захар Восіпавіч? — папыталася сакратарка.

— Пажадана з кіраўніком раённай адміністрацыі Жыгаліным Пятром Іванавічам. І хутчэй!

— Добра, Захар Восіпавіч,— і сакратарка выйшла.

Застаўшыся адзін, Захар Восіпавіч закурыў і падышоў да карты, глыбока ўздыхнуў.

— О-хо-хо... Не так даўно мы з Пятром Іванавічам палявалі ды юшачкай ласаваліся ледзь не кожны выхадны... То ён да мяне на крутым віражы, то я да яго знянацку-заліхвацку... Ды і ўкраінскі калега Налівайка часцяком прыстаканьваўся — як кажуць, кумекалі на траіх... А цяпер! О-хо-хо...

Зазваніў тэлефон.

— А-а! — усклікнуў Захар Восіпавіч, ідучы да стала.— Вось і галубчык Жыгалін! Зараз паплачамся адзін аднаму ў камізэльку.

Захар Восіпавіч схапіў трубку:

— Давай, Клава, слухаю!

У трубцы пачулася:

— Прабачце, Захар Восіпавіч, не атрымліваецца выйсці з імі на сувязь...

— Чаму? Што такое?! — грымнуў раённы галава.

— Не ведаю,— задрыжаў голас сакратаркі,— я старалася...

— Дзе гэты лайдак Сідорын? Выклікаць да мяне начальніка вузла сувязі! — захлынаўся ад злосці Захар Восіпавіч.

— Ужо выклікала, ён ідзе да вас, Захар Восіпавіч,— адказала Клава.

Гаспадар кабінета кінуў трубку:

— Во часы! Ні палявання, ні рыбалкі, ні сувязі! Рабінзону пазайздросціш!

Прачыніліся дзверы кабінета, зазірнула Клава:

— Тут Сідорын...

— Сюды яго! — закамандаваў Анкудовіч.

У кабінет грознага шэфа баязліва ўціснуўся начальнік раённай сувязі.

— Здра...— раскрыў ён рот.

— Маўчаць! — гаркнуў Захар Восіпавіч, потым сха-

піў тэлефонную трубку і патрос ёю ў паветры.— Дзе сувязь? З чыёй літасці я адрэзаны ад усяго свету?!

— Я... я...— спрабаваў апраўдвацца Сідорын.

— Што я? Што ты? — не супакоіўся кіраўнік раёна.— Да абанента нейкіх трыццаць км, а перагаварыць з ім не магу. У чым справа?

Сідорын перавёў дыханне і блытана пачаў тлумачыць:

— Я... як бы вам сказаць... Спадарожнік... Расія... Мытня...

— Што ты мелеш? — пырснуў слінай Анкудовіч.— Я ў цябе пытаюся пра сувязь, а ты мне энцыклапедыю з геаграфіяй скрыжоўваеш. Дзе сувязь?

— Вось я і кажу, Расія...

— Што Расія?.. Пры чым тут Расія?.. Дарэчы, мне і неабходна з расійскім рэгіёнам перагаварыць.

— Дык вось, Захар Восіпавіч,— крыху супакоіўся Сідорын,— расійская мытня не прапускае бяспошлінна сігнал з нашага боку. Ускруцілі тарыфы і сякуць наш сігнал на паўдарозе.

— Як гэта сякуць? — разявіў ад здзіўлення рот Захар Восіпавіч.— Сякерай сякуць ці як?

— Ды не! Навошта сякерай? — тлумачыць Сідорын.— Сувязь Беларусі з Расіяй ажыццяўляецца праз спадарожнікавую сістэму. А паколькі энерганосьбіты і металургія знаходзяцца ў руках камерцыйных дзялкоў, а стартавая пляцоўка аж у Казахстане, то і працэс вываду на арбіту штучных спадарожнікаў падаражэў. А спадарожнікі спрэс расійскія, сваіх мы яшчэ не завялі, вось яны і рэжуць нас без нажа...

Кіраўнік раёна здзівіўся:

— Ты такі разумны, а я і не ведаў...

Сідорын пачырванеў:

— Стараюся, Захар Восіпавіч...

Анкудовіч зноў узвінціў тон размовы:

— А дзе наша дзедаўская сувязь? Дзе дрот, кабель?

— А вось дзедаўскую сувязь якраз сякерай і пераseклі бамжы. Іхнія — на тым баку, нашыя — на гэтым, а дрот здалі за бутэльку ў пункт прыёму каляровых металаў...

— О, ё-к-л-м-н! — вылаяўся Захар Восіпавіч.— Не інакш як з мяне пісаў калісьці Шэкспір свайго Рабінзона!

* * *

Вёска Славянка хутка набірала папулярнасць. Калісьці непралазная глухмень, без радыё і электрасвятла, пасля распаду Савецкага Саюза зрабілася памежнай з Расіяй і Украінай, і праз яе праклалі свой шлях так званыя кантрабандысты. Гэта — мясцовыя жыхары, якія, як і раней, працягвалі купляць тое і там, дзе гэта было выгадней. Расіяне і ўкраінцы куплялі ў беларускіх вёсках і крамах адно, а беларусы ехалі або ішлі ў Расію і на ўкраінскі бок па другое. А паколькі мяса, масла і іншыя прадукты трапілі пад забарону ўвозу і вывазу, на мяжы трох рэспублік, як грыбы, выраслі тры мытні — гані пошліну!

Пасля гэтага Славянку электрыфікавалі, дамы нашпігавалі тэлевізарамі і іншай бытавой тэхнікай, аб якой раней толькі марылі. Настала, па славянскіх мерках, райскае жыццё.

Аднак у кожнага медаля ёсць і адваротны бок. Прыкладна на сто першай серыі мексіканскага тэлефільма «Секс без грыму» і на дзевяноста восьмай серыі бразільскай тэлеатруты «Любоўная вакханалія» мясцовыя бабы ўсіх узростаў сцямілі, што на свеце ёсць паголеныя, ласкавыя мужчыны, апранутыя ў модныя смокінгі, а не ў падраныя ватоўкі і стаптаныя, у гнаі боты. Яны, бабы, былі ледзь не забітыя напавал, калі даведаліся, што ад гэтых асляпляльных мужчын не пачуеш п’янай лаянкі, не схопіш «ліхтара» пад вока, што побач з імі не верне нос

ад страшэннага перагару. Гэта быў эфект выбуху бомбы падчас сеанса Чумака ў перапоўненай соннай зале. І прыкладна гэткі выбух скалануў адвечна ціхую Славянку.

* * *

Хуан імпэтна працягнуў рукі да Сесіліі:

— О, Сесілія! О ружа душы маёй! Калі ты пакінеш мяне, я памру ад суму і кахання!

Сесілія кінулася ў абдымкі да Хуана:

— О, мой Хуан! — і іхнія вусны зліліся ў доўгім пацалунку...

На гэтай лірычнай ноце скончылася чарговая серыя бясконцага мексіканскага серыяла.

Ганна выключыла тэлевізар, выцерла слязу і лягла ў пасцель. Было позна. У галаве ліхаманкава гучалі гарачыя словы, салодкія фразы, любоўныя ахі і охі. Яна прыслухоўвалася да іх, замілоўвалася імі.

— Няўжо гэта рэальнасць, а не казка? — шаптала яна.— Няўжо так могуць кахаць жанчыну? Божа, мне хутка сорак, а я быццам толькі прачнулася пасля доўгай ночы... Праспала сорак гадоў. Які жах!

Ганна соладка пацягнулася:

— Гэта ж трэба: «Ружа душы маёй...»

Раптам адчыніліся дзверы і ў хату ўваліўся з цыгарэтай у зубах п’янаваты Васіль, муж Ганны.

— Ну ты даеш! — не то здзівіўся, не то абурыўся ён.— Якога ражна ты не спіш?

Ганніны мроі разляцеліся на друзачкі.

— А цябе дзе носіць? Дзеці і тыя вярнуліся са сваіх гуляў і спяць, а ты...

— А што я? — агрызнуўся Васіль.— Маю я права хлабыснуць з сябрамі ці не маю?

— Дваццаць гадоў от хлабысаеш, і канца не відаць,— не стрымалася Ганна,— паглядзееў бы, як жывуць людзі, ды павучыўся...

— Якія людзі? — адгыркваўся Васіль, распранаючыся.— Людзі не менш за мяне заліваюць за каўнер.

— Вячэраць будзеш? — перамяніла тэму Ганна.

— Кусаў я, закусваў... Спаць хачу, ногі не трымаюць,— пазяхнуў Васіль і бухнуўся на ложак. На Ганну дыхнула тытунём і спіртным перагарам, прэласцю нямытых ног. Ганна скрывіла нос.

— Памыўся б ты хоць, ці што...

— Мядзведзь ніколі не мыецца і вунь які здаровы,— прамармытаў Васіль і адвярнуўся.

Баючыся, што муж хутка засне, Ганна шэптам спыталася:

— Скажы, Вася, я ружа душы тваёй ці не?

— Што-о-о? — не зразумеў Васіль.

— Ну, для цябе я ружа ці не? — больш даходліва паўтарыла Ганна.

— Ты — ружа? — здзівіўся муж.— Ну ты і адмачыла! Яна — ружа! Ха!

— Паслухай, Вася,— кранула Ганна Васіля за плячо,— а ты памёр бы, каб я ад цябе пайшла?

— Што-о? На канапу сабралася, дык ідзі і не дуры галавы.

— Не, Вася, не тое! Уяві, што я пайшла ад цябе зусім, ты памёр бы ад суму і кахання?

Васіль скрывіўся:

— Сапраўдная дурніца! Хто ж ад гэтага памірае?

— Толькі і чую ад цябе гэта слова,— уздыхнула Ганна і адвярнулася да сцяны.

Васіль раптам падняў галаву:

— А да каго гэта ты намылілася ісці ад мяне? Га?

Ганна маўчала.

— Я пытаюся, да каго зліняць хочаш? — больш грозна запытаўся Васіль.

Ганна прастагнала:

— Ды гэта я так... праверыць цябе хацела, пачуцці твае да мяне...

— Ты глядзі ў мяне,— папярэдзіў Васіль,— старая, а туды ж...

— І зусім я не старая,— уздыхнула Ганна.

* * *

Следчая брыгада на чале з Галавастым пад'язджала да Славянкі. У падмогу сабе суддзя ўзяў старшыню сельсавета Паўлоўскага і ўчастковага інспектара міліцыі Куркова. Улічваючы, што пытанне належала вырашаць далікатнае, жаночае, у «уазіку» ехала і жанчына — народны засядацель раённага суда Бахматовіч Серафіма Іосіфаўна, пенсіянерка саліднай камплекцыі. Менавіта для саліднасці яе і ўпрасілі паехаць.

Галавасты праводзіў апошні інструктаж:

— Болей знешняй строгасці! З практыкі ведаю: сентыментальнасць і ўсмешкі ў такой справе толькі шкодзяць. Ты, Зміцер Віктаравіч, як старшыня сельсавета, гні сацыяльную лінію: паабяцай каму плот паправіць, каму халадзільнік без чаргі ці якую экскурсію. А ты, Павел, як участковы, цісні на крымінальны кодэкс, а вы, Серафіма Іосіфаўна, іграйце на струнах жаночай душы. Будзем націскаць на псіхіку, бабы вясковыя — здадуцца!

— А калі не здадуцца, што тады? — спытала Серафіма Іосіфаўна.— Баба — стварэнне ўпартае.

— Па сабе ведаеш? — засмяяўся старшыня сельсавета.

— А хоць бы і па сабе! — з гонарам адказала Бахматовіч.— Калі што, не саступлю нікому!

Галавасты спыніў спрэчку сваіх памочнікаў:

— Слухайце далей! Будзем туманна намякаць, што прыехаў выязны суд, а суда ўсе баяцца, нават бязгрэшнікі. Карацей, так: каго прылашчым, каго напалохаем...

З маланкавай хуткасцю Славянку абляцела вестка: суд прыехаў! На калгасны двор паціху пацягнуліся і старыя, і малыя. Што і казаць — падзея!

Першым, па праву гаспадара, слова ўзяў калгасны брыгадзір:

— Дык што гэта такое, бабы, не ўрадзі ў вас бульба! Крэмзаеце петыцыі ў высокія органы ўціхамятку за спіной мясцовага кіраўніцтва,— і брыгадзір стукнуў кулаком сабе ў грудзі.

— У цябе не спыталіся! — пачулася з натоўпу.

— Ты, Аўдоцця, не муці ваду, не выторквай язык! — прысек свавольства брыгадзір.— Магла і спытацца! Каня дык пытаешся ў мяне. Разумная якая, не ўрадзі ў цябе бульба!.. Карацей, бабы, і вы, мужыкі, судзіць вас будуць...

— А цябе? — крыкнуў хтосьці з вяскоўцаў.— Цябе першага трэба!

— Я асоба афіцыйная,— крыкнуў у адказ брыгадзір,— таму аб'яўляю, што тут прысутнічаюць судовыя ўлады, сельсавецкае начальства і міліцыя, плюс яшчэ вось гэтая пекная жанчына... А першы будзе гаварыць суддзя Галавасцікаў...

— Галавасты. Маё прозвішча Га-ла-вас-ты! — удакладніў суддзя.

— Добра, што не Безгаловы! — пачулася з жаночага гурту.

— Ну, чортавы бабы, не ўрадзі ў вас бульба! — памахаў кулаком брыгадзір.

Харытон Піліпавіч адкашляўся і зычна спытаўся:

— Колькі ўсіх жанчын у вашай вёсцы? Хто можа хуценька адказаць? Я маю на ўвазе жанчын замужніх.

Людзі загулі, падлічваючы і спрачаючыся. Нарэшце пачулася:

— Дваццаць пяць. Усіх жанчын у нас дваццаць пяць, улічваючы і крывых, і кульгавых!..

— Вось дык так! — міжволі вырвалася ў суддзі.— Дваццаць пяць?

— А што тут дзіўнага? — пачулася з натоўпу.— Гэта што, многа ці мала?..

Галавасты дастаў з папкі стос папер і ўзняў іх над галавой:

— А дзіўнае тое, што вось тут роўна дваццаць пяць вашых заяў. Дваццаць пяць! Ні болей ні меней. Атрымліваецца, што сто працэнтаў замужніх жанок напісалі заявы на развод са сваімі мужамі...

— А вы нас на працэнты не пераводзьце! Хопіць таго, што нашы мужы на градусы перайшлі,— пачуўся ўжо знаёмы жаночы голас.

Ускочыў брыгадзір:

— Аўдоцця, пярцоўка ты на хрэне! Не перабівай суд, не ўрадзі ў цябе бульба!

— Дык ужо і без цябе не ўрадзіла,— адказала Аўдоцця.

— Добра! — пагадзіўся Галавасты.— Адкінем працэнты, пяройдзем да фактаў. Ніхто ў сваёй заяве не назваў матываў разводу. Прашу развесці з мужам — і кропка. Прабачце, але я вымушаны задаваць пытанні, а вы абавязаны на іх адказваць...

Натоўп загудзеў, у асноўным шумелі мужыкі. Аказалася, што яны паняцця не мелі аб намерах сваіх жонак. Мужчыны аддзяліліся ад жанчын, збіліся ў кучу, адтуль далятала:

— Пецька! Грышка! Кузьма! Ты ведаў што-небудзь? А ты? А ты? Я — ні храна! І я — ні храна!..

Брыгадзір мармытаў пад нос:

— Гэта ж трэба, бабы не толькі за спіной кіраўніцтва сваволяць, яны і мужыкам уткнулі шпільку ніжэй спіны...

Да Галавастага падскочыў Васіль:

— Скажыце, і супраць мяне заява ёсць?!

— Пачакайце вы! Я яшчэ нічога і нікога не ведаю! — разззлаваўся суддзя.— Дойдзе чарга і да вас.

Васіль крыкнуў у натоўп:

— Ганна! Няўжо і ты здурнела? Пісала ці не?

— Я ж у цябе дурніца цэлых дваццаць гадоў, а ты толькі сёння пытаешся, здурнела я ці не,— ухмыльнулася Ганна.

— Ну, Ганна! Ну, ружа душы маёй! — бліснуў вачыма Васіль і вярнуўся да мужыкоў.

Каб неяк супакоіць прысутных, Галавасты зычна крыкнуў:

— Ціха! Увага, не ўрадзі ў вас... Цьфу ты! — збянтэжыўся ён.— Не тое хацеў сказаць, прабачце...

Усе рассмяяліся і памалу супакоіліся.

Галавасты працягваў:

— Пачнем па парадку. Я буду браць заяву, называць прозвішча і ўдакладняць абставіны. Чым больш арганізавана вы будзеце сябе паводзіць, тым хутчэй скончым гэту справу. Згода?

Усе пагадзіліся, Галавасты ўзяў першую зверху заяву, прабег па ёй вачыма і аб'явіў:

— Раповіч В. І. Ёсць такая?..

— Тута я,— няўпэўнена пачулася ў натоўпе.

— Прашу сюды! — запрасіў суддзя заяўніцу.— Падыдзіце, калі ласка, і расшыфруйце В. І.

Падышла ўжо немаладая жанчына і збянтэжылася, апынуўшыся навідавоку, без аднавяскоўак.

— Дык як вас зваць? — спытаўся суддзя.

— Васіліна Ігнатаўна я...

— Так, добра,— абвёў усіх поглядам Галавасты.— Прашу і мужа Васіліны Ігнатаўны падысці сюды таксама.

— А я нічога нікому не пісаў і нікуды не пайду,— адказаў мужчына з гурту.— А калі і пайду, дык ёй там мала не будзе...

— Ты не кіпяціся, Трыфан,— уставіў сваё брыгадзір,— сказаліісці, значыцца, ідзі і не брыкайся, не ўрадзі ў цябе бульба!

Мужчына нехаця падышоў і стаў побач з жонкай. Сурова зірнуў на яе і паківаў галавой:

— Дурноціна старая!

— Ах так! — ускінулася жанчына.— Ну дык ведай жа — напісала і не каюся! Развядзіце нас, грамадзянін суддзя. Зараз жа развядзіце!

— А ў чым усё-такі прычына такога рашучага кроку, Васіліна Ігнатаўна?.. Пасля многіх гадоў сумеснага жыцця... а дарэчы, колькі год вы пражылі разам? — пачаў удакладняць Галавасты.

— Хутка трыццаць гадоў,— замест жонкі адказаў мужчына.

— Так! Трыццаць гадоў катаргі! — рашуча пацвердзіла жонка.

— Канкрэтызуйце свае прэтэнзіі да мужа. У чым катаржнасць вашага жыцця? Калі выкладзеныя вамі факты пацвердзяцца, я прыму вашу заяву да далейшага разгляду,— паабяцаў суддзя.

Жанчына зірнула на мужа і разанула:

— Ранальда ніколі не абзывае Амелію дурніцай. Ён заўсёды паголены, ён цалуе ёй рукі і падносіць кветкі і падарункі... А я таксама жанчына!

Галавасты павярнуўся да брыгадзіра:

— Хто такі ў вас Ранальда?

— Не ўрадзі ў мяне бульба, такіх у нас няма! Мусіць, нейкі залётны.

— Пра каго вы, Васіліна Ігнатаўна? — павярнуўся суддзя да жанчыны.— І якія адносіны гэты Ранальда мае да вашай сям’і?

— А такія, што жыць гэтак болей я не жадаю! Я таксама жанчына! — стаяла на сваім заяўца.

Старшыня сельсавета сказаў на вуха Галавастаму:

— Ранальда — гэта з бразільскага тэлесерыяла «Любоўная вакханалія»...

— Во-о-ось яно што-о! — праспяваў суддзя.— А я выкручваю звіліны... Ха, Васіліна Ігнатаўна, дык гэта вы кіно наглядзеліся?

— Там жывыя людзі, а не кіно, а я таксама жанчына! — не здавалася Раповіч і рашуча дадала: — Жывая жанчына!

— Я ж сказаў — старая дураслепіна, а вы не верылі,— прамармытаў муж.— Няхай тады твой Ранальда за плугам ходзіць ды ў лес па дровы едзе, а я тым часам буду табе рукі цалаваць...

Натоўп зарагатаў.

— Дык гэта кіно-о? — не пераставаў здзіўляцца Галавасты.

— Гэта цырк, грамадзянін суддзя,— удакладніў муж,— вы толькі падумайце: свае хаты бабы пачалі называць фазэндамі... Пакладуць сала на хлеб і цешацца, кажуць, мы ядзім сэндвіч... Цьфу!

— Так, хопіць! — рэзка абарваў гаворку Харытон Піліпавіч.— З вамі мне ўсё зразумела. Наперадзе яшчэ дваццаць чатыры заявы — дай Бог за два дні ўправіцца. Раповічы — на месца, пераходзім да наступнай заявы. Сыракваш-Цвеціна Алена! Прашу сюды!

Да суддзі наблізілася танюсенькая, як былінка, маладая жанчына, з выгляду амаль дзіцянё.

— Вачам сваім не веру! — дзівіцца суддзя.— Вы замужняя жанчына? Ці вы дачка заяўніцы?

— Я сама замужняя жанчына! — з гонарам адказала амаль дзіцянё.

— Мушу верыць вашым словам і вось гэтай вашай заяве... Прабачце, Алена, мне за маю цікаўнасць, але ў вас такое рэдкае прозвішча... Адкуль такое?

Алена па-дзіцячы запалілася:

— А навошта мне ўсё жыццё быць Сыраквашай-прастаквашай? Я пакінула і сваё дзявоцкае прозвішча — Цвеціна. Я і замуж пайшла за свайго Сыраквашу з такой умовай.

Галавасты ўдакладніў:

— Спадзяюся, не прозвішча з'явілася прычынай напісання вамі гэтай заявы?

— Канешне, не!

— А што ці хто? — зноў задаў пытанне суддзя.— А дарэчы, колькі вы сумесна пражылі са сваім Прастак... прабачце, Сыраквашам?

— Тыдзень, як іх распісаў сельсавет! — не ўтрымаўся брыгадзір.— Ім бы дзягай распісаць адно месца, не ўрадзі ў іх бульба!

— А мне ваша бульба і задарма не патрэбна, ад яе толькі таўсцеюць! — адбілася Алена.

Галавасты папярэдзіў:

— Мы зноў адхіляемся ад галоўнага! Якая прычына вашага разводу, Алена?

— Гэтага я вам сказаць не магу! — рашуча адказала Алена.— Гэта вельмі сур'ёзна!

— Я магу! — зноў азваўся брыгадзір.

Алена здзівілася:

— А вам адкуль вядома?

— Кіраўніцтва павінна ведаць усё і пра ўсіх...

Галавасты перапыніў брыгадзіра:

— Вось як падыдзе ваша жонка, тады выслухаем і вас! Дык што, Алена, прымушае вас разводзіцца, пражыўшы з мужам усяго тыдзень? Яшчэ ж і мядовы месяц не мінуў.

— Не скажу! — стаяла на сваім Алена.

— Тады я скажу! — З мужчынскага натоўпу да Галавастага накіраваўся хударлявы разлахмачаны хлапец.— Я скажу, бо я яе муж!

Алена схамянулася:

— Тады лепей я сама! Мая заява — мне і тлумачыць!

— Тлумач ты,— пагадзіўся муж,— цікава, чым я табе не дагадзіў.

Алена апусціла вочы і маўчала.

— Ну, смялей! Няўжо і паміж вамі стаў тэлевізар? — спрабаваў дапамагчы маладой жанчыне пытаннем суддзя.

— Тэлевізар...— не паднімаючы галавы, адказала яна.

— Якім чынам? Зноў недацалаваныя рукі?

Алена, як і раней, па-дзіцячы запалілася:

— А такім, што па адной праграме ідзе любоўны серыял, а па другой, у гэты ж час,— «Добрай ночы, малышы!». Вось!

Суддзя працягваў яе разважанні:

— А-а, ваш муж прагне глядзець любоўны серыял, а вы...

Алена рашуча перапыніла суддзю:

— Каб жа так! Наадварот! Я люблю любоўныя таямніцы, а ён млее па «спакусе». Яму Хрушка ды Сцяпашка даражэйшыя за інтым!

Усе зарагаталі.

Брыгадзір схапіўся за галаву:

— А я думаў, тут іншая прычына, не ўрадзі ў мяне бульба! Дрэнна ведаю я свае кадры!

Галавасты таксама не стрымаў эмоцый:

— Божа літасцівы! Дзіцячы сад! Вушам сваім не веру! Прабачце мне за фамільярнасць, Сыраквашы-Цвеціны, але — марш на месца! Настрой вы нам падняць паднялі, але столькі часу змарнавалі! Я ўжо баюся чытаць наступныя заявы, каб не наткнуцца на смяртэльнае каханне якой-небудзь Марфы да Гены-кракадзіла! Тут, я бачу, хтосьці штосьці добра замуціў... Каб хацеў, дык такога не прыдумаеш. Але ідзем далей.

Галавасты прабег поглядам па наступнай паперы, паднёс яе бліжэй да вачэй, відаць, почырк быў неразборлівы.

— Так, наступная Кры... Крыш...

— Крыштаповіч,— падказаў брыгадзір.

— Ага, Крыштаповіч Агаф’я, прашу сюды,— запрасіў суддзя.

З натоўпу высунулася з кійком у руцэ бабуля і падкульгала да суддзі.

— Вы?.. Вы Крыштаповіч? — разгубіўся Галавасты.— Гэта вы?..

— А што ты здзіўляешся, сынок-галубок? — у сваю чаргу запыталася бабка.— Я і ёсць Крыштаповіч Агаф'я аж цэлых семдзесят дзевяць гадкоў ад Пакроў святой Багародзіцы... году якога — запамятавала.

— І вы таксама напісалі на развод? — выцягнуў ад здзіўлення шыю Харытон Піліпавіч.

— А што ты здзіўляешся, саколік? І я таксама. Праўда, пісала ад майго імя суседка, бо я не абучаная, але я згодная.

— Дык хто ж у вашыя гады разводзіцца? Навошта вам гэта, Агаф'я, прабачце, не ведаю па бацьку...

— Пілікарпаўна я, галубок...

— А вы чым тлумачыце сваё жаданне развесціся з мужам, Агаф'я Палікарпаўна?

— Я? А я з салідарнасці! Я за кумпанію! Калі вылятаюць усе ластаўкі на волю, адна ў клетцы не застаецца. Вось так, мілок-галубок!

— Фу ты, не ўрадзі ў цябе бульба! — фыркнуў брыгадзір.— А я і не ведаў, што ў нас такія ластаўкі водзяцца!

— Якая б ні была, а на такую варону не гляну! — з гонарам адказала старая.

— Куды там! Табе таксама сэндвіч з Ранальдам падавай! — усклікнуў брыгадзір.

— А я і не адмовілася б! — задрала галаву Агаф'я.

— Хопіць дэбатаў! — рэзка абарваў спрэчку Галавасты.— Я ж прасіў большай арганізаванасці, інакш мы тут зазімуем.— Павярнуўся да старой: — Ваш муж тут, Агаф'я Палікарпаўна?

— Адкедава тут? Дома Пракопік, крыху прыхварэў мой зая.

— А колькі ж год будзе яму, вашаму заю? — пацікавіўся суддзя.

— Яму? Яму, дай Бог памяці, далёка за восемдзесят — колькі ж яму можа быць?

Галавасты пакруціў галавой:

— Ну і справы... І што, Агаф'я Палікарпаўна, галоўная ваша прычына — салідарнасць? Іншых няма?

— Чаму ж няма? Знойдзем! — важна адказала старая.— І я даўно на споведзі не была, душу не ачышчала, а грахі — яны ліпучыя ды западлючыя... Нябось і сам не святы, саколік?

— Ды пры чым тут я, Агаф'я Палікарпаўна?— зморшчыўся Галавасты.— Размова ж не пра мяне. Якія ў вас яшчэ прычыны для разводу ці, як вы кажаце, грахі?

— Э-э, табе толькі скажы,— памахала пальцам Агаф'я,— ты ўмомант усё супраць мяне натапырыш.

— Ды не, Агаф'я Палікарпаўна, абяцаю,— як мага мякчэй запэўніў суддзя.

— Ну, то добра,— згадзілася бабка,— хоць ты і не поп, саколік, а ўсё ж раённае начальства. Крышачку прыадчыню табе душу.

— Ты занадта шырока не прыадчыняй, а то пясок пасыплецца! — пачуўся крык з мужчынскага гурту.

Агаф'я пільна зірнула ў той бок:

— А ты, Мітрый, на маёй памяці бегаў без штаноў і смаркаты, так што хваліцца табе няма чым. Стой там і пускай ціхенька бурбалкі з носа.

Натоўп зарагатаў, хтосьці з'едліва крыкнуў:

— Ану, Мітруха, скідай штаны, праверым, хлусіць старая ці не!

— А-а! Вось чаму ён не ажаніўся да гэтага часу! — другі выкрык падліў смалы ў агонь.

— Ды супакойцеся вы! — напружыў галасавыя звязкі суддзя.— А вы выкладвайце свае прэтэнзіі да мужа, Агаф'я Палікарпаўна! Спадзяюся, што на вас тэлевізар не наслаў сваіх чараў!

— А чаму ж, саколік, і не? І мне Бог даў вочы і вушы, а ў тэлевізары шмат такога, чаго не магу разжаваць сваімі мазгамі. А хто мне патлумачыць? Ты?

— І што такое вам незразумела ў тэлевізары, Агаф'я Палікарпаўна?

— Ой, сынок-галубок, дай Бог памяці! — пачала распеўна старая.— Вось, напрыклад, чула я, што хтосьці недзе згарэў ці гарыць ад афрыканскай страсці... Спыталася ў свайго Пракопа, а той толькі вачыма лыпае, першы раз такое пачуў. Кажа, на яго памяці ніводны чалавек у нашай мясцовасці ад гэтага не згарэў. Былі пажары, гарэлі людзі ад гарэлкі, але такога не было... Ці, скажам, чую я, што ў нас адбылася саксуальная рэвалюцыя, а я ведаю толькі пра Кастрычніцкую. Мой Пракоп зноў развёў рукамі — і ён чуў толькі пра адну рэвалюцыю, бальшавіцкую...

— О-о, Агаф'я Палікарпаўна, дарагая, вось вас куды панесла,— спыніў старую Галавасты.— Я вам вось што скажу...

— Не перабівай! — зноў перахапіла гаворку Агаф'я.— Слухай далей: кожны дзень чую з таго ж тэлевізара пра нейкую сексаапільнасць. У каго ні спытаюся — толькі хіхікаюць ды хахакаюць у адказ. А мне цікавей! Мой Пракоп спрабаваў тлумачыць так: калі гэта сексаапільнасць, значыцца, з нейкага сексадрэва апілкі... Пасля такога тлумачэння на мяне пачалі людзі пальцам паказваць... Навошта мне гэткі бесталковы муж?

— Ну і ну...— паківаў галавой суддзя.

— Ты не нукай, саколік, а адкажы: ты б сам жыў з такім недарэкам?

Галавасты засмяяўся:

— Я асабіста з вашым мужам не жыў бы.

— Ну вось! Чулі? — звярнулася старая да людзей.— Ён з маім Пракопам не жыў бы, а мне загадвае! Які хітры.

Галавасты таксама звярнуўся да людзей:

— Паважаныя славянцы! Баюся, што мы заходзім у тупік... Думаю, што тут патрэбен спецыяліст іншага накірунку... Давайце так, зробім перапынак, мы крыху параімся, а вы адпачніце, пакурыце, толькі не разыходзьцеся...

* * *

Нарада ў кабінеце кіраўніка раённай адміністрацыі Анкудовіча падыходзіла да заканчэння. Захар Восіпавіч абвёў поглядам прысутных і падбадзёрыў іх:

— Так, таварышы ці, як цяпер прынята казаць, панове, спадары, выпрацоўвайце інстынкт выжывання і самазахавання. Шукайце ўнутраныя рэзервы, праяўляйце разумную ініцыятыву, бярыце абставіны за рогі, а цяжкасці за горла!

— Эх, парваліся такія сувязі з Расіяй, Украінай ды іншымі...— пажаліўся хтосьці з прысутных.

Другі капнуў глыбей:

— Гэта ўсё белавежскія зубры, лясныя браты, накруціць бы ім хвасты!

Гаспадар кабінета канстатаваў:

— Гэта — рэальны факт! Вучыцеся мысліць па-новаму. А наконт парваных сувязяў чуе мая душа, што хутка вузельчык завяжацца нанава. Кіраўніцтва дзяржаў ды і народы яшчэ не сказалі свайго апошняга слова. А народ заўсёды мае рацыю! Так, усё! Усе свабодныя! А ты, Сяргей Сяргеевіч, затрымайся, ёсць гаворка,— звярнуўся Анкудовіч да маладжавага статнага мужчыны.

Прысутныя шумна ўсталі, пачалі развітвацца, выходзіць за дзверы.

Калі ўсе выйшлі, Захар Восіпавіч прайшоўся па кабінеце і загаварыў:

— Паслухай, Сяргей Сяргеіч, ты, як оперупаўнаважаны КДБ па нашым раёне, павінен мне дапамагчы ў адной справе.

— Буду рады, Захар Восіпавіч, калі змагу,— адчаканіў опер.— А ў чым цяжкасці?

— Разумееш... сорамна сказаць... грымаса часу — не магу звязацца з расійскім суседам Жыгаліным. Магчыма, ты, па сваіх каналах... пажадана канфідэнцыяльна...

— Што яму перадаць, Захар Восіпавіч?

— Няўжо магчыма?! — падскочыў Анкудовіч да чэкіста.

— Захар Восіпавіч, крыўдзіце,— дакорліва сказаў кадэбіст і спытаўся: — Вы ж ведаеце, як расшыфроўваецца КГБ? Не КДБ, а КГБ?

— Дык гэта сысунок ведае! Камітэт дзяржаўнай бяспекі, а КГБ — Комитет государственной безопасности...

Оперупаўнаважаны рассмяяўся:

— КГБ, той жа КДБ, можна перакласці як Кантора глыбокага бурэння.

— Глянь ты, а я і не ведаў! — прызнаўся Анкудовіч.

— Дык што перадаць Жыгаліну? — перапытаў прадстаўнік спецорганаў.

— Калі можна, перадай яму, што неабходна з ім сустрэцца. Заўтра, гадзін у дванаццаць, я буду на мытным пункце ў Славянцы, тым больш у мяне там вельмі далікатныя справы да мясцовых жыхароў...

— А-а, бабскі бунт,— усміхнуўся Сяргей Сяргеевіч.

— А табе хто сказаў? — напужаўся Анкудовіч і адразу збянтэжыўся.— Ой, прабач... у каго я пытаюся... Сапраўды глыбокага бурэння,— пакруціў ён галавой.

— Я вам болей не патрэбен, Захар Восіпавіч?

— Так, Сяргей Сяргеевіч, ты свабодны, і загадзя дзякую за дапамогу! — паціснуў руку кадэбісту Анкудовіч.

Адразу пасля яго адыходу пазваніла з прыёмнай сакратарка:

— Тут чакае старшыня райсуда Правасуд. Прапусціць ці няхай яшчэ чакае?

— Няхай заходзіць! — згадзіўся кіраўнік раёна.

Правасуд увайшоў у прыўзнятым настроі:

— Здрасце, Захар Восіпавіч!

— Бачу, галубчык, што Славянка разрадзілася добрымі весткамі,— замест вітання прамовіў Анкудовіч.

— Ва ўсякім выпадку, Захар Восіпавіч, там не так страшна, як спачатку ўяўлялася.

— Што, бабы аціхлі? Адбунтаваліся? — пацёр рукі шэф.

— Яшчэ крыху шумяць, але бунт іхні на пустым месцы. Тэлефанаваў Галавасты і смяяўся да слёз — аказалася, бабы нагледзеліся бразільскіх ды мексіканскіх любоўных серыялаў і зажадалі таго ж самага. Патрабуюць ад мужоў свецкага абыходжання і далікацтва ў каханні.

Анкудовіч насупіўся.

— Кажаш, Галавасты смяяўся да слёз... Гэта добра, але смех можна адкінуць, а слёзы пакінуць.

— Не разумею,— разгубіўся Правасуд.

— Бачу, што не разумееш... Скажы, што здарылася пасля таго, як знікла так званая жалезная заслона?

Правасуд, каб зноў не трапіць у няёмкае становішча, прамармытаў:

— Не ведаю...

Анкудовіч працягваў у той жа павучальнай танальнасці:

— А здарылася тое, Антон Сымонавіч, што савецкія людзі адчулі сябе больш беднымі і затурканымі — вочы адкрыліся на многае, пра што і не чулі.

— Дык тое ж жалезная заслона, а тут цёмныя бабы,— зноў замармытаў Правасуд.

— Вось мы гэтым цёмным бабам і закінулі ў дом чорнага ката ў выглядзе мыльных серыялаў. А баба — дурніца, усё ўспрымае літаральна. Размаляваныя дэкарацыі і бутафорскую манну нябесную на экране параўноўваюць са сваім вясковым побытам... Ім бы паказваць блакаду Ленінграда кожны дзень ды бітву за ўраджай.

— Так яно, так,— па-падхалімску падтрымаў начальніка Правасуд,— адпусцілі, паслабілі мы лейцы, ох паслабілі...

— Дэмакратыя, брат, урбанізацыя... А лейцы ў нашых руках засталіся,— задумліва прамовіў Анкудовіч.

* * *

Галавастаму было каля трыццаці гадоў, але ён упарта халасцякаваў. Цяпер жа, нагледзеўшыся на жаночыя выкаблукі ў Славянцы, вырашыў век не жаніцца. Якое ж было яго здзіўленне, калі падчас перапынку «нараду суда» прыпыніла маладая жанчына ці дзяўчына, якая папрасіла Харытона Піліпавіча на два словы.

— Прабачце, Харытон Піліпавіч,— зачырванелася яна,— я хачу толькі запытацца...

— Калі ласка, калі ласка, я да вашых паслугаў! — ветліва адказаў суддзя, і яны адышліся на некалькі крокаў.

— А ў вас якія прычыны для разводу? — першы запытаўся Галаваcты.

— Я... я не разводжуся...

— А-а, дык не ўсе ластаўкі вылятаюць на волю, адна ўсё ж застаецца ў клетцы,— засмяяўся Харытон Піліпавіч.

— Не, не тое,— засаромелася прыгажуня,— я не замужам...

Галаваcты зрабіў крок назад і ўжо іншым позіркам агледзеў з галавы да ног дзяўчыну:

— Гэта цікава! Гэта вельмі цікава! Дык аб чым вы хацелі запытацца?

— Я, разумееце, не тое каб канкрэтна запытацца... я хацела б з вамі пагутарыць як з вопытным юрыстам.

— І пра што?

— Справа ў тым, што я завочна вучуся на другім курсе юрфака ва універсітэце,— хвалявалася дзяўчына,— а лекцыі і кніжкі — гэта чыстая тэорыя... А вы, Харытон Піліпавіч, практык...

— Вось дык во! — усклікнуў Галаваcты.— Мы калегі!.. І тым не менш я цяпер не магу вам удзяліць шмат увагі, перапынак канчаецца, і я мушу выслухоўваць далей гэту, прабачце, бязглуздзіцу.

— Вось я і хачу папрасіць вас, Харытон Піліпавіч (вы ж застаяцеся начаваць?) вечарам працягнуць нашу размову, калі вам гэта цікава...

— Так, так, безумоўна, цікава! Прабачце, як вас зваць?

— Аня.

— Вельмі прыемна, Аня, цудоўнае імя! Дзе і ў колькі мы можам сустрэцца? — змоўніцкім шэптам спытаўся Галавасты.

— Ву-у-унь той масток праз ручай,— вачыма паказала Аня,— там я вас буду чакаць. А ў які час? У любы, як толькі выслабаніцеся ад сваіх абавязкаў,— і Аня лёгкай хадой пайшла ад суддзі.

Заклапочаны Галавасты вярнуўся да сваіх.

— Што, парламенцёр? — спытаўся ўчастковы інспектар.

— Які парламенцёр?! — хмыкнуў старшыня сельсавета.— Ахмураюць!

— Навошта вы так?! — дакорліва адбіўся ад сяброў суддзя.— Чалавек спытаўся, як юрыдычна правільна складаць заяву... Не магу ж я людзям у вочы пляваць. Дарэчы, і вунь тым бабам у вочы не плюнеш, хоць гародзяць такое, што хоць стой, хоць падай.

Старшыня сельсавета спытаўся па тэме:

— Харытон Піліпавіч, няўжо ўсе заявы будзеш перапапачваць?

— А што загадаеш рабіць? Паглядзі, стаяць вунь і чакаюць суда праведнага... Серафіма Іосіфаўна, дарагая,— схамянуўся суддзя,— на вас уся мая надзея!

— А што я магу зрабіць? — здзівілася Бахматовіч.

— Вы такая салідная,— працягваў суддзя,— у вас жыццёвы вопыт, і, нарэшце, вы жанчына, парайце ім, вярніце ў сямейнае лона.

— Сказаць-то я магу, але ж вы ведаеце мой характар, вазьму ды яшчэ парагну,— пачала згаджацца жанчына.

— Ды тут, колькі ні гні, не перагнеш! — узрадаваўся Галавасты.— З усёй рэзкасцю, вастрынёй, заліхвастасцю націсніце на іх!

— Угаварылі, я слабая жанчына,— усміхнулася Бахматовіч.

— Вось і цудоўненька! — падняў уверх палец Харытон Піліпавіч, пасля ўзяў пад руку ўчастковага інспектара і адвёў убок, дзе нешта абмяркоўваў з ім.

Вярнуўшыся, Галавасты гучна абвясціў:

— Увага! Перапынак закончаны! За работу! Прашу ўсіх падысці бліжэй! У-ва-га!.. Зараз да вас звернецца Бахматовіч Серафіма Іосіфаўна, народны засядацель раённага суда, чалавек паважаны і аўтарытэтны. Яна — жанчына, і ёй зразумелыя вашы праблемы і скаргі, таму прыслухайцеся да яе парадаў і рэкамендацый. Яна вам благога не жадае! Вам слова, Серафіма Іосіфаўна.

Хтосьці нясмела пляснуў у далоні.

Бахматовіч абвяла прысутных позіркам.

— Дарагія людзі! — пачала яна даверліва і цёпла.— Я перад нашым сходам паспела з некаторымі славянцамі перакінуцца словам, парушыла афіцыйны пратакол. Такія далікатныя пытанні цяжка вырашаць публічна. Засядаючы шмат гадоў у судзе, я пераканалася, што казённае ўмяшанне ў прыватнае жыццё, нават у няскладнае, толькі паглыбляе асабістыя трагедыі. Вось і сёння прыехалі да вас чатыры чужыя вам асобы і адразу спрабуюць вырашыць праблемы, што раслі гадамі. Я ўжо не кажу пра інтымныя адносіны паміж мужам і жонкаю. Але калі мы ўжо абралі такі спосаб, публічны, можа, гэта пойдзе і на карысць. Няхай кожны паглядзіць на сябе збоку. Збоку, кажуць, відней. Ад сябе як жанчына скажу — малайцы, бабы! Патрабуйце свайго! Не папускайцеся! Не губляйце сваю годнасць!..

У Галавастага адвісла сківіца. Ён, не міргаючы, глядзеў на «свой козыр» і вушам не верыў.

А Серафіма Іосіфаўна працягвала:

— А вы, мужыкі! Няўжо так многа хочуць вашы жонкі? Самую дробязь! Увагі да сябе і павагі. А каханне — тое, што яны зачараваны каханнем на экране, дык вінаватыя толькі вы — недакахалі, недасказалі ласкавых слоў, недацалавалі ім рукі. Вы вось стаіце няголеныя, зацухмоленыя, перагарам на вярсту тхне...

Мужыкі апусцілі галовы, пераміналіся, быццам стаялі на вуголлі.

— Ну што, ахламоны, не ўрадзі ў вас бульба, схапілі па вушах?! — напомніў пра сябе брыгадзір.

— Не петушыся, і твая Параска напісала заяву на развод! — куснула неўтаймоўная Аўдоцця.

— Ну, Аўдоцця! Ну, крапіва на хрэне! Звернешся ты да кіраўніцтва! — патрос кулаком брыгадзір.

— Гаварыце, Серафіма Іосіфаўна! — закрычалі жанчыны.— Уваліце ім як мае быць!

— А што болей казаць, жанчынкі? — паціснула плячыма Бахматовіч.— Ваша справа, жыць вам з мужамі ці не. На кожны дзень ды на кожную сям'ю парады не дасі... Скажу, што жыць адной бабе не мёд, але і класціся мужчыну ў ногі замест анучы не трэба... Вось і ўсё... Дзякуй за давер і ўвагу!

Жанчыны горача запляскалі ў далоні, мужчыны працягвалі глядзець у зямлю.

Галаवасты не разгубіўся, тузануў за рукаў участковага інспектара і звярнуўся да сяльчан:

— Тут вось штосьці мае сказаць вам афіцыйны прадстаўнік міліцыі,— і хітра зірнуў на ўчастковага.

Міліцыянт строга кашлянуў, сурова глянуў на людзей і дэманстратыўна паправіў кабуру.

— Я скажу коратка,— пачаў слуга правапарадку,— вы, жанчыны, настойваеце на тым, што вашы мужы ва ўсім вінаватыя. Так?

Ад жаночага натоўпу пачулася насцярожанае:

— Ну так...

Участковы працягваў:

— Вось і наша паважаная Серафіма Іосіфаўна аўтарытэтна пацвердзіла гэта. А калі тут прысутнічаюць вінаватыя, я абавязаны іх арыштаваць і пасадзіць у каталажку.

Галавасты трыумфаваў і ледзь стрымліваў усмешку.

Участковы зычна аб'явіў:

— Тым жанчынам, хто пісаў заявы, дазваляю падысці да сваіх мужоў і развітацца. Даю пяць хвілін!

Зрабілася напружана ціха. Ад нечаканасці ніхто не мог крануцца. Участковы зноў паправіў кабуру і паглядзеў на гадзіннік.

— Час ідзе, стрэлкі не стаяць на месцы! — ціснуў ён на псіхіку.

З жаночага гурту рашуча рванулася Ганна:

— Як арыштаваць? Каго арыштаваць? Майго Васіля?! Ды ў нас двое дзяцей, і жывём мы душа ў душу! А не пагаліўся ён таму, што сёння на досвітку пайшоў на працу — ён у мяне трактарыст! А па-другое — чулі? — ён мяне назваў ружай душы сваёй! Дзе мая заява? Аддайце назад!..

Бабы як па камандзе кінуліся да Галавастага і пачалі ў шматкі рваць заявы, ад якіх пад нагамі зрабілася бялютка, як зімой ад снегу.

Карыстаючыся мітуснёй, Крыштаповіч Агаф'я непрыкметна адкульгала за вугал калгаснага тока, доўга корпалася ў фальбонах сваіх спадніц, нарэшце дастала партатыўны мабільны тэлефон, скручаным пальцам набрала нейкі нумар. Праз імгненне вочы старой загарэліся маладымі агеньчыкамі.

— Алё! Сяргей Сяргеевіча можна? А, гэта вы, таварыш капітан! Дакладаю, што распрацаваны вамі план па перавыхаванні славянскіх мужыкоў спрацаваў выдатна!..

Нейкі час старая, відаць, выслухоўвала розныя пытанні, пасля чаго зноў ажывілася:

— Так точна! Так точна! Дурыла ім галовы і саксуальнай рэвалюцыяй, і афрыканскай страсцю. Стаяць як мыла з'еўшы. Рада старацца, таварыш капітан! Заўсёды гатова! — і на апошніх словах Агаф'я ўзяла зморшчанай даланёй пад казырок.

Потым схавала ў фальбоны спадніц тэлефон і спакойна падкульгала да астатніх, дзе наўчуткі ўсім заявіла:

— І маю заяву парвіце! Саксуальная рэвалюцыя адмяняецца!

* * *

Вечар выдаўся цёплы, ласкавы. Галавасты здалёк убачыў на мастку Аню. Нечакана ўздрыгнула заскарузлае сэрца халасцяка. Ён міжволі паскорыў хаду, але злавіў сябе на гэтым і спыніўся.

— Што гэта са мной? — падумаў ён услых.— Бягу, як юнак на спатканне... Хаця... хаця яна вельмі мілая і непасрэдная.

Галавасты рашуча пакрочыў далей і супакоіў сябе:

— У нас дзелавое спатканне, так, дзелавое, як калега з калегам...

Аня не ўмела крывадушнічаць, таму шчыра ўзрадавалася:

— Ой, як добра, што вы прыйшлі, Харытон Піліпавіч, я баялася...

— Ну што вы, Анечка, я ж даў слова,— шчыра адказаў суддзя.

Яны паціху пайшлі ўздоўж ручая.

— А вечар які! Яснавокі, рамантычна-задуменны! — нечакана лірычна вымавіў Галавасты.

— А вы паэт, Харытон Піліпавіч!

— Што вы! Што вы! Я корпаюся ў такой дзікунскай прозе, што непазбежна ператваруся ў сухую літару крымінальна-працэсуальнага кодэкса. Гэта на мяне сёння нешта найшло...

— І я не паэтка, але не ўяўляю сябе без гэтага вечара, без нашых світанкаў, без гэтай гармоніі і чысціні... Ведаеце, Харытон Паліпавіч, я, бываючы ў Мінску на сесіі, адчуваю дзіўнае пачуццё: быццам ператвараюся ў нейкую другасортную шрубку ў агромністай механічнай машыне або парушынку ў гіганцкім віры. Парадокс, але сярод мноства мітуслівых людзей я адчуваю сябе адзінокай, адарванай ад самой сутнасці жыцця...

— Так, Аня, да горада трэба прывыкаць,— пагадзіўся Галавасты,— некаторыя, жывучы ў ім доўгія гады ці нават усё жыццё, не прымаюць горад душой. Напэўна, вы належыце да тых некаторых...

Далей ішлі моўчкі, слухаючы птушыныя спевы.

Харытон Піліпавіч парушыў маўчанне:

— Вось вы, Аня, сказалі аб адарванасці ад самой сутнасці жыцця. А ў чым, па-вашаму, гэта сутнасць?

— Пытанне філасофскае,— усміхнулася дзяўчына,— па-мойму, сутнасць жыцця ў тым, каб быць патрэбным жыццю.

— А тут... Тут, у гэтай глухамені, каму вы патрэбны? — здзівіўся Галавасты.

— Тут я адчуваю сябе часткай гэтага вечара, гэтай зямлі... Магчыма, таму, што яны мне неабходныя, здаецца, што і я ім патрэбная,— проста патлумачыла Аня.

— Вы такая наіўная, Аня! — не стрымаўся Галавасты.

— Гэта дрэнна? — здзівілася дзяўчына.

— Як вам сказаць... Тут гэта добра, тут вы арганічна звязаны з навакольным светам, у якім вы нарадзіліся і жывяце, а горад бязлітасна перамеле вашу наіўнасць, нават мукі не будзе.

— Значыцца, вы згодны, што горад — гэта дрэнна?

— Не, Аня, я гэтага не казаў. У горадзе свая спецыфіка чалавечых узаемаадносін, у вёсцы свая. Вось у вас, у Славянцы, ці так ужо ўсё ідэальна? П’яныя мужчыны, цяжкая праца, незадаволеныя жанчыны...

Аня перахапіла гаворку:

— Дарэчы, Харытон Піліпавіч, мне не даспадобы ваша выказванне пра бязглуздую гаворку нашых жанчын. Магчыма, яны і недарэчна выказваюцца, але гавораць пра набалелае...

— Прабачце, Анечка,— горача сказаў суддзя.— Даруйце літасцю Бога! Я тады быў знерваваны і сказаў гэта не падумаўшы...

Летняя ноч кароткая, за размовамі Харытон Піліпавіч і Аня не заўважылі, як пачало віднець. Падышоўшы да Анінага дома, Галаваcты ўздыхнуў:

— Ну вось, жыццё кароткае, а ноч зусім імгненне...

Аня выказала свае думкі:

— Вось як усё адбылося нечакана... успамінайце часам наіўную славянку, непрыдатную для гарадскога жыцця...

Галаваcты схамянуўся:

— І не толькі ўспамінаць буду! Вось мая візітоўка, тут тэлефоны, рабочы і хатні, я буду чакаць званка.— Суддзя зноў ажывіўся: — Ды, Анечка, мы з вамі сёння забыліся пра юрыспрудэнцыю — вось і нагода для сустрэчы!

— Я патэлефаную,— шчыра сказала Аня, беручы візітоўку.

— І яшчэ напаследак можна адно пытанне задаць? — ціха запытаўся Галаваcты.

— Я слухаю,— гэтак жа ціха адказала Аня.

— Вы нават не пацікавіліся, жанаты я ці не. Чаму? Няўжо вам усё адно?

— Гэта ўжо два пытанні,— засмяялася дзяўчына.— Эх, Харытон Піліпавіч, ды вы не паспелі з машыны ступіць на нашу зямлю, як так званы лапцевы тэлефон лепш за любы кампутар разнёс пра вас усю інфармацыю...

— Вось аб чым не думаў, дык не думаў,— здзівіўся Галаваcты.

Аня падала руку:

— Да пабачэння, Харытон Піліпавіч!

— Да пабачэння, Анечка! Было вельмі прыемна,— пацiснуў руку Харытон Піліпавіч і накіраваўся да дома брыгадзіра, дзе яго ўладкавалі на начлег. Адчыняючы варотцы, суддзя раптоўна пачуў ззаду:

— Дык колькі замужніх жанчын у Славянцы?

Галавасты ад нечаканасці здрыгануўся і крутнуўся на месцы. Ззаду стаяў участковы інспектар і весела ўсміхаўся.

— А ты чаму не спіш? — здзівіўся суддзя.

— Служба такая! — і зноў паўтарыў пытанне: — Дык колькі ўсё ж тут замужніх баб?

— Дваццаць пяць... Чаго прычапіўся?

— Ха-ха-ха! — зарагатаў участковы.— Значыцца, хутка будзе дваццаць шэсць.

— Сказаў бы я табе пару ласкавых, але я твой даўжнік. Ты мяне выручыў, як ніхто,— так пакручваў кабурой з пісталетам, нагнаў страху і на баб, і на мужыкоў.

Участковы дастаў з кабуры агурок.

— Вось, Харытон Піліпавіч, браў на закусь, а ён спатрэбіўся для іншага,— і ўчастковы смачна адкусіў вялікі кавалак.

* * *

Анкудовіч на службовай «Волзе» прымчаўся ў Славянку. Прыехаў не ў дванаццаць, як было дамоўлена, а на гадзіну раней, каб паспець даведацца на месцы пра падрабязнасці калектыўнага разводу мясцовых баб са сваімі мужамі, прыехаў своечасова, бо следчая група, як кажуць, складала чамаданы.

— Усё ў парадку, Захар Восіпавіч! — радасна выбег насустрач высокаму начальству Галавасты.— Поўная ідылія і згода ў кожным доме!

— А як гэта вам так хутка ўдалося? — здзівіўся Анкудовіч.— Вы ім што, усе тэлевізары пераламалі?

— Тут, Захар Восіпавіч, адбыўся іншы пералом — псіхалогія мужчын пераламалася ў лепшы бок! — узнёсла тлумачыў Галавасты.— Мужчыны сёння паголеныя, прычасаныя, падцягнутыя — куды там бразільскім ды мексіканскім да славянскіх!

— Ух ты! — здзівіўся Анкудовіч.

— А вунь якраз ідзе адзін з такіх, глядзіце, Захар Восіпавіч! — паказаў суддзя на мясцовага мужыка.

Той быў у гумовых ботах, пацёртых штанах і пакамечанай кашулі, але гладка зачэсаны, паголены і пад гальштукам.

Параўняўшыся з раённым начальствам, мужчына спыніўся, адставіў фацэтна нагу і пакланіўся.

— Честь имею, господа! — сказаў ён праз губу і ганарлівай хадой пайшоў далей.

— Вось гэта дык ага-а! — не пераставаў здзіўляцца Анкудовіч.— Ды вы, Харытон Піліпавіч, Макаранка дваццаць першага стагоддзя!

— Дзякуй, Захар Восіпавіч! — сціпла апусціў вочы Галавасты.

— Аднак,— схамянуўся Анкудовіч,— мяне чакаюць справы, дзе тут мытня?

— Вунь яна, а побач расійская і ўкраінская.

— Якая беднасць! Гэта ж картачныя домікі,— крытычна заўважыў Захар Восіпавіч.

— Так, фанера,— падтрымаў яго Галавасты,— усе лічаць, што гэта часова, і не жадаюць траціць дарэмна грошай.

— Ну, мне пара! — І Анкудовіч рашуча накіраваўся да мытні. Падышоўшы да прапускнога пункта, Захар Восіпавіч падаў мытніку службовае пасведчанне: — Я кіраўнік адміністрацыі гэтага раёна, і мне неабходна прайсці вунь туды на сустрэчу з расійскім калегам.

Мытнік, не разгарнуўшы пасведчання, зірнуў праз плячо на незнаёмца:

— Не паложана! Асадзі назад! — выціснуў ён праз зубы.

— Вы пачытайце пасведчанне, я гаспадар гэтага раёна! — кіпяціўся Анкудовіч.

Мытнік падаў назад пасведчанне і сплюнуў цераз губу:

— Мы не раённага, а рэспубліканскага падпарадкавання. Адыдзіце назад!

— Ды я вас!..— зелянеў ад злосці Анкудовіч.

— А я вас...— спакойна адказаў мытнік.

Падышоў Галавасты:

— Пачуў здалёк вашы крыкі, Захар Восіпавіч, і падбег, магчыма, дапамога патрэбна?

— Ды не,— абурана адказаў гаспадар раёна,— тут мудрэй за славянскіх баб... Ідзі, Харытон Піліпавіч, цябе там чакаюць, а тут я сам як-небудзь.

— Як загадаеце, Захар Восіпавіч,— пацiснуў плячыма суддзя і рушыў прэч. Прайшоўшы крыху ўздоўж мяжы, Галавасты вырашыў крутнуць да мастка, дзе ўчора адбылася сустрэча з Аняй. Але непадалёк бульдозер варочаў зямлю...

— Такую прыгажосць псуюць! — абурыўся ён і павярнуў да месца збору.

— Харытон Піліпавіч! Э-ге-гей! — пачуў Галавасты і азірнуўся.

З бульдозера скокнуў Васіль і кінуўся да яго.

— Вітаю вас, грамадзянін суддзя! Гэта я, Васіль! Учора вы вярнулі ў нашу сям’ю згоду і спакой — дзякуй вам!

— Ды не я, а вы самі вярнулі згоду ў свае дамы,— сумна сказаў Галавасты.— А як адчувае сябе ружа вашай душы?

— Поўны парадак! — бліснуў усмешкай Васіль.— Бачыце?! — і ён паказаў на паголены твар і гальштук на

шыі.— А вы чаго гэткі сумны, Харытон Піліпавіч? Непрыемнасці якія, ці што? А-а! Гэта вы пасварыліся з мытнікамі — крык быў чуваць аж тут. Ды ну іх...

— Не, я не сварыўся, проста яны адмовілі аднаму чалавеку прайсці на нейкіх сто метраў па справе...

— Я ж сказаў, ды ну іх... А чалавек добры? — пацікавіўся Васіль.

— О-о, браток! Гэта самы галоўны чалавек у раёне! Ад яго залежаць і мая кар'ера, і маё будучае... Ну, Васіль, бывай здаровы,— і Галавасты пакрочыў далей.

— Добры чалавек стаіць каля гэтых казлоў?! — закрычаў услед суддзі Васіль.— Дык не бываць гэтаму! Ваш сябар — мой сябар, вы мне дапамаглі — я вам дапамагу!

Але Галавасты адышоў ужо далекавата і наўрад ці чуў гэта.

А тым часам Анкудовіч, пакруціўшыся каля мытніка, заўважыў на расійскай тэрыторыі свайго сябра і калегу Жыгаліна. Было відаць, што ён не здолеў пераканаць сваіх мытнікаў.

Анкудовіч падбег да бар'ера, закрычаў і замахаў рукамі:

— Пётр Іванавіч! Жыы-гаа-лін! Я тут!

— О-го-го! Заа-хаар Воо-сі-па-вііч! Рады вас...— ледзь далятала ад Жыгаліна, і далей нічога немагчыма было разабраць.

— І я рады... Пазвані мне-е-е! — напінаўся Анкудовіч.

— Што? Не чую-ю! Не чую-ю! — ірваў галасавыя звязкі Жыгалін.

— Начую? Не, не начую-ю! — крычаў наўздагад Анкудовіч.

Пачуўшы гэткі лямант, за спіной Анкудовіча і Жыгаліна пачалі збірацца цікаўныя. Іх прыбывала і прыбывала.

Жыгалін махаў рукамі і паказваў кудысьці ўбок. Да вушэй Захара Восіпавіча далятала:

— Налівайка... На-лі-вай-ка-а...

— А як я налью? — не разумеў Анкудовіч.— Адналіваліся!

Жыгалін крычаў:

— Ту-ды! Ту-ды!..

Толькі цяпер Захар Восіпавіч глянуў туды, куды паказваў сябар. Там, на ўкраінскай тэрыторыі, стаяў і махаў рукамі ўкраінскі калега Налівайка. За ім, замыкаючы гэты міждзяржаўны трохкутнік, таксама стаяў натоўп людзей.

— Ого! Гэй! Гэй! — крычаў украінец.— Здоровэнькі булы! Я звяртаўся-я... Трэ бульба-а... бульба-а...

— Што-о? Тарас Бульба? Не чую, не разумею,— з усяе сілы крычаў Анкудовіч, але яго голас і слых паглынаў нейкі грукат за спіной.

Анкудовіч азірнуўся і ледзь не самлеў — проста на мытню пёр вялізны бульдозер, з кабіны якога далятаў крык:

— Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

Бульдозер штурхнуў вугал фанернай пабудовы, пачуўся трэск. З памяшкання выбеглі тры мытнікі і ў паніцы разбегліся. Мытня, сапраўды як картачны дом, паслухмяна склалася перад бульдозерным нажом. Бульдозер пакіраваўся далей, на расійскую тэрыторыю, з кабіны чулася:

— ...усё разбурым, а затым...

Песню паглынала ракатанне матора. Было відаць, як і другая «таможня дала дабро», потым абрынуўся і ўкраінскі пункт.

Толькі цяпер людзі ачомаліся, скінулі аслупянеласць. З крыкамі «ўра!» яны кінуліся насустрач адно аднаму. Анкудовіча падхапіў неверагодны душэўны ўздым, і ён рынуўся насустрач сваім калегам, якія таксама беглі з

гэткім жа ўздымам. Недзе ў цэнтры гэтага «бермудскага трохкутніка» сябры сустрэліся і абняліся. Вакол радаваліся, цалаваліся людзі.

Анкудовіч выцер слязу і ўрачыста сказаў сваім калегам:

— Ну, што я казаў? Гісторыю піша народ!

## Вайна забівае нявінных

Нягледзячы на страх, выкліканы прароцкімі прадказаннямі Настрадамуса аб нейкай катастрофе сусветнага маштабу, чалавецтва без вялікіх патрасенняў пераступіла праз парог трэцяга тысячагоддзя. І не толькі пераступіла, але й пражыло ў новым тысячагоддзі ажно цэлых пяць год. І у слове «ажно» няма ніякай іроніі, бо для таго, каб загінуць усяму жывому на Зямлі, патрэбны нават не гады, не дні, а гадзіны.

Вось чаму свядомая частка чалавецтва, цвяроза ацэньваючы стан сучасных узаемаадносінаў паміж дзяржавамі, палітычную амбіцыёзнасць некаторых з іх і ўзровень узбраення, радавалася кожнаму ўсходу сонца і ўкладала ў словы «спакойнай ночы» асобы сэнс.

Але што такое чалавецтва? Паняцце гэта даволі абстрактнае, якое абагульняе ўсіх людзей у нешта ледзь не містычнае, цяжкадаступнае і малаэфектыўнае ў барацьбе з такім пачварным злом, як самазнішчэнне — вайна.

Колькі разоў гісторыя паказвала чалавецтву, што яно — сляпое і бездапаможнае немаўлятка ў руках палітыканаў, авантурыстаў, прайдзісветаў. А тая частка чалавецтва, якая лічыла, што вырасла з паўзункоў немаўляткі, уяўляла з сябе мяккую гліну пад магутнымі патокамі дэзінфармацыі, прапаганды, адкрытай ідэалагічнай ілжы, якую тыя ж авантурысты і прайдзісветы шчодра ліюць на галовы чалавецтва, і гэтая «гліна», непрыкметна для сябе, паслухмяна дэфармуецца і набывае патрэбныя палітыканам формы.

Працяглы мір і трывалы дабрабыт прытупляюць пільнасць чалавецтва, і яно, адаспанае ў мірным ложку і ад’етае за тлустым сталом, праяўляе не трывогу, не страх, а дзіцячую зацікаўленасць да кожнай новай «гарачай»

кропкі на зямлі. З вуснаў чалавецтва гатова сарвацца адвечнае прагнае слова: «Ідовішчаў!» — пры гэтым яно забываецца на тое, што ў першую чаргу вайна забівае нявінных — само чалавецтва.

І што самае небяспечнае — чалавецтва, ходзячы па касцях папярэдняга чалавецтва, не разумнее. «Гліна» паслухмяна мяняе формы — балем правяць адзінкі.

* * *

Тыя кропкі, якія завуцца «гарачымі», узнікаюць ці «гарачэюць» не самі па сабе, за імі — нечая зацікаўленасць, унутраная альбо знешняя. І хоць кажуць: дзе два, там трэці лішні — часцей за ўсё раздзімае агонь гарачых кропак менавіта трэці.

Тайныя змовы, цкаванне спадцішка, падкармліванне грашыма і забеспячэнне зброяй, абяцанкі і пагрозы, шантаж і прамое ўмяшанне ў справы — вось далёка не ўсе вугельчыкі таго жару, які і робіць кропку гарачай.

Галоўным вугельчыкам гэтай «апошняй» «гарачай» кропкі, як напачатку сцвярджалі эксперты-палітолагі, было неаднойчы праверанае цкаванне спадцішка. Тут, у цэнтры Еўропы, у невялічкай краіне, сутыкнуліся ўнутраныя нацыянальна-рэлігійныя амбіцыі. Асабліва на рэлігійнай глебе адно вірусаслова, кінутае спадцішка «трэцім», здольна выліцца рэкамі крыві як з аднаго, так і з другога боку. Трэці, як правіла, выходзіць з вады (з крыві) сухім.

Афіцыйна ж той трэці выказваў незадаволенасць кіруючым рэжымам сярэднееўрапейскай краіны, дзе, з яго слоў, правіў не закон, а дыктат, дзе чалавечая годнасць была раздушана крывавай падэшвай сярэднявечча.

І усё ж не першае і не другое прымусіла «трэцяга» пайсці на рызыкоўны крок, растаптаўшы цяпер ужо дэма-

кратычнай падэшвай многія людскія лёсы, пацвердзіўшы адвечнае: «Вайна забівае нявінных».

Галоўнай смакатой, якая казытала палітычную ненажэрнасць «трэцяга»,— была прага пашырэння палітычнага ціску на ўвесь свет, хаця і без таго пад гэтым ціскам задыхаліся многія краіны, у тым ліку і саюзнікі ненажэрнага.

Былі і іншыя далёка забягаючыя планы, якія ніколі не пакідалі гарачыя галовы, пераходзячы, нібы гены, ад пакалення да пакалення.

* * *

Нешта падобнае адбывалася ў канцы другога тысячагоддзя. Тады краіны, якія лічылі сябе дэмакратычнымі, бамбілі, як яны называлі яго, чалавеканенавісны рэжым. Рэжым, як вядома, не разбамбілі, а вось многія, ні ў чым не вінаватыя людзі, злеглі заўчасна ў зямлю. А тыя, хто засталіся жывымі, сядзелі на клунках і папялішчах сваіх дамоў, побач з магіламі родных і блізкіх.

Аказваецца, і дэмакратычныя бамбёжкі нясуць простым людзям гора і разруху. Відаць, косці продкаў, па якіх ходзіць чалавецтва, павінны шматслаёва вырасці, каб аднойчы, з гэтай жахлівая вышыні, апошні жыхар Зямлі здолеў акінуць вокам увесь доўгі і крывавы шлях сваіх папярэднікаў...

— Нешта падобнае адбывалася ў тысяча дзевяцьсот дзевяноста дзевятым годзе,— такімі словамі пачаў нараду кіраўнік ваеннага ведамства самай магутнай капіталістычнай дзяржавы.

Абвёўшы поглядам прысутных, сваіх саюзнікаў па ваеннаму блоку, працягваў:

— Тады мы паказалі ўсяму свету, што наша моц і

наша зброя — галоўны аргумент, супраць якога астатняе — дэмагогія!

Усе ўважліва слухалі.

— Сёння,— працягваў прамоўца,— новы час і новыя задачы. Урокі мінулага — яшчэ адзін наш саюзнік. Таму, як лічыць Прэзідэнт маёй дзяржавы, для правядзення больш паспяховай ваеннай акцыі супраць антыдэмакратычнага рэжыму, мы павінны адначасовав паветранымі ўдарамі пачаць і наземную аперацыю.

Усталявалася доўгая і марудная цішыня. Ніхто нават не варухнуўся.

— Гэта што, згода?.. Ваша маўчанне — згода?! — перапытаў выступаючы.

Слова ўзяў кіраўнік ваеннага ведамства Францыі Клод Жуан:

— Сваё асабістае маўчанне я тлумачу поўнай нечаканасцю прапановы, адсутнасцю маіх паўнамоцтваў для рашэння такога пытання і, неафіцыйна, чыста па-чалавечы, сваёй нязгодай на правядзенне наземных ваенных дзеянняў... Сэр, я не толькі генерал, я — яшчэ і бацька і на праблему гляджу з пазіцыі бацькоў, якія хочуць бачыць сваіх дзяцей жывымі. Цана, якую мы...

— Ну, ну, ну! — прымірэнчым тонам занукаў вядучы нарады.— Ну не трэба лірычных мелодый! Гэта ж толькі першая нарада, на якой канцэптуальна вырашым, як казаў Гамлет: быць ці не быць? Ніякіх дэталяў, ніякіх бацькоўскіх пачуццяў... А калі ўжо закранаць гэтыя пачуцці, магу строга канфідэнцыяльна давесці да вашага ведама, што наш Прэзідэнт у выпадку пачатку наземных дзеянняў, каб паказаць дэмакратычнасць нашага ладу і роўнасць усіх перад законам, пашле і свайго адзінага сына разам з іншымі амерыканскімі салдатамі абараняць дэмакратыю і свабоду.

Гэта навіна была не менш нечаканай, чым аб’ява аб падрыхтоўцы шырокамаштабнай паветранай і назем-

най аперацыі ўсярэдзіне Еўропы супраць суверэннай дзяржавы.

Прысутныя разумелі, што іх згода ці нязгода — толькі гульня ў дэмакратыю. Усё будзе вырашана (ці ўжо вырашана) на самым высокім узроўні. Яны, ваенныя,— толькі выканаўцы волі сваіх кіраўнікоў...

З усіх выступаючых на гэтай нарадзе, якія дыпламатычна заявілі, што, калі паступіць загад, яны яго выканаюць, можна адзначыць англійскага генерала Тэрнера. Вось яго заключныя словы:

— Я хоць сёння гатовы паставіць на марш любую колькасць узброеных і высокападрыхтаваных вайскоўцаў!

На што старшынствуючы адказаў:

— Старая добрая Англія ніколі не выклікала ў нас сумненняў...

* * *

Зямны шар — наш агульны дом? Гэта так. Але каб гэты «агульны дом», адкінуўшы сцены і перагародкі, сціснуўся да памераў агульнага пакоя, у якім адначасова можна было б чуць усе галасы, тады б...

Тады б дарослыя спынялі свару, бо побач дзеці — іхнія дзеці ссалі матуліны грудзі, малявалі сонца, распачыналі гульні і спявалі першую ў сваім жыцці песню. А хіба ж можна абрываць дзіцячую песню? А ці ж дазволіў бы сабе самы жорсткі дарослы спужаць сваім крыкам немаўля?

А ці ж не апусціўся б кулак, падняты на суседа па агульным пакоі, калі б уладальнік кулака ўбачыў, што дачка суседа вырасла з дзяўчынкі ў нявесту і прымярае падвянечную сукенку?

Ці ж не памірыліся б дарослыя задзіры, убачыўшы ў пакойчыку вакол сябе хворых, галодных?

Няўжо ж не змякчылася б сэрца таго, хто задумаў забойства ці бойку, каб ён «адкрыў вочы» і заўважыў, што сваімі дзеяннямі пашкодзіць або зусім знішчыць унікальныя каштоўнасці, створаныя талентам і геніем жыхароў гэтага пакойчыка за многія папярэднія вякі?

О-о, як бы прыцішыліся сварлівыя галасы, як бы памякчэлі счарсцвелыя сэрцы, як бы пацяплелі халодныя погляды ва ўсіх!

* * *

— Прывітанне Франсуа!

— О, гаспадзін Прэзідэнт! Рады чуць Вас, і маё Вам шанаванне!

— Дзякуй за добрыя словы, Франсуа, але адкінем афіцыёз і гэта «гаспадзін Прэзідэнт». Мы, як я разумею, сябры. Называй мяне проста Джонам...

— Згодзен, гасп... Згодзен, Джон!

— Я, у сваю чаргу, рады, што росквіт французскай нацыі не адстае ад амерыканскага эканамічнага ўзроўню! Гэта прыемна!

— Дзякуй, Джон! Мы пільна сочым за шматбаковымі эканамічнымі вятрамі і плынямі і своечасова мяняем ветразі.

—Але ж ты ведаеш, Франсуа, што ёсць і падводныя плыні, ад якіх не ўратуюць ніякія ветразі...

Наступіла доўгая паўза. Здавалася, што тэлефонную размову паміж прэзідэнтамі Амерыкі і Францыі хтосьці раз’яднаў.

— Спадзяюся, што ты памятаеш, Франсуа,— зноў пачуўся голас з-за акіяна,— як на апошнім форуме самых уплывовых эканамічных дзяржаў свету кожны сквапна цягнуў, як сказалі б рускія, сетку з залатой рыбкай да сябе?

— Так, так, Джон, памятаю!

— А ты памятаеш, што менавіта амерыканскі бок мякка, але настойліва падзьмуў у вашы, як ты сказаў, ветразі?

— Як жа! Памятаю! За гэта вам... табе, Джон, падзяка французскага народа!

— Прыемна чуць, што не забыўся, але мне трэба падзяка не французскага народа, а твая, Франсуа. Твая!

— Дык і я...

— Скажы, Франсуа, ці не тваю думку выказваў на апошняй нарадзе ваенных міністраў Клод Жуан?

Французскі Прэзідэнт, крыху падумаўшы, адказаў:

—Гэта пытанне адной думкай не ахопіш... Шматлікія ўнутраныя і знешнія аспекты гэтай праблемы вымагаюць і шматбаковага, дэталёвага іх вывучэння.

— Напрыклад? — пачулася з-за акіяна.

— Напрыклад, Расія як адзін са знешніх аспектаў. Мы гаворым аб партнёрстве, а цішком ад партнёраў рыхтуем буйную ваенную акцыю...

— Расія праглыне, як праглынула ў 1999 годзе...

Цяпер перабіў гаворку французскі Прэзідэнт:

— Тады Расіі было лягчэй перад усім светам рабіць выгляд пакрыўджанай, бо прадпрымаліся шматбаковыя дыпламатычныя намаганні, у тым ліку і з боку Расіі...

— Сёння Расія,— перахапіў гаворку гаспадар Белага дома,—слабая як ніколі, а мы, наадварот,— магутныя як ніколі! Ці ж можа быць дыпламатыя з дзяржавай, якая не далёка адышла ад той, супраць якой мы выступім усёй кааліцыяй? І выступім хутка!

— Гаспадзін Прэзідэнт! — французскі субяседнік непрыкметна перайшоў на «афіцыёз».— Вы ведаеце, што ў Расіі да ўлады прыйшоў амбіцыёзны і сумнавядомы...

— Ведаю! Ведаю, што ты маеш на ўвазе яго ўлюбёнасць у ядзерную кнопку. Ведаю і тое, што да крайнасці не дойдзе, бо мы і нашы саюзнікі, уключаючы і Францыю, надзейна закрытыя супрацьядзернымі парасонамі, а ў іх над галавой дзіркі. Калі ўжо ты, Франсуа, закрануў

рускіх, скажу зноў жа іх словамі: «Куды мосьцы супраць слана!»

— Гаспадзін Прэзідэнт, у выпадку наземнай аперацыі будуць шматлікія ахвяры з нашага боку, і тады...

— Дарагі Франсуа! Эксперты прагназуюць праз дваццаць год глабальны энергетычны крызіс. Выжыць павінен дужэйшы! Але не чакаць жа дваццаць год, пакуль хтосьці таксама падужэе, а думаць пра гэта ўжо сёння. А ты гаворыш пра нейкія там ахвяры! Заўтра іх будзе болей, чым сёння... Бачыш, дарагі Франсуа, шматбаковая праблема мае не так ужо і многа бакоў.

Французскі Прэзідэнт нічога не адказаў.

— Вось і добра, Франсуа, дзякуй за падтрымку! І свежага паветра ў ветразі вашага дабрабыту!..

Такім чынам, адрынуўшы самую думку аб мірных перамовах і адсунуўшы дыпламатыю на апошні план, альянс усё ж пачаў паўнамаштабную ваенную акцыю супраць «сярэднявечча».

Пасля паветраных ракетна-бомбавых удараў па ўсіх жыццёваважных аб’ектах, уключаючы і мірныя, так званыя эканамічна значныя, на тэрыторыю суверэннай дзяржавы з усіх бакоў папаўзлі танкі і іншая тэхніка, за якімі спяшалася матарызаваная пяхота.

Гэта быў пачатак вялікай бяды, якая стукалася ў кожны дом і кожны лёс...

У гэты час чалавецтва ела і спала, смяялася і сумавала, пела і марыла, пісала кніжкі і глядзела ўзоры высокай моды, нараджала дзяцей і прымала Нобелеўскія прэміі ў розных галінах, у тым ліку і за захаванне міру на зямлі.

* * *

Дзіцячы сад быў вынесены на ўскрай невялікага гарадка. Яго двухпавярховы будынак «прыляпіўся» на

беразе рачулкі, гарманічна ўпісаўшыся рознакаляровым фасадам у маляўнічасць краявіду.

Дзіцячыя галасы таксама не перашкаджалі птушынаму шматгалоссю, а наадварот, падкрэслівалі ўзаемазвязанасць усяго жывога на зямлі.

У гэтым невялічкім горадзе даволі мірна суіснавалі людзі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Сказаць, што яны былі сябрамі і гасцявалі адзін у другога — дык не, але і варожасці не было.

Праўда, падтрымлівала напружаныя адносіны між імі агульнадзяржаўная атмасфера рэлігійнай розні і непрымірымая пазіцыя цэнтральнай улады да правоў кожнай нацыянальнасці на свой погляд і сваю веру.

Штучна, шляхам правакацый і нават забойстваў на рэлігійнай глебе ў краіне раздзімаліся вугельчыкі варожасці, якія смылелі не адзін год.

Дзеці ж у згаданым садку адносіліся да той часткі чалавецтва, якая даўно павінна была б стаць мадэллю, узорам узаемаадносінаў для астатніх жыхароў зямлі, бо дзецям невядомыя пакуль варожасць, нянавісць, палітыканская ненажэрнасць.

Нават нацыянальнасць і розныя мовы не рознілі дзяцей. Жывучы побач, дзеці, як і дарослыя, ведалі ў асноўным і мову сваіх шматвекавых суседзяў.

Гэта быў ці не адзіны «змешаны» дзіцячы сад у горадзе, бо, як правіла, дзіцячыя ўстановы і школы прытрымліваліся этнічных і рэлігійных канонаў.

Але гэта дзіцячая змешанасць не перашкаджала ім жыць пад адным дахам, ладзіць гульні на.агульнай тэрыторыі садка і шчасліва, як толькі могуць дзеці, смяяцца.

Выхавацелькі дзяцей, Слабаміра і Зарана, рабілі ў гэтым садку даўно, і праз іх рукі, а дакладней праз іх сэрцы, прайшло шмат дзяцей, якія вынеслі адсюль у сваіх душах чалавекалюбства і ўзаемапавагу.

Маладзейшыя выхавацелькі, гледзячы на сваіх вопыт-

ных калег, прытрымліваліся цярпімасці і павагі да гісторыі іншых народаў, іх культуры і веры.

Сёння, як і заўсёды, Слабаміра ўладкавала на пасляабедзенны адпачынак сваю групу, якая налічвала васемнаццаць чатырох і пяцігадовых хлопчыкаў і дзяўчынак. Усяго ж у дзіцячым садзе было дзевяць такіх груп. Акрамя выхавацелькі ў кожнай групе была няня, якая адказвала за чысціню памяшкання, змену пасцельнай бялізны і іншыя бытавыя пытанні. У час сну нянечка сачыла за адпачынкам дзяцей, а выхавацелька магла тым часам перадыхнуць і заняцца падрыхтоўкай будучых дзіцячых гульняў ці нейкімі сваімі справамі.

Перадаўшы паўнамоцтвы нянечцы, Слабаміра выйшла на двор і села ў цяні на лаўку. Дзень выдаўся сонечны, спякотны, і нават у цяні адчувалася гарачыня.

У памяшканні было значна лягчэй пераносіць спякоту, бо кандыцыянеры ўтрымлівалі тэмпературу паветра на зададзеным узроўні.

Закрыўшы кніжку, якая ніяк не паддавалася чытанню, жанчына ўстала і хацела пайсці ў пакоі, але на ганак выйшла Зарана і прапанавала:

— А ці не скупацца нам?..

Рэчка была ў пяці хвілінах хады ад садка, таму Слабаміра без ваганняў адказала:

— Згода! Толькі ручнік вазьму і — у ваду!

— Які ручнік такой спякотай! — усклікнула Зарана.

— Ну ладна, сонца высушыць. Пайшлі! — і дзве маладыя жанчыны праз некалькі хвілін аддалі гарачыню сваіх целаў студзёнай пяшчоце ракі.

Асвяжыўшыся, жанчыны выйшлі на бераг, падставіўшы твары, цяпер ужо, як падалося, не такому спякотнаму сонцу.

Раптоўна пад нагамі жанчын уздрыгнула зямля. Потым яшчэ раз... і яшчэ...

Жанчыны трывожна пераглянуліся.

— Няўжо землятрус?..

— Тут?У нас?..

Зямля зноў уздрыгнула. На гэты раз жанчынам падалося, што яна застагнала... штосьці загуло...

Уздрыгванне зямлі працягвалася.

— Землятрус! — амаль у адзін голас закрычалі жанчыны.— Дзеці! Дзяцей з памяшкання! Бяго...

Але не паспелі яны зрабіць і аднаго кроку, каб бегчы ратаваць дзяцей ад землятрусу, як штосьці вогненнае, ярчэй за спякотнае сонца, абрынулася на двухпавярховы будынак садка, разадрала яго на бясформенныя глыбы цэглы і бетону, шуганула гэту мешаніну высока над зямлёй і кінула ў пашчу чорнага дыму і крывава-чырвонага агню.

Аглушаныя жанчыны не пачулі страшэннай сілы выбуху. Паветраная хваля кінула іх аб зямлю, закрыўшы асляпляльнае сонца чорнай беспрытомнасцю...

А ў паўвярсты ад цяпер ужо былога дзіцячага садка працягвала працаваць водазаборная станцыя, якая забяспечвала вадой гэты невялікі горад і якая як эканамічна-значны аб’ект павінна была быць знішчана разам з іншымі ваеннымі грамадзянскімі аб’ектамі першым жа ракетна-бомбавым ударам.

Але і «разумныя» ракеты памыляюцца...

* * *

Майк Х’юст, радавы амерыканскіх узброеных сіл, разам са сваім падраздзяленнем, следам за танкамі, уварваўся на тэрыторыю дзяржавы, дзе неабходна было «ўсталяваць дэмакратыю і свабоды».

Пачатак усёй аперацыі быў разлічаны на нечаканасць, таму, адразу пасля паветранага ўдару, наземныя войскі рынуліся ўперад, каб не даць апамятацца праціўніку. Майк радаваўся, што мэта была дасягнута, бо на шляху

яго падраздзялення амаль ніякіх абараняльных дзеянняў не адчувалася.

Майк ніколі не даведаецца, што яго «баявы» шлях невыпадкова быў спланаваны такім чынам, каб найбольш небяспечныя баявыя дзеянні заставаліся ўбаку. Не ведаў ён і таго, што на другіх напрамках яго суайчыннікі і саюзнікі па кааліцыі сустракаюць жорсткае супраціўленне і што на іх шляху змяшалася ўсё — страх, кроў і смерць.

Майк Х'юст узрушана, з салодкай напружанасцю сціскаў аўтамат і па пыльнай дарозе імчаў у калоне бранятэхнікі...

Служба ў амерыканскім войску была пачэсным заняткам, а ўжо непасрэдны ўдзел у баявых дзеяннях па абароне дэмакратыі ў любой кропцы зямнога шара лічыўся нацыянальным геройствам...

Згаданае падраздзяленне было не звычайным, а спецпадраздзяленнем, створаным перад самай адпраўкай у «гарачую» кропку. Кожны ведаў толькі імя і прозвішча таварыша па зброі і больш нічога. Тлумачачы важнасць і сакрэтнасць спецзадання, камандзір падраздзялення строга забараніў усялякія размовы на «вольныя» тэмы, акрамя тых, якія тычыліся ваенных дзеянняў. Больш таго, асабістаму саставу было аб'яўлена, што, зноў жа ў мэтах захавання сакрэтнасці і паспяховага выканання задання, кожны, на час ваеннай аперацыі, будзе дзейнічаць пад чужым прозвішчам.

Акрамя густой завесы сакрэтнасці, камандзіру падраздзялення, перад пачаткам ваенных дзеянняў, было жорстка загадана па магчымасці пазбягаць прамых сутыкненняў з праціўнікам, акрамя вострай неабходнасці, прадыктаванай непасрэднай пагрозай жыццю падначаленых. Ні спецыфікі задання, ні накірунку сваіх дзеянняў ніводны спецназавец не ведаў ды і не надта цікавіўся, прывыкшы давяраць камандзіру і выконваць яго загады.

Камандаваў спецпадраздзяленнем саракавасьмігадовы палкоўнік Фрэнк Баснер, які неаднойчы нюхаў порах у розных «гарачых» кропках і меў шматлікія ўзнагароды за ўдзел у баявых дзеяннях. Гэта быў мужны і праверaны на справе афіцэр, таму менавіта яму даверылі і спецпадраздзяленне і выкананне задання.

Праўда, і сам камандзір не вельмі дакладна ўяўляў мэты і задачы, акрамя агульнага: ісці за асноўнымі наступальнымі сіламі, выяўляць магчымыя фарміраванні праціўніка ў тыле сваіх войскаў, збіраць весткі аб настроі мясцовых жыхароў і іншыя дробязі. Было, як лічыў палкоўнік, і галоўнае — ён меў загад падтрымліваць пастаянную сувязь з генеральным штабам у Бруселі. Апошняе і пераконвала камандзіра спецназа, што ім выконваецца ці, па нейкаму асобаму загаду з генштаба, будзе выконвацца штосьці надзвычай важнае, інакш для чаго такому маленькаму чыну сувязь з генеральным штабам, ды яшчэ з самім камандуючым усёй аперацыяй.

Камандзір спецпадраздзялення і не здагадваўся, што з першай хвіліны ўзначальвання ім гэтай невялікай баявой адзінкі ён пачаў выконваць спецыяльнае заданне, за якім вачамі генеральнага штаба сачыў сам Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі.

* * *

Масква насцярожылася. Вестка аб натаўскай, як тут лічылі, агрэсіі супраць невялікай дружалюбнай еўрапейскай дзяржавы без важкіх на тое прычын і, галоўнае, без дыпламатычных намаганняў узняла хвалю адназначнага пратэсту ў вышэйшых колах улады.

Людзі на вуліцах, на кухнях таксама гаманілі і асуджалі такую крайнасць, як ваенныя дзеянні, але людзі толькі тое і маглі, што пратэставаць супраць чагосьці ці

пляскаць у далоні, падтрымліваючы штосьці, ствараючы гэтым адмоўны альбо станоўчы фон. Фон гэты па аднаму і таму ж пытанню, як правіла, мае эфект «палкі з двума канцамі».

Вось і сёння на адным канцы «палкі» — у Маскве, людзі сурова асуджалі агрэсара, а на другім канцы — у Вашынгтоне, людзі захапляліся чарговым «відовішчам», услаўляючы гераізм і правільнасць дзеянняў сваіх салдат — сейбітаў дэмакратыі.

Магутны паток інфармацыі і дэзінфармацыі рабіў сваю справу, узрушваючы мільёны людзей, ствараючы неабходны кожнаму «канцу палкі» фон...

Масква насцярожылася. Дарэмна амерыканскі Прэзідэнт назваў Расію моськам. Гэта быў усё той жа славуты рускі мядзведзь. А з прыходам новага расійскага кіраўніка мядзведзь набыў характар грызлі — злоснага, непрадказальнага і лютага драпежніка...

Савет Бяспекі, тэрмінова скліканы Прэзідэнтам Расіі, разглядаў адно пытанне: «Што рабіць?!»

Члены Савета Бяспекі ведалі, што яны будуць рабіць, бо двух меркаванняў ужо даўно ў Крамлі не было — рабілі ўсё тое, што загадваў Прэзідэнт, нават калі ён часцяком памыляўся. Тады «памыляліся» за ім і ўсе дарадцы і ўся Расія. А праз некаторы час памылкі спісваліся на пошукі новых падыходаў у вырашэнні стратэгічных задач, на недасканальнасць законаў, на надвор’е і на іншае...

— Сёння памылкі не павінна быць! — пачаў нараду Прэзідэнт.— Сёння нам зноў плюнулі ў твар, не хаваючы гэтага. Выцерціся і прамаўчаць немагчыма — наш адказ павінен быць адпаведным... Якія будуць прапановы?.. Вашы? — і Прэзідэнт глянуў на міністра абароны.

Міністр ускочыў з месца:

— Як загадаеце, таварыш Галоўнакамандуючы!

Прэзідэнт зморшчыўся:

— Зноў я... А вы? Што б вы рабілі на маім месцы ў такой сітуацыі?

— На Вашым месцы я ніколі не буду, таварыш Галоўнакамандуючы, але выканаць любы Ваш загад гатовы! —адрапартаваў ваенны міністр.

Прэзідэнт не здолеў схаваць самазадаволеную ўсмешку:

— Добра, добра... Ведаю... Ну а ракеты? Спадзяюся, вы не перанацэльвалі іх з буйнейшых гарадоў і важнейшых аб'ектаў у нікуды, як намі было афіцыйна заяўлена?

— Не, таварыш Галоўнакамандуючы! Стратэгічныя ракеты, з першага дня пастановы на баявое дзяжурства, трымаюць пад прыцэлам усю зацверджаную Вамі стратэгічную сетку тэрыторыі верагоднага праціўніка...

— Не верагоднага, а ўжо рэальнага! — перабіў Прэзідэнт міністра.— Працягвайце, я слухаю...

Міністр працягваў:

— Нашы падводныя лодкі таксама прыведзены ў стан павышанай баявой гатоўнасці ўздоўж узбярэжжа альянсу—пуск балістычных крылатых ракетаў гатовыя ажыццявіць у любы момант па Вашаму загаду!..

— А чым дыхае космас? — пацікавіўся Прэзідэнт.

— Думаю, што верагодны... прабачце, рэальны праціўнік не дагадваецца, што нашы касмічныя навінкі ператвараюць іхні супрацьядзерны славуты парасон у звычайны парасон ад дажджу.

— Ну дык што?! — абвёў прысутных запаленым поглядам Прэзідэнт.— Абатромся і прамаўчым ці пакажам гэтай зажраўшайся дэрмакратыі, адкуль ногі растуць?! Сядайце! — задаволена кіўнуў ён ваеннаму міністру. Зноў абвёў усіх поглядам і працягваў: — А што чуваць у нашым міністэрстве замежных спраў?

Міністр замежных спраў устаў, адкашляўся.

— Што тычыцца пачатку ваенных дзеянняў на

тэрыторыі дружаскай нам дзяржавы, ніводная дзяржава-агрэсар не толькі не ўведаміла нас, але і не спрабуе тлумачыць матывы такой дзёрзкасці нават у Савеце Бяспекі ААН. Наш запрос у дзяржаўны дэпартамент ЗША аб прычынах і мэтах агрэсіі, па сутнасці, застаўся без тлумачэння. Нам адказалі, што і Расія павінна быць зацікаўлена ў тым, каб дэмакратыя ўсталявалася паўсямесна, ківаючы і на нашы ўнутраныя справы...

— Та-а-к... Зразумела... Сеюць вецер... Амерыка яшчэ ні разу не ваявала на сваёй тэрыторыі — думае і цяпер адгарадзіцца акіянам. Дзівакі! Не ведаюць, з кім маюць справу! — раптам Прэзідэнт змяніў накірунак думкі.

— А як паводзяць сябе ахвяры агрэсіі? — зноў звярнуўся ён да міністра замежных спраў.— Якія з імі перамовы?

Міністр адказаў коратка:

— Яны просяць дапамогі.

— І мы не можам на гэты раз ім адмовіць! — падхапіў Прэзідэнт.— Не можам і не маем права! Нас вымушаюць!

— У нас няма з імі агульнай мяжы...— нясмела ўдакладніў міністр замежных спраў.— Згодна міжнародных абавязацельстваў і пагадненняў...

— Начхаць на міжнародныя пагадненні! — ускочыў Прэзідэнт.— Начхаць, як і яны начхалі! Ёсць мора, па якім нам ніхто не забароніць плаваць, ёсць варыянты, ёсць супраць сілы сіла!..

Пахадзіўшы, Прэзідэнт зноў сеў на месца.

— Так! Нашым сябрам перадайце, што дапамога хутка будзе! І будзе эфектыўнай і нечаканай! Горача ўсім зробіцца!..

Вытрымаўшы паўзу, Прэзідэнт звярнуўся да шэфа знешняй разведкі:

— А што нашы вушы і вочы? — потым рэзка дадаў: — Чаму праспалі?!

Кіраўнік ФСБ, хвалюючыся, пачаў:

— Я дакладваў Вам, таварыш Галоўнакамандуючы, аб актывізацыі натаўскіх ваенных вакол аб'екта «А». Гэта ўспрымалася, як дэманстрацыя сілы і псіхалагічны ціск... Нават Савет Бяспекі і ў цэлым ААН...

— Ведаю! — перабіў Прэзідэнт.— Ты пра сваё гавары, а пра ААН я ведаю не горш твайго. Якія планы натаўцаў? На што разлічваць?

Кіраўнік ФСБ з неахвотай сказаў:

— Мы распалагаем інфармацыяй, што галоўны разлік альянсу на слабасць Расіі...

— Што?! — зноў ускочыў Прэзідэнт.— Што?! Слабасць Расіі?! Я ім пакажу слабасць Расіі! — голас Прэзідэнта нервова сарваўся.

Шэф разведкі ўдакладніў:

— Яны спадзяюцца, што эканамічныя цяжкасці не дазволяць Расіі ўмяшацца ў гэты канфлікт.

— Дурань думкай багацее! — недыпламатычна заўважыў Прэзідэнт.— Так, што яшчэ ёсць у вашых запасніках?..

Шэф разведкі выцягнуў з «запаснікаў» наступнае:

— Есць дадзеныя, што ў ваенных дзеяннях на тэрыторыі аб'екта «А» прымае ўдзел сын Прэзідэнта ЗША...

— Як?! — ледзь не крыкнуў расійскі лідэр.— І ты гэта трымаў напаследак?! Гэта ж залатая рыбка, якую мы павінны вылавіць! Гэта такі козыр, што і не снілася нікому!..

Бедная залатая рыбка, ёй павінна было двойчы ікнуцца, бо амаль адначасова два Прэзідэнты на розных канцах зямнога шара ўспомнілі яе. Лепей бы яны ўспомнілі сумны канец той казкі...

* * *

Канцлер Германіі Вілі Штоф, асцярожны і практычны палітык,не выказваў радасці і перад пачаткам ваеннай

аперацыі. Але тады саюзніцкая салідарнасць прымусіла сунуць галаву ў адну запрэжку разам з астатнімі членамі паўднёва-атлантычнага альянсу. Тады ўсё ўяўлялася больш-менш прагназуемым. Здавалася, што варта толькі ваеннай армадзе ступіць на тэрыторыю значна слабейшага праціўніка, як той падцісне хвост і заб’ецца ў кут, падпарадкоўваючыся чужой волі.

Цяпер жа, калі салдаты кааліцыі наткнуліся на жорсткае супраціўленне і гінуць на кожным кроку, калі прадстаўнік Расіі ў ААН заявіў, што Расія захоўвае за сабой права на любыя практычныя дзеянні, калі ў Еўропе, пад бокам у заможнай Германіі, накаляецца атмасфера непрадказальнасці і выбуховасці — цяпер Вілі Штоф ацаніў усю безадказнасць заакеанскага апякунства. Ён і да гэтага ведаў, што Амерыка ўкладвала ў ваенныя акцыі ля чужога парога свае долары, а Еўропа закладвала свой лёс, не раз рабілася заложніцай смяротэльнай авантуры.

Вось чаму Вілі Штоф звязаўся па тэлефоне з Прэзідэнтам ЗША.

— Вітаю Вас, гаспадзін Прэзідэнт!

— А-а! Дружышча Вілі! Прывітанне! Давай абыдземся без «гаспадзін Прэзідэнт», заві мяне...

— Гаспадзін Прэзідэнт! —канцлер Германіі прапусціў міма вушэй сяброўскую параду.— Я занепакоены ходам ваеннай аперацыі, падзеі ўсё больш заблытваюцца ў тугі клубок.

— Згодзен з табой, Вілі,— пагадзіўся Прэзідэнт ЗША.— Вайна — не гульня ў покер. Войны заўсёды штосьці губілі, штосьці нараджалі. Вайна для чалавецтва — як стымулюючы штуршок для кволага сэрца...

— Гаспадзін Прэзідэнт! — у тым жа настойлівым тоне працягваў Вілі Штоф.— Я тройчы занепакоены стаўленнем сусветнай супольнасці да тых падзей, якія мы ўзрушылі. Мне не падабаецца цвёрдая пазіцыя Расіі ў адносінах да гэтых падзей і яе намеры...

— А мне заўсёды не падабалася пазіцыя Расіі. І што?.. Ты сказаў пра нейкую сусветную супольнасць... Хто гэта? Асноўная сусветная супольнасць якраз і наводзіць зараз парадак у цэнтры Еўропы.

Вілі Штоф падумаў: «Лепей бы ты наводзіў парадак у цэнтры Амерыкі», а ўслых сказаў:

— Там, у цэнтры Еўропы, сёння цяжка ўжо зразумець, хто нас падтрымлівае, хто ў нас страляе. Міжэтнічная, міжрэлігійная блытаніна павялічылася, гінуць, у асноўным, мірныя жыхары, дзеці...

— Калі падмятаюць забруджанае памяшканне, пыл ляціць і ў вочы. Згодзен — гэта непрыемна. Але мы павінны думаць пра памяшканне будучыні, каб нашы вочы не зацярушваў пыл. Зразумеў, дружышча Вілі?

— Гаспадзін Прэзідэнт! — не супакойваўся канцлер.— Ваенныя караблі Расіі, у іх ліку і авіянясучыя, пэўна ж, і падводныя лодкі набліжаюцца да тэатра ваенных дзеянняў. Вы не можаце не ведаць, што апошнім часам Расія вывела на каляземную арбіту некалькі загадкавых лятальных апаратаў. Тады сцвярджалася, што гэта звычайныя навуковыя спутнікі. Але ёсць, хоць і скупыя, звесткі, што там можа быць нейкая зброя. Думаю, што не аўтамат Калашнікава яны вывелі ў космас. Я ўжо не кажу пра тыя падводныя лодкі, з якіх не спускаюць вачэй, у тым ліку і з вашага Белага дома...

— Ха-ха-ха! — пачулася ў тэлефоннай трубцы.— Ты, дружышча Вілі, распаліў сябе да чырвані. Вось што значыць — у цябе пад бокам чырвоная прапаганда. Каго ўбаяўся! Ды яны наплятуць табе хлусні — толькі слухай! Памятаеш, як у сярэдзіне мінулага стагоддзя, у разгар так званай «халоднай» вайны, на камуністычныя святы вазілі па Чырвонай плошчы ў Маскве агромністыя ракеты і крычалі на ўвесь свет пра сваю ракетную моц? Нашы кіраўнікі тады добра здрэйфілі, а потым высветлілася, што такіх ракет і не было ў рускіх, а вазілі пустыя аба-

лонкі ад ракет, муляжы. Вось табе і аўтамат Калашнікава! Яны, гэтыя галадранцы, здольныя на ўсё — выведуць у космас аглоблю ад саняў, а скажуць, што запусцілі на арбіту лазерную пушку.

— Гаспадзін Прэзідэнт! Недаацэньваць праціўніка — значыцца прайграць яму. Я ўсё ж настойваю на перамовах з Расіяй, хаця б на кансультацыі, каб змякчыць сітуацыю.

— Змякчыць?! — злосна зіранізаваў Прэзідэнт ЗША.— А ці не настаў момант абвастрыць яе! Чуў, Вілі, прытчу пра месца пад сонцам? Сонца адно, а нас — шмат... І няўжо ты, дружышча Вілі,— мякчэй працягваў тэлефонны субяседнік,— хочаш, каб увесь час, да канца твайго жыцця, ляцеў пыл у твае вочы і вочы тваіх дзяцей?

— Я ведаю адно,— упэўнена сказаў Вілі Штоф,— што мы развязваем рукі таму, на каго і ў лепшыя часы мала было надзеі. Як кажуць амерыканцы, сабака без намордніка абавязан кусацца... А тут не звычайны сабака, а з вірусам ядзернага шаленства.

— І на гэту тэму мы думаем! — холадна адказаў Белы дом, што разанула па слыху канцлера і пакрыўдзіла яго.

Куснула думка: хто гэта «мы»? Ці амерыканскі Прэзідэнт назваў сябе «мы», ці апошні крок, такі, як ядзернае вар’яцтва, будзе вырашацца без ведама і згоды ўсіх членаў альянсу? Тым больш што Штоф ведаў незадаволенасць «малых» членаў блока і навічкоў, якія па сутнасці выконвалі ролю паслухмяных статыстаў.

На заканчэнне канцлер Германіі сказаў:

— Я выказаў вам, гаспадзін Прэзідэнт, свае думкі і гэтак думаю не адзін я.

— Натое ў нас і дэмакратыя, дзе кожны думае, што хоча,— пачулася ў адказ.

* * *

Калона бронемашын і танкаў з амерыканскім спецназам прыпынілася пры ўездзе ў невялікі гарадок.

Прыпынак быў незапланаваны, а вымушаны, бо дарогу запрудзілі людзі, у асноўным жанчыны. Іх было шмат, і яны штосьці раз’юшана крычалі і адчайна жэстыкулявалі.

— Забойцы! Каты! Вы не людзі — звяр’ё! — кінуліся да ваенных мірныя жыхары.

Камандзір падраздзялення паклікаў перакладчыка і запытаўся ў яго:

— Што яны крычаць? Чаго хочуць?

Перакладчык па магчымасці змякчыў сэнс гнеўных слоў, захаваўшы асноўны настрой, ад чаго Фрэнк Баснер прыйшоў у здзіўленне. Ён стаў на падножку свайго джыпа і зычна крыкнуў у натоўп:

— Мы прыйшлі да вас з адкрытымі сэрцамі! Мы — вашы сябры! Мы жадаем вам міру і дэмакратыі!..

Пасля таго як перакладчык пракрычаў тое ж у натоўп, узрушаныя людзі рвануліся да джыпа, і некалькі жанчын сілком пацягнулі афіцэра некуды ў бок ад дарогі, паказваючы туды рукамі.

Аўтаматчыкі кінуліся да раз’юшаных жанчын, каб ратаваць свайго камандзіра, але ён, разумеючы, што жанчыны ніякай пагрозы не ўяўляюць, сам пайшоў праз натоўп у той бок, куды яго гэтак бесцырымонна запрашаюць. Частка салдат у касках і з аўтаматамі крочыла следам.

Раптоўна ўсе спыніліся і, як па камандзе, змоўклі, даючы магчымасць «сябрам» з-за акіяна ацаніць усё самім.

Відовішча было страшнае. Груды цэглы і бетону яшчэ дыміліся і пыхкалі агнём. Кавалкі былога будынка трымаліся ў паветры на тонкай арматуры і пагойдваліся, як тыя вісельнікі.

Тут жа напружана тахкаў матор пад’ёмнага крана, які раздзіраў завалы, а сярод гэтай закуранай мешаніны

мітусіліся мужчыны, зазіралі ў кожную шчыліну, штосьці вышукваючы.

Крыху воддаль, на пакарабачанай пляцоўцы былога дзіцячага садка, сярод розных абломкаў, двума доўгімі радамі ляжала штосьці пад белымі прасцінамі. Здавалася, што тут склала свае доўгія белыя крылы невядомая мёртвая птушка.

Жанчыны зноў залемантавалі, падшіурхнулі палкоўніка да прасцінаў і пачалі адхінаць іх. Баснер адскочыў. Двума няроўнымі радкамі, тварамі ўгару, ляжалі чатырох і пяцігадовыя дзяўчынкі і хлопчыкі, якія зусім нядаўна, гэтак жа шчыльна, узяўшыся за рукі, хадзілі па зямлі, бегалі па гэтай пляцоўцы.

Цяпер яны, нібы птушаняты, склалі свае крылцы і ніколі ўжо не здолеюць узняцца ў паветра жыцця...

Палкоўнік і яго падначаленыя аслупянелі. Яны амаль не чулі, як вакол іх раўлі і стагналі няшчасныя людзі:

— Гэта вы! Вы — забойцы дзяцей! Няхай пракляцці абрынуцца на ваш род! Каты!;.

Слабаміра, перамагаючы востры боль у галаве, рынулася з натоўпу да бліжэйшага аўтаматчыка і плюнула яму ў твар:

— Гіена! Драпежная гіена!..

Майк Х’юст быў настолькі аглушаны жудасным відовішчам, што нават не зрэагаваў на плявок, нават не выцерся. Ён не мог адарваць вачэй ад дзіцячых акрываўленых тварыкаў. Асабліва гіпнатызавалі шырока адкрытыя вочы забітых дзяцей, якія бязгучна крычалі: за што?!.

Бранятанкавая калона рушыла далей, а Майк, забыўшыся пра ваенную рамантыку і спецыяльную місію іх падраздзялення, трэсся на жорсткім сядзенні бронемашыны і з непрыемнасцю адчуваў агідны холад аўтамата. Яго мазгі ліхаманкава круцілі адну і тую ж думку: «Ніякія ваенныя мэты не варты тых загубленых дзіцячых жыццяў! Ніякія!»

Ён, Майк Х’юст, як і ўсе яго малазнаёмыя між сабой калегі па спецпадраздзяленні, быў не Майкам Х’юстам,

а Полам Бартманам, сынам Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі. Вось чаму падраздзяленне складвалася з выхадцаў амерыканскіх штатаў, якія знаходзіліся далей ад роднага штата Пола. Але і блізкія яго сябры з цяжкасцю пазналі б маладога Бартмана, бо і сам ён, начапіўшы на сябе камуфляжную форму і насунуўшы на лоб каску, ледзь пазнаваў сябе.

Тое, што ён — прэзідэнцкі сын, яго на пачатку ваеннай аперацыі зусім не хвалявала. Ён і не думаў рассакрэчвацца — хацелася быць як і ўсе, прайсці праз ваенныя выпрабаванні як радавы грамадзянін Амерыкі.

Цяпер тое, што ён не толькі сын кіраўніка самай магутнай дзяржавы свету, але і сын, па сутнасці, кіраўніка ўсёй гэтай ваеннай акцыі,—балюча хвалявала яго і нават прыніжала перад сваімі таварышамі. Яны — салдаты, ён — нейкім чынам саўдзельнік таго, няхай і памылковага, забойства дзяцей.

Сорам, крыўда і боль зрабіліся ваеннымі спадарожнікамі нядаўняга летуценніка Пола.

Фрэнка Баснера, які моўчкі ехаў у джыпе, грызлі няхай і не такія ўжо эмацыянальныя, але таксама пякучыя думкі.

Ён і не падазраваў, што адзін з яго падначаленых — сын Прэзідэнта ЗША. Яго б да глыбіні душы абразіла тое, што ўся мэта яго спецпадраздзялення заключаецца ў тым, каб толькі абазначыцца на гэтай вайне, захаваўшы жывымі сваіх салдат, у першую чаргу «Майка Х’юста».

Таму для яго калоны і былі выбраныя дарогі ў баку ад асноўных ваенных падзей, ды і то перад імі ўвесь час ішлі танкі і над галовамі не сціхалі свае верталёты. Усяго гэтага ён не ведаў і працягваў сумленна выконваць заданне, дакладваючы аб кожным кроку ў генеральны штаб.

Прэзідэнт жа ЗША, у выпадку паспяховага заканчэння ваенных дзеянняў (а пра непаспяховае і не думаў), забіваў адразу двух зайцоў: рэабілітаваў сябе перад бацькамі за-

гінуўшых салдат (і мой жа сын быў там!) і, па-другое, паказаў бы ўсяму свету, што дэмакратыя і свабоды даражэй для яго за роднае дзіця, жыццё якога Прэзідэнт быў гатовы пакласці на алтар светлай дэмакратычнай ідэі.

Не ведаў усяго гэтага і Пол і працягваў выконваць ролю падсадной качкі.

* * *

Ваенны самалёт без распазнавальных знакаў з’явіўся над групоўкай расійскіх ваенных караблёў у нейтральных водах Міжземнага мора.

Візіты няпрошаных гасцей былі прывычнымі для ваенных маракоў, такое здаралася неаднойчы і раней, але тыя візіцёры, наталіўшы сваю цікаўнасць, пакруціўшыся над караблямі ці над караблём, адляталі прэч.

Гэты ж самалёт паводзіў сябе дзёрзка, нават нахабна. Праляцеўшы некалькі разоў над караблямі, ён набіраў вышыню і пікіраваў на адзін з ваенных караблёў, імітуючы нападзенне.

Супраць такіх агрэсіўных манеўраў, згодна пагадненняў аб міжнародным плаванні ў нейтральных водах, дазвалялася прымяняць зброю, у мэтах захавання асабістай бяспекі. Але камандуючы ваенна-марской групоўкай, улічваючы міжнародную напружанасць, праяўляў вытрымку.

З палубы авіянясучага крэйсера былі ўзняты два «СУ-43», але паветраны хуліган рэціраваўся. Праз нейкі час, пасля пасадкі расійскіх самалётаў на палубу, ліхаманец зноў паявіўся над караблямі і пачаў сваё «коўзанне з гары».

Парог дапушчальнага быў пяройдзены, і пры чарговым наборы вышыні па паветранаму ваеннаму аб’екту была запушчана ракета, якая паслухмяна рванулася ў неба, і тое, што засталося ад самалёта, плюхнулася ў цёплыя марскія хвалі.

Гэта ўжо быў не інцыдэнт, а прамое сутыкненне расійскіх узброеных сіл з невядомым праціўнікам, пацягнуўшае за сабой гібель лётчыка.

Масква адрэагавала на гэта надзвычайнае здарэнне, заявіўшы ў Савеце Бяспекі ААН, што ваенны карабель лічыцца суверэннай часткай дзяржавы, якой належыць, таму пасягненне ці імітацыя пасягнення на ваенныя караблі расцэньваецца як пасягненне на дзяржаву...

Але і папярэдні рашучы пратэст Расіі ў Савеце Бяспекі, асуджаючы неапраўданую агрэсію паўднёва-атлантычнага альянсу супраць суверэннай дзяржавы', не дасягнуў мэты, бо многія краіны-агрэсары самі з'яўляюцца пастаяннымі членамі Савета Бяспекі.

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый і яе структуры страцілі ўплывовасць на працэсы міжнародных адносінаў. Падпісаныя раней міжнародныя пагадненні і абавязацельствы не выконваліся — светам правіў не розум, а сіла.

* * *

Тым часам калона бранятэхнікі амерыканскіх спецназаўцаў следавала ад аднаго населенага пункта да другога па тэрыторыі, папярэдне «апрацаванай» ракетамі і бомбамі і «зачышчанай» танкамі.

«Апрацоўка» і «зачыстка» зрабілі сваю справу —паабапал дарог і наколькі бачыла вока ляжалі руіны і пужалі сваім знявечаным выглядам дамы-калекі. І сярод гэтага зруйнавання і чорнай задымленасці гуртаваліся людзі, быццам збіраліся на сход, каб абмеркаваць, дзе і што лепей сеяць. Але пра сяўбу нідзе не ішло гаворкі —гэта былі пахаванні тых, на чые галовы абрынулася заўчасная і нечаканая смерць. Хавалі на дварах, ля сваіх раскіданых гнёздаў. Хавалі маладых жанчын, старых людзей і, што самае жахлівае, дзяцей. Тут жа аплаквалі загінуўшых

пакуль яшчэ жывыя маладыя жанчыны, старыя людзі і дзеці. Дзеці, якім немагчыма было растлумачыць, чаму закапваюць зямлёй маму, тату, брацiка ці сястрычку. Немагчыма было ім растлумачыць і тое, чаму нечы танк прагрукацеў ля вокнаў іхняга дому, раструшчыўшы гусеніцай любімую ляльку ці каляровы мячык.

Дзецям трэба расці і расці, каб многае зразумець, але жыць і расці за шматвекавую гісторыю не далі магчымасці мільёнам дзяцей...

Майк Х’юст усё гэта бачыў, і сэрца яго сціскалася, ператвараючыся ў балючы камяк. Яму здавалася, што ён бачыць на агромністым экране недарэчны фільм жахаў...

А па абочынах дарог, побач з калонай спецназаўцаў, бясконцым патокам ішлі людзі з клункамі. Хтосьці штосьці крычаў амерыканскім салдатам, але і тыя, хто ішоў моўчкі, выклікалі жах. Іх вочы, іх погляды былі страшней жэрлаў танкавых пушак. Не, не нянавісць перапаўняла іх вочы, а глыбокі, пакутлівы папрок і нясцерпны душэўны боль.

Лепей бы яны кідалі каменнямі па танках і бронемашынах альбо стралялі — гэта б успрымалася лягчэй і выклікала адпаведную рэакцыю.

А як і чым адказаць пранізліва-балючым поглядам абяздоленых людзей? Толькі болем ва ўласным сэрцы! І Майк спаўна спачуваў чужой бядзе, перапаўняючы сваё сэрца болем.

Калі калона ўехала ў нейкі горад, вузкая вуліца, па якой рушылі спецназаўцы, прывяла да плошчы, якая была запоўнена людзьмі. На плошчы праходзіў нейкі мітынг, і, каб не перашкаджаць гэтаму мерапрыемству, калоне трэба было развярнуцца і праехаць па другой вуліцы. Але вузкая вуліца закаркавалася бранятэхнікай, і развярнуцца не было магчымасці, таму маторы былі заглушаны — Фрэнк Баснер вырашыў перачакаць. Але спакойна перачакаць не

прыйшлося, бо натоўп людзей расступіўся і «агалілася» самаробная трыбуна-падмостак, перад якой стаялі адкрытыя труны. У іх ляжалі сем маладых хлопцаў і дзяўчат.

З трыбуны ў мікрафон на ўсю плошчу прагучаў чыйсьці голас, і амерыканскія салдаты пачулі запрашэнне на англійскай мове:

— Калі ласка, амерыканскія «сябры»! Просім вас прыняць удзел у жалобнай паніхідзе па забітых вамі юнаках і дзяўчатах, якія ўчора на гэтай плошчы давалі канцэрт і спявалі вядомую ўсяму свету песню: «Пусть всегда будет солнце...»

Наступіла магільная цішыня. Фрэнк Баснер, які бачыў на сваім вяку шмат усяго непраўдападобнага, адчуў у каленях дрыжыкі. Ён быў прыпёрты да сцяны, раздушаны апошнімі падзеямі. Нібы ў жахлівым сне, падняўся ён на трыбуну.

Той жа голас мужчыны ля мікрафона прапанаваў:

— Смялей! Вы ж такія адважныя супраць безабаронных людзей і дзяцей.

Палкоўнік акінуў поглядам людзей, будынкі з выбітымі вокнамі, зірнуў уніз на трох дзяўчат і чатырох хлопцаў у трунах, побач з якімі ляжалі пакарабачаныя музычныя інструменты, і, памятаючы, што ён, у першую чаргу, кадравы ваенны, сціпла сказаў у мікрафон:

— Спачуваю забітым... Але вайна без ахвяр не бывае, ад памылак ніхто не абаронены... Я хачу запэўніць вас, што...

— Дайце мне слова! — ірвануўся нейкі амерыканскі салдат да трыбуны.— Што ён гаворыць?! Дайце слова!..

Ён ускочыў на падмостак і адштурхнуў палкоўніка ад мікрафона. Зрываючымся ад хвалявання голасам Майк, цяпер ужо Пол Бартман, звярнуўся да прысутных:

— Я, Пол Бартман,— сын Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі... У першую чаргу я хачу схіліць галаву перад гэтымі забітымі юнакамі і дзяўчатамі, перад усімі

забітымі на гэтай ганебнай вайне і ад імя сумленных амерыканцаў папрасіць прабачэння ў вашага народа...

Пол перавёў дыханне і працягваў:

— Я — сын амерыканскага Прэзідэнта, і мне сёння сорамна за Амерыку, за тую Амерыку, якая захлынаецца ад дабрабыту і прыносіць гора і жабрацтва другім...

Пол сарваў з плячэй аўтамат і кінуў яго пад ногі.

— Прапаную зрабіць гэта і вам! — звярнуўся ён да камандзіра.

З натоўпу пачуліся крыкі:

— Ты, хлопец, відаць, з'ехаў з глузду ад бачанага, але няхай бы і сапраўды быў такі разумны сын у вашага Прэзідэнта-забойцы!

— А-а! Сволач! Забіваў, а цяпер вушы на плечы!

Палкоўнік выхапіў у Пола мікрафон і крыкнуў:

— Гэты салдат здурнеў! Не ў кожнага вытрымлівае псіхіка на вайне — не звяртайце ўвагі! —і жэстам даў каманду падначаленым, якія скруцілі рукі Полу і хуценька павялі да сваёй тэхнікі, дзе па загаду палкоўніка надзелі наручнікі і ізалявалі ад астатніх.

Загулі маторы, і калона праз плошчу, абдаўшы жывых і мёртвых дымам, падалася далей.

Натоўп захваляваўся, узрушана загудзеў. І хоць прамова амерыканскага салдата амаль усім спадабалася, яго сапраўды палічылі за звар'яцелага.

Але сярод людзей былі і тыя, хто лічыў інакш і чые сэрцы радасна затрапяталі ад таго, што «залатая рыбка», хоць пакуль і не злоўленая, азвалася.

Радасць іх была заўчаснай, бо за горадам, у невялікім ляску, калона спынілася, і, каб не сеяць смуту ў спецыяльным падраздзяленні, Майк Х'юст, ён жа Пол Бартман, ён жа адзіны сын Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі, па законах ваеннага часу быў расстраляны.

* * *

Расійская ваенна-марская групоўка, у склад якой уваходзілі і два вялікія дэсантныя караблі, набліжалася да ўзбярэжжа дзяржавы, супраць якой паўднёва-атлантычным блокам вяліся ваенныя дзеянні. Геаграфічная набліжанасць некаторых членаў дадзенага ваеннага блока і ваенна-марская армада, падцягнутая сюды натаўцамі загадзя,— былі тым пераважным ваенным фактарам, які нельга было не ўлічваць.

Быў і другі фактар на карысць альянсу — натаўская блакада гэтай сярэднееўрапейскай дзяржавы, супраць якой і вяліся ваенныя дзеянні. Але гэты фактар, як ні дзіўна, спрацаваў супраць блакадаўсталяванцаў, бо само абʼяўленне блакады лічылася, на думку альянсу, непахільным табу для ўсіх астатніх дзяржаў, якія, улічваючы ваенную моц «гаспадароў» гэтай зоны, і не падумаюць сунуць свой нос пад удар альянсу.

Такая заспакоеная ўсёдазволенасць і расхаладжвала ўзброеных ад пят да макаўкі галавы натаўцаў. Уяўляемая імі псіхалагічная і ваенная перавага саслужыла ім жа адваротную паслугу, бо пасля таго як расійскія ваенныя караблі поўным ходам увайшлі ў «забароненыя» воды, разгубленасць і нерашучасць прымяніць зброю, пасля якіх пачаліся ліхаманкавыя кансультацыі з Бруселем і Вашынгтонам, дазволілі расійцам наблізіцца да ўзбярэжжа і пачаць інтэнсіўную высадку дэсанта.

Толькі пасля гэтага заходнія стратэгі спахапіліся і ашчэрыліся палубнымі ракетнымі ўдарамі са сваіх ваенных караблёў і ўзнялі ў паветра з авіяносцаў і бліжэйшых аэрадромаў дзесяткі, а магчыма, і сотні ваенных самалётаў.

Расійскія дэсантнікі, якія паспелі замацавацца на ўзбярэжным плацдарме, прыкрываліся з паветра сваёй палубнай авіяцыяй, а перадавая дэсантная бранятэхніка пачала адціскаць у глыб тэрыторыі абарону праціўніка.

Невялікая паветраная прастора над прыбярэжнай марской акваторыяй ды і сама гэта акваторыя ператварыліся ў вогненнае пекла, якое распорвалі яркія шлейфы ракет, якія ляцелі ў розных накірунках. Сама ж прыбярэжная суша грукацела і ўздымалася на дыбы ад разрываў ракет, снарадаў і мін, пачынала накрывацца сквапным полымем вайны і рабіцца чырвонай ад крыві.

Паступова гарады і вёскі разам з жыхарамі — адвечнымі гаспадарамі гэтай зямлі — згаралі ў бязлітасным полымі, павялічваючы бясконцы лік ахвяраў бясконцых войнаў.

* * *

Фрэнк Баснер заканчваў ваенную кар'еру і збіраўся пасля гэтай, як ён лічыў, апошняй яго вайны пайсці на адпачынак і заняцца нарэшце любімай справай — рыбалкай.

Перад сваёй нацыяй і сваім сумленнем ён быў чысты. Таму і сёння, пастроіўшы спецназаўцаў — сваіх падначаленых, ён быў упэўнены ў праваце сваіх дзеянняў і спакойна, але рашуча сказаў:

— Я хачу, каб вы засвоілі, што крайнія меры, такія, як расстрэл дэзерціраў,— на вайне неабходныя. Дэзерціры дэмаралізуюць армію, ператвараюць яе ў натоўп слімакоў... Такім аказаўся Майк Х'юст, які не толькі кінуў пад ногі зброю, дадзеную яму Амерыкай, але і абразіў нашага Прэзідэнта, назваўшыся ягоным сынам. Я хачу, каб кожны з вас памятаў, што...

Але ў гэты момант памочнік палкоўніка па сувязі запрасіў яго да джыпа — выклікаў Генеральны штаб.

Звычайна Баснер сам у адпаведны час дакладваў у Брусель, што паспеў зрабіць і сёння, а тут...

«Нарэшце даручаць штосьці важнае!» — радасна забілася сэрца.

Фрэнк Баснер яшчэ не ведаў, што расійскі дэсант імкліва высадзіўся на тэрыторыю, «апякаемую» ім і яго саюзнікамі, і хутка «сядзе» на плечы спецпадраздзяленню, як не ведаў і таго, што Расія і паўднёва-атлантычны альянс, на чале з яго роднай Амерыкай, знаходзяцца ў стане пакуль неаб’яўленай вайны.

Ён, пакінуўшы ў страі ля бранятэхнікі сваіх падначаленых, бадзёра падышоў да тэлефона і далажыў:

— Камандзір спецыяльнага падраздзялення, палкоўнік Баснер слухае!

— Слухайце ўважліва, палкоўнік! —пачуў ён у трубцы голас камандуючага.—Тэрмінова паварочвайце ў паўднёвым напрамку і прабівайцеся да ўзбярэжжа, дзе ў квадраце «Х» вас будзе чакаць дэсантны карабель, які вас падбярэ і дзе вы атрымаеце далейшыя распараджэнні. І яшчэ, палкоўнік,— мы вас дадаткова прыкрыем з паветра, але будзьце гатовымі да сустрэчы з расійскімі самалётамі.

— Ёсць, сэр, ісці ў паўднёвым напрамку на сустрэчу з дэсантным караблём! —адчаканіў Баснер, а сам падумаў: «Адкуль тут рускія?..»

— Цяпер, палкоўнік,— фармальна-патрабаваў камандуючы, бо сёння ўжо чуў даклад Баснера,— дакладзіце коратка абстаноўку.

— Усё нармальна, сэр! Усё ідзе па плану, акрамя адной дробязі...

— Канфлікт з насельніцтвам? — удакладніў камандуючы.

— Прыйшлося, сэр, дзеля ўмацавання ваеннай дысцыпліны расстраляць аднаго дэзерціра, які, акрамя ўсяго, прыкідваўся сынам нашага Прэзідэнта і зневажаў...

— Што-о-о?! — ажно зараўло ў трубцы.— Што ты сказаў?! Ты расстраляў Майка Х’юста?!

— Так, сэр, яго...— няўпэўнена пацвердзіў палкоўнік.
— Балван! Ідыёт! — зноў зараўло ў трубцы, ад чаго Фрэнк Баснер, як яму падалося, імгненнаператварыўся ў кавалак ільду...
Камандуючы па-звярынаму рыкаў у тэлефонную трубку:
— Балван! Ты расстраляў сапраўднага сына нашага Прэзідэнта! Разумееш? Сы-на-а!
У Баснера нервова залескацелі зубы, усё перамяшалася перад вачыма, сэрца раздзіралася ад едкага і знішчальнага «балван!».
Ён, Фрэнк Баснер, кадравы ваенны, які прысвяціў жыццё нацыянальнай арміі, маленькі вінцік у вялікай і бруднай палітыцы, дрыготкай рукой дастаў з кабуры пісталет і, прыставіўшы да сівой скроні, выстраліў, цяжка паваліўшыся перад строем сваіх падначаленых...
Далёка ад гэтага месца, у штаб-кватэры НАТА ў Брусэлі, камандуючы аб'яднанымі саюзніцкімі сіламі ў гэтай вайне паклікаў свайго першага намесніка, аднаго з нямногіх, азнаёмленых з сапраўднай мэтай спецназа, і сказаў:
— Пол Бартман, сын нашага Прэзідэнта, расстраляны сваім жа камандзірам як дэзерцір... Гэта — для нас з вамі. Толькі для нас! Сведкаў не павінна быць! Спецпадраздзяленне Фрэнка Баснера загінула да апошняга салдата. Да апошняга! Сын Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі — таксама па-геройску загінуў, абараняючы дэмакратыю! Зразумела?!.
— Ёсць, сэр! — адказаў першы намеснік камандуючага...
У гэты ж час, яшчэ далей ад распластанага на зямлі цела Фрэнка Баснера — у Вашынгтоне, Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі праводзіў у Белым доме нараду са сваімі бліжэйшымі саратнікамі.

Міністр абароны абмаляваў агульную напружаную абстаноўку ў свеце і спыніўся на пакуль асноўных ваенных дзеяннях і на дэсанціраванні расійскіх ваенных.

— Як вы маглі такое дазволіць, маючы шматразовую ваенную перавагу? — злосна спытаўся амерыканскі Прэзідэнт.

— Дзёрзкасць рускіх...

— Нахабства! — удакладніў Прэзідэнт.— Нахабства рускіх і ваша разяўленасць!

— У іх вялікія страты, гаспадзін Прэзідэнт,— паспрабаваў рэабілітавацца ваенны міністр.

— У нас не меншыя! — рэзка абарваў яго гаспадар Белага дома.— Ці вы лічыце толькі іхнія страты?

— Усе дадзеныя...

—Дзе рускі дэсант? Чаму не скінулі ў мора?—зноў перабіў міністра Прэзідэнт.

— Ім удалося замацавацца, і яны працягваюць паглыбляцца, па сутнасці, у тыле нашых войскаў, якія вядуць жорсткія баі з праціўнікам далёка ад узбярэжжа.

Сэрца амерыканскага Прэзідэнта трывожна ёкнула— недзе там яго сын. А што, калі...

Рэзка зазваніў прамы тэлефон з Бруселя.

— Слухаю! — коратка сказаў у трубку Прэзідэнт.

— Гаспадзін Прэзідэнт! — пачуўся ўзрушаны голас камандуючага.— Сэр, я з вялікім жалем вымушаны Вам далажыць, што Ваш сын па-геройску загінуў...

Прэзідэнт збялеў. Тэлефонная трубка вывалілася з раптоўна здранцвелай рукі...

Усе як па камандзе ўсталі са сваіх месцаў.

— Пакіньце мяне аднаго,— ледзь выдыхнуў адразу аслабелы і нейкі нямоглы кіраўнік самай магутнай дзяржавы ў свеце.

* * *

У Маскве, на чарговым пасяджэнні Савета Бяспекі, цяпер ужо — Савеце Абароны, распаліўся расійскі Прэзідэнт.

— Нашы амбіцыі — нікольки не меншыя за іхнюю сытую самаўлюбёнасць! Маюць шмат долараў — і долары гарацьь! А Кітай? Што Кітай? Лісавата, паўсходняму, адмовіўся аб'яднаць нашы намаганні! Думаюць адседзецца за сваёй Вялікай сцяной? Дзе Індыя? Дзе голас Індыі? Аастатнія?..

Усе ўважліва слухалі сумбурную, нелагічную і нервовую прамову свайго лідэра. Было відаць, што ён узвінчаны, узведзены, як пастка на мядзведзя,—адзін зычны гук ці неасцярожнае крананне рукой, і пастка клацне сталёвымі зубамі, адхопіць жыўём руку, а то і зусім галаву.

— Спадзяюся толькі на сябе! — і Прэзідэнт паказаў усім кулак.

Міністр замежных спраў, прыхільнік дыпламатычнай, а не ваеннай мовы, набраўся смеласці і ціха сказаў:

— Мы Кітаю прапаноўвалі ваенныя варыянты далейшага развіцця падзей. А што, калі б нам, разам з тым жа Кітаем і іншымі зацікаўленымі краінамі, паказаўшы прыклад усім удзельнікам гэтай вайны, сесці за стол перамоў, пакуль полымя вайны не распаўзлося па ўсёй зямлі? Была б надзея захаваць...

Прэзідэнт рэзка абарваў прамоўцу.

— Я забыўся цябе папярэдзіць,— звярнуўся ён да міністра замежных спраў,— што сёння раніцай падпісаў Указ аб тваёй адстаўцы. Можаш лічыць сябе свабодным і пакінуць нас!

Збялелы міністр, няўпэўнена ступаючы, выйшаў з пакоя — пастка спрацавала. Прысутныя яшчэ больш прыціхлі, баючыся сталёвага клацання той жа пасткі.

Прэзідэнт абвёў усіх строгім поглядам:

— Ідзе вайна! Хто першы пойдзе на рашучы крок, той і пераможа!..

У прысутных балюча зашчымелі сэрцы — кожны зразумеў, што стаіць за апошнімі словамі Прэзідэнта...

Прыкладна гэткая ж нервовая нарада адбывалася і за акіянам — у Белым доме. Амерыканскі Прэзідэнт быў таксама ўзвінчаны, але прысутныя адносіліся да гэтага з тактоўным разуменнем — Прэзідэнт страціў адзінага сына.

Калі ж амерыканскі лідэр закончыў нараду словамі: «Першы, хто пойдзе на рашучы крок, той будзе пераможцам!» — прысутныя ўздрыгнулі.

А праз нейкі час Прэзідэнту ЗША далажылі, што міністр абароны, вярнуўшыся з нарады, застрэліўся ў сваім кабінеце.

— Слюнцяй! — абурыўся Прэзідэнт.—Пабаяўся адказнасці. Браў бы прыклад з майго сына, які загінуў як сапраўдны мужчына...

І у гэтым Прэзідэнт ЗША не памыляўся.

* * *

Хіл Старк, першы намеснік Фрэнка Баснера, па загаду з Бруселя прыняў камандаванне спецпадраздзяленнем. У гэтым жа тэлефонным загадзе новаму камандзіру спецназа было аб'яўлена, што сёння ж верталётам будзе дастаўлена ваенная форма іх праціўніка, у якую неабходна тэрмінова пераапрануць асабісты састаў спецназа. Загадалі намаляваць на бранятэхніцы і неабходную апазнавальную атрыбутыку праціўніка.

У арміі, тым больш у час вайны, загады не абмяркоўваюцца, а выконваюцца. Быў выкананы і гэты загад, хаця некаторае здзіўленне выклікаў.

На другі дзень, калі калона выпаўзла на роўную і

адкрытую мясцовасць, раптоўна з’явіліся самалёты — амерыканскія самалёты! — і абрынулі на спецназаўцаў супрацьтанкавыя ракеты і касетныя, супрацьпяхотныя бомбы. За самалётамі «закарагодзілі» верталёты, якія «зачышчалі» недаробленую работу.

У гінуўшых амерыканскіх салдат выклікала жах не столькі немінучая смерць, колькі тое, што іх знішчалі свае ж таварышы па зброі, якія лічылі іх за праціўніка.

— Спыніцеся! Мы — свае! Гэта памылка! Мы — амерыканцы! —ляцелі ў глухое неба апошнія крыкі маладых салдат.

* * *

6 верасня 2005 года Японія апранулася ў белы жалобны колер — адзначалася шасцідзесятая гадавіна варварскай бамбардзіроўкі горада Хірасімы. Тады амерыканская атамная бомба была скінута на галовы дзяцей, жанчын — усіх мірных гараджан, пакінуўшы ад іх жывой плоці і крыві толькі цені на асфальце і на ацалелых абломках сценаў.

Але разам з выбухам той бомбы адбыўся яшчэ адзін, толькі ўжо нябачны жах — у кроў некаторых палітыкаў трапіў жудасны, небяспечны ген — ген атамаманіі. Ён, нібы жывучы і разбуральны вірус, вось ужо дзесяцігоддзі блукае па крыві амбіцыёзных палітыкаў, шукае найбольш слабае месца і, нарэшце, знаходзіць яго — угрызаецца ў кару галаўнога мозга чалавека. Хвароба працякае скрыта, але і адзін чалавек, яе носьбіт, уяўляе небяспеку для ўсяго чалавецтва...

Выступіўшы з прамовай на жалобнай паніхідзе ў Хірасіме, прэм’ер-міністр Японіі Накасонэ сеў у самалёт і адляцеў у Вашынгтон.

У крыві прэм’ера, як і ў крыві кожнага японца, жыў іншы ген — ген самазахавання, які асабліва адчуваецца 6 і 9 верасня — у дні атамных бамбардзіровак Хірасімы і Нагасакі.

Вось і сёння Накасонэ разумеў, што, з этычных меркаванняў, візіт у Вашынгтон трэба было б адкласці, але, улічваючы крохкасць сучаснага міру, рашыў, наадварот, выкарыстаць жалобнасць гэтай даты ў мэтах ацверазення свайго сябра і саюзніка...

Сустрэча лідэраў дзвюх дзяржаў не клеілася. Японскі прэм’ер выказаў асабістыя спачуванні амерыканскаму Прэзідэнту па загінуўшаму сыну, а Прэзідэнт — свае спачуванні японскаму народу за тыя ахвяры шасцідзесяцігадовай даўніны.

Нарэшце Накасонэ перайшоў да галоўнай тэмы:

— Гаспадзін Прэзідэнт! Нашы продкі казалі, што вецер здольны абляцець вакол Зямлі і набыць моц буры,— гора таму, хто гэтага не ўлічвае...

—Я разумею Вашу занепакоенасць, гаспадзін прэм’ер... Але той вецер, які вы маеце на ўвазе, даўно сціх.

— Паважаю Вашу думку, гаспадзін Прэзідэнт, але пагадзіцца з ёй не магу, бо менавіта той вецер сёння набірае моц. З ветрам змагацца лягчэй, чым з бурай...

— Магчыма, гаспадзін прэм’ер, другому субяседніку я адказаў бы больш рэзка, а Вам я спачуваю, бо аднойчы напужаны чалавек баіцца свайго ценю ўсё жыццё.

— У Японіі занадта многа ценяў, якія застылі назаўсёды... Яны далучаюцца сёння да майго голасу, і не чуць іх нельга! Я ўпэўнены, што дастаткова аднаго Вашага слова, гаспадзін Прэзідэнт, і вецер сціхне — пачнуцца перамовы. Аднымі ваеннымі намаганнямі, без дыпламатыі, магчыма дасягнуць толькі самазнішчэння.

Амерыканскі Прэзідэнт павысіў голас:

— Вы лічыце мяне галоўным знішчальнікам?! Звяр-

ніцеся з такімі словамі да Масквы — магчыма, там Вас і зразумеюць...

Накасонэ адчуў, што яго прапановы не жадаюць прымаць да ўвагі, таму падняўся з месца і пакланіўся:

— А я, гаспадзін Прэзідэнт, адсюль і лячу ў Маскву...

Але Масква, як і Вашынгтон, адгарадзілася ад Накасонэ агульнай рыторыкай. Ген рабіў сваю разбуральную справу.

* * *

— Спакойнай ночы, дзіцятка! — чулася на адным баку зямнога шара на англійскай мове.— Няхай прыемныя сны атуляюць цябе і казачныя феі спяваюць да раніцы цудоўныя мелодыі!..

— Добрай раніцы, мая крывінка! — чулася на другім баку зямнога шара па-руску.— Расплюшчвай вочкі, усміхніся сонейку і зашчабячы сваім анёльскім галаском разам з птушкамі!..

— Якое шчасце! У нашага карапузіка прарэзаліся зубкі!..

— Расці шчаслівым, крошка!..

— Ляці на крылах сваіх мараў!..— чуліся на блакітнай планеце Зямля галасы ўсіх нацый і народаў...

А ў гэты час з розных бакоў зямнога шара ўзрынуліся ў неба і разразалі гарачымі джаламі паветра сотні ядзерных ракет як асноўны аргумент амбіцыёзных палітыкаў і авантурыстаў.

Чалавецтву заставалася жыць лічаныя хвіліны...

# Змест

## Апавяданні

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. У 5 т. Т. 3. Апавяданні. Аповесці / Сяргей Давідовіч. — Мінск : Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, 2016.— 551 с., іл.

ISBN 978-985-6975-46-5.

У трэці том Сяргея Давідовіча увайшлі апавяданні і аповесці. Творы адмечныя трапным гумарам, а таксама трагедыйным гучаннем..

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

